АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# СПАДЧЫНА СКАРЫНЫ

## ЗБОРНІК матэрыялаў

ПЕРШЫХ СКАРЫНАЎСКІХ
ЧЫТАННЯЎ (1986)

Укладальнік А. І. Мальдзіс

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1989

ББК 87.3(2)
С71

Книга подготовлена к 500-летию со дня рождения великого сына белорусского народа Ф. Скорины. Ее основу составляют материалы Скорининских чтений, которые проходили в Минске в 1986 г. Статьи посвящены самым разнообразным аспектам жизни и деятельности первопечатника, его исторической роли в развитии белорусской культуры и восточнославянского книгопечатания.

Адресуется как специалистам, так и широкому кругу читателей.

Р э д а к т а р ы:
канд. філал. навук В. А. Чамярыцкі,
д-р філас. навук У. М. Конан,
канд. гіст. навук Г. Я. Галенчанка

Р э ц э н з е н т ы:
д-р філал. навук М. М. Арочка,
чл.-кар. АН БССР А. І. Жураўскі,
д-р гіст. навук Я. Л. Неміроўскі

Уступнае слова І. Я. Н а в у м е н к і

**Спадчына Скарыны:** Зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986) / Укл. А. І. Мальдзіс; Уступ. слова І. Я. Навуменкі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1989.— 318 с.
С 71
ISBN 5-343-00134-3.

Наследие Скорины: Сб. материалов первых Скорининских чтений (1986).

Кніга падрыхтавана да 500-годдзя з дня нараджэння вялікага сына беларускага народа Ф. Скарыны. Яе аснову складаюць матэрыялы Скарынаўскіх чытанняў, якія адбыліся ў Мінску ў 1986 г. Артыкулы прысвечаны самым розным аспектам жыцця і дзейнасці першадрукара, яго гістарычнай ролі ў развіцці беларускай культуры і ўсходнеславянскага кнігадрукавання.

Адрасуецца як спецыялістам, так і шырокаму колу чытачоў.

0202000000—150
С ———————— 139—89
М316(03)—89

ББК 87.3(2)+76.11+83.3

ISBN 5-343-00134-3



## УСТУПНАЕ СЛОВА

Францыск Скарына... Імя велічнае ў гісторыі культуры ўсходнеславянскіх народаў — беларусаў, украінцаў, рускіх, а таксама нашых суседзяў палякаў і літоўцаў. І калі мы падкрэсліваем веліч яго імя, то гэта не азначае, што аддаём толькі даніну гістарычнай памяці. Не, здзейсненае Францыскам Скарынам для свайго народа, іншых славянскіх народаў на ніве культурна-духоўнай дзейнасці не страчвае самай надзённай актуальнасці.

Вялікі беларускі асветнік-гуманіст і першадрукар Францыск Скарына не саступаў у маштабах дзейнасці «тытанам духу» эпохі Адраджэння, як называў гэтых людзей Фрыдрых Энгельс. Чалавек глыбокага розуму і выключных здольнасцей, усебакова падрыхтаваны вучоны-энцыклапедыст, доктар свабодных навук і медыцыны, філосаф і філолаг, знаўца розных моў, антычнай, сярэдневяковай і рэнесансавай культуры, пісьменнік і перакладчык, ён быў сапраўды незвычайнай асобай.

Фігура Францыска Скарыны ў гісторыі славянскіх культур— велічная і складаная, як сама эпоха, у якую ён жыў, у якую выношваў і ажыццяўляў свае высокія задумы. Адчуўшы ўсёй душою павевы Адраджэння і ўспрыняўшы іх як свой лёс і ўсенародную неабходнасць, выдатны сын Полацкай зямлі прыклаў неймавернага напружання намаганні, намаганні свядома грамадзянскія, каб святло адраджэнскіх ідэй свяцілася і ў вокнах яго землякоў, яго народа.

Беларускі гуманіст выдаваў і тлумачыў біблейскія тэксты. Аднак як ні парадаксальна — гэта яго асветніцкая дзейнасць была дэмакратычная па сэнсу, накіраванасці, бо была звернута да жыццёвых інтарэсаў народа. Таму так шырока карыстаўся наш асветнік скарбамі народнай мовы.

Яго эпоха ведала іншых людзей высокай адукаванасці, якія дасканала валодалі кніжным словам і выкарыстоўвалі яго ў асветніцкіх і палітычных мэтах. Але, як правіла, гэта былі творы на лацінскай мове, мове элітарнай, недаступнай звычайнаму люду, як «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага. Заслуга Скарыны ў тым, што ён праз пераклады на даступную народу мову біблейскіх тэкстаў наблізіў здабыткі ўсечалавечай культуры да шырокіх колаў людзей роднай зямлі. Зрабіўшы кнігу шырока даступнай, добра зразумелай простаму, дэмакратычнаму чытачу, Скарына падрываў манаполію духавенства і свецкіх феа-

далаў на асвету народа. Гэта быў вельмі смелы і вальнадумны, сапраўды наватарскі крок.

Рыхтуючыся да знамянальнай даты — 500-годдзя з дня нараджэння вялікага ўсходнеславянскага асветніка і гуманіста Францыска Скарыны, Акадэмія навук БССР намеціла шырокую праграму даследавання яго дзейнасці, сувязі гэтай дзейнасці з часам, эпохай, у якую жыў і тварыў асветнік-гуманіст, а таксама скарынаўскага ўплыву на развіццё беларускай і ўсходнеславянскай культуры ў наступныя стагоддзі. Ажыццяўленне гэтай комплекснай праграмы, адным з пунктаў якой з'яўляецца правядзенне Скарынаўскіх чытанняў, стане важкім укладам у Скарыніяну, у вывучэнне і прапаганду культурна-гістарычнай спадчыны вялікага сына беларускага народа, якая разам з лепшымі духоўнымі здабыткамі чалавецтва павінна служыць нашай сучаснасці і будучыні.

*І. Я. Навуменка*





*Я. Л. НЕМІРОЎСКІ (Масква)*

## СКАРЫНАЗНАЎСТВА: ВЫНІКІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

Вялікі беларускі асветнік Францыск Скарына падобны да такіх тытанаў эпохі Адраджэння, як Леанарда да Вінчы і Альбрэхт Дзюрэр. «Героі таго часу, — па словах Фрыдрыха Энгельса, — не сталі яшчэ рабамі падзелу працы, якое абмяжоўвае, стварае аднабаковасць, уплыў якога мы так часта назіраем у іх пераемнікаў. Але што асабліва характэрна для іх, дык гэта тое, што яны амаль усе жывуць у самай гушчы інтарэсаў свайго часу, прымаюць жывы ўдзел у практычнай барацьбе, становяцца на бок той ці іншай партыі і змагаюцца хто словам і пяром, хто мячом, а хто і гэтым і тым разам. Адсюль тая паўната і сіла характару, якія робяць іх цэльнымі людзьмі» [1].

Абставіны жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны параўнальна добра вядомы сучасным вучоным; яго імя і справы сталі набыткам школьных падручнікаў. Так было, вядома, далёка не заўсёды. Спатрэбілася натхнёная і самаахвярная праца некалькіх пакаленняў даследчыкаў, каб адшукаць і вывучыць выданні асветніка, знайсці ў архівах дакументы пра яго цяжкае жыццё.

Скарыназнаўства — гэта комплексная навуковая дысцыпліна, аб'ектамі якой служаць ранні перыяд гісторыі кнігі і кніжнай справы на Беларусі і ў Літве, жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны, яго выданні, якія вывучаюцца ў агульнакультурным, філалагічным, кнігазнаўчым, лінгвістычным, мастацтвазнаўчым, гісторыка-навуковым аспектах. Ці мае такая навука права на існаванне? Думаецца, што больш чым двухсотгадовая гісторыя скарыназнаўства даказала: так, мае!

Скарыназнаўства як навуковая дысцыпліна пачало фарміравацца ў апошняй чвэрці XVIII ст. Раней жа, у XVI — першых трох чвэрцях XVIII ст., Скарына і яго выданні неаднаразова згадваліся ў працах заходнееўрапейскіх аўтараў, а ў Расіі, Беларусі і на Украіне — у рукапісных вопісах манастырскіх і прыватных бібліятэк.

Пачатковы перыяд у гісторыі скарыназнаўства праходзіў пад знакам адкрыцця і вывучэння выданняў беларускага асветніка. Перыяд гэты працягваўся прыкладна да 70-х гадоў XIX ст.

---

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 20. С. 346.

Першая ў айчынным скарыназнаўстве публікацыя аб выданнях Скарыны належыць І. Г. Бакмейстару (памёр у 1788 г.), які ў 1776 г. увёў у навуковы зварот Пяцікніжжа 1519 г. [2]

У 1783 г. з'яўляюцца першыя публікацыі, прысвечаныя асобным выданням Скарыны — артыкулы П. А. Аляксеева (1727—1801) «Разгляд славянскай старадрукаванай кнігі Апостала, якая выканана доктарам Францыскам Скарынам з Полацка, надрукавана ў Вільні ў 1525 г. у чвэрць ліста» [3] і І.-Г. Штрытэра (1740—1801) «Апісанне першага выдання ў друк і перакладу на рускую мову свяшчэннай Біблії ў 1517—1519 гг.» [4] Аляксееў увёў у навуковы ўжытак Апостал 1525 г. і першым з даследчыкаў перадрукаваў тэксты Скарыны. Работу ж Штрытэра можна лічыць першым апісаннем канкрэтных экземпляраў скарынаўскіх выданняў.

Ёсць у гісторыі скарыназнаўства і працы, трывала забытыя. Сярод іх — невялікі артыкул гісторыка і бібліёграфа Л. І. Бакмейстара (1730—1806), які ў 1786 г. на старонках часопіса «Русішэ бібліотэк», што выдаваўся ім у Пецярбугу на нямецкай мове, расказаў пра набыты пецярбургскім кніжным гандляром Іпалітам Вогакам канвалют, які змяшчаў кнігі «Царствы», «Эклезіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песняў», «Прамудрасць божая» і фрагменты пражскага Псалтыра 1517 г. [5] Усе гэтыя выданні, якія ўпершыню ўводзіліся ў навуковы ўжытак, у далейшым прыйшлося адкрываць нанава.

Вельмі многа зрабіў для вывучэння жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны адзін з заснавальнікаў славяназнаўства Ё. Добраўскі (1753—1829). У пачатку 90-х гадоў XVIII ст. ён знайшоў у Празе, у зборы Урацілава з Мітравіч «Малую падарожную кніжку» Ф. Скарыны. Ён падрабязна апісаў гэту групу віленскіх выданняў у лісце да свайго настаўніка і сябра Ф. Дурыха ад 23 мая 1791 г. [6] Праз паўтара года чэшскі вучоны наведаў Пецярбург і Маскву і тут пазнаёміўся з пражскімі выданнямі Скарыны. У апісанні свайго падарожжа «Літаратурныя весткі», якое было выдадзена ў Празе ў 1796 г., Добраўскі ўпершыню ўвёў у навуковы ўжытак «Малую падарожную кніжку» [7]. Пражскія экземпляры гэтай групы выданняў пасля сталі ўласнасцю вучонага. Але іх сённяшняе месцазнаходжанне нам невядома.

Трэба зазначыць, што ў гісторыі скарыназнаўства ёсць нямала такіх прапаўшых экземпляраў. Нічога невядома, напрык-

---

[2] Бакмейстер И. Г. Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной Санктпетербургской имп. академии наук. Спб., 1779. С. 65—69. Тое ж на фр. мове. Спб., 1776.

[3] Опыт трудов Вольного российского собрания при имп. Московском университете. 1784. Ч. 6. С. 195—204.

[4] Там жа. С. 177—194.

[5] Bacmeister H. L. Ch. Vermischte Nachrichten von St. Petersburg // Russische Bibliotek... 1786. Bd. 10. S. 320—321.

[6] Korrespondence Josefa Dobrovského. Dil 1. Praha, 1895. S. 198—200.

[7] Dobrovsky J. Litterarische Nachrichten... Prag, 1796. S. 105.

лад, пра поўную «Малую падарожную кніжку», якая знаходзілася ў зборы баварскага прафесара К. Манерта (1756—1834) — пра яе пісаў у свой час рускі бібліёграф і гісторык П. І. Кепен (1793—1864) [8]. Будзем спадзявацца, што кнігі гэтыя знойдуцца і што наперадзе ў нас нямала сенсацыйных знаходак.

Вялікі ўклад у скарыназнаўства зроблен рускім бібліёграфам В. С. Сопікавым (1765—1818), які ў 1813 г. падрабязна апісаў усе пражскія, за выключэннем Псалтыра 1517 г., і амаль усе віленскія выданні [9]. З пражскіх выданняў ён упершыню ўвёў у навуковы ўжытак кнігі «Суддзі», «Ісус Навін», «Прытчы Саламона», «Плач Ераміі». Сопікаў карыстаўся экземплярамі з калекцый Ф. Г. Баўзе (1752—1812), Ф. А. Талстога (1758—1849), П. Я. Чаадаева (1794—1856) і іншых збіральнікаў.

Падкрэслім тут важную ролю бібліяфілаў у захаванні для навукі славянскай старадрукаванай кніжнасці наогул і выданняў Скарыны ў прыватнасці [10]. Трэба назваць прозвішчы некаторых калекцыянераў: М. П. Румянцаў (1754—1826), І. М. Царскі (пам. 1853), І. Я. Лукашэвіч (1811—1886), А. Д. Чарткоў (1789—1858), П. В. Шчапаў (1848—1888), А. І. Касцерын (пам. 1847), М. П. Пагодзін (1800—1882), І. П. Каратаеў (1817—1886), А. І. Хлудаў (1818—1882), П. І. Шчукін (1853—1912). Іх зборы леглі ў аснову дзяржаўных кнігасховішчаў, дазволіўшы скамплектаваць вельмі прадстаўнічыя калекцыі выданняў Скарыны. У Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна цяпер захоўваюцца 82 экземпляры скарынаўскіх выданняў, у Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына — 81 экземпляр, у Дзяржаўным гістарычным музеі — 84 экземпляры.

Трэба назваць таксама імёны бібліёграфаў, якія ўслед за В. С. Сопікавым, апісваючы прыватныя і грамадскія зборы, прадставілі ў распараджэнне даследчыкаў апісанні скарынаўскіх выданняў. Гэта ўжо названыя П. І. Кепен і І. П. Каратаеў, а таксама П. М. Строеў (1796—1876), І. П. Сахараў (1807—1863), В. М. Ундольскі (1815—1864), А. С. Радоскі (1838—1908).

Другая палавіна XIX ст. у скарыназнаўстве азнаменавана, па-першае, пачаткам публікацыі архіўных дакументаў пра жыццё і дзейнасць Скарыны і, па-другое, з'яўленнем першых грунтоўных манаграфічных даследаванняў. У 1849 г. польскі гісторык Ю. Мучкоўскі (1795—1858) апублікаваў запіс у прамацыйнай кнізе Кракаўскага універсітэта аб прысваенні ступені бака-

---

[8] Кеппен П. И. Записка о путешествии по славянским землям и архивам // Библиографические листы. 1825. № 33. С. 482.

[9] Сопиков В. С. Опыт российской библиографии. Спб., 1813. Ч. 1. С. 9—19, 25—45, 119—120, 183—184.

[10] Немировский Е. Л. Роль библиофилов в сохранении славянской старопечатной книжности // Актуальные проблемы теории и истории библиофильства. Л., 1985. С. 44—46.

лаўра «Францыску з Полацка, літвіну»[11]. Стала магчымым гаварыць пра тое, што беларускі асветнік атрымаў універсітэцкую адукацыю ў Кракаве. У 1858 г. у Вільні пад рэдакцыяй М. А. Круповіча (1823—1891) выйшаў у свет «Збор дзяржаўных і прыватных актаў, якія маюць дачыненне да гісторыі Літвы і злучаных з ёю ўладанняў». Тут апублікаваны граматы Жыгімонта I ад 5 студзеня і 21 лістапада 1532 г., з якіх стала вядома аб драматычных падзеях у жыцці Скарыны, звязаных з цяжбай адносна спадчыны яго брата Івана[12].

У 1885 г. чэшскі археограф Ф. Дворскі апублікаваў акт чэшскага караля Фердынанда I ад 29 студзеня 1552 г., у якім ішла гаворка пра спадчыну, пакінутую Скарынам[13]. На жаль, імя асветніка ў ім было скажона. Дакумент гэты пачалі звязваць з беларускім першадрукаром толькі ў 30-я гады XX ст. Іншыя акты пра другое знаходжанне Скарыны ў Празе былі ўведзены ў навуковы ўжытак у 1889 г. К. Кёплем[14], але і яны доўга заставаліся невядомымі гісторыкам славянскага кнігадрукавання і біёграфам Скарыны.

Важныя архіўныя знаходкі сталі даступнымі даследчыкам у 1889 г.: рускі гісторык I. А. Шляпкін (1858—1918) апублікаваў дакументы пра экзамен на ступень доктара медыцыны, які Скарына ў 1512 г. вытрымаў у Падуанскім універсітэце[15], а польскі арэограф Адам Хмель надрукаваў метрыку Кракаўскага універсітэта, у якой пад 1504 г. знайшоўся запіс пра паступленне «Францыска сына Лукі з Полацка»[16]. Гэтыя публікацыі разам з той, якая раней была зроблена Ю. Мучкоўскім, дазволілі вызначыць, дзе вучыўся Скарына.

Выдатную ролю ў пашырэнні крыніцазнаўчай базы скарыназнаўства адыграла вывучэнне Літоўскай метрыкі — зводу дакументаў канцылярыі Вялікага княства Літоўскага. Піянерам навуковага даследавання метрыкі быў С. Л. Пташыцкі (1853—1933). З яго дапамогай удалося знайсці два важныя акты 1529 і 1535 гг. пра маёмасныя адносіны Скарыны, якія былі апублікаваны ў 1888 г.[17] Рад новых актаў, якія адносіліся да жыцця і дзейнасці беларускага асветніка, на гэты раз з так званай Ка-

---

[11] Statuta nec non liber promotionum philosophorum ordinis in Universitate Studiorum Jagellonica... Cracoviae, 1849. P. 144.

[12] Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений (от 1387 до 1710 года). Вильна, 1858. Ч. 1. С. 35—37.

[13] Dvorsky F. Prispěvky k dějinam slovanskym // Slovansky Sbornik (Praha). 1885. R. 4. C. 4. S. 212.

[14] Jahrbuch der Kunsthistorischen Sammungen der allerhöchsten Kasserhauses. Wien, 1889. Bd. 10. S. 89—92.

[15] Шляпкин И. А. К биографии Франциска Скорины // ЖМНП. 1892. № 4. С. 382—385.

[16] Album studiosorum Universitatis Cracoviensis. Ed. A. Chmiel. Cracoviae, 1892. T. 2. P. 90—91.

[17] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 321—325.

роннай метрыкі, увёў у навуковы ўжытак у 1912 г. Ф. Ф. Вяржбоўскі (1853—1923)[18].

У другой палавіне XIX ст., немалыя поспехі былі дасягнуты ў вывучэнні рукапісных копій перакладаў Скарыны. Вялікае значэнне гэтых копій заключаецца ў тым, што яны захавалі для нас тэкст скарынаўскага перакладу біблейскіх кніг, якія ў друкаваным выглядзе невядомы. Цяжка пераацаніць значэнне публікацыі Я. Ф. Галавацкага (1814—1888), які знайшоў у бібліятэцы Ануфрыеўскага манастыра ў Львове рукапісную Біблію, перапісаную ў 1575 г. Змітрам з Зенкава[19]. Рукапіс быў раздзелены на дзве часткі. Найбольш цікавая частка аказалася ў зборы М. П. Пагодзіна — зараз яна знаходзіцца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына[20]. Дэталёва яна да гэтага часу не вывучана. Рукапіс, хоць і ў раздзеленым выглядзе, захаваўся. А вось Біблія, перапісаная ў 1569 г. Лукой з Цярнопаля, якая знаходзілася ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта[21], відаць, загінула. У ёй таксама былі спісы біблейскіх кніг, якія ў друкаваным выглядзе не захаваліся. Ці надрукаваў Скарына гэтыя кнігі? А можа, выданні проста не дайшлі да нас? На гэтыя важнейшыя пытанні скарыназнаўства адказу пакуль яшчэ не дало.

У другой палавіне XIX ст. пачалося манаграфічнае, сапраўды навуковае вывучэнне жыцця і дзейнасці Скарыны і яго выданняў. У гэтай сувязі перш за ўсё павінны быць названы імёны А. Я. Віктарава (1827—1883) і П. У. Уладзімірава (1854—1902), працы якіх — найвышэйшае дасягненне дарэвалюцыйнага скарыназнаўства. Віктараў у 1867 г. апублікаваў артыкул, прысвечаны Псалтыру 1517 г., экземпляр якога быў знойдзены ў зборы А. І. Хлудава[22]. Артыкул гэты — узор кнігазнаўчага метаду вывучэння старадрукаваных выданняў, які атрымаў шырокае распаўсюджанне ўжо ў нашы дні. Значная частка працы прысвечана лінгвістычнаму аналізу Псалтыра 1517 г. Да артыкула Віктарава руская гістарыяграфія кнігі не ведала такіх грунтоўных і living разнабаковых даследаванняў, прысвечаных старадрукаваным выданням.

Пераемнікам Віктарава ў гэтых адносінах стаў П. У. Ула-

---

[18] Wierzbowski Th. Matricularum Regni Poloniae Summaria... Pars 4. Vol. 2. Varsoviae, 1912. P. 195, 431.

[19] Головацкий Я. Ф. Несколько слов о Библии Скорины и о рукописной русской Библии из XVI столетия, обретающейся в библиотеце монастыря св. Онуфрия во Львове // Науковый сборник (Львов). 1865. Вып. 4. С. 225—257.

[20] ДПБ. Паг. 85.

[21] Тиховский З. Ю. Южнорусский библейский кодекс Луки из Тернополя (1569) и его отношение к трудам Скорины и южнорусскому библейскому кодексу 1575—1577 гг. // Труды XII Археологического съезда в Харькове 1902 г. М., 1905. Т. 3. С. 337.

[22] Викторов А. Е. Замечательное открытие в древнерусском книжном мире // Беседы в О-ве любителей российской словесности. 1867. Вып. 1. С. 1—27.

дзіміраў, які ў 1888 г. выпусціў у свет капітальную манаграфію «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова». Праца гэта параўнальна невялікая: усяго каля 12 аўтарскіх аркушаў. Аднак гэта не перашкодзіла даследчыку зрабіць гістарыяграфічны агляд, першы ў скарыназнаўстве, падрабязна апісаць у самых розных аспектах скарынаўскія выданні, апублікаваць новыя архіўныя дакументы, нарэшце, прааналізаваць уплыў выданняў Скарыны на ўсходнеславянскае кнігадрукаванне. Аб даследаванні Уладзімірава шмат пісалі[23], і таму яго падрабязны аналіз тут непатрэбны. Скажам толькі, што на працягу доўгіх гадоў манаграфія Уладзімірава была самай грунтоўнай і самай кампетэнтнай працай па гісторыі кнігі ў нашай краіне. Другая частка працы Уладзімірава прысвечана мове выданняў Скарыны. У гэтай галіне вучоны зрабіў даволі шмат, хоць у яго і былі папярэднікі — П. І. Жыцецкі (1836—1911) і І. І. Первольф (1841—1891).

У далейшым лінгвістычнымі даследаваннямі ў галіне скарыназнаўства займаліся А. І. Сабалеўскі (1856—1929) і, асабліва, Я. Ф. Карскі (1860—1931), які прысвяціў нямала старонак Скарыну ў капітальных працах «Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы» (1890), «Заходнерускія пераклады Псалтыра ў XV—XVII стагоддзях» (1896), «Беларусы» (Т. 1—3, 1903—1922).

Пры ўсіх поспехах дарэвалюцыйнага скарыназнаўства трэба прызнаць, што шмат увагі ўдзялялася ў ім палеміцы па другарадных пытаннях, напрыклад аб канфесійнай належнасці Скарыны. Праблема пачатку кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве была карэнным чынам перагледжана савецкай гістарыяграфіяй, якая дасягнула ў гэтай галіне сур'ёзных поспехаў. Найбольш значным здабыткам з'яўляецца тлумачэнне сацыяльна-эканамічных прычын і вытокаў з'яўлення друкарскага варштата на тэрыторыі нашай радзімы, якое дала савецкая навука. Буржуазныя гісторыкі аказаліся няздольнымі знайсці месца гэтай знамянальнай падзеі ў агульным ходзе гістарычнага працэсу. Пачатак беларускага кнігадрукавання ў працах савецкіх гісторыкаў стаў важным фактам палітычнай і сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі. Разам з тым гэтай падзеі было знойдзена месца і ў гісторыі культуры беларускага і іншых усходнеславянскіх народаў — у лінгвістычным, літаратуразнаўчым, мастацтвазнаўчым планах. Значна ўзбагаціўся і фактаграфічны бок пытання.

Вывучэнне жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны вялося амаль бесперапынна. Аднак асабліва значныя поспехі звязаны з юбілеямі, якія ўрачыста адзначаліся ўсімі народамі Савецкага Саюза. Гэта 400-годдзе пачатку выдавецкай дзейнасці Скарыны (1917), 400-годдзе віленскай друкарні (1925), 475-годдзе з дня нара-

---

[23] Спіс рэцэнзій і водгукаў гл.: Немировский Е. Л. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы. М., 1978. С. 48.

джэння Скарыны (1965), 450-годдзе беларускага кнігадрукавання (1967), 450-годдзе віленскай друкарні (1975) і, нарэшце, цяперашняе 500-годдзе, якое адзначаецца ў 1986—1990 гг.

Юбілеі былі азнаменаваны навуковымі сесіямі, выстаўкамі і, самае галоўнае, новымі даследаваннямі. У першую чаргу неабходна назваць зборнікі прац, якія азначалі пэўныя этапы ў станаўленні і развіцці савецкага скарыназнаўства: «400-лецце беларускага друку» (Мн., 1926), «450 год беларускага кнігадрукавання» (Мн., 1968), «Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання ў Беларусі і Літве» (М., 1979), «Францыск Скарына і некаторыя пытанні развіцця кнігі ў Савецкім Саюзе» (Вільнюс, 1979).

400-годдзе пачатку выдавецкай дзейнасці Скарыны прыйшлося на 1917 г., калі ўмоў для правядзення юбілею не было. Тым не менш у 1918 г. у рэвалюцыйным Петраградзе адбылася юбілейная выстаўка, а ў часопісе «Чырвоны шлях» быў апублікаваны артыкул Я. Ф. Карскага [24]. Важнае крыніцазнаўчае значэнне мела публікацыя А. І. Мілавідава (1864 — каля 1930), якая ўбачыла свет у 1918 г. і ўводзіла ў навуковы ўжытак дакументы 1530 г., дзе гаварылася аб знаходжанні Скарыны ў Кёнігсбергу [25].

Вялікую ролю ў станаўленні савецкага скарыназнаўства адыграў мінскі зборнік 1926 г. Тут упершыню на аснове марксісцка-ленінскай метадалогіі былі выкладзены сацыяльна-палітычныя, эканамічныя і агульнакультурныя перадумовы ўзнікнення кнігадрукавання на беларускіх землях. Аснову зборніка склалі працы У. І. Пічэты (1878—1947), які апублікаваў тут артыкулы «Кнігадрукаванне на Беларусі XVI—XVII стст.», «Беларускае Адраджэнне ў XVI ст.» і «Скарыніяна» — падрабязны і грунтоўна дакументаваны нарыс гістарыяграфіі пытання [26]. Лінгвістычныя аспекты ў зборніку былі прадстаўлены работай І. В. Воўк-Левановіча (1891—1943) [27], мастацтвазнаўчыя — артыкулам М. М. Шчакаціхіна (1896—1940), які, па сутнасці, паклаў пачатак манаграфічнаму разгляду мастацка-афарміцельскіх праблем у скарыназнаўстве [28].

Трэба адзначыць, што ў канцы 20 — пачатку 30-х гадоў даследаванні жыцця і дзейнасці Скарыны вяліся на Беларусі далёка

[24] Карский Е. Ф. Доктор Франциск Скорина: По поводу 400-летия его печатных изданий // Чырвоны шлях. 1918. № 3—4. С. 13—16.

[25] Миловидов А. И. Новые документы, относящиеся к биографии Франциска Скорины // ИОРЯС. 1918. Т. 22 (1917). Кн. 2. С. 221—226.

[26] Пічэта У. Беларускае Адраджэнне ў XVI ст. // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 132—156; яго ж. Друк на Беларусі ў XVI і XVII стст. // Там жа. С. 228—261; яго ж. Scoriniana. 1776—1926 // Там жа. С. 284—327.

[27] Воўк-Левановіч Я. Мова выданняў Францішка Скарыны // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 262—283.

[28] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны // 400-лецце беларускага друку. С. 180—227; яго ж. Дрэварыты і арнамент у выданнях Скарыны // Наш край. 1926. № 1. С. 8—17.

не з той інтэнсіўнасцю, якой яны заслугоўвалі. Першапрычынай гэтаму паслужыла выступленне ў 1928 г. В. Г. Кнорына (1890—1938), які нядоўгі час быў сакратаром ЦК КП(б) Беларусі. Кнорын, крытыкуючы буржуазных нацыяналістаў, якія выкарыстоўвалі імя Скарыны ў сваіх мэтах, даў памылковую ацэнку дзейнасці вялікага беларускага асветніка, назваўшы яго «сярэдневяковым манахам» і палічыўшы, што яго справа не мае цікавасці для пралетарскай культуры [29]. Гэтыя палажэнні былі некрытычна ўспрыняты Л. Бабровічам, С. Вальфсонам, Э. Гірчаком, А. Канакоціным і інш., якія пісалі аб так званым «кульце Скарыны», расцэньваючы святкаванне 400-годдзя беларускага кнігадрукавання як «шумную нацыяналістычную дэманстрацыю».

У канцы 30 — пачатку 40-х гадоў значны ўклад у скарыназнаўства ўнёс А. В. Флароўскі (1884—1968), які жыў у Чэхаславакіі. Ён упершыню звязаў са Скарынам рад важных дакументаў пра Францыска — садоўніка каралеўскага батанічнага саду ў Празе, звярнуў увагу на матэрыялы, якія дазволілі прыкладна ўстанавіць дату смерці асветніка [30]. Выключна важную ролю ў скарыназнаўстве адыграла капітальная манаграфія Флароўскага «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і пісьменства (Францыск Скарына і прадаўжальнікі яго справы)» (Прага, 1946).

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў Акадэміі навук БССР даследную тэму пра Скарыну вёў Ц. П. Ломцеў (1906—1972). Серыя яго артыкулаў садзейнічала ажыўленню цікавасці навуковай і творчай грамадскасці да жыцця і дзейнасці вялікага асветніка [31]. Да гэтага часу адносяцца і першыя, больш-менш удалыя спробы адлюстраваць вобраз Скарыны ў мастацкай літаратуры — драматычная паэма М. Клімковіча (1899—1954) і гістарычны раман М. Ф. Садковіча (1907—1968) і Я. Л. Львова [32]. Апошні раман паслужыў падставай для арганізацыі ў 1948 г. дыскусіі ў Акадэміі навук БССР, на якой з асноўным дакладам выступіў У. М. Перцаў.

Першай спробай комплекснага разгляду жыцця, дзейнасці і светапогляду беларускага асветніка-гуманіста была выдадзеная ў 1958 г. манаграфія М. А. Алексютовіча (1921—1967) «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд». Гэта — другое пасля П. У. Уладзімірава і першае ў савецкай гістарыяграфіі манаграфіч-

---

[29] Кнорын В. Г. За культурную рэвалюцыю. Мн., 1928. С. 80.

[30] Florovskij A. V. Nové správy o pobytu Františka Skoryny v Praze // Časopis Narodního Musea. Oddíl duchovědný. 1936. N 1. S. 11—19.

[31] Ломцеў Ц. П. Георгі Скарына — першы беларускі кнігавыдаўца // Беларусь. 1945. № 6. С. 13—16; яго ж. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы // Там жа. № 3. С. 7—13.

[32] Клімковіч М. Драматычныя паэмы. Мн., 1947. С. 13—193; яго ж. Георгий Скорина. Драматическая поэма. М., 1958; Садковіч М. Ф., Львоў Я. Л. Георгій Скарына. Мн., 1946.

нае даследаванне, прысвечанае Ф. Скарыну. Яно адыграла значную ролю ў пасляваенным развіцці скарыназнаўства.

У 1950—1960-я гады пачынаюць фарміравацца школы, якія ўдзялялі асаблівую ўвагу асобным аспектам скарыназнаўства. Гэта быў заканамерны этап у развіцці навукі. Перш чым перайсці да комплексных даследаванняў, трэба было дасканала вывучыць спецыяльныя праблемы. На пачатку 50-х гадоў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР узнікае лінгвістычная школа М. Р. Судніка і А. І. Жураўскага. Поспехі гэтай школы, напэўна, найбольш наглядныя і паказальныя. Выданні Скарыны былі вывучаны як помнікі беларускай мовы, якія ляжалі, можна сказаць, ля яе вытокаў. Важныя работы ў гэтай галіне выканалі У. В. Анічэнка, А. Я. Баханькоў, М. Г. Булахаў, А. М. Булыка, А. А. Парукаў, Л. М. Шакун, а за межамі Беларусі — А.-Л. Ю. Апрымене. Падзеяй у скарыназнаўстве стала выданне ў 1967 г. «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» А. І. Жураўскага і ў 1977 і 1984 гг.— двухтомнага «Слоўніка мовы Скарыны», складзенага У. В. Анічэнкам.

Працы Перцава і Алексютовіча паслужылі той асновай, на якой у 70-я гады ўзнік новы напрамак у скарыназнаўстве, прадстаўнікі якога ў першую чаргу цікавіліся філасофскімі, прававымі і эстэтычнымі поглядамі Скарыны. Назавём У. М. Конана і, асабліва, С. А. Падокшына, кнігі якога «Скарына і Будны» (Мн., 1974) і «Францыск Скарына» (М., 1981) набылі шырокую вядомасць.

Важнае крыніцазнаўчае значэнне мела публікацыя літаратурнай і графічнай спадчыны Скарыны. У першую чаргу тут трэба сказаць пра зборнік «Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі» (Мн., 1969). Прадмовы і пасляслоўі сабраў, пракаменціраваў і апублікаваў А. Ф. Коршунаў. Ён жа пасля апублікаваў і тэкст «Пасхаліі», які захаваўся толькі ў капенгагенскім экземпляры «Малой падарожнай кніжкі» (каля 1522 г.) і быў знойдзены ў пасляваенныя гады [33]. Публікацыя літаратурнай спадчыны вялікага асветніка дала ў рукі даследчыкаў неацэнны па значэнні матэрыял, які раней прыходзілася расшукваць у розных кнігасховішчах. Зборнік прадмоў і пасляслоўяў адыграў значную ролю ў фарміраванні літаратуразнаўчага напрамку ў скарыназнаўстве, якое прадстаўлена працамі А. Ф. Коршунава, а таксама В. І. Дарашкевіча, А. І. Мальдзіса, В. А. Чамярыцкага.

Цяжка пераацаніць крыніцазнаўчае значэнне і іншай публікацыі — альбома «Гравюры Францыска Скарыны» (Мн., 1972), падрыхтаванага Л. Т. Баразной (1928—1972). Гэта праца стварыла аснову для развіцця мастацтвазнаўчага напрамку ў са-

---

[33] Коршунов А. Ф. К вопросу о начале книгопечатания в Великом княжестве // Книговедение. 1979. № (7) 14. С. 24—36.

вецкім скарыназнаўстве, прадстаўленага галоўным чынам працамі В. Ф. Шматава [34].

Важнейшай крыніцай для вывучэння дзейнасці Ф. Скарыны з'яўляюцца яго выданні, таму выключна важна зарэгістраваць і дакладна апісаць усе экземпляры гэтых выданняў, якія захаваліся. Першая спроба ў дадзеным напрамку была зроблена ў 1968 г. аўтарам гэтых радкоў [35], а ў 1969 г.— А. Коршунавым у каментарыі да згаданага вышэй зборніка прадмоў і пасляслоўяў. У 1978 г. было апублікавана «Апісанне выданняў Францыска Скарыны» з указаннем камплектнасці ўсіх захаваных экземпляраў — у складзе агульнага паказальніка літаратуры пра беларускага асветніка [36]. Нарэшце, у 1986 г. выйшаў найбольш грунтоўны зводны каталог «Кніга Беларусі (1517—1917)» з раздзелам «Старадрукаваныя кірылічныя выданні XVI—XVIII стст.», падрыхтаваным Г. Я. Галенчанкам.

Усведамляючы, што наш гістарыяграфічны агляд не можа быць поўным, назавём яшчэ некалькі імён. А. С. Мыльнікаў плённа вывучае пражскі перыяд дзейнасці Ф. Скарыны, а Л. І. Уладзіміраў — віленскі перыяд [37]. М. Б. Батвіннік паспяхова займаецца гістарыяграфіяй пытання [38], а В. Н. Дышыневіч — бібліяграфіяй скарыназнаўства [39]. Добрыя навукова-папулярныя кнігі падрыхтавалі Л. І. Уладзіміраў і С. К. Майхровіч [40]. Нарыс пра Скарыну для замежнага чытача напісалі В. А. Чамярыцкі, Г. Я. Галенчанка і В. Ф. Шматаў [41].

Працягваюцца пошукі ў мастацкай літаратуры, сведчаннем чаму з'яўляюцца гістарычная драма А. Л. Петрашкевіча і кніга для дзяцей А. К. Клышкі [42].

Савецкае скарыназнаўства дасягнула не малых поспехаў. Але шмат яшчэ трэба зрабіць. На нашу думку, слушна будзе

---

[34] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; яго ж. Гравюры «Малой подорожной книжки» Скорины и их источники // Памятники культуры: Новые открытия. 1985. М., 1987. С. 188—197.

[35] Немировский Е. Л. Славянские инкунабулы и палеотипы кирилловского шрифта в книгохранилищах Советского Союза // Сов. славяноведение. 1968. № 1. С. 11—25.

[36] Немировский Е. Л. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Франциска Скорины. Описание изданий и указатель литературы. М., 1978.

[37] Мыльников А. С. Франциск Скорина и Прага // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 24—33; Владимиров Л. М. Издательская деятельность Франциска Скорины в Великом княжестве Литовском // Там жа. С. 34—44.

[38] Ботвинник М. Б. Изучение жизни и деятельности Франциска Скорины в БССР // Там жа. С. 124—135; яго ж. Историография «Малой подорожной книжки» и Апостола Ф. Скорины в дооктябрьский период // Федоровские чтения 1882. М., 1987. С. 67—75.

[39] Дышиневич В. Н. Франциску Скорине посвященные. Мн., 1982.

[40] Владимировас Л. И. Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский. Вильнюс, 1975; Майхровіч С. К. Георгій Скарына. Мн., 1966.

[41] Čemericki V., Golenčenko G., Šmatov V. Francisk Skorina. Paris, 1980.

[42] Петрашкевіч А. Напісанае застаецца. Францыск Скарына. Мн., 1982; Клышка А. Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга. Мн., 1983.

закончыць артыкул пералікам тых задач, якія стаяць перад вучонымі. Некаторыя з гэтых задач будуць вырашаны ў ходзе выканання «Скарынаўскай праграмы», зацверджанай пастановай бюро прэзідыума АН БССР ад 22 студзеня 1981 г.[43]

Вычарпальным даведніцкім дапаможнікам, сапраўднай энцыклапедыяй скарыназнаўства з'яўляецца унікальны слоўнік «Францыск Скарына і яго час» [44]. Адзначым, што гэта — першая персанальная энцыклапедыя ў гістарыяграфіі сусветнай гісторыі кнігі і кніжнай справы.

В. І. Дарашкевіч падрыхтаваў зборнік дакументаў пра жыццё і дзейнасць Скарыны [45]. У гэтым жа зборніку змешчана складзенае намі паэкземплярнае апісанне выданняў беларускага асветніка. Хочацца верыць, што гэта праца стане сур'ёзным дапаможнікам для скарыназнаўцаў.

Значна дапоўненым выданнем, з навуковымі каментарыямі выпускаюцца прадмовы і пасляслоўі Ф. Скарыны, падрыхтаваныя А. Коршунавым. У яго ўвайшлі і тэксты акафістаў, скарынаўскае аўтарства якіх было нядаўна даказана А. А. Турылавым [46]. Новы паказальнік літаратуры пра Ф. Скарыну падрыхтавала Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа АН БССР.

У кастрычніку 1986 г. у Мінску адбыліся першыя Скарынаўскія чытанні, падрыхтаваныя Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, якія сабралі даследчыкаў-скарыназнаўцаў з Мінска і іншых гарадоў Беларусі, з Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Кіева, Калугі [47]. Па матэрыялах Чытанняў складзены гэты зборнік работ. Яшчэ адзін зборнік, прысвечаны Скарыну, выпускае выдавецтва «Вышэйшая школа».

Такім чынам, асноўнай крыніцай скарыназнаўства з'яўляюцца выданні вялікага асветніка. Поўныя экземпляры іх вельмі рэдкія. Каб пазнаёміцца з імі, трэба працаваць у бібліятэках розных гарадоў. Даўно ўжо час зрабіць гэтыя выданні больш даступнымі для даследчыкаў. Для гэтага неабходна падрыхтаваць іх факсімільныя ўзнаўленні. Патрэбны таксама крытычныя выданні тэкстаў кніг Францыска Скарыны, вядомыя як у выглядзе старадрукаваных выданняў, так і ў рукапісах. Іх трэба забяспечыць тэксталагічным і лінгвістычным каментарыем, слоў-

---

[43] Программа работ по решению важнейшей республиканской комплексной проблемы в области общественных наук. 36. Франциск Скорина — великий белорусский просветитель-гуманист, выдающийся деятель славянской культуры. Мн., 1981.

[44] Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988.

[45] Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988.

[46] Турилов А. А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Л., 1981. С. 241—247.

[47] Скарынінскія чытанні: Навуковая канферэнцыя 30—31 кастрычніка 1986 г. (Праграма). Мн., 1986.

нікам мовы з вызначэннем усіх граматычных форм і з прывязкай да канкрэтных аркушаў выданняў.

Альбом, падрыхтаваны Л. Т. Баразной, пры ўсім яго станоўчым значэнні цяжка прызнаць навуковай публікацыяй. Патрэбны падрабязны, дбайна каменціраваны звод мастацкай спадчыны Скарыны, у якім у натуральную велічыню будуць перададзены ўсе ілюстрацыі, арнаментыка і шрыфты, указана іх дакладнае месцазнаходжанне на асобных аркушах выданняў.

Патрэбна, нарэшце, капітальная марксісцка-ленінская манаграфія, прысвечаная жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны.

Усё гэта — задачы першароднай важнасці, вырашэнне якіх, зразумела, пад сілу савецкаму скарыназнаўству.



Царь Двдъ играеть въгꙋсле несꙋ Кивотъ гдень: царицаже Михоль видя и погорде и бе неплодна:



Вторыи книги царъствъ починають ся. Зꙋполне выложены нарꙋсь кий изыкъ. доктором Францыском Скорининым сыном сполоцька :-



*А. П. ГРЫЦКЕВІЧ (Мінск)*

# ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў ЭПОХУ СКАРЫНЫ

У канцы XV — першай палавіне XVI ст. Беларусь уваходзіла ў склад буйной і даволі моцнай феадальнай дзяржавы на ўсходзе Еўропы — Вялікага княства Літоўскага. Афіцыйная і больш пашыраная назва яго была Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Дзяржава склалася ў XIII—XIV стст. у ходзе феадалізацыі літоўскага грамадства і далейшага развіцця феадальных адносін на беларускіх, украінскіх і рускіх землях. Знешнія прычыны таксама спрыялі стварэнню гэтай шматнацыянальнай дзяржавы. Ф. Энгельс падкрэсліў: «У тыя часы, калі Вялікарасія папала пад мангольскі прыгнёт, Беларусь і Маларасія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства. Гэта княства пасля добраахвотна аб'ядналася з Польшчай» [1].

Беларускія землі ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага ў значнай меры паводле дагаворнага прынцыпу, захаваўшы сваю аўтаномію («старыну»), што пацвярджалася новымі граматамі вялікіх князёў. Славянскае насельніцтва Вялікага княства Літоўскага значна ўплывала на сацыяльна-палітычнае і культурнае развіццё літоўскага народа. Гэта, між іншым, выявілася ў тым, што дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага стала беларуская мова. Вялікае княства Літоўскае з'яўлялася федэрацыяй шматлікіх зямель — літоўскіх, беларускіх, украінскіх і рускіх. Ва ўнутранае жыццё зямель і княстваў вялікі князь літоўскі ўмешваўся мала [2].

Мясцовая беларуская знаць была прыцягнута да вядзення дзяржаўных спраў. Яна ўплывала на рашэнні вялікага князя і па ўнутрыпалітычных пытаннях [3]. Разам з гэтым у літоўскае справаводства ўвайшла і беларуская мова. Ужо да канца XIV ст. яна пашырылася і на этнічную тэрыторыю Літвы. Валасныя цівуны (чыны адміністрацыі) у Літве чыталі і пісалі пабеларуску і не ведалі лацінскай мовы [4].

---

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 22. С. 18—19.

[2] История СССР с древнейших времен ... М., 1966. Т. 2. С. 410.

[3] История Литовской ССР (С древнейших времен до наших дней). Вильнюс, 1978. С. 42.

[4] Там жа. С. 42—43.

На чале дзяржавы знаходзіўся вялікі князь («гаспадар») з літоўскай дынастыі Ягелонаў. У XV ст. істотны ўплыў на дзяржаўныя справы атрымаў феадальны савет пры вялікім князі. Гэты савет — паны-рада да канца XV ст. ператварыўся ў кіруючы орган дзяржавы, які значна абмежаваў уладу вялікага князя. Гэта было вынікам такога становішча, якое займалі ў панах-радзе князі і буйныя феадалы (паны), г. зн. землеўласніцкая знаць. Таму, абраўшы ў 1492 г. вялікім князем Аляксандра Казіміравіча, рада і фармальна абмежавала ўладу вялікага князя. Асобным прывілеем (граматай) 1492 г. вялікі князь Аляксандр абавязаўся весці знешнюю палітыку толькі са згоды паноў-рады, не адбіраць дзяржаўных пасад, назначаць на адміністрацыйныя пасады намеснікаў і цівуноў; усе свае прыбыткі з гандлёвых пошлін і з судоў вялікі князь мог расходаваць са згоды паноў-рады, якая таксама прымала ўдзел у гаспадарскім судзе. Наогул усе важныя дзяржаўныя справы вырашаў гаспадар толькі разам з панамі-радаю [5].

У панах-радзе засядалі прадстаўнікі ўсіх феадальных груповак дзяржавы — як літоўскага паходжання (шмат іх было ужо абеларушана), так і беларускага, украінскага і нават велікарускага паходжання. Як адзначыў М. К. Любаўскі, у радзе займалі месца і феадалы-католікі, і феадалы-праваслаўныя. Пасля Фларэнтыйскай царкоўнай уніі 1439 г. праваслаўныя не лічыліся схізматыкамі (раскольнікамі) і ніякіх палітычных абмежаванняў для іх не існавала [6]. Ф. Энгельс, гаворачы пра Польшу і Вялікае княства Літоўскае пад уладай Ягелонаў (да Люблінскай уніі), адзначыў, што дадзеныя краіны заўсёды былі надзвычайна ліберальныя ў рэлігійных пытаннях [7]. Усё гэта адбівалася на складзе паноў-рады ў канцы XV — першай палавіне XVI ст.

Такім чынам, паступова ўзрастала ўдзельная вага беларускіх і ўкраінскіх феадалаў у складзе паноў-рады. У першай палавіне XVI ст., у час Ф. Скарыны, колькасць іх фактычна зраўнялася з колькасцю літоўскіх феадалаў, а ў сярэдзіне XVI ст. дасягнула дзвюх трэцей агульнага складу паноў-рады. Усё гэта сведчыла аб раўнапраўнасці феадалаў Вялікага княства Літоўскага, нягледзячы на этнічнае паходжанне іх родаў і рэлігійную прыналежнасць саміх феадалаў. Феадальная дзяржава, каб узмацніць феадальны прыгнёт асноўнай масы насельніцтва — сялянства, а таксама і гараджан, пашырала сацыяльную і этнічную базу вышэйшай улады ў краіне [8].

---

[5] Любавский М. К. Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 187—188.

[6] Любавский М. К. К вопросу об ограничении политических прав... // Сб. статей, посвященных В. О. Ключевскому. М., 1909. С. 1—17.

[7] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 16, С. 165.

[8] Грицкевич А. П. Белоруссия во время Ивана Федорова // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984. С. 59.

Табліца 1. **Склад членаў паноў-рады Вялікага княства Літоўскага паводле этнічнага паходжання іх родаў (канец XV ст. — 1569 г.)***

| Этнічнае паходжанне | Гады | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1476—1500 | | 1501—1525 | | 1526—1550 | | 1551—1569 | |
| | колькасць | % | колькасць | % | колькасць | % | колькасць | % |
| Літоўскае | 55 | 51,4 | 64 | 45,7 | 56 | 49,1 | 50 | 36,2 |
| Беларускае | 37 | 34,6 | 53 | 37,9 | 37 | 32,5 | 45 | 32,7 |
| Украінскае | 10 | 9,3 | 14 | 10 | 14 | 12,2 | 37 | 26,7 |
| Велікарускае | — | — | — | — | 1 | 0,9 | 3 | 2,2 |
| Польскае | 5 | 4,7 | 7 | 5 | 5 | 4,4 | 3 | 2,2 |
| Іншыя | — | — | 2 | 1,4 | 1 | 0,9 | — | — |
| Разам | 107 | 100 | 140 | 100 | 114 | 100 | 138 | 100 |

* Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV wieku. Warszawa, 1895; Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959; БелСЭ, 1969—1975. Т. I—II. У табліцу не ўключаны звесткі пра князёў і паноў, што засядалі ў радзе не пастаянна, а паводле асабістага запрашэння; уключаны звесткі толькі пра тых, што засядалі пастаянна і займалі дзяржаўныя пасады. Падлік наш.

Табліца 2. **Склад членаў паноў-рады Вялікага княства Літоўскага паводле іх рэлігійнай прыналежнасці (канец XV ст. — 1569 г.)**

| Рэлігійная прыналежнасць | Гады | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1476—1500 | | 1501—1525 | | 1526—1550 | | 1551—1569 | |
| | колькасць | % | колькасць | % | колькасць | % | колькасць | % |
| Каталікі | 59 | 55,1 | 84 | 60 | 79 | 69,3 | 53 | 38,4 |
| Праваслаўныя | 48 | 44,9 | 56 | 40 | 35 | 30,7 | 61 | 44,2 |
| Кальвіністы | — | — | — | — | — | — | 23 | 16,7 |
| Лютэране | — | — | — | — | — | — | 1 | 0,7 |
| Разам | 107 | 100 | 140 | 100 | 114 | 100 | 138 | 100 |

Паколькі склад рады пашырыўся да некалькіх дзесяткаў чалавек[9], то з 1492 г. вылучаецца найвышэйшая (або тайная) рада з некалькіх вышэйшых саноўнікаў. Звычайна гэта былі ваяводы і кашталяны віленскія і трокскія, старосты жмудскі, луцкі і гародзенскі, гетманы, маршалкі земскі і дворны, падскарбі земскі і каталіцкія біскупы, а таксама князь слуцкі, якога гаспадар запрашаў асобна з-за яго сваяцтва з Ягелонамі. З гэтымі старэйшымі панамі раднымі гаспадар вырашаў най-

[9] Малиновский И. Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой Древней России. Томск, 1912. Ч. 2, вып. 2. С. 52—63.

больш важныя і тэрміновыя справы[10]. Склад і гэтай найвышэйшай рады таксама паказвае паступовы рост удзельнай вагі феадалаў беларускага і ўкраінскага паходжання (гл. табл. 3, 4), што падкрэслівае агульную тэндэнцыю палітычнага яднання ўсіх феадалаў дзяржавы.

І хоць тут у канцы XV — першай палавіне XVI ст. кіруючыя пасады займалі феадалы-католікі, але і яны ў сярэдзіне XVI ст. страцілі свае пазіцыі, калі праваслаўныя і кальвіністы склалі

Таблица 3. **Склад найвышэйшай рады паводле этнічнага паходжання яе членаў (1492 — 1569 гг.)**

| Этнічнае паходжанне | Гады | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1492—1500 | 1501—1525 | 1526—1550 | 1551—1569 |
| | колькасць | | | |
| Літоўскае | 11 | 19 | 22 | 11 |
| Беларускае | 1 | 3 | 10 | 9 |
| Украінскае | 2 | 5 | 5 | 9 |
| Польскае | — | 1 | 1 | — |
| Татарскае | 1 | 1 | — | — |
| Яўрэйскае | — | 1 | — | — |
| Разам | 15 | 30 | 38 | 29 |

ў вышэйшым эшалоне ўлады дзве трэці ўсіх членаў. Такім чынам, і ў тайнай радзе было створана прадстаўніцтва ўсіх груповак класа феадалаў.

Адзіныя класавыя інтарэсы феадалаў Вялікага княства Літоўскага, іх панаванне над прыгнечанымі саслоўямі сялян і гараджан выражаліся і ў нясенні аднолькавай ваеннай службы. Паколькі куды большую частку насельніцтва складалі беларусы і ўкраінцы, галоўны кантынгент узброеных сіл Вялікага княства Літоўскага складаўся з ўраджэнцаў Беларусі і Украіны[11]. Гэта знаходзіла адлюстраванне ў складзе сейма, або сойма, на які збіралася шляхта, як пачалі называцца феадалы (баяры) у пачатку XVI ст. Раней, у XV ст., ніякага прадстаўніцтва ад зямель, княстваў і паветаў не было, і шляхта запрашалася на сеймы. Пагалоўна збіралася шляхта на сеймы і ў ваенны час — у паходах, у ваенных лагерах (1507, 1520, 1521, 1538 гг.)[12]. Паступова змянялася і роля сейма і пазіцыя шляхты. Калі ў канцы XV — пачатку XVI ст. удзел баяр у рабоце сейма абмяжоўваўся выслухоўваннем пастаноў, прынятых вялікім князем і панамі-радаю, магнатамі, то ў сярэдзіне XVI ст.

[10] Любавский М. К. Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 346—347; яго ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 184.

[11] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 224—225.

[12] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 218.

шляхта ўсё больш намагаецца адыгрываць актыўную ролю ў палітыцы [13].

Яскравым сведчаннем высокай прававой культуры тагачаснага грамадства Беларусі, Літвы і Украіны з'явілася стварэнне Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г.— першага добра распрацаванага кодэкса феадальнага права ва Усходняй Еўропе. Створаны на беларускай мове і зацверджаны сеймам у Вільні, Статут 1529 г. ахапіў нормы права дзяржаўнага, зямельнага,

Табліца 4. **Склад найвышэйшай рады паводле рэлігійнай прыналежнасці яе членаў (1492 — 1569 гг.)**

| Рэлігійная прыналежнасць | Гады | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1492—1500 | 1501—1525 | 1526—1550 | 1551—1569 |
| | колькасць | | | |
| Каталікі | 11 | 20 | 30 | 10 |
| Праваслаўныя | 4 | 10 | 8 | 9 |
| Кальвіністы | — | — | — | 10 |
| Разам | 15 | 30 | 38 | 29 |

крымінальнага, працэсуальнага і спадчыннага. Тэкст яго, які складаўся з 13 раздзелаў і 282 артыкулаў, абапіраўся на шматлікія крыніцы. Гэта былі нормы Рускай Праўды, велікакняжацкія прывілеі 1447 і наступных гадоў, судовыя рашэнні, некаторыя нормы рымскага, польскага і нямецкага права. Шырока было выкарастана і звычаёвае права, распаўсюджанае на Беларусі. Гэта — важны гістарычны дакумент, які сведчыў аб усё большых сувязях Беларусі са здабыткамі тагачаснай еўрапейскай культуры.

Трэба зазначыць, што хоць Статут Вялікага княства Літоўскага і ахоўваў правы ўсіх феадалаў дзяржавы і ў некаторай ступені гараджан, ён перш за ўсё замацоўваў за буйнымі феадаламі, магнатамі іх прававое палажэнне, кіруючую палітычную ролю ў дзяржаве. Статут ураўноўваў у правах праваслаўных феадалаў з каталікамі [14]. Гэта было працягам традыцый унутранай палітыкі цэнтральнай улады дзяржавы па кансалідацыі ўсіх феадалаў, каб узмацніць дзяржаву ў барацьбе з ворагамі.

Беларусь як састаўная і палітычна важная частка дзяржавы адыгрывала значную ролю і ў знешняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага. Яе тэрыторыя часта станавілася арэнай ваенных дзеянняў. Адсюль ішла ў паходы значная частка войск — так званая пагоня, або літоўская пагоня, ваеннае апалчэнне.

У знешняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага ў канцы

---

[13] Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław etc., 1967. S. 90.

[14] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 509, 510.

XV — першай палавіне XVI ст. галоўнымі былі тры напрамкі: адносіны з Польшчай, Рускай дзяржавай і Крымскім ханствам. Пры гэтым напрамкі знешняй палітыкі часта былі цесна ўзаемазвязаны.

Персанальная унія паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім, якая існавала ў другой палавіне XV ст., скончылася ў 1492 г., калі памёр вялікі князь літоўскі і адначасова кароль польскі Казімір Ягелончык. Літоўскія, беларускія і ўкраінскія магнаты ў панах-радзе і на сейме, не зважаючы на ранейшую унію з Польшчай, выбралі на велікакняжацкі трон Аляксандра Казіміравіча, а польскія магнаты — яго брата Яна Ольбрахта. Аднак складаныя палітычныя абставіны ў абедзвюх дзяржавах, канфлікт Вялікага княства Літоўскага з Рускай дзяржавай, а Польшчы — з Крымскім ханствам, прымусілі абедзве дзяржавы зрабіць захады да аб'яднання. У 1501 г. памёр польскі кароль Ян Ольбрахт, і на Пётракаўскім сейме каралём Польшчы быў абраны вялікі князь літоўскі і рускі Аляксандр Казіміравіч. Больш таго, у Мельніку ў 1501 г. быў падпісаны акт аб уніі паміж дзвюма дзяржавамі. Прадугледжвалася стварэнне аб'яднанай польска-літоўскай дзяржавы з агульнымі сеймам і войскам, адзіным каралём і адзінай грашовай сістэмай. Мельніцкі акт аб уніі прадугледжваў, што «Карона і Вялікае княства павінны аб'яднацца і згуртавацца ў адно непарыўнае цэлае, абы былі адна нацыя, адзін народ, адно брацтва і агульныя рады»[15]. Але ўся гэта дэкларацыя і ўсе гэтыя ўзнёслыя словы засталіся на паперы, бо ў 1505 г. сейм Вялікага княства Літоўскага не зацвердзіў Мельніцкую унію, і паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім заставалася аж да 1569 г. толькі персанальная унія. Польскія палітыкі беспаспяхова намагаліся ажыццявіць унію на аснове акта 1501 г. Але гэта ім не ўдавалася[16].

З канца XV і да сярэдзіны XVI ст. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, з аднаго боку, і Рускай дзяржавай, з другога, прайшла цэлая серыя войн. Практычна вырашалася пытанне аб «dominium Russiae»: каму з дзвюх дзяржаў аб'ядноўваць рускія землі і дзе будзе сталіца гэтых зямель — у Маскве ці Вільні? Ваенныя перыяды перамяжаліся з мірнымі. Але галоўным сродкам вырашэння «ўсходняга пытання» была вайна. У 1487—1494 гг. ішла так званая «пагранічная вайна», у выніку якой да Рускай дзяржавы былі далучаны Вярхоўскія княствы (цяпер тэрыторыя ў Калужскай вобласці) і Вязьма. У 1500—1503 гг. прайшла новая, няўдалая для Вялікага княства Літоўскага вайна, у выніку якой да Масквы адышла значная тэрыторыя з рускім насельніцтвам — усяго 19 буйных гарадоў, у тым ліку Чарнігаў, Курск, Ноўгарад-Северскі, Бранск, і 70 валасцей.

---

[15] Ochmański J. Historia Litwy. S. 94.

[16] История Литовской ССР (С древнейших времен до наших дней). С. 73.

Новая вайна прайшла ў 1507—1508 гг. За Рускай дзяржавай была замацавана тэрыторыя, далучаная ў 1503 г.

У 1512 г. успыхнула новая вайна, якая працягвалася да 1522 г. Рускія войскі спусташалі Віцебскую і Полацкую землі [17]. Улетку 1514 г. рускія войскі дамагліся важнай ваеннай і палітычнай перамогі — быў узяты Смаленск. Гэтай цяжкай страты для Вялікага княства Літоўскага не магла перакрэсліць бліскучая перамога восенню 1514 г., калі на палях над Дняпром, каля Оршы, войска Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем вялікага гетмана літоўскага князя Канстанціна Астрожскага разграміла рускае войска. Астрожскі пасля марна страціў час і не змог узяць Смаленск. Вайна вялася яшчэ доўгі час, пакуль не скончылася перамір'ем з захаваннем Смаленска ў Рускай дзяржаве. Новая вайна паміж Вялікім княствам Літоўскім і Рускай дзяржавай адбылася ў 1534—1537 гг. Паводле ўмоў перамір'я 1537 г. Расія вярнула Вялікаму княству Літоўскаму Гомель і Любеч [18]. У сувязі з абвастрэннем унутрыпалітычнага становішча ў Расіі ў наступныя гады гэта дзяржава на некаторы час спыніла сваю актыўную палітыку на заходнім рубяжы.

На поўдзень ад зямель Вялікага княства Літоўскага знаходзілася Крымскае ханства, якое з 1475 г. было ў васальнай залежнасці ад султанскай Турцыі. У апошняй чвэрці XV ст. Крымскае ханства становіцца саюзнікам вялікага князя маскоўскага Івана III. Крымскія татары сістэматычна рабілі напады на паўднёвыя тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. З 1474 да 1569 г. яны зрабілі 75 наездаў. Дзесяткі тысяч палонных крымскія татары прадалі на нявольніцкіх рынках у Кафе, Ялце і іншых месцах паўднёвага ўзбярэжжа Крыма. На пачатку XVI ст. атрады крымскіх татар пранікалі і на тэрыторыю Беларусі. У 1500 г. атрад татар дасягнуў Брэста, потым яны напалі на Палессе. У 1502—1506 гг. сыны крымскага хана з дзесяткамі тысяч татар нападалі на паўднёвыя раёны Беларусі — Палессе, ваколіцы Слуцка, Клецка, Навагрудка, даходзілі нават да Вільні. 5 жніўня 1506 г. каля Клецка войска Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем князя Міхаіла Глінскага ўшчэнт разбіла войска крымскіх татар, а іх недабіткі былі перахоплены пад Копылем і Петрыкавам. Толькі нявялікай колькасці татар удалося ўцячы ў Крым. Пасля гэтага татарскія напады на Беларусь насілі эпізадычны характар (1521, 1527, 1530) і ўрэшце ўвогуле былі спынены наладжанай абаронай паўднёвых рубяжоў дзяржавы, у тым ліку стварэннем атрадаў казакоў на Украіне.

Адносіны з іншымі дзяржавамі Вялікае княства Літоўскае падтрымлівала зыходзячы з пазіцый свайго саюзніка — Поль-

[17] Ochmański J. Historia Litwy. S. 96.
[18] История СССР с древнейших времен до наших дней. Т. 2. С. 152, 153.

шчы. Тэўтонскі ордэн (Прусія) пасля разгрому яго войск у час Грунвальдскай бітвы 1410 г. ужо не адыгрываў такой палітычнай ролі ва Усходняй Еўропе, як раней. Агрэсія яго на літоўскія, польскія і беларускія землі была спынена. У 1466 г. у выніку вайны 1454—1466 гг. Тэўтонскі ордэн прызнаў сябе васалам Польскага каралеўства, а Лівонскі ордэн (тэрыторыя сучасных Латвіі і Эстоніі) ператварыўся ў самастойную арганізацыю. Рэфармацыя нанесла моцны ўдар па Тэўтонскаму ордэну. Яго апошні вялікі магістр Альбрэхт Брандэнбургскі (пляменнік польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Казіміравіча) у 1525 г. секулярызаваў валоданні Ордэна ў Прусіі і стварыў свецкае герцагства Прусію са сталіцай у Кёнігсбергу. Ён стаў васалам польскага караля і прынёс яму прысягу на кракаўскім рынку. Для Польшчы і Вялікага княства Літоўскага была створана, такім чынам, магчымасць умешвацца ў справы Прусіі. У 1539 г. брат герцага прускага Вільгельм Брандэнбургскі стаў рыжскім архіепіскапам. Цяпер Польшча і Вялікае княства Літоўскае ўмешваліся ўжо і ў лівонскія справы [19].

Вялікае княства Літоўскае разам з Польшчай звычайна было саюзнікам і такіх дзяржаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, як Чэхія (з Сілезіяй і Лужыцамі) і Венгрыя (са Славакіяй, Закарпацкай Украінай, Трансільваніяй, Харватыяй і Ваяводзінай). У 1471 г. старэйшы сын вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка Уладзіслаў стаў каралём Чэхіі, а з 1490 г.— адначасова і каралём Венгрыі. Такім чынам, палітыка Польшчы, Чэхіі, Венгрыі і Вялікага княства Літоўскага каардынавалася.

Улетку 1515 г. паміж Жыгімонтам Казіміравічам і германскім імператарам Максіміліянам Габсбургам спачатку ў Браціславе і канчаткова ў Вене (у час так званага Венскага кангрэса 1515 г.) было заключана пагадненне аб адносінах паміж Габсбургамі (у Аўстрыі) і Ягелонамі (у Венгрыі і Чэхіі). Гэта пагадненне мела важнае значэнне для лёсу народаў Усходняй Еўропы: сын Уладзіслава Людовік меўся ажаніцца з унучкай імператара Марыяй, а яго сястра Ганна — выйсці замуж за ўнука імператара — Фердынанда Габсбурга (потым імператар Фердынанд I). Было дамоўлена, што калі ў Аўстрыі згасне род Габсбургаў, то яна стане валоданнем Ягелонаў, а калі згасне чэшска-венгерская лінія Ягелонаў, то іх пераемнікамі будуць Габсбургі [20]. У 1526 г. у час бітвы каля Мохача венгерскае войска амаль цалкам было знішчана туркамі. У час уцёкаў сын Уладзіміра дваццацігадовы кароль Людвік II Ягелон утапіўся ў балоце. Чэшска-венгерская лінія Ягелонаў скончылася, і вялікія па тэрыторыі, багатыя эканамічна каралеўствы Венгрыі і Чэхіі перайшлі (аж да 1918 г.) у рукі Габсбургаў. Такое становішча

---

[19] История Литовской ССР (С древнейших времен до наших дней). С. 98.
[20] Jasienica P. Polska Jagiellonów. Warszawa, 1983. S. 320—321.

змяніла суадносіны палітычных сіл у Еўропе, бо Габсбургі валодалі не толькі гэтымі краінамі, але таксама Іспаніяй, Нідэрландамі і іншымі землямі ў Еўропе, калоніямі Іспаніі ў Амерыцы.

Сучаснікам і сведкам адзначаных палітычных падзей быў Францыск Скарына. Існуючыя тады адносіны паміж еўрапейскімі дзяржавамі давалі магчымасць там вучыцца і працаваць, знаёміцца з жыццём розных народаў, узбагачаць свае веды, каб пасля ўнесці важкі ўклад у развіццё культуры народаў Усходняй Еўропы.





*З. Ю. КАПЫСКІ (Мінск)*

## ПОЛАЦК У ЭПОХУ РАННЯГА АДРАДЖЭННЯ

Гісторыя адвяла гарадам выдатную ролю калыскі цывілізацыі і цытадэлі рэвалюцыі. Канкрэтныя ўмовы па-рознаму вызначалі магчымасці выканання тым ці іншым горадам гэтай ролі.

Час жыцця і творчай дзейнасці Ф. Скарыны быў адным са складаных этапаў у гісторыі феадальнага Полацка. Магчыма, гэтым трэба растлумачыць, што аднабаковы падыход да некаторых падзей яго гісторыі, які адлюстраваўся ў дакументах канца XV і пачатку XVI ст., прывёў укладальніка зборніка «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI ст.» А. Л. Харашкевіч да думкі, нібыта з пачатку XVI ст. пачынаецца новы перыяд у гісторыі Полацка, які «характарызуецца рэзкім падзеннем яго эканамічнага значэння...»[1] Дастаткова, аднак, звярнуцца да ўсёй сукупнасці крыніц, якія захаваліся і якія змяшчаюць звесткі пра Полацк, і стане відавочнай памылковасць прыведзенага меркавання.

Значэнне свайго горада даволі красамоўна, з глыбокім пачуццём уласнай годнасці вызначылі самі палачане: у 1464 г. яны заявілі рыжскаму магістру: «А Полтеск теж ест, хвалячи бога, место славутное, как и которое, а не есть нижшое во чести и во всем ни Вилни, а ни Мариборка, а ни Кданьска»[2].

Прайшло сто гадоў і сярод сведчанняў пра Полацк, датаваных 1564 г., знаходзім апавяданне на нямецкай мове сучасніка і, напэўна, сведкі штурму Полацка рускімі войскамі. Ён склаў апісанне гэтай падзеі пад вельмі характэрнай назвай: «Апісанне, як быў узяты і заняты ў 1563 г. маскавітамі Полацк — галоўны горад у Літве»[3]. Другое апісанне гэтай падзеі, апублікаванае ў Нюрнбергу ў 1564 г., таксама называе Полацк славутым горадам і крэпасцю[4]. Выдадзенае ў Празе ў 1579 г.

[1] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1977. Вып. 1. С. 4.
[2] Там жа. С. 220.
[3] Beschreibung, wie Haupstadt Polozko in Lithauen anno 1563 von den Moskowiten erobert und eingenommen ist // Василевская М. А. Белоруссия в печати XVI столетия: Библиографический указатель на иностранных языках. Мн., 1985. С. 6.
[4] Там жа. С. 7.

паведамленне пра ўзяцце Полацка войскамі караля і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя ў тым жа 1579 г. пакінуў на чэшскай мове невядомы аўтар, назваўшы яго так: «Праўдзівае і дакладнае паведамленне пра ўзяцце славутага замка і крэпасці вельмі вялікага пагранічнага горада Полацка, размешчанага на літоўскай мяжы» [5]. Як бачым, агульнае значэнне Полацка за гэтых сто гадоў у вачах відавочцаў не дае падставы для высновы, якую прапанавала ўкладальнік зборніка дакументаў «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI ст.»

Больш важкія доказы эканамічнага значэння Полацка могуць даць звесткі пра эканоміку горада, але, на жаль, да нашых дзён іх дайшло вельмі мала. Аднак некаторыя з іх змяшчаюць досыць пераканаўчыя сведчанні актыўнай гандлёвай дзейнасці Полацка. Так, у 1506—1507 гг. Полацк унёс пабор з гандлю ў казну 1519 коп грошаў літоўскіх, тады як узятыя разам Гродна, Навагрудак, Мінск, Брэст — усяго 900 коп грошаў (Гродна і Навагрудак па 100 коп, Мінск — 300, Брэст — 400 коп). У гэтыя ж гады мытны збор толькі з гандлю воскам і соллю ў Полацку даў казне 3937 коп, або 20% гэтага збору з усіх гарадоў Вялікага княства Літоўскага, у ліку якіх былі Кіеў, Коўна, Смаленск, Уладзімір на Валыні, Львоў і дзесяткі іншых гарадоў.

Пэўнае ўяўленне пра маштабнасць гандлёвага абарачэння Полацка даюць захаваныя звесткі Полацкай мытні («каморы») пра гандаль горада воскам і соллю, што складалі тады найважнейшыя прадметы вывазу (воск) і ўвозу (соль). Усяго на працягу 1508—1509 гг. праз мытню паступіла воску 19 223 камяні, або 768 920 фунтаў, і солі 30 224 мяшкі (вага невядома) [6]. Гандлёвая дзейнасць Полацка як маштабная і трывалая з'ява, па мерах таго часу, склалася яшчэ ў XIII ст. Яна вылучалася геаграфічнай разнастайнасцю гандлёвых маршрутаў полацкіх купцоў, пра што сведчыць, напрыклад, дагавор з Рыгай 1265 г., паводле якога полацкія купцы забяспечылі сабе «волное торгованье в Ризе, на Готьском березе и в Любце». Дагаворы XV в. (1406, 1439, 1447 гг.) захавалі за імі права «торговати доброволно и за море путь чист водою и сухим путем как издавна бывало по старому». Пра гандаль палачан «за морам» сведчыць грамата 17 сакавіка 1464 г. [7]

У сваю чаргу Полацк прываблівау на свае рынкі шмат замежных купцоў. Так, грамата сярэдзіны XV ст. паведамляе, што «немец много здесе», а грамата 1446 г. нагадвала магістрату Рыгі, што «у Полоцку ваших купцов полно» [8].

---

[5] Novina gista a pravdiva o dobyti znameniteho zamku a pevnosti velikeho mesta hraničneho Polocka, ležiciho na pozemi litewskim... Praga, 1579 // Там жа. С. 9.

[6] Полоцкие грамоты. Вып. 3. Дак. № 307.

[7] Там жа. Вып. 1. Дак. № 2, 37, 52-а, 75, 116.

[8] Там жа. Дак. № 75.

Крайне мізэрныя звесткі захаваліся пра рамесную вытворчасць у горадзе ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. Дакументы згадваюць 30 рамесных прафесій, але не даюць магчымасці вызначыць колькасць тагачасных рамеснікаў у Полацку.

Своеасаблівым пацвярджэннем шырыні знешніх сувязей феадальнага Полацка, яго, так сказаць, далучанасці да жыцця сучаснага яму свету, можа служыць ліст палачан ад 2 сакавіка 1475 г. магістру Рыгі. У ім паведамлялася пра эпідэмію ў Полацку, далей жа сказана: «А про то, ваша милость, на нас не рачьте дивити, што есмо ваших купцов на тот час к себе не пустили, бо то есть во всех землях таков обычай» [9]. Відавочна, што жыхары горада, які не меў шырокіх знешніх сувязей, не маглі б рэгуляваць крытычныя сітуацыі, што складаліся, з улікам вопыту іншых краін.

Іншаземцы, відаць, складалі пастаянны, хоць, несумненна, і рухомы элемент насельніцтва Полацка. Можна меркаваць, што паведамленне «Хронікі Быхаўца» пра прыбыцце ў 1500 г. у Полацк чэха Яна Гірніна «со всеми чуземцы» — адзін з многіх выпадкаў папаўнення насельніцтва горада за кошт іншаземцаў [10].

Пра папаўненне гарадскога насельніцтва Полацка з суседніх зямель Рускай дзяржавы вельмі красамоўна сведчыць ліст магната Льва Сапегі князю Крыштафу Радзівілу ад 20 ліпеня 1599 г. У ім паведамлялася, што сярод жыхароў Полацка значную частку складаюць выхадцы з Маскоўскай дзяржавы («własnej Moskwy») [11]. Гэта цалкам тлумачыцца даўнімі і трывалымі сувязямі феадальнага Полацка з многімі рускімі гарадамі, асабліва з Псковам, Ноўгарадам, Разанню і, вядома, Масквой.

Цяжка знайсці адказ на пытанне пра структуру гарадскога насельніцтва і колькасць жыхароў Полацка. З асобных згадак у радзе дакументаў і з пераліку насельніцтва ў Полацкай рэвізіі 1552 г. можна з упэўненасцю гаварыць, што сярод палачан былі баяры, шляхта, духавенства, мяшчане, чорныя людзі, яўрэі. Полацкая рэвізія называе агульную колькасць старэйшых у сям'і — 1517, што дае падставу для падліку ўсіх жыхароў — мяшчан: 7585 чал.[12] Калі зрабіць падлік старэйшых ў сям'і па пасадах, то іх агульная колькасць будзе большай — 1777, г. зн. усіх мяшчан — 8885 чал. Але і гэта лічба не поўная, бо тут не ўлічана, што ў многіх дамах мяшчан жылі па дзве і нават тры сям'і, пра што бегла згадвае Полацкая рэвізія. Указаную акалічнасць улічылі сучасныя аўтары работ па гісторыі Гданьска XV—XVII стст. У іх падліках колькасці жыхароў у горадзе не

[9] Полоцкие грамоты. Вып. 2. Дак. № 154.
[10] ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 168.
[11] Archiwum domu Sapiehów. Lwów, 1892. T. 1. S. 222.
[12] Полоцкая ревизия 1552 г. М., 1898.

кожны дом прынята ў сярэднім лічыць дзве сям'і [13]. Аналагічны падлік мог бы даць лічбу толькі мяшчан у Полацку ў 1552 г. не менш за 15 000 жыхароў. Але іншую шматлікую групу гарадскіх жыхароў склалі чорныя людзі. Па сведчанню «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», полацкі ваявода Давойна, які кіраваў абаронай Полацка ў 1563 г., каб зменшыць расход харчавання, неабходны для яго войска, «черни теж простого люду 24 000 з замку выгнал преч» [14]. Такім чынам, толькі дзве з пералічаных груп жыхароў Полацка — мяшчане і чорныя людзі — у сярэдзіне XVI ст. складалі ў Полацку каля 40 000 жыхароў. У Гданьску ж у гэты час агульная колькасць жыхароў таксама дасягнула 40 000 чалавек [15]. Пры ўліку колькасці сямей астатніх катэгорый насельніцтва агульная колькасць жыхароў Полацка прыкметна павялічылася б.

На значную колькасць жыхароў у Полацку ўказваюць і звесткі пра колькасць двароў. Па сведчанні Лебедзеўскага летапісу, пры штурме Полацка ў лютым 1563 г. «Острог болшой весь згорел, а дворов в Остроге сгорело 3000» [16]. Значыць, мінімальная колькасць жыхароў толькі ў гэтым пасадзе складала 15 000 чалавек. Але Полацк меў яшчэ пяць пасадаў — Вялікі, Запалоцце, Якімань, Слабодскі, Крыўцоў і прадмесце Кобак. Гараджане таксама насялялі вуліцы і завулкі Верхняга і Ніжняга замкаў. У Верхнім замку крыніцы называюць пяць вуліц (Вялікая, Пятроўская, Ільінская, Падольская, Пятніцкая) і два завулкі (Андронаў, Узнясенскі). Калі нават дапусціць, што колькасць жыхароў усіх пералічаных раёнаў Полацка была такая ж, як аднаго Астрожскага, то з улікам таго, што ў многіх дамах жылі па 2 сям'і, Полацк у сярэдзіне XVI ст. налічваў не менш (калі не больш) за 50 000 чалавек.

Значную групу (384 старэйшыя ў сям'і) [17] сярод мяшчан складалі, мяркуючы па вопісу войска, зацверджанаму Віленскім сеймам 1 мая 1528 г., мяшчане-землеўладальнікі, абавязаныя нароўні з баярамі несці вайсковую службу.

Якімі б скупымі ні былі прыведзеныя звесткі, яны дастаткова яскрава сведчаць, што няма падстаў разглядаць першую палавіну XVI ст. як час рэзкага падзення эканамічнага Полацка. І ў XVI ст., кажучы словамі аўтара Баркулабаўскага летапісу, горад паўставаў перад сучаснікамі як «град славный великий Полоцк» [18].

Абставіны ўнутры горада складваліся пад моцным уплывам гарадской палітыкі вярхоўнай улады. Яна фарміравалася, пе-

[13] Historia Gdańska. Gdańsk, 1982. T. II. S. 20; Keyser E. Die Baugeschichte Stadt Danzig. Köln, 1972. S. 357.
[14] ПСРЛ. Т. 32. С. 110.
[15] Historia Gdańska. T. II. S. 30.
[16] ПСРЛ. М., 1965. Т. 29. С. 311.
[17] АВАК. Вильно. 1897. Т. 24. С. 54, 57.
[18] ПСРЛ. Т. 32. С. 174.

ражывала рэзкія ваганні з прычыны, з аднаго боку, прамой зацікаўленасці казны ў даходах ад гандлёвай дзейнасці Полацка, а з другога, абароны інтарэсаў феадалаў, якія таксама імкнуліся па-свойму выкарыстаць эканамічную дзейнасць горада, гарадскога насельніцтва. Гэта — адна з галоўных прычын рэзкіх ваганняў палітыкі вярхоўнай улады паміж пазіцыяй спрыяння гандлёва-рамеснаму насельніцтву горада і змяншэння саслоўных правоў мяшчан на карысць інтарэсам феадалаў. Нярэдка аказвалася, што пры спрыянні гараджанам (мяшчанскаму стану) ушчамляліся інтарэсы феадалаў, што выклікала іх пратэст і рашучыя дзеянні, якія адмоўна адбіваліся на жыцці горада, у тым ліку і на яго эканамічнай дзейнасці, а таксама на абараназдольнасці полацкай крэпасці, што вельмі непакоіла вярхоўную ўладу.

Прасачыць падобныя сітуацыі ў гісторыі Полацка канца XV — першай палавіны XVI ст. дазваляюць некаторыя дакументы, што дайшлі да нашых дзён. Грамата («Дэкрэт») вялікага князя літоўскага ад 1 жніўня 1486 г. паведамляе пра востры канфлікт паміж мяшчанамі і баярамі — асноўнымі саслоўнымі групамі сярод жыхароў Полацка. Ён узнік на сацыяльнай і эканамічнай глебе. Мяшчане, як вынікае з тэксту граматы, прасілі, каб баяры разам з мяшчанамі неслі цяжар падаткаў і павіннасцей, якія прадпісвала вярхоўная ўлада, што патрабавала «помочи места Полоцкого для потребизны земское»[19]. Вялікі князь літоўскі абумовіў аказанне такой дапамогі баярамі не тады, калі яна будзе прадпісана мяшчанам, а калі яе прызначыць баярам сам вялікі князь («колі мы их пожадаем»). Тым самым было падкрэслена прывілеяванае становішча баярства. У гэтай жа грамаце была адхілена прэтэнзія мяшчан на права прымаць рашэнні па дзяржаўных і гарадскіх справах незалежна ад баяр і катэгарычна прадпісана: «...приказуем, абы бояре и мещане и дворане городские и все поспольство в згоде межи собою были, а дела бы наши господарские вси згодою посполу справляли по давному... А без бояр мещаном и дворанам городским и черни соймов не надобе чинить...»[20] Толькі ў пытанні аб праве на прыватную юрысдыкцыю феадалаў у горадзе грамата вялікага князя цалкам задавальняла інтарэсы мяшчан, бо прадпісвала «владыце и бояром закладней за собой в месте Полоцком не надобе мети, нижли только одного подворника по своим подворьем в городе...»[21] Гэта ўступка мяшчанам у такой адчувальнай для баяр сферы, якая непасрэдна закранала іх інтарэсы, рэзка абвастрыла становішча ў горадзе. У пошуках выхаду вярхоўная ўлада прыняла рашэнне, якое павінна было, як сказана ва ўстаўной грамаце 7 кастрычніка 1498 г.,

[19] Полоцкие грамоты. Вып. 2. С. 110.
[20] Там жа. С. 111; ЦГАДА, ф. 389, кн. записей № 4, л. 140.
[21] Полоцкие грамоты. Вып. 2. С. 112.

Полацк «в мере лепшой поставити, штобы люди наши, там живучи через вряд добрый, а справедливый были размножены...»[22] Рэалізацыю гэтага намеру вярхоўная ўлада бачыла ў прадстаўленні Полацку магдэбургскага права, згодна з якім мяшчанскі стан прызнаваўся самастойнай сілай у горадзе і карыстаўся самакіраваннем. Як далёка пайшла вярхоўная ўлада ў спрыянні мяшчанскаму насельніцтву Полацка, бачна з такіх пунктаў устаўной граматы, як рад устанаўленняў, што павінны былі забяспечыць бесперашкоднае развіццё купецкай дзейнасці, гандлёвай актыўнасці гараджан. Яшчэ больш катэгарычна сцвярджалася саслоўна-юрыдычнае адзінства гандлёва-рамеснага насельніцтва горада, паколькі абвяшчалася, што ў далейшым «ни один теж боярин своего человека, в месте себе подданого держати не маеть, але вси мають быти к тому праву верху писаному послушни; тое ж разумемы о наместнику и о владыце, и о всех попех руских и о чернцох»[23]. Ліквідацыя юрыдычнай цераспалосіцы, якая разрывала гандлёва-рамеснае насельніцтва на прыватнаўласніцкія групы — так званыя юрыдыкі, было важным рашэннем на карысць мяшчан, бо адцясняла ад гарадскіх спраў феадальныя слаі гарадскога насельніцтва.

Але не прайшло і года, як канфлікт паміж баярамі і мяшчанамі, выкліканы ўстаўной граматай 1498 г., набыў вострае сацыяльнае гучанне. Аказалася, што новую прававую сітуацыю неўзабаве выкарысталі найбольш абяздоленыя і бяспраўныя сярод палачан. Як паведамлялі ў скарзе вялікаму князю баяры, пасля ўстанаўлення адзінай для гараджан юрысдыкцыі «холопья их невольная и робы и иные люди в пенезях будучи втекают до войта и до мешчан, и они их им не выдають, а хотять их правом немецким судити»[24]. І тут у поўнай меры выступае антыбаярская пазіцыя мяшчан. Але вярхоўная ўлада ў сваёй грамаце ад 12 лістапада 1499 г. пайшла насустрач баярам. Яна, па-першае, прадпісвала, каб мяшчане прымалі рашэнні, якія датычыліся «дела местского», сумесна з баярамі, што абмяжоўвала прынцып самакіравання мяшчан, па-другое, вялікі князь вярнуў баярам права прыватнай юрысдыкцыі: «А которыи люди боярскии живуть в городе и на местце на их землях отчизных, а любо на куплях, — сказана ў грамаце, — будут ли ся котории торгом обыходити, и они мають з мещаны серебщину и иныи поплатки нам платить. А войт и мещаны не мають их судити и в право немецкое писать»[25]. Тым самым частка гандлёва-рамеснага насельніцтва Полацка вярталася да становішча прыватных падданых.

Паварот на карысць мяшчан быў зноў зроблены ў грамаце,

[22] Полоцкие грамоты. Вып. 2. С. 153.
[23] Там жа. С. 156.
[24] Там жа. С. 164.
[25] Там жа. С. 162.

датаванай снежнем 1500 г., у якой прадпісваецца, што «-...которыи бы в том месте были люди владычины и игуменины и боярскии и поповскии тыи вси мают быти послушни маитборского права... а которыи будут ремесники в месте мешкати... тыи вси повинни быти маитборского права» [26].

Сам факт пастаяннага вяртання да вызначэння меж гарадской юрысдыкцыі сведчыць, што вакол гэтай сферы грамадскага жыцця феадальнага горада ў Полацку на мяжы XV—XVI стст. ішла вострая барацьба паміж мяшчанамі і феадаламі, прычым вялікі князь літоўскі вымушаны быў прымаць рашэнні на шкоду інтарэсам феадалаў. Больш таго, калі мяшчане падалі скаргу на полацкага намесніка, які самавольна ўстанавіў сваю юрысдыкцыю над многімі мяшчанамі, вялікі князь у грамаце ад 30 снежня 1502 г. катэгарычна забараніў намесніку самому судзіць мяшчан, браць з іх падаткі і пры гэтым зноў прадпісваў: «А которыи люди в месте нашом Полоцком мешкають и торгом ся обыходять, владычины и князскии и панскии и боярскии и игуменьины, чыи колвек будь, тыи вси мають послушни быти их права маитборского, а которыи бы не хотели лентвойта и бурмистров и радец послушни быти, тыи казали есмо... моцно имати и давати в руки лентвойту и бурмистром и радцем, а пак ли бы которыи люди через то хотели поддатися в гродский присуд, або за владыку и за бояр и за игуменью и за иных которых задаватися, не хотечы в их праве маитборском быти, и мы велели таковых имати и в нятстве держати до тых часов, поки мы их о том навчым, што мають с таковыми чынити...» [27] Аднак асновы канфлікту паміж мяшчанамі і феадаламі гэта рашэнне вялікага князя не ліквідавала. Вярхоўная ўлада, мяркуючы па сведчанню граматы ад 27 жніўня 1509 г., паміж 1502 і 1509 гг. пазбавіла Полацк часткі наданых яму раней правоў і прывілеяў. Пра гэта глуха сказана ў паведамленні, што папярэднік вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Аляксандр «многии члонки (данные) в том привильи своем (маецца на ўвазе ўстаўная грамата 7 кастрычніка 1498 г.— *З. К.*) им отменил» [28]. У выніку гэтага, адзначана ў грамаце ад 27 жніўня 1509 г., сярод мяшчан Полацка «увунтпени были, для которого же мещане места Полоцкого промежду себе росторжку и роздел вчинили: некоторые з них с права немецкого выложившися и под присуд городский далися, а многии и проч розышлися» [29].

Аднаўляючы правы, атрыманыя горадам паводле ўстаўной граматы 1498 г., Жыгімонт I даў у 1509 г. Полацку і больш шырокія прывілеі, сярод якіх — забарона князям і баярам мець у горадзе больш аднаго падворнага і агародніка на сваіх дварах. Мяшчанам-землеўладальнікам грамата гарантавала іх

---

[26] Полоцкие грамоты. Вып. 2. С. 175—176.
[27] Там жа. С. 198.
[28] Там жа. Вып. 3. С. 56.
[29] Там жа.

уласнасць і статут уладальнікаў зямель, якія не падлягалі перадачы іншым у якасці даравізны. Умацавала пазіцыі мяшчан і забарона намесніку ставіць сваіх слуг на пастой у дамах мяшчан. Вялікі князь перадаў у бюджэт горада валавы збор і збор ад васкабойні, які раней належала перадаваць у казну. Гораду прадпісвалася пабудаваць ратушу, млын, плітніцу «на будоване ратуша і места Полоцкого», а таксама чатыры гасціныя дамы [30].

У гэтай грамаце зноў рашуча сцвярджаўся прынцып падпарадкавання гараджан, згодна з якім улада гарадскога органа самакіравання — рады распаўсюджвалася на «вси мищане и чорныя люди и всякии закладни», а таксама на рамеснікаў, дзе б яны ні жылі: у замку ці каля яго, «за Двиною и на всяких местцах», на землях феадалаў, духавенства ў горадзе. Аднак і Жыгімонт I не ўстаяў перад націскам феадалаў і праз два гады ў сваёй устаўной грамаце ад 23 ліпеня 1511 г. перакрэсліў свой прывілей, дазволіўшы баярам на купленых у горадзе ўчастках «слуг и люди за собою садити и их судити» [31]. Горад зноў апынуўся пад уладай феадалаў. Як відаць са скаргі бурмістраў і радцаў вялікаму князю літоўскаму ў маі 1526 г., баяры, духавенства «за собою на их местских землях посажали» пад сваёй юрысдыкцыяй шмат людзей [32]. У 1527 г. мяшчане падалі скаргу на ваяводу, які «многие ремесные люди мещане... моцно за себе забрал и на себе им кажет робити без жадного права» [33].

Зразумела, што ў горадзе панавала атмасфера шырокай незадаволенасці самавольствам феадалаў: яна рабіла свой уплыў на настрой думак гараджан. Пэўнае адлюстраванне апазіцыя мяшчан знайшла ў поспехах рэфармацыйнага руху ў горадзе.

На працягу першай палавіны XVI ст. яскрава вызначаліся вострыя рэлігійныя супярэчнасці, якія ўзнікалі па меры складвання веравызнальнай структуры ў гарадскім асяроддзі. Пра каталіцкае насельніцтва ў Полацку паведамляе апавяданне «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», згодна з якім татары з войска Івана Грознага, які штурмаваў Полацк, уварваўшыся ў горад, учынілі расправу над езуітамі, дамініканцамі, бернардзінцамі і яўрэямі [34]. Па сведчанню Аляксандра-Неўскага летапісу, цар, які ў 1563 г. уступіў у горад, сваімі войскамі «церкви от иконоборец лютереи очистил...» [35] Сярод прыхільнікаў лютэранства, паведамляў гэты летапіс, былі «не токмо мирстии люди, но и игумены и черньцы и диаконы греческого закона» [36]. Пра тое, які вялікі быў уплыў лютэранства, можна меркаваць па такіх сло-

---

[30] Полоцкие грамоты. Вып. 3. С. 59—61.
[31] Там жа. С. 89.
[32] ЦГАДА, ф. 389, кн. 14, л. 41.
[33] Там жа, л. 58.
[34] ПСРЛ. Т. 32. С. 110.
[35] Там жа. Т. 29. С. 319.
[36] Там жа. С. 302.

вах цара, якія прыпісвае яму Лебедзеўскі летапіс: цар, з'явіўшыся ў горад і наведаўшы сабор св. Сафіі, нібыта з радасцю адзначыў, што «не в конец, безбожнии люторе церкви святые осквернили и разорили и святым иконам поругалися»[37]. На актыўныя дзеянні прыхільнікаў рэфармацыі ў Полацку ўказвае і такое сведчанне летапісу: войска Івана Грознага сустрэта ў Полацку духавенствам, якое засталося верным праваслаўю, «благодарственно испущающе гласы избавльшееся и освободившееся от люторского насилования, что те люторы отпали святые православные веры, церкви разорили, иконам не поклонялися»[38].

У такіх складаных абставінах, поўных вострых сацыяльных канфліктаў, фарміраваліся погляды Скарыны на жыццё, свет і лёс чалавецтва.

---

[37] ПСРЛ. Т. 29. С. 313.
[38] Там жа.



*І. У. ЧАКВІН (Мінск)*

# ДА ПЫТАННЯ АБ ЭТНІЧНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ У ЧАСЫ СКАРЫНЫ

Час, калі жыў і твварыў беларускі асветнік і першадрукар Ф. Скарына (канец XV — першая палавіна XVI ст.), мае вялікую цікавасць для даследчыкаў апошніх этапаў этнагенезу і пачатковага перыяду этнічнай гісторыі беларускага народа. Да гэтага перыяду адносіцца актывізацыя працэсаў фармаўтварэння феадальнай этнасацыяльнай супольнасці беларусаў — беларускай народнасці, якая, як і амаль усе іншыя славянскія этнасы таго часу, характарызавалася пэўнымі асаблівасцямі асноўных этнічных дэтэрмінатываў (прыкмет) — мовы, культуры і самасвядомасці.

Праблемы станаўлення і развіцця мовы і культуры беларусаў здаўна прыцягваюць увагу даследчыкаў і на сучасны момант ужо атрымалі ўвогуле фундаментальную распрацоўку. У той жа час працэсы і механізмы складвання этнічнай самасвядомасці народа, формы яе праяўлення, сацыяльныя арэалы распаўсюджання і геаграфічнай варыятыўнасці, урэшце, гістарычная пераемнасць вывучаны, на жаль, недастаткова [1]. Гістарыяграфія данай праблемы доўгі час грунтавалася на спрэчным тэзісе аб адносна познім з'яўленні ў беларусаў этнічнай самасвядомасці, асноўнай формай праяўлення якой да перыяду складвання нацыі, на думку некаторых аўтараў, было ў асноўным этнацэнтрычнае паняцце «тутэйшыя», «тубыльцы» [2]. Аднак вызначэнні тыпу «тутэйшыя», «тубыльцы» [3], «свае», «мясцовыя» і г. д. былі

---

[1] Пэўны ўклад у вывучэнне гістарычных форм этнічнай самасвядомасці беларусаў унеслі дарэвалюцыйныя і савецкія даследчыкі І. Первольф, М. Доўнар-Запольскі, І. Сербаў, Л. Абецэдарскі, А. Харашкевіч, М. Улашчык, А. Мальдзіс, М. Грынблат і інш. Гл.: Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985. С. 18—42, 70—91.

[2] Гл.: Białoruś a Białolechia // Przewodnik Naukowy i Literacki. Lwów, 1895. S. 281—287; Studnicki W. Sprawa Polska. Poznań, 1910. S. 491—495.

[3] Напрыклад: «... тубыльцом... вси их права и привилея костельныя так латинского закону яко кгреческого, теже и светские даны взычены»; «мы тутэйшыя, страна наша ни руска, ни польска, але забраны край». Гл.: Временник имп. О-ва любителей древностей российских. М., 1854. С. 1; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Спб., 1902. Т. 3. С. 98.

вядомы не толькі ў беларускага, але і ў рускага, украінскага, польскага і іншага, галоўным чынам сялянскага, насельніцтва цэнтральных раёнаў рассялення адпаведных народаў (як у эпоху феадалізму, так нават і ў XIX — пачатку XX ст.), што адлюстроўвала працяглае існаванне перадэтнічных, мясцовых форм самасвядомасці [4].

Адносна позняе з'яўленне назвы «беларусы» і яе распаўсюджанне на ўвесь этнічны масіў беларусаў яшчэ не сведчыць аб ранейшай адсутнасці этнічнай самасвядомасці ўвогуле. У этнічнай гісторыі розных народаў свету шырока вядомы выпадкі змянення форм іх этнічнай самасвядомасці на працягу пэўнага часу. Напрыклад, назва «французы» стала распаўсюджвацца на ўсе этнаграфічныя групы Францыі (гасконцаў, пікардзійцаў, правансальцаў, бургундцаў і інш.) толькі пасля буржуазнай рэвалюцыі 1789 г. Агульная назва «дойч» атрымала распаўсюджанне сярод розных частак нямецкага этнасу (саксонцаў, баварцаў, гальштынцаў, гесенцаў, вестфальцаў і інш.) у XIX—XX стст. У гэты час палякамі сталі называцца тыя групы польскага народа, якія раней вызначаліся як мазаўшане, куявы, шлёнзякі, гуралі і нават шляхта. Адносна позна атрымала стабільнае ўжыванне вядомая яшчэ з XIII—XIV стст. назва «ўкраінцы» (часцей яны называліся маларосамі, русінамі ці тэрытарыяльна-зямляцкімі вызначэннямі — валынцамі, лемкамі, бойкамі і інш.) [5]. Змяненне назваў сведчыла аб пэўнай пераарыентацыі і ўзмацненні працэсаў кансалідацыі народаў, аднак не азначала адсутнасці ў іх этнічнай самасвядомасці ў папярэднія часы.

На феномен асэнсавання асобнымі этнічнымі супольнасцямі ўласнага быцця звярталі ўвагу К. Маркс і Ф. Энгельс, якія ўказвалі на існаванне як «племянной», так і «нацыянальнай» самасвядомасці [6]. Паняцце «нацыянальная самасвядомасць» неаднаразова выкарыстоўваў пры даследаванні нацыянальнага пытання У. І. Ленін [7]. Як адзначаецца ў сучасных тэарэтычных распрацоўках савецкіх грамадазнаўцаў, этнічная (нацыянальная, племянная і інш.) самасвядомасць з'ўляецца адным з галоўных вынікаў аб'яднальных этнічных працэсаў, асноўным паказчыкам узроўню кансалідаванасці розных тэрытарыяль-

---

[4] Попов А. И. Названия народов СССР. Л., 1973; Чеснов Я. В. Ранние формы этнонимов и этническое самосознание // Этнография имен. М., 1971; Rospond S. Struktury pierwotnych etnonimów słowańskich // Rocznik sławistyczny. 1966. N 1.

[5] Брук С. И. Население мира: Этнодемографический справочник. М., 1981. С. 286, 321, 338; Попов А. И. Названия народов СССР. С. 47, 57; У истоков формирования наций в Центральной и Юго-Восточной Европе: Общественно-культурное развитие и генезис национального самосознания. М., 1984. С. 74—88.

[6] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 3. С. 30; Т. 7. С. 602; Т. 8. С. 54; Т. 9. С. 8; Т. 41. С. 129, 130.

[7] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 27. С. 419; Т. 26. С. 107—108; Т. 41. С. 167—168.

ных, этнаграфічных і саслоўна-класавых груп народа [8]. Знешняй формай праяўлення этнічнай самасвядомасці выступае этнонім (назва), што паступова распаўсюджваецца з пэўнага цэнтра на ўвесь дэмаграфічны масіў паралельна з узрастаннем інфармацыйных сувязей паміж рознымі часткамі насельніцтва ў выніку працэсаў кансалідацыі і фармаўтварэння этнасу.

Сярод розных этнонімаў, якія існавалі на Беларусі ў часы Ф. Скарыны, найбольш распаўсюджанымі былі формы з коранем *рус-* (*русічы, руськія, рускыя, рускія, русацы, русіны* і г. д.), што былі ўзяты ў спадчыну беларускім насельніцтвам ад папярэдніх мясцовых груп, якія трапілі ў IX—XI стст. пад уплыў сацыяльнай і рэлігійнай палітыкі «Рускай зямлі» на чале з кіеўскімі князямі [9].

Этнічная самасвядомасць грунтуецца на бінарнай апазіцыі «МЫ—ЯНЫ», г. зн. на ўсведамленні народам сябе як асобнай этнічнай адзінкі, якая адрозніваецца ад іншых народаў пэўнымі рысамі, прыкметамі, гістарычным лёсам, тэрыторыяй існавання [10]. Сюды ўключаецца таксама ўяўленне аб адзінстве паходжання ўсіх, з каго складаецца асноўны масіў народа. У эпоху феадалізму летапісныя канцэпцыі адзінства паходжання розных народаў, плямён і нават асобных тэрытарыяльных, этнаграфічных, саслоўных груп грунтаваліся на міфалагічных уяўленнях аб іх паходжанні ад адзіных продкаў: радзімічаў — ад Радзіма, вяцічаў — ад Вятка, палякаў — ад Ляха, русічаў (рускіх, украінцаў, беларусаў) — ад Руса, літоўцаў — ад рымскіх перасяленцаў на чале з Палямонам, шляхты — ад сарматаў і г. д.[11]

Акрамя агульнага этноніма і ўяўленняў аб адзіным паходжанні, якія дазвалялі сярэдневяковым аўтарам лічыць, што «люд літоўскі, рускі (украінскі.— *І. Ч.*) і маскоўскі — тая ж Русь, тое ж племя» [12], рускі, украінскі і беларускі народы радніліся і іншымі элементамі самасвядомасці (напрыклад, канфесійнымі, этнагенетычнай спадчынай), а таксама мовай і культурай. Аднак розная палітычная гісторыя XIV—XVI стст. і працэсы ўласнага этнаўтварэння ў рускіх, украінцаў і беларусаў

[8] Поршнев Б. Ф. Социальная психология и история. М., 1968. С. 80—85; Андреева Г. М. Социальная психология. М., 1980. С. 225—226; Козлов В. И. Проблема этнического самосознания и ее место в теории этноса // Сов. этнография. 1974. № 2. С. 88—91; Спиркин А. Г. Сознание и самосознание. М., 1972. С. 141—142; Никонов В. А. Этнонимия // Этнонимы. М., 1970. С. 4—7, 25—26; Бромлей Ю. В. Очерки теории этноса. М., 1983. С. 173—199.

[9] Первольф И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи. Варшава, 1893. Т. 3, ч. 2. С. 2—3, 166—169; Этнаграфія беларусаў. С. 48—52, 73—80.

[10] Шелепов Г. В. Общность происхождения — признак этнической общности // Сов. этнография. 1967. № 2. С. 70—72.

[11] Рогов А. И., Флоря Б. Н. Формирование самосознания древнерусской народности // Развитие этнического самосознания у славянских народов в эпоху раннего средневековья. М., 1982. С. 109—111; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 130—146.

[12] Czubek J. Pisma polityczne z czasów pierwszego bezkrólewia. Kraków, 1906. S. 395.

абумовілі іх пэўную дыферэнцыяцыю на ўзроўні самасвядомасці. Прадстаўнікі кожнага з этнасаў лічылі рускім толькі свой народ, а суседзяў вызначалі іншымі этнанімічнымі назвамі. Напрыклад, рускія і ўкраінцы называлі беларусаў «ліцвінамі», а беларусы іх — наўгародцамі, пскавічамі, цверычамі, маскалямі, маскавітамі, валынянамі, падалянамі, чаркасамі, казакамі, хахламі і вельмі рэдка — старажытным этнонімам «рускія»[13].

Асэнсаванне блізкай роднасці і этнагенетычнага адзінства паходжання трох братніх народаў было ўласціва галоўным чынам асобным дзеячам усходнеславянскай і ўвогуле славянскай культуры XV—XVI стст., такім, як Ф. Скарына, С. Будны, І. Фёдараў, П. Мсціславец, В. Цяпінскі, Ф. Беняшоўскі, М. Сматрыцкі і інш. У той жа час яны добра ўяўлялі і ўласнае этнічнае паходжанне, што характарызавала высокую ступень праяўлення іх этнічнай самасвядомасці.

Неабходна падкрэсліць, што розныя сацыяльныя групы феадальных грамадстваў асэнсоўвалі сваю этнічнасць не аднолькава. Этнічная самасвядомасць увогуле найбольш відавочна, канцэнтравана адлюстроўваецца ў працэсе кантактаў паміж прадстаўнікамі розных этнасаў — на этнічным пагранiччы, у іншаэтнічным асяроддзі, у гарадах з поліэтнічным насельніцтвам — там, дзе ўзнікае магчымасць міжэтнічнага параўнання. У гамагенных, аднародных зонах рассялення пэўных груп народаў іх этнічная самасвядомасць зніжана па сваёй неактуальнасці і часта замяняецца іншымі, напрыклад мясцовымі, формамі самасвядомасці. Так, у гарадскога насельніцтва Беларусі XV—XVI стст. этнанімічная самасвядомасць часта праяўлялася на ўзроўні зямляцкіх вызначэнняў калі замест этноніма ўжываліся зямляцкія урбаністычныя этніконы: палачане, віцябляне, мсціслаўцы, піняне (пінчукі), случане, берасцяне і г. д.[14]

Умацаванню зямляцкіх форм самасвядомасці насельніцтва садзейнічала пэўная палітычная, эканамічная і юрыдычная аўтаномнасць асобных зямель (Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Кіеўскай, Валынскай, Жамойцкай, Чарнігава-Северскай) у складзе Вялікага княства Літоўскага[15]. Зямляцкія супольнасці феадальнага часу ўяўлялі сабой складаны тып этнасацыяльнай арганізацыі насельніцтва не толькі ва ўсходнеславянскіх,

---

[13] Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 135—138; Литовская метрика: Книга записей. Т. 1 // Русская историческая библиотека, 1910. Т. XXVII. С. 238, 455, 542, 546; ПСРЛ: Летописи белорусско-литовские. М., 1980. Т. 35. С. 110, 122, 126.

[14] Литовская метрика: Книга записей. Т. 1. С. 128, 129, 348, 728, 1271; Акты, относящиеся к истории Западной России. Спб., 1846. Т. 1. С. 186, 310, 322, 582.

[15] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. С. 10—62.

але і ва ўсіх еўрапейскіх народаў. Не будзе памылкай сказаць, што беларуская народнасць склалася іменна з сукупнасці зямляцкіх аб'яднанняў, кожнае з якіх яшчэ са старажытнарускіх часоў з'яўлялася асобнай патэстарна-субэтнічнай супольнасцю са сваёй поўнай сацыяльнай структурай, са сваімі асаблівасцямі мовы, культуры і самасвядомасці. Таму не выпадкова, што ў XV—XVI стст. зямляцкія этніконы (як формы мясцовай самасвядомасці) былі даволі ўстойлівымі і рэпрэзентатыўнымі як у Вялікім княстве Літоўскім, так і за яго межамі [16].

У дакументах таго часу так званыя экзаэтнонімы (назвы з боку суседзяў) — ляхі, немцы, чэхі, славакі, влохі (раманцы), угры (венгры), літва, ліфляны (латышы) — часта ўжываюцца як роўныя паняцці побач з зямляцкімі этніконамі палачане, віцябляне, смаляне, кіяне, валынцы і інш. [17] Напрыклад: «... а послу из нашее земли из Литовскоѣ, и гостю — или Лях, или литвин, или русин, или полочанин, или витблянин, или смолнянин...» [18]

Тыповым зямляцкім аб'яднаннем быў у XV—XVI стст. родны край Ф. Скарыны — Полацкая зямля. Цесныя зямляцкія сувязі насельніцтва Полаччыны этнагенетычна адносіліся яшчэ да старажытнага перыяду існавання летапісных палачан, тэрытарыяльна-зямляцкі ўзровень арганізацыі якіх узмацняўся палітычным фактарам існавання ў IX—XIII стст. самастойнага княства-зямлі, а пазней (да сярэдзіны XVI ст.) — захаваннем аўтаноміі ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

На агульныя зямляцкія сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і адміністрацыйна-юрыдычныя сувязі гарадскога і сельскага насельніцтва Полацкай зямлі ў XV—XVI стст. звярталі ўвагу яшчэ некаторыя сучаснікі [19]. Многія дакументы па справах гэтага краю складаліся ад імя ўсёй зямлі: «каралю...били челом... бояре Полоцкие и мѣщане и вся земля Полоцкая» [20]. Грамата на атрыманне Полацкам магдэбургскага права датычылася не толькі самога горада, але і яго прадмесцяў і сёл [21]. Належнасць да гарадской абшчыны падкрэслівалася ў шматлікіх дакумен-

---

[16] Некалькі меншай рэпрэзентатыўнасцю і арэаламі існавання характарызаваліся павятовыя і валасныя урбанізаваныя этніконы тыпу мазыране, рэчычане, аршанцы, ашмянцы, слонімцы і інш., якія таксама выступалі ў якасці лакальных форм этнанімічнай самасвядомасці насельніцтва Беларусі. На Украіне ў XV—XVI стст. выхадцаў з Беларусі часта называлі мянушкай, якая адлюстроўвала іх лакальнае паходжанне: мазыранін, пінчук, случанін, туравец, бабруйка, іншы ж раз — больш шырока — ліцвін. (Исторические корни дружбы и единения украинского и белорусского народов. Киев, 1978. С. 40.)

[17] Акты Литовско-Русского государства / Изд. М. В. Довнар-Запольским. М., 1897. Вып. 1. С. 25—26; ПСРЛ. Т. 35. С. 44, 45, 49, 58, 62, 93, 122, 124, 150, 181 і інш.

[18] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1. С. 51.

[19] Stryjkowski M. Kronika Polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 1. S. 240.

[20] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 2. С. 86—87.

[21] Акты Литовско-Русского государства. С. 1.

тах у форме лакальнай этнанімічнай самасвядомасці: «Мы, полочаны...», «нам, полочаном...»[22] Мясцовы этнікон «палачане» ахопліваў як праваслаўнае, так і каталіцкае насельніцтва горада (з гэтых дзвюх канфесій выбіраліся на адказныя гарадскія пасады радцы, лаўнікі, войты, бурмістры), а таксама жыхароў бліжэйшага наваколля Полацка[23].

Зямляцкая самасвядомасць была ўласціва і Ф. Скарыну, які ўвесь час падкрэсліваў сваё паходжанне з Полацка (дакладней — з «Полоцька» — ад дыялектнага «Полоцік»). Яшчэ ў пачатку свайго самастойнага жыццёвага шляху, у 1504 г., ён быў запісаны ў Кракаўскім універсітэце як «Францыск Лукіч з Полацка»[24].

У выданнях 1517—1522 гг. беларускі першадрукар таксама пастаянна называе сябе «сыном с Полоцька града славного» (Кніга «Эсфір». Прага, 1519), «сыном из славного града Полоцька» («Акафіст св. Міколу». Вільня, 1522) і інш.[25], што добра ўзгадняецца з іншымі выпадкамі праяўлення яго зямляцкай самасвядомасці, выказанымі, напрыклад, у выразе: «...люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають»[26].

Самасвядомасць Ф. Скарыны ўключала ў сябе і дзяржаўна-палітычны аспект. Беларускі першадрукар асэнсоўваў сябе і як падданы Вялікага княства Літоўскага, аб чым сведчыць запіс у рэктарскіх актах 1506 г., дзе Скарына вызначаны як «літванус» (ліцвін)[27]. Усходнеславянскае і іменна беларускае (а не літоўскае) этнічнае паходжанне роду Скарынаў не выклікае сумнення. Пра гэта сведчаць імёны яго бацькі і родзічаў, славянская этымалогія самога слова «Скарына» і пераважна ўсходнеславянскі арэал яго існавання (антрапонімы Скарыны, Скарынічы ў Полацку, Слуцку і Вільні; тапонімы Скарынічы, Скарынкі, Скарыновічы, Скарынова ў Мінску, Слонімскім, Пінскім, Вілейскім і Бельскім паветах; гідронім Скарына ў Пінскім павеце і г. д.). «Аз... нароженый въ руском языку»,— пісаў пра

---

[22] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1978. Вып. 2. С. 7, 10, 12, 92, 144—146.

[23] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1. С. 78, 92.

[24] У арыгінале «Franciskus Luce de Plocko» — з Плоцка (тут відавочная памылка пісара). У дакументах жа 1506 г. зроблен дакладны запіс: «Fran. de Poloczko, Litphanus» (Францыск Скарына. Сборнік дакументаў і матэрыялаў / Уклад. В. І. Дарашкевіч. Мн., 1988. С. 58—59.)

[25] Вызначэнне, якое выкарыстоўвае Ф. Скарына, адпавядала еўрапейскай традыцыі таго часу (параўн.: Мацей з Мяхова, Павел з Кросна, Андрэй са Свіры, Ян Аміцын з Кракава і інш.). А этнікон «палачанін» перш за ўсё адносіўся да мешчаніна (гараджаніна), члена гарадской магдэбургскай абшчыны Полацка, жыхара Полацкай зямлі.

[26] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 59.

[27] Muczkowski J. Statuta nec non Liber Promotionum philosophorum ordinis in Universitatae studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Cracoviae, 1849. P. 144.

сябе Ф. Скарына, называючы гэты «язык» сваім «прироженым», родным [28].

На думку Г. Галенчанкі і В. Дарашкевіча, назву «літванус» да імён беларускіх студэнтаў часам дадавалі самі пісары заходнееўрапейскіх універсітэтаў [29]. Аднак вызначэнне «ліцвін» было характэрным і для саманазвы насельніцтва Беларусі [30]. Ліцвінамі ў XV—XVI стст. і пазней лічылі сябе прадстаўнікі вышэйшых феадальных слаёў Вялікага княства Літоўскага (часам незалежна ад веравызнання і этнічнага паходжання), чым падкрэслівалі агульнасць сваёй дзяржаўна-сацыяльнай самасвядомасці [31]. У якасці саманазвы (мікраэтноніма, этнікона) паняцце «ліцвіны» і да цяперашняга часу існуе ў некаторых лакальных групах славянізаванага літоўскага і беларускага насельніцтва заходніх і паўднёвых раёнаў Беларусі і Усходняй Літвы» [32].

У адносінах да Ф. Скарыны, як і ўвогуле да большасці насельніцтва Беларусі, назва «ліцвіны» выступала ў іншым семантычным кодзе — у якасці палітоніма (дзяржаўна-палітычнага вызначэння), які распаўсюджваўся амаль што на ўсіх падданых Вялікага княства літоўскага (аналагічна: маскавіты — рускія; прусакі, аўстрыйцы — немцы; швейцарцы — немцы, французы, італьянцы; югаславы — сербы, харваты, славенцы; параўн.: Іван Фёдараў — «Москвитин»).

Абагульняльнай назвай «ліцвіны» вызначалі беларусаў і літоўцаў (а таксама прадстаўнікоў некаторых этнасаў з зямель

---

[28] РИБ. Т. XX. № 4; Т. XXVII. № 16; Архив Юго-Западной России, издаваемый временною комиссиею для разбора древних актов. К., 1859. Т. 6, ч. 1. С. 56. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888; Słownik Geograficzny królewstwa Polskiego i innych krajów słowańskich. Warszawa, 1889. T. X. S. 704—705.

[29] Голенченко Г. Я. Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете XV—XVI вв. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 230—232; Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979. С. 36.

[30] Славянізаваная этнанімічная форма «ліцвіны» адрознівалася ад этноніма-саманазвы ўласна літоўцаў (Lietuvis, Lietuviai, aukstaiciai, žemaičiai), аднак у часы актыўнага ўжывання ў этнаграфічнай Літве славянскіх (старажытнабеларускай, польскай, рускай) моў літоўцы таксама часта вызначаліся як ліцвіны. (Būga K. Rinktiniai raštai. Vilnius, 1961. T. 3. P. 9—23; Кочубинский А. А. Территория доисторической Литвы // ЖМНП, 1897. Ч. CCCIX. С. 62; Памятная книжка Ковенской губернии. Ковна, 1890. С. 8.)

[31] Suchocki J. Formowanie się i skład narodu politycznego w Wielkim księstwie Litewskim póznego średniowiecza // Zapiski Historyczne. 1893 T. XLVIII, z. 1—2. S. 31—78. Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Мн., 1982. С. 25, 88—89, 92, 93, 95.

[32] Гаучас П., Видугирис А. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья с конца XVIII по начало XX в. // Научн. тр. высших учеб. заведений Литовской ССР. География. Население и поселения. Вильнюс, 1983. Т. 19. С. 26—73; Ossowski L. Zagadnienia językowe Polesia // Komisja Naukowych Badań Ziem Wschodnich. Warszawa, 1936; Чаквін І. У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4. С. 74—80.

Вялікага княства) суседзі — рускія, украінцы і палякі [33]. Этнічная недыферэнцыраванасць палітоніма ліцвіны абумовіла ўзнікненне ў пэўных выпадках складаных этнанімічных вызначэнняў: «ліцвіны рускага роду», «ліцвін рускі па паходжанні», «...родам ён ліцвін-латыш...», «Венцлав Вяжбіцкі... па нацыянальнасці ліцвін, родам паляк» («nationale Litbuanus, gente Polonus») [34]. «рускія князі літоўскага роду» [35].

Насельніцтва Беларусі добра ўсведамляла сваю дзяржаўную прыналежнасць, і ў іншаэтнічным асяроддзі прадстаўнікі беларускага этнасу нярэдка вызначалі сябе як «ліцвіны», «з Літвы», «літоўскія падданыя». Напрыклад, у гістарычных дакументах Маскоўскай дзяржавы другой палавіны XVI—XVII ст. даволі часта сустракаюцца запісы аб тым, што жыхары часткі цэнтральных і ўсходніх беларускіх зямель «на Москве... при роспытах... сказались... литвинами», «литвинами-белорусцами», «родом из Литвы» і г. д.[36] Так маглі вызначаць сябе ў Кракаўскім універсітэце і студэнты з Вялікага княства Літоўскага.

Па падліках С. Александровіча, у дакументах гэтага універсітэта канца XV—пачатку XVI ст. 46 студэнтаў з Беларусі і Літвы (ад агульнай колькасці каля 150) вызначаны словам «літванус», некалькі — «рутэнус», а астатнія—па месцы паходжання, з Вільні, Коўна, Трок, Полацка, Пінска, Брэста, Клецка, Ліды, Мінска і г. д.[37] Па месцы паходжання быў запісаны ў 1504 г. і студэнт Ф. Скарына, але ўжо ў 1506 г., пасля атрымання ступені бакалаўра, ён адзначаны як «з Полацку ліцвін», што дапускае верагоднасць саманазвы.

---

[33] Косич М. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни // Живая старина. Спб., 1901. Т. II. С. 113—128; Витковский В. Топонимы и этнонимы в словаре украинского языка П. Белецкого-Носенко // Восточнославянская ономастика. М., 1979. С. 185—186; Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa; Kraków, 1914. S. 341—392; Biernikowicz A. Gawędy Litwina: Trzy obrazki. Wilno, 1856; Dmochowski W. Litwinka koło Nowogródka // Tygodnik ilustrowany. 1873. N. 2. S. 116.

[34] Сборник документов, объясняющих историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше / Предисл. М. Кояловича. Спб., 1865. С. III—XXX; Русско-белорусские связи: Сб. документов (1560—1667 гг.). Мн., 1963. С. III; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. S. 41, 42, 46.

[35] Так называлі служылых князёў Адаеўскіх, Белеўскіх, Бельскіх, Глінскіх, Варатынскіх, Масальскіх, Мсціслаўскіх і інш., якія ў XV—XVI стст. пераходзілі на службу ў Маскоўскую дзяржаву з Вялікага княства Літоўскага. Цікава адзначыць, што адны з іх былі з роду Гедымінавічаў, другія — Рурыкавічаў. (Зимин А. А. Служилые князья в Русском государстве конца XV—первой трети XVI в. // Дворянство и крепостной строй России XVI—XVIII вв. М., 1975. С. 28—56; Бычкова М. Е. Состав класса феодалов России в XVI в.: Историко-генеалогическое исследование. М., 1986. С. 29—74.)

[36] Акты Московского государства, изданные имп. Академиею наук: Разрядный приказ. 1571—1634 гг. Спб., 1890. Т. 1. С. 34, 179, 249, 347 і інш.; Русско-белорусские связи: Сб. документов. С. 94, 97, 103, 109, 111, 112, 114 і інш.

[37] Александровіч С. Х. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 15—17.

Трэба дадаць, што вызначэнне «ліцвіны» мела ў той час яшчэ і канфесійны кантэкст. У эпоху феадалізму, калі «светапогляд... быў пераважна тэалагічным»[38], этнічная самасвядомасць вельмі часта падмянялася рэлігійнай. Прыкмета веры на ўзроўні клерыкальнай і штодзённай свядомасці разглядалася як галоўны этнічны дэтэрмінатыў, а ролю этнанімічнага вызначэння выконваў канфесіонім, які часам атаясамліваўся з сапраўдным этнонімам народа. У XIV — першай палавіне XVI ст. пры неабходнасці намінатыўнага размежавання насельніцтва Вялікага княства Літоўскага на каталікаў і праваслаўных першыя часта называліся ліцвінамі, а другія — русінамі[39]. На падставе гэтай акалічнасці некаторыя аўтары XVIII — пачатку XX ст. беспадстаўна сцвярджалі, што беларусы — выключна монаканфесійны народ праваслаўнага веравызнання, а каталікі Беларусі — гэта літоўцы ці палякі[40].

Суадносіны паміж этнанімічнымі вызначэннямі і канфесіянальнай прыналежнасцю ў XV—XVI стст. з'яўляліся вельмі варыятыўнымі, што было абумоўлена распаўсюджаннем абедзвюх рэлігій як у этнаграфічнай Літве, так і на Беларусі, а таксама зменай веравызнання сярод насельніцтва Вялікага княства Літоўскага (асабліва да 1540 г.)[41], калі ў залежнасці ад жыццёвых абставін праваслаўныя пераходзілі ў каталіцызм, а каталікі — у праваслаўе. У некаторых выпадках людзі са «свабодных» саслоўяў на працягу жыцця па некалькі разоў змянялі сваю канфесійную прыналежнасць, што часта пэўным чынам адбівалася на іх этнічных вызначэннях, а адпаведна і на самасвядомасці ўвогуле.

Магчыма, што ў 1504—1506 гг. і Ф. Скарына ўжо меў непа-

---

[38] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 21, С. 495.

[39] Литовский Статут 1588 г. / Изд. И. И. Лаппо. Ковна, 1936. Т. 1, ч. 2, разд. III, арт. 9; ПСРЛ. Т. 35. С. 147, 195; Krupska A. W sprawie genezy tzw. spisku książąt Litewskich w 1480—1481 roku: Przyczynek do dziejów walki o «dominium Russiae» // Rocznik Historyczny. 1983. T. II. S. 130—131; Bardach J. Krewo i Lublin: Z problemów unii polsko-litewskiej // Studia z ustroju i prawa Wielkiego księstwa Litewskiego XIV—XVII ww. Warszawa, 1970. S. 51.

[40] Плещеев С. И. Описание Российской империи в нынешнем ее новоустроенном состоянии. Спб., 1790. С. 26; Эркерт Р. Взгляд на историю и этнографию западных губерний России. Спб., 1864. С. 6—9, 16—19, 35; Миловидов А. И. Исторические основы латинско-польской политики в Северо-Западном крае. Вильно, 1901. С. 3. Характэрна, што ў XVII ст. «рускай», «грэчаскай» верай называлася ў Рэчы Паспалітай уніяцтва; у Маскоўскай дзяржаве XVII ст. уніяцтва лічылася «беларускай верай». (Русско-белорусские связи: Сб. документов. С. 112; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 136.)

[41] Гринблат М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 158—160; Юхо І. Аб паходжанні назваў «Белая» і «Чорная Русь» // Беларусь. 1956. № 9. С. 20; Śliwa T. Kościół prawosławny w państwe polsko-litewskim // Historia kościoła w Polsce. Poznań; Warszawa, 1974. T. 1. S. 383—386; Kolankowski L. Zygmunt August, wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913. S. 360—365.

срэдныя адносіны да каталіцкай канфесіі [42] і ў сувязі з гэтым (а таксама па дзяржаўнай прыналежнасці) быў запісаны як ліцвін (Litphanus). У тыя ж часы ў Кракаве вучыліся і працавалі выхадцы з беларускіх і ўкраінскіх зямель, вызначаныя ў дакументах як «русіны» ў этнанімічным і антрапанімічным кантэксце (Стэфан Фалімеж Русін, Бернард Валіскус Русін, Павел Русін з Кросна, русін Ян Вісліцкі і інш.). У XV—XVI стст. русінамі (rutheni) у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы называлася галоўным чынам праваслаўнае беларускае і ўкраінскае насельніцтва [43], але ў асобных выпадках гэта назва адносілася таксама і да католікаў [44].

Увесь творчы шлях вялікага палачаніна сведчыць аб адсутнасці ў яго этнічнай самасвядомасці вузкага канфесіяналізму. Я. Карскі адзначаў: «Пераклады Ф. Скарыны не мелі якіх-небудзь канфесійных мэтаў» [45]. Сам беларускі першадрукар пісаў, што яго пераклады прызначаюцца «людем посполитым», «братии моей Руси», каб «не толико докторове и люди вченые» разумели, но и «всякий человек простой и посполитый рускага языка» [46]. Паняцце «язык» (мова) ва ўсходнеславянскім арэале было, пачынаючы са старажытнарускіх летапісаў, сугучна, а часам і сінанімічна паняццю «народ»: «Се бо токъмо словенеск язык в Руси: поляне, древляне, новъгородьци, полочане, дрегъвичи...»; «В Афетове же части седять русь, чудь и вси языци: меря, мурома, весь, моръдва» [47].

Уяўленне Ф. Скарыны аб сваёй належнасці да «рускага» народа адбілася ў яго этнанімічным вызначэнні «русін», зафіксаваным у актавых запісах Падуанскага універсітэта за 1512 г. і ў некаторых іншых дакументах [48]. Указаны этнонім напэўна вы-

---

[42] Зближэнне Ф. Скарыны з каталіцызмам адбылося, відаць, яшчэ раней, калі ён вучыўся ў адным з класаў каталіцкага бернардзінскага манастыра ў Полацку або ў Вільні. На пэўную сувязь з каталіцкай канфесіяй указваюць яго імя Францыск і некаторыя іншыя моманты. (Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 46, 322; Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 37.)

[43] «Русінамі» называліся іншы раз і літоўцы, якія прымалі праваслаўе. (ПСРЛ. Т. 35. С. 195; Długosz J. Historiae Polonicae. Cracoviae, 1878. Т. IV. P. 217, 446, 454—455, 619; Krzyżaniakowa J. Pojęcie narodu w «Rocznikach» Jana Długosza // Sztuka i ideologia XV wieku. Warszawa, 1978. S. 142—145.)

[44] Герберштейн С. Записки о московских делах. М., 1908. С. 3; Fijałek J. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę: Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 120—125.

[45] Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 30.

[46] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 12 і наст. Асэнсаванне Русі, «рускага» народа як «братии моей» адлюстроўвала адну з асноўных форм праяўлення этнічнай самасвядомасці Ф. Скарыны — уяўленне аб агульнасці паходжання ўсходніх славян.

[47] Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1. С. 10, 13.

[48] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 101; Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. С. 63—74.

карыстоўваўся Ф. Скарынам і ў якасці саманазвы, аб чым сведчыць згаданае вышэй скарынаўскае выказванне: «Аз... нарожены въ руском языку».

Імкненне да адукацыі «рускіх» людзей, «братии моей Руси» праз пераклады Бібліі на родную мову сведчыла не толькі аб высокім узроўні этнічнай самасвядомасці Ф. Скарыны, але і аб яе актыўнай функцыянальнасці, накіраванай на развіццё нацыянальнай (у сэнсе natio — народ) літаратурнай мовы, актывізацыі этнічнай самасвядомасці і ўвогуле грамадскай свядомасці беларусаў. Функцыянальная накіраванасць дзейнасці асветнікаў, якая дапамагала ва ўмацаванні этнічнай самасвядомасці, развіцці літаратурнай мовы і культуры народаў, з'яўлялася адным з найважнейшых фактараў інтэграцыі і кансалідацыі розных тэрытарыяльна-зямляцкіх частак і саслоўна-класавых груп этнасацыяльных супольнасцей феадальнага перыяду. Таму невыпадкова, што дзейнасць Ф. Скарыны прыпадае якраз на завяршальны этап складвання беларускай народнасці, якая ў XVI ст. ужо характарызавалася своеасаблівымі рысамі мовы, культуры і самасвядомасці з фармацыйнай феадальнай спецыфікай існавання гэтых этнічных прыкмет.



4. Зак. 207



*М. В. НІКАЛАЕЎ (Ленінград)*

## РУКАПІСНАЯ КНІГА НА БЕЛАРУСІ Ў ЧАСЫ СКАРЫНЫ

Першая чвэрць XVI ст.— час вялікіх зрухаў кніжнай культуры Беларусі. Эпахальнай падзеяй было з'яўленне кнігадрукавання, звязанае з гарадскімі коламі Полацка, Вільні і асобай выдатнага гуманіста Францыска Скарыны. Тэма пачатку кнігадрукавання рознымі сваімі аспектамі прыцягвала і прыцягвае ўвагу кнігазнаўцаў; стваралася багатая гістарыяграфія. Аднак у выніку пільнай увагі да друкаванай кнігі на другім плане засталася кніга рукапісная, а між тым гэта не толькі тая платформа, ад якой адштурхнуўся Францыск Скарына, стаўшы за друкарскі варштат. Шматвяковая рукапісная кніжная традыцыя не спынялася аж да XVIII ст., хоць і відазмянілася пад уплывам кнігадрукавання. На пачатку ж XVI ст. кніжную культуру Беларусі вызначала галоўным чынам рукапісная кніга. У той час у Вялікім княстве Літоўскім была распачата справа, ацаніць значэнне якой можна толькі ў супастаўленні з работай па складанні «Вялікіх міней чэцціх» і Ліцавога летапіснага зводу ў Вялікім княстве Маскоўскім. Гэта перш за ўсё стварэнне беларускай рэдакцыі Пралога і міней чэцціх і звод перакладаў біблейскіх кніг.

Сярод чэцціх кніг важнае месца належыць гадавым цыклам — Пралогу і мінеям чэцціх. Пралог — гэта царкоўна-вучыцельны зборнік, прататыпам якога сталі грэчаскія міналогіі і сінаксары — зборнікі кароткіх жыцій, размешчаных па днях памяці святых і падзей, якія царква святкуе на працягу ўсяго года, па месяцах. Паводле свайго зместу праложныя чытанні дзеляцца на тры групы: жыціі святых, навукі і павучальныя аповесці і апавяданні. Апошнія запазычаны галоўным чынам з розных пацерыкоў. Пераклад Пралога на славянскую мову быў зроблены ў X—XI стст. Самы старажытны Пралог датуецца 1196 г. (Хлудаўскі). Сярод спісаў Пралога, якія бытавалі на беларускіх землях, найбольш ранні, вядомы нам, створаны ў першым дзесяцігоддзі XV ст. «жаданнем пана Солтана Салтановіча» [1].

Поўны цыкл Пралога, які дайшоў да нашых дзён, перапісаны ў раёне Навагрудка-Лаўрышава калектывам пісцоў пад

[1] Пралог, сакавік—жнівень. ЦНБ АН ЛітССР, ф. 13, адз. зах. 100.

кіраўніцтвам дыякана Якіма (Якімца) пры навагрудскім ваяводзе Яну Янавічу Заберазінскім у 1512 г. У тым жа годзе частка кнігі (верасень—люты) была пераплецена «іереем Порфиріем, иж в Любчи». Тэкст Пралога ў некалькіх месцах праўлены (л. 354, 392 адв., 426, 437 адв., 465, 573), а ў прыпісцы ёсць такое сведчанне: «слествовал діакон Игнат у Вильни»[2]. Значыць, на нейкім этапе сваёй гісторыі кніга трапіла ў Вільню і была «слествована» (праўлена) нейкім дыяканам Ігнатам. Заставалася, аднак, няясным, калі і як адбылося гэта падарожжа і чаму яно магло быць адлюстравана ў прыпісцы Якіма. Адказ трэба шукаць у супастаўленні тэксту прыпіскі навагрудскага Пралога са зместам сучасных яму юрыдычных дакументаў. У прыватнасці, у маі 1522 г. свяшчэннікам царквы Георгія ў Вільні было складзена завяшчанне, у якім сярод маёмасці згадваецца «книжица... што небожчик Игнат диакон писал, будучи архимандрит в Лаврашовом монастыри»[3].

Такім чынам мы даведваемся пра існаванне кніжніка дыякана (потым архімандрыта) Ігната ў Лаўрышаве (упамінанне яго імя ў завяшчанні можа быць сведчаннем асаблівай павагі да нябожчыка). Лаўрышаўскі архімандрыт у той час быў асобай, набліжанай да мітрапаліта Іосіфа Солтана, часта наведваў сталіцу Вялікага княства Літоўскага Вільню; вядомы, у прыватнасці, дакумент, які пацвярджае яго прысутнасць на судах мітрапаліта ў Вільні ў 1511 г. Бясспрэчна і яго вядучае становішча сярод навагрудскага духавенства. Гісторыю стварэння навагрудскага Пралога можна ў выніку прадставіць наступным чынам: спачатку група перапісчыкаў «стараніем многих діаков» на чале з Якімам у Навагрудку або ў Лаўрышаве «спісала» кнігу, пасля дыякан Ігнат узяў рукапіс у Вільню і там яго правіў па нейкаму арыгіналу, а потым Пралог быў завераны адпаведнай прыпіскай і аддадзены ў пераплёт.

Характэрнай асаблівасцю беларускай рэдакцыі Пралога, а таксама мінеі чэцці з'яўляецца абавязковае згадванне мясцовых святых Ефрасінні Полацкай (23 мая) і віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўстафія, «литовскія ж им имена Круглец, Кумец и Нежило» (14 студзеня). Акрамя таго, беларуская рэдакцыя Пралога ўключала запазычанае з Кіева-Пячэрскага пацерыка «Слова пра чарнарызніка Арэфу». Сюжэт «Слова...» — сцэна з жыцця аднаго з манахаў Кіева-Пячэрскага манастыра Арэфы, родам палачаніна. Арэфа багаты і скупы, не дзеліцца з беднымі. Аднойчы ўночы яго келлю абрабавалі зладзеі. Арэфа, шкадуючы страчанае багацце, захварэў і ледзь не трапіў ва ўладу д'ябла. «Паразумнеўшы» і перааценіўшы тое, што здарылася, Арэфа дзякуе богу за ўкрадзеную маёмасць, папраўляецца і пачынае жыць праведна.

---

[2] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882. С. 193.

[3] Литовские епархиальные ведомости. 1867. № 13. С. 553—558.

Першая на ўсходнеславянскіх землях спроба сабраць у адной кнізе ўсе часткі Бібліі была зроблена пры двары ноўгарадскага архіепіскапа Генадзія ў канцы XV ст. У пачатку XVI ст. поўны звод біблейскіх тэкстаў з'явіўся і ў Вялікім княстве Літоўскім — гэта работа звязана з дзейнасцю Мацея Дзесятага і дзяка Фёдара.

Мацей Дзесяты — перапісчык і складальнік зборніка біблейскіх кніг (за выключэннем Пяцікніжжа і гістарычных). У ліку біблейскіх ён перапісаў і кнігу Менандра, якая не з'яўляецца кананічнай. Зборнік быў укладам у Супрасльскі манастыр і вядомы па вопісах манастырскай бібліятэкі як «Дзесятаглаў»[4]. У сярэдзіне XIX ст. «Дзесятаглаў» быў вывезены з Беларусі епіскапам Паўлам Дабрахотавым, ад яго перайшоў у прыватны кнігазбор акадэміка-славіста Ізмаіла Сразнеўскага і быў недаступны шырокай навуковай грамадскасці. У 1888 г. скарыназнавец П. Уладзіміраў з жалем канстатаваў, што рукапіс знік з навуковага гарызонту, і абмежаваўся толькі спасылкамі на папярэднюю публікацыю 1859—1860 гг. архіепіскапа Філарэта (Гумілеўскага)[5]. У 1911 г. «Дзесятаглаў» паступіў у Аддзел рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук у Пецярбургу[6].

Даследчыкі, якія вывучалі зборнік, падкрэслівалі яго высокую мастацкую і гісторыка-культурную каштоўнасць, выказваючы пры гэтым самыя розныя погляды на яго склад і паходжанне[7]. Сучаснае даследаванне «Дзесятаглава» супярэчыць выказаным раней меркаванням аб прыналежнасці кнігі «жыдоўствуючым» або якой-небудзь залежнасці яе тэксту ад тэксту Генадзіеўскай бібліі. У той жа час аўтары не выключаюць, што гэта спроба стварыць звод біблейскіх кніг была распачата пад уплывам вопыту Генадзія, але ажыццяўлялася іншым шляхам[8].

Мацей Дзесяты пакінуў у кнізе прыпіску — самую вялікую з вядомых нам прыпісак да беларускіх рукапісных кніг: дзве старонкі ў аркуш сціслым паўуставам. Яна мае аўтарскі загаловак: «О написавшем книги сія». Мацей паведамляе, што нарадзіўся ён у г. Тарапцы, быў дзесятым сынам у сям'і, таму і насіў прозвішча Мацей Дзесяты. Усе дзесяць братоў (Мацей апошні з іх) былі манахамі, манашкамі сталі і тры іх сястры. З гонарам ён успамінае, што сярод яго братоў і сёстраў — манах ноўгарадскага Хутынскага манастыра Нікіфар, ігумення Прадцечанскага манастыра ў Тарапцы Ефрасіння, ігумен Прадцечанскага манастыра ў Полацку Яўфімій. Сам Мацей доўгі час

---

[4] Добрянский Ф. Описание рукописей... С. XXVIII.

[5] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. Спб., 1888. С. 23.

[6] Цяпер захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў БАН СССР у Ленінградзе, шыфр 24. 4. 28.

[7] Гл., напр.: Воўк-Левановіч І. В. Кароткія ўвагі на некаторыя помнікі беларускае мовы... // Зап. аддзела гуманіт. навук. 1929. Кн. 9. С. 117—158.

[8] Алексеев А., Лихачева О. Супрасльский сборник 1507 г. // Материалы и сообщения по фондам отдела рукописной и редкой книги БАН СССР. Л., 1978. С. 54—88.

заставаўся міранінам і, верагодна, наведваў старэйшых братоў, бо, гаворачы аб аддаленым Ноўгарадзе, ён удакладняе адлегласць Хутынскага манастыра ад горада: «в пяти поприщах». Можна меркаваць, што праз брата Яўфімія Мацей быў знаёмы і з Францыскам Скарынам. Прамога сведчання гэтаму меркаванню няма, аднак тое, што абодва перакладчыкі біблейскіх кніг былі людзьмі аднаго асяроддзя, не выклікае сумнення.

У зборах Аддзела рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе ёсць два пергаментныя Евангеллі XIV ст. з манастыра Яна Прадцечы на Востраве (у Полацку) [9]. У абедзвюх кнігах ёсць укладныя запісы і шматлікія прыпіскі пачатку XVI ст.— часу, калі ў Полацку жыў і вучыўся Францыск Скарына. Адзін укладны запіс паўтораны ў абедзвюх кнігах: апісанне ўкладу паўторана літаральна, а спіс тых, хто прысутнічаў, мае адрозненні, у прыватнасці у згадцы прадцечанскага ігумена Яўфімія. У адным выпадку сказана: «А пры том месте были добрае люди ігумен светого Івана Евфимеі з братьею». У другой жа прыпісцы: «А пры том месте были добрые люді ігумен светого Івана Евфимеі Торопка з братьею...» (імя прадцечанскага ігумена сведчыць, што ён быў з Тарапца, і з'яўляецца ўскосным пацверджаннем прыпіскі Мацея Дзесятага). Як адна з уплывовых асоб у царкоўнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага таго часу ігумен Яўфімій мог быць знаёмы з лаўрышаўскім кніжнікам дыяканам Ігнатам хоць бы па сумесным удзеле ў Віленскім саборы 1509 г.

Мацей працаваў над «Дзесятаглавам» з 1502 па 1507 г., прычым, як паведамляецца ў прыпісцы, работа была распачата «в граде нарицаемом Вильни, при великом князі Александре, бывшим королем Польским, великим князем Литовским, Руским, Жомоитским, а митрополитом всеа Руси Іоне, а воеводе виленском Миколае Радивиловиче...», а закончана «...в монастыри Пречистыя Благовещенія, нарицаемом Супрясль, в державе благовернаго христолюбивого вельможі Александра Ходкевича». Кароль Аляксандр памёр у 1506 г., за год да складання прыпіскі. Тым больш цікава, што Мацей падкрэслівае яго вялікакняжацкі тытул, які меў, верагодна, незалежнае ад каралеўскага значэнне, больш важнае для кнігапісца Мацея: «при великом князі Александре, бывшим королём...» Далей згаданы Мікалай Радзівіл, які займаў другую па важнасці пасаду ў дзяржаве (віленскі ваявода) і быў не абыякавым да кніг: нам вядомы зборнік энцыклапедычнага зместу, які перапісаў «Васка, писарь пана Миколая Радивиловича» у 1483 г.[10]

Як нам здаецца, ідэя скласці звод біблейскіх кніг на славянскай мове (а дакладней, мець свой, падобна як і ў Ноўгарадзе) калі не нарадзілася, то па крайняй меры здзейснілася са

[9] ДПБ. Аддзел рукапісаў, Q. п. I. 2. F. п. I. 17.

[10] Дмитриева Р. П. Четьи сборники XV в. как жанр // ТОДРЛ. 1972. Т. 27. С. 150—181.

згоды велікакняжацкага двара. Вялікі князь маскоўскі валодаў адзіным на той час поўным славянскім спісам Бібліі — Генадзіеўскім. Мець жа ў дзяржаве поўны пераклад Бібліі было для праваслаўнай Літвы і Літоўскай Русі прэстыжным момантам, асабліва з прычыны пастаянных захадаў па аб'яднанню рускіх зямель. Для вялікага князя літоўскага Аляксандра такая кніга была б важкім аргументам у палітычнай барацьбе з яго цесцем вялікім князем маскоўскім Іванам III.

Паспрабуем абгрунтаваць наша меркаванне. Складальнік «Дзесятаглава» паведамляе ў прыпісцы, што меў магчымасць пачаць работу, таму што «бе бо христолюбец, вельможа, писарь великого княжества литовского Фёдор». Згадванне ў прыпісцы ў адным радзе вялікага князя, мітрапаліта, віленскага ваяводы і пісара, які быў адначасова велікакняжацкім сакратаром і ў якога Мацей для працы над кнігай «іспросих обресті от службы покоя», уяўляецца не выпадковым. Велікакняжацкая канцылярыя ў пачатку XVI ст. падзялялася на «рускую» і «лацінскую», пісары падпарадкоўваліся непасрэдна канцлеру, а пасаду канцлера, начальніка канцылярыі, хавальніка вялікай дзяржаўнай пячаткі, па традыцыі займаў віленскі ваявода.

Хто ж такі быў пісар Вялікага княства Літоўскага Фёдар? Архіепіскап Філарэт, які вывучаў гэта пытанне, лічыў, што Мацеем апекаваўся пісар Фёдар Рыгоравіч, «дзяржаўца Стоклішскі», які быў з літоўскім пасольствам у Маскве ў час перагавораў наконт вяселля Алены, дачкі Івана III, з Аляксандрам Ягелонам у 1494 і 1495 гг. Праўда, далей Філарэт памылкова сцвярджаў, што пісар Фёдар Рыгоравіч і пісар літоўскага пасольства ў Маскве ў 1508 г. Федка Святоша — адна і тая ж асоба. На самай жа справе Федка Святоша быў пісарам караля Жыгімонта і ў 1508—1511 гг. Што ж датычыць пісара, «дзяржаўцы Стоклішскага» Фёдара Рыгоравіча, то ён памёр у 1502 г., калі перапіска «Дзесятаглава» або не пачыналася, або толькі што пачалася. Ці быў ён апекуном Мацея? Цалкам выключыць нельга. Аднак больш верагоднай уяўляецца кандыдатура другога пісара. Гэта — Фёдар Янушэвіч, сын пісара Янушка, «дзяржаўца Жыжморскі, Скерстамонскі і Уладзімірскі», які быў пісарам і сакратаром вялікага князя ў 1486—1507 гг. У прыпісцы, складзенай у 1507 г., вяльможа Фёдар названы «писарь былый». Ужыванне формы «былый» можна вытлумачыць як указанне на тое, што чалавек гэты яшчэ жывы, у адрозненне ад выразу «король бывший» — пра нябожчыка Аляксандра Ягелона. Вядома, што ў пачатку 1507 г. Фёдар Янушэвіч унёс вялікія ахвяраванні ў віленскі храм Раства Багародзіцы, дзе за ўласны кошт пабудаваў капліцу, і ў саборную Уладзімірскую царкву [11].

Уяўляецца малаверагодным, каб сам пісар, без ведама мітрапаліта і вялікага князя, у якога ён быў сакратаром, а значыць,

---

[11] Jasas R. Pergamentų katalogas. Vilnius, 1980. P. 74.

чалавекам даволі блізкім, даручыў каму-небудзь такую адказную работу, як складанне зводу біблейскіх кніг. Аднак у 1506 г. нечакана, ва ўзросце 46 гадоў, памірае вялікі князь Аляксандр. На трон абедзвюх дзяржаў уступіў Жыгімонт I, яго родны брат, які выхоўваўся ў Кракаве і меў некалькі іншыя погляды на ўсходнюю палітыку. У гэты час са сталіцы ад'язджае Мацей Дзесяты, каб закончыць кнігу ў Супрасльскім манастыры, карыстаючыся апякунствам Аляксандра Хадкевіча. У прыпісцы адчуваецца таксама ўсведамленне важнасці выкананай працы. Традыцыйнае праклящце «отдалившему» ахвяраванне ад царквы і абяцанне рассудзіцца з ім на страшным судзе мае адну знамянальную агаворку: Мацей дазваляе «отдалить» кнігу, калі гэта спатрэбіцца «для великой церковной потребы». Што мелася тут на ўвазе — ці то надрукаванне, ці то выкарыстанне прыгожа аздобленага кодэкса ў сталіцы, у сям'і манарха,— адказ тут могуць даць толькі росшукі. Вялікая княгіня Алена актыўна ўдзельнічала ў палітычным жыцці таго часу, але яе адносіны да падрыхтоўкі зводу біблейскіх кніг няясныя.

Чаму ж для стварэння біблейскага зводу выбралі Мацея, чалавека на той час свецкага? Бясспрэчна таму, што Мацей Дзесяты быў дасканалым каліграфам, цудоўным мастаком, чалавекам шырока адукаваным. Аднак можна меркаваць, што выбар пісарам Фёдарам выканаўцы такой грандыёзнай працы быў абумоўлены і тым, што Мацей мог абапірацца не толькі на свае веды, але на аўтарытэт і веды сваіх дзевяці братоў і трох сясцёр. Сярод іх былі ўплывовыя асобы, як ігумен полацкага Прадцечанскага манастыра Яўфімій, манах Хутынскага манастыра Нікіфар і ігуменя жаночага манастыра ў Тарапцы Ефрасіння. Магчыма, вялікі князь літоўскі такім чынам імкнуўся захаваць сувязі з Ноўгарадам, які нядаўна адышоў да Масквы. Як бы там ні было, аднак пасля заканчэння Фёдарам, дыяканам мітрапаліта Іосіфа, перакладу Пяцікніжжа Майсея і гістарычных кніг (у 1514 г.) у Вялікім княстве Літоўскім быў цалкам укамплектаваны звод стара- і новазапаветных кніг — на тры гады раней, чым пачалося друкаванне перакладу Скарыны.

Перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць Францыска Скарыны ажыццяўлялася на сродкі багатых гараджан: у прадмовах і пасляслоўях ён ні разу не ўпамінае ні царкоўную, ні свецкую ўладу. Ужо адзін гэты факт, сведчыць, наколькі розныя былі пазіцыі беларускага першадрукара і яго сучасніка — кнігапісца. Што ж датычыць біблейскіх кніг, сабраных і перапісаных Мацеем Дзесятым, то можна пагадзіцца з тым, што яны ствараліся пад уплывам Генадзіеўскай бібліі, аднак не як спісы з яе (так лічыў І. Яўсееў, якога катэгарычна абвергнулі А. Аляксееў і В. Ліхачова). Выкладзеныя вышэй назіранні паказваюць, што ўплыў быў ад супраціўнага — ствараўся яшчэ адзін звод біблейскіх кніг, на гэты раз пад патранатам вярхоўнай духоўнай і свецкай улады Вялікага княства Літоўскага.



*А. С. МЫЛЬНІКАЎ (Ленінград)*

## ЯШЧЭ РАЗ АБ ПРЫЧЫНАХ ПАЕЗДКІ СКАРЫНЫ Ў ПРАГУ

Абставіны, што абумовілі пражскую місію Ф. Скарыны, важныя не толькі для вывучэння вытокаў беларускага кнігадрукавання, але ў пэўнай меры ўяўляюць і больш агульную тэарэтычную і метадычную цікавасць, бо закранаюць пытанні даследавання гісторыі кнігі ў народаў, якія ў свой час уваходзілі ў склад шматнацыянальных дзяржаўных фарміраванняў. На некаторых аспектах гэтай двухадзінай праблемы мы і хацелі б коратка спыніцца.

Першы, хто прапанаваў тлумачэнне прычын, па якіх беларускі першадрукар пачаў сваю дзейнасць іменна ў Празе, быў вялікі чэшскі славіст Ёзаф Добраўскі, які ў 1792—1793 гг. зрабіў навуковае падарожжа ў Расію. Тут, у бібліятэцы Пецярбургскай Акадэміі навук, ён упершыню пабачыў скарынаўскае Пяцікніжжа, а ў Маскоўскім архіве Дзяржаўнай калегіі замежных спраў меў магчымасць азнаёміцца з радам іншых пражскіх выданняў Ф. Скарыны. Справаздачу пра свае назіранні ён апублікаваў у 1796 г.[1]

У той час вучоныя амаль не мелі звестак пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. Спрэчным заставалася і пытанне: пра якую іменна Прагу паведамлялася на тытульным лісце «Бібліі рускай»: пра сталіцу Чэхіі ці прадмесце Варшавы? І. Г. Штрытар, які апублікаваў у 1783 г. апісанне скарынаўскай Бібліі, не дапусціў нават думкі, што гаворка можа ісці пра чэшскую Прагу: «того не можно за верное сказать: ибо в Богемии, сколько мне известно, не российскими или славянскими литерами печатали: и сие невероятно, что сию одну книгу для иностранного народа нарочно в Праге, что в Богемии, напечатали. Считаться может, что сия Прага есть Варшавы или какое место в Литве» [2].

Такой жа думкі перад паездкай у Расію прытрымліваўся і Добраўскі. У лісце да чэшскага славіста Ф. Дурыха, які працаваў у Вене, у маі 1791 г. ён указваў, што Пяцікніжжа было

---

[1] Dobrovský J. Litterarische Nachrichten von einer... im Jahre 1792 unternommen Reise nach Schweden und Rußland. Prag, 1796. S. 101—108.

[2] Штриттер И. Г. Описание первого издания в печать и перевода на российский язык священной Библии в 1517—1519 гг. // Опыт трудов Вольного российского собрания при имп. Московском ун-те. М., 1783. Ч. 6. С. 180.

выдадзена Ф. Скарынам не ў Чэхіі, а ў Польшчы[3]. Пасля знаходжання ў Расіі меркаванне Добраўскага змянілася, пра што ён з усёй шчырасцю паведамляў у сваёй навуковай справаздачы. Спачатку, пісаў ён, «Прага як месца друкавання здалося мне настолькі неверагодным, што я хутчэй падумаў аб Празе каля Варшавы. Аднак калі я ў Варшаве запытаўся аб стане горада Прагі ў мінулыя часы, то даведаўся, што ён у 1519 г. быў такі нязначны, што прыведзеныя ў «Бібліі» подпісы «у слаўным, вялікім месце Пражскім» зусім не маглі да яго адносіцца. З гэтага Добраўскі зрабіў канчатковую выснову, згодна з якой месцам выдання «Бібліі рускай» магла быць толькі чэшская Прага[4].

Канстатацыя гэтага факта прымусіла даследчыка задумацца над пытаннем: чаму Ф. Скарына выбраў для сваёй дзейнасці іменна сталіцу Чэшскага каралеўства? У сувязі з гэтым Добраўскі выказаў надзвычай цікавую гіпотэзу, звязаную з інтэнсіўнымі палітычнымі і дыпламатычнымі кантактамі, якія існавалі тады паміж Польшчай, Вялікім княствам Літоўскім, Аўстрыяй і Чэхіяй. Трон апошняй з 1516 па 1526 г. займаў пляменнік польскага караля Жыгімонта I Старога Людовік Ягелон. Згодна з меркаваннем Добраўскага, Ф. Скарына мог быць у свіце польскага караля, які ў 1515 г. наведаў Прагу і Вену. Гэта давала беларускаму першадрукару надзею «знайсці тут большую бяспеку і падтрымку, чым дзе-небудзь у іншым месцы»[5].

Гэта гіпотэза не атрымала далейшага развіцця, хоць А. Флароўскі і назваў «не без значэння» адзначаны чэшскім славістам факт працяглага знаходжання на чэшскім троне прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў Уладзіслава (1471—1516) і яго сына Людовіка (1516—1526). А. Флароўскі згаджаўся з тым, што існаванне дынастычных сувязей нават «без прамой дапамогі польскага караля» магло садзейнічаць паспяховай дзейнасці Ф. Скарыны ў Празе. «Аднак,— рабіў ён агаворку,— усё гэта — пакуль што толькі дапушчэнні і здагадкі, на якіх нельга з упэўненасцю грунтаваць якія-небудзь вывады і меркаванні»[6].

Усё гэта так. Але што ж у гіпотэзе Добраўскага трэба лічыць галоўным? Думаецца, не дапушчэнне таго, што Ф. Скарына мог быць у свіце Жыгімонта ці карыстацца прыхільнасцю яго сына або ўнука. Да таго часу, пакуль не будуць знойдзены неабходныя крыніцы, гэта меркаванне сапраўды застаецца толькі дапушчэннем, прычым даволі няпэўным. Між тым асноўная думка Добраўскага развівалася ў іншым напрамку і заключалася ў

---

[3] Vzájemné dopisy J. Dobrovskeho a F. Duricha z let 1778—1780 / Vyd. A. Patera. Praha, 1895. S. 198.

[4] Dobrovský J. Litterarische Nachrichten... S. 101.

[5] Op. cit. S. 105—106.

[6] Флоровский А. В. Чешская библия в истории русской культуры и письменности // Sborník filologický. Vyd. III třida České akad. věd. a umění. Praha, 1940—1946.

падкрэсліванні таго, што да моманту з'яўлення Ф. Скарыны ў Празе паміж краінамі, кіраўнікі якіх збіраліся ў 1515 г. на венскую сустрэчу (да яе мы яшчэ вернемся), існавалі даволі цесныя кантакты. Але якраз на гэты аспект гіпотэзы Добраўскага не было звернута даследчыкамі належнай увагі. На ім мы і хацелі б спыніцца.

Пасля працяглага бескаралеўя, якое наступіла ў Чэшскай дзяржаве пасля завяршэння гусіцкіх войн, і намінальнага праўлення двух каралёў з роду Габсбургаў, чэшскі сейм у 1458 г. выбраў каралём Іржы з Падэбрад, што яшчэ з 1452 г. быў прызначаны «земскім правіцелем». Абапіраючыся на дробную і сярэднюю шляхту і гарадскую вярхушку, ён імкнуўся абмежаваць правы панскай алігархіі. А будучы кіраўніком умеранай рэфармацыйнай плыні чашнікаў, ён не ўтойваў антыпатыі да папскай курыі. Яна і паны былі моцнымі праціўнікамі, якія і павялі барацьбу супраць «гусіцкага караля». Яго праціўнікі, стварыўшы ў 1465 г. так званую Зеленагурскую канфедэрацыю, выбралі на чэшскі трон польскага караля Казіміра IV Ягелончыка, даўшы яму права прапанаваць замест сябе кандыдатуру аднаго са сваіх сыноў. Калі ж польскі кароль з прычыны ўнутрыпалітычных перашкод не выкарыстаў гэтага права, мяцежная знаць справакавала на вайну супраць Іржы венгерскага караля Маціяша Хуньядзі (Мацея Корвіна). Ён заняў Маравію і Сілезію, што ўваходзілі ў склад зямель чэшскай кароны, і ў 1469 г. быў абвешчаны чэшскім каралём. Краіна аказалася разарванай на дзве часткі, з якой кожная мела свайго караля. У такіх надзвычай складаных абставінах Іржы з Падэбрад прыняў выключна адказнае рашэнне — адмовіўшыся ад замацавання трона за сваімі нашчадкамі, ён абвясціў сваім пераемнікам Уладзіслава, сына польскага караля Казіміра. У выніку такога рашэння, ухваленага сеймам, на чэшскі трон узышла галіна польскай дынастыі Ягелонаў у асобе ўжо названых раней Уладзіслава і яго сына Людовіка. З 1490 г. Уладзіслаў заняў адначасова і пасад Венгерскага каралеўства (пад імем Уласло II), які перайшоў потым да яго сына Людовіка (пад імем Лайаша II). Так у цэнтры Еўропы на некалькі дзесяцігоддзяў узнікла персанальная чэшска-венгерская унія, каралі якой былі ў найбліжэйшым сваяцтве з кіраўніком Польска-Літоўскай дзяржавы.

Аб'ектыўна гэта адпавядала палітычнай сітуацыі тых дзесяцігоддзяў, калі рэальная небяспека асманскай экспансіі, ахвярай якой стагоддзем раней сталі балканскія народы, пасля падзення ў 1453 г. Канстанцінопаля патрабавала аб'яднання сіл краін Дунайскага басейна [7]. Аднак на практыцы ўсё аказалася больш складаным. З аднаго боку, праўленне Ягелонаў у Чэшскім каралеўстве насіла ў значнай меры намінальны характар, і ўлада

---

[7] Аналіз гэтых тэндэнцый гл. у кн.: Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV—XVI вв. М., 1984.

аказалася захопленай панскай алігархіяй. Аўтарытэт каралеўскай улады упаў, у краіне запанавала анархія, да якой далучалася рэлігійна-палітычная барацьба паміж прыхільнікамі каталіцызму і пратэстанцтва розных напрамкаў, хоць Іржы з Падэбрад, а потым і Ягелоны пацвярджалі роўнасць правоў католікаў і чашнікаў.

З другога боку, Габсбургі, якія ўжо даўно квапіліся на суседнія чэшскія землі, убачылі небяспеку ў тым, што чэшскі, венгерскі і польскі троны занялі прадстаўнікі дынастыі Ягелонаў, і рабілі ўсё, каб не дапусціць стварэння уніі трох дзяржаў. Аднак і непасрэдныя інтарэсы, і магчымасці Уладзіслава перашкаджалі яму захаваць адзінства дзеянняў са сваімі польскімі сваякамі. Усё гэта вяло да нарастання супярэчнасцей унутры Ягелонскага дома.

Узнікла неабходнасць пошукаў кампрамісу. У 1507 г. паміж аўстрыйскім эрцгерцагам і германскім імператарам Максіміліянам I і чэшска-венгерскім каралём Уладзіславам быў заключаны дагавор аб шлюбах іх дзяцей і ўнукаў у будучым. Выказвалася, у прыватнасці, меркаванне, што дачка Уладзіслава Ганна ўступіць у шлюб з адным з унукаў Габсбурга, а яго сын Людовік ажэніцца з унучкай апошняга. У выніку працяглых і складаных перагавораў летам 1515 г. у Вене адбылася канферэнцыя, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай «сустрэчы трох каралёў». Апрача Максіміліяна і Уладзіслава ў ёй удзельнічалі Людовік і польскі кароль Жыгімонт I. Іменна ў свіце апошняга, па меркаванню Добраўскага, і апынуўся ў Празе Ф. Скарына.

Знешне венская сустрэча выглядала ідылічна: Максіміліян не толькі «ўсынавіў» маладога Людовіка, але і абвясціў яго генеральным вікарыем свяшчэннай Рымскай імперыі, пераемнікам «рымскага караля». Але ўнутраныя супярэчнасці паміж Габсбургамі і Ягелонамі ад гэтага не аслаблі. Выкарыстаўшы нязгоду, Асманская імперыя намагалася дыпламатычнымі крокамі і ваеннымі дзеяннямі, распачатымі ў 1521—1522 гг., разбурыць такі небяспечны для яе саюз цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў. У бітве пры Мохачы 29 жніўня 1526 г. нешматлікі атрад Людовіка быў разгромлены, а сам ён загінуў. На аснове раней заключаных дынастычных дамоўленасцей чэшскім каралём стаў Фердынанд Габсбург. Дынастыя Ягелонаў на чэшскім і венгерскім тронах перастала існаваць. Аднак яе больш чым паўвекавое знаходжанне на чэшскім троне не прайшло без пэўных культурна-палітычных вынікаў, якія мелі непасрэднае дачыненне да чэшска-польска-літоўскіх міждзяржаўных сувязей.

Вытокі іх сягалі да ранняга сярэдневякоўя, пашырыўшыся ў XIV ст., калі чэшскі трон займалі каралі Люксембургскай дынастыі — Ян, яго сын Карл IV, які адначасова быў імператарам Германскай імперыі, і сын апошняга Вацлаў IV, што ўтрымліваў імператарскі тытул да 1400 г. У гэтыя дзесяцігоддзі вакол хрысціянізацыі Літвы, апошняй у Еўропе «паганскай» дзяржавы,

разгарнулася барацьба, у станоўчым завяршэнні якой, па розных прычынах, былі асабліва зацікаўлены польскія феадалы і германскія імператары. Не закранаючы ў дадзеным выпадку спецыяльна гэтай складанай і шматпланавай тэмы, нагадаем толькі, што ў 1385 г. у замку Крэва паміж польскімі і літоўскімі кіраўнічымі коламі быў заключаны дагавор, згодна з якім літоўскі вялікі князь Ягайла, уступаючы ў шлюб з польскай каралевай Ядвігай, станавіўся польскім каралём. Гэта і адбылося ў наступным, 1386, годзе. Дагавор быў абумоўлены радам абавязацельстваў з боку Ягайлы. У прыватнасці, увядзеннем ў Літве каталіцтва і далучэннем да Польшчы ўладанняў Вялікага княства, уключаючы і заходнерускія вобласці, што раней уваходзілі ў склад Старажытнарускай дзяржавы, на якія здаўна прэтэндавалі польскія феадалы. Крэўскі дагавор паклаў, такім чынам, пачатак польска-літоўскай асабістай уніі, на чале якой апынуўся Ягайла, каранаваны пад імем Уладзіслава II Ягелы. Ён паклаў пачатак дынастыі Ягелонаў, прадстаўнікі якой пазней займалі чэшскі і венгерскі троны. Праўда, апазіцыя з боку тых літоўскіх феадалаў, якія не без падставы баяліся ўзмацнення польскіх канкурэнтаў, прымусіла Ягайлу перадаць у 1392 г. у Літве ўладу, а праз некалькі год і тытул вялікага князя Вітаўту. Але званне «вярхоўнага князя» ён за сабой ўсё ж захаваў. Пры ўсёй неадназначнасці Крэўскай уніі, якая замацавала экспансіянісцкія планы ў дачыненні да ўсходнеславянскіх зямель, аб'ектыўна яна мела і пазітыўнае значэнне, бо садзейнічала аб'яднанню сіл народаў рэгіёна для абароны ад агрэсіўнага Тэўтонскага ордэна. Зусім відавочна гэта пацвердзіла Грунвальдская бітва 1410 г., калі супраць яго ў складзе польскіх і літоўскіх войск Ягайлы і Вітаўта разам змагаліся таксама беларускія, рускія, украінскія і чэшскія атрады (у апошнім знаходзіўся і Ян Жыжка) [8].

Сімптаматычна выглядаюць спробы палітычнага аб'яднання гэтай часткі Еўропы, якія неаднаразова рабіліся ў XIV — пачатку XVI ст. (мы нагадалі толькі самыя важныя, не закранаючы іншых, больш эпізадычных выпадкаў накшталт польска-венгерскай уніі 1370—1382 гг.). Яны, між іншым, сведчылі пра тое, што насуперак рэлігійным адрозненням паміж католікамі і праваслаўнымі і этнамоўнай неаднароднасці краін-партнёраў, нягледзячы на міждзяржаўныя супярэчнасці, абумоўленыя бліжэйшымі інтарэсамі пануючых класаў, тэндэнцыя да супрацоўніцтва народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з цяжкасцю, павольна, але ўсё ж пракладвала сабе шлях. І, што ў дадзеным выпадку асабліва важна падкрэсліць, гэта тэндэнцыя знаходзіла адлюстраванне і ў сферы культурных кантактаў паміж Польшчай, Вялікім княствам Літоўскім і Чэшскім каралеўствам.

Адзначаючы гэта, неабходна ўлічваць, што Вялікае княства

---

[8] Флоря Б. Н. Грюнвальдская битва // ВИ. 1985. № 7. С. 109.

Літоўскае, звязанае з Польшчай асабістай уніяй, было шматнацыянальнай дзяржавай, значную частку якой з XIV ст. складалі беларускія землі — радзіма Ф. Скарыны. Традыцыі, якія ішлі ад старажытнарускай культуры і якія атрымалі ў наступны перыяд развіццё як у беларускім, так і ва ўкраінскім асяроддзі, адыгрывалі ў духоўным жыцці Вялікага княства Літоўскага важную ролю. Гэта, у прыватнасці, адбілася на становішчы «рускай» (беларускай) мовы як афіцыйнай. На ёй былі напісаны Літоўскія Статуты XVI ст., агульнадзяржаўныя летапісы, вялося справаводства. Гэта прасочваецца і па матэрыялах славянскага кнігадрукавання, цэнтрам якога тут спачатку стала Вільня, дзе на пачатку 1520-х гадоў, пасля вяртання з Прагі, узнікла друкарня Ф. Скарыны — першая на сучаснай тэрыторыі нашай краіны. А прыкладна за тры дзесяцігоддзі раней у Кракаве з друкарні Швайпольта Фіёля выйшлі першыя славянскія кірылічныя друкаваныя кнігі, якія атрымалі распаўсюджанне не толькі сярод праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, але і ў Расіі.

Такім чынам, палітычныя кантакты паміж Чэшскай і Польска-Літоўскай дзяржавамі садзейнічалі пашырэнню культурных сувязей паміж народамі, якія жылі ў іх межах, у тым ліку паміж прадстаўнікамі чэшскага, польскага і беларускага асяроддзя. З такога пункту погляду і трэба разглядаць змест чэшска-польскіх і чэшска-літоўскіх узаемаадносін.

Падыходзячы да справы з такіх пазіцый, спашлёмся на рад характэрных фактаў, якія адзначаліся даследчыкамі гэтай праблематыкі. Каралева Ядвіга праяўляла зацікаўленасць ва ўзнаўленні Кракаўскага універсітэта, які быў заснаваны ў 1364 г., але потым перапыніў сваю дзейнасць. Узноўлены ў 1400 г., ужо пасля смерці каралевы, Кракаўскі універсітэт хутка стаў адным з вядучых еўрапейскіх навуковых і культурных цэнтраў. Сярод студэнтаў былі і выхадцы з Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку беларусы і ўкраінцы, а таксама і з Чэшскага каралеўства. Цікава, што колькасць іх павялічваецца ў другой палавіне XV — пачатку XVI ст. Сярод выкладчыкаў Кракаўскага універсітэта сустракаліся таксама асобы беларускага, украінскага і чэшскага паходжання [9]. Так, пражскі магістр Ян Існер, які ўваходзіў у акружэнне каралевы Ядвігі, быў арганізатарам багаслоўскага факультэта. Наогул сярод яе прыбліжаных было некалькі былых магістраў Пражскага універсітэта, заснаванага Карлам IV у 1348 г.,— Мацей з Кракава, Анджэй Ласкарж, Матоўш з Кракава, Віганд; прапаведнікам пры двары Ядвігі быў Ян Штэкна, які ў 1397 г. пераехаў з Прагі, дзе атрымаў вучоныя ступені бакалаўра і магістра вызваленых навук. Важна адзначыць, што Штэкна ў пражскі перыяд свайго жыцця

[9] Немировский Е. Л. Начало славянского книгопечатания. М., 1971. С. 20—21.

быў звязаны з Янам Гусам. Знаходзячыся ў Кракаве, ён прыняў удзел у распрацоўцы праекта заснавання пры Карлавым універсітэце ў Празе асобнай літоўскай калегіі [10].

Калегія была задумана як інтэрнат і навучальна-педагагічны цэнтр па падрыхтоўцы кадраў для распаўсюджання і ўсталявання ў Літве хрысціянства. Заручыўшыся згодай чэшскага караля Вацлава IV, каралева Ядвіга падпісала 10 лістапада 1397 г. грамату аб заснаванні Літоўскай калегіі. Адносна часу пачатку яе фактычнай работы сярод даследчыкаў няма адзінства. Літоўскі гісторык А. Шапока адносіў гэта да 1401—1404 гг., сучасны чэхаславацкі гісторык Ё. Полішанскі называе нават год падпісання граматы, а другі чэхаславацкі даследчык схільны сапраўднай датай пачатку дзейнасці Літоўскай калегіі лічыць 1411 г.[11] Пад імем «Калегія каралевы Ядвігі» («Калегія каралевы», «Ерусалімская калегія» і інш.) гэта ўстанова праіснавала да 1704 г. Але на самай справе яе функцыяніраванне скончылася раней, пасля анексіі зямель чэшскай кароны Габсбургамі ў 1620 г.

Гісторыя Літоўскай калегіі даволі складаная. Калі першапачаткова яна была задумана як месца жыхарства і навучання бедных студэнтаў з Вялікага княства Літоўскага, то досыць хутка кантынгент навучэнцаў (12 чалавек) стаў папаўняцца за кошт асоб рознага паходжання, сярод якіх выхадцаў з Літвы было крайне мала. У 1413 г. Калегія аб'ядналася з інтэрнатам «чэшскай нацыі» (улічваючы шматнацыянальны склад Карлавага універсітэта, ім прыкладна з канца 1360-х гадоў разам з чэшскай былі вылучаны яшчэ тры «нацыі» — польская, саксонская і баварская, якія хутка сталі ўспрымацца як «нямецкая нацыя») [12]. Ці была ў Літоўскай калегіі ўласная бібліятэка — невядома [13]. Калі ў свой час З. Таболка адказаў на гэта пытанне станоўча, то ў цяперашні час Ф. Шмахел, Э. Урбанкава і некаторыя іншыя даследчыкі схільны лічыць, што члены Літоўскай калегіі сваёй бібліятэкі не мелі і карысталіся кнігамі суседняй калегіі «чэшскай нацыі» [14].

Звяртае на сябе ўвагу, што першыя жыхары Літоўскай калегіі, таксама як студэнты і выкладчыкі «чэшскай нацыі», былі звязаны з Янам Гусам і яго аднадумцамі. Адзначыць гэта цікава яшчэ і таму, што апошнія праяўлялі цікавасць да славянскага

---

[10] Svatoš M. Litevská kolej Pražské univerzity (1397—1622) // Praha—Vilnius: Sb. prací k 400 vyročí založeni univerzity ve Vilniusu. Praha, 1981. S. 19—20.

[11] Šapoka A. Karalienes Jadvygos Lietuvių kolegija Prahoje. Kaunas, 1939. S. 11; Polišenský J. Příspěvek k dějinám styků univerzity Karlovy a Vilniuské státní univerzity // Praha — Vilnius... S. 9; Svatoš M. Op. cit. S. 19.

[12] Краткая история Карлова университета. Прага, 1965. С. 14, 27, 31.

[13] Sinkevičius K. Lietuvių kolegijos biblioteka Prahoje // Bibliotekų darbas. 1978. Nr. 3. P. 32—33.

[14] Tobolka Z. Národní a univerzitný knihovna v Praze: Její vznik a vývoj. Praha, 1959. S. 26; Svatoš M. Op. cit. S. 27. Там жа бібліяграфія пытання.

свету і Літвы, дзе каталіцызм існаваў побач з праваслаўем. Самы блізкі паплечнік чэшскага рэфарматара Еранім Пражскі ў канцы 1412 г. зрабіў падарожжа ў Польшчу, Вялікае княства Літоўскае і на Русь. Спачатку спыніўшыся ў Кракаве, у красавіку наступнага года ён разам з літоўскім князем Вітаўтам рушыў далей, пабыў, у прыватнасці, у Віцебску і Пскове [15]. Еранім Пражскі вельмі цікавіўся звычаямі і абрадамі праваслаўнага рускага і беларускага насельніцтва, што, між іншым, было прад'яўлена яму як абвінавачванне на Канстанцкім саборы, па рашэнню якога ён у 1416 г. быў спалены на вогнішчы.

Пытанне пра ролю Яна Гуса і Ераніма Пражскага ў развіцці чэшска-літоўска-беларускіх культурных сувязей, якое прыцягвала ўжо ўвагу даследчыкаў, патрабуе комплекснага вывучэння, уключаючы сюды і больш аддаленыя вынікі (напрыклад, уздзеянне праведзенай Янам Гусам рэформы чэшскай арфаграфіі на выпрацоўку графікі літоўскай пісьменнасці). А пакуль абмяжуемся толькі канстатацыяй факта, што Літоўская калегія ў Празе з першых жа гадоў яе стварэння і звязаныя з ёю асобы з акружэння Яна Гуса апынуліся ў цэнтры кантактаў Чэхіі з землямі Вялікага княства Літоўскага і заходнімі абласцямі Рускай дзяржавы, якія прымыкалі да іх.

Такім чынам, да пачатку дзейнасці Ф. Скарыны кантакты паміж Вялікім княствам Літоўскім і Чэшскім каралеўствам мелі досыць моцныя традыцыі. Важна пры гэтым падкрэсліць, што адзначаныя кантакты, як шматбаковыя, так і двухбаковыя, працякалі ў рамках дзяржаўна-палітычных структур, якія існавалі тады, г. зн. паміж цэласнымі дзяржаўнымі комплексамі ці ў іх межах (чэшска-польскія, чэшска-літоўскія, чэшска-беларускія, але таксама літоўска-беларускія, польска-беларускія і г. д.). У святле гэтага выбар Ф. Скарынам месца сваёй першапачатковай дзейнасці здаваўся не толькі апраўданым, але для той эпохі і аптымальным. І не толькі таму, што беларускі першадрукар, як лічыў Добраўскі, мог у Празе разлічваць на бяспеку і падтрымку з боку Ягелонаў. Прычыны выбару былі больш глыбокімі.

Гарады ў Чэшскіх землях, нягледзячы на складанае ўнутрыпалітычнае становішча краіны на мяжы XV—XVI стст., пераўзыходзілі ўздым. Патрыятычна настроенае чэшскае мяшчанства не мела асаблівай схільнасці да каталіцызму і імкнулася пераважна да розных пратэстанцкіх канфесій [16]. Для Ф. Скарыны, які задумаў гіганцкую працу па перакладу і выданню «Свяшчэннага пісання» на роднай мове,— а ў вачах каталіцкай і артадаксальнай праваслаўнай царквы гэта здавалася ерассю,— такі горад, як Прага, быў найбольш прыдатны. Зразумела, Ф. Скарына мог бы выбраць і Венецыю, дзе славянскае кнігадрукаван-

[15] История Чехословакии. М., 1956. Т. 1. С. 146.
[16] Мыльников А. С. Чешская книга: Очерки истории. М., 1971. С. 77—81, 87—91.

не таксама паспяхова развівалася. Але сталіца Чэшскага каралеўства, апрача адзначаных вышэй абставін, была больш зручнай і з пункту погляду сувязей [17].

Прыведзеныя меркаванні маюць, на наш погляд, больш агульнае значэнне для распрацоўкі методыкі вывучэння гісторыі кнігі у народаў, якія ў сілу абставін, што рэальна складваліся ў тыя ці іншыя перыяды свайго развіцця, былі пазбаўлены дзяржаўнай незалежнасці, ці ўжо страціўшы, ці яшчэ не набыўшы яе. У такой сітуацыі недастаткова абмежавацца фактамі кніжнай справы толькі на дадзенай этнічнай тэрыторыі, без уліку іх больш шырокага этнакультурнага кантэксту. У літаратуры, напрыклад, ужо адзначалася роля буйных гарадскіх цэнтраў у гісторыі тых або іншых этнічных культур незалежна ад таго, ці знаходзяцца гэтыя гарады ў межах або за межамі адпаведных тэрыторый [18].

Тое, што беларускае кнігадрукаванне пачалося не на Беларусі, а ў Чэхіі, будучы потым працягнутым у Вільні, г. зн. зноў па-за межамі рассялення карэннага этнасу,— не выпадковасць, а ў пэўнай меры заканамернасць генезісу друкарскага спосабу кнігавытворчасці. У любым выпадку — адзін з яго рэальных варыянтаў, хоць канкрэтныя прычыны такога становішча маглі быць вельмі рознымі. Успомнім, напрыклад, што кнігадрукаванне на царкоўнаславянскай мове кірыліцай узнікла ў Кракаве, а першая кніга на літоўскай мове — «Катэхізіс» М. Мажвідаса — была надрукавана ў 1547 г. у Кёнігсбергу, які яшчэ і ў XVIII ст. адыгрываў важную ролю ў развіцці літоўскай нацыянальнай культуры,— акалічнасць, адзначаная ў мастацкай форме К. Данелайцісам у паэме «Поры года». Падобным чынам было і ў іншых народаў, перш за ўсё ў тых, якія знаходзіліся ў непаўнапраўным становішчы і вялі барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Нельга, напрыклад, вывучаць гісторыю чэшскай або славенскай кнігі, застаючыся ў геаграфічных межах гэтых народаў і ігнаруючы культурнае жыццё Вены як сталіцы імперыі, у якую яны ўваходзілі. Самая важная выснова, якая выплывае з аналізу пражскай місіі Ф. Скарыны, заключаецца якраз у тым, што вывучэнне гісторыі нацыянальнай кніжнай справы павінна весціся не толькі ў рамках дадзенай этнакультурнай традыцыі (гэта бясспрэчна), але і ў кантэксце сінхронных міжнародных сувязей да перыяду, які вывучаецца. Прычым не толькі міжэтнічных, але і міждзяржаўных, як на

---

[17] Падрабязней пра гэта гл.: Мыльников А. С. Франциск Скорина и Прага // Белорусский просветитель Ф. Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 24—33.

[18] Юхнева Н. В. О роли многонациональных городов Центральной и Восточной Европы в интеграционных этнических процессах (XVIII—XIX вв.) // У истоков формирования наций в Центральной и Юго-Восточной Европе: Общественно-культурное развитие и генезис национального самосознания. М., 1984. С. 17—28.

гэта справядліва звяртаў увагу яшчэ Добраўскі. У гэтым сэнсе яго гіпотэза можа быць слушна пацверджана гістарычнымі фактамі.

Гэта была рэчаіснасць, падобная на тую, якая прывяла Францыска Скарыну ў Прагу, дзе ім была адкрыта новая старонка ў гісторыі кнігі не толькі беларускай, але і іншых народаў, якія цяпер уваходзяць у Савецкі Саюз.





*А. А. ЛОЙКА (Мінск)*

## ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Тыя радкі пра захопленых у Прычарнамор'і ўзброенымі воямі нейкага военачальніка трох незвычайных палонных з музычнымі інструментамі, якія палонныя называлі гуслямі, а візантыйскія гісторыкі VI ст. нашай эры фуслямі, мог чытаць і сам Францыск Скарына. І называлі сябе тыя палонныя славянамі, і гаварылі, што няма жалеза ў іх краіне і што, не ведаючы вайны і любячы музыку, яны вядуць жыццё мірнае і спакойнае — з гуслямі ў руках: з музыкай, што абуджаецца ад перабору пальцамі струн гусляў...

Гісторыя, кажуць, не паўтараецца. Але, відаць, не ўсе людзі хочуць у гэта верыць. Ва ўсякім выпадку, думаецца, што быў сярод тых людзей і Францыск Скарына, калі праз дзесяць стагоддзяў пасля VI, а менавіта ў XVI ст.— 6 жніўня 1517 г. ў чэшскай Празе таксама ўзяў у свае рукі «гуслі»— скончаны ім друкам у гэты дзень Псалтыр. У прадмове да яго малады друкар тлумачыў, што назву сваю яго першадрук займеў ад інструмента, падобнага да гусляў, толькі дзесяціструнных, знарок нібы прынароўленых дзеля ўсхвалення дзесяці біблейскіх запаведзяў.

Больш ці менш струнаў было на полацкіх гуслях — якая розніца! Галоўнае, што гуслі як такія былі выбраны маладым друкаром у той час, калі быў ужо і шлях Альгердаў — з яго роднага Полацка да Крэўскіх, потым Медніцкіх, потым Вострабрамскіх варотаў у Вільні. Шлях Альгердаў — шлях мяча, што прадаўжаў сабой у іншым часе шляхі вояў, якія гайсалі ад Прычарнамор'я да Палесся і некалі паланілі і насельнікаў суровай Поўначы, што так любілі ракатанне гусляў.

Выбар, аднак, адбываўся не ў Празе: ён быў зроблены яшчэ ў Полацку — у Сафеі, як тады называлі Сафійскі Сабор, у галубніцы пры ёй — напэўна, той, дзе свой Псалтыр пісала Ефрасіння Полацкая. Шлях Ефрасінні да «гусляў» быў праз келлю. Келля, як і меч, не паланіла шкаляра-палачаніна, яго паланіла кніга. І яго жыццё пачыналася з узаемаадносін з царкоўнікамі, каб ахвяраваць сябе на ўслугу пасольству, каб уступіць у вельмі складаныя ўзаемаадносіны з духавенствам, свецкімі феадаламі і ўвогуле з людзьмі на зямлі, з богам, нібы існым у небе.

Думаецца, што не вельмі цяжка здагадацца, паўтарэння чаго ў гісторыі прагнуў Скарына, беручы ў рукі свой Псалтыр. Праз

дзесяць стагоддзяў, якія мінулі, шмат што змянілася ля Заходняга Акіяна, як называлі Балтыку нашы продкі. І славяне даўно ўжо на той час агоралі руду, пазналі меч — мячоў стала куды больш, чым гусляў; звону іх куды больш, чым музыкі. І верыў Скарына, што ў гісторыі паўтараецца не толькі злое, цёмнае, але і добрае, светлае; паўтараецца, павінна паўтарыцца і музыка, любоў да яе і толькі да яе, бо чалавек на гэтым свеце павінен жа прагнуць быць чалавекам, павінен жа прагнуць мудрасці, пекнаты, гармоніі. Павінен! А калі чалавек не разумее таго, што ён павінен, то трэба даць яму разуменне таго, абудзіць у ім гэта разуменне. Так менавіта пачынаўся Скарына — будзіцель, кніжнік, асветнік, пачынаўся на скрыжалях мудрасці і музыкі, веры ў мудрасць чалавека і красу мелодыі і літары, пачынаўся як гістарычная асоба і непаўторная індывідуальнасць.

На жаль, да апошняга часу на Скарыну як індывідуальнасць мы часта пазіраем яшчэ, так сказаць, зверху ўніз, а не знізу ўверх: пазіраем са свайго XX ст. праз XVIII, XVII, другую палавіну XVI, а не хоць бы з XV, XIV стст., прычым адасабляючы ад Асветніцтва XVIII ст. і барока XVII ст., ад XIII—XV стст. як «класічнага», скажам мы, сярэдзіннага для Заходняй Еўропы сярэдневякоўя. Скарыну мы пераважна звязваем толькі з Адраджэннем, толькі з Рэфармацыяй, маючы разгалінавана распрацаванае разуменне шкалы духоўных каштоўнасцей Адраджэння і акрэсленае, некалькі заштампаванае ўжо бачанне тыпажу рэнесансавага дзеяча; маючы нарматыўнае разуменне Рэфармацыі і тыпажу яе дзеячаў. І часта яшчэ, таго не заўважаючы, як бы ўціскаем у рамкі клетачак адпаведных схем Адраджэння, Рэфармацыі непаўторную матэрыю духоўнасці Скарыны, думаючы, што ўзвышаем, узвялічваем яго, а на самай справе прыніжаем, агістарычваем, не бачачы сапраўднай цэльнасці яго індывідуальнасці, арганічнай, натуральнай, якая толькі ж дэфармуецца ад прымерак да фігуры Скарыны то шатаў Леанарда да Вінчы, то сутаны Марціна Лютэра.

Сённяшняя найпершая задача скарыназнаўства бачыцца, такім чынам, перадусім у канкрэтызацыі агульных яго тэзісаў, у высвятленні рэальна-гістарычнага сэнсу нашых першасных слоў пра Скарыну—асветніка, гуманіста, дзеяча ўсходнеславянскага яднання.

Што дае найперш погляд на Скарыну ў гістарычнай перспектыве «знізу»? Ён дае найперш мажлівасць убачыць Скарыну ў сваім часе, які не горшы і не лепшы, чым які-небудзь іншы гістарычны час, і для Скарыны натуральны, у якога ён быў, як мы любім гаварыць, на пярэднім краі. Таго часу яшчэ не называлі тады сярэдневяковым, і не было яшчэ тады няўдзячных ацэнак сярэдневякоўя, якімі яно абрасло з часам. І быў у сваім часе Скарына як рыба ў вадзе. А ў вадзе як у вадзе — стрыжнявыя плыні, завадзі, невады. Скарына быў на стрыжні, трапляў у невады, а ў

канцы яго выкінула і на бераг, бы з роднай стыхіі на схілы Градчан. Ды час Скарыны быў яго часам, яго ўлоннем,— з мацярынскага ўлоння сярэдневякоўя ў яго развіцці на землях сённяшняй Беларусі ад X да XVI ст. і вырастаў Скарына як велічная постаць.

Якія мы ў сваім часе часта фанабэрлівыя! Як мы часам недаацэньваем вякоў мінулых! І асабліва чамусьці найменш удзячныя мы сярэдневякоўю, хоць яму б мы павінны былі быць, на наш погляд, у большай ступені ўдзячныя, чым антычнасці. І якраз ці не ў сувязі з агульнай недаацэнкай сярэдневякоўя мы і цягнем Скарыну ў «чыстыя» дзеячы Адраджэння, каб абвысакародзіць яго, бо якое ж, маўляў, высакароднае гэта сярэдневякоўе, якое ў нас асацыіруецца з інквізіцыяй, рэлігійным фанатызмам, талмудзістамі — і толькі. Асацыіруецца не без прычын: сярэдневякоўе якраз з найбольшай сілай сябе ва ўсіх гэтых цемрашальскіх іпастасях выявіла. Але, якраз спараджаючы такіх дзеячаў, як Скарына, сярэдневякоўе выяўляла і зусім іншую — перадавую, святлістую, магутную сваю існасць.

Скарына —асветнік. Яго асветніцтва—апагей развіцця сярэдневяковага рэлігійнага асветніцтва. Пачатак гэтага асветніцтва ў Белай Русі быў звязаны з літаратурнай дзейнасцю Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага, працяг — з асветніцкай дзейнасцю Скарыны — першадрукара, публіцыста, паэта. Гэта было рэлігійнае асветніцтва не чалавека ў сутане, а ў доктарскай мантыі. Яно працягвала рэлігійна-асветніцкія традыцыі Кіеўскай Русі і было ў пераемнасці з сярэдневяковымі ерасямі, ды ўласна ерассю не стала, хоць і ўзвышалася над царквой, касцёлам, пратэстанцкім зборам. І рэфармацыі асветніцкая дзейнасць беларускага гуманіста не спарадзіла, бо яе клопат быў не аб царкве як арганізацыі, а больш усеагульны, больш універсальны.

Мудрасць, на якую абапіраўся Скарына, была кніжнаю і народнаю; народная — практычна-жыццёваю, кніжная — біблейскаю і арыстоцелеўскаю. Мы часам нібы забываем, што ў адраджэнні антычных аўтарытэтаў у Адраджэння заслуга не з першых, бо на іх на ўсім працягу свайго развіцця абапіралася і сярэдневякоўе. На падвалінах арыстоцелеўскай мудрасці засталіся не толькі схаласты, Аўгусцін і Тамаш Аквінскі, але і шмат у чым секулярызаваная мудрасць кніжнікаў Францыі XIII—XIV стст. Сам Скарына сцвярджаў, што мудрасць боская і Арыстоцелева ёсць нібы ўся мудрасць свету. Але сам Скарына ў грамадскай і практычнай дзейнасці зыходзіў з мудрасці куды шырэйшай, чым у Бібліі. Само ж скарынаўскае ўзвелічэнне «прамудрасці божай» было і, можа, дасюль засталося самым патэтычным узвелічэннем розуму ўвогуле. І сапраўды, хто больш абсалютызаваў розум і яго сілу, ці рэлігійны асветнік Скарына, ці дзеячы Асветніцтва, энцыклапедысты XVIII ст.,— гэта яшчэ пытанне.

Складанасць праблемы індывідуальнасці Скарыны найперш у тым, што ён быў і дзецішчам сярэдневякоўя. І гэта няцяжка зра-

зумець, калі ўспомніць пра асобу Скарыны як прадстаўніка еўрапейскай інтэлігенцыі. Ужо ў XIII—XIV стст. ва універсітэтах Францыі тыя інтэлігенты гаварылі, што радзіма чалавека там, дзе веды. Становячыся ўсееўрапейскім інтэлігентам, Скарына з Полацка падаваўся ў Кракаў, Падую, Прагу; і гарады гэтыя сталі яго радзімай, бо нараджалі яго як інтэлігента. Ды знаходзячы сабе ўсё новыя радзімы, Скарына ніколі не забываўся аб горадзе, у якім нарадзіўся, аб зямлі, на якой нарадзіла яго маці, аб мове, з якое бог у свет яго пусціў. Французскія гуманісты сваёй глярыфікацыяй ведаў нібы забіралі радзіму ў сваіх вучняў. Лаціна як мова еўрапейскай сярэдневяковай культуры нібы забірала ў навучэнцаў іх радзіму. Само дагматычна-рэлігійнае сярэдневяковае навучанне з пракламаваннем таго, што чалавек на свеце — толькі госць, што яго вечны дом — неба, таксама ж забірала ў прававернага хрысціяніна яго радзіму. Ды ні Кракаўская акадэмія і Пудуанскі універсітэт, ні лаціна, ні бог не забралі ў Скарыны Радзімы, і ён у радзімым слове ласку да свае радзімай зямлі выказаў, становячыся пры гэтым ужо не сярэдневяковым чалавекам.

Выказаў жа Скарына сваю любоў да Радзімы з вывучкай сярэдневяковай. А то была вывучка немалая. Бо само ж еўрапейскае рэлігійнае асветніцтва проста абагатварала кніжнасць, слова, вуснамі аднаго са сваіх прадстаўнікоў Ермалая Барбары, заяўляючы: «Я ведаю двух багоў — Хрыста і славеснасць», вуснамі ж другога абвяшчаючы рыторыку рамяством, што суседнічае з геніяльнасцю. Менавіта з веданнем усіх правіл рыторыкі напісан Скарынам яго гімн роднай зямлі, які пачынаецца словамі: «Понеже от прирожения...» І мы яшчэ не ўчынілі вельмі просценькай справы — не разгледзелі гэтага шэдэўра, што пачынае нашу нацыянальную паэзію, у яго сувязі з таямніцамі паэтыкі, не разгледзелі прыёмаў інверсіі, раз'яднання, усячэння, неаднаразовага паўтарэння аднаго і таго ж слова, найдакладнейшага захавання клаўзул — перападу дыхання, клаўзул элегічных, клаўзул рыфмаваных і ўсіх астатніх правіл рыторыкі, якая ў выпадку са Скарынам сапраўды аказалася ў суседстве з геніяльнасцю.

Ёган Гутэнберг, «бацька» друкарскага варштата, казаў, што друкарства ёсць навука над навукай, мастацтва над мастацтвам. Скарына, прагны мудрасці, не мог не кінуцца да навукі над навукай — да друкарства, а маючы ў душы прагу пекнаты, ён браўся за друкарства як за мастацтва над мастацтвам. І разам з тым ён выступаў за ўзвышэнне майстра як творца формы, цудадзея, падобнага да бога-творца. І адсюль вынікала формула дзейнасці Скарыны-друкара — да мудрасці праз Біблію, да красы — праз Біблію, да творчасці — праз Біблію.

Скарына быў чалавекам, які гістарычнае значэнне сваёй друкарскай дзейнасці цалкам разумеў. Найпершы паказчык таго — наяўнасць канкрэтных датаў друку, менавіта найбольш гі-

старычных, першых, заключных. Пры тым нават і наяўнасць спецыяльнага выбару даты, асабліва першай — 6 жніўня 1517 г., дня спаса, ператварэння, далучэння да святла фаворскага. Будучы прававерным хрысціянінам, Скарына не мог працаваць у гэты дзень ці паказваць праваслаўнаму, што ён на свята працаваў. Але Скарына не зважаў на забароны, бо яму важная была сімволіка: шэсць дзён бог ствараў свет, шостага кончана ім, Скарынам, друкаванне Псалтыра; 6 жніўня — свята спаса-выратавання, дык дзеля выратавання душаў яго Псалтыр; 6 — свята прабражэння-пераўтварэння, дык дзеля пераўтварэння душаў, тварэння новых душаў, адрыву іх ад цемры і далучэння да святла — Псалтыр! Паняцці «пераўтварэння», «тварэння» ставілі думку на ўзмежак з паняццем «сатварэнне», а гэта ўжо набліжала чалавека да бога, адбывалася зблiжэнне бога-тварца і чалавека-тварца. І Скарына як тварэц друкаванай Біблii, не міргнуўшы вокам, акрамя выяў на гравюрах падабенства бога і яго пракрокаў змяшчае ў Біблii і свой партрэт, а на адным з дрэварытаў перад богам прадстаўляе сябе — укленчаным, з апушчаным долу зрокам, як і належала прававерному хрысціяніну. Ды такое было ўжо не ў рамках дагматычнага сярэдневякоўя, бо падымала чалавека з ніцасці, з праху да бога, ставіла чалавека поруч з богам. То было абагатварэннем чалавека, то было апагейнай старонкай у развіцці рэлігійнага асветніцтва на Беларусі, як і спалучэнне гэтага ж асветніцтва з красой.

Парыванні Скарыны да прыгожага былі часам проста ашаламляльнымі. Пад павевамі Адраджэння? Так, пад павевамі, але, можа, у большай ступені ад прыроджанага, ад укаранёнага ў характары нашых продкаў, ад таго, што ўжо было ў беларускім сярэдневякоўі. Прагу мудрасці вяшчаў для нашых продкаў Кірыла Тураўскі: «Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добрее книгий разум». Прагу красы да Кірылы Тураўскага выявілі ўжо хадакі, што выбіралі Кіеўскай Русі веру і пра якіх у летапісе чытаем: «Придохом в немци, и видехом в храмах многи службы творящь, а красоты не видехом никакоея же».

Так, дзеля паталення прагі красы сваіх суайчыннікаў ствараў хараство пражскай Біблii Скарына, ствараў Біблію, кажучы словам У. Караткевіча, прыўкраснай, памятаючы і пра Красную, самую магутную башту Полацка, і пра Красны мост з Верхняга замка ў Запалоцце «Краснае» было для Скарыны «прекрасным», хоць чырвоная фарба была для яго таксама прыгожай, бо «Песню песняў» друкаваў дзвюма фарбамі: і будзённай руплівіцай чорнай, і — для ўцехі вока — чырвонай, святочнай.

Пасля гэтага становіцца цалкам зразумелым, чаму Біблія Скарыны не магла не легчы на стол як краса і шрыфту, і буквіц-ініцыялаў, і гравюр, віньетак, заставак. Душа Скарыны інакш не магла.

1621 годам датуецца верш Яна Казіміра Пашкевіча з пачатковымі іх радкамі:

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною...

Вобраз квету асабліва стасуецца да русчызны Скарыны, да яго Бібліі, у якой кветкі стылізаваныя і жывыя паперадзе вобразаў фауны. Зноў жа ў сваіх адносінах да прыроды Скарына сярэдневяковы ці рэнесансавы, ці адно райскімі ўстаюць з гравюр і буквіц сонца і месяц, кветкі і дрэвы? Сабакагаловымі чалавекамі Скарына не палохае. Стылізаваныя кветкі на яго партрэце — гэта найперш узоры полацкага малявання. Нацыянальная стыхія, нацыянальны дух тут у Скарыны самыя адкрытыя, самыя моцныя, як і выява яго пачуццяў захаплення наддзвінскім шматквеццем — васількамі, рамонкамі, канюшынкамі, канваліяй, званочкамі, шыпшынай. І якраз у гэтай неабыякавасці да прыроды Скарына ўжо — не чалавек сярэдневяковы, а ў паэтызацыі прыроды менавіта родных мясцін — зноў жа патрыёт свайго Падзвіння.

І тут мы можам адно здзівіцца, як такі дзейны чалавек, як Скарына, мог так завастраць увагу сваіх гравёраў, чаляднікаў, калі не сам ён быў мастаком-выканаўцам, на тым, што ў стане руху не вельмі ўбачыш, запомніш. А самога ж Скарыну мы ніяк не можам уявіць у стане сузіральным, бо ён — сам рух, само дзеянне пад дэвізам: вера без справы, без дзеяння — мёртвая. Вера ў Скарыны была ў бога, ды не меншая — у сваю справу, у свой розум і пастулаты, сфармуляваныя апосталам Паўлам: «Кожны павінен разумець нас», «маючы... надзею, мы дзейнічаем з найвялікшай апантанасцю».

Скарына быў у сваёй дзейнасці апантаны да авантурніцтва. Яго друкі ў Празе і Вільні былі ўсё ж чынам яго маладосці, і Скарына ніяк не мог хацець таго, каб у памяці нашчадкаў гэты ягоны чын застаўся нібы забаўка, грахі ягонай маладосці, а не вялікі пачатак усяго яго жыцця, тым больш што сам ён, Скарына, не мог не імкнуцца да выдатнага, поўнасцю завершанага, дасканалага, памятаючы, як і ўсё сярэдневяковае, прыказку: усё, што складаецца з трох, выдатнае. І пагэтаму так настырна, так смела і без перадыху дзейнічаў Скарына, прагнучы трэцяга друку. Рызыка пры гэтым была яго наканаваннем, і ў рызыцы ён быў прыгожы, бо не быў меркантыльны, эгаістычны, як крайні індывідуалізм і меркантылізм, што вялі да абагатварэння дуката, будучы ў «голай» існасці «чыстым» прадуктам Адраджэння як эпохі росту буржуазных вытворчых адносін.

Старэйшае па часе скарынаўскае бачанне чалавека пры богу як богу роўнага, у прамудрасці божай, дасканаласці, думаецца, сапраўды прывабней буржуазнай маралі, спароджанай пенезем, які збыдляўся, становячыся чыстаганам, трапляючы ў рукі ліхвяра і абясцэньваючыся, пры абясцэнцы сваёй яшчэ больш эксплуатацыю эксплуатуемых узмацняючы. І тым больш рызыкоўна «падцягваць» індывідуальнасць Скарыны да характарыстык заходнееўрапейскага Адраджэння, бо ўсходнеславянскае Адра-

джэнне — гэта зусім не дубль Адраджэння італьянскага, нямецкага, а з'ява цалкам аўтахтонная, арыгінальная, на сваім гісторыка-культурным падглеб'і, хоць і пад уплывам заходнееўрапейскага Рэнесансу яно фарміравалася. І што гэта так, у цэлым вельмі хораша лішні раз даказвае таксама і гісторыя росту Скарыны як індывідуальнасці, якую ў агульных рысах мы акрэслілі б так: пад павевамі заходнееўрапейскага гуманізму сын улоння асобнага, для Заходняй Еўропы — варварскага, падаецца ў само гарніла заходнееўрапейскага гуманізму, але, прайшоўшы яго, вяртаецца ў сваё радзімае сярэдневякоўе, каб стаць тут у шэраг першых дзеячаў усходнеславянскага Адраджэння. «Варвар застаўся варварам!»— маглі злосна гаварыць пры гэтым яго супрацiўнікі, але Скарына на самай справе вырас у найярчэйшы квет сярэдневяковай русчыны, што ўступала ў сваё Адраджэнне, — русчыны, звязанай, па-першае, з агульначалавечым зместам, які ёсць у Бібліі, па-другое, з прагай нашых продкаў музыкі, лепаты, мудрасці, дасканаласці, гармоніі.

Гаворачы пра індывідуальнасць Скарыны, мы павінны бачыць яе і ў розных чарговых іпастасях: полацкі шкаляр, кракаўскі бурсак, чалавек у мантыі. Адысей у мантыі і ў купецкім сінім кабаце або ў кажуху, лекар, каралеўскі сакратар, сакратар віленскага біскупа Яна, каралеўскі батанік на Градчанах. Адзенне, аднак, унутранага свету яго не змяняла, як не змянялі яго і няўдачы.

Багемская камора на Градчанах Скарыну не мілавала. Але трагічнаю яго фігуру рабіла не гэта: самавыгнанцам ён быў на Градчанах. Не банітам, як казалі тады, бо ніхто яго не асуджаў на выгнанне за здраду, як толькі ён сам сябе сваёй адлучкай у Маскву, у якую ён не накіравацца не мог, толькі ў Маскве бачачы мажлівасць поўнага ўвыдатнення свайго, поўнага звяршэння ідэі свайго жыцця. У Маскву Скарына паехаў, відаць, пасля поўнага свайго выйгрышу ў так званай пазнанскай эпапеі, пасля атрымання ім ад караля Жыгімонта І дзвюх прывілеяў. У любым горадзе мог з ласкі караля асесці Скарына, любую малую ці вялікую справу рабіць, вызвалены ад юрысдыкцыі ўсіх чыноў і ад падаткаў таксама. Ды Скарына выбраў горад, які каралём Жыгімонтам не прадугледжваўся. Сам выбар гэтага горада перакрэсліваў прывілеі Жыгімонта, а тым больш хаджэнне ў яго. Але так як ідэя жыцця беларускага гуманіста, справа Скарыны не магла канчаткова здзейсніцца без далучэння да ўсяго абсягу ўсходніх славян, ён пайшоў у Маскву. А не пайшоў бы, ці сцвердзіў бы ён сябе як дзеяч яднання трох брацкіх народаў не мечам, а кнігай — мудрасцю, пекнатой, ідэяй гармоніі?

Фёдара Курыцына ў Маскве ўжо не было. Максім Грэк быў у зняволенні. Паміраў у Волаку Ламскім ці памёр ужо вялікі князь Васіль Іванавіч. І была, пэўна, сустрэча з мітрапалітам Даніілам, і Скарынава мара аб трэцядруку згарэла ў звычайным сярэдневяковым кастры. Сярэдневякоўе адхіляла Скарыну ад

сябе, хоць ён быў з яго ўлоння. У Маскве быў толькі кароткі фінал таго адхілення, бо пачатак яго быў у Вільні. Феадалізм увайшоў тут у поўную сілу не дзеля таго, каб спрыяць ідэі Скарыны з яго службай паспольству, з яго мірнай місіяй кніжніка. Таму Скарыну і не падумалі падтрымліваць ні князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, ні Радзівілы, ні Альбрэхт Гаштольд, ваявода віленскі, канцлер усёй дзяржавы. Такім чынам, і ў гэтай сувязі Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае нібы незаконнанароджанага сына свайго Скарыну ад сябе адкідвала: Скарыну адкідвалі ад Белай Русі цёмныя феадальныя сілы краіны. У гэтым была драма і трагедыя Францыска Скарыны як выдатнай індывідуальнасці.

Ды дух яе заставаўся непераможным. Не сумняваемся, што прага трэцядруку турбавала Скарыну і на Градчанах, і таму ён сышоў і з іх. Нойштадт — назва апошняга горада, вядомага нам на жыццёвым шляху Францыска Скарыны. Нойштадт!.. Новы горад!.. Красамоўна вяжацца назва таго горада да сімволікі навіны, навізны, наватарства, адкрывальніцтва новых шляхоў і новых часін!.. Скарына не быў бы Скарынам, калі б не шукаў Нойштадта — новага горада. Бо ў пошуках новага найперш і выяўляла сябе ўся светлата Францыска Скарыны як індывідуальнасці, як вялікага грамадскага дзеяча, першадрукара, мысліцеля, асветніка-гуманіста, мастака і майстра эпохі ўсходнеславянскага Адраджэння.





*У. А. КАЛЕСНІК (Брэст)*

## ІДЭАЛ СКАРЫНЫ

Разважаючы пра ідэал Скарыны, трэба мець на ўвазе, што мы пераносім у эпоху Адраджэння сучасны тэрмін. Сучаснікі Скарыны ўжывалі паняцце «ідэя»— як яе разумеў Платон, г. зн. недасяжны ўзор, створаны ўяўленнем дасканалы прадмет, з'ява ці тып адносін, якія могуць існаваць толькі ў сферы духу, а пры спробе здзяйснення страчваюць сваю дасканаласць, становяцца толькі матэрыяльнымі ценямі духоўных прататыпаў — ідэй. У сярэднія вякі св. Аўгусцін уключыў Платонава паняцце дасканалай ідэі ў тэалагічную дактрыну — і атрымалася, што абсалютная дасканаласць можа быць толькі ў галаве бога. Паняцце «ідэал» пачало ўваходзіць у філасофскі лексікон у XVII ст. і азначала найвышэйшую мэту паводзін чалавека або сацыяльнай групы ў сферах грамадскага ці прыватнага жыцця. Ідэалам магла называцца звышцяжкая, нездзяйсняльная задача. Ідэал супрацьпастаўляўся рэчаіснасці як нешта жаданае, але нязбытнае. У такім сэнсе найчасцей і сёння ўжываецца гэта паняцце.

Увогуле ажыццявімасць ідэалу мае дыялектычны характар: ідэал, які здзейсніўся, аўтаматычна перастае быць ідэалам, траціць «ідэальнасць», г. зн. загадкавую пабуджальную і захапляючую сілу, пераходзіць з будучыні ў сучаснасць і становіцца нормай, звычаем, стылем паводзін. Ідэал можа толькі тады запальваць і заклікаць, калі здаецца нам адначасна здзяйсняльным і няздзейсненым, дасягальным і недасягнутым. Праўда, наяўнасць ці адсутнасць жыццёвага рэалізму — толькі адзін аспект ідэалу, а яго сутнаснае ядро — гуманістычная каштоўнасць. Ідэі сацылістаў-утапістаў нездзяйсняльныя, часта наіўныя, але звычайна захоўваюць і для нас, рэалістаў, прыхільнікаў навуковага рацыянальнага бачання свету, прывабную сілу — як высакародныя ўзлёты чалавечага духу.

Сёння папулярным стаў парадокс, нібы ідэал — гэта нешта нематэрыяльнае, але надзвычай рэальнае. Ідэал — рэальнасць духоўная, нешта неад'емнае, без чаго не можа свядома здзяйсняцца чалавечы лёс. Ідэалы надаюць жыццю сэнс, мэту, патрэбу прагрэсіраваць, ісці ўперад і вышэй.

Тое, што ў філасофскім лексіконе эпохі Адраджэння не існаваў тэрмін «ідэал», не азначае, што духоўнае жыццё гэтай пары

было пазбаўлена ідэальнасці. Іменна духоўным пачаткам пераўзышла культура Адраджэння антычнасць, якую бралася ўсяго толькі адрадзіць, вярнуць з забыцця, паўтарыць. Мастацкае і грамадскае мысленне часоў Скарыны практычна ўжывала дзве формы абагульнення — ідэалізуючую і тыпалагізуючую, хоць і не дайшло да тэарэтычнага іх абгрунтавання, не назвала іх адпаведнымі тэрмінамі. Узоры абагульняльнай ідэалізацыі можна назіраць у манументальных вобразах Мікель Анджэла і ў сімвалічнай таемнасці карцін Эль Грэка і Гераніма Босха, а на свой лад — і ў карнавальнай гратэскнасці твора ў Франсуа Рабле. Падвядзенне рэальнага пад ідэал ці пад антыідэал — вось адзін са спосабаў пазнання сэнсу і сутнасці. Ідэалізуючая тыпізацыя ўваходзіла ў мастацтва эпохі Адраджэння як прадаўняя спадчына анімістычна-фальклорнага мыслення і як традыцыя сярэдніх вякоў, субстрат духоўнасці, якім Адраджэнне ўзвышалася над залішне цялеснай антычнасцю. Да ідэалізуючага тыпу пазнання грамадскай рэчаіснасці трэба аднесці «Горад сонца» Тамаза Кампанелы, «Краіну Утопію» Томаса Мора, праграму «Царства божага на зямлі» Томаса Мюнцэра, дзяржаву без войнаў Фрыча Маджэўскага, Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. Паралельна з падвядзеннем пад ідэал грамадская і мастацкая думка эпохі Адраджэння знаходзіць рэалістычны спосаб абагульнення — тыпалагізацыю. Яе сутнасць — выдзяленне са з'яў характэрнага, дамінуючага. Гэты спосаб можна назіраць у творах Леанарда да Вінчы, Тыцыяна, Бакачыо. Наяўнасцю тыпізуючага абагульнення рэнесансавае мастацтва і мысленне ўзвышаліся над сярэдневяковым. Аднак неабходна мець на ўвазе, што само рэнесансавае мысленне мела ўсё яшчэ мастацкі, вобразны склад.

Вобразнае ўяўленне мае здольнасць ідэалізаваць, узнімаць з'явы да ўзроўню дасканаласці або зніжаць іх, дэгераізаваць. Незалежна ад таго, падвышае творчая думка ці зніжае, або, урэшце, падае прадметы, з'явы і адносіны адпаведнымі жыццю, яна сама застаецца рэальнасцю. У выпадку адэкватнасці вобраз увасабляе здзейснены ідэал, а ў выпадку падвышэння ці зніжэння — мадэль аптымістычна ці песімістычна ўяўляемай будучыні. Рэальным тут застаецца сам духоўны акт спасціжэння рэальнасці.

У літаратуразнаўчых працах да гэтага часу ўсё яшчэ жыве погляд, быццам ідэалізуючае абагульненне варожае абагульненню тыпалагізуючаму і ў прынцыпе горшае за яго, бо нясе ў сабе сіндром ідэалізму. Фальклор лічыцца несумяшчальным з пісьмовай літаратурай, рамантызм — з рэалізмам і г. д. Сапраўды, у фальклорным, ідэалізуючым абагульненні дамінуе агульнае і схематызуецца індывідуальнае, але ж у сваю чаргу ў тыпалагізуючым літаратурным абагульненні можа быць дапушчана празмернасць індывідуалізаванасці, натуралістычна падвышана прыватнае. Будучы прыхільнікам каардынацыі, а не субардынацыі

розных форм мастацкага абагульнення, я радуюся, сустракаючы ў працах сучасных даследчыкаў спробы пагадзіць ідэалізуючае і тыпалагізуючае абагульненні, паколькі яны не выключаюць адно другога, а могуць узаемна дапаўняцца. Цікава і, на наш погляд, пераканальна гаворыць пра гэта Арсеній Гулыга ў артыкуле «Крытэрый — чалавечнасць» [1], прысвечаным тэорыі Ф. Шылера аб наіўным і сентыменталісцкім мастацтве. Гуманнасць мэт, а не ідэалізаванае і жыццепадобнае ўвасабленне ідэй,— вось што прапануецца лічыць галоўнай рысай ідэалу і змястоўнасці мастацкага вобраза ў цэлым.

Кароткая літаратурная энцыклапедыя трактуе эстэтычны ідэал як катэгорыю, што не існуе ў жыцці незалежна. Эстэтычны ідэал залежны ад ідэалу сацыяльнага, грамадскага, этычнага. Ядром ідэалу з'яўляецца канцэпцыя чалавека. Іменна з такой пазіцыі, нам здаецца, цікава глянуць на блізкія Францыску Скарыну рысы ідэалу жыцця, чалавека і мастацтва. Гэта дасць магчымасць выявіць пераклічку Скарынавых ідэй з днём сённяшнім. У свядомасці сённяшняга дня праблема ідэалу выступае як духоўнае і бездухоўнае, старое і новае мысленне, індывідуалістычнае і грамадскае, нацыянальнае і агульначалавечае. Цікава пашукаць у Скарыны мадэлей дасканалай асобы, узорнага жыцця, ідэальных паводзін, вытокаў патрыятычнай легенды вызваленчага руху на Беларусі — гістарычнага самасцвярджэння народа, яго мовы і культуры.

Звярнуўшыся да Скарыны, мы без цяжкасці знойдзем у яго творах вобразны рад, у якім вылучаюцца як героі манументальнага плана — Майсей, Саламон, Пталамей, Ісус Сірахаў, Іоў, Юдзіф, евангеліст Лука і апостал Павел, так і постаці, паказаныя ў межах зямной, жыццёвай меры,— Мардахей, Руф, прарок Валаам і інш.

На нашу думку, сэнс разглядаць Скарынаў ідэал чалавека як меру ўсіх рэчаў. У якасці апорных варта прыняць тры тыпы постацей: дзяржаўнага дзеяча, узорнага грамадзяніна-патрыёта і, урэшце, вучонага, збіральніка мудрасці, асветніка. Кожнае з названых увасабленняў ідэалу мае свае антыномы: плюсавая мадэль суправаджаецца мінусавай. І тыя і другія формы паходзяць з біблейскіх міфаў, антычнай культуры, а таксама з айчынных традыцый, народных звычаяў, нораваў, уяўленняў.

Пазітыўная мадэль ідэалу дзяржаўнага дзеяча, цара ў Скарыны — гэта заканадаўцы і мудрацы Майсей, Саламон, Пталамей Філадэльф і Эверэт, Жыгімонт Стары і інш. Агулам яны падыходзяць пад тыпалагічную мадэль цара-заканадаўцы, цара-законніка і міралюбца, здольнага не ўзвышаць сваю персону над светам, а прабываць у межах чалавечай сутнасці. Гэта дазваляе ўладару быць аб'ектыўным і судзіць падданых мудра, паводле закону, які адпавядае звычаям і традыцыям гэтай зям-

[1] Иностр. лит. 1986. № 9.

лі, закону справядлівага, напісанага не для ўласнай карысці ўладара, а для агульнай патрэбы, для ўстанаўлення ладу і гармоніі ў краіне.

Негатыўная мадэль, антыідэал цара — гэта агрэсіўны заваёўнік, тыран-беззаконнік, які нішчыць, разбурае, захоплівае і кіруе падданымі па сваёй прыхамаці, страшыць і патрабуе ад іх сляпога падпарадкавання, пакорлівасці. Узоры дэспатычных цароў Скарына таксама знайшоў у Бібліі — гэта і фараон, які загадаў павітухам выкідваць у рэчку немаўлятак-хлопчыкаў, прынятых ад парадзіх-ізраільцянак, гэта і Артаксеркс, Камбіс або Навухаданосар — заваёўнік Іерусаліма, разбуральнік храма Саламонавага, рабаўнік, які зрабаваў рытуальны посуд са святыні пераможанага народа і захацеў быць не толькі царом, але і богам.

Прыхільнасць Скарыны да мудрага ўладара лагічна павінна азначаць і прызнанне манархіі дасканалай формай дзяржавы. Гэта доўгі час шакіравала дагматыкаў, якія не маглі пагадзіць такога факта са схемай. Скарына ж тут перадусім выступае як вучоны-тэарэтык, што шукае ідэальныя формы дзяржаўнага ўладкавання і развіцця. Матэрыялам, на які абапіралася яго думка, былі біблейскія кнігі, працы Арыстоцеля, магчыма, і Дэмакрыта, іх успрыманне вучонымі-гуманістамі і жывы вопыт дзяржаватворчасці ў Вялікім княстве Літоўскім, Польскай Кароне і ў еўрапейскіх краінах яго часу.

Арыстоцель вылучыў тры формы дзяржаўнага ўладкавання — манархічную, арыстакратычную і дэмакратычную. На яго думку, кожная з іх можа быць станоўчай пры ўмове, што будзе адпавядаць інтарэсам усяго грамадства, а гэта магчыма толькі тады, калі дзяржавай кіруе не тыран па сваёй прыхамаці, не каста і нават не маса, а закон. Закон у разуменні Арыстоцеля — «гэта вольны ад безадказных спакусаў розум». Там жа, дзе разумныя законы не створаны або парушаюцца, узнікаюць злаякасныя адхіленні і захворванні дзяржаўнага арганізма: манархія, або царская ўлада, перараджаецца ў тыранію, арыстакратыя — у алігархію, а дэмакратыя, дзе «просты народ, з'яўляючыся манархам, імкнецца кіраваць па-манаршаму (бо ў гэтым выпадку закон не кіруе ім) і становіцца дэспатам (чаму і падхалімы ў яго паважаюцца), і такі дэмакратычны лад больш за ўсё нагадвае з асобных відаў манархіі тыранію, таму і характар у іх адзін і той жа: і крайняя дэмакратыя і тыранія паступаюць дэспатычна з лепшымі грамадзянамі» [2].

Разважанні Арыстоцеля наводзілі сучаснікаў Скарыны на думку, што нельга лічыць дасканалай дзяржавай усялякую рэспубліку і ўсялякую манархію. З другога боку, прыклад італьянскіх гарадоў-дзяржаў нібы пацвярджаў пазіцыю антычнага фі-

---

[2] Аристотель. Соч.: В 4 т. М., 1983. Т. 4. С. 497. Далей цытаты — па гэтаму выданню, том і старонка падаюцца ў тэксце ў дужках.

лосафа: рэспубліканская ўлада ў Фларэнцыі аказалася няўстойлівай — яна раптоўна ўступіла месца тыраніі Медычы, арыстакратычная ж Венецыя, якой кіравалі некалькі соцен старадаўніх родаў, умацоўвала сваё становішча, няспынна багацела, будавалася, клапацілася пра росквіт навук і мастацтваў. Скарына не без гордасці мог усведамляць, што і яго краіна, Вялікае княства Літоўскае, а таксама Польская Карона функцыяніруюць як абмежаваныя і ўмацаваныя звычаямі і законамі канстытуцыйныя манархіі. Законы гэтыя далей-болей распрацоўваліся, удасканальваліся, упарадкоўваліся. Гістарычным прататыпам здаровай дзяржавы магло выступаць у свядомасці палачаніна княства з вечавой традыцыяй, якая дзейнічала як закон, што засцерагаў грамадзян ад дэспатычных імкненняў уладара. У старажытным Полацку панаваў не князь, а звычай, вечавая традыцыя, што была раўназначнай закону; князь жа быў абавязаны выконваць пастановы веча. Дасканалыя законы павінны адпавядаць звычаям і традыцыям народа. Звычай у Арыстоцеля і Скарыны — вышэй закону. Закон, які пярэчыць звычаям, не можа мець сілы, бо людзі схільны паступаць паводле звычаяў, ігнаруючы закон. Мудры ўладар у Скарыны і Арыстоцеля абапіраецца на створанае народам звычаёвае права — аснову правапарадку і грамадскай справядлівасці.

У часы Скарыны ў Вялікім княстве Літоўскім ішло інтэнсіўнае заканадаўчае ўладкаванне: княжацкая рада перарастала з дарадчага органа ў распарадчы, у княжацкай канцылярыі і на шляхецкіх павятовых сейміках ствараўся Літоўскі Статут. Завяршальны этап работы над Статутам узначальваў канцлер Альбрэхт Гаштольд, а вялася яна ад імя вялікага князя і караля Жыгімонта Старога. Першая рэдакцыя Статута была закончана ў 1522 г., але да 1529 г. ішлі абмеркаванні яго тэксту на сеймах у Гродне, Брэсце, Вільні, уносіліся папраўкі — такім шляхам паспалітая шляхта змагалася за роўныя правы. Скарына, жывучы з лета 1520 г. у Вільні, быў сведкам, а можа, і ўдзельнікам дапрацовак Статута. Магчыма, таму ён з павагай прыгадаў імя Жыгімонта Старога ў пасляслоўі да Апостала. Пазней асветнік аказаўся і аб'ектам здзяйснення каралеўскай справядлівасці, аховы яго асобы і годнасці ад хіжых крэдытораў брата Івана.

Мастацтва эпохі Адраджэння вылучае з ліку біблейскіх герояў Майсея, Давыда і Саламона. Гэтай пазіцыі прытрымлівалася і гуманістычная думка Рэчы Паспалітай часоў Жыгімонта Старога, пра што сведчаць упрыгожанні каралеўскай капліцымаўзалея (Майсей мае там партрэтнае падабенства да Жыгімонта, а цар Давід паказаны гусляром). Скарына ў сваіх прадмовах выводзіць на першы план тыя ж постаці, толькі ставіць на іх свае акцэнты. Майсей у яго — першы ў свеце заканадавец. Такая ацэнка не адпавядае гістарычнай праўдзе, бо сёння вядома, што кодэкс Хамурапі старэйшы за Майсеевы каменныя «скрыжалі», але Майсеева «першынства» адпавядала стану гі-

старычных ведаў Скарынавай эпохі. Варта падкрэсліць, што ў каментарыях да кніг Майсея Скарына разглядае праблему ахвяр і ахвярнасці. Майсей урэгуляваў рытуал прынясення богу ахвяр, увёў чын вярхоўнага жраца і побач з ахвяраваннем (спальваннем) жывёл і раслін увёў ахвяры духоўныя — абрады, малітвы. У прадмове да кнігі «Левіт», якая ў стараяўрэйскім арыгінале называлася «Прызванне», а па латыні «Liber ofertorius» (кніга ахвяр), Скарына і сваю дзейнасць па выданні Бібліі абвясціў ахвярай духа, якую ён прынёс на карысць і славу свайму народу: «Також и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им»[3].

Давыд згадваецца ў прадмовах да розных кніг, але не славіцца як ідэальны цар. Нават яго перамогу над Галіяфам Скарына не каменціруе, а толькі прыгадвае. Стрыманасць вучонага можна вытлумачыць тым, што Давыд у барацьбе за панаванне парушаў законы маралі і добрыя звычаі: ён вёў міжусобныя войны супраць уласных сыноў, паслаў на смерць сотніка Урыю, мужа прыгожай Вірсавіі, каб зрабіць яе каханкай, а няшлюбнага сына пасадзіў на трон, хоць той быў дзесятым па ліку, а не першым, як патрабаваў звычай. Скарына не прыгадвае прыкрых старонак біяграфіі цара. Для яго Давыд — паэт і музыка, «божий певца» на троне, аўтар цудоўных псалмоў, якія ачышчаюць і лечаць збалелую душу, а цела «пением веселят». Аспект успрымання вобраза атрымліваецца выбіральным і таму асабліва паказальным для Скарынавага разумення ідэала чалавека як носьбіта духоўнасці. Рытуальныя псалмаспевы і іграна музычных інструментах, уведзеныя Давыдам у царкоўны абрад, сталі новымі відамі духоўных ахвяр, што з часоў Майсея выцяснялі колішнія ахвяры рэчыўныя, крывавыя.

Самым блізкім Скарыну біблейскім царом аказаўся Саламон. Ён не толькі заканадавец і пясняр на троне, Саламон — мудрэц, стваральнік трох тысяч прытчаў, што не ўступаюць псалмам, а яшчэ — вясельных спеваў («Песня песняў»), ды, урэшце, «Эклезіяста», кнігі глыбокіх філасофскіх роздумаў пра два тыпы ідэалу жыцця.

У «Прытчах» Саламон «пишеть о науце людей младых, якобы отець сына научаючи единаго каждого особно» (28), у «Эклезіясце» «пишет о науце всех людей посполите сущих в летех мужства, приводячи им на паметь суету, беду и працу сего света» (28). Скарына падкрэслівае, што мудры цар не раіць бачыць сэнс жыцця і яго ідэал «в царствах и в пановании», «в богатстве и в скарбох», «в роскошном едении и питии и в любодеянии». Асноўнай ідэяй мудрай кнігі ён лічыць адмаўленне ад цялеснага, бездухоўнага жыцця і пошукі скарбаў духа, мудрасці. Формулай

---

[3] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 82. Далей цытаты — па гэтаму выданню; старонка ўказваецца ў дужках.

асуджэння выступае славуты афарызм: «Суета над суетами и все суетно и утиснение духово» (28). Пагоня за матэрыяльнымі дабротамі прыгнятае дух, які належыць вызваліць у сабе шляхам руплівага збірання мудрасці.

Вялікай пашанай карыстаецца ў Скарыны егіпецкі цар Пталамей Эверэт, апякун вучоных, збіральнік славутай Александрыйскай бібліятэкі. Ён, як і Саламон, хацеў «оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царских сокровищах» (24). Сам Пталамей не напісаў мудрай кнігі, але пад яго апекай, у ягонай кніжніцы стварыў такую кнігу Ісус Сірахаў. Скарына паставіў яе нароўні з прытчамі Саламона і жыццёвай мудрасцю Арыстоцеля.

Лёгка заўважыць, што ў Скарынавых характарыстыках біблейскіх цароў падводзіцца база пад узвышэнне яшчэ кагосьці, хто хоць па закону лічыцца царскім падданым, але фактычна можа быць роўным цару, стаўшы яго дарадчыкам ці нават настаўнікам. Такімі людзьмі станавіліся ў эпоху Адраджэння вучоныя — зусім новая, невядомая сярэдневякоўю сацыяльная праслойка. Скарына, аднак, нідзе не выказаўся ў падтрымку утапічнай ідэі Платона, згодна з якой філосафы маюць выключнае права на кіраванне дзяржавай. Тым не менш Скарына сугучны з Міколам Гусоўскім, які ў прадмове да «Песні пра зубра» параіў каралеве Боне стаць апякункай мастакоў і вучоных ды такім чынам забяспечыць сабе і краіне славу і даўгавечнасць. Асвечаны народ, на яго думку, нават калі прайграе вайну, можа заваяваць заваёўнікаў духоўна — падобна таму, як пераможаныя грэкі пакарылі рымлян.

Узорны грамадзянін у Скарыны — гэта чалавек свабодны, ён не хоча быць пакорным выканаўцам нават царскай волі, бо шчасце бачыць у свядомай ахвярнай дзейнасці, карыснай свайму народу. Сакрэт шчасця, паводле Скарыны,— у згоднасці асабістых імкненняў з грамадскім абавязкам. Кожны чалавек «свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть» (132). У прадмове да Апостала Скарына падкрэслівае наказ ранніх прапаведнікаў хрысціянства, «дабы иные на свете збирали сакровішча, иные крепости, иные богатства, иные премудрости... не боячися мучителей ни смерти» (120). Увасабленнем збіральнікаў духа выступаюць у Старым запавеце, акрамя цароў, Юдзіф, Ісус Сірахаў, у Новым — апостал Павел і евангеліст Лука.

Сярод вобразаў евангельскіх легенд Скарына аблюбаваў не цвёрдага, валявога апостала Пятра (імя ўтворана ад лацінскага petrus 'скала') і не містычнага Яна, аўтара «Апакаліпсіса» — страшнага прароцтва пра канец свету, а нястомнага вандроўніка, руплівага прапаведніка любві і згоды Паўла і яго спадарожніка, адукаванага эліна-медыка Луку, які збіраў легенды пра Хрыста на Блізкім Усходзе — на манер сучасных фалькларыстаў. Абодва яны не бачылі Хрыста, толькі па чутках і роздуму

дайшлі да гуманістычнай вартасці утапічных раннехрысціянскіх ідэй абшчыннага «камунізму» і прапаведавалі перавагу братэрства і любві над жорсткасцю, даравання віны над помслівасцю, якая складала аснову старазапаветнай рабаўласніцкай маралі з яе дэвізам: «Вока за вока, зуб за зуб».

Павел быў адукаваным знаўцам старажытнаяўрэйскіх і грэчаскіх кніг, побач з прапаведніцкім прызваннем ён выконваў яшчэ простую працу ткача і ганарыўся тым, што сваімі рукамі зарабляе на хлеб, а не жыве, як вандроўныя сафісты-шарлатаны, з аднаго прапаведніцтва. Ён шмат разоў пакідаў Іудзею, адпраўляўся ў місійныя падарожжы па краінах Малой Азіі і Паўднёвай Еўропы і, хоць не быў красамоўным, паланіў сэрцы язычнікаў шчырымі гутаркамі і пасланнямі, у якіх даводзіў роўныя магчымасці яўрэяў і элінаў дайсці да «ласкі божай», г. зн. да ісціны і дабрадзейнасці. У маладыя гады Павел быў фанатычным іудзеем і толькі пад уздзеяннем калектывісцкіх нораваў ранніх хрысціян перавыхаваўся, набыў цярпімасць і павагу да іншаверцаў. Нават разыходжанні сярод аднадумцаў Павел стаў прызнаваць карыснай справай, паколькі ў дыскусіях выяўляецца ісціна, набываецца здольнасць думаць. «Належна быць і разнадумству паміж вамі, каб адкрыліся сярод вас дасканалыя»,— піша ён у першым пасланні да карынфян.

Вобраз Паўла ўспрымаецца Скарынам як ідэал чалавека, патрабавальнага да сябе і велікадушнага, цярпімага да слабасцей іншых. Павел, заўважае Скарына, быў аскетам, не меў сям'і, не паддаваўся зямным спакусам і «девицтво выхваляет над иные чины...», аднак «не хулячи женатых, но в чем кто изволит, в том да пребываеть». Павел наказваў спрэчнікам вырашаць складаныя канфлікты, добраахвотна аддаючыся на суд абшчыны: «естли бы ся пригодила между ними пря, да с обу сторон свою братию хрестян посадить, и что тые знайдут, да терпят» (131). Павел — прапаведник згоды: «с нея же все доброе всякому граду и всякому собранию приходит, незгода бо и наибольшие царства разрушаеть» (13).

Пра евангеліста Луку Скарына гаворыць, што той быў «лекарем телесным доскональым» і ўмеў падыходзіць да хворага як да істоты разумнай — «знал убо, иже не толико жив ест человек хлебом или лекарством, но более всяким словом». Ён сам «писал ест о слове божием навышшей, наистей и нарядней». Выхаваны на грэчаскай літаратуры, Лука сапраўды валодаў характэрнай для элінаў яснасцю стылю і лагічнай паслядоўнасцю выкладу, любіў афарызмы, многія з якіх увайшлі ў еўрапейскія літаратуры: «Хто не са мною, той супраць мяне», «Якою мерай мераеце, такою і вам адмераюць», «Няма прарока ў сваёй айчыне», «Не хлебам адзіным чалавек жыве», «Лягчэй вярблюд пройдзе праз вушка іголкі, чым багацей у царства нябеснае» і інш.

Прызнаючы маральную перавагу евангельскіх прынцыпаў любві над старазапаветным законам справядлівай помсты, наш

асветнік не ідзе так далёка ў тлумачэнні евангельскіх легенд, як гэта рабілі крайне бунтарныя ідэолагі рэфармацыі на Захадзе, паслядоўнікі таго гнеўнага Хрыста, які выгнаў з храма фарысеяў, што апраўдвалі сацыяльную няроўнасць, саслоўны эгаізм ізраільскай арыстакратыі, яе згодніцтва з рымскімі захопнікамі і пагардлівыя адносіны да народных нізоў. Сярод ідэолагаў рэфармацыі Скарыну блізкім быў хіба Меланхтон, «настаўнік нямеччыны», стваральнік новай сістэмы асветы, галоўнай мэтай якой было выхаванне чалавека на гуманістычных ідэалах, прапаведнік добрых учынкаў, якія лічыў прыроджанай патрэбай разумнага чалавека і доказам сувязі яго с «божаю ласкай».

Сярод міфаў, на якія абапіралася хрысціянская дактрына, галоўнае месца належыць міфу аб ачышчальнай і збаўленчай місіі Хрыста. У перыяд складвання хрысціянства існавалі два варыянты месіянскага міфа. Адзін — вузка нацыяналістычны, паводле якога Хрыстос меўся быць нашчадкам роду Давыда і прыйшоў выбавіць ад грахоў толькі яўрэяў. Гэта версія найбольш пашыралася не ў Іудзеі, карэннай правінцыі Ізраіля, заселенай чыстакроўнымі яўрэямі, а ў Галілеі, адкуль меўся паходзіць сам Хрыстос, і яшчэ больш у Самарыі, дзе прыжылося шмат элінскіх перасяленцаў. Бытаваў другі варыянт месіянскай легенды: Хрыстос там прыходзіў збавіць і «выбраны» народ і ўсіх людзей, перш за ўсё іншаверцаў. Гэты варыянт міфа выступае ў евангеллі Лукі і ў творах апостала Паўла — прапаведнікаў, якія пашыралі хрысціянства сярод язычніцкіх плямён Малой Азіі. Скарына аддае перавагу якраз гэтаму варыянту. У яго часы рэальная небяспека нацыянальнага заняволення ці вымірання беларускай народнасці наогул не адчувалася, нацыянальная гісторыя была перспектыўнай. Таму і галоўны пафас прадмоў Скарыны да біблейскіх кніг складаюць прадбачлівыя ўгаворы да разумнай згоды, гармоніі і прызнанне прыярытэту духоўнага пачатку над цялесным. Актывізацыя маральных і патрыятычных пачуццяў, культ ахвярнасці духу — вось ідэі, якія ўспрыняў Скарына з жыцця на радзіме і, правёўшы праз сістэму біблейскіх наказаў і міфаў, вярнуў народу як духоўны запавет, як засцярогу ад магчымых бед, што могуць насунуцца на край варожымі нашэсцямі і ўнутранымі разладамі.

Калі параўнаць Скарынаву градацыю ідэальных вобразаў і адносін з вызваленчай легендай беларусаў, якая склалася ў XIX — пачатку XX ст., дык выявяцца як падабенствы, так і разыходжанні. Напрыклад, у Купалавай паэме «На куццю» выступае мудры князь-патрыёт, які пасылае ва ўсе канцы свайго соннага княства ганцоў — воіна з лукам, асветніка з каганцом і песняра з гуслямі. Тыпаж гэты ў грунце аналагічны вылучанаму Скарынам, у якога мы бачылі мудрых цароў-заканадаўцаў, ахвярных патрыётаў і вучоных-асветнікаў — прапаведнікаў мудрай справядлівасці. І нас здзіўляе, што гэтага супадзення не заўважылі песняры вызваленчага руху. У Багушэвіча ёсць праграмны верш

«Ахвяра», дзе называюцца асобныя этычныя каштоўнасці, якімі жыў вызваленчы рух: сацыяльная справядлівасць, любоў да роднага краю і гатоўнасць памерці за яго, братэрскія адносіны да іншых народаў, адным словам, многае з тых ідэалаў, якія абвяшчаў беларускім словам Скарына. Аднак чуецца і нешта глыбока адрознае ў спосабах сцвярджэння сугучных каштоўнасцей: у Скарыны — мажор, у Багушэвіча — мінор, у Скарыны — аптымістычная героіка, у Багушэвіча — трагедыйная.

Скарына жыў і тварыў на хвалі ўздыму грамадскага і духоўнага жыцця свайго краю і Еўропы, таму ў думках беларускага гуманіста пераважалі сцвярджальныя станоўчыя ідэалы, вера ў мудрасць і асвету. Нашаму першадрукару даводзілася бываць у трывогах і клопатах, але не ў адчаі. Вызваленчы ж рух беларусаў у XIX—XX стст. быў увесь трывожны, ахвярнасць там пераважна насіла трагічны характар, і галоўнай задачай выступала не асвета і згода, не тварэнне, а змаганне і разбурэнне перашкод да волі. Для бунтароў і разбуральнікаў старога свету не мог стаць узорам стваральнік, які жыў чатырыста гадоў таму назад. Скарынава разуменне духоўнай ахвяры было ў часы Купалы, Коласа, Цёткі справай спадарожнай, прызнавалася ж пераважна звышахвяра. Постаці новых ахвярнікаў у паэзіі вызваленчага руху амаль усе трагедыйныя і рамантычныя — Купалавы Гусляр, Званар, Прарок, Коласаў Сымон-музыка, нават лірычны герой «Пагоні» Багдановіча,— усе рвуцца за межы развагі, прагнуць немажлівага. Ім трэба такіх ахвяр, якія б узнімалі мёртвых. Ахвяру ўласнага жыцця прынёс Сяргей Палуян, аўтар праграмнага верша «Хрыстос уваскрос», у якім пад евангельскую легенду падвёў свой лёс і сутнасць вызваленчага руху беларусаў. Купала хоць і не цураўся традыцыйна біблейскай канвы, аднак аддаваў перавагу сюжэтам народным, сімвалам фальклорным, нацыянальным, рэвалюцыйным. Верш «А хто там ідзе?», які М. Горкі назваў гімнам беларусаў, апісваў не шлях пакутніка на Галгофу, а ўсенародную дэманстрацыю, шэсце на Вялікі сход, на веча народаў. Толькі ў цыкле «Старая Беларусь» Багдановіча ды сям-там у рамантычных легендах Каганца спажыткоўваўся стваральны дух, што ўпершыню так урачыста і хораша прагучаў на кніжна-вучонай беларушчыне Скарыны. Вытокі грамадскага і духоўнага ідэалу Скарыны трэба шукаць у сістэме гуманістычнага светаразумення, у характэрным для яго кульце розуму, узвышэнні рацыянальных і маральных ісцін над сляпой верай. З розуму і мудрасці выводзілі гуманісты патрэбу маральнай чысціні, ахвярнай дабрадзейнасці і справядлівасці. Усё амаральнае, беззаконнае было для іх неразумным і праціўным богу.





*П. А. ЛОЙКА (Мінск)*

## ДА ПЫТАННЯ АБ ГЕНЕЗІСЕ ПАТРЫЯТЫЗМУ СКАРЫНЫ

Гэтыя словы сталі хрэстаматыйнымі: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» [1]. Прыведзенае выказванне мы ўспрымаем сёння як выяву і нашых патрыятычных пачуццяў. Але ці заўсёды задумваемся над тым, што для пачатку XVI ст., калі Ф. Скарынам былі напісаны гэтыя словы, такая формула патрыятызму была нечым надзвычайным?! Надзвычайным па агульначалавечай сутнасці, па пастаноўцы ўвогуле. Царкоўная ідэалогія, што панавала ў эпоху сярэдневякоўя, калі чалавек трактаваўся як «раб божы», сваёй трактоўкай зямнога існавання чалавека як падрыхтоўкі да тагасветнай вечнай асалоды шмат у чым выключала зямны патрыятызм з духоўнасці і пачуццёвасці чалавека. Нават некаторыя з буйных царкоўных рэфарматараў бачылі чалавека на зямлі па-за любоўю да яе — толькі ў аспекце быццё-небыццё. «Паколькі чалавек быў створаны з зямлі,— пісаў Жан Кальвін,— дык гэта для таго, каб трымаць яго ў цуглях, каб ён не наважыўся заганарыцца; таму што няма нічога больш безразважлівага, чым высока ўяўляць нашу годнасць, калі мы жывём у брудным, агідным заканурку, ды і мы самі ў вядомай ступені — усяго толькі зямля і гразь» [2]. Тым большым дысанансам гучыць патрыятычны заклік Скарыны, каб людзі «...всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» [3].

Падобная актыўная патрыятычная пазіцыя Ф. Скарыны не магла ўзнікнуць на голым месцы. Яна была падрыхтавана пэўнымі рэальнымі перадумовамі. У гэтым артыкуле мы і паспрабуем зрабіць своеасаблівую гістарычную падсветку, якая дапамагала б вызначыць генезіс патрыятызму Ф. Скарыны, некаторыя гістарычныя і палітычныя яго карані. Пытанне гэта

[1] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 59.

[2] Цыт. па кн.: Культура эпохи Возрождения и Реформации. Л., 1981. С. 32.

[3] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 59.

складанае, мае некалькі аспектаў — выкарыстанне Скарынам патрыятычных традыцый старажытнарускай літаратуры, уздзеянне патрыятызму народнага, уплыў адпаведных імкненняў дзяржаўна-феадальных колаў. Мы спынімся на трэцім з названых аспектаў.

Фарміраванне беларускай народнасці, якое прыпадала на часы жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны, адбывалася ў эпоху, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Неабходна адзначыць, што найбольш развітыя землі Старажытнарускай дзяржавы, а да іх з упэўненасцю можна аднесці Полаччыну і Віцебшчыну, захавалі пэўнае адзінства ў межах гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Нават тэрмін «землі», які захаваўся за гэтымі тэрыторыямі, падкрэсліваў іх унутранае палітычна-геаграфічнае адзінства [4]. Развітыя формы грамадска-палітычнай аўтаноміі садзейнічалі этнічнай і культурнай кансалідацыі беларускай народнасці ў межах Вялікага княства Літоўскага. Адметнай рысай гэтай аўтаноміі з'яўляліся своеасаблівасці ў арганізацыі мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях, якія і даюць падставу весці гаворку аб іх пэўнай самастойнасці ў складзе поліэтнічнага Вялікага княства.

Вялікі князь, прызначаючы сваіх стаўленікаў на пасады полацкіх ці віцебскіх намеснікаў і ваявод, павінен быў улічваць настроі і меркаванні мясцовых феадалаў. Вярхоўная ўлада Вялікага княства Літоўскага ў асобе «гаспадара» (вялікага князя) неаднаразова выдавала і пацвярджала Полацкай і Віцебскай землям граматы, па якіх абавязвалася «...им ... давати воеводу по старому, по их воли; и который им будет нелюб воевода, а обмовят его перед нами: ино нам воеводу им иного дати, по их воли» [5]. Прычым права гэта існавала не толькі на паперы, але і на практыцы. Пацвярджэннем таму з'яўляецца зняцце ў 1526 г. Жыгімонтам Старым з пасады віцебскага ваяводы Івана Багдановіча Сапегі па просьбе віцябчан, якія скардзіліся вялікаму князю на «кривды» і «тяжкости» з боку ваяводы [6].

Істотнай рысай мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях было абмежаванне судовай улады намеснікаў і ваявод. На намесніцкім ці ваяводскім судзе абавязковай была прысутнасць старэйшых баяр і мяшчан, што спецыяльна агаворвалася ў граматах вялікіх князёў літоўскіх: «А воеводе нашому полоцкому мешчан одному не судити, судити ему с бояры и мещаны» [7].

---

[4] Хорошкевич А. Л. Исторические судьбы белорусских и украинских земель в XIV — начале XVI в. // Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 71.

[5] Акты, относящиеся к истории Западной России (АЗР). Спб., 1846. Т. 1. С. 351—353.

[6] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892. С. 873—874.

[7] АЗР. Т. 1. С. 73.

Шматлікія пытанні мясцовага кіравання ў Полацку, такія, як выбранне службовых асоб, выкананне воінскай службы, судовыя разборы, гаспадарчыя гарадскія справы, вырашаліся на мясцовых сеймах. Генетычна яны бралі пачатак ад старажытнарускага веча. Праўда, ва ўмовах Вялікага княства Літоўскага вядучую ролю ў традыцыйным органе мясцовай улады, сейме, набылі феадальная знаць і гарадскія вярхі. Але і полацкія мяшчане прымалі самы актыўны ўдзел у сеймавых сходах, што пацвярджае грамата вялікага князя жыхарам Полацка ад 1486 г., дзе адзначалася, што «...без бояр мещаном и дворяном городским и черни соймов не надобе чинить...» [8] У гэты ж час полацкія баяры, мяшчане, «все поспольство» пасылалі сваіх паслоў з так званым «верющим» лістом у Рыгу для заключэння гандлёвага пагаднення [9]. Прыведзеныя факты сведчаць аб значнай актыўнасці ў палітычным жыцці Полацка гарадскога саслоўя.

Дастатковую палітычную незалежнасць мела ў сваіх землях полацкае і віцебскае баярства (у мясцовым разуменні гэтага слова). Іменна з Полаччыны выйшла абсалютная большасць знакамітых родаў беларускага паходжання, прадстаўнікі якіх займалі кіруючыя пасады як у мясцовых, так і ў цэнтральных органах улады Вялікага княства Літоўскага. Так, тут было радавое гняздо Друцкіх (да якіх акрамя саміх Друцкіх належалі Горскія, Сакалінскія, Прыхабскія, Любецкія, Азярэцкія, Красныя, Талачынскія, Пуцяцічы), Лукомскіх, Адынцэвічаў. Адсюль пайшлі такія вядомыя фаміліі, як Глябовічы, Ільінічы, Няміравічы, Рамейкавічы, Шапкі, Алфер'евічы, Мітковічы, Аляхновічы, Капцэвічы, Валадковічы, Корсакі, Зяноўевічы, Рагозы, Сялявы. Прадстаўнікі першых трох з пералічаных родаў займалі на працягу XV—XVI стст. кіруючыя пасады ў Віцебскай і Полацкай землях (Ян Няміра — староста полацкі ў 1412—1413 гг.; Станіслаў Глябовіч — намеснік віцебскі ў 1495—1501 гг., намеснік, затым ваявода полацкі ў 1503—1513 гг.; Ян Глябовіч — ваявода віцебскі ў 1529—1532 гг., ваявода полацкі ў 1532—1542 гг.; Мікалай Няміравіч — намеснік віцебскі ў 1466 г.; Іван Ільініч — намеснік віцебскі ў 1482 г.; Юрый Глябовіч — намеснік віцебскі ў 1503—1508 гг.). Прадстаўнікі іншых фамілій займалі розныя пасады ў мясцовым кіраванні і судзе: гараднічага, канюшага, ключніка, лоўчага, баброўнічага і інш. Прычым мясцовае баярства валодала манапольным правам на пералічаныя пасады, што гарантавала ім удзел у кіраванні «сваімі» землямі [10].

---

[8] АЗР. Т. 1. С. 73.

[9] Любавский М. К. Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 86.

[10] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 1, спр. 4. 32; Wolff J. Kniaziowie Litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. XXII—XXXIII; яго ж. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego księstwa Litewskiego 1386—1795. Kraków, 1885. S. 44—46, 85—86; Любавский М. К. Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 157—159, 179—180.

Падобная самастойнасць у вырашэнні пытанняў мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях у XV — пачатку XVI ст. тлумачыцца тым, што гэтыя тэрыторыі Старажытнарускай дзяржавы ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага на ўмовах так званага «ряда» (дагавору) мясцовага баярства з літоўскімі вялікімі князямі. Тут былі моцнымі ўдзельныя традыцыі. Зацікаўленасць вярхоўнай улады ў захаванні ў складзе Вялікага княства Літоўскага магутных Полацкай і Віцебскай зямель, якія размяшчаліся на пагранiччы з набіраючай моцы Маскоўскай дзяржавай, прымушала кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага ісці на значныя ўступкі мясцовым феадалам і захоўваць за імі права арганізацыі мясцовай улады.

Пэўная аўтаномія Полацкай зямлі мела не апошняе значэнне для ўсведамлення палачанамі таго, што іх горад, «хвалечи бога, место славутное... не ... нижшое во чести и во всем ни Вилни, а ни Мариборка, а ни Кданьска» [11]. Яна садзейнічала выпрацоўцы ў насельніцтва мясцовага патрыятызму як адной з адметных рыс эпохі складвання беларускай народнасці — таго мясцовага патрыятызму, засноўваючыся на якім Ф. Скарына ўзняўся да патрыятызму агульначалавечага. Патрыятызм гэты сведчыў аб пераадоленні сярэдневяковай дагматычнай думкі.

Скарынаўская формула патрыятызму ўзнікла ў часы паміж панаваннем царкоўнага апатрыятызму і складваннем дзяржаўнага патрыятызму вярхоў феадальнага грамадства, шляхецкага патрыятызму, які найбольш выразна праявіў сябе перад Люблінскай уніяй 1569 г., знайшоў адбітак у творчасці Андрэя Рымшы, прамовах Ераніма Хадкевіча і інш. Тым больш выразна паўстае перад намі патрыятычны ідэал Скарыны, які ўзняўся і над царкоўным апатрыятызмам, і над вузкакласавым, эгаістычным дзяржаўным шляхецкім патрыятызмам.

---

[11] Хорошкевич А. Л. Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1977. Т. 1. С. 4.





*В. П. ГРЫЦКЕВІЧ (Ленінград)*

## ДОКТАР МЕДЫЦЫНЫ ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

Беларускі першадрукар Францыск Скарына імкнуўся далучыць чытача да вывучэння прыроды, ганарыўся сваёй вучонай ступенню доктара медыцыны і ўпамінаў яе ў сваіх прадмовах і пасляслоўях да кніг. Гэта акалічнасць тым больш істотная, што сярод усходніх славян дактароў медыцыны ў XVI—XVII стст. было зусім нямнога. Асабліва калі гаварыць пра дакладна вядомыя факты, бо ў некаторых выпадках узнікаюць сумненні. Скажам, у дакуменце ад 28 красавіка 1387 г. паведамляецца аб прысутнасці «доктара Святаслава» ў час перадачы польскім каралём Уладзіславам Ягайлам свайму брату Скіргайлу беларускіх гарадоў Полацка, Мінска і інш.[1] Хто быў гэты таямнічы Святаслаў па паходжанню і прафесіі — з-за адсутнасці адпаведных даных у крыніцы вызначыць сёння немагчыма, лічыць яго лекарам, як гэта часам робіцца [2], мы пакуль што не маем падстаў.

У Ф. Скарыны быў непасрэдны папярэднік па кніжнай справе сярод усходніх славян — таксама доктар медыцыны. Гэта — Георгій Катэрмак з Драгобыча, вядомы пад імем Юрыя з Драгобыча (1450—1494) [3]. Ён нарадзіўся ў сям'і рамесніка Міхаіла Даната Катэрмака ў заходнеўкраінскім гарадку Драгобыч. З 1469 г. вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта, там жа атрымаў ступень магістра (1473), працягваў вучобу ў Італіі і з 1478 г. пасля атрымання ступені доктара філасофіі, а з 1481—1482 гг. і медыцыны Юрый з Драгобыча быў урачом герцага Ферары. З 1487 г. да канца жыцця ён займаў пасаду экстраардынарнага прафесара медыцынскага факультэта Кракаўскага універсітэта.

З пяці прац Юрыя з Драгобыча сёння найбольш вядомая кніга на лацінскай мове «Прагнастычная ацэнка бягучага 1483 года» (Рым, 1483) — першае друкаванае выданне выхадца

---

[1] Граммата Владислава Ягеллона, данная им брату своему Скиргайлу Ольгердовичу на Троцкую обл. с принадлежностями // Отечественные записки. 1829. № 105. Ч. 37. С. 9; Giedroyć F. Źródła biograficzno-bibliograficzne do dziejów medycyny w dawnej Polsce. Warszawa, 1911. S. 777—778.
[2] Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976. С. 51.
[3] Ісаєвич Я. Юрій Дрогобич. Київ, 1972.

з усходнеславянскіх зямель. Па свайму зместу яна пераважна астранамічная. Там жа ёсць згадкі пра масавыя заразныя захворванні.

З-за адсутнасці дакументальных даных цяжка сцвярджаць, ці ведаў Скарына пра дзейнасць Юрыя з Драгобыча. Але той факт, што абодва першыя ўсходнеславянскія дактары медыцыны звярталіся да кнігадрукавання, вельмі сімптаматычны. І Юрый з Драгобыча, і Ф. Скарына былі прадстаўнікамі універсітэцкай медыцыны, якая ўвабрала ў сябе традыцыі антычнай, блізкаўсходняй і сярэднеазіяцкай медыцыны, мела вялікія пісьмовыя традыцыі, не была замкнута ў вузкія нацыянальныя рамкі і з'яўлялася этапам у развіцці міжнароднай медыцыны, у якую, у рэшце рэшт, уліваліся навуковыя дасягненні розных краін і народаў.

Пэўнае значэнне ў развіцці гуманізму ў Вялікім княстве Літоўскім мелі сувязі дзяржавы з перадавымі краінамі Еўропы. Пра гэту эпоху Ф. Энгельс пісаў, што ў той час «уся Заходняя і Цэнтральная Еўропа, уключаючы сюды і Польшчу, развівалася ва ўзаемнай сувязі, але ж Італія дзякуючы атрыманай у спадчыну ад старажытнасці цывілізацыі працягвала быць наперадзе» [4]. «Не дзіўна таму,— пісаў М. Багдановіч,— што ў эпоху Адраджэння агульны разумовы ўздым, які пачаўся на Захадзе, аказваў уплыў і на Беларусь» [5].

У гэты час асабліва развіваліся тыя галіны навук, якія найбольш адпавядалі практычным патрабаванням. У першую чаргу атрымалі развіццё навукі аб прыродзе. У выніку эксперыментаў з'явілася магчымасць рацыянальна тлумачыць з'явы навакольнага свету. «Даследаванне прыроды адбывалася тады ў рэвалюцыйных абставінах, будучы само скрозь рэвалюцыйным»,— пісаў Ф. Энгельс пра эпоху Адраджэння [6].

Ва універсітэтах таго часу існавалі толькі тры факультэты — багаслоўя, права і медыцыны. Толькі медыцынскі факультэт даваў тады рэальнае ўяўленне аб прыродзе. Цяжка назваць іншую прафесію, за выключэннем лекарскай, якая ў такой ступені падштурхоўвала б чалавека шукаць разгадкі таямніц навакольнага свету. У выніку пашырэння універсітэцкай адукацыі сярод гарадскога насельніцтва з'яўляецца асобная група свецкіх інтэлігентаў — настаўнікаў, юрыстаў, архітэктараў. У іх ліку былі таксама лекары.

Росквіт еўрапейскіх універсітэтаў садзейнічаў дэмакратызацыі і пашырэнню сферы свецкай адукацыі. Вучоная ступень доктара медыцыны была амаль што роўная дваранскаму тытулу і вяла да пэўнай «высакароднасці». Людзі без дваранскіх тытулаў, нязнатнага паходжання з атрыманнем універсітэцкага дыплома траплялі ў асяроддзе кіруючых класаў і займалі ня-

---

[4] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 20. С. 501.
[5] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 217.
[6] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 20. С. 34.

рэдка самыя высокія ступені лекарскай прафесіі — прыдворных медыкаў. Такім прыдворным лекарам быў і Скарына.

Беларускі першадрукар быў не адзіным выхадцам з Беларусі, што ездзілі за навукай ва універсітэты. Нашы землякі там часцей за ўсё вывучалі багаслоўе і права. Праўда, у матрыкулах, або метрыках (спісах студэнтаў універсітэтаў), не заўсёды адзначаўся факультэт, на якім вучыўся студэнт. Кожны меў права наведваць любыя лекцыі на любым факультэце.

Уяўляецца неабгрунтаваным сцвярджэнне, нібы «ўжо ў канцы XIV ст. (у 1397 г.) для навучання лекарскай справе выхадцаў з Вялікага княства Літоўскага была створана «бурса» (калонія) «літоўцаў» і «рускіх» у Празе, а ў 1409 г.— у Кракаве» [7]. Думка прафесара Пражскага універсітэта Андрэя з Броды (1360—1427) пра навучанне там «рутэнаў» (г. зн. усходніх славян), на якую часам спасылаюцца даследчыкі, не з'яўляецца дастатковай, каб сцвярджаць, што іх там вучылі іменна медыцыне. Чэшскі гісторык В. Халаупіцкі і польская даследчыца Х. Завадзінская пераканаўча даказалі, што ў адкрытай у 1411 г. па ўказу польскай каралевы Ядвігі «бурсе» (гэты тэрмін нельга перакладаць як «калонія», бо гэта быў усяго толькі інтэрнат) [8], або «літоўскім калегіуме», Пражскага універсітэта не жыў ніводзін выхадзец з Вялікага княства Літоўскага [9].

Спісы студэнтаў медыцынскага факультэта Пражскага універсітэта зберагліся толькі пачынаючы з 1657 г. Гэта выявіў А. А. Федзінец у архіве таго ж універсітэта [10]. Звесткі аб навучанні медыцыне ў Кракаўскім універсітэце выхадцаў з Беларусі ў XVI—XVII стст. таксама адсутнічаюць [11].

Выхадцы з нашага краю звычайна паступалі ва універсітэты Кёнігсберга (заснаваны ў 1544 г.), Вільні (заснаваны ў 1578 г.), іншых гарадоў Германіі, Аўстрыі, Нідэрландаў, Францыі, Італіі, Швейцарыі.

Асобныя юнакі ў пошуках ведаў пераязджалі з аднаго універсітэта ў другі. У спісы студэнтаў Вітэнбергскага універсітэта 17 ліпеня 1573 г. быў запісаны «Блазіус Грэндаў літовец». Ён жа значыцца ў запісах 1580 г. сярод студэнтаў Іенскага універ-

---

[7] Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. С. 51.

[8] Бурса // Энциклопедический словарь / Изд. Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон. Спб., 1891. Т. 9. С. 49.

[9] V. Chaloupecký. Karlova Universita v Praze. 1348—1409. Praha, 1948, S. 76; Zawodzińska C. Kolegium królowej Jadwigi przy Uniwersytecie Karola w Pradze i iego pierwszy statut // Zesz. nauk. Uniwersytetu Jagiellońskiego. [Kraków], 1962. N 56. Prace historyczne. Z. 9. S. 26.

[10] Archiv University Karlovy v Praze. Matricula facultatis medicae Pragensis — nomina doctorum collegiatorum I, od 1657 r.; Грицкевич В. П., Фединец А. А. Из прошлого белорусско-чехословацких связей в области медицины // Сов. здравоохранение. 1968. № 5. С. 50.

[11] Голенченко Г. Я. Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете XV—XVI вв. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976. С. 230—231.

сітэта (пад імем «Грандау. Базіл[іус] Гротнэн[зіс]»), а таксама ўпамінаецца ў запісах тых жа гадоў сярод студэнтаў універсітэта ў Франкфурце-на-Майне, як «Грандоу Блаз[іус]»[12]. Гэта несумненна адна і тая ж асоба — Васіль Грандаў, ці, можа, Грандзіч — з Гродна або Грандзічаў (мястэчка каля Гродна).

Выезд ураджэнцаў Беларусі для навучання ў Заходнюю і Цэнтральную Еўропу кампенсаваўся прыездам адтуль лекараў. Беларусі і Літве патрэбны былі культурныя сілы. Італія, Швейцарыя, Германія прапаноўвалі іх. Сярод усходніх славян іншаземцы знаходзілі спрыяльныя ўмовы для працы, пра што, напрыклад, сведчыць тут дзейнасць у XVI — першай палавіне XVII ст. Дж. А. Валянціна (асабістага лекара Боны), Дж. Б. Б'яндраты, П. С. Сімоні, Н. Бучэлы, І. Гаслера, Д. Набароўскага і І. С. Дэльмедыга[13].

Аднак вернемся да дзейнасці Ф. Скарыны. Вядома, што ў 1530 г. ён знаходзіўся ў Кёнігсбергу, у рэзідэнцыі прускага герцага Альбрэхта Гогенцолерна. Гісторык К. Фарстрэйтар меркаваў, што наш першадрукар знаходзіўся на службе ў герцага ў якасці лекара ў сувязі з эпідэміямі, але спасылкамі на крыніцы гэту думку не падмацаваў[14]. Хутка Ф. Скарына вярнуўся ў Вільню.

У 1532 г. Ф. Скарына быў сакратаром і хатнім лекарам віленскага епіскапа Яна. Заслугоўвае ўвагі адзін эпізод з жыцця лекараў Вільні, да якога непасрэднае дачыненне меў Скарына. Справа ў тым, што паміж 1520 і 1525 гадамі ў Вільню прыязджаў вядомы швейцарскі рэфарматар медыцыны Філіп Аурэол Тэафраст Бомбаст фон Хохенхайм (1493—1541), якога тады ведалі як Парацэльса. Гэты смелы псеўданім азначаў: «упаравень з Цэльсам» — знакамітым лекарам старажытнасці. Парацэльс дамагаўся абнаўлення медыцынскай тэорыі, патрабаваў адмовіцца ад дагматычнага пераймання старажытных канонаў[15].

У Вялікім княстве Літоўскім, як і ў іншых краінах, Парацэльс вывучаў мясцовыя лекавыя сродкі, пераймаў спосабы

---

[12] Album Academiae Viterbergensis: Ab A. Ch. MD usgue ad A. Ch. MDC // Halis, 1894. Vol. 2. P. 237; Ältere Universitäts-Matrikeln. 1: Universität Frankfurt am Oder (1506—1648). Leipzig, 1891. B. 2. S. 40, 276; Die Matrikel der Universität Jena. Jena, 1944. B. 1. S. 127—139.

[13] Падрабязней пра іх гл.: Грицкевич В. П. Место Белоруссии и Литвы в распространении естественнонаучных знаний в XVI в. // Культурные связи народов Восточной Европы. С. 241—250; Grickevicius V. D. Naborovskis ir J. Delmedigo — Galilejaus mokininkai Lietuvoje ir Baltarusioje // Sveikatos apsauga. 1975. N 8. P. 34—38.

[14] Forstreuter K. Preußen und Rußland im Mittelalter. Die Entwicklung ihrer Beziehungen vom 13. bis 17 Jahrhunderts. Königsberg: Ost-Europa Verlag, 1938. S. 222; Forsreuter K. Preußen und Rußland von den Anfängen des Deutschen Ordens bis zu dem Peter dem Großen. Götingen: Musterschmidt-Verlag, 1955.

[15] Paracelsus T. Elf. Traktat von Ursprung, Ursachen, Zeichen und Kur einzelner Krankheiten // T. von Hohenheim genannte Paracelsus. Sämtliche Werke. 1 Abt. München; Berlin, 1929. B. 1. S. 52.

лячэння. Вучоны падкрэсліваў, што сярод яго вучняў было шмат «палякаў», г. зн. жыхароў Рэчы Паспалітай. Дата прыезду Парацэльса ў Літву і Беларусь вызначаецца вельмі прыблізна. Да 1520 г. ён служыў лекарам у дацкай арміі, якая ваявала супраць шведаў, а ў 1525 г. быў ужо ў Італіі. За гэты прамежак Парацэльс наведаў акрамя Вялікага княства Літоўскага Польшчу, Прусію, Венгрыю, Валахію, Харватыю [16].

У 1520—1525 гг. вучоны свет яшчэ мала ведаў Парацэльса. Тым не менш гэты вандроўны лекар, дзе б ён ні быў, заўсёды выклікаў на публічныя дыспуты мясцовых лекараў і ў спрэчках з імі заўсёды абараняў свае наватарскія погляды. Як і ў сваёй краіне, у Польшчы і ў Вялікім княстве Літоўскім Парацэльс на дыспутах выступаў супраць прыхільнікаў традыцыйнай медыцыны, але тут яго заўсёды перамагалі [17].

Хто ж у Вільні ўдзельнічаў у дыспуце супраць Парацэльса? Пратакол дыспута не захаваўся. Дакладна назваць імёны яго ўдзельнікаў немагчыма. Мы дазволілі сабе выказаць адну думку [18]. Ф. Скарына, які жыў у Вільні, калі яе наведваў Парацэльс, не мог не ведаць аб прыездзе гэтага лекара ў параўнальна невялікі горад. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага было няшмат медыкаў і дыспуты былі выключнай з'явай. Сустрэча Ф. Скарыны і Парацэльса перарастае рамкі звычайнага гістарычнага супадзення. Яна становіцца своеасаблівым сімвалам эпохі. Сама спрэчка, вядома, вялася на прынцыпова новых асновах — не вакол бясконцых схаластычных дагматаў, а на базе новага, практычна-даследчага падыходу да медыцыны. Гэта спрэчка магла паўплываць на фарміраванне Ф. Скарыны як вучонага.

Акалічнасці прымусілі Ф. Скарыну ў сярэдзіне 1530-х гадоў пераехаць у Прагу, дзе ён працаваў у каралеўскім батанічным садзе. У Празе маглі яшчэ раз перакрыжавацца шляхі Парацэльса і Скарыны. У канцы 1530-х гадоў Парацэльс ехаў з Вроцлава (Брэслаў) праз Прагу ў Вену. Нельга цалкам выключыць меркаванне, што ў чэшскай сталіцы зноў маглі сустрэцца два «гіганты вучонасці, духу і характару» (так называў Ф. Энгельс рад выдатных дзеячаў эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі) [19].

Аб дзейнасці Ф. Скарыны ў якасці прыдворнага батаніка вядома з копіі абарончай граматы, выдадзенай каралём сыну Ф. Скарыны Сімяону і ўпершыню правільна вытлумачанай

---

[16] Szumowski W. Żywot i nauka Paracelsa, Lekarza, alchemika i filozofa niemieckiego z epochi Odrodzenia // Przegląd Lekarski. 1909. N 2. S. 28.

[17] Paracelsus T. Spital-Buch // T. von Hohenheim genannte Paracelsus. Sämtliche Werke. München; Berlin, 1923. B. 7. S. 374; Idem. Großen Wundarzney // Ibid. B. 10. München; Berlin, 1928. S. 19.

[18] Грицкевич В. П. Рэцэнзія на кн.: Алексютовіч М. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд // Сов. здравоохранение. 1961. № 4. С. 79.

[19] Энгельс Ф. Диалектика природы // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 20. С. 508.

А. Ф. Фларо ўскім, і з дакументацыі Багемскай каморы. Абарончая грамата — гэта запіс у так званым рэгістры — кнізе дакументаў прыдворнай канцылярыі. Яна зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ЧССР у Празе. У грамаце, што сцвярджала спадчыннае права Сімяона на ўладанне маёмасцю і каштоўнасцямі бацькі, напісана: «Некалі доктар Францішак Рус Скарына з Полацка, садоўнік наш, у гэтым каралеўстве Чэшскім чужаземец, з гэтага свету сышоў і пасля сябе сына Сімяона Руса ... пакінуў» [20].

Меркаванне некаторых вучоных, быццам бы Ф. Скарына быў прафесарам батанікі і леказнаўства ў Пражскім універсітэце, а каралеўскі батанічны сад у Празе быццам бы быў часткай медыцынскага факультэта універсітэта [21], дакументальна не пацвярджаецца. Іменна гэты факультэт наведвала менш за ўсё слухачоў з ліку студэнтаў. А іх навучаннем, якое, як і ў іншых універсітэтах, заключалася ў каменціраванні твораў Авіцэны, займаўся тады ўсяго адзін прафесар, прычым вядома, што ён быў лейбмедыкам чэшскага караля, а не каралеўскім садоўнікам. Каралеўскі ж сад быў самастойным і ў склад універсітэта не ўваходзіў [22].

Да палітычнай пазіцыі Ф. Скарыны стасуюцца словы, сказаныя Ф. Энгельсам пра аднаго з прагрэсіўных дзеячаў сялянскай вайны 1525 г. у Германіі, Вендэля Гіплера: «З усіх кіраўнікоў руху Вендэль Гіплер лепш за ўсё «разумеў існуючы стан рэчаў. Ён не быў ні рэвалюцыянерам з шырокім кругаглядам, як Мюнцэр, ні прадстаўніком сялян, як Мецлер і Рорбах. Яго шматбаковы вопыт і практычнае веданне становішча, якое займалі асобныя саслоўі адно адносна другога, не дазвалялі яму зрабіцца выразнікам інтарэсаў аднаго з саслояў удзельнікаў руху, у процівагу другім... Вендэль Гіплер, прадстаўнік, так сказаць, сярэдняй раўнадзеючай усіх прагрэсіўных элементаў нацыі, прыйшоў да прадчування сучаснага буржуазнага грамадства» [23].

Што датычыцца медыка-біялагічных поглядаў Ф. Скарыны, то тут усё не так проста, як хацелася б. Пакуль што не знойдзены медыцынскія творы Ф. Скарыны, як і ў іншых урачоў — выхадцаў з Вялікага княства Літоўскага XVI ст.— Тамаша «з Літвы», Георгія Пяткуніуса (Пяткевіча) з Эйшышак, Васіля Гіяцынта з Вільні і Банавентуры з Вільні.

В. Г. Міцэльмахерыс памылкова лічыў ураджэнцам Літвы яшчэ аднаго доктара медыцыны XVI ст.— В. Грабоўскага з

[20] Грицкевич В. П., Фединец А. А. Из прошлого белорусско-чехословацких связей в области медицины. С. 51.

[21] Кручок Р. Р. Аб медыка-біялагічнай дзейнасці і прыродазнаўча-навуковых поглядах Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1967. С. 384—386; Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. С. 67.

[22] Краткая история Карлова университета. Прага, 1965. С. 25.

[23] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2-е изд. Т. 7. С. 413.

Серпца[24], аднак жа Серпец — гэта гарадок у Польшчы[25], а ў Літве і Беларусі населенага пункта з такой назвай не было. Аднак указанае сцвярджэнне некрытычна паўторана аўтарамі артыкула «Медыцына» ў трэцім выданні Вялікай медыцынскай энцыклапедыі[26].

Здаюцца спрэчнымі спробы некаторых аўтараў спасылацца на прадмовы Ф. Скарыны да старазапаветных тэкстаў, каб даказаць, быццам бы ўсю медыцынскую дзейнасць ён зводзіў да набожнасці[27]. Справа ў тым, што ў беларускіх крыніцах XVI ст. «дактарамі» называлі не лекараў, а святарнаслужыцеляў (ад лац. vir doctus 'вучоны муж'). Ды і які лекар лячыў ад «бесовских покусов», г. зн. спакусаў?! Такое дзеянне тады было кампетэнцыяй святара, а не лекара. Іменна ў сувязі з гэтай цытатай А. В. Фляроўскі пісаў яшчэ ў 1940 г.: «Нам уяўляецца, што слова ДОКТАР тут трэба разумець у агульным сэнсе, як вучоны («докторове а люди вченые» ў супрацьлегласць «всякому человеку простому и посполитому»), а не спецыяльна лекар. Нездарма ж Скарына, калі пісаў пра сябе і пра евангеліста Луку, не абмяжоўваўся словам «доктар», але заўсёды дадаваў «в лекарских науках»[28].

Спасылаючыся на вядомыя выказванні Ф. Скарыны ў прадмове да кнігі «Іоў», што кніга ёсць «лекарство душевное», бо адсюль людзі могуць даведацца, што «наивысшая мудрость размышление смерти и познание самого себя», паасобныя даследчыкі робяць вывад: «Як вядома, урачы эпохі Адраджэння ў барацьбе за практычныя веды супраць схаластычнай мярцвячыны высунулі тэзіс старажытных аб неабходнасці пазнання перш за ўсё саміх сябе, значыць, Скарына быў адзін з першых, хто выступіў у тую эпоху за практычныя веды ў галіне медыцыны, за вывучэнне жывога чалавека і прычын яго смерці»[29].

Як можна такія высновы рабіць толькі на падставе прыведзеных слоў першадрукара, для нас застаецца загадкай. Мы схільны пагадзіцца з М. Алексютовічам, які яшчэ трыццаць

---

[24] Мицельмахерис В. Г. О первых отечественных докторах медицины // Сов. здравоохранение. 1963. № 4. С. 40—43; яго ж. Очерки по истории медицины в Литве. Л., 1967. С. 24—26.

[25] Sierpec // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. T. 10. S. 594.

[26] Медицина // Большая медицинская энциклопедия. 3-е изд. М., 1980. Т. 14. С. 207.

[27] Кручок Р. Р. Аб медыка-біялагічнай дзейнасці Ф. Скарыны. С. 384—385; Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. С. 67.

[28] Флоровский А. В. Чешская библия в истории русской культуры и письменности: Фр. Скорина и продолжатели его дела // Sbornik filologický. Výdava Třída Česke Akademie véd a umení. Praha, 1940—1946. Sv. 12. S. 190, n. 161.

[29] Кручок Р. Р. Аб медыка-біялагічнай дзейнасці Ф. Скарыны. С. 384; Крючок Г. Р. Очерки истории медицины Белоруссии. С. 67.

гадоў таму назад пісаў: «Мы, на жаль, не маем нічога, што магло б праліць святло на яго прыродазнаўча-навуковыя погляды. Ці былі ў Скарыны працы ў гэтай галіне, для нас застаецца невядомым. Несумненна адно — у ім ніколі не паміраў вучоныпрыродадаследчык, які змагаўся з яго рэлігійнымі забабонамі» [30].

На жаль, з часу, калі гэта было сказана, не знойдзены новыя крыніцы, якія асвятлялі б медыка-біялагічныя погляды Ф. Скарыны. Нам застаецца толькі спадзявацца на іх выяўленне ў будучым.

---

[30] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. С. 99—100.





*М. А. ЛАЗАРУК (Мінск)*

## ТЭАРЭТЫКА-ЛІТАРАТУРНЫЯ ПОГЛЯДЫ СКАРЫНЫ

У навуковых даследаваннях пра Скарыну даволі грунтоўна паказана значэнне дзейнасці нашага выдатнага суайчынніка для развіцця розных галін культуры і грамадскай думкі. Сёння мы маем цікавыя працы ўжо не толькі пра асветніцкую, перакладчыцка-выдавецкую дзейнасць вялікага гуманіста, але і пра яго грамадска-філасофскія, эстэтычныя, гістарычныя, лінгвістычныя, педагагічныя, прававыя погляды, пра яго ўклад у развіццё беларускага мастацтва, графікі і г. д. Прычым намечаныя яшчэ ў самых першых працах пра Скарыну даследаванні ў адзначаных кірунках усё больш паглыбляюцца і пашыраюцца, вырастаючы ў самастойныя галіны навукі пра вялікага мысліцеля.

І толькі хіба ў адным кірунку Скарыне не пашанцавала — у асвятленні яго ўкладу ў развіццё літаратуразнаўства, навукі аб літаратуры [1]. На сёння гэта ўспрымаецца, бадай, ці не як найвялікшы парадокс скарыназнаўства... Бо дачыненне ж Скарыны да ўказанай галіны навуковых ведаў мае зусім не другараднае значэнне, знаходзіцца зусім не на перыферыі яго інтарэсаў як вучонага і літаратара. Яно, калі можна так сказаць, было закладзена ў самой задуме каменціраванага выдання Бібліі. Калі ўзяць разам усё тое, што рабілася Скарынам пры апрацоўцы і выданні кніг Бібліі, то яго трэба перш за ўсё аднесці да сферы літаратуразнаўчай дзейнасці ў многіх, па-сённяшняму кажучы, яе аспектах.

У прадмовах Скарыны важнае значэнне маюць не толькі эстэтычныя ацэнкі і акцэнты, але і шматлікія спробы навуковага вытлумачэння літаратурных з'яў, у тым ліку прыклады аналізу зместу біблейскіх кніг, характарыстыкі дзеючых асоб гэтага твора, сярод якіх не толькі розныя святыя, але і мудрыя цары і царыцы, як, напрыклад, «Есфира-царице, еже с Мардохеем збавили от побитий людей Ізраилевых» [2]. У прадмовах Скарыны

[1] На гэты аспект скарынаўскай дзейнасці мы спрабавалі звярнуць увагу гадоў дзесяць назад, выдаючы дапаможнік для студэнтаў — хрэстаматыю па «Уводзінах у літаратуразнаўства» (Мн., 1978), аднак гэта спроба, на жаль, засталася без працягу.

[2] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 66. Далей спасылкі на гэта выданне прыводзяцца ў тэксце. У дужках абазначана старонка.

знойдзем нават прыклады аналізу сюжэтна-кампазіцыйных асаблівасцей Бібліі ў цэлым або яе асобных частак-кніг.

Прадмова да кнігі, асабліва мастацкай, і сёння з'яўляецца пашыраным жанрам крытыкі (як часткі літаратуразнаўства), разглядам твора, яго аналізам у суаднясенні з актуальнымі грамадскімі, культурнымі патрэбамі. А ў часы Скарыны прадмова была адной з нешматлікіх форм выяўлення крытычнай думкі, літаратурна-крытычнай ацэнкі твора. З улікам гэтага прадмовы Скарыны і можна разглядаць як узоры літаратуразнаўчай думкі свайго часу, а не толькі як звычайны каментарый, тлумачэнне зместу біблейскіх кніг і асобных незразумелых слоў, хоць апошняе ў іх несумненна прысутнічае і, дарэчы, таксама належыць філалогіі. Гэтыя пачаткі літаратуразнаўчай навукі вартыя ўвагі не толькі ў гістарычным аспекце, г. зн. у дачыненні да часоў Скарыны, але і да наступных эпох. Тут дзейнасць нашага першадрукара выходзіла далёка за межы свайго часу.

У прадмовах Скарына не проста растлумачвае змест біблейскіх кніг для таго, каб «люде посполитые чтучи могли лепей разумети», ён дае тлумачэнні, якія шмат у чым нясуць у сабе элементы літаратуразнаўчага аналізу, бадай, ці не першага ў гісторыі нашага пісьменства (прадмовы да кніг «Быццё», «Выхад», «Юдзіф» і інш.). Для прыкладу працытуем урывак з агульнай прадмовы да Бібліі: «В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець... В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, пописаны суть. В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные, зуполне знайдете. Ту навчение философии добронравное... Ту справа всякого собрания людского и всякого града, еже верою, соединением ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть...» (62). Чым гэта не крытычнае абагульненне змястойных вартасцей твора, вядома, як яны ўяўляліся Скарыне. Прычым аўтар прадмоў звяртае ўвагу не толькі на ідэйныя асаблівасці кніг Бібліі, іх змест, яго важнасць для грамадскіх патрэб свайго часу, але і на форму выкладання гэтага зместу, прыёмы выяўлення, нават асаблівасці будовы твора, кампазіцыю. Звернемся, напрыклад, да такой мясціны: «Может же делитися сия книга на двое: первая часть ея даже до десятое главы, а вторая часть от десятое главы починается и ест даже до конца» (35).

Варта ўважліва ўглядзецца ў змест скарынаўскіх прадмоў, узяўшы іх за адзінае цэлае,— і мы ўбачым, што вялікі гуманіст выклаў у іх даволі пэўную сістэму поглядаў на літаратуру, літаратурны твор, пачынаючы з высвятлення пазнавальнай, выхаваўчай функцыі літаратуры і канчаючы характарыстыкай асобных элементаў ці кампанентаў літаратурнага твора.

Вядома, усё гэта можна па-сапраўднаму зразумець і ацаніць, калі разглядаць творчую спадчыну нашага выдатнага земляка гістарычна, у кантэксце культурнага, ідэалагічнага жыцця, грамадскай і навуковай думкі таго часу, без заніжвання яе сапраўд-

ных вартасцей, але і без непатрэбнай яе мадэрнізацыі, якая можа штурхаць даследчыкаў да поўнага «вызвалення» Скарыны ад супярэчнасцей яго эпохі. Дзейнасць Скарыны належала прагрэсіўнай культуры эпохі Адраджэння, Рэнесансу. Гэта несумненна. Але несумненна і тое, што яна была яшчэ вельмі звязана і з традыцыямі эпохі сярэдневякоўя не толькі ў формах выяўлення думкі, але і ў змесце, у ідэалагічных, філасофскіх, эстэтычных і літаратуразнаўчых поглядах. Апошнія таксама нельга зразумець без уліку таго, што адбывалася ў літаратуры іншых народаў, у прыватнасці ў развіцці літаратурна-тэарэтычнай думкі тых часоў.

У аспекце нашай размовы нельга не звярнуць увагу, напрыклад, на тое, што Скарына, падкрэсліваючы сувязь сваёй дзейнасці з прапагандай асноў сямі «вызваленых навук», асабліва вылучаў сярод іх такую, як рыторыка, раіў вывучаць гэту навуку па кнігах Саламонавых. У часы Скарыны рыторыка, як вядома, якраз і выступала як навука аб мастацтве літаратурнага выяўлення, навука аб тым, як выразна і прыгожа гаварыць і пісаць, г. зн. як паэтыка, дапасаваная да празаічнай формы літаратурнага выказвання. Няма сумнення ў тым, што Скарына не толькі адзначыў гэту навуку, але і, па сутнасці, выкарыстоўваў яе асноўныя правілы ў сваіх прадмовах (невыпадкова многія з іх называюцца «сказаннямі», г. зн. прамовамі, пропаведзямі, звязанымі са зместам кніг, якія ён прапануе ўвазе чытача). Пры ўважлівым чытанні ў прадмовах няцяжка ўлавіць асноўныя патрабаванні рыторыкі: падыходы да раскрыцця тэмы, прыёмы і спосабы ўздзеяння на чытача з мэтай выклікаць у яго адпаведны душэўны водгук — пераканаць або ўсхваляваць ці адпаведным чынам схіліць да сябе, абудзіўшы пэўныя эстэтычныя перажыванні — захапленне, асалоду і г. д. Асабліва гэта можна наглядаць у прадмове да Псалтыра, дзе дамінуе ўстаноўка не толькі на перакананне, але і на эмацыянальнае ўздзеянне, або ў «сказанні», што папярэднічае кнізе «Другі закон», дзе відавочна праглядаюць ужо правілы дзелавой размовы, можна нават сказаць, майстэрства доказу, лагічнага ўздзеяння на розум чытача, паколькі і размова тут ідзе пра розныя законы, віды права, якімі людзі павінны кіравацца ў жыцці.

І не толькі гэтыя найважнейшыя пастулаты навукі аб красамоўстве пэўным чынам адлюстраваліся ў творчай спадчыне Скарыны, але і, несумненна, тыя, што датычаць канкрэтнай формы выяўлення думкі, паэтычнай стылістыкі.

Вернемся да палажэнняў, зыходных у навуцы аб літаратуры — аб адносінах літаратуры да грамадскага жыцця. Ф. Скарына, несумненна, надаваў літаратуры вельмі важнае грамадскае значэнне. Нават будучы абмежаваным у сваіх магчымасцях разглядам толькі адной кнігі — Бібліі, праўда кнігі своеасаблівай, па сутнасці, цэлага збору кніг, збору твораў самага разнастайнага зместу і характару, ён у сваіх прадмовах закра-

наў пытанне аб поліфункцыянальным характары літаратуры. У яго выказваннях выразна выступаюць такія функцыі літаратуры, як пазнавальная, выхаваўчая, нават геданістычная.

Поглядам часоў Скарыны, у прыватнасці, была ўласціва думка аб тым, што эстэтычнае ўздзеянне твора тым большае, чым большае яго пазнавальнае значэнне. У нашага земляка такая прамая залежнасць шмат разоў падкрэсліваецца ў розных выпадках, і робіцца гэта з акцэнтам на інтэлектуальным змесце твораў, на пазнавальна-выхаваўчым іх уздзеянні на чытача.

У прадмове да Псалтыра Скарына гаворыць, што «всяко писание богом водъхненое полѣзно ест ко учению и ко обличению, исправлѣнию и ко наказанию правды» (9). У прадмове да кнігі «Прытчы Саламона» зноў адзначана, што гэтыя творы, якія, па сутнасці, нясуць у сабе народную мудрасць, вялікі жыццёвы вопыт, карысна чытаць «всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку» (20). І гэта не толькі ацэнка канкрэтнага твора, але і агульны погляд Скарыны на літаратуру, якая ў канчатковым выніку грунтуецца на жыццёвым вопыце людзей. Скарына бачыць мэтай сваёй пісьменніцкай і перакладчыцкай працы ўдасканаленне чалавека, выхаванне яго на добрыя справы: «да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован...» (9).

Праўда, у Скарыны, як і ў мысліцеляў эпохі сярэдневякоўя, калі літаратура знаходзілася яшчэ пад моцным уплывам тэалогіі, галоўнае выхаваўчае ўздзеянне літаратуры звязваецца з царкоўнымі, рэлігійнымі жанрамі — псалмамі, пасланнямі, прытчамі. У прыватнасці, у прадмове да Псалтыра Скарына падкрэслівае асаблівае, выключна ачышчальнае («катарсіс», па Арыстоцелю) уздзеянне гэтай кнігі на чалавека: «суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствіе в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють...» (10). Але ў выказваннях Скарыны, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу, надзвычай акцэнтуецца чалавечы, гуманістычны момант, шмат ўвагі надаецца выхаванню якасцей чыста чалавечых, а не толькі тых, якіх патрабуе царкоўнае вучэнне: «мудрость и разум доскональй», «другголюбство без льсти, и вси иншии добрые нравы» (10). У прадмове да кнігі «Іоў» Ф. Скарына адзначае, што гэта кніга «ест зерцало жития нашего» (14) і таму мае важнае значэнне для «познания самого себе» (15), а ў прадмове да «Прытчаў Саламона» гаворыць, што Саламон «божиим повѣлением мудрость свою выписал» (17).

Вялікую выхаваўчую ролю літаратуры Ф. Скарына падкрэсліваў у прадмовах і пасляслоўях да кніг «Руф», «Эсфір», «Юдзіф», асабліва апошняй, дзе малюецца вобраз жанчыны-

патрыёткі, якая ў час вайны з войскамі Навухаданосара знішчыла аднаго з яго палкаводцаў — Алаферна. Расказаўшы пра подзвіг Юдзіфі, Скарына адзначае, што кнігу трэба чытаць, а яе гераіню браць за ўзор: «к нашему научению, абыхом, яко зеръцало, жену сию преславную пред очима имеюще, в добрых делех и в любви отчины не толико жены, но и мужи наследовали и всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» (59).

У іншых выпадках, працягваючы развіваць выказаную ў прадмове да «Юдзіфі» думку, Скарына робіць яшчэ шырэйшыя абагульненні, якія гучаць нібы законы літаратурна-мастацкага адлюстравання жыцця і яго ўздзеяння на чытача. Маем на ўвазе выказванне ў прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» пра тое, што вобразы выдатных асоб заклікаюць «к добрым делом путем прикладу» (26). Калі разгарнуць гэта выказванне шырэй, даць яму сённяшнюю інтэрпрэтацыю, то атрымаецца, што гаворка тут вядзецца пра маральна-выхаваўчае ўздзеянне станоўчага, у дадзеным выпадку ідэалізаванага, характару, які павінен служыць прадметам пераймання. Для часоў Скарыны такое палажэнне было дамінуючым у эстэтыцы і тэорыі мастацтва. Мастацкі вобраз-персанаж меў сваім эстэтычным прызначэннем або быць узорам, станоўчым прыкладам для пераймання, або, наадварот, прыкладам для асуджэння адмоўных чалавечых якасцей і звычак.

Вельмі важнае ў тэарэтыка-літаратурных поглядах Скарыны палажэнне аб тым, што пазнавальнае і выхаваўчае ўздзеянне літаратуры залежыць ад таго, як яна ўплывае на эмацыянальную сферу, выклікае ў чалавека глыбокія перажыванні, г. зн. аказвае на чытача эстэтычнае ўздзеянне. У прадмове да Псалтыра гэта думка праходзіць як галоўная, і, што характэрна, яна, па сутнасці, прыводзіць да сцвярджэння геданістычнай функцыі літаратуры: «псалом ест ангельская песнь, духовный темьян, вкупе тело пѣнием веселить а душу учить» (10). Тое ж і ў прадмове да кнігі «Іоў», якая, на думку Скарыны, ёсць «лекарство душевное, потѣха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены» (14).

Важна, што Скарына, гаворачы пра эстэтычнае ўздзеянне літаратуры, звяртаецца і да такога паняцця, як натхненне. Іменна натхненне надае літаратурнаму твору сілу і моц, робіць яго здольным выклікаць у чытача не толькі глыбокія думкі, але і пачуцці, перажыванні. Праўда, у Скарыны, як і ў іншых пісьменнікаў і тэарэтыкаў тагачаснай літаратуры, натхненне разумеецца як стан, што выклікаецца боскім уздзеяннем на творцу: «писание богом водъхненое», але зноў жа, маючы на ўвазе гуманістычны пафас яго прадмоў, можна шукаць і ў гэтай традыцыйнай формуле элементы навуковыя, якія ішлі ад практычных задум Скарыны, ад яго асветніцкіх памкненняў несці людзям «науку» і «лекарство душевное». Вялікага палачаніна

перш за ўсё натхняла ідэя служэння народу, грамадству, праца «для посполитого доброго» (69).

У дачыненні да творчай дзейнасці Ф. Скарыны мы, бадай, яшчэ не можам ставіць пытання аб народнасці літаратуры ў сённяшнім разуменні гэтага паняцця, аднак і ў гэтым напрамку Скарына пракладваў надзейныя шляхі, арыентуючыся не на духоўную эліту, а на «людзей паспалітых». Прынамсі, найбольшая заслуга Скарыны, якая адзначаецца ўсімі даследчыкамі яго творчай дзейнасці,— пераклад кніг на мову свайго народа, мову, праўда, яшчэ не зусім тую, на якой размаўлялі шырокія слаі насельніцтва, але ўжо істотна набліжаную да апошняй, зразумелую людзям. Гэту ролю Скарыны можна параўнаць з намаганнямі Дантэ — «апошняга паэта сярэдневякоўя і разам з тым першага паэта новага часу» (Ф. Энгельс) у літаратуры італьянскай.

Ды не толькі ў мове, але і ў непасрэдным выяўленні сваіх сацыяльных сімпатый Скарына часта адкрыта выказваўся ў падтрымку «людзей паспалітых», глыбока спачуваў ім.

Арыентацыя Скарыны на мову народа несумненна вельмі істотна прычынілася да ўзбагачэння пісьмовай літаратуры новымі выяўленчымі магчымасцямі. Вялікі асветнік нямала зрабіў для развіцця сродкаў паэтычнай выразнасці. Можна адзначыць цэлы рад характэрных падыходаў, прыёмаў, якімі карыстаецца, уводзіць іх у літаратурны ўжытак Скарына для ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння на чытача, у прыватнасці пэўную сістэму лексічных сродкаў, тропаў.

Скарына, напрыклад, часта звяртаецца да такіх сродкаў, як сінонімы і антонімы, паўторы, надае ім важную выяўленчую ролю. У «сказанні» да кнігі «Другі закон» чытаем: «Тым же обычаем и нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть, иже непослушание, убийство, прелюбыдеание, ненависть, татба, несправедливость, злоимание, неволя, досаждение, гордость, злоречение, нелютость, клеветание, зависть и иная тым подобная злая быти, понѣже сам таковых речей от иных не хощеть терпети» (93—94). Гэтыя шматлікія розныя па сэнсу словы становяцца ў сінанімічны рад як паняцці, што традыцыйна, таксама і ў адпаведнасці з рэлігійным вучэннем, абазначалі адмоўныя якасці чалавечых паводзін. І гэта рабілася з мэтай не толькі назваць іх, выявіць адценні, але і падкрэсліць агульнае, што іх зблізкае, і тым самым узмацніць эмфатычнасць выкладу, уздзеянне на чытача, выклікаць актыўную эмацыянальную рэакцыю.

Характэрная з'ява ў прадмовах Скарыны — частае выкарыстанне такой паэтычнай фігуры, як ампліфікацыя — нарастанне, нагнятанне аднатыпных па сэнсу слоў або выразаў. Так, падкрэсліваючы багацце зместу кнігі «Ісус Сірахаў», аўтар прадмовы да яе піша, што яна «наболѣй о мудрости, о страху господьнем, о слове божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистотѣ, о службе божией, о долготерпении, о смире-

нии, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царей праведных, о достойности пророков божиих и о инших различных многых добрых обычаех и нравех, яко же чтучи в ней знайдеши. И елико крат в ней будеши чести, по кажном чтении новаго нечто научишися, чего жь есь пред тым не умел, вся бо Соломонова и Аристотелева божественная и житейская мудрость в сей книзе краткыми словы замкнена ест» (24).

Заўважым, што гэта настойлівае паўтарэнне аднатыпных паняццяў не выпадковае: яно і заканчваецца характэрна — абагульненнем пра тое, што адзначаныя вартасці раскрываюцца не адразу, а з кожным новым, паўторным зваротам да кнігі.

Такі ж прыём знаходзім у прадмовах да «Прытчаў Саламона» (20), «Эклезіяста» (28), кнігі «Ісус Навін» (82). Гэтыя паэтычныя фігуры з'яўляюцца іменна ў прадмовах да тых кніг, на якія Скарына ўскладваў асаблівую ролю, імкнучыся пераканаць чытача ў багацці іх зместу, прычым пераканаць не толькі лагічна, але і эмацыянальна. Напрыклад, у прадмове да кнігі «Прытчы Саламона» чытаем: «Пишеть же в них царь Соломон о мудрости, о страху господнем, о службе божией, о науце, о карании злых нравов и о научении цнот и добрых обычаев, о хитростях женъских, о царех добрых и о злых, о справедливости, о судех, о речах противных, о ненасыщеных, о зверех некоих и о дивном прироженииу их, о речах трудных к познаванию и о иных многих разноличных речах» (21). У гэтых жа прыкладах сустракаем і антонімы, ужыванне якіх таксама надае мове большую эмацыянальную сілу. Прыкладам можа быць прадмова-сказанне Скарыны да «Першага саборнага паслання апостала Іаана», дзе гаворыцца «о свете и о тме, о животе и о смерти, о любви и ненависти» (124).

З мастацкіх тропаў у мове Скарыны часта сустракаюцца эпітэт, параўнанне, метафара — у большасці традыцыйныя, характэрныя для рэлігійнай літаратуры: «чистота душевная и телесная», «разум досконалый», «добрые нравы», «страшного суда и вечьного огня», «скрытых тайн» і г. д., а таксама ўжо свае, арыгінальныя: «пожитку посполитого доброго». Гэтыя эпітэты ўзяты толькі з адной прадмовы да Псалтыра, прычым некаторыя з іх маюць выразны метафарычны змест («чистота душевная»). У асобных выпадках у мове Скарыны знаходзім цэлы рад эпітэтаў, напрыклад у прадмове да «Прытчаў Саламона»: «дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непосквѣрненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый и всякую иную имеющий в собѣ добрую цноту» (20).

Параўнанні ў Скарыны звычайна афармляюцца пры дапамозе злучальных слоў «понеже—тако», «яко—тако». Вось прык-

лад з прадмовы да кнігі «Песня песняў», дзе параўнанняў асабліва многа: «Яко же на браку бывають разноличьные твари: первая ест жених, вторая невеста, третии суть друзи жениховы, а четъвертыи дружина невестина,— тако же и во книзе сей четыри гласы черленым писмом, вкупе розмолвляющие, написаны суть» (31).

У Скарыны, праўда, мы не знойдзем тэарэтычных вызначэнняў гэтых тропаў, але ўжо адно тое, што яны сустракаюцца часта, прычым звычайна ў кантэксце эстэтычна акцэнтаваным, дае падставу думаць аб свядомым, г. зн. тэарэтычна асэнсаваным, ужыванні гэтых сродкаў мастацкай выразнасці. Асаблівыя адносіны ў Скарыны да такіх тропаў, як алегорыя і сімвал; яны дамінуюць у яго вобразна-мастацкай сістэме. Уласна, алегорыя і сімвал у Скарыны, як і ў тагачаснай літаратуры, ды і ў ранейшай увогуле, выступалі не проста як тропы, прынамсі ў дачыненні да біблейскіх кніг, а як прынцыпы адлюстравання жыццёвых з'яў.

У сувязі з сярэдневяковай традыцыяй алегарычнага і сімвалічнага тлумачэння твораў Бібліі Скарына таксама ў многіх выпадках пры аналізе біблейскіх кніг ці апісаных тут асобных эпізодаў, з'яў, схіляецца да гэтых прынцыпаў. Таму ў многіх яго прадмовах так настойліва падкрэсліваецца думка аб патаемным сэнсе адлюстраванага, сэнсе, які спасцігаецца не адразу, а ў выніку асаблівага засяроджання, шматразовым іх чытаннем, як гаворыць Скарына ў прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў».

Невыпадкова ў Скарыны і асаблівае вылучэнне некаторых жанраў. Такім найбольш поўна ахарактарызаваным з'яўляецца жанр прытчы, які грунтуецца на алегорыі: «...притчи или присловия,— адзначае Скарына ў прадмове да кнігі «Прытчы Саламона»,— понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують... нежели ся словами пишуть... Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху» (19—20). Гэта выказванне каштоўнае не толькі як жанравая характарыстыка прытчы, але і як раскрыццё аўтарскага разумення спецыфікі мастацкага адлюстравання жыцця ўвогуле.

Тут знаходзім, па сутнасці, першае ў гісторыі беларускай літаратуры тлумачэнне мастацкага тропа як сродку адлюстравання жыцця шляхам ужывання слова ў пераносным значэнні. І калі ўважліва прыгледзецца да прыведзенага вышэй кантэксту, то тут можна знайсці выхады не толькі на такія тропы, такія спосабы мастацкага адлюстравання, як алегорыя і сімвал, але і на метафару, метанімію, увасабленне, парафразу і інш. Скарына невыпадкова звяртае ўвагу на цесную сувязь трох кніг Саламона — «Прытчы», «Эклезіяст», «Песня песняў», якія, па сутнасці, з'яўляюцца мастацкімі творамі, а таму і могуць па-рознаму (не толькі ў прамым, але і ў пераносным сэнсе) успрымацца чытачом, што, дарэчы, і выкарыстоўвала царква ў сваіх мэтах.

Іншымі словамі, у Скарыны выразна выступаюць адзнакі разумення шматзначнасці мастацкага вобраза, магчымасці яго шырокага тлумачэння. Пераважна такі падыход выяўляецца ў дачыненні да жанру прытчы. Гэтаму жанру Скарына ўдзяляе асаблівую ўвагу, вядома, невыпадкова: абавязвалі і традыцыя, і характар той кнігі, якую ён перакладаў і тлумачыў.

Калі мець на ўвазе, што пад прытчай Скарына разумеў не толькі ўласна гэты жанр, але і яго разнавіднасці, мадыфікацыі — ад байкі, парабалы да невялікага афарыстычнага выказвання, прыказкі (прыпавесці),— то яго вывад аб «скрытай мудрасці» трэба разглядаць шырэй, чым толькі адзнаку алегорыі,— гэта адзнака мастацкага вобраза, мастацкага твора.

Погляды Скарыны на праблему жанру ўвогуле своеасаблівыя. Уважлівае прачытанне яго прадмоў прыводзіць да вываду, што ён яшчэ не вызваліўся ад сінкрэтычнага разумення жанру. На такое «недыферэнцыраванае» ўспрыманне жанравых асаблівасцей твораў схіляла не толькі традыцыя, але і сама Біблія як кніга, што складвалася на працягу многіх стагоддзяў з частак самага разнастайнага характару (паданняў і казак, летапісаў і аповесцей, песень і апісанняў побыту, прытчаў і афарызмаў і г. д.). Нават сам жанр прадмовы, як правільна адзначаецца ў літаратуразнаўстве, у Скарыны сінкрэтычны, шматфункцыянальны. Гэта і крытычны артыкул, і ўзнёслая прамова, і гутарка ў стылі сённяшняга эсэ, і анатацыя, дзелавы каментарый (асабліва ў прадмовах да апостальскіх пасланняў) і інш. Але разам з тым Скарына нярэдка імкнецца і дакладна вызначыць сутнасць жанру, шырока характарызуючы яго, асабліва з боку зместу, эстэтычнай танальнасці, як, напрыклад, жанр прытчы, псалма ці паслання («епистолы»).

У большасці выпадкаў тыя жанры, пра якія гаворыць Скарына, маюць рэлігійнае паходжанне, аднак ёсць і такія, што не нясуць у сабе выразна рэлігійнага зместу, хоць царква і імкнулася прыстасаваць іх да сваіх патрэб (кнігі «Песня песняў», «Эклезіяст» і г. д.).

Шмат увагі Скарына ўдзяляе жанру псалма. Гэта, бадай, ці не самы важны для яго жанр, важны па той прычыне, што на збор твораў у гэтым жанры — Псалтыр Скарына ўскладваў асаблівыя надзеі ў навучанні і выхаванні людзей.

Калі адкінуць атрыбуты вузка рэлігійнага прызначэння псалмоў, у сваім тлумачэнні літаратурна-эстэтычнай спецыфікі гэтага жанру Скарына, па сутнасці, падкрэслівае шырокія магчымасці лірыкі ў адлюстраванні жыцця, выхаваўчым яе ўздзеянні на чалавека, прычым уздзеянні не толькі эмацыянальным, але адначасова і разумовым: «Там мудрость и разум доскональный... Там ест многых скрытых таин зъявление» (10).

Такі вывад пацвярджаецца і скарынаўскімі характарыстыкамі паслання («епистолы») — жанру, праўда, не чыста лірычнага, пераважна публіцыстычнага, у якім рацыянальны, разумовы

элемент адыгрывае вядучую ролю (гл. шматлікія прадмовы-сказанні да апостальскіх пасланняў).

Цікавымі для даследчыка могуць быць адзнакі структурна-кампазіцыйнага аналізу, напрыклад, у прадмове да кнігі «Іоў»: «Делится же сия книга на главы, а главы ся делять на стихи, по тому ж, яко и Псалътир ся делить. Поченши от третиея главы даже до остаточное, вся сия книга стихами розделена ест, яко же чтучи поразумееш» (14).

У іншым выпадку, гаворачы пра «Прытчы Саламона», Скарына зноў адзначае, што «кождая глава делится на притчи, якобы на неякии стихи или розделения, яже чтучи поразумееш» (21). У гэтых словах выразна праяўляецца ўважлівасць Скарыны да ўнутранай будовы твора, больш таго, яго разуменне формы як змястоўнага кампанента, што асэнсоўваецца са спасціжэннем зместу. «Чтучи поразумееш»,— падкрэслівае Скарына. У прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў» сувязь формы са зместам падкрэслена яшчэ выразней і канкрэтней: «Делится же сия книга на двое. Едина часть от зачала книгы даже до четырдесят четвертое главы. А в той части приводить нас к мудрости и к добрым обычаем путем разуму. Вторая же часть починается от четырдесят четвертое главы даже до конца. В сей же части приводит нас к святости и к добрым делом путем прикладу...» (26).

Форма ўспрымаецца праз змест і наадварот — змест праз форму,— такі вывад можна зрабіць з прыведзеных выказванняў. І не толькі ў гэтым іх сутнасць. Важна тут і спасылка на вершы («стихи»), пад якімі мы павінны разумець не проста вершаваныя радкі (а ў часы Скарыны «стих» меў і такое значэнне), але і строфіку твора, напісанага «стихами». Іншымі словамі, у Скарыны знаходзім, па сутнасці, разуменне страфы як закончанага, цэласнага адрэзка мовы, што ўспрымаецца ў працэсе чытання, г. зн. асэнсаванага спасціжэння зместу. Гэта пацвярджаюць і разважанні Скарыны пра будову Псалтыра ў прадмове да ўсёй Біблії. Песні цара Давыда, піша Скарына, «имають в собѣ... псалмов полтораста, стишков или припелов две тысещи и шестьсот» (66—67). «Стишки или припелы» — гэта, уласна, і ёсць строфы, на якія падзяляецца кожны з псалмоў: «розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся выных языцех делить» (12) або «Псалтырь зуполная, на стихи статиями розделена» (160).

Калі сабраць разам выказванні Скарыны пра «стихи» (вершы) у розных кнігах Біблії, а таксама ў «Малой падарожнай кніжцы», можна зрабіць вывад пра яго ўклад у распрацоўку тэорыі верша. У прыватнасці, цікавымі з'яўляюцца сцверджанні Скарыны пра такую адзнаку вершаванай мовы, як сувязь яе з напевам — «гудбой»: «А зовѣтся псалтырь гудба, едина подобна к гуслям».

Павышаная ўвага Скарыны да верша не раз адзначалася ў літаратуразнаўстве і ілюстравалася такімі фактамі, як верша-

ваны выклад дзесяці запаведзей (прадмова да кнігі «Выхад»), прысвячэнне да кнігі «Іоў» («Богу в троици единому...»), прадмова да кнігі «Эсфір» («Не копай под другом ямы...») і г. д. Не менш выразныя прыклады вялікай ўвагі Скарыны да вершаванай мовы як мовы рытмічнай, эўфанічнай, мілагучнай знойдзем у іншых яго творах — асабліва ў плане практычнай рэалізацыі патрабаванняў эўфаніі і рытмічнасці выкладу сваіх думак, адпаведна з жанравымі асаблівасцямі большасці біблейскіх твораў, у прыватнасці твораў прапаведніцкіх, прамоўніцкіх, аратарскіх. Нездарма многія свае прадмовы Скарына называў «сказаниями», г. зн. прамовамі.

Такім чынам, уклад Скарыны ў развіццё літаратуразнаўчай навукі ўяўляецца нам вельмі істотным і важкім. Гэтыя асобныя назіранні, вядома, ніяк не вычэрпваюць закранутую тэму. Яны павінны ўспрымацца толькі як спроба вызначыць асноўныя напрамкі высвятлення творчага ўкладу Скарыны ў развіццё літаратуразнаўства як навукі, падкрэсліць значнасць, важкасць гэтага ўкладу. Няма сумнення, што тэарэтыка-літаратурныя погляды беларускага асветніка маюць важнае значэнне не толькі для больш поўнага і глыбокага разумення яго творчай спадчыны, яго месца ў гісторыі нашай культуры. Без іх асэнсавання нельга па-сапраўднаму зразумець літаратурную дзейнасць шматлікіх паслядоўнікаў і нашчадкаў вялікага гуманіста і вучонага.





*У. М. КОНАН (Мінск)*

# ЭСТЭТЫЧНЫЯ І МАРАЛЬНА-ЭТЫЧНЫЯ СІМВАЛЫ Ў ТВОРЧАСЦІ СКАРЫНЫ

Сімвалічны аспект быцця і культуры спасцігаецца на адносна высокім этапе філасофскага і мастацкага пазнання, калі становіцца зразумелай нятоеснасць вонкава-функцыянальнага значэння аб'ектаў быцця, фактаў культуры і іх унутранага, скрытага сэнсу. У штодзённным жыцці бываюць рэчы, людзі, мастацкія ці навуковыя творы з вонкавага боку вельмі значныя, але пазбаўленыя сэнсавай глыбіні; і, наадварот — бываюць іншыя рэчы, людзі і творы з выгляду як быццам нязначныя, някідкія, але напоўненыя глыбокім унутраным сэнсам.

Элементы сімвалізму ёсць ужо ў дахрысціянскай, асабліва ў познеантычнай, эліністычнай культуры, у іудзейскай монатэістычнай тэалогіі. Вядомы філосаф познеэліністычнага перыяду Філон Александрыйскі амаль усе сюжэты і вобразы Бібліі тлумачыў сімвалічна. Аднак універсальны, так сказаць, татальны сімвалізм спецыфічны для хрысціянскай рэлігіі і, шырэй, для ўсёй культуры хрысціянскага рэгіёна. Хрысціянская літаратура, іншыя віды мастацтва сімвалічныя па сваёй сутнасці, бо грунтуюцца на светапоглядзе, паводле якога свет вонкавы, бачны, матэрыяльна-прыродны, будучы значымым сам па сабе, набывае паўнату быцця і глыбокі сэнс толькі ў якасці рэальнага сімвалу свету боскага, духоўнага, нябачнага.

З найбольшай паўнатой сімвалізм увасабляецца ў так званым (па тэрміналогіі Канта) «сярэдзінным быцці», якое, з'яўляючыся матэрыяльным па сродках свайго выяўлення, у той жа час належыць да свету духоўнага па сутнасці. Гэта перш за ўсё мастацтва, у якім Кант з пэўнай падставай бачыў сімволіку духоўнага, маральнага жыцця. Сапраўднае, высокае мастацтва сімвалічнае па сутнасці, бо мастацкі вобраз, сістэма вобразаў і іх асобныя выяўленчыя элементы — гэта дыялектычнае адзінства матэрыяльнага і духоўнага, вонкавага (фабульнага) значэння і ўнутранага, заглыбленага сэнсу. Гутарка ідзе не пра сімвалізм як эстэтычную плынь у еўрапейскім мастацтве канца XIX — пачатку XX ст., а пра ўсялякае сапраўднае мастацтва, у тым ліку рэалістычнае. Яго сімвалічны аспект глыбока даследаваў А. Лосеў [1].

[1] Лосев А. Ф. Праблема символа и реалистическое искусство. М., 1976.

Сімвалічная вобразнасць характэрна для сярэдневяковых пісьменнікаў і асветнікаў Беларусі (погляд на зямную красу як сімвалічнае выяўленне боскай дасканаласці і паэтызацыя вясны як сімвала духоўнага адраджэння праз уваскрэсенне Хрыста ў Кірылы Тураўскага), для сярэдневяковай архітэктуры і выяўленчага мастацтва. Мастацкая і маральна-этычная сімволіка шырока прадстаўлена ў беларускім фальклоры: тут і агульныя для ўсходнеславянскага фальклору ўяўленні пра святло і яго зямныя ўвасабленні (агонь, белы, чырвоны і зялёны колеры, каштоўныя камяні і металы) як сімвалы жыцця, дабра і красы, і спецыфічна нацыянальныя вобразы-сімвалы, якія пазней творча выкарыстоўваліся ў класічнай беларускай літаратуры.

Сімвал у якасці катэгорыі мастацкага і філасофскага пазнання адлюстроўвае неадназначнасць з'яў рэчаіснасці, пераважна іх пераноснае духоўна-сэнсавае значэнне. Калі, напрыклад, алегорыя — гэта толькі вобразнае ўвасабленне пэўнай ідэі, то ў сімвале вобразная выяўленасць, захоўваючы сваё непасрэднае значэнне і свой прамы змест, разам з тым адлюстроўвае неадназначныя пераносныя сэнсавыя значэнні. Сімвалізм быў ля самых вытокаў духоўнай культуры — пачынаючы з міфалогіі, у якой рэальнай ці выяўленай у ранніх мастацкіх формах прадметнасці надаваўся першасны, слаба дыферэнцыраваны ў маральных і эстэтычных адносінах духоўны сэнс, увасоблены ў вобразах язычніцкіх багоў. Аднак усведамленне міфалагічных вобразаў у якасці сімвалаў адносіцца да больш позніх, развітых форм культуры сярэдневякоўя і Рэнесансу.

Як ужо адзначалася, сярэдневяковае хрысціянскае мастацтва, у тым ліку беларускае, было сімвалічным, усе кампаненты яго матэрыяльнай формы служылі сродкамі выяўлення духоўнага сэнсу. Больш таго, нават з'явы прыроды, як гэта можна заўважыць у творах Кірылы Тураўскага, тлумачыліся сімвалічна, бо ў іх бачыўся знак вышэйшага, боска-нябеснага сэнсу. Але, здаецца, толькі Ф. Скарына ўпершыню шырока карыстаўся самім паняццем сімвала, абазначыўшы яго тэрмінамі «знамя», «знаменаваць», «знаменаванне» і вытворнымі ад іх. У тэалагічным аспекце ён працягваў патрыстычную традыцыю тлумачэння біблейскіх кніг: іх сюжэты, вобразы і дзеючыя асобы разглядаліся не толькі ў іх прамым, фабульным значэнні, але перш за ўсё ў пераносным, сімвалічным, якому надаваўся рэлігійны, маральна-этычны і зрэдку эстэтычны сэнс. У выніку амаль усе падзеі і матывы старазапаветнай Бібліі ў Скарынавай інтэрпрэтацыі набылі выгляд так званай люстэркавай сіметрыі — паралельнай суадпаведнасці матэрыяльнага і духоўнага, чалавечага і боскага, «ветхага» і «новага», зямнога і нябеснага, іманентнага і трансцэндэнтнага, таго, што адбываецца ў канкрэтна-гістарычным часе і прасторы, і таго, што знаходзіцца па-за часам і прасторай. Напрыклад, дванаццаць суддзяў ізраіле-

вых, якія кіравалі народам на аснове родаплемяннай дэмакратыі, на яго думку, сімвалізавалі будучых дванаццаць апосталаў Ісуса Хрыста[2]. У прадмове да кнігі «Плач Ераміі» Скарына раскрыў сімвалічнае значэнне назваў кожнай літары старажытнаяўрэйскага алфавіта: дзевятая літара, на яго думку, сімвалізуе дабро, дзесятая — пачатак, чатырнаццатая — вечнасць, васемнаццатая — праўду, апошняя, дваццаць другая,— «знамена», г. зн. сімвалы (112—113). Адну з самых паэтычных кніг Бібліі, славутую «Песню песняў» пісьменнік лічыў сімвалічнай ва ўсіх яе тэмах, вобразах і матывах: «жаніх» сімвалізуе Ісуса Хрыста, «нявеста» — яго царкву, жаніхова дружына — апосталаў, «отроковици» — дзяцей царквы, «сонмище жидовское» — няверных, што не адгукнуліся на запрашэнне «жаніха» Хрыста прыйсці на духоўнае «вяселле» хрысціянства (30—31).

Сімволіка ў творах Ф. Скарыны нясе ў сабе пэўны мастацкі і маральна-этычны змест, з'яўляючыся не толькі сродкам экзегезы (тлумачэння рэлігійных тэкстаў), але і іх эстэтычнай інтэрпрэтацыі. У каментарыях Скарыны няма выразнага размежавання паняццяў рэлігійнай, маральнай і мастацкай сімволікі, што сведчыць пра сінкрэтызм яго светапогляду. І ўсё ж аналіз пэўнага кантэксту, у межах якога пісьменнік карыстаецца гэтым паняццем, дазваляе нам аналітычным шляхам выдзеліць мастацка-эстэтычны і этычны аспекты катэгорыі сімвала. Звернем увагу на адну акалічнасць: сімвалічнае значэнне Скарына перш за ўсё надаваў тым біблейскім кнігам, якія вызначаюцца найбольшай маральнай нарматыўнасцю, мастацкай вобразнасцю і эстэтычнай каштоўнасцю. Вышэй ужо згадвалася сімвалічная інтэрпрэтацыя ім «Песні песняў». У прадмове да абодвух выданняў Псалтыра (1517 і 1522 гг.) ён пазбягае паняцця сімвала, аднак імпліцытна (у няяўнай форме) разглядае яго гранічна абагульненае сімвалічнае выяўленне маральных, пазнавальных, эстэтычных і тэалагічных каштоўнасцей усёй Бібліі. Прарокі, на яго думку, спасцігалі сутнасць дабра і зла; жыццяпісы святых вучаць нас мудраму жыццю, а прытчы і прымаўкі — добрым звычаям. «Псалтырь же сама едина вси тые речи в собѣ замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть»: лечыць хваробы цела і душы, асвятляе розум і мягчыць сэрца, адганяе смутак, мацуе дружбу людзей, абуджае ў іх любоў да чалавека і ўсяго жывога. «Псалом жестокое сердце мякчить и слезы с него, якобы со источника, изводить. Псалом ест ангельская песнь, духовный темѣян, вкупе тело пѣнием веселить а душу учить... Там ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум досконалый. Там ест милость и друголюбство без льсти, и вси иншии добрые нравы якобы со источника оттолѣ походять»

[2] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 113. Далей спасылкі на гэта выданне прыводзяцца ў тэксце. У дужках абазначана старонка.

(10). Адным словам, Псалтыр у Скарыны — гэта сімвал усіх духоўных каштоўнасцей, драматычнае станаўленне якіх адлюстравала Біблія, падсумаваўшы вынікі ўсёй старажытнай культуры.

Адносна трагічнага жыцця Іова беларускі асветнік зазначае, што яно сімвалізуе мукі спасціжэння ісціны, а таму і самога героя гэтай трагедыі набожнага Іова сімвалічна называюць пракрокам у тым сэнсе, што ён мукамі сваімі нібы прадугадаў будучыя падзеі станаўлення хрысціянскай рэлігіі. З найбольшай паўнатой сімвалізм выявіўся ў прыказках і прымаўках, вядомых старажытным кніжкам як жанр прытчы. Ф. Скарына першым у айчынным літаратуразнаўстве звярнуў увагу на іх сімвалічна-пераносны сэнс, бо яны «всегда иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть» (19). Ён часта выкарыстоўваў паняцце сімвала («знамя», «знаменование»), каб адзначыць падвойны сэнс так званых «эзатарычных» (тайных, даступных толькі дасведчаным) кніг — унутраны, па сутнасці, сімвалічны, вядомы толькі мудрым, і вонкавы, агульнадаступны.

Сентэнцыі «Эклезіяста», што нібы пярэчыць адна другой, на самай жа справе, як падкрэслівае Скарына, у абагульненай сімвалічнай форме выяўляюць неаднолькавыя каштоўнасныя арыентацыі не толькі людзей розных, але і аднаго і таго чалавека ў розныя перыяды яго жыцця. У прадмове да кнігі «Ісус Навін» аўтар зноў вяртаецца да хрысціянскай інтэрпрэтацыі старазапаветнай гісторыі як сімвала новазапаведных ідэалаў і каштоўнасцей: «зямля Ханаанская», або Палестына, «знаменуеть царство небесное и горний Ерусалим»; пераход народа на чале з Ісусам Навінам «в землю обетованную» сімвалізуе будучы прыход Ісуса Хрыста, які «уведе верующих в него в царство небесное, еже ест земля живых» (53). Аднак калі ўлічыць, што паводле сярэдневяковай і рэнесансавай эстэтыкі прырода-сусвет з усёй разнастайнасцю з'яў — гэта дасканалы твор найвышэйшага мастака — бога, а краса зямная сімвалізуе прыгажосць духоўную, крыніца якой — бог, то і традыцыйны тэалагічны сімвалізм з яго паралелізмам Старога і Новага запаветаў мае пэўнае дачыненне да эстэтычнай і этычнай сімволікі.

Сімвалічны вобраз параўноўваецца Ф. Скарынам з люстэркам, у якім бачыцца ўсё багацце яго канкрэтнага, зямнога зместу. Гераічны ўчынак Юдзіфі сімвалізуе натуральную для ўсіх людзей любоў да сваёй айчыны, да зямлі, дзе мы «зродилися и ускормлены суть...» (59). У кожнай біблейскай кнізе асветнік бачыў вонкавы, фабульны, усім зразумелы змест («... не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый»), і разам з тым унутраны, духоўны, або сімвалічны («Написаны суть воистинну сие книги внутрь духовне е разумеющим...») (60—62). Біблія ў цэлым, на

яго думку, сімвалізуе, з аднаго боку, усё быццё і перш за ўсё гісторыю чалавецтва, з другога — кожная з яе кніг выступае ў якасці сімвала канкрэтнай навукі ці пэўнага мастацтва — граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі, этыкі і інш. (62—63).

У прадмове да кнігі «Быццё» Ф. Скарына наблізіўся да той сімвалічнай інтэрпрэтацыі, якая была характэрна для светапогляду рэнесансавых гуманістаў. «Потреба теж ведати,— пісаў ён,— иже со всих книг ветхаго закону (маецца на ўвазе старазапаветная частка Бібліі.— *У. М.*) сие книги Бытья и початок и конець книг Езехииля-пророка, а Пѣсни песнем Саломона-царя — суть трудны ко зрозумению. Прото ж и евреи людем младым пред тридесетма леты не давали их чести для великих таин, еже замыкають в собѣ книги сие, понеже суть над розум людский. Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, [по] старейшине их Аристотелю глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть» (71—72).

Гутарка тут ідзе, безумоўна, не пра вонкавы, апавядальны змест гэтых кніг, які зусім просты і агульназразумелы; асветнік мае на ўвазе іх унутраны, пераносны «духоўны», г. зн. сімвалічны, сэнс. Аднак ён не зрабіў таго апошняга кроку, які азначаў бы пераход ад сярэдневяковай тэалогіі да навукі,— не прызнаў выключна сімвалічнага значэння многіх сюжэтаў, вобразаў і міфаў Бібліі, палічыў за лепшае спаслацца на хрысціянскую веру ва ўсемагутнасць «во троици единаго бога, в шести днех сотворившего небо и землю и вся, еже суть в них». У адпаведнасці з хрысціянскай традыцыяй Скарына тлумачыў сімвалічнае значэнне біблейскіх міфаў, асабліва багата прадстаўленых у кнізе «Выхад». Цялеснае егіпецкае рабства «сыноў ізраілевых», на яго думку, сімвалізавала нашу духоўную няволю; купіна неапалімая «ясне знаменовала зачатие без семени сына божия»; жазло Майсеева, якое ператварылася ў змяю, сімвалізавала спалучэнне ў Хрысце боскай і чалавечай прыроды; пасланне Майсея фараону — прышэсце Хрыста на зямлю; велікодны агнец — «невинную муку господа нашего знаменовал»; праход сыноў ізраілевых праз Чырвонае мора — будучае хрышчэнне; манна нябесная, дадзеная яўрэям у пустыні, — прычашчэння (77—80).

Ахвярапрынашэнні і іншыя абрады старазапаветнай царквы, прароцтвы Данііла і г. д. таксама тлумачыліся Скарынам як сімвалы хрысціянскага, пераважна маральна-этычнага зместу. Прычым пісьменнік дазваляў сабе вольную інтэрпрэтацыю паасобных вобразаў і сюжэтаў Бібліі.

Ва ўсіх выпадках, калі гаворыцца пра сімвалічнае значэнне мастацкіх вобразаў, біблейскіх сюжэтаў і міфаў, Ф. Скарына падкрэслівае іх унутраны, не яўны, духоўны сэнс. З улікам светапогляду пісьменніка, паводле якога Біблія ўяўлялася нібы

падвойным сімвалам — рэальнай гісторыі чалавецтва, з аднаго боку, сукупнасці навук і мастацтваў, з другога, — можна меркаваць, што ўся культура бачылася яму ў двух аспектах: вонкавым, які адлюстроўвае паверхневы, матэрыяльны пласт быцця, і ўнутраным, які накіроўвае нас на пазнанне яго скрытага, духоўнага, этычнага і эстэтычнага сэнсу.





*В. А. ЧАМЯРЫЦКІ (Мінск)*

## ЛІТАРАТУРНЫЯ КРЫНІЦЫ СКАРЫНАЎСКІХ ПРАДМОЎ

Прадмовы Францыска Скарыны да кніг Бібліі — незвычайная літаратурная з'ява свайго часу, яркі помнік беларускай гуманістычнай публіцыстыкі XVI ст. Сінкрэтычныя паводле характару, яны арганічна спалучаюць элементы твораў літаратуры, філалагічнай навукі і грамадскай думкі Беларусі эпохі ранняга Адраджэння. На іх ляжыць выразны адбітак індывідуальнага літаратурнага стылю вялікага беларускага гуманіста, яго непаўторнай творчай асобы.

Своеасаблівасць зместу і выкладу гэтых прадмоў, іх навучальна-пазнавальны і папулярна-інфармацыйны характар тлумачыцца задачамі асветніцка-выхаваўчай праграмы Скарыны, а таксама зместам і асаблівасцямі кніг, да якіх яны былі напісаны. Адрасуючы свае выданні шырокаму дэмакратычнаму чытачу, мала дасведчанаму ва ўсіх тонкасцях Бібліі, беларускі першадрукар вымушаны быў сцісла пераказваць і папулярна тлумачыць кожную кнігу, дадаткова каменціраваць асобныя месцы тэксту, каб максімальна палегчыць яму самастойнае асваенне няпростага зместу гэтага складанага помніка сусветнай культуры. Зразумела, што пры такіх умовах змест кожнай прадмовы не мог не быць самым цесным чынам звязаны з канкрэтнай кнігай, непасрэдна залежны ад яе зместу і характару. Таму ставячы пытанне аб непасрэдных літаратурных крыніцах гэтых твораў беларускага гуманіста, трэба ў першую чаргу назваць біблейскія кнігі.

Складаючы прадмову да пэўнага твора, ён адначасова звяртаўся да іншых біблейскіх кніг, цытаваў іх, спасылаўся на выказванні старажытных аўтарытэтаў. Чалавеку, які свабодна валодаў тэкстам усёй Бібліі, выдатна ведаў усе асаблівасці і дэталі зместу гэтага помніка пісьменства, даволі лёгка было ў сваіх разважаннях абаперціся на патрэбнае яе месца, падмацаваць свае думкі аўтарытэтам «Свяшчэннага пісання». Такіх спасылак нямала ў прадмовах Скарыны: «да совершен будеть человек божий и на всяко дело добро уготован, яко святый апостол Павел пишеть» («Предъсловие в Псалтырь»), «пишеть святый Иоан во своем Еувангелии...» («Предсловие в притчи премудраго Саломона»), «о той земли Моисей в первых книгах

пишеть...» («Предословие... в книги Исуса, сына Навина») і інш.[1] Фактычна ўся Біблія паслужыла крыніцай скарынаўскіх прадмоў. Але найчасцей беларускі гуманіст спасылаўся на Евангелле і Апостал, асабліва на пасланні апостала Паўла.

Скарына, відаць, не праводзіў франтальнага тэксталагічнага параўнання біблій на розных мовах і не рабіў грунтоўнага філалагічнага аналізу ўсяго тэксту «Свяшчэннага пісання», бо не ставіў задачу падрыхтаваць крытычнае, навуковае выданне гэтага помніка. Аднак несумненна, што пры перакладзе асобных біблейскіх кніг і іх каменціраванні ён карыстаўся не толькі чэшскай і царкоўнаславянскай бібліямі. Пра гэта выразна сведчаць прамыя і ўскосныя даныя яго прадмоў. У прыватнасці, у прадмове да кнігі«Эсфір» беларускі гуманіст непасрэдна сцвярджае, што ў яго падручнай бібліятэцы былі біблейскія кнігі на грэчаскай, лацінскай і яўрэйскай мовах: «Потреба теже ведати, иже сия книга кратцей ест положена еврейским языком, нежели греческим а латинским... То пак, еже затым положено ест до конца, знашол есми во книгах греческаго и латинскаго писма выкладу посполитого» (106—107).

Скарына, напэўна, добра ведаў творчасць выдатных прадстаўнікоў раннехрысціянскай літаратуры Васіля Вялікага (Кесарыйскага), Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова (Назіянзіна) і іншых «бацькоў царквы». Вывучэнне твораў класікаў патрыстыкі было абавязковым у сярэдневяковых навучальных установах. Словы Грыгорыя Вялікага ён нават цытуе ў сваёй прадмове да ўсёй Бібліі: «Прото ж добре Григорей Великий, учитель вселенский, о сей книзе пишеть, глаголя: «Святое писмо все иные науки превышаеть, понеже егда бываеть чтено, под простыми словы замыкаеть тайну» (62).

Беларускі асветнік-гуманіст згадвае таксама розныя падзеі далёкага мінулага, шматлікія гістарычныя і літаратурныя імёны розных часоў, краін і народаў. Ён, бясспрэчна, чытаў такія выдатныя творы гістарычнай прозы свайго часу, як летапісы і хронікі, такія папулярныя помнікі перакладной літаратуры, як «Александрыя» і «Троя».

Характэрны кантэкст, у якім згадвае беларускі першадрукар гэтыя творы: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи» (63). З гэтага разважання вынікае, што аповесці пра Аляксандра Македонскага і Траянскую вайну былі ў XVI ст. настолькі шырока вядомыя на Беларусі, што Скарына, папулярызуючы некаторыя біблейскія кнігі гістарычнага зместу, не змог знайсці больш эфектыўнага сродку і больш перака-

---

[1] Тут і далей цытаты падаюцца ў тэксце па выданню: Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. У дужках абазначана старонка.

навучага аргумента, як толькі параўнаць іх са славутымі ў эпоху сярэдневякоўя творамі пра ваенныя справы і гераічныя подзвігі далёкага мінулага. Надзвычай цікава згаданае Скарынава меркаванне і для даследавання асаблівасцей яго літаратуразнаўчых поглядаў.

Беларускі гуманіст не супрацьпастаўляў свецкія гістарычныя аповесці біблейскім і тым больш не адмаўляў першыя як ідэйна заганныя, літаратурна недасканалыя, як можа здацца на першы погляд. Сэнс яго выказвання выразна паказвае, што ўсе гэтыя творы ён адносіў да аднаго і таго ж жанру гістарычнай прозы, аднак бачыў паміж імі істотную розніцу іменна ў характары адлюстравання мінулага. Аповесці пра Аляксандра Македонскага і Траянскую вайну — гэта мастацкія творы на гістарычную тэму з шырокім выкарыстаннем літаратурнага вымыслу і нават казачнай фантастыкі (напрыклад, у другой частцы «Александрыі»). Асобныя ж кнігі «Свяшчэннага пісання», напрыклад Макавейскія, больш нагадваюць гістарычныя хронікі, у іх сапраўдныя падзеі апісаны больш у летапісна-фактаграфічным плане, бліжэй да дакументальна-гістарычнай прозы, таму «о военных а о богатырских делех» у іх можна прачытаць, як кажа Скарына, «более и справедливее», г. зн. больш гістарычна дакладна і праўдзіва, чым у белетрыстычных «Александрыі» і «Троі». У цэлым жа гэта выказванне беларускага асветніка сведчыць аб яго вельмі тонкім і глыбокім разуменні жанравастылявых асаблівасцей розных відаў гістарычнай прозы, а таксама аб яго шчырым клопаце дадаткова пашырыць чытацкі рэпертуар сваіх суайчыннікаў малавядомымі шырокаму чытачу творамі біблейскага зводу.

Вельмі важная і цікавая таксама спасылка беларускага гуманіста на Арыстоцеля, якога ён называе старэйшынам сярод філосафаў: «Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, [по] старейшине их Аристотелю, глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть» (71—72).

У цэлым кнігі Скарыны раскрываюць яго шырокую дасведчанасць у антычнай гісторыі, старажытнай і сярэдневяковай літаратурнай і філасофскай спадчыне, паказваюць сапраўды энцыклапедычны характар яго натуры і ведаў, а яго прадмовы — незвычайнае багацце літаратурных крыніц, якімі ён карыстаўся.

Звяртае асаблівую ўвагу той факт, што Скарына вельмі часта згадвае ў сваіх прадмовах перакладчыкаў Бібліі. У гісторыі поўных яе перакладаў на еўрапейскія мовы беларускі асветнік вылучае два этапныя моманты: пераклад Бібліі (Старога запавету) на грэчаскую мову, ажыццёўлены ў II ст. да н. э. 72 перакладчыкамі (так званая Септуагінта), і пераклад Ераніма на лацінскую мову ў канцы IV — пачатку V ст., які пазней атрымаў назву Вульгаты. Да тэксту гэтых перакладаў у сваёй ас-

нове ўзыходзяць усе біблії праваслаўнага і каталіцкага свету эпохі сярэдневякоўя.

У «Предословии... в книги Даниила-пророка» беларускі гуманіст называе і нейкага Феадосія, які гэту кнігу «выложил с халъдейского писма на греческое» (105). Ён вельмі высока яго атэстуе — «учитель великий греческаго языка». Хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе антычны перакладчык Феадатыён, што жыў у II ст. н. э. Яму належыць поўны удакладнены пераклад Старога запавету на грэчаскую мову, які месцамі пераўзыходзіць нават класічную Септуагінту. У прыватнасці, кнігу Данііла ён пераклаў настолькі ўдала, што ў кананічныя тэксты грэчаскай і славянскай біблій быў уключаны іменна пераклад Феадатыёна замест ранейшага перакладу 72 «талкоўнікаў» на грэчаскую мову.

Паказальна, што Скарына называе сябе паслядоўнікам славутых перакладчыкаў «Свяшчэннага пісання», аднак найбольш часта згадвае ў сваіх прадмовах Ераніма. І калі ў прадмове да кнігі Данііла беларускі гуманіст даволі сціпла кажа пра сябе, што ён «недостойный последовник их», то ў прадмове да кнігі «Эсфір» з пачуццём высокай годнасці і з адчуваннем вялікай значнасці сваёй справы заяўляе: «Аз теже наследуя мужа светого (Ераніма. — *В. Ч.*)... поднялся праци тое и з божиею помощию межи иными книгами выложил и сию книгу Есфер...» (108—109).

Гэта вельмі важнае прызнанне. Скарына такім чынам прыраўноўваў сябе да сваіх вялікіх папярэднікаў і ставіў свой пераклад у адзін рад з этапнымі ў гісторыі біблейскіх перакладаў з'явамі. Іменна такім ён і паказаны на гравюрным партрэце 1517 г. — поўны ўласнай годнасці вучоны кніжнік, асветнік, перакладчык. Яго пераклад і выданне Бібліі — вынік агромністай, самаахвярнай, сапраўды тытанічнай працы, сапраўдны подзвіг першадрукара, выдатная з'ява ў гісторыі славянскай кнігі. Цяжка перааацаніць ролю Скарыны і як заснавальніка беларускай школы перакладу. Таму яго параўнанне з Еранімам, Лютарам і іншымі вялікімі дзеячамі еўрапейскай культуры не можа лічыцца перабольшаннем.

Славуты перакладчык Бібліі на лацінскую мову Еранім быў адным з найбольш адукаваных людзей свайго часу, яркай, неардынарнай асобай. Нарадзіўся ён у 30-х гадах IV ст. у Далмацыі, памёр у 420 г. у Палесціне, куды паехаў, каб вывучыць старажытнаяўрэйскую і старажытнагрэчаскую мовы і дзе ажыццявіў свой пераклад Бібліі. Пра сябе любіў гаварыць: «Я — філосаф, рытар, граматык і дыялектык, іудзей, грэк і лаціянін». Не прымаў алегарычнага тлумачэння «Свяшчэннага пісання», быў прыхільнікам філалагічнага яго вывучэння. Грунтоўна ведаў і любіў антычную літаратуру. Некаторыя сучаснікі-хрысціяне нават упікалі Ераніма за тое, што ў творах больш цытат з антычных пісьменнікаў-язычнікаў, чым з Бібліі, Эразм Ратэр-

дамскі бачыў у ім папярэдніка гуманістаў [2]. Вось такога вучонага мужа паслядоўнікам лічыў сябе Скарына.

Тэма «Еранім і Скарына» можа быць прадметам асобнага і цікавага навуковага даследавання. Нам жа тут хацелася б толькі адзначыць, што Вульгата, напэўна, паслужыла для беларускага першадрукара своеасаблівым прататыпам выдання «Свяшчэннага пісання». Справа ў тым, што ў рукапісных і друкаваных выданнях Бібліі Ераніма звычайна змяшчаліся (у выглядзе лістоў да пэўных асоб) і агульная прадмова перакладчыка, і прадмовы да кожнай яе часткі, да асобнага біблейскага твора. Іменна такую літаратурную будову ў агульных рысах мае і Скарынава Біблія. І хоць падобная структура характэрна і для Чэшскай бібліі 1506 г., якой, несумненна, карыстаўся і беларускі першадрукар, усё ж першакрыніцай у даным выпадку трэба лічыць іменна Біблію Ераніма. Да такога вываду нас схіляюць наступныя акалічнасці: па-першае, Скарына выдатна ведаў лацінскую Біблію, па-другое, Вульгата паслужыла таксама непасрэднай крыніцай Чэшскай бібліі (у апошняй змешчаны і агульная прадмова Ераніма і рад яго прадмоў да асобных біблейскіх кніг).

Аднак Біблія Ераніма была для Скарыны не толькі літаратурным узорам своеасаблівага збору твораў паводле агульнай будовы. Беларускі першадрукар непасрэдна карыстаўся як літаратурнымі крыніцамі і прадмовамі свайго вялікага папярэдніка. Пра гэта Скарына прама гаворыць у сваім «Предословии... в книгу Премудрости божией»: «Книгу сию, рекомую Премудрость, написал ест Филон Философ греческим языком, яко о том кажеть святый Герасим [3] в предмолвѣ своей, еже пишеть в сию книгу» (34).

П. Уладзіміраў, які спецыяльна параўноўваў прадмовы Ераніма і Скарыны, выявіў рад прыкметных тэксталагічных супадзенняў, месцамі выразную блізкасць зместу і думак, у прыватнасці, у прадмовах да ўсёй Бібліі, да кніг «Лічбы», «Эклезіяст» і некаторых іншых [4]. Аднак «у Скарыны няма і следу таго пастаяннага звароту да класічнай старажытнасці, якое пранізвае ўсе прадмовы блажэннага Ераніма» [5].

У цэлым тут можна гаварыць толькі пра асобныя рэмінісцэнцыі, пра творчае выкарыстанне беларускім гуманістам літаратурнай спадчыны яго далёкага папярэдніка. Беларускі асветнік жыў і фарміраваўся ў зусім іншы час і на іншых нацыянальных традыцыях, перад ім стаялі свае культурна-гістарычныя

---

[2] Голенищев-Кутузов И. Н. Средневековая латинская литература Италии. М., 1972. С. 78—85.

[3] Скарына часам называў Ераніма Герасімам: «Светый пак Ероним или Ерасим-презвитер...» («Предословие... в книги Есфера-царици»).

[4] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 101, 106, 117—118, 124.

[5] Там жа. С. 115.

задачы. Апрача таго, ён быў дастаткова смелай, самастойнай і творчай асобай, каб механічна запазычваць нават у Ераніма. Творчы падыход да літаратурных першакрыніц, акуратнае, але не педантычнае, свабоднае, але не адвольнае абыходжанне з аўтарытэтнымі тэкстамі заўважаюцца ва ўсіх кнігах беларускага першадрукара.

Вельмі разнастайныя паводле зместу прадмовы Ф. Скарыны нагадваюць своеасаблівы цыкл публіцыстычных твораў, аб'яднаных адзінствам стылю і галоўнай праблемы (выхаванне дзейнага і духоўна дасканалага чалавека), незвычайнай сціслацю і змястоўнасцю выкладу, канкрэтным і дзелавым, даходлівым і даверлівым характарам гаворкі аўтара з чытачом. І ўсё ж сярод іх прыкметна вылучаюцца дзве прадмовы: да ўсёй Бібліі і да Псалтыра. «Предъсловие... во всю Бивлию рускаго языка» — сваімі памерамі, абагульняючым характарам зместу, у якім дадзена ацэнка «Свяшчэннага пісання» ў цэлым, а таксама сцісла раскрыты літаратурны склад усяго біблейскага зводу, навучальна-пазнавальнае значэнне і выхаваўчы сэнс кожнай кнігі.

Яркі і цікавы помнік літаратуры — «Предъсловие в Псалтирь», 1517 г. Яно звяртае асаблівую ўвагу іменна як першы вядомы твор Скарыны, змешчаны ў першай друкаванай беларускай кнізе. Асаблівае месца, якое займаў Псалтыр у сярэдневяковым пісьменстве, яго важная роля як богаслужбовай і вучэбна-выхаваўчай кнігі і шырокая папулярнасць, відаць, абумовілі тое, што іменна з яго пачаў беларускі першадрукар сваю кнігавыдавецкую серыю. Ён, безумоўна, улічваў таксама і тую акалічнасць, што гэта — зборнік песень, твор не проста мастацкі, а паэтычны, які глыбока узрушваў тагачаснага чытача і слухача і служыў такім чынам для эстэтычнага задавальнення. Магчыма, гэтым і тлумачыцца тая асаблівая лірычная ўзнёсласць, з якой прадстаўляў Скарына Псалтыр простаму чытачу, высокая паэтычнасць яго прадмовы да гэтай кнігі.

У прадмовах беларускага гуманіста ёсць нямала афарыстычных, сапраўды высокамастацкіх мясцін, напісаных вобразна, у пэўным рытме: «Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотят имети добрые обычае и познати мудрость и науку... Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, яко бы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху... В ней воистинну ест дух разумности святый, единый, различный, смысленый, скромный, вымовный, движющийся, непосквѣрненый, истинный, сладкий, чистый, сталый, добротливый и всякую иную имеющий в собѣ добрую цноту» (20). Аднак, бадай, найбольш поўна і ярка ўсе гэтыя асаблівасці выявіліся ў Скарынавай прадмове да Псалтыра, дакладней у яе першай частцы, якая нагадвае верш у прозе.

Паэтычнасць гэтага твора дадаткова ўзмацняецца своеасаблівым лірызмам, ледзь улоўным светлым пачуццём радасці,

якое струменіцца з яго. У апошнім выразны адбітак той высокай эмацыянальнай узрушанасці, якую перажываў наш першадрукар, пішучы прадмову да кнігі, суджанай адкрыць першую старонку гісторыі ўсходнеславянскага кнігадруку, яго глыбокай веры ва універсальную лекавую сілу паэтычнага Слова, яго рэнесансавай веры ў Чалавека. У гэтай радаснай упэўненасці было нешта, як далёкае рэха, і ад рэлігійнага аптымізму ранніх хрысціян, ад іх наіўнай веры ў боскую ўсемагутнасць і справядлівасць, у выратавальную місію хрысціянства.

Выказаць такое меркаванне нам дае падставу той факт, што Скарына, складаючы прадмову да Псалтыра, выкарыстаў як літаратурную крыніцу «Гамілію (гутарку) на псалом 1» вядомага раннехрысціянскага пісьменніка IV ст., класіка патрыстыкі Васіля Вялікага (Кесарыйскага). На гэта ўпершыню звярнуў увагу П. Уладзіміраў [6], які грунтоўна даследаваў Скарынаў Псалтыр у супастаўленні з рукапіснымі псалтырамі на царкоўнаславянскай мове і Чэшскай бібліяй 1506 г. [7]

Васілю Кесарыйскаму належыць 16 гутарак на розныя псалмы. «Гутарка на псалом 1», дакладней, яе першая, уводная частка, у перакладзе на царкоўнаславянскую мову выкарыстоўвалася ў старажытнарускім пісьменстве ў якасці агульнай прадмовы да Псалтыра. Яна сустракаецца ў асобных рукапісах і друкаваных выданнях гэтай кнігі пад назваю «Предословие в книгу сию, глаголемую Псалтырь», або «Иже въ святых отца нашего Василиа Великого Предословие в начало псалмом». Збераглася даная прадмова і ў радзе кніг беларускага паходжання: у Бібліі Мацея Дзесятага 1502—1507 гг. [8], у Псалтыру 1593 г., што выйшаў у Вільні ў друкарні Мамонічаў, і ў некаторых іншых.

Вядомы ўсходнім славянам пераклад гэтага твора даволі дакладна перадае тэкст арыгінала, вельмі нязначна адрозніваецца ў рукапісах рознага часу і кнігадруках. Відаць, высокі аўтарытэт аўтара прадмовы прымушаў старажытных кніжнікаў ставіцца да яго тэксту з такою ж акуратнасцю і ўважлівасцю, як і да «Свяшчэннага пісання».

Каб наглядна пераканацца ў тым, што «Гутарка на псалом 1» Васіля Кесарыйскага сапраўды паслужыла літаратурнай крыніцай для скарынаўскай прадмовы да Псалтыра, параўнаем некалькі характэрных мясцін. Для супастаўлення выкарыстоўваем не найноўшы навуковы пераклад гэтага твора «бацькі царквы» на сучасную рускую мову [9], а тэкст XVI ст. на царкоўнаславянскай мове, які, трэба думаць, бліжэй да таго тэксту, якім непасрэдна карыстаўся беларускі асветнік.

---

[6] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 82—83.
[7] Там жа. С. 129—163.
[8] Рукапіс БАН 24. 4. 28, г. Ленінград.
[9] Гл. у кн.: Памятники византийской литературы IV—IX веков. М., 1968. С. 50—53.

**Псалтыр, Прага, 1517 г.**

Всяко писание богом водъхненое полезно ест ко учению и ко обличению, исправлению и ко наказанию правды. Да совершен будеть человек божий и на всяко дѣло добро уготован, яко святый апостол Павел пишеть. И сего ради святые писма уставлена суть к нашему навчению, исправлению духовному и телесному различными обычаи. Едины законом ветхым и новым, другые святыми пророки даны суть нам, иные деянием святых отець, а некые притчами премудрых учителей, некоторые теже песнями и псалмы, от царя Давыда и от иных божиих певцев сложеными, яко ест Псалтырь... Псалтырь же сама едина вси тые речи в собе замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть, суть бо в ней псалмы, яко бы сокровище всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають. Псалом ест щит против бесовскым нощным мечтанием и страхом, покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, женам набожьная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение. Псалом ест всея цѣрькви единый глас, свята украшаеть. Псалом всякую противность, еже ест бога ради, усмиряеть. Псалом жестокое сердце мякчить и слезы с него, яко бы со источника, изводить. Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пением веселить, а душу учить.

**Псалтыр, Вільня, 1593 г.**

Всяко писание богодохновено и полезно, сего ради написана быша от святого духа. Да яко же во общей душевней врачебницы, вси человецы и исцеление своея страсти коиждо избирают. Исцеление, рече, уставит грехи великие. Ина убо пророцы наказуют, и ина исповестныя книги и закон другая и ина вид приточнаго поучения. Псаломская же книга еже от всех полезное объят, пророчествует будущая, повести воспоминает, законное полагает, житие подлагает деятелная и единою, просто рещи, обще есть сокровище благих учений... Псалом—тишина душам, податель смирению, мятежное и волнующееся души спрятая, умягчает бо убо душ яростное, блудное же уцеломудряет [10].

Псалом—дружбе собратель и совокупление растущимся, враждающихся смиритель... Псалом—бесом прогонитель [11], ангельския помощи наводитель, оружие в страхованиих нощных, покой трудовом дневным, младенцем утверждение, растущим удобрение, старым утешение, женам прикладнейшая доброта, пустыня населяет, торжища уцеломудряет; новочалным укрепление, предспевающим ращение, совершаемым утверждение. Церковный глас. Сей праздники светлы творит. Сей печаль по бозе соделовает... Псалом бо и от каменна сердца слезы изливает. Псалом — аггельское дело, небесное жительство, духовное кадило.

Фактычна ўся першая, панегірычная частка прадмовы Скарыны да Псалтыра (да слоў «и видечи таковые пожитки в так малой книзе...») пабудавана на ўступнай частцы «Гутаркі на псалом 1» Васіля Кесарыйскага, але выкарыстана яна даволі свабодна і творча. У адных выпадках беларускі пісьменнік свя-

---

[10] Гэты сказ у выд. 1593 г. памылкова змешчан значна ніжэй.

[11] У тэксце памылкова надрукавана — «пригонитель».

дома прапусціў тыя мясціны твора свайго славутага папярэдніка, якія мелі канкрэтызуючы характар і некалькі як бы выбіваліся з агульнага стылю, у прыватнасці разважанні пра людзей, якія гоняцца за зямнымі ўцехамі, пра тое, што псалмы спяваюцца ў хатах і на торжышчах і могуць супакоіць нават раз'юшанага чалавека. У іншых ён па-свойму выклаў вядомы тэкст, як, напрыклад, месца ў канцы ўступнай часткі, дзе Васіль Кесарыйскі канкрэтна гаворыць пра тэхнічныя асаблівасці псалтыра як музычнага інструмента і яго адрозненне ад ліры.

У цэлым Скарына творча перарабіў літаратурную крыніцу, месцамі значна скараціў або дапоўніў чужы тэкст і нават развіў думкі высокага хрысціянскага аўтарытэта (параўн., напрыклад, пачатак і канец прадмовы). І гэта перапрацоўка была праведзена ім настолькі ўдала, умела і таленавіта, «сваё» і «чужое» так арганічна зліта, што атрымаўся новы твор, у якім захаваны ўсе найбольш важныя думкі Васіля Кесарыйскага і дух яго твора, а з другога боку, шырока выявілася і асоба другога аўтара, характэрныя асаблівасці яго стылю. Новы твор, па сутнасці, ні ў чым не саступае свайму славутаму папярэдніку. Толькі чалавек магутнай творчай смеласці і сілы, высокай індывідуальнай самасвядомасці і рэнесансавага светапогляду мог дазволіць сабе такое вольнае абыходжанне з кананічным тэкстам хрысціянскага класіка.

Прадмова Скарыны да Псалтыра — гэта своеасаблівае казанне, эмацыянальна-прыўзнятая, усхваляваная прамова да чытача, пахвала кнізе, што перарастае ў сапраўдны гімн высокай паэзіі, мастацкаму слову. Хоць яе заключная частка мае тлумачальна-інфармацыйны характар, больш дзелавая паводле зместу і выкладу, аднак у арганічным адзінстве прадмова мае выгляд закончанага, цэласна складзенага і літаратурна дасканалага твора.

Пэўную загадку тоіць у сабе той факт, што беларускі гуманіст, так адкрыта і шырока выкарыстаўшы твор іншага аўтара, нідзе непасрэдна не спаслаўся на Васіля Кесарыйскага, хоць уласнае імя не прамінаў называць усюды. У некаторых лацінскіх рукапісах прадмова Васіля Кесарыйскага да Псалтыра прыпісваецца Аўгусціну [12], таму, магчыма, у Скарыны магло закрасціся сумненне, каму ж у сапраўднасці належыць гэты твор. Аднак хутчэй за ўсё тут адыграла сваю ролю тая акалічнасць, што ў часы Скарыны на ўсходнеславянскіх землях такое непасрэднае выкарыстанне агульнавядомых пісьмовых крыніц не лічылася тады плагіятам. Наадварот, у эпоху, калі традыцыйнасць у жыцці, літаратуры, мастацтве была нормай і правілам, твор, у якім аўтар шырока абапіраўся на аўтарытэтныя крыніцы і следаваў агульнапрынятаму, знаёмаму, выклікаў большы давер, чым твор, зусім не падобны да папярэдніх, цал-

---

[12] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 328.

кам арыгінальны. Беларускі першадрукар у даным выпадку творча выкарыстаў якраз добра вядомы, апрабаваны стагоддзямі помнік царкоўна-рэлігійнай літаратуры высока аўтарытэтнага хрысціянскага пісьменніка. Наследаванне ўзору было адным з асноўных творчых прынцыпаў рэнесансавай эстэтыкі.

Не можа быць ніякага сумнення ў тым, што творчая, самастойная перапрацоўка часткі «Гутаркі на псалом 1» Васіля Кесарыйскага, якая чытаецца сёння ў прадмове да беларускага друкаванага Псалтыра 1517 г., належыць іменна самому Скарыну і не запазычана жыўцом, механічна не спісана ім у нейкага іншага сааўтара. Пра гэта пераканаўча сведчаць усе астатнія яго прадмовы да розных біблейскіх кніг. Гэта дадаткова пацвярджае таксама Чэшская біблія 1506 г., якая паслужыла адной з асноўных крыніц Скарынавай. У гэтай Бібліі змешчана зусім іншая прадмова да Псалтыра [13], вельмі далёкая, зусім непадобная сваім тэкстам да прадмовы Скарыны. Магчыма, толькі адзін выраз запазычыў беларускі першадрукар з чэшскай прадмовы: «zaltarz yest nastroy a neb naprawa hudby, maye spuosobu a formu podobnu obeczne lautnie», што сугучна скарынаўскаму: «А зовѣтся псалтырь гудба, едина подобна к гуслям» (11).

Мы тут пакідаем адкрытым складанае пытанне аб тым, які непасрэдна тэкст гаміліі Васіля Кесарыйскага быў пакладзены ў аснову скарынаўскай прадмовы да Псалтыра. Ці гэта была яго царкоўнаславянская рэдакцыя, добра вядомая на ўсходнеславянскіх землях як «Предословие в книгу сию, глаголемую Псалтырь», або «Предословие в начало псалмом»; ці поўны тэкст «Гутаркі на псалом 1» у перакладзе на лацінскую мову? Вырашэнне гэтай праблемы патрабуе спецыяльнага глыбокага даследавання, вельмі працаёмкага прагляду шматлікіх рукапісных і друкаваных крыніц на розных мовах, тонкага тэксталагічнага аналізу і дадаткова ўскладняецца яшчэ тым, што беларускі гуманіст не літаральна перакладаў і механічна запазычваў, а творча наследаваў хрысціянскаму класіку, свабодна прыстасоўваючы яго твор да задач сваёй культурна-асветніцкай праграмы.

Гэтыя асобныя нашыя назіранні над скарынаўскімі прадмовамі, спробы высветліць іх літаратурныя крыніцы не прэтэндуюць на вычарпальнасць і канчатковасць, аднак даюць падставы для некаторых важных вывадаў. Прадмовы Скарыны сведчаць пра вялікае багацце і разнастайнасць літаратурных крыніц, якімі ён карыстаўся, пра шырокі і творчы падыход да іх беларускага першадрукара. У гэтым падыходзе, як і ў яго кнігах, у цэлым, ярка выявіліся гуманістычна-асветніцкія погляды і творчыя прынцыпы Ф. Скарыны, непаўторная самабытнасць яго творчай індывідуальнасці. З высакародным патрыятычным імк-

[13] З яе тэкстам мы знаёміліся па фотакопіі, што захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР.

неннем «во великих послужити посполитому люду» і браўся ён за сваю тытанічную працу, якая духоўна ўзвысіла і яго самога і яго народ.

Як асветнік-гуманіст, пісьменнік і перакладчык Скарына вырас на багатых традыцыях старажытнарускай і сусветнай культуры, творча выкарыстаў, развіў і ўзбагаціў іх, зрабіўшы лепшае з культурнай спадчыны іншых народаў духоўным набыткам беларускага народа. Выпусціўшы цэлую серыю з 24 кніг Бібліі з уласнымі прадмовамі, ён гэтым самым, па сутнасці, пачаў выданне для шырокага дэмакратычнага чытача папулярнай «Бібліятэкі сусветнай літаратуры», якая, на жаль, атрымала працяг на Беларусі толькі ў XX ст. У гэтым, як у люстры, адбіліся і еўрапейскі ўзровень беларускай культуры ў XVI ст., і надзвычай складаны шлях развіцця беларускай літаратуры і роднага слова ў наступныя стагоддзі. Гэты факт — таксама выразнае сведчанне таго, наколькі апярэдзіў свой час беларускі першадрукар. Яго ўзнёслыя духоўныя памкненні, магутная творчая энергія, закладзеная ў яго кнігах, у яго патрыятычным подзвігу, яго высокі прыклад самаахвярнага служэння роднаму слову, свайму народу, былі той жыватворчай сілай, якая ў цяжкія часы гісторыі дапамагала беларусам духоўна выстаяць і спрыяла росквіту беларускага нацыянальнага Адраджэння ў XX ст.



*Ю. А. ЛАБЫНЦАЎ (Масква)*

# «НАДПІСАННІ» ГЛАЎ ЯК ЧАСТКА ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ СКАРЫНЫ

Калі мы гаворым пра доктара Ф. Скарыну «из славного града Полоцька», то некалькі разоў паўтараем слова «першы». Першы не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй нашай краіне, нават ва Усходняй Еўропе. Шматгранная творчая спадчына гэтага чалавека вывучаецца вось ужо два стагоддзі, аднак вядома нам усё яшчэ не поўнасцю. Можа паказацца незвычайным, нават парадаксальным, але менш за ўсё Ф. Скарына вядомы як пісьменнік, што працаваў у некалькіх самых розных жанрах. Пра Скарыну кнігадрукара і асветніка ведае значная колькасць людзей. Артыкулы аб ім, хоць і не частыя ў масавых выданнях, расказваюць пераважна пра гэтыя бакі яго дзейнасці. Практычна на ўсіх канферэнцыях і пасяджэннях, прысвечаных Ф. Скарыну, пакуль што гучаць адны і тыя ж тэмы. Вось, напрыклад, як называлася адно з іх, што адбылося 27 кастрычніка 1986 г. у Цэнтральным Доме літаратара ў Маскве — галоўным пісьменніцкім доме краіны: «Францыск Скарына — заснавальнік кнігадрукавання ў Беларусі і Літве» [1]. Толькі заснавальнік кнігадрукавання і ўсё. Скарына-пісьменнік застаецца малавядомым нават сярод вучоных, не кажучы ўжо пра шырокага чытача. Важкіх слоў аб літаратурным таленце вялікага беларуса яшчэ не сказана, яны яшчэ наперадзе. А ён жа быў незвычайным паэтам і выдатным гімнографам, творы якога жылі ў чалавечых сэрцах цэлыя стагоддзі, умелым перакладчыкам самай аўтарытэтнай у яго час літаратуры на зразумелую народу мову, пачынальнікам беларускай публіцыстыкі, цудоўным тэкстолагам і эдытарам. Нарэшце, ён здзіўляе майстэрствам сэнтэнцый і афарызмаў, якія і сёння чытаюцца з вялікім задавальненнем...

«Надпісанні» глаў, або, інакш, кароткія тлумачэнні зместу кожнай з глаў перакладзеных кніг, — вельмі своеасаблівая частка літаратурнай спадчыны Ф. Скарыны. Вучоныя XIX ст. толькі зрэдку ўспаміналі аб гэтых скарынаўскіх тэкстах, цяпер жа пра іх увогуле проста забыліся.

Вось што, напрыклад, пісаў у манаграфіі «Славянская ўза-

[1] Вечар адбыўся ў Вялікай зале Цэнтральнага Дома літаратара, дзе выступілі пісьменнікі і вучоныя з Масквы і Мінска.

емнасць са старажытных часоў да XVII ст.» вядомы славіст мінулага стагоддзя І. Первольф, які называў «надпісанні» глаў загалоўкамі: «Загалоўкі ў Біблii Скарыны паказваюць, што ён кіраваўся іменна венецыянскім выданнем Чэшскай біблii; у выданнях пражскім і кутнагорскім іх няма»[2]. Вось і ўсё. Самая шырокая характарыстыка «надпісанняў» дадзена сто гадоў таму назад П. У. Уладзіміравым у яго вядомай кнізе пра Скарыну: «Да ліку ж дадаткаў да перакладу св. пісання адносяцца тлумачэнні зместу кожнай главы, змешчанай ва ўсіх біблейскіх кнігах Скарыны, за выключэннем Псалтыра. Гэтыя дадаткі, мэтай якіх было дапамагчы засвоіць змест св. пісання, прыводзяць нас да галоўнай крыніцы скарынаўскага перакладу — Чэшскай біблii, выдадзенай у 1506 годзе ў Венецыі... Змест глаў кожнай асобнай кнігі св. пісання з'яўляецца таксама выключнай асаблівасцю Чэшскай біблii 1506 года. У папярэдніх выданнях гэтага зместу няма; у наступных выданнях першай палавіны XVI ст. пачынаючы з выдання 1529 года паўтараецца без змянення змест глаў па выданню 1506 года. У Скарыны, пры ўсёй блізкасці да чэшскага арыгінала 1506 года, са зберажэннем у многіх выпадках чэшскіх выказванняў, бачна імкненне да паўнаты. Над некаторымі главамі тэкст дапоўнены ў Скарыны лішнімі ўказаннямі на змест глаў. Гэтыя дапаўненні былі звязаны з прадмовамі Скарыны, у якіх ён галоўным чынам стараўся пазнаёміць чытача са зместам кнігі»[3].

Як відаць, і гэта характарыстыка «надпісанняў», самая грунтоўная з усіх існуючых, вельмі фрагментарная. Пададзена яна мімаходам, без аналізу і супастаўленняў. Тым не менш у ёй ёсць два вельмі істотныя моманты, якія мог заўважыць толькі чалавек, які карпатліва вывучаў кнігі самога Ф. Скарыны. Першае з гэтых назіранняў — сцвярджэнне пра большую паўнату скарынаўскіх тэкстаў, другое — пра блізкую сувязь «надпісанняў» з прадмовамі. На жаль, наступныя даследчыкі, за выключэннем А. В. Ф693лароўскага[4], не звярнулі на назіранні П. У. Уладзімірава ніякай увагі.

Разам з тым, удумліва вывучаючы кнігі Скарыны, нельга, у рэшце рэшт, не заўважыць асаблівасцей іх літаратурнай кампазіцыі. Тая або іншая кніга Скарыны — арганічнае адзінства, у якім зліты і адносная кананічнасць тэкстаў, і даніна традыцыі, і аўтарскі пачатак, і наватарства перакладчыка, і, нарэшце, выдавецкая і паліграфічная інтэрпрэтацыя аўтарскай справы, якая належала яму самому. Кнігі Скарыны — цалкам плод амаль

[2] Первольф И. Славянская взаимность с древнейших времен до XVII века. Спб., 1874. С. 253.

[3] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 127—128.

[4] Флоровский А. В. Чешская библия в истории русской культуры и письменности (Франциск Скорина и продолжатели его дела) // Sbornik filologický. Vyd. III. Třida Česke Akad. věd a umění, 1940—1946. S. 184.

аднаасобнай яго працы ад пачатку і да канца. Альфай тут з'яўляецца археаграфічная і тэксталагічная работа Ф. Скарыны, амегай — стварэнне правобраза, макета будучай кнігі, а магчыма, і сам працэс друкавання. Напісанне прадмоў і пасляслоўяў, а таксама «надпісанняў» глаў — праца, па ўсіх мерках сярэдневякоўя, чыста літаратурная. «Надпісанні» — частка гэтай працы, нават значная частка, вызначыць якую толькі колькасна, аб'ёмна — яшчэ не значыць зразумець. У даволі строгай іерархіі скарынаўскіх тэкстаў «надпісанні», на думку самога аўтара, займаюць важкае месца. Калі мы ўважліва прачытаем яго ўласныя словы з прадмовы да першай кнігі «Царствы», то адразу ж зразумеем яго. «Надпісанні» — сувязнае звяно паміж аўтарскай інтэрпрэтацыяй, выкладзенай у прадмове, суб'ектыўным аўтарскім і чытацкім разуменнем тэксту кніг і іх аб'ектыўным тлумачэннем у свеце ўзаконенай традыцыі.

Як з'ява літаратурная, «надпісанні» могуць быць нават аднесены да своеасаблівага літаратурнага жанру, які ў далейшым атрымаў развіццё ў асноўным у літаратурах пратэстанцкіх народаў. У тапаграфічным плане першае «надпісанне» той або іншай кнігі ў большасці выпадкаў змешчана адразу ж пасля прадмовы. Яму папярэднічае «зачало», або інцыпіт, а таксама нумарацыя главы. Але не заўсёды. Як вынікае з агульнага аналізу ўсіх скарынаўскіх тэкстаў, рад кніг уключае асобныя часткі, якія займаюць прамежкавае становішча паміж прадмовамі і «надпісаннямі». Па лаканічнасці, лапідарнасці стылю яны бліжэй да «надпісанняў», а па зместу — да прадмоў, бо ў іх ідзе гаворка аб усёй кнізе цалкам. Прыкладам можа служыць тэкст з кнігі «Іоў», які пачынаецца пасля слоў «Конец прѣдсловию» на лісце 3 і займае цэлых дзве старонкі: «О житии светого Иова. И о роде его, выписуеться». Пасля паведамлення «пишут о том, иже светый Иов жил ест в земле Усвитидстеи в странах Идумеи и Аравии» і апавяданне аб радаслоўнай Іова надрукавана наступнае: «И то ест род с[ве]т[о]го Иова. И егда ему было лет сто и осм, перепустил ест на него г[о]с[по]дь бог раны великые, хотечи нам дати науку терпения во всих противних речах и в болестех и ранах наших. И потом видячи смирение и теръпение его помиловал, и жил же Иов по ранах тех лет сто и 40 и умре» [5].

Аналагічнае становішча сярод скарынаўскіх твораў займаў і тэкст у кнізе «Выхад», які ішоў адразу ж за словамі «Конѣць прѣдсловию» на адвароце чацвёртага ліста гэтай кнігі: «Кто бы пак межи простыми людми братии моей хотел яснее разумети, яковым обычаем был храм уделан, кивот, стол, светилник,

---

[5] Ні гэты, ні іншыя падобныя тэксты не трапілі ў вядомую анталогію скарынаўскіх твораў «Прадмовы і пасляслоўі» (Мн., 1969). Зрэшты, ёсць і выключэнні, напрыклад тэкст пасля слоў «Конець предсловия» на адвароце ліста 4-й кнігі «Прытчы Саламона»: «Сия книга, рекомая...» (С. 21).

требник и ризы жреческие, тое все вымалеваное нижей знайдеть».

Дарэчы, і гэта яшчэ не ўсё. Існуе шмат невялікіх па аб'ёму тэкстаў, якія, часта спалучаючыся з графічнымі дамінантамі, утвараюць новыя, зусім нечаканыя літаратурна-кампазіцыйныя ракурсы, што звычайна ўзмацнялі тое або іншае гучанне, танальнасць, матыў скарынаўскага паведамлення. Непасрэдна перад першым «надпісаннем» усё той жа кнігі «Іоў» у самым канцы цытаванага тэксту на адвароце трэцяга ліста з абзаца, які пачынаўся ініцыялам «В», надрукавана: «В сей книзе с[ве]т[о]го Иова суть глав четырдесять и две. Пишет же в них о его терпении и о его совершени, и како жена искушала его. О гадании теже его со трема другы, они же были пришли посетити его. И ясно им поведел о из мертвых въстании. Потом Елиуд с ним говорил. А потом сам г[о]с[по]дь из бури облачное ему чудеса своя поведал ест».

Такая складаная структура ўводзін, якія папярэднічаюць асноўнаму, перакладзенаму Скарынам, тэксту, вызначаецца перш за ўсё жаданнем інтэрпрэтатара і выдаўца дасягнуць максімальнага ўздзеяння на чытача. У асобных выпадках адна і тая ж думка гучыць некалькі разоў як сэнсавы рэфрэн, што ўсё больш вызваляецца ад цяжару слоў. Спачатку яна атрымлівае нейкае пашыранае, часта вобразнае тлумачэнне, затым сваё месца ў агульным радзе выкладання, у радзе ідэй або задум, і, нарэшце, гучыць у «надпісанні» як абсалютна пэўны дэвіз-тлумачэнне.

Наколькі ж арыгінальныя гэтыя тэксты з кніг Скарыны, што яшчэ не сталі аб'ектам літаратуразнаўчага даследавання? Каб адказаць на гэта пытанне, давялося прарабіць вялікую тэксталагічную працу, супаставіць многія дзесяткі розных выданняў і нават рукапісаў на некалькіх мовах. І перш за ўсё прааналізаваць самі тэксты, надрукаваныя Скарынам. Агульная іх колькасць перавышае паўтысячы. Па аб'ёму яны складаюць больш двух друкаваных аркушаў, г. зн. прыкладна чацвёртую частку ад аб'ёму прадмоў і пасляслоўяў, выдадзеных беларускімі літаратуразнаўцамі асобнай кнігай [6].

Архітэктанічна і графічна «надпісанні» заўсёды аддзелены ад астатніх тэкстаў. Пачынаюцца яны з ламбарда — невялікага простага малюнка-ініцыяла, роля якога, таксама як і іншых арнаментальных і графічных элементаў у кнігах Скарыны, строга акрэслена. Набраны «надпісанні» больш дробным шрыфтам, з адступам. У кожнай фразе строга зберагаецца прынцып ключавога слова. А кожнае «надпісанне» ўключае ад трох да дзесяці такіх ключавых слоў-матываў. Утвараецца своеасаблівы літаратурны сюжэт-тлумачэнне, які стаяў на пагранiччы паміж старой візантыйскай традыцыяй каменціравання і новай еўра-

---

[6] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі.

пейскай герменеўтыкай, што нараджалася ў XVI ст.[7] Аднак жа па сваіх літаратурных асаблівасцях, нейкаму ўнутранаму, глыбіннаму, амаль інтуітыўнаму гучанню «надпісанні» Скарыны ўсё ж бліжэй да традыцыі візантыйскай.

«Надпісанні» амаль заўсёды рытмізаваны. Улічваючы характэрныя рысы старой і новай еўрапейскай паэзіі, а таксама асаблівасці паэзіі ўсходняй, ад старажытнаблізкаўсходняй да старагрэчаскай і візантыйскай, можна выказаць меркаванне, што рытміка скарынаўскіх «надпісанняў» на першы погляд нябачная — гэта нейкі ўскладнены кангламерат, у аснове якога ляжыць рытміка біблейскіх старазапаветных кніг. Вось, напрыклад, як гучыць «надпісанне» першай главы кнігі «Ісус Сірахаў»:

Починается книга Исуса Сирахова,
сына ерусалимлянина,
рекомая панаретос
или еклесиастыкус,
по руским церковник,
а имать глав 51.

Рытміка тут адчуваецца даволі выразна. Яе гучанне не цяжка прасачыць і ў большасці іншых скарынаўскіх «надпісанняў» глаў. У рэшце рэшт, яны зліваюцца ў нейкую асобную славесную сімфонію, своеасаблівы кароткі аналог-дубль, у якім адлюстроўваецца агульны змест перакладзеных кніг. Кожнае «надпісанне» мае нібы асабістае, цалкам самастойнае значэнне, а таксама служыць лагічным стрыжнем агульнай аўтарскай інтэрпрэтацыі кожнай канкрэтнай кнігі і ўсіх кніг разам.

Наколькі ж арыгінальныя ўсе гэтыя «надпісанні»? Ці не з'яўляюцца яны простым перакладам аналагічных «тэкстаў» з Чэшскай біблii 1506 г. і іншых выданняў? Аналіз магчыма даступных Ф. Скарыну матэрыялаў дае права гаварыць, што «надпісанні» ў скарынаўскіх кнігах — гэта не проста пераклад-калька вядомых ужо тэкстаў, а творчая перапрацоўка, асэнсаванне і ажыццяўленне самой ідэі стварэння падобных каментарыяў-«надпісанняў». Па сутнасці, Ф. Скарына, бліскучы перакладчык, літаратар і філосаф-інтэрпрэтатар, стварыў свае асабістыя, шмат у чым адрозныя ад раней існуючых тэкстаў «надпісанні» глаў. Гэта было чыста аўтарскае, творчае заснаванне ў цэлым яшчэ дастаткова маладой у новым еўрапейскім кантэксце літаратурнай формы. Зразумела, Скарына карыстаўся ў сваёй працы ўжо

---

[7] Пра герменеўтыку як навуку ў нас з усёй сур'ёзнасцю пачалі гаварыць толькі апошнім часам. (Герменевтика: история и современность: Критические очерки. М., 1985.) За мяжой атрымала вельмі шырокае самастойнае развіццё і выключна літаратуразнаўчая герменеўтыка. Гэта дастаткова добра распрацаваная дысцыпліна, што ўваходзіць разам з паэтыкай нібы ў адзіны цыкл. Гл., напрыклад, кнігі серыі «Poetik und Hermeneutik», выдадзеныя заходнегерманскай фірмай «Wilhelm Fink Verlag».

вядомымі аналагічнымі тэкстамі і перш за ўсё венецыянскім выданнем Чэшскай біблії, якое было трэцяй па ліку друкаванай Бібліяй на чэшскай мове.

| Чэшская біблія 1506 г. | Біблія Францыска Скарыны |
| --- | --- |
| **Кніга «Юдзіф»** | |
| Počžijnagij se Knijehy Judyth. W knihach Judyt klade se obleženije w Betulij lidu Izrahelskecho. Pocztiwost a rozssasnost wdowy Judyt. Stietije Oloferna, a lidu Izrahelskecho w wyswobozenie. Jest kapitol 16.[8] | Починается книга о жене Иудифь, еже отсече главу Олофернови, воеводе Навходнасора, царя Асиръскаго, избави людей Израилевых. А имать главь 16. |
| | **Глава 1** |
| Mocznecho krale Artarersa przemohl Nabochodonozor Asyrsky. Y zpychal tijem wijtiezstwijm, chtiel y ginee podmaniti sobie lidi: ale nechtieli se mu poddati. Kapitola 1. | Моцного царя Арфазата поразил ест Новходносор, царь Асирский. И потом послал послы ко иным народом, абы служили ему, и не хотеху учинити того. |
| | **Глава 2** |
| Nabochodonozor vežyniw radu i poslal Oloferna na zapad sluncze: kteryž wytahl wogeniky kazyl wsteczko. Kapitola 2. | Новходносор, царь Асирский, совещав совет, послал ест Олоферна, воеводу своего, на западние страны. Тои же идя з войском казил вси речи. |

Але такое выкарыстанне не было толькі запазычваннем. Больш таго, у падобных каментарыях да пачатку XVI ст. склаўся нейкі сэнсавы канон, якога прытрымліваліся практычна ва ўсіх тэкстах такіх выданняў. Скарына, нярэдка разумеючы тэксты перакладзеных кніг некалькі па-свойму, пераносіў сваё асобае разуменне і на характар «надпісанняў», г. зн. яго «надпісанні» адрозніваюцца ад ужо існуючых на іншых мовах не толькі славесна, лексічна, але часам і па сэнсу, лагічна. Усяго толькі адзін маленькі прыклад. У «надпісанні» першай главы кнігі «Эсфір» у Чэшскай біблії 1506 г. апошняя фраза гучыць так: «Aby mužye panowali nad zenami», а ў Скарыны: «Абы жены послухали мужей своих».

Такім чынам, ёсць усе падставы лічыць «надпісанні» глаў з кніг Ф. Скарыны часткай яго арыгінальнай літаратурнай творчасці, часткай яго літаратурнай спадчыны. Ёсць і яшчэ адзін вельмі важкі аргумент на карысць такога меркавання — гэта думка сучаснікаў самога Ф. Скарыны. Адзін з іх, напрыклад, цалкам перапісаў вялікую колькасць прадмоў і пасляслоўяў Францыска Скарыны, «надпісанняў» глаў і прамежкавых тэк-

[8] Biblij Czeská W Benátkach tisstená. 5. XII. 1506.

стаў у асобную кнігу, склаўшы асобны каментарый да знакамітай Астрожскай біблії 1581 г. [9]

Гэта сапраўдная сярэдневяковая анталогія арыгінальных скарынаўскіх твораў, якім адведзена такая важная, без перабольшвання — асноватворчая роля ў інтэрпрэтацыі кнігі — кніг Бібліі ў яе першым поўным праваслаўным выданні, што на стагоддзі стала галоўнейшай ідэалагічнай крыніцай у барацьбе за нацыянальную культуру і самабытнасць многіх народаў усходу і поўдня Еўропы. У даным канвалюце пісанні Ф. Скарыны папярэднічаюць, адкрываюць яго, затым ужо ідзе сам тэкст Бібліі, у які ўплецены асобныя творы Скарыны і рукапісная копія «Збору рэчаў патрэбнейшых» Цімафея Міхайлавіча — прадметнага паказальніка да «Кнігі новага запавета», выдадзенай Іванам Фёдаравым у Астрозе ў 1580 г. Факт такога выкарыстання арыгінальных твораў Скарыны больш чым шматзначны. Бясспрэчна, побач з павярхоўным і, па сутнасці, абсалютна неаргументаваным негатыўным меркаваннем такога прыхільніка і абаронцы праваслаўя, якім быў князь-пісьменнік Андрэй Курбскі [10], існавалі іншыя, нават супрацьлеглыя думкі аб літаратурных творах Францыска Скарыны, якія выкарыстоўваліся праваслаўнымі ў барацьбе з іншакультурнай экспансіяй і нават знайшлі сабе месца не проста побач, а ў ролі найбольш аўтарытэтных і адзіных тлумачэнняў у самой Астрожскай біблії.

З другога боку, і гэта не можа выклікаць сумненняў, сучаснікі Ф. Скарыны таксама лічылі «надпісанні» глаў арыгінальнымі яго творамі, што складалі разам з прадмовамі, пасляслоўямі і прамежкавымі тэкстамі цалкам акрэсленае адзінства, створанае канкрэтным аўтарам і маючае сваё асобнае літаратурнае значэнне, сваю асабістую, вельмі неабходную чытачам-сучаснікам, каштоўнасць.

«Захад ёсць Захад, Усход — Усход, і з месца ім не сысці». Гэта паэтычная формула, народжаная ў нашы дні, адлюстроўвала сутнасць з'яў і была актуальнай і ў скарынаўскія часы, і яшчэ раней. Скарына быў адным з тых, хто ўсім сваім жыццём, дзейнасцю, творчасцю злучаў дзве вялікія галіны чалавецтва. І ў гэтым яго не толькі міжславянскае, але і еўрапейскае, сусветнае інтэрнацыянальнае значэнне як пісьменніка і сына свайго беларускага народа.

---

[9] Экземпляр са збораў аддзела гісторыі кнігі, рэдкіх і асабліва каштоўных выданняў (Музея кнігі) Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна.

[10] Курбский А. М. Соч. Спб., 1914. Т. 1. Сл. 401—403. Андрэй Курбскі нават сцвярджаў: «аз сам видел Библии Лютеров перевод, согласующ по всему Скориным библием».





*В. І. ДАРАШКЕВІЧ (Мінск)*

# ЖАНРАВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ПРАДМОЎ І ПАСЛЯСЛОЎЯЎ СКАРЫНЫ

Выдатная заслуга Скарыны як пісьменніка і кнігавыдаўца была ў тым, што ён увёў прадмовы і пасляслоўі ў шырокі ўжытак ва ўсходнееўрапейскай літаратуры, надаў ім маральна-этычны, пазнавальна-асветніцкі, гуманістычны характар, адмовіўся ад ананімных этыкетных прадмоў сярэдневяковага пісьменства, стаў пачынальнікам беларускай філалогіі, кніжнага вершаскладання. Метадам гуманістычнай інтэрпрэтацыі, актуалізацыі біблейскай тэматыкі і праблематыкі, шляхам выкарыстання дасягненняў інтэлектуальнай думкі эпохі Антычнасці, сярэдневякоўя і Рэнесансу Скарына заснаваў у беларускай літаратуры рэнесансавую навукова-асветніцкую, філасофскую публіцыстыку.

Аснову вядомай літаратурна-публіцыстычнай спадчыны беларускага гуманіста складаюць 48 прадмоў (20 ён называе «предословиями» ці «предъсловиями», 25 «сказаниями», 2 «предмовами» або «предъмолъвами»), у якіх ён часткова выявіў свае грамадска-палітычныя, філасофскія, педагагічныя, прававыя і літаратурна-эстэтычныя погляды.

«Предъсловия» Скарыны, якія маюць тэарэтычна-канцэптуальны, праграмна-асветніцкі характар, большыя за іншыя яго прадмовы, энцыклапедычныя і сінкрэтычныя паводле формы і зместу. Звычайна яны складаюцца з некалькіх частак: абагульняльнага выкладу філасофскай, маральна-дыдактычнай ідэі твора, агульнай характарыстыкі зместу і структуры кнігі, яе аўтараў і герояў, гістарычных, філалагічных, тэалагічных каментарыяў, тлумачэння этымалогіі назвы кнігі, падрабязнай анатацыі, асабліва да кніг апавядальна-гістарычнага ці сюжэтна-фабульнага зместу, тлумачэння прынцыпаў перакладу і выдання. У асобных прадмовах Скарына ясна вызначаў эстэтычна-выхаваўчыя функцыі той або іншай кнігі, часта адзначаў сваю кампетэнтнасць і мэту («Про то ж и я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость розмышлѣние смерти, и познание самого себе, и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу святого Іова рускым языком богу ко чти и людем пос-

политым к научению»[1]), неаднойчы акрэсліваў кола чытачоў сваіх кніжак, звяртаўся да іх з натхнёным словам публіцыста, тэарэтыка, паэта, перакладчыка[2].

«Сказания» Скарыны — прадмовы, створаныя крыху па іншаму прынцыпу: гэта кароткія прамовы — анатацыі з іх лаканічнай тлумачальнай інфармацыяй («В сей малой книзе, рекомой Руф, о великой речи пишеть, то ест о початку родов царских; с них же потом изволил есть господь Ісус Христос нашего ради спасения народитися»[3]). Яны захоўваюць прыкметы прапаведзей, святочных казанняў, звязаных з тлумачэннем слухачу і чытачу той або іншай з'явы ці тэмы (узнёслы склад, аратарскі дух, разлічаныя на эмацыянальнае ўспрыняцце і г. д.).

«Прадмовы» і «предъмолъвы» Скарыны вызначаюцца адноснай ідэйна-жанравай завершанасцю, багаццем канкрэтнага зместу, шырынёй светапогляду аўтара, яго мудрай разважлівасцю, узнёсласцю і афарыстычнасцю выкладання думкі.

Паводле Скарыны, у кнізе «Ісус Сірахаў» «вся Саломонова и Аристотелева божественная и житейская мудрость... краткыми словы замкнена ест». Таму аб сваёй мэце гуманіст піша ў «предъмолъве»: «...для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки приложил... працу выложити книгу сию на рускый язык»[4]. А ў «предмове» да Апостала Скарына, расказваючы пра дзейнасць і творчасць «в лекарских науках доктара пренавченого», «лекаря тѣлесного» і «лекаря душ» евангеліста Лукі, дае эстэтычную ацэнку кніг Новага запавету. На думку Скарыны, «святый Лука писал ест о слове божием навышшей, наистей и нарядней, нежели иные» евангелісты, г. зн. больш узнёсла, глыбока і прыгожа. Адсюль вывад: беларускі асветнік-гуманіст бачыў і адзначаў рознастылёвасць і сінкрэтычнасць зместу Бібліі, індывідуальны характар стварэння яе кніг, а гэта ўжо была рэнесансавая, па сутнасці, ацэнка творчасці.

У скарыназнаўстве слушна падкрэслівалася, што жанравае размежаванне сваіх прадмоў («предъсловия», «сказания», «предмовы») беларускі першадрукар не змог правесці паслядоўна на працягу ўсёй працы над «Бібліяй рускай»[5]. Сапраўды, грунтоўную прадмову да «Книги втораго закону Моісеова» — па сутнасці, уводны артыкул прававога і этыка-юрыдычнага зместу— Скарына назваў «сказаннем», а канец «предмовы» да Апостала завяршыў словамі: «Конець сказанию». Кароткае слова да першай кнігі «Царстваў» — «сказание», а такія ж кароценькія ана-

---

[1] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 15.
[2] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 116—117.
[3] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 99.
[4] Там жа. С. 24.
[5] Конан У. М., Шматаў В. Ф. Скарына Францыск // ЭЛіМБел. Т. 5. Мн., 1987. С. 9.

тацыі да наступных трох кніг «Царстваў» ён называе «предословиями».

Погляд Скарыны на праблему жанру быў у цэлым універсальны, сінкрэтычны, на што схіляла Біблія як сінтэтычны, рознажанравы твор, своеасаблівы звод фальклору, філасофіі, гісторыі старажытнага Усходу і антычнай філасофскай думкі, а таксама тагачасная сярэдневяковая традыцыя, захаваная і ў эпоху Рэнесансу.

Большасць літаратурных жанраў, як вядома, існавала ў Еўропе з часоў антычнасці, але Рэнесанс парадзіў і свае адметныя жанры (сацыяльна-філасофскі раман, лірыка-эпічную паэму, санет і інш.), змяняў прыроду сярэдневяковага мастацтва, надаваў жанрам антычнай літаратуры новае гучанне. Як рэнесансавы пісьменнік, перакладчык, тэарэтык Скарына імкнуўсяі ісці ў нагу з часам. Нягледзячы на сваё універсальнае бачанне жанру, ён, аднак, нярэдка імкнуўся ўбачыць і вызначыць яго канкрэтную сутнасць (прадмова, пасляслоўе, псалом, прытча, пасланне, «епистола», акафіст, хроніка і інш.). Асабліва трапныя вызначэнні Скарына даў такім жанрам, як псалом і прытча. Характарызуючы прытчы цара Саламона, ён адзначаў: «Притчи же нарецаются еврейскым языком масшлоф, а грѣческым — параболѣ, по латине же — провѣрбия, а по рускы и — притчи или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, а болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть»[6]. Далей Скарына падкрэсліў: у «притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху»[7]. Нават з гэтага кароткага фрагмента відаць талент Скарыны, выдатнага для свайго часу моваазнаўцы, паліглота, які закладваў асновы для стварэння шматмоўных слоўнікаў, і літаратурнага крытыка, яго глыбокае і неадназначнае разуменне спецыфікі мастацкага адлюстравання жыцця, поліфаніі мастацкага вобраза, алегорыі, сімвала і параўнання як літаратурных сродкаў.

Гэта выказванне для нас каштоўнае і ў плане вытлумачэння скарынаўскага разумення Бібліі як кнігі з рэальным (вонкавым) і сімвалічным (унутраным) зместам. Яе вонкавы змест (абалонка арэха) даступны ўсім, сімвалічны, алегарычна-прытчавы, «знаменны» змест (ядро арэха) зразумелы толькі мудрацам, вопытным у «тайнах превеликих». Таму скарынаўскі метад тлумачэння Бібліі працягвае не толькі патрыстычную, экзегетычную сярэдневяковую традыцыю, але мае і эстэтычна-рэнесансавую, аўтарска-індывідуальную інтэрпрэтацыю, рацыяналістычна-гуманістычную афарбоўку (боскае і чалавечае, нябеснае і зямное, кананічнае і аўтарскае, рэальнае і сімвалічнае, свецкае і рэлі-

---

[6] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 19.
[7] Там жа. С. 20.

гійнае і г. д.). Праўда, з прычыны сінкрэтызму мыслення Скарына яшчэ не размяжоўваў жанрава-тэрміналагічную (мастацкую, рэлігійна-міфалагічную, маральную і г. д.) сімволіку. Найбольш сімвалічнымі ён лічыў «Песню песняў», «Плач Ераміі», Псалтыр і інш. Тлумачачы гэтыя ісціны, Скарына вучыў простага чытача ўспрымаць Біблію ў двуадзінай, паўнакроўнай (рэальнай і сімвалічнай) форме. Цікава адзначыць, што скарынаўскі вобраз («ядро у вореху») выкарыстоўвалі беларускія паэты розных эпох (Сімяон Полацкі, Ф. Багушэвіч і інш.).

Такім чынам, Скарына ўсведамляў, што сярэдневяковая культура і мысленне былі па сваёй прыродзе сімвалічнымі. У сілу гістарычнай, абумоўленай эпохай абмежаванасці свайго светапогляду ён не мог адмовіцца ад гэтай традыцыі (ілюстрацыі, графічна-шрыфтавое афармленне тэкстаў у выглядзе чашы, ромба, трохкутніка, прадмоўна-пасляслоўная і перакладчыцкая вобразнасць мае дваістае — сімвалічна-алегарычнае і рэалістычна-рэнесансавае значэнне). Сімвалічная вобразнасць, якая бярэ свой пачатак у міфалогіі, фальклоры і сусветных рэлігіях, захоўваецца ў выразна трансфармаванай форме і ў сучасным мастацтве і літаратуры. Пачаткі гэтай новай традыцыі на Беларусі можна бачыць і ў творчасці Скарыны, які ў тыпова сярэдневяковыя сімвалы, алегорыі ўжо ўкладваў і новы рацыяналістычна-рэнесансавы змест. Прыгадаем выяву спалучанага сонца і месяца, якая з'яўляецца не толькі сігнетам, манаграмай выдаўца, але і спрыяльным сімвалам астралагічным, сімвалам яго асветніцтва, сімвалам яго вечнасці, як вечныя сонца і месяц на небе. На партрэце Скарыны шмат свецкіх сімвалаў і ніводнага рэлігійнага.

Такім чынам, упершыню ў беларускай і ва ўсёй усходнеславянскай філалагічнай навуцы Скарына даў ідэйна-жанравую характарыстыку многіх кніг Бібліі і прааналізаваў прыроду сярэдневяковага сімвалічнага мастацтва. Ім пачата і тэматычна-функцыянальная дыферэнцыяцыя жанру прадмоў. Праўда, яна яшчэ не завершана. Напэўна ж, і сам гуманіст бачыў пэўную тэрміналагічна-жанравую ўмоўнасць сваіх вызначэнняў прадмоў, бо падкрэсліваў іх ідэйна-стылявое адзінства, і надаў ім адносна цэласную моўна-выяўленчую палітру, стылістыку і паэтыку, гарманічна ўзгодненую з агульным характарам перакладу «Бібліі рускай». Разгорнутыя канцэптуальна-навуковыя прадмовы ён ствараў да кніг, важных з пункту погляду сваёй асветніцка-выхаваўчай платформы, высунутай ім праграмы народнай адукацыі. Яна ж, гэта праграма, арыентаваная і мэтанакіраваная ў рэнесансавым рэчышчы, была сінкрэтычна кампраміснай і пасвойму арыгінальнай у плане рэалізацыі і ажыццяўлення мэты (у Бібліі Скарына бачыў энцыклапедыю навук і сімвал рэальнай гісторыі чалавецтва), выбару і дэмакратызацыі мовы і грунтавалася на сінтэтычным метадзе вучонага, у асноўным на традыцыях хрысціянскай бібліістыкі, новай герменеўтыкі, еўрапейскага інтэлектуальнага вопыту.

На творчай літаратурнай спадчыне нашага гуманіста ярка адбіліся асаблівасці пераходнага этапу культурна-гістарычнага развіцця ў жыцці чалавецтва і беларускага народа: спалучэнне рэнесансавых і сярэдневяковых ідэй і тэндэнцый, службовы характар літаратуры, прадмоў, паяднанне ў іх навукі і тэалогіі, царкоўнай пропаведзі, казання і новай літаратурнай публіцыстыкі, школьнай дыдактыкі і акадэмічнага філасофствавання і г. д.

Аднак нельга не заўважыць, што гэтыя якасці творчасці гарманічна сплаўлены пісьменніцкім «я» Скарыны, яго яркай творчай індывідуальнасцю ў самой сінкрэтычнай структуры прадмоў і іх энцыклапедычным характары. Іменна ў такіх асаблівасцях і формах існавання чалавечай думкі выявіліся ў Скарыны яшчэ не развітыя на ўсходнееўрапейскай перыферыі Рэнесансу ў асобныя галіны ведаў, але выразныя зародкі будучых навук, такіх, як эстэтыка, крытыка, літаратуразнаўства, гісторыя, тэалогія, новая філасофія, правазнаўства, лінгвістыка, тэксталогія, бібліяграфія, мастацтва кнігі, выяўленчае мастацтва, батаніка.

Такім чынам, з асобай Скарыны ў беларускай культуры звязана зараджэнне цэлага рада навуковых галін, абазначылася пэўная тэндэнцыя да іх выдзялення з лона сінкрэтычнага мыслення, сінкрэтычнай сярэдневяковай літаратуры. Гэты працэс завяршыўся на Беларусі толькі на мяжы XVIII—XIX стст. у выніку ўзнікнення самастойных навуковых дысцыплін і асобных відаў мастацкай творчасці.

Дзякуючы гэтаму паэтычнаму сінкрэтызму, сінтэзу грамадскай думкі розных эпох і рэнесансаваму, талерантна-энцыклапедычнаму характару асобы аўтара многія прадмовы Скарыны з'яўляюцца самастойнымі публіцыстычнымі творамі, каштоўнымі літаратурнымі помнікамі і дакументамі свайго часу.

У 62 скарынаўскіх пасляслоўях (поўных, кароткіх і зусім лаканічных) падаюцца важныя звесткі пра час заканчэння і месца друкавання кнігі, пра выдаўца-перакладчыка і рэдактара, мэту выдання кнігі, яе грамадскае і выхаваўчае значэнне. Гэтай, здавалася б, простай, элементарнай інфармацыі беларускі асветнік надаваў важную ідэалагічную і эстэтычную функцыі.

З аднаго боку, пасляслоўі служаць яркім выяўленнем і доказам засваення Скарынам законаў рэнесансавай і антычнай эстэтыкі, паэтыкі і рыторыкі аб неабходнасці класічнай завершанасці твора ці кнігі, з'яўляюцца выяўленнем новай, рэнесансавай гістарычнай самасвядомасці Скарыны, усведамлення ім значнасці сваёй асобы, пісьменніцкай працы і працы вучонага, жадання застацца ў памяці нашчадкаў. Сярэдневяковая, як правіла, ананімная беларуская літаратура аналагічных задач перад сабой не ставіла і не магла ставіць, таму што не дасягнула такога ўзроўню гістарычнага і мастацкага мыслення.

З другога боку, нельга не заўважыць, што пасляслоўі Скарыны набраны ў разнастайнай графічнай форме (чаша, сасуд,

крыж, храмавая ўмывальніца). Адзначаныя графічныя малюнкі маюць не толькі эмацыянальнае і прыкладное значэнне — пазбегнуць аднастайнасці ў шрыфтавым наборы, але і эстэтычны, сімвалічна-эмблематычны сэнс, звязаны з агульнай вобразнай сістэмай біблейскіх тэкстаў і жаданнем гуманіста аблегчыць іх разуменне і запамінанне простым чытачом. Гэта яшчэ адзін доказ актыўных пошукаў Скарыны ў галіне формы і зместу кнігі. Сімвалічна-эмблематычная форма стане пануючай у барочнай паэзіі Еўропы.

Прадмоўна-пасляслоўны комплекс у скарынаўскіх выданнях, што чытаецца і сёння як цэльная «анфіладная» кніга, — выдатная з'ява беларускай і агульнаславянскай літаратуры эпохі Рэнесансу, прадукт пісьменніка новага тыпу, пісьменніка раннебуржуазнай эпохі, які арганічна сінтэзаваў традыцыі ўсходнеславянскай рукапіснай кнігі, еўрапейскага кнігадрукавання і сваёй думкай, падзвіжніцкай дзейнасцю і творчасцю быў скіраваны ў будучыню.

Асобнай гаворкі заслугоўвае скарынаўскі прадмоўна-пасляслоўны комплекс не толькі ў ідэйна-мастацкім, структурна-жанравым, сімвалічна-эмацыянальным аспекце. Значную цікавасць кнігі Скарыны ўяўляюць і амаль поўнай адсутнасцю ў іх прысвячэнняў. Еўрапейская літаратурная традыцыя XVI—XVIII стст. вымагала ад пісьменнікаў, вучоных і выдаўцоў суправаджаць кнігу і забяспечваць яе выхад у свет панегірыкамі, одамі і прысвячэннямі, эмблематычнымі малюнкамі ў адрас каралёў ці на гербы князёў, магнатаў, сваіх мецэнатаў, альбо рознымі літасцівымі зваротамі «Да чытача», будучых крытыкаў і г. д. Напрыклад, у творах сучаснікаў Скарыны, паэтаў-навалаціністаў Я. Вісліцкага і М. Гусоўскага, гэтыя прысвячэнні напісаны ў рознай жанравай форме. Вісліцкі прысвячае свой паэтычны зборнік і аднайменную паэму «Пруская вайна» (Кракаў, 1516) каралю Жыгімонту I, змяшчае празаічны ліст да свайго настаўніка Паўла Русіна з Кросна, оду «Да чытача» і адзначае, што рабіць прысвячэнні — даўняя свяшчэнная літаратурная традыцыя, якую ён не змог парушыць. Гусоўскі таксама пачаў свой славуты зборнік паэзіі «Песню пра зубра» (Кракаў, 1523) двума вершаванымі эмблематычнымі панегірыкамі і малюнкамі на герб каралевы Боны Сфорцы і асобным празаічным ёй прысвячэннем, у якім прасіў заступніцтва для сябе, айчыннай інтэлігенцыі, выклаў сваё палітычнае і літаратурнае крэда.

Гэта літаратурная традыцыя выяўляецца і ў афіцыйным беларускім дзелавым пісьменстве Вялікага княства Літоўскага (напрыклад, гуманістычная прадмова Л. Сапегі да Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г.).

У аналагічным духу, у самых розных жанравых формах і варыянтах напісаны большасць прадмоў і пасляслоўяў у беларускіх, украінскіх, рускіх і польскіх выданнях XVI—XVII стст. Нічога гэтага ў прадмовах і пасляслоўях Скарыны няма. Толькі

аднойчы, і то ў агульным пасляслоўі да Апостала, ён прыгадаў, між іншым, што гэта кніга «доконана» «при держании наласкавшего господаря Жыкгымонта Казимировича», альбо: «Совершися в дому почтивого мужа Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славнаго и великаго мѣста Виленскаго». У той жа час у змесце прадмоў відавочна пастаянная апеляцыя беларускага гуманіста да розных аўтарытэтаў старажытнасці і сваіх чытачоў, пра чыё духоўнае здароўе ён шчыра дбаў.

Словам, у пэўным адыходзе ад гэтай даўняй літаратурнай, прысвячальнай традыцыі мы бачым ідэйную, грамадзянскую, асобасную пазіцыю Скарыны, усведамленне ім высокай уласнай годнасці, надаванне максімальнай увагі сваім адрасатам, скіроўванне і засяроджванне ўвагі простага, звычайнага чытача на галоўным, першаступенным — засваенні вечных ісцін Бібліі і выхаванні яго ў духу высокай нацыянальнай годнасці, самапавагі, актыўнага дзеяння.

Як пісьменнік і мысліцель Скарына цудоўна разумеў, што важным інструментам публіцыстычнага слова і ўвогуле мастацка-літаратурнага з'яўляюцца прыёмы і сродкі паэтыкі і стылістыкі, таму ён надаваў ім вялікае значэнне.

Адна з самых важных характэрных адметнасцей стылістыкі скарынаўскай публіцыстыкі — яе дыялагічная форма, урачысты, спакойны, разважлівы тон, яснасць, сцісласць, грунтоўнасць і афарыстычнасць выказванняў і сентэнцый (на складванне афарыстычнага стылю гуманіста значны ўплыў аказала Біблія) [8], шматлікасць спосабаў уздзеяння на чытача з мэтай пераканаць яго, усхваляваць і схіліць на свой бок, аблегчыць запамінанне галоўных думак і тэзісаў. Такая асаблівасць паэтыкі прадмоўна-пасляслоўнага комплексу Скарыны сведчыць аб тым, што ён стараўся з разлікам на дыдактычна выхаваўчы, дэмакратычна-асветніцкі характар выданняў, на іх індывідуальнае ўспрыняцце і на чытанне ўслых, для аўдыторыі, паводле яго ж слоў, «чтучи их или слухаючи, можешь поразумети».

Гуманіст разлічваў на двайное выкарыстанне сваіх друкаваных тэкстаў яшчэ і таму, што ў яго час школ, а таксама рукапісных і друкаваных кніг не хапала, яны былі дарагія, недаступныя для большасці простых чытачоў. Іменна пагэтаму Скарына ўзяўся за друкарскі варштат, імкнуўся зрабіць свае выданні недарагімі (друкаваў часта на таннай паперы), даступнымі і цікавымі па зместу і эстэтычна дасканалымі па форме (зручны фармат, прыгожае мастацка-паліграфічнае афармленне).

Бясспрэчна, дыялагічная форма творчасці была асабліва

---

[8] Чемерицкий В. А. Скорина и становление белорусской литературы // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 75.

распаўсюджанай і любімай у еўрапейскіх гуманістаў эпохі Рэнесансу, якія пераняли яе ў антычных пісьменнікаў, а таксама з фальклору (гутаркі, казкі, песні). Яна характэрна і для паэтыкі «Песні пра зубра» М. Гусоўскага, які ўвёў у канву паэмы абстрактны вобраз чытача, і для большасці рэнесансавых пісьменнікаў Беларусі.

Выпускнік факультэта свабодных навук Кракаўскага універсітэта, Скарына свабодна валодаў прыёмамі антычнай і рэнесансавай паэтыкі і рыторыкі, тагачасных тэарэтычных дысцыплін аб мастацтве слова, паэзіі, аб тым, як прыгожа пісаць і гаварыць, якія штудзіраваліся ва універсітэтах, і ў многіх выпадках па-майстэрску выкарыстоўваў іх асноўныя палажэнні ў сваёй арыгінальнай творчасці. Так, ён спалучаў гамераўска-платонаўскую канцэпцыю «ляпіць душы» з цыцэронаўскай тэорыяй красамоўства, якая патрабавала ад творцаў выкарыстання трох стыляў, рытмізаванага складу ў прамовах, прозе і паэзіі.

Інтанацыйна-рытмізаваная форма — адметнасць арыгінальнай (празаічнай і вершаванай) спадчыны Скарыны. Аднак яго стылістыка не ўкладваецца цалкам у нормы антычных і рэнесансавых рыторык. Скарынаўскі стыль — параджэнне не толькі яго навуковых поглядаў, але і душы, засваення новай маральнай філасофіі, прадукт стылю жыцця і мэтанакіраванай тытанічнай дзейнасці.

У арсенале скарынаўскай стылістыкі важную мастацка-выяўленчую ролю адыгрываюць такія сродкі, як сінонімы, антонімы, метафара, алегорыя, ампліфікацыя (нарастанне аднатыпных слоў і выразаў), падваенне, анафара, градацыя, супастаўленне, рытарычнае пытанне. Яркім прыкладам ампліфікацыі з'яўляецца наступны сказ Скарыны: «Наболѣй о мудрости, о страху господьнем, о слове божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистотѣ, о службе божией, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царсїї праведных, о достойности пророков божиих и о инших различных многых добрых обычаех и нравех» [9].

Скарына ўмела выкарыстоўваў у сваёй публіцыстыцы таксама дзелавы стыль, выпрацаваны беларускім пісьменствам, летапісамі, ён выдатна валодаў мастацтвам малых форм.

Скарынаўская кніга — яркі, высокага еўрапейскага ўзроўню ўзор гарманічнага мастацкага цэлага, на якім ляжыць адбітак вялікага творчага духу яе стваральніка. Яна зрабіла эпахальны ўплыў ва Усходняй Еўропе на развіццё культуры, літарату-

---

[9] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 24.

ры, мастацтва, навукі, кнігадрукавання, на фарміраванне нацыянальнай свядомасці. Змястоўныя і дасканалыя паводле стылю творы Скарыны паўплывалі на дзейнасць многіх наступных пакаленняў асветнікаў, пісьменнікаў, кніжнікаў усходнеславянскага свету XVI—XVIII стст. [10]

---

[10] Гл.: Русская старопечатная литература (XVI — первая четверть XVIII в.): Тематика и стилистика предисловий и послесловий. М., 1981. С. 27—71, 129—153.





*М. М. ГРЫНЧЫК (Мінск)*

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ СІЛАБІКІ

Асаблівасцю зараджэння беларускай паэзіі канца XV — пачатку XVI ст. з'яўлялася шырокае распаўсюджанне ў ёй антычных форм і традыцый. Гэта заканамернасць уласціва многім еўрапейскім, у тым ліку і ўсходнеславянскім, літаратурам. Яна стала характэрнай тыпалагічнай рысай цэлага этапу ў развіцці нацыянальнай версіфікацыі многіх народаў, увасабляючы сабой сталую пераемнасць з культурнымі традыцыямі старажытных Грэцыі і Рыма. Выкарыстанне, творчая трансфармацыя гэтых традыцый асабліва ўзмацняюцца ў эпоху Адраджэння, калі антычнасць становіцца асновай узвышэння ўсяго зямнога і чалавечага ў жыцці.

Аднак суіснаванне гэтых дзвюх стыхій не было з'явай статычнай ці раўназначнай. Хоць творы на лацінскай (радзей грэчаскай) мове ў цэлым станоўча ўплывалі на зараджэнне некаторых новых жанрава-стылістычных і выяўленчых форм, аднак яны разам з тым у нейкай ступені стрымлівалі, абмяжоўвалі выпрацоўку арыгінальных літаратурных форм і жанраў на мясцовых мовах. Вось чаму толькі шляхам паступовага пераадолення кніжна-лацінскіх уплываў і традыцый, арыентацыі на народныя вытокі стваралiся перадумовы далейшага росту мясцовых (у перспектыве нацыянальных) літаратур, паступова паглыблялася іх ідэйна-эстэтычная функцыя выразнікаў духоўных сіл дэмакратычных, а не толькі прывілеяваных слаёў грамадства.

Важна падкрэсліць, што на пачатковым этапе зараджэння беларускай версіфікацыі творы на лацінскай і грэчаскай мовах адыгрывалі прыкметную станоўчую ролю ў выхаванні чытацкай аўдыторыі, кансалідацыі мясцовых культурных сіл, актывізацыі іх творчай дзейнасці і г. д. Надзвычай плённай у гэтых адносінах была дзейнасць першых беларускіх паэтаў-лацiністаў Яна Вісліцкага («Пруская вайна», 1516) і Міколы Гусоўскага (рымскія вершы, паэмы «Песня пра зубра», 1523, «Перамога над туркамі» і «Жыццё Іякінфа», 1525).

Як вядома, эпоха Адраджэння на Беларусі звязана са стварэннем уласных, народна-нацыянальных культурных і літаратурных традыцый, з арыентацыяй на запатрабаванні «люду

паспалітага», ростам яго духоўных патрэб. У гэтым складаным сацыяльна-гістарычным працэсе асаблівае месца належыць Ф. Скарыну як пракладчыку новых культурна-асветніцкіх шляхоў. Глыбока дэмакратычнымі, гуманістычнымі мэтамі прасякнуты яго пошукі і ў галіне стварэння першаўзораў беларускага верша, набліжэння яго да свядомасці і ўспрымання простага чытача.

У вершах Ф. Скарыны даволі яскрава і паслядоўна выявіўся гістарычны пераход ад метрычна неразмежаванай інтанацыйна-сказавай стыхіі, якая пераважала ў пісьмовай літаратуры з часоў старажытнасці, да больш арганізаваных і суразмерных форм, што падрыхтоўвала замацаванне сілабічных норм у беларускай сярэдневяковай паэзіі. Відавочна, што пераход гэты абумоўлены многімі аб'ектыўнымі фактарамі, у першую чаргу агульным узроўнем творчай культуры ў тагачаснай Беларусі, традыцыямі вуснай і пісьмовай паэзіі папярэдняга этапу. Самастойную ролю адыграла тут вучоба беларускага першадрукара ў Кракаўскім і Падуанскім універсітэтах, глыбокае веданне стану і дасягненняў еўрапейскіх літаратур. Вось чаму зварот Скарыны да вершаваных форм неабходна разглядаць у кантэксце ўсёй еўрапейскай сібалічнай традыцыі, у цеснай сувязі з маладымі тагачаснымі славянскімі літаратурамі, асабліва суседнімі — польскай і чэшскай.

Заснаванне здабыткаў іншых, больш развітых літаратур у дзейнасці Ф. Скарыны было працэсам глыбока творчым, арыгінальным, наватарскім, па сутнасці, абумоўленым агульнай культурна-асветніцкай праграмай навучання і выхавання «люду паспалітага», набліжэння яго да традыцый і духоўнай спадчыны іншых народаў.

Паводле зместу вершы Ф. Скарыны — гэта рэлігійныя творы, прызначаныя для паглыблення асноўнай думкі перакладу той ці іншай кнігі Біблії. Так, вершаваны эпіграф у прадмове да кнігі «Іоў» (1517) раскрывае асноўную ідэю ўсёй легенды аб шматпакутным Іове, які дзякуючы непахіснай веры, пакорлівасці лёсу не толькі вярнуў, але і памножыў сваё страчанае багацце. Гэта думка з'яўляецца вядучай і ў самой прадмове да кнігі: «Яко бо злато искушается огнем, тако и святии божии терпением» [1]. Форма вершаванага эпіграфа ў прадмове сведчыць аб арыентацыі Ф. Скарыны на традыцыі еўрапейскай сілабічнай паэзіі:

Богу в троици единому // ко чти и ко славе,
Матери его пречистой // Марии к похвале,
Всем небесным силам // и святым его к веселию,
Людем посполитым // к доброму научению. [2]

---

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / Склад. А. Коршунаў. Мн., 1958. С. 178.

[2] Там жа.

Паводле метрычнай будовы працытаваны эпіграф намнога апярэджваў тагачасныя ўзоры беларускіх вершаў канфесійнага зместу, выяўляючы выразную арыентацыю аўтара на цвёрдыя каноны сілабізму. У вершы захаваны роўнаскладовасць перакрыжаваных радкоў, уздым і спад інтанацыі (кадэнцыя і антыкадэнцыя), парная рыфма. Разам з тым у будове скарынаўскага верша прыкметны пэўныя адступленні ад цвёрдых нарматываў, імкненне ўлічыць прасадычныя асаблівасці старабеларускай пісьмовай мовы. У адрозненне ад чыста сілабічнага прынцыпу тут парушаны строгі ізасілабізм і звязанае з ім пастаянства цэзуры. У першых двух радках кадэнцыйны падзел прыпадае на 8-ы і 9-ы склады, у астатніх — на 6-ы і 7-ы. Такая рухомасць цэзуры была яўным адступленнем ад агульнапрынятых норм. Прасадычнымі асаблівасцямі старабеларускай пісьмовай мовы можна растлумачыць і характар клаўзулы: традыцыйная дзеяслоўная рыфма тут заменена імяннай: у 1—2-м радках — жаночай, а ў 3—4-м — дактылічнай. Такая адносная свабода ўнутранай будовы сілабічнага верша сведчыла аб творчых адносінах Скарыны да ўсталяваных норм і традыцый, яна выяўляла арыентацыю асветніка на прасадычныя і вершатворчыя традыцыі старабеларускай мовы. Складанасць гэтага сінтэзу яскрава выявілася ў вершы з прадмовы да кнігі «Выхад» (1519), дзе аб'ём вершаванага радка яшчэ больш падпарадкаваны сэнсава-інтанацыйнай плыні — на першы план вылучаецца цяпер не ізасілабізм як асноўны паказчык размернасці мовы, а яе сэнсавая гукавая завершанасць:

Веруй в бога единаго!
А не бери надармо имени его!
Помни дни светые святити!
Отца и матку чтити!
Не забивай ни едина!
И не делай грѣху блудна!
Не вкради, что дружнего!
А не давай сведецтва лживаго!
Не пожедай жены ближнего!
Ни имения или речи его! [3]

Няцяжка заўважыць, што гэты верш пабудаван не на прынцыпах чыстага сілабізму, хоць асобныя адзнакі яго відавочныя (імкненне да гукавой уніфікацыі клаўзулы, парнасць сумежнай жаночай рыфмоўкі). З усіх пяці дыстыхаў толькі ў трэцім ізасілабізм вытрыман, у астатніх даволі рухомая метрычная будова (ад 7-га да 12-га складоў), хоць пераважаюць т. зв. кароткія сілабікі.

Генетычная сувязь верша з сілабічнымі традыцыямі найбольш поўна выявілася ў сістэме рыфмоўкі. Гукавая завершанасць падкрэсліваецца тут імяннай, а не дзеяслоўнай рыфмай

[3] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 74.

(выключэнне складае другі дыстых: «святити»—«чтити»). Кожны двуверш з'яўляецца, па сутнасці, асобнай інтанацыйна завершанай адзінкай, падпарадкаванай агульнай творчай задуме памастацку перадаць этычны змест біблейскіх запаведзяў.

Рыфма ў скарынаўскім вершы выконвае асаблівую ролю: яна не толькі завяршае гукавое афармленне радка, паглыбляючы яго змест і мнеманічныя функцыі, але і ўзмацняе ўнутраную сэнсавую сувязь паміж яго асобнымі часткамі. І гэта адпавядала агульнай дыдактычнай накіраванасці твора, які ахопліваў увесь зыходны кодэкс тагачаснай рэлігійнай маральнасці.

Аб свядомым творчым адыходзе Ф. Скарыны ад сілабічнай рэгламентацыі сведчыць і яго апошні верш-павучанне, змешчаны ў канцы прадмовы да кнігі «Эсфір» (1519):

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснеш на ней. [4]

Гэта афарыстычная паралель, узятая з фальклору і біблейскай легенды, невыпадкова вылучана аўтарам у асобную страфу. Нягледзячы на парушэнне ізасілабізму, дакладнай рыфмоўкі і пастаяннай цэзуры, адзнакі гукавой арганізацыі тут у наяўнасці: асанансная аддаленая рыфма (ню-ней), прыблізная суразмернасць перакрыжаваных радкоў (10—13, 5—6), анафарычнае адзіназачацце (сам-сам) і, галоўнае, знітаванасць і эмацыянальнасць выяўлення асноўнай філасофскай думкі. Аб гэтым жа сведчыць і графічнае вылучэнне вершаванай страфы ў канцы прадмовы.

Такім чынам, паралельна з літаратурнымі традыцыямі на верш Ф. Скарыны моцна ўплывала інерцыя дасілабічнага народнага інтанацыйна-сказавага вершаскладання. З поўнай падставай можна гаварыць тут аб своеасаблівым сінтэзе гэтых дзвюх плыней, якія, перамяжоўваючыся, прыкметна ўплывалі на фарміраванне пачатковых форм беларускага сярэдневяковага верша.

У гэтай сувязі варта прыгадаць думку некаторых даследчыкаў аб уплыве на паэтычную творчасць Ф. Скарыны біблейскага верша. Так, праф. П. Н. Беркаў у артыкуле «Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання» сцвярджаў: «Скарына... зрабіў арыгінальную спробу адрадзіць прынцыпы біблейскага вершаскладання, прымяняючы іх на беларускай моўнай глебе... Скарына зрабіў спробу спалучыць з біблейскай паэтыкай прыёмы сілабікі, якая толькі зараджалася» [5].

Асновай для такіх вывадаў паслужыла заўвага беларускага першадрукара аб прынцыпах сваёй перакладчыцкай працы ў прадмове да Псалтыра: «Так же положил есми на боцех неко-

---

[4] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 109.
[5] 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 258—259.

торыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же, яко суть онагри и геродеево жилище и хлябие и иные слова, которыи суть в Псалтыри неразумныи простым людем, найдут е на боцех руским языком, что которое слово знаменуеть. Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить» [6].

Відавочна, што ў дадзеным выпадку тэрмін «стих» ужыты ў сваім першапачатковым значэнні (грэч. рад, абзац) — маецца на ўвазе чляненне ўсяго тэксту «Псалтыра на адпаведныя абзацы з тым, каб аблегчыць успрыманне складанага біблейскага тэксту. Тут «стих» не мае нічога агульнага з сучасным разуменнем арганізаванай паэтычнай мовы. Як вядома, т. зв. кандакарны біблейскі верш падпарадкоўваўся зусім іншым структурным законам — вызначальнай тут з'яўлялася суадпаведнасць паміж зместам тэксту і яго музычным афармленнем або распевам. Характар распеваў быў абумоўлены жанравай асаблівасцю тэксту, яго прымеркаванасцю да пэўных рытуальных падзей і абрадаў. У разгорнутым змесце «Малой падарожнай кніжкі» (1522) Ф. Скарына дэталёва пералічыў асноўныя віды і формы распеўнай паэзіі, якія ён змясціў у сваім зборніку: «Тропари по вся дни писаны на заутрени. Свѣтилны по вся дни писаны на заутрени. Кондаки по вся дни писаны на первом часе. Часы все зуполна и з междочасием... Стихеры на господи возвах покаялные — глас 6 и на стиховни писаны суть на вечерни» [7].

Безумоўна, некаторыя структурныя асаблівасці гэтых першаўзораў не маглі не адбіцца на форме скарынаўскіх перакладаў, у першую чаргу на іх функцыянальнай прызначанасці і ўнутраным чляненні. Тут захаван падзел кожага канона, ікаса, кандака, сціхіра ці акафіста на адпаведныя распеўныя адзінкі, або т. зв. «стихи», якія ўзніклі ў V—VI стст. і былі прызначаны для чыста канфесійных мэт (напр., вядомы кандак «Дева днесь» Рамана Сладкапеўца, які выконваўся толькі на каляды).

Аднак гэтыя першапачатковыя ўзоры старажытнай распеўнай паэзіі не мелі нічога агульнага з пазнейшым разуменнем вершаванага тэксту, таму што структурныя адзінкі яго яшчэ даволі расплывістыя і аморфныя, надзвычай далёкія ад сучаснага разумення унутранай суразмернасці і сугучнасці.

Як спрактыкаваны філолаг-перакладчык Ф. Скарына выдатна адчуваў усю адметнасць розных структурных сістэм, а таму не дапускаў іх спалучэння ці сінтэзу. Вось чаму, перакладаючы шматлікія каноны, ікасы, кандакі, акафісты, ён прытрымліваўся адпаведных, усталяваных для іх распеўных форм. Творы гэтыя па гучанню (найчасцей імправізаваным) і форме вельмі далёкія ад пачатковых сілабічных вершаў Ф. Скарыны, і гаварыць аб нейкіх узаемаўплывах ці сувязях с біблейскай традыцыяй у дадзеным выпадку беспадстаўна. Гэта не значыць, што канда-

---

[6] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 12.
[7] Там жа. С. 160—162.

карны верш у цэлым не заслугоўвае ўвагі ці спецыяльнага даследавання, аднак ён павінен вывучацца як замкнутая сістэма, якая ўзнікла ў значнай, калі не поўнай ізаляцыі ад еўрапейскай вершатворчай культуры [8].

Творчы падыход беларускага асветніка да традыцыйных першакрыніц найбольш выразна выявіўся ў яго акравершах, змешчаных у двух акафістах з «Малой падарожнай кніжкі» [9]. Унутраны, глыбока асабісты і патрыятычны імпульс скарынаўскіх акравершаў — увекавечанне сваёй асветніцка-выдавецкай і культурнай справы ў памяці наступных пакаленняў. Асветніцка-гуманістычная ідэя выяўлена тут надзвычай лаканічна і аб'ектывізавана: «Писал доктор Скоринич Францискус» («Акафист чесному и всехвальному пророку, предтечи и крестителю господьню Иоанну»). У такім жа духу гуманістычнага самасцвярджэння вытрыман і другі акраверш з «Акафіста пресладкому имени господа нашего Исуса Христа, глаголемы по вся дни»: «Делал доктор Скоринич Францискус». «Писал», «делал» успрымаюцца тут сінанімічна, у духу класічных першаўзораў, у духу распаўсюджанага з часоў Гарацыя матыву «Exegi monumentum...» Сама форма акравершаў непасрэдна звязана з традыцыямі антычнасці, якія набылі асаблівае пашырэнне ў эпоху Адраджэння.

Такім чынам, пры разглядзе скарынаўскіх акафістаў, сціхіроў, кандакоў і іншых форм кандакарнай паэзіі неабходна ў першую чаргу ўлічваць не столькі ўплыў біблейскага верша, колькі жывую сувязь беларускага асветніка з традыцыямі антычнасці, еўрапейскай рэнесансавай літаратуры, а таксама мясцовымі традыцыямі духоўнай культуры свайго народа.

---

[8] Тарановский К. Формы славянского и церковнославянского стиха в древнерусской литературе XI—XVIII вв. Hague, 1968.

[9] Турилов А. А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Л., 1981. С. 241—247.





*В. Н. ДЫШЫНЕВІЧ (Мінск)*

## СКАРЫНА І СЛАВЯНСКАЯ КНІЖНАЯ ТРАДЫЦЫЯ [1]

Шматгранны сувязі Скарыны з царкоўнаславянскай кніжнай традыцыяй. Перш за ўсё — гэта выкарыстанне Скарынам-перакладчыкам старажытных славянскіх біблейскіх спісаў і праваслаўных богаслужэбных тэкстаў, якія паслужылі асновай яго выданняў. У сваіх «прадмовах» і «сказаннях» вучоны шырока цытуе не толькі тэксты Старога і, асабліва, Новага запаветаў, але і творы патрыстыкі і ўслед за імі ўзнаўляе ідэі хрысціянскага гуманізму. І нарэшце, выкарыстанне славянскіх традыцый выразна адчуваецца ў самім складзе скарынаўскіх выданняў, іх накіраванасці, у элементах афармлення (пакінем убаку моўную традыцыю — адносіны беларускага першадрукара да царкоўнаславянскай мовы, якія патрабуюць спецыяльнага даследавання).

Як выдавец Бібліі Скарына не прытрымліваўся строгіх рамак канона, а карыстаўся славянскай традыцыяй свабоднай, выбарачнай перапіскі кніг «Свяшчэннага пісання», якая здаўна існавала на Русі і ўзыходзіла да Кірылы і Мяфодзія. Ён не адмаўляў канон (пералік біблейскіх кніг у прадмове да кнігі «Быццё» дадзен у праваслаўнай традыцыі), але ў асветніцкіх мэтах умела выкарыстоўваў жывую кніжную традыцыю, выдаваў кнігі, якія найбольш адпавядалі мэтам маральнага і патрыятычнага выхавання народа ў пэўных гістарычных умовах.

Маральна-рэлігійны змест тэкстаў Скарыны адпавядае старажытнай праваслаўнай традыцыі. У іх не адчуваецца ўплыву пазнейшых каталіцкіх дагматаў і крыніц, пратэстанцкага іх адмаўлення і палемікі. У дагматычных адносінах яны праваслаўныя. На праваслаўную арыентацыю дзейнасці Скарыны звярнулі ўвагу А. Віктараў, П. Уладзіміраў, Я. Карскі, А. Флароўскі [2]. І гэта не фармальнае, не вузка канфесійнае пытанне.

[1] З дазволу аўтара ў артыкуле шырока выкарыстаны матэрыялы неапублікаванай работы М. М. Уляхіна «Георгий Скорина и его труды по изданию Библии» (1978. Т. 1—3. Архіў МДА), яго гіпотэзы.

[2] Викторов А. Е. Замечательное открытие в древнерусском книжном мире // Беседа в О-ве любителей Российской словесности. М., 1867. Вып. 1. С. 1—27; Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 43, 172; Флароўскі А. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 414; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, ч. 2. Пг., 1921, с. 25; яго ж. Доктор Франциск Скорина // Чырвоны шлях. 1918. №3—4. С. 14.

Як вучоны, гуманіст, асветнік Скарына стаяў вышэй востраў вузкаканфесійнай барацьбы свайго часу. У нашы дні ён, відаць, быў бы сярод прыхільнікаў экуменічнага руху ў імя адзінства і міру на зямлі. Але ён жыў у эпоху, калі захаванне «веры бацькоў» было вельмі важным для праваслаўнага насельніцтва Беларусі, бо гэта садзейнічала захаванню сваёй духоўнай самабытнасці, культуры. Праваслаўныя ў Вялікім княстве Літоўскім ужо адчувалі прыцясненні. Набліжаліся трагічныя для беларускага народа часы уніі, актыўнай каталіцкай экспансіі і паланізацыі. Супраціўленне ім было аднačасова і барацьбой за захаванне славянскіх сувязей і традыцый, «аднакарэннасці» са старажытнай Руссю. Беларускі вучоны, які набыў веды ў каталіцкіх універсітэтах Захаду, відаць, добра разумеў сутнасць і небяспеку іншаземнай рэлігійнай экспансіі для культуры, для ўсяго духоўнага жыцця свайго народа. Кнігі яго былі выдадзены ў адпаведнасці з вострымі патрэбамі свайго часу, дзеля духоўнага ўмацавання народа — як фундамент яго рэлігійна-маральнага жыцця і асветы.

Зварот Скарыны да царкоўнаславянскай кніжнай традыцыі, яе старажытных крыніц — з'ява невыпадковая, арганічная, навукова абгрунтаваная. Пра тое, што свае кнігі прызначаў «люду простаму паспалітаму» праваслаўнай Беларусі, Скарына засведчыў тэкстамі «Малой падарожнай кніжкі». П. Уладзіміраў пісаў, што «яна мае ў сабе тое, што ў многіх старажытных «Псалтырах з паследаваннем», у прыватнасці ў Феоля, у цэцінскім «Псалтыру з паследаваннем» Божыдара Вукавіча і рукапісных»[3]. Па сутнасці, гэта зборнік тэкстаў праваслаўных набажэнстваў, разлічаны на хатняе, дарожнае, а таксама храмавае выкарыстанне: побач з біблейскімі тэкстамі дзесяці канонаў пададзены Часасловец, Шасцідневец, які ўключае сціхіры, пракімны і іншыя багаслужэбныя спевы, зборнік акафістаў і канонаў на ўсю сядміцу, а таксама ўрывак са Страснога Евангелля. Змешчаны і Месяцаслоў з імёнамі праваслаўных святых. Сярод іх «святыя зямлі рускай», якіх не прызнавала рымска-каталіцкая царква: Антоній і Феадосій Пячорскія, Барыс і Глеб, князь Уладзімір.

У Часаслоўцы Скарына сцвярджае, што ён выдадзен «по уставу Ерусалімское церкви и прочих восточных обителей», г. зн. у адпаведнасці са старажытнай грэка-візантыйскай традыцыяй. Знамянальна, што Скарына друкуе праваслаўны «Сімвал веры» (Часасловец з «Малой падарожнай кніжкі») без характэрнай для каталіцкага веравызнання «філіокве» (Filioque). У ектыніях (на паўночніцы) у скарынаўскіх тэкстах няма ўпамінання пра папу рымскага, што было абавязкова для каталіцкіх і, пазней, уніяцкіх служэбнікаў. У свой час Уладзіміраў звярнуў увагу на такія характэрныя радкі малітваў з «Малой падарожнай кніж-

---

[3] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 185.

кі»: «О православных царех...» (ектынія), «православных христиан», «во православней вере, господи, приими...», «утверди православных житие», «да разумеють, колико можеть православных вера» і інш. У Часаслоўцы Скарыны гаворыцца: «Небесный царю, верная господари наше укрепи, веру хрестианскую утверди, языки поганскія укроти, и мир вмири, и святую церковь свою добре сохрани, и прежде отшедшая отцы и братию нашу в кровех праведных учини, и нас в покаянии и во православной вере, господи, приими и помилуй, яко благ и человеколюбец»[4].

У адпаведнасці з праваслаўнай традыцыяй Псалтыр Скарыны падзелен на «славы» і «кафізмы» з дапаўненнем — ранішнімі песнямі. Выдадзены на царкоўнаславянскай мове, ён мае «на боцех» «рускія» словы-пераклады, тлумачэнні найбольш архаічных славянскіх слоў. На думку П. Уладзімірава, гэты прыём нагадвае вядомыя старажытнарускія тлумачэнні, якія ўжываліся і да Скарыны,— «о неразумных словесех псалтырных». Гэты ж даследчык лічыць, што падзел Скарынам Псалтыра на вершы пры дапамозе кропак і прагалаў мог быць узяты ім з рукапісных царкоўнаславянскіх тэкстаў XI—XVI стст.— з цэцінскага выдання 1495 г. або венецыянскага Божыдара Вукавіча.

На думку П. Уладзімірава, у Старажытнай Русі тыя кнігі «Свяшчэннага пісання», якія прызначаліся для хатняга чытання (як і Біблія Скарыны), былі распаўсюджаны з тлумачэннямі. Існавалі т. зв. «Шестодневы» — тлумачэнні да кніг «Быццё», «Іоў», Псалтыр, прарокаў, да ўсіх кніг Новага запавету. Што ж датычыцца прадмоў беларускага асветніка, то яны напісаны з улікам старажытнарускіх традыцый, але на больш высокім узроўні, з глыбокім веданнем і майстэрствам вучонага-папулярызатара. Мог ён, безумоўна, выкарыстаць і заходнія лацінскія традыцыі, напрыклад каментарыі Лірана. Але асноўныя крыніцы прадмоў Скарыны — Біблія і творы патрыстыкі, на якія спасылаецца ён сам[5]. Прадмовы Скарыны, як заўважыў П. Уладзіміраў, часта пачынаюцца са слоў: «Пишеть Апостол...» або «Евангелле...», а затым даецца тэкст з Новага запавету, які і з'яўляецца падставай для глыбокага роздуму на маральнаэтычныя ці рэлігійныя тэмы. Тут адчуваецца веданне традыцыйнага прыёму царкоўнага казання ( пропаведзі) ад часоў, можа, «Златавуста зямлі рускай» — Кірылы Тураўскага. Але якімі б крыніцамі ні карыстаўся Скарына, ён заўсёды выказваў «свой пункт погляду адносна веры, маралі, любві да Радзімы і свайго народа»[6]. У сваёй дзейнасці ён самабытны, наватар, чалавек творчай думкі, рознабаковых ведаў, глыбокага разумення і па-

---

[4] У гэтым тэксце праваслаўнасць нават больш падкрэслена, чым у адпаведнай малітве Часаслова са Следаванага Псалтыра 1960 г.

[5] Больш падрабязна пра гэта гл.: Дышыневіч В. Аб крыніцазнаўчым аналізе спадчыны Ф. Скарыны // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 3. С. 89—96.

[6] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. С. 82—104.

вагі да шматвяковых культурных традыцый усходнеславянскіх народаў.

Вельмі істотным і адначасова невывучаным з'яўляецца выкарыстанне Скарынам-перакладчыкам старажытных славянскіх спісаў «Свяшчэннага пісання» і богаслужэбных тэкстаў. Да П. Уладзімірава даследчыкі лічылі, што крыніцай скарынаўскага перакладу была Вульгата — лацінскі пераклад Біблііі, зроблены Еранімам. Да такой думкі схіляўся і А. Віктараў, які першым выказаў меркаванне аб праваслаўнай накіраванасці ўсёй дзейнасці нашага першадрукара, але тым не менш сцвярджаў, што Скарына найперш абапіраўся на Вульгату. Аднак такія сцверджанні не грунтаваліся на глыбокім аналізе і параўнанні тэкстаў розных спісаў біблейскіх перакладаў. Аўтары гэтых меркаванняў пераважна ішлі за першым агульным выказваннем І. Бакмейстара (1776), кіраваліся ўражаннем ад каталіцкага імя Францыск (для католікаў жа адзіным, кананічным аўтарытэтам з'яўлялася Вульгата), а таксама ад «неправаслаўнага», «заходняга» выгляду выданняў Скарыны. Да таго ж многія ранейшыя даследчыкі наогул прытрымліваліся каталіцкай арыентацыі. А затым без адпаведнага аналізу, а магчыма, і асабістага знаёмства з кнігамі Скарыны гэту версію паўтаралі і праваслаўныя іерархі: мітрапаліт Яўгеній (1821), архіепіскап харкаўскі Філарэт (1856), царкоўны гісторык архіепіскап Макарый (1879), І. Чыстовіч (1889) і інш. За аснову параўнання тэксту часам браліся выпадковыя фрагменты.

П. Уладзіміраў першым зрабіў сур'ёзны тэксталагічны аналіз выданняў Скарыны, каб вызначыць выкарыстаныя ім крыніцы перакладу Старога запавету. Ён прыйшоў да вываду, што як «дапаможнік» для сваіх перакладаў Скарына браў Чэшскую біблію 1506 г. і царкоўнаславянскія тэксты рознага часу, прычым даследчык ніяк не атаясамліваў, як гэта рабілі іншыя, Чэшскую біблію з Вульгатай, больш таго, супрацьпастаўляў іх. Пазней, у адказе на рэцэнзію А. Сабалеўскага на сваю манаграфію аб Скарыне[7] ён пайшоў далей і сцвярджаў, што параўнанне Бібліі Скарыны са старапольскім перакладам т. зв. Шарашпатацкай бібліі (Біблія каралевы Сафіі) сведчыць, што апошняя «таксама заснавана на чэшскім арыгінале, як і Біблія Скарыны. Значыць, супадзенні тлумачацца агульнай крыніцай, а не ўзаемным уплывам»[8]. Даследчык сведчыў, што ў якасці дапаможніка для перакладу або паправак царкоўнаславянскага тэксту Скарыну маглі служыць не толькі друкаваная Чэшская

[7] Раней за Уладзімірава думку аб Чэшскай бібліі 1506 г. выказаў Ё. Добраўскі (1795), але ён атаясамліваў яе з Вульгатай, хоць і лічыў, што Скарына выкарыстаў таксама стараславянскія рукапісы. А. Сабалеўскі сцвярджаў, што «Скарына пераклаў з чэшскай мовы толькі тое, што не ведаў у старым славянскім перакладзе...» (ЖМНП. 1888. № 10. С. 327.)

[8] Владимиров П. В. Заметки и дополнения к исследованию о докторе Франциске Скорине // Чтения в историч. О-ве Нестора-летописца. 1894. № 8. С. 29—32.

біблія 1506 г., але і нейкі больш старажытны чэшскі рукапісны спіс, які быў крыніцай і для Біблії 1506 г., і для больш старажытнай польскай Шарашпатацкай біблії. Існуе думка, што такой агульнай крыніцай мог быць рукапісны спіс, блізкі да Мяфодзіеўскага, а магчыма, і сам Мяфодзіеўскі спіс мараўскай рэдакцыі з характэрнымі для яго чэхізмамі, на якія і звярнуў увагу Уладзіміраў пры першым жа аналізе скарынаўскіх выданняў.

Прафесар А. Ясінскі таксама лічыў Чэшскую біблію 1506 г. не асноўнай, а дапаможнай крыніцай у перакладчыцкай дзейнасці Скарыны, бо ён, напэўна, карыстаўся чэшскімі рукапіснымі крыніцамі. Спасылаючыся на польскіх даследчыкаў К. Круля і Я. Нітоўскага, а таксама на А. Сабалеўскага, ён прыйшоў да вываду, што супадзенні (Біблії Скарыны і Шарашпатацкай) ні ў якім разе нельга вытлумачыць уплывам Чэшскай біблії венецыянскага выдання 1506 г., бо Шарашпатацкая біблія, перакладзеная з чэшскай мовы, з'явілася ў сярэдзіне XV ст. Не выключана магчымасць, што Скарына карыстаўся гэтай старапольскай Бібліяй [9].

Меркаванне аб выкарыстанні Скарынам Мяфодзіеўскага спісу мае пад сабой рэальную аснову: дзейнасць Кірылы і Мяфодзія, першых асветнікаў славян, перакладчыкаў Біблії і богаслужэбных тэкстаў на славянскую мову, праходзіла, як вядома, у Багеміі і Маравіі — на той жа тэрыторыі, дзе ў часы Скарыны знаходзілася Чэшская дзяржава, сама ж мараўская мова — мова першапачатковага перакладу Біблії — блізкая да чэшскай. Калі асветнікі вымушаны былі пакінуць Мараўскую зямлю і трапілі на землі сучаснай Балгарыі, старажытнаславянская мова іх перакладаў магла набыць балгарскае адценне, якое і захавалася ў старажытных царкоўнаславянскіх рукапісных спісах, а пасля, змененае ў рускіх умовах, дайшло і да нашага часу. На тэрыторыі Маравіі і Балгарыі дзякуючы перапісцы паслядоўнікамі Кірылы і Мяфодзія мог захавацца да часоў Скарыны першапачатковы мараўскі тэкст з уласцівымі для яго чэхізмамі. Ён, відаць, і стаў тым «агульным спісам», што лёг у аснову Шарашпатацкай біблії і Чэшскай біблії 1506 г. Мог ім карыстацца і Скарына.

Магчымасць захавання ў Чэхіі мяфодзіеўскага тэксту не адмаўляў і аўтар «Нарысаў з гісторыі славянскага перакладу Біблії» І. Яўсееў, які ў 1912 г. пісаў, што адным са шляхоў, якім трапіў на Русь гэты тэкст, быў іменна шлях з Захаду, з Кракава і Прагі: «Біблейскія пераклады чэшскія (XIV ст.) і польскія (XIV—XVI стст.) адлюстравалі ў значнай меры ўплыў старажытнаславянскага біблейскага тэксту» [10]. І. Яўсееў лічыў, што

---

[9] Ясінскі А. З культурнай гісторыі пачатку XVI ст. // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 57.

[10] Евсеев И. Очерки из истории славянского перевода Библии // Христианское чтение. 1912. С. 1262—1285; 1361—1366.

сярод тэкстаў, на якія мелі ўплыў Мяфодзіеўскія біблейскія спісы, знаходзіліся Шарашпатацкая біблія (XIV ст.), а таксама пазнейшыя за скарынаўскія выданні — бібліі Кракаўская (1561) і Брэсцкая (1563).

Вядомы чэшскі даследчык А. Флароўскі пісаў пра выкарыстанне беларускім першадрукаром стараславянскіх крыніц больш пэўна: «Скарына, які паклаў у аснову сваёй рэдакцыі біблейскіх чытанняў — не паўсюдна — традыцыйны царкоўнаславянскі іх тэкст, пры фармуліроўцы канчатковых чытанняў выкарыстаў у радзе выпадкаў чытанне і Чэшскай бібліі, адначасова абнаўляючы іх у духу жывой беларускай мовы... На мову Скарыны асноўны і пэўны ўплыў рабіла стараславянская традыцыя, і толькі як дадатковыя дапаможнікі — чэшскія дапаможнікі і жывая беларуская мова. І гэта надавала скарынаўскім выданням своеасаблівае і адметнае гучанне» [11]. Флароўскі сцвярджаў нават, што «ў некаторых выпадках Уладзіміраў павялічваў залежнасць Скарыны ад чэшскіх чытанняў і дапускаў наяўнасць чэшскіх элементаў там, дзе было толькі падабенства». Тыя ж месцы, дзе Скарына засвоіў з Чэшскай бібліі рад чытанняў і фармуліровак, былі толькі «запазычаннем чытанняў і толькі зрэдку быў прамы ўплыў мовы». Флароўскі наогул лічыў памылковым меркаванне некаторых даследчыкаў аб скарынаўскім перакладзе Біблii на беларускую мову з чэшскай або нямецкай крыніцы.

Усе гэтыя выказванні даследчыкаў дазваляюць зрабіць вывад, што Скарына карыстаўся тымі ж славянскімі рукапіснымі зводамі Бібліі ў іх першапачатковай рэдакцыі, якія былі выкарыстаны і ў час перакладу старапольскай Бібліі, і што асноўнай крыніцай чэшскага паходжання быў для Скарыны рукапісны спіс мяфодзіеўскага перакладу «Свяшчэннага пісання» ў яго мараўскай рэдакцыі (апошняе не выключае і выкарыстанне Чэшскай бібліі 1506 г.).

Што ж датычыць традыцыйнага для Русі царкоўнаславянскага рукапіснага тэксту, які, на думку Флароўскага і іншых даследчыкаў, ляжыць у аснове скарынаўскай рэдакцыі Бібліі, то перашкодай пры даследаванні гэтага пытання з'яўлялася меркаванне, што Скарына не мог мець царкоўнаславянскіх спісаў усіх біблейскіх кніг, бо іх не меў нават наўгародскі архіепіскап Генадзій, які, збіраючы поўны звод для кадыфікацыі славянскай Бібліі (1499), мусіў перакласці рад біблейскіх кніг з Вульгаты, бо іх старажытныя славянскія спісы не захаваліся. На думку А. Сабалеўскага [12], Скарына меў толькі славянскае Пяцікніжжа Майсея ды тыя ўрыўкі з біблейскіх кніг, што ўваходзілі ў Парамійнік. П. Уладзіміраў жа лічыў, што Скарына

[11] Флароўскі А. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 407—408.

[12] Соболевский А. И. Рецензия на книгу П. В. Владимирова «Доктор Франциск Скорина...» // ЖМНП. 1888. Ч. 259. С. 321—332.

меў амаль усе кнігі Старога запавету, прычым згадаў «Дзесятаглаў» Мацея Дзесятага як магчымы дапаможнік Скарыны. Аб тым жа біблейскім зводзе 1502—1507 гг., які ўяўляў сабой зборнік стараславянскіх біблейскіх тэкстаў разам з некаторымі тэкстамі святых айцоў, гаворыць і Яўсееў. Ён сцвярджае, што ў часы Скарыны ў Вільні было некалькі «старабалгарскіх» тэкстаў Бібліі. Сярод названых ім кніг, якія дайшлі да 1912 г.,— хранаграфічны зборнік XVI ст., у якім паміж балгарскіх тэкстаў захоўваўся мяфодзіеўскі тэкст — кніга Данііла і некалькі глаў прарока Ераміі і Варуха літоўска-рускага паходжання (не пазней 1262 г.). Даследчык піша: «Усё гэта сведчыць, што ў Заходняй Русі быў вядомы такі старажытнейшы поўны біблейскі тэкст, які, акрамя Заходняй Русі, вядомы па невялікіх іншых адбітках у харвацкім глагалічным пісьменстве... У самым пачатку нашага пісьменства ў спісах, што перасылаліся вялікім князем Яраславам сыну яго — наўгародскаму князю Уладзіміру Яраславічу, мы бачым гэты тэкст; прытым, як і ў віленскіх тэкстах,— таксама ў аб'яднанні з іншым тэкстам балгарскага паходжання» [13]. Магчыма, «тэкст балгарскага паходжання» якраз і быў мяфодзіеўскім.

Тут мы ўшчыльную падыходзім да пытання: якім жа чынам старажытныя славянскія спісы біблейскіх тэкстаў маглі трапіць да Скарыны? Тым больш, што іх не было нават у архіепіскапа Генадзія ў Ноўгарадзе.

Вядома, што са стварэннем Вялікага княства Літоўскага і падзелам адзінай праваслаўнай Рускай мітраполіі на дзве — Усходнюю (Маскоўскую) і Заходнюю (Літоўскую)—парушылася не толькі адзінства царкоўнага жыцця Русі, але і культурная цэласнасць. Канфлікты і войны паміж Вялікім княствам Літоўскім, Масквой і Польскім каралеўствам, каталіцкая экспансія на беларускіх і ўкраінскіх землях — усё гэта аддзяліла Маскоўскую Русь ад кніжных багаццяў, што вякамі збіраліся ў Заходняй і Паўднёва-Заходняй Русі. Кіеў і Полацк былі асабліва значнымі кніжнымі скарбніцамі Старажытнай Русі. Але першы з іх моцна пацярпеў ад полаўцаў і мангола-татарскага нашэсця, ад міжусобных войнаў. Сама кафедра кіеўскіх мітрапалітаў была перанесена ва Уладзімір, а пасля ў Маскву. З падзелам мітраполіі рэзідэнцыяй кіеўскіх і літоўскіх мітрапалітаў стала ў асноўным сталіца Вялікага княства Літоўскага Вільня, дзе адбываліся праваслаўныя царкоўныя саборы. Сюды ж трапіла і частка кніжных скарбаў, што захаваліся ў Кіеве.

І. Яўсееў лічыў, што гэта быў адзіны шлях, дзякуючы якому старажытныя славянскія спісы маглі дайсці да Вільні, стаць вядомымі Скарыну. Як мяркуе М. Уляхін, існавалі і іншыя шляхі. Больш пэўным хавальнікам старажытных рукапісных

---

[13] Евсеев И. Е. Очерки по истории славянского перевода Библии // Христианское чтение. 1912. № 12. С. 1353.

кніг быў Полацк. Да Лівонскіх войнаў ён не падвяргаўся заваяванням і разбурэнням, не вельмі цярпеў ад міжусобнай барацьбы. Нават авалоданне Полацка Літвой адбылося, як сведчаць летапісы, мірна. Да часоў Скарыны Полацк непарушна захоўваў старажытныя праваслаўныя царкоўныя і культурныя традыцыі, меў адпаведныя прывілеі, якія пацвярджаліся граматамі вялікіх князёў літоўскіх. Полацкая епіскапская кафедра карысталася пэўнай незалежнасцю. Усё гэта спрыяла захаванню мясцовых культурных скарбаў аж да 1575—1595 гг., калі ў Полацку разгарнулі сваю знішчальную дзейнасць езуіты. Кніжныя зборы былі тут значныя, асабліва ў Сафійскім саборы і Прадцечанскім манастыры. Гэтаму спрыяла сама гісторыя.

Полацк у старажытнасці меў вельмі цесныя сувяз з Кіевам і Ноўгарадам, з Візантыяй. Ён доўга захоўваў наўгародскія «незалежныя» парадкі, а тое, што пасылалася з Кіева ў Ноўгарад, трапляла і ў Полацк. Можна думаць, што тут меліся і спісы тэкстаў Бібліі, якія Яраслаў Мудры паслаў свайму сыну ў Ноўгарад. У Полацка былі самыя непасрэдныя сувязі з Кіевам. Вялікія полацкія князі знаходзіліся ў сваяцтве з князямі кіеўскімі. Само хрысціянства было прынята палачанамі адразу ж пасля Кіева. Магчыма, што іменна тады трапілі ў Полацк першыя старажытныя славянскія кнігі, у тым ліку пераклады «Свяшчэннага пісання» і богаслужэбныя кнігі. Сярод імён першых святых Рускай царквы XI—XII стст.— Сімяон і Міна, епіскапы полацкія, ігумення Ефрасіння.

З жыція Ефрасінні Полацкай вядома, як многа зрабіла яна для перапісвання кніг у заснаваным ёю манастыры. Князёўна, як мяркуюць, была ў сваяцтве з візантыйскімі імператарамі (яе цётка была замужам за царэвічам Алексіем, пазней імператарам Алексіем Комніным) і нават атрымала з Канстанцінопаля вельмі каштоўны эфескі абраз Багародзіцы. Тым больш магла яна атрымаць для перапісвання дакладныя спісы перакладаў братоў Кірылы і Мяфодзія, што, як вядома, прывёз Мяфодзій у свой час у Канстанцінопаль. Сучасныя даследчыкі сцвярджаюць, што ў багатай бібліятэцы полацкай Сафіі захоўваліся многія старажытныя кнігі, у тым ліку і «перакладзеныя Кірылам і Мяфодзіем грэчаскія кнігі» [14].

У часы Скарыны шматвяковыя багацці славянскай кніжнасці былі ў Полацку яшчэ ў цэласці і маглі быць яму даступныя праз настаяцеля (пратапопа) Сафійскага сабора, а пасля архіепіскапа Полацкага Іосіфа, які ў час дзейнасці Скарыны ў Вільні быў ужо мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім Іосіфам III і жыў у Вільні [15]. Да таго ж у Вільню на праваслаўныя саборы і па іншых царкоўных справах прыязджала духавенства, у тым ліку і архіепіскап Полацкі, прыязджаў ігумен манастыра Іаана

---

[14] Кацар М. Архітэктурныя помнікі Полацка // Беларусь. 1945. № 3. С. 54.
[15] Макарий. История русской церкви. Спб., 1879. Т. IX. С. 209—234.

Прадцечы, брат складальніка вядомага «Дзесятаглава» Мацея Дзесятага. Скарына мог быць знаёмы з гэтым славутым сучаснікам і праз яго, а яшчэ больш праз Іосіфа III атрымаць старажытныя тэксты з вельмі багатай манастырскай бібліятэкі. Шмат чым магло дапамагчы Скарыну і Віленскае праваслаўнае брацтва... Вось якраз тыя крыніцы старажытных славянскіх тэкстаў, якіх не змог дастаць архіепіскап Генадзій у адрэзаным ад Полацка і Вільні Ноўгарадзе. Ён карыстаўся пазнейшымі наўгародскімі спісамі.

Можна лічыць, што галоўнай крыніцай скарынаўскіх перакладаў былі старажытныя царкоўнаславянскія спісы біблейскіх кніг у іх «рускай» рэдакцыі, што вядомы Скарыну былі і мараўскія і балгарскія спісы і што ён карыстаўся чэшскімі тэкстамі толькі як дапаможнікамі ў перакладзе, прычым выбіраў тыя спісы, якія больш набліжаліся непасрэдна да мяфодзіеўскіх перакладаў. Такім быў яго падыход і да тэкстаў набажэнстваў. Тут дарэчы згадаць, што мітрапаліт Іосіф III, напэўна ж, меў і таму мог даць Скарыне старажытныя спісы богаслужэбных тэкстаў, якія ўвайшлі ў «Малую падарожную кніжку».

Даследчыкі звычайна чамусьці параўноўваюць выданні Скарыны толькі з пазнейшымі славянскімі тэкстамі XV—XVI стст., якія дайшлі да нашага часу. Між тым Скарына якраз мог карыстацца больш старажытнымі спісамі, перакладзенымі з большай дакладнасцю, больш блізкімі да арыгіналу. Для Скарыны як вучонага, безумоўна, важна было выкарыстаць раннія першакрыніцы перакладу, а не толькі Чэшскую біблію 1506 г. У гэтым сэнсе цікавыя вынікі можа даць параўнанне Біблії, богаслужэбных тэкстаў і парадку набажэнстваў «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны з кнігамі І. Фёдарава і царкоўнаславянскім сінадальным выданнем Біблії, Апостала, Псалтыра з паследаваннем і Часаслова. Тэксты кніг Скарыны шмат у чым бліжэй (а часам і ідэнтычныя) да сінадальных выданняў [16]. Гэта сведчыць аб тым, што Скарына карыстаўся тымі старажытнымі спісамі, да якіх у свой час звярнуўся і патрыях Нікан, калі правіў царкоўныя кнігі, бо сучасныя сінадальныя выданні ўвабралі ў сябе папраўкі, унесеныя ніканаўскай рэформай у адпаведнасці з грэчаскімі і стараславянскімі рукапісамі.

[16] Некаторыя прыклады параўнання тэкстаў ёсць у кнізе П. Уладзімірава. М. Уляхін дае паралельны тэкст дзесяці запаведзей Майсея з Біблії Скарыны, славянскай Біблії (1806 г.) і рускага перакладу. Супастаўляючы Часасловец Скарыны з заблудаўскім Фёдарава і сучасным Часасловам, ён даводзіць, што парадак тэкстаў праваслаўнага набажэнства (сутачнае і гадавое кола) у Скарыны больш адпаведны і бліжэй да сучаснага патрыяршага (і сінадальнага) выдання, і ў гэтым сведчанне выкарыстання Скарынам старажытных крыніц, якія ўзыходзяць да тых уставаў набажэнства (Чынапаследаванне Іерусалімскай царквы), што існавалі ў практыцы набажэнстваў грэкаўсходняй царквы часоў Кірылы і Мяфодзія і былі перакладзены на славянскую мову. У старажытным Полацку імі карысталіся, а І. Фёдараў кіраваўся пазнейшай маскоўскай царкоўнай практыкай набажэнстваў, якая мела ўжо адрозненне ад старажытнай.

Можна меркаваць, што ў сваёй выдавецкай дзейнасці беларускі вучоны здзейсніў своеасаблівую зверку спісаў кніг «Свяшчэннага пісання» са старажытнымі крыніцамі і яго Біблія захавала ў сабе не толькі старажытную мову, але і адпаведнасць тэкстам тых спісаў мінулых стагоддзяў, якія да нашых дзён не дайшлі. Гэта версія, вядома, патрабуе, як і параўнаўчы аналіз кніг Скарыны і Фёдарава, далейшага даследавання.

«Малая падарожная кніжка» Скарыны, яе склад і тэксты даюць цікавы матэрыял для вывучэння даніканӑўскіх богаслужэбных кніг у плане захавання ў іх «древнего благочестия», што вельмі істотна пры даследаванні гісторыі царкоўнага расколу ў Расіі.

Блізкасць выданняў Скарыны да традыцыйных, славянскіх тэкстаў адзначыў у сваёй «Скарыніяне» А. Флароўскі, які пісаў, што, нягледзячы на своеасаблівасць моўнай і тэкстуальнай апрацоўкі, яны ў XVI—XVIII стст. староўча ацэньваліся маскоўскімі кніжнікамі і царкоўнікамі і лічыліся карыснымі пры вывучэнні і рэдагаванні біблейскіх тэкстаў. Так, пры выданні маскоўскага Псалтыра 1618 г. для праўкі тэксту быў выкарыстаны Псалтыр Скарыны.

Выданні нашага першадрукара даюць вялікія магчымасці для даследчай працы ў галіне славянскай кніжнасці. І тут асабліва важна ўлічыць, што складаліся яны тады, калі на Захадзе Русі кніжныя багацці існавалі яшчэ ва ўсёй сваёй паўнаце. Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. праваслаўныя рукапісы на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага сталі знішчацца езуітамі — асабліва ў Вільні, дзе не захаваліся нават выданні самога Скарыны. У рукі езуітаў трапілі і кніжныя скарбы з Полацка[17]. Іван Фёдараў, працуючы над выданнем Бібліі, не заўсёды мог мець тыя старажытныя спісы, што былі ў Скарыны, і карыстаўся пазнейшымі. Дэталёвае параўнанне выданняў абодвух першадрукароў можа даць цікавыя звесткі для гісторыі славянскай кніжнасці.

Мы не закранаем тут яшчэ адзін важны аспект — выкарыстанне Скарынам-перакладчыкам і каментатарам у якасці даведачнага матэрыялу старажытных першакрыніц на яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай мовах. Аб веданні і выкарыстанні іх сведчаць іншамоўныя словы і фразы, іх тлумачэнні ў прадмовах да выданняў Скарыны.

Асобным пытаннем з'яўляецца таксама творчае выкарыстанне Скарынам традыцыйных элементаў аздаблення славянскіх рукапісаў — перш за ўсё вельмі прыгожага дэкаратыўнага арнаменту. Характэрны для славянскіх і візантыйскіх рукапісаў раслінны і геаметрычны арнамент быў нязвычны для заходнееўрапейскага кнігадрукавання. Скарына ўжывае яго па-новаму,

---

[17] Майхоровіч С. Георгій Скарына. Мн., 1966. С. 170; Кацар М. Архітэктурныя помнікі Полацка // Беларусь. 1945. № 3. С. 54.

дакладна ўлічваючы асаблівасці друкаванай кнігі, арганічна спалучаючы арнамент з загалоўкамі і цудоўнымі буквіцамі. У яго кнігах няма фальшывай дэкаратыўнасці і цяжкай для чытання «вязі» славянскіх рукапісаў: усё тут проста, мэтанакіравана, арыгінальна, ва ўсім бачна добрае веданне і выкарыстанне як старажытных славянскіх кніжных традыцый, так і найноўшых дасягненняў заходнееўрапеўскага кнігадрукавання. Асаблівую мастацкую каштоўнасць уяўляе сабой шрыфт Скарыны. Ён спалучае ў сабе яснасць рэнесансавай лацінскай антыквы з рысамі беларускага паўустава XV ст. Старэйшы майстар беларускага мастацтва З. І. Азгур сцвярджае, што скарынаўскі шрыфт — «вельмі добра знойдзеная, прыгожая па прапорцыях стылізаваная кірыліца. Ён добра чытаецца, не віціеваты, але і не спрошчаны, арнаментальны. Штрых і завіток у графічных аздобах Скарыны нагадвае беларускую сінюю набойку і афармленне беларускіх рукапісных кніг» [18].

У сваіх выданнях беларускі першадрукар не толькі шырока выкарыстаў здабыткі царкоўнаславянскай кніжнай традыцыі, але і шмат у чым узбагаціў яе. Так, ён упершыню ўвёў дзеля дапамогі ў глыбейшым вывучэнні і разуменні зместу, узятага ім «в иных языцех», напісанне на палях («боцех») кніг спасылак на паралельныя біблейскія тэксты (главы, зачыны). Пасля гэта ж было ўжыта ў Астрожскай біблії, увайшло ў практыку царкоўных выданняў і існуе да нашага часу ў сінадальных і патрыяршых выданнях Бібліі. Можна таксама меркаваць, што скарынаўскія прадмовы да біблейскіх кніг мелі непасрэдны ўплыў на стварэнне агульнай прадмовы да ўсіх кніг, змешчанай у пачатку т. зв. Лізавецінскай біблії 1751 г. Скарынам упершыню былі ўведзены тэматычныя гравюры-ілюстрацыі, тытульныя лісты, новае для ўсходнеславянскіх кніг летазлічэнне ад нараджэння Хрыста, кірылічная нумарацыя старонак і іншыя ўдасканаленні. Скарынаўскі Псалтыр з царкоўным пdescribed паследаваннем (акафісты, каноны, шасцідневец, святцы і Пасхалія), які ён назваў «Малой падарожнай кніжкай», паслужыў узорам для выдання вельмі папулярных у Расіі т. зв. вучэбных псалтыроў. І нарэшце, пераклады Скарыны мелі пэўнае значэнне для развіцця самой царкоўнаславянскай мовы, але пытанне аб уплыве скарынаўскіх выданняў на славянскую кніжнасць — тэма асобнага даследавання, якое можа даць цікавыя вынікі.

Мы паказалі толькі асноўныя напрамкі даследавання царкоўнаславянскай традыцыі ў выданнях Скарыны, магчымасці далейшага раскрыцця тэмы. Рэлігійны змест выданняў Скары-

---

[18] Франциску Скорине посвященные... / Сост. В. Дышиневич. Мн., 1982. С. 12. Цікавыя новыя матэрыялы аб выкарыстанні грэка-візантыйскай традыцыі ў акафістах Скарыны пададзены ў даследаванні А. Турылава «Гімнаграфічныя,творы Ф. Скарыны» (Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988. С. 304—305).

ны, шырокае выкарыстанне ім старажытных першакрыніц (як біблейскіх, так і патрыстычных), а таксама складанасць рэлігійна-царкоўнага жыцця яго часу робяць неабходнай для далейшага даследавання спадчыны вучонага сумесную працу вучоных і багасловаў.

Роля традыцый у спадчыне Скарыны, выкарыстанне ім старажытных крыніц — складанае і амаль не распрацаванае пытанне скарыназнаўства. Між тым зварот вучонага да вытокаў хрысціянскага гуманізму, шырокае цытаванне ім і тлумачэнне найбольш аўтарытэтных для часоў непадзельнай царквы пісьмовых першакрыніц невыпадковае: яно адпавядала патрабаванням і пошукам эпохі і з'яўлялася своеасаблівым пратэстам гуманіста і асветніка супраць жорсткай канфесійнай нецярпімасці, войнаў, сацыяльнага і духоўнага прыгнёту свайго часу. У старажытных тэкстах Скарыну, як і іншых выдатных дзеячаў Адраджэння, прыцягвала свабода духу, ідэалы любві, міру, згоды, справядлівасці. Іх ён настойліва падкрэслівае ў сваіх творах, да іх палка заклікае праз стагоддзі і нас, каб любоўю захавалі жыццё на зямлі і сваю духоўную існасць сапраўднага чалавека.





*В. Г. ПУЦКО (Калуга)*

## ГРАВЮРЫ ВЫДАННЯЎ СКАРЫНЫ — ІЛЮСТРАЦЫІ НЯМЕЦКІХ ІНКУНАБУЛ?

Для больш шырокага вывучэння мастацкага афармлення выданняў Ф. Скарыны неабходна факсімільнае ўзнаўленне ўсіх іх аркушаў з сюжэтнымі і арнаментальнымі гравюрамі, а таксама шмат якіх старонак з застаўкамі, віньеткамі, канцоўкамі, ініцыяламі. У якасці ж суправаджальнага тэксту, бадай, лепш за ўсё ўзяць выдатнае даследаванне М. І. Шчакаціхіна «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны» [1]. Перавыданне яго пажадана не толькі з-за невялікага тыражу зборніка, але і з прычыны практычнай неабходнасці, якая ўсведамляецца сёння кожным, хто звяртаецца да скарынаўскай спадчыны.

У артыкуле, дзе ставілася задача высветліць характар еўрапейскага агульнакультурнага фону пражскіх выданняў Скарыны, мы прыйшлі да вываду, што беларускі першадрукар, мяркуючы па ўсім, спецыяльна сюжэтныя гравюры не заказваў, а набыў у нюрнбергскіх выдаўцоў Кобергераў гатовыя гравюрныя дошкі [2]. Прычым сувязь з Нюрнбергам выяўляецца з іншага боку, як меркавалі раней [3].

Цяпер выразна відаць, што сувязі паміж ксілагравюрамі скарынаўскіх выданняў і ілюстрацыямі нямецкіх інкунабул маглі ўзнікнуць двума шляхамі: распрацоўкай адных і тых жа сюжэтных іканаграфічных схем з захаваннем падобных стылістычных асаблівасцей і ідэнтычных тэхнічных прыёмаў або непасрэдным выкарыстаннем адных і тых жа друкавальных дошак. Для таго каб устанавіць факт першага тыпу суадносін, неабходна мець копіі падобных арыгіналаў, а гэта магчыма толькі ў дачыненні да часткі агульнага цыкла з групамі гравюр,

---

[1] Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). Мн., 1926. С. 180—227.

[2] Пуцко В. Г. Иллюстрации пражских изданий Франциска Скорины и ксилографии европейских инкунабул // Франциск Скорина — белорусский просветитель, гуманист, первопечатник. Мн., 1988.

[3] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 75—76; Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы... // Чатырохсотлецце беларускага друку. С. 190—192; Некрасов А. И. Древнерусское изобразительное искусство. М., 1937. С. 273; Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. С. 45.

якія належаць розным майстрам. Вызначыць жа выкарыстанне адных і тых жа друкавальных дошак у нюрнбергскіх выданнях канца XV ст. і ў кнігах, надрукаваных Скарынам, пакуль што ўдалося толькі ў двух выпадках. Маюцца на ўвазе дзве гравюры «Хрышчэнне гасподне» і «Хрыстос сярод настаўнікаў» («Дыспут»), пададзеныя ў «Сусветнай хроніцы» Г. Шэдэля, што была выпушчана А. Кобергерам у Нюрнбергу ў 1493 г., і пасля паўтораныя Скарынам у «Малой падарожнай кніжцы» ў Вільні ў 1522 г. [4]

Найбольш часта ў нямецкай ксілаграфіі на мяжы XV—XVI стст. вар'іраваліся сюжэты, аб'яднаныя ў скарынаўскай Бібліі ў дзве серыі ілюстрацый, якія выяўлялі рознае начынне скініі («Выхад», 26—28) і храму Саламона ў Іерусаліме (трэцяя кніга «Царстваў», 6). Усталявалася нават пэўная тыпалогія асноўных рэалій з непазбежнымі адрозненнямі ў трактоўцы другарадных дэталей. Не выключана, што гэтыя цыклы ілюстрацый, рассеяныя па старонках нямецкіх інкунабул і палеатыпаў, узыходзяць да агульнага протаарыгінала. Аднак іх узаемаадносіны дастаткова складаныя і супярэчлівыя. Параўнанне Бібліі, надрукаванай Скарынам у Празе, з аналагічнымі выданнямі ў плане суадносін ілюстрацый толькі ў вельмі рэдкіх выпадках дазваляе гаварыць пра непасрэдны ўплыў адных узораў на другія, нават нягледзячы на іх храналогію. Дастаткова тут супаставіць выкарыстаныя Скарынам сюжэты гэтай групы з гравюрамі згаданай нюрнбергскай хронікі Шэдэля і выпушчанай ў Нюрнбергу ў тым жа 1493 г. Бібліі з каментарыямі Мікалая Ліры [5]. Як вядома, «Тройца» ў скарынаўскім выданні кнігі «Быццё», 1519 г. (л. 16), з'яўляецца рэплікай ксілагравюры А. Дзюрэра «Бітва архангела Міхаіла з драконам» (каля 1497—1498 гг.). Выява Тройцы з адной трохлікай фігурай — іканаграфічны матыў, вядомы ў еўрапейскім мастацтве [6], куды ён, відаць, трапіў з будыйскага, але ў некалькі трансфармаваным выглядзе [7]. Гэту гравюру М. Шчакаціхін лічыў найбольш слабай, выкананай іншай рукой [8]. Наяўнасць дзюрэраўскага арыгінала дае магчымасць пераканацца, у якой ступені маглі спрошчвацца нават самыя высокія ўзоры. Адсюль няцяжка зразумець, што

---

[4] Падрабязней аб гэтым гл.: Шматов В. Ф. Гравюры «Малой подорожной книжицы» Скорины и их источники // Памятники культуры. Новые открытия. 1985. М., 1987. С. 188—196.

[5] Schedel H. Liber chronicarum. Nürnberg: Anton Koberger, 12 VII 1493; idem. Das Buch der Chroniken und Geschichten. Nürnberg: Anton Koberger, 23 XII 1493; Biblia cum postillis Nicolai de Lyra en expositionibus Guillemi Britonis in omnes prologos S. Hieronymi et additionibus Pauli Burgensis replicisque Matthiae Doering. Nürnberg: Anton Koberger, 12 IV 1493.

[6] Didron M. Iconographie chrétienne. Histoire de Dieu. Paris, 1843. P. 559—560; Hackel A. Die Trinität in der Kunst. Berlin, 1931. S. 99—100.

[7] Гл.: Грујић Р. Иконографски мотив сличан индиском тримуртиј у старој српској уметности // Tkalčićev zbornik. Zagreb, 1955. Knj. 1. С. 99—107.

[8] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы... С. 209.

частковая і нават поўная іканаграфічная адпаведнасць асобных кампазіцый сведчыць толькі аб папулярнасці тых або іншых схем, але не вырашае пытання пра выканаўцаў гравюр. Шматразовае ж выкарыстанне гравюрных дошак у розных друкарнях сведчыць пра міграцыю друкарскіх матэрыялаў, якая прасочваецца спарадычна, паколькі ніводны выдавец практычна не мог абмежавацца выкарыстаннем толькі старых ксілагравюр. Апошнія часцей за ўсё пераходзілі з рук у рукі ў разрозненым выглядзе. Ва ўсякім разе набор гравюр «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны цалкам пераконвае ў гэтым дзякуючы дзвюм кампазіцыям, вядомым па нюрнбергскім выданні 1493 г.

З-за інтэнсіўнага выкарыстання дошкі хутка зношваліся, таму ўзнікала неабходнасць выпрабляць новыя. Прычым іншы раз яны паўтаралі кампазіцыю да найдрабнейшых дэталей. Напрыклад, толькі пры самым уважлівым супастаўленні выявы Ераніма Бруншвіга са слухачамі, што змешчана ў яго кнізе «Хірургія» ў аўгсбургскім і страсбургскім выданнях 1497 г., становіцца відавочным выкарыстанне розных дошак [9]. Можна было б дапусціць, што з аўгсбургскай друкарні дошка перайшла ў страсбургскую, але гравюра ў апошнім выпадку мае некалькі большыя памеры і адрозніваецца больш тонкай і густой штрыхоўкай. Паколькі тут гаворка ідзе пра два выданні, варта звярнуць увагу і на стан дошак: другая, страсбургская, мае відавочныя дэфекты. Ад ілюстрацый да гэтага выдання, што выйшла з друкарні Іагана Грунінгера, адрозніваецца трэцяя гравюра з указанай кампазіцыяй, змешчаная ў выпушчанай страсбургскім выдаўцом Іаганесам Прусам у 1499 г. кнізе «Hortus sanitatis» [10]. Як можна пераканацца з прыведзенага прыкладу, нават выключнае падабенства іканаграфіі не дазваляе лакалізаваць гравюру, звязваць яе з імем пэўных майстроў. З другога боку, мы маем прыклад (на гэты раз з выдавецкай практыкі Скарыны), калі новы варыянт гравюры з'явіўся ў выніку таго, што на вельмі зношанай дошцы з выявай Арона былі зрэзаны некаторыя дэталі [11]. В. Шматаў на прыкладзе кампазіцыі Благавешчання паказаў выпадак вар'іравання асноўнай іканаграфічнай схемы пры адрозненні памераў і манеры выканання гравюр, вядомых па нямецкіх інкунабулах [12]. Падобныя назіранні ў далейшым варта было б пашырыць і на іншыя ілюстрацыі скарынаўскіх выданняў — калі не спыняцца толькі на прызнанні агульнага факта іх цеснай сувязі з нямецкай кніжнай ілюстрацыяй мяжы XV—XVI стст.

---

[9] Kunze H. Geschichte der Buchillustration in Deutschland das 15 Jahrhuderts. Leipzig, 1795. Bildband. Abb. 111, 321.

[10] Там жа. Abb. 42.

[11] Гл.: Баразна Л. Гравюры Францыска Скарыны. Мн., 1972. Табл. 39, 40.

[12] Шматов В. Ф. Гравюры «Малой подорожной книжицы» Скорины и их источники // Памятники культуры... С. 191—192.

М. Шчакаціхін у свой час выканаў цяжкую і адказную работу па групоўцы гравюр, змешчаных у выданнях Скарыны. У аснову класіфікацыі былі пакладзены асаблівасці індывідуальнай манеры, якімі іх бачыў даследчык, што шырока прыцягваў для супастаўлення таксама ілюстрацыі еўрапейскіх інкунабул, адзначаючы іканаграфічныя аналогіі. Наўрад ці трэба аспрэчваць верагоднасць выканання гравюр скарынаўскай Бібліі рознымі майстрамі. Але ў той жа час нельга не бачыць, што памеры яе кампазіцый адрозніваюцца нязначна, не пераўзыходзячы звычайна фармат адбітка 106×105. Толькі ў некаторых выпадках памер некалькі меншы: у ілюстрацыях да кнігі «Іоў» (87×85) і «Прытчы Саламона» (87×86), аднесеных М. Шчакаціхіным да розных груп. На агульным фоне вельмі выразна вылучаюцца — не толькі памерамі, але і манерай разьбы — тры гравюры да кнігі «Быццё», надрукаванай у 1519 г. Найбольш падобная да астатніх гравюра з выявай бога ў раі, памер якой (53×106) сведчыць пра яе першапачатковае прызначэнне служыць застаўкай, аднак яна змешчана на л. 9. Дзве іншыя кампазіцыі, на л. 16 і 86, выпадаюць, паводле свайго характару, з агульнага кола ілюстрацый, што аказаліся ў распараджэнні Скарыны ў час друкавання ім Бібліі.

Калі звярнуць увагу на храналогію выхаду біблейскіх кніг у Празе ў 1517—1519 гг., то нельга не заўважыць, што выдавец пачаў друкаваць іх «з сярэдзіны», прытым нават некалькі выбарачна, як здаецца на першы погляд. Перш за ўсё Скарына выпусціў найбольш папулярны Псалтыр, пасля надрукаваў параўнальна невялікія па аб'ёму павучальныя кнігі «Іоў», «Прытчы Саламона» і «Ісус Сірахаў», апошняя з якіх належыць да ліку некананічных. Такімі ж з'яўляюцца выдадзеныя Скарынам пазней кнігі «Прамудрасць Саламона» (1518) і «Юдзіф» (1519). Адсюль можна зрабіць вывад, што выдавец кіраваўся не лацінскай, а грэка-славянскай традыцыяй, але выпускаў біблейскія кнігі не ў тым парадку, у якім яны знаходзяцца. Таму нельга з поўнай упэўненасцю сказаць, ці пры адборы тэкстаў былі прапушчаны кнігі прарокаў Ісаіі, Ераміі і Езекііля, або гэтыя часткі Бібліі былі надрукаваны Скарынам, але да нас не дайшлі.

Паказальна, што абедзве гравюры з Псалтыра, як і кампазіцыі з кнігі «Быццё», адрозніваюцца памерамі і характарам ад тых, якія аб'ядноўваюцца ў своеасаблівую серыю, нягледзячы на разнастайныя сюжэты і кампазіцыйныя схемы. Складваецца ўражанне, што Скарына меў некалькі разнатыпных падборак гравюрных дошак, а гэта наўрад ці магло быць вынікам адзінага заказу для цалкам канкрэтнага выдання. Ілюстрацыям еўрапейскіх інкунабул, у прыватнасці нямецкіх, уласціва «серыйнасць», якая праяўляецца і сярод пераважнай часткі гравюр скарынаўскай Бібліі. Такім чынам, прыступаючы да друкавання Псалтыра, Скарына або яшчэ не меў згаданай «серыі», або ся-

род яе сюжэтаў не аказалася больш прыдатных для гэтай кнігі. Змест Псалтыра такі, што пакідае за ілюстратарам выбар тэматыкі. Выява Давыда, што моліцца або музіцыруе, далёка не заўсёды вычэрпвае рэпертуар мініяцюр, а пасля з'яўлення друкаванай кнігі і гравюр. Гаворка ідзе пра тое, што адбітая на адваротным баку першага ліста гравюра з фігурай цара Давыда на каленях па памерах (60×45) і па манеры выканання бліжэй да гравюр «Малой падарожнай кніжкі», што было адзначана яшчэ М. Шчакаціхіным, які не выключаў, што яны належаць аднаму і таму ж майстру[13]. Як вядома, выява Давыда адбіта з адной дошкі двойчы, прычым у абодвух выпадках яўна прыстасавана: асабліва гэта кідаецца ў вочы на л. 5 з-за некаторага нагрувашчвання элементаў, кожны з якіх займае асаблівае месца ў структуры кнігі. Гэты пралік у далейшым не паўтараецца. Кампазіцыя «Дрэва Іясея» на л. 1, у якой вобразна падаецца радаслоўная Хрыста, больш дарэчы ў Евангеллі ад Мацвея, хоць яе размяшчэнне ў пачатку Псалтыра сустракаецца ў лацінскіх кодэксах ужо ў XIII ст.

У Бібліі, выдадзенай у Празе Скарынам, у якасці тыпалагічнай нормы афармлення прадугледжвалася абавязковае змяшчэнне на загалоўным лісце гравюры, якая з паласой тэксту суадносілася так, што заставалася месца для назвы кнігі і кароткай прадмовы-анатацыі. Больш шчодра ілюстраваны кнігі «Выхад», чатыры кнігі «Царстваў». Агульная схема размяшчэння на выхадным лісце і прапорцыі гравюр звычайныя для нямецкіх інкунабул апошняга дзесяцігоддзя XV ст. Аднак у той жа час не даводзіцца тут гаварыць пра адпаведнасць агульнаму афармленню друкаваных біблій, якія выйшлі ў Страсбургу каля 1466 г., у Нюрнбергу каля 1476—1478 гг., у Аўгсбургу каля 1475 г., у Кёльне каля 1478 г. і Любеку ў 1494 г., набраны дробным гатычным шрыфтам у два слупкі і маюць сюжэтныя гравюры-ініцыялы або тэкставыя «стужкавыя» гравюры, працягласць якіх роўна шырыні абодвух слупкоў і адлегласці паміж імі. Гэта гаворыць аб тым, што Скарына не імкнуўся надаць сваім выданням знешні выгляд, зусім аналагічны заходнім друкаваным бібліям і атрыманы ў спадчыну ад гатычных ілюмінаваных рукапісаў XIII ст. У гэтым сэнсе не паўплывалі на Скарынавы выданні і чэшскія ілюстраваныя кнігі: Пасіянал для чашнікаў (1495 г.) і венецыянская Чэшская біблія 1506 г. Адносна ж адбору сюжэта для ініцыяла або загалоўнай мініяцюры (а пазней гравюры) для Старога запавету ў заходняй традыцыі не існавалі жорсткія правілы. Амаль да ўсіх сюжэтаў, прадстаўленых у ілюстрацыях да скарынаўскай Бібліі, можна знайсці паралелі — апрача змешчанага ў пачатку кнігі «Прамудрасці Саламона», якая звычайна трактуецца як выява Хрыста і Саламо-

[13] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы... С. 204.

на[14] або Хрыста і Скарыны[15]. На нашу думку, гэта — ілюстрацыя да Апакаліпсіса, адпаведна тут паказаны Хрыстос і Іаан Багаслоў, якія сузіраюць адноўлены свет (Апакаліпсіс, 21—22).

Думку пра тое, што патрэбныя для выданняў гравюры маглі быць знойдзены Скарынам у Нюрнбергу, упершыню выказаў у канцы XVIII ст. чэшскі славіст Ёзаф Добраўскі[16]. Наступныя даследчыкі спадчыны Скарыны далёка не аднадушна прызнавалі значэнне кантактаў беларускага асветніка з гэтым і іншымі цэнтрамі кнігадрукавання ў Германіі. Выявіліся тэндэнцыі ўсяляк прыніжаць ролю гістарычна абумоўленых сувязей, пра існаванне якіх вельмі красамоўна сведчаць ксілаграфіі. Між тым вядома, што, паводле сведчання любекскага храніста Рэймара Кока, ужо ў 1488 г. вялікі князь Іван III дамовіўся з друкарамі Любека аб выданні кніг на лацінскай і рускай мовах, а ў 1492—1496 гг. на рускай службе сапраўды знаходзіўся любекскі друкар Варфаламей[17]. Гэта вядомы любекскі друкар Варфаламей Готан, які друкаваў свае кнігі не толькі ў Любеку, але з 1486 г. і ў Швецыі[18]. Ксілагравюры, што аздаблялі яго выданні, даволі высокага ўзроўню. У прыватнасці, гэта адносіцца да выпушчаных у 1492 г. «Revelationes sanctae Brigittae». Падабенства ілюстрацый кнігі з гравюрамі пражскіх выданняў Скарыны не настолькі вялікае, каб паставіць пытанне пра тое, што тут працавалі адны і тыя ж майстры. Але ж не заўсёды дастаткова блізкія і гравюры, што аздабляюць прадукцыю любекскіх тапографаў, якая ўбачыла свет на працягу наступных двух-пяці гадоў. З другога боку, у ілюстрацыях да скарынаўскай Біблії, пачынаючы ад прыёмаў пабудовы кампазіцыі і канчаючы тыпамі, касцюмамі, тэхнічнымі прыёмамі, няма нічога, што дазваляла б рашуча аддзяліць іх ад нямецкай кніжнай гравюры мяжы XV—XVI стст. Уменне паставіць заваёвы еўрапейскага кніжнага мастацтва на службу славянскаму кніга-

---

[14] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы... С. 207 (з агаворкай, што сюжэт з дакладнасцю невядомы); Немировский Е. Л. Указатель художественного убранства пражских изданий Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 224.

[15] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... С. 78; Баразна Л. Гравюра Францыска Скарыны. № 25.

[16] Dobrovsky J. Litterarische Nachrichten von einer Reise nach Schweden // Neuere Abhandlungen der K. Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften. Prag, 1795. S. 186.

[17] Арсеньев С. В. О любском типографщике Варфоломее Готане, бывшем в Москве XV в. // Чтения в О-ве истории и древностей российских. М., 1909. Кн. IV. Смесь. С. 17—18; Müller D. B. The Lübeckers Bartholomäus Ghotan and Nicolaus Bülow in Nowgorod and Moscow and the problem of early western influences on russian culture // Viator. Medieval and Renaissance Studies. 1978. Vol. 9. P. 395—412.

[18] Gläser W. Chotan Domvikar und Diplomat, Schriefgiesser und Buchdrucker. Lübeck, 1903; Wehmer C. Deutsche Buchdrucker des fünfzehnten Jahrhunderts. Wiesbaden, 1971. S. 73; Kunze H. Geschichte... S. 285, 287.

друкаванню, бясспрэчна, з'явілася вялікай заслугай Скарыны, які часткова прадугадаў практыку Вукавічаў [19].

Час з'яўлення пражскіх выданняў Скарыны робіць больш заканамерным супастаўленне іх сюжэтных гравюр з элементамі мастацкага афармлення іменна інкунабул, а не палеатыпаў, якія на ранняй стадыі свайго развіцця яшчэ не паспелі выпрацаваць яркія арыгінальныя рысы, за выключэннем афармлення тытульнага ліста [20]. Гонар стварэння яго ў 1500 г. належыць лейпцыгскаму кнігагандляру Вольфгангу Штэкелю [21]. У Скарыны ж тытульны ліст з'яўляецца ў кнізе «Быццё» ў 1519 г. Тэкст загалоўка тут заключаны ў прамавугольную рамку з арнаментамі і эмблемамі. Такая ж канструкцыя захоўваецца і ў тытульным лісце «Акафіста труне господняй» «Малой падарожнай кніжкі», хоць тут ужо ёсць выявы багамацеры з малым дзіцём і прарокаў. Наўрад ці даводзіцца вельмі скардзіцца на немагчымасць звязаць ілюстрацыі скарынаўскай Біблії з імёнамі пэўных майстроў. Творчасць ілюстратараў канца XV ст., якія працавалі ў Германіі, пераважна застаецца ананімнай і толькі з часоў Дзюрэра становішча змяняецца [22].

У якой жа форме можна сёння ставіць пытанне аб атаясамленні скарынаўскіх ксілагравюр з ілюстрацыямі нямецкіх інкунабул? Зразумела, толькі ў самай агульнай, якая сведчыць толькі аб належнасці майстроў да пэўнага мастацкага напрамку. Здавалася б, двух прыкладаў, узятых з «Малой падарожнай кніжкі», дастаткова, каб дапусціць магчымасць другаснага выкарыстання друкавальных дошак і ў дачыненні да іншых гравюр. Не выключана, што ў будучым вучоных тут чакаюць пэўныя знаходкі. Аднак гэта ўяўляецца неверагодным у адносінах да пераважнай большасці ілюстрацый, выкананых ясным, выразным штрыхом. Мы тут свядома амаль што не закранаем ужо дэталёва асветленыя ў літаратуры ілюстрацыі да кнігі 1525 г., а таксама надзвычай цікавыя арнаментальныя кампазіцыі рамак, заставак, канцовак і ініцыялаў, большасць якіх яўна сведчыць пра выкананне заказа беларускага першадрукара.

Ці можна трактаваць выяву зацьмення сонца, якая сустракаецца на некаторых ілюстрацыях Біблії, а таксама на застаў-

---

[19] Гл.: Медаковић Д. Графика српских штампаних књига XV—XVII века. Београд, 1958; Петковић С. Илустрације Meditationes vitae Christi од Псеудо-Бонаветуре у једној српској штампаној књизи XVI века // Зборник Светозара Радојчића. Београд, 1969. С. 253—264. Параўнай: Malo-Renault J. L'art du livre. Paris, 1931; Bonetti M. Storia dell'editoria italiana. Roma, 1960. Vol. 1; Brun R. Le livre illustré en France au XVI siècle. Paris, 1930.

[20] Падрабязней гл.: Luther J. Die Titelanfassung der Reformationzeit. Leipzig, 1909—1913; Johnston A. F. A catalogue of italian engraved titelpages in the sixteenth century. Oxford, 1936; Lam S. Le livre polonais au XV et siècle. Varsovie, 1923.

[21] Haebler K. Handbuch der Inkunabelkunde. Leipzig, 1924. S. 125.

[22] Hütt W. Niemieckie malarstwo i grafika późnego gotyku i renesansu. Warszawa, 1985. S. 95—138.

ках, канцоўках і ў радзе ініцыялаў, як герб або выдавецкую марку Скарыны? В. Шматаў на гэта пытанне адказвае адмоўна, сцвярджаючы, што ўказанае спалучэнне сонца і месяца магло выконваць ролю манаграмы мастака-рысавальшчыка[23]. Але ж такія выпадкі ў практыцы еўрапейскіх гравёраў XV—XVI стст. не зафіксаваны[24]. Між тым эмблема вынесена ў партрэтнай выяве вучонага на цэнтральнае месца, аздабляе пюпітр з разгорнутай кнігай, што ляжыць на ім. Указанаму партрэту ў спецыяльнай літаратуры было ўдзелена дастаткова ўвагі, накіраванай пераважна на характар кампазіцыі, яркасць партрэтнай характарыстыкі і ролю дэталей, паказальных для заняткаў намаляванага чалавека. Аднак рэнесансавае мастацтва ведала не толькі ідэальныя гістарызаваныя партрэтныя выявы[25], але і больш строгія партрэты сучасных мастакоў гуманістаў, вучоных, пісьменнікаў і іх мецэнатаў[26]. Да якога тыпу трэба аднесці скарынаўскі партрэт? Пытанне зусім не дарэмнае, паколькі ў еўрапейскіх друкароў пачатку XVI ст. не было звычаю змяшчаць сваю выяву там, дзе з часоў антычнасці прадугледжвалася месца для партрэта аўтара або каментатара кнігі. Праўда, тут варта мець на ўвазе, што кожная кніга «зуполне выложена на русский язык доктором Франциском Скориною с Полоцька». Такім чынам, уключэнне сюды яго партрэта як быццам апраўдана. Па меркаванню Т. Капрэевай, выява сонца і месяца, запазычаная з астралагічнай сімволікі, з'яўлялася адным з ідэйных сігналаў Скарыны, а знак трохвугольніка ўзыходзіць да тэасофскіх традыцый, у прыватнасці да Мікалая Кузанскага[27]. Калі гэта сапраўды так, то і ўсё афармленне скарынаўскіх выданняў (асабліва Бібліі) трэба разглядаць у тым жа рэчышчы. Але ці не занадта далёка мы плывём «па цячэнню»?

Здавалася б, зусім яснае і дастаткова пэўнае пытанне аб тым, ці з'яўляюцца гравюры выданняў Скарыны ілюстрацыямі нямецкіх інкунабул, уводзіць даследчыка ў водаварот самых разнастайных з'яў. Без іх уліку, без высвятлення канкрэтных умоў і прычын не мае сэнсу педантычна вышукваць аналагічныя або крыху падобныя іканаграфічныя схемы, прыглядацца да руху разца ў руках гравёраў эпохі Адраджэння. Любы твор кніжнага мастацтва як культурная з'ява застаецца зразумелым

---

[23] Шматов В. Ф. Искусство изданий Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 123.

[24] Параўн.: Brulliot F. Dictionnaire des monogrammes, marques figurées, letteres initiales, noms abrégès etc. Munich, 1832—1834. T. 1—3.

[25] Guze J. Książka jako symbol treści intelektualnych w sztuce doby humanizmu: XV—XVI ww. // O ikonografii świeckiej doby humanizmu: Tematy-symbole-problemy. Warszawa, 1977. S. 165—186.

[26] Там жа. С. 186—221.

[27] Копреева Т. Н. Франциск Скорина и русская рукописная книжная традиция XV в. // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. С. 66.

толькі ў сувязі са сваім часам і на фоне падзей грамадскага жыцця, якія выклікалі яго з'яўленне. Яркія і неардынарныя помнікі па прычыне сваёй выключнасці патрабуюць значна большай увагі, чым другарадныя, масавыя, бо яны не ўкладваюцца ў пэўную тыпалогію. Іменна так выглядае справа мастацкага афармлення выданняў Скарыны. Мы добра ўсведамляем, што гэта сапраўды сінтэз мастацтва і друкавальнай тэхнікі, сапраўды цэласны арганізм, усе элементы якога знаходзяцца ва ўзаемасувязі. Але гаварыць пра складанае цэлае можна, толькі высветліўшы яго дэталі, асабліва найбольш выразныя і арыгінальныя. У выдавецкай практыцы беларускага першадрукара нямала асаблівасцей, якімі недастаткова толькі захапляцца, не імкнучыся да выяўлення іх каранёў. Яго эстэтычны ідэал сфарміраваўся на водападзеле разнастайных культурных традыцый, і дзіўна, што афармленне яго кніг пражскага і віленскага перыядаў не здаецца пры гэтым эклектыкай. Паколькі ў ілюстрацыях, арыгіналам якіх у эпоху сярэдневякоўя ва Усходняй Еўропе заўсёды ўдзялялася вялікая ўвага, тут яўна выявіўся вопыт нямецкіх гравёраў, узнікла неабходнасць у вызначэнні вытокаў кампазіцый. Імі аказаліся ксілагравюры інкунабул, пераважна надрукаваных у Нюрнбергу.

Варта прыгадаць, што для Маскоўскай Русі, Украіны і Беларусі на рубяжы XV—XVI стст. наогул характэрна шырокае засваенне заваёў рэнесансавай культуры, хоць і не ўсюды яно вылівалася ў такія цалкам відавочныя формы, як пры будаўніцтве Маскоўскага Крамля[28]. Урэшце, не менш яркае выяўленне заходні побыт XV ст. знайшоў і на старонках Радзівілаўскага летапісу[29]. А .А. Сідараў асабліва пдкрэсліваў, што рускія друкаваныя кнігі другой палавіны XVI ст. паводле свайго афармлення бліжэй да інкунабул, чым да палеатыпаў[30]. Ці не ўзнікала гэта з'ява ў пэўнай ступені дзякуючы таму тыпу выдання, які цалкам можна звязваць з імем Францыска Скарыны?!

Узнікае мноства пытанняў. Мы імкнуліся адказаць на адно з іх.

---

[28] Gazzola P. I Mastri frjazy o Mosca sullo scorcio del quindicesimo secolo (Halle Cronache russe e da documenti di Archivi italiani) // Arte Lombarda. N. s. Milano, 1976. T. 44/45. P. 157—172.

[29] Радзивилловская, или Кенигсбергская летопись. Спб., 1902; Рыбаков Б. А. Из истории культуры Древней Руси. М., 1984. С. 188—240.

[30] Сидоров А. А. История оформления русской книги. М.; Л., 1946. С. 33.





*В. Ф. ШМАТАЎ (Мінск)*

# ПАРТРЭТ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Як бы патрабавальна ні ацэньваць мастацкія якасці гравюрнага партрэта Ф. Скарыны, перад намі — твор унікальны. Гэта гравюра — выяўленча-вобразны жыццяпіс асветніка, яго біяграфія, створаная натхнёным разцом; першы гравюрны партрэт у сусветным кірыліцкім друкарстве, найбольш арыгінальны дрэварыт у Скарынавай Біблії, які паводле задумы, выяўленчай стылістыкі і мастацкіх вартасцей прыкметна розніцца ад усіх астатніх ілюстрацый. Адзін з самых ранніх свецкіх, рэалістычных партрэтаў у мастацтве Усходняй Еўропы.

Ужо сам факт змяшчэння ў сакральнай кнізе партрэта свецкай асобы, перакладчыка-асветніка з'яўляецца беспрэцэдэнтным, бо, як вядома, распаўсюджанне Бібліі друкарскім шляхам калі і не забаранялася афіцыйна, то, прынамсі, спачатку сустракалася непрыхільна або нават абмяжоўвалася пэўнымі коламі белага і чорнага духавенства. Што ж датычыць яе «персаналізацыі» шляхам змяшчэння партрэта перакладчыка-кнігавыдаўца, то гэта наогул магло быць успрынята як блюзнерства, смелы і дзёрзскі выклік царкоўнай ідэалогіі.

Вядома, што захавалася некалькі выяў еўрапейскага першадрукара І. Гутэнберга. Дзве самыя раннія з іх датуюцца 80-мі гадамі XVI ст., г. зн. зроблены больш чым праз сто гадоў пасля яго смерці (1468). Яны не падпісаны, іх першакрыніцы дакладна не высветлены; меркаванне ж некаторых аўтараў, што адлюстраванні вялікага вынаходніка кнігадруку ўзыходзяць да яго сапраўдных партрэтаў[1], па сутнасці, нічым не падмацавана. Нам невядомы таксама прыжыццёвыя выявы славянскіх кірылічных друкароў Ш. Фіёля, Макарыя, Б. і В. Вукавічаў, І. Фёдарава і яго памочніка П. Мсціслаўца. Аўтарытэтны даследчык заходнееўрапейскіх інкунабул і палеатыпаў В. Люблінскі слушна сцвярджаў, што партрэт Скарыны — «адзін з самых ранніх, калі не першы з партрэтаў друкароў наогул»[2].

Перад намі — унікальны дакумент эпохі, у якім у адзіным і цэльным зрокавым вобразе нібы знітаваны найважнейшыя

[1] Варбанец Н. В. Йоханн Гутенберг и начало книгопечатания в Европе. М., 1980. С. 18.

[2] Люблинский В. С. На заре книгопечатания. Л., 1959. С. 138.

праблемы скарыназнаўства: вонкавае аблічча гуманіста, яго паходжанне і час нараджэння, характар, светапогляд і род заняткаў, асяроддзе і шматгранныя сувязі. Не існуе іншай крыніцы, якая можа параўнацца з партрэтам Ф. Скарыны па багаццю і разнастайнасці інфармацыі, каштоўнасць якой цяжка пераацаніць. Партрэт Скарыны надзвычай цікавы і як дакумент чалавечай самасвядомасці — індывідуальнай, мастацка-гістарычнай, у пэўнай ступені нацыянальнай.

Сярэдневяковыя манахі стваралі рукапісы ў цішы манастыроў, і толькі зрэдку можна сустрэць у іх імя перапісчыка, бо ананімнасць — характэрная рыса сярэдневяковага мастацтва. Гуманісты ж, наадварот, адкрыта ганарыліся вынікамі сваёй працы, сваёй стваральнай дзейнасцю. Скарына амаль у кожным калафоне з годнасцю заяўляе: кніга «доконана [або выкладзена, выціснена] повелением и працею избранного мужа в лекарских и вызволеных науках доктора Франциска Скорины из славного града Полоцка». Сугучна з духам эпохі Адраджэння ён змясціў у Бібліі і ўласны партрэт. Канцэпцыі высокага чалавечага гонару і гуманістычнага індывідуалізму, так ярка выяўленай у гэтым творы, няма аналогій ва ўсім славянскім свеце таго часу.

Дасведчаны знаўца старой кнігі А. А. Сідараў слушна сцвярджаў, што партрэт Скарыны «мае сапраўды гістарычнае значэнне»[3]. «З пачуццём уласнага гонару, якое ўпершыню ўзнікла ў славянскім свеце, Скарына змяшчае — і не раз! — у сваіх выданнях (калі не богаслужэбных, то свяшчэнных, традыцыйных кніг) не выяву легендарных святых, а ўласны партрэт... Скарына паўстае перад намі ў зусім новым абліччы. Ён не прадпрымальнік, як Фіёль, і не манах, як Макарый. Скарына — выдавец, а не друкар, не работнік станка. Ён вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ён ідэолаг, рэдактар, мовазнавец і грамадскі дзеяч. Ён перш за ўсё патрыёт і асветнік»[4],— пісаў вучоны.

Тым не менш партрэт Скарыны вывучаны пакуль што недастаткова; яго значэнне і месца ў гісторыі мастацтва па-сапраўднаму не асэнсаваны. Паказальна, што ў артыкуле «Партрэт» у БелСЭ (Т. 8. С. 112) ён нават не згадваецца. Да сённяшняга дня нават вопытныя даследчыкі не навучыліся адрозніваць арыгінал партрэта Скарыны ад яго пасрэдных копій, якія скажаюць вонкавае аблічча асветніка і ў якасці «лепшых варыянтаў» фігуруюць у юбілейных выданнях, альбомах, манаграфіях, артыкулах, календарах.

Гістарыяграфія гравюрнага партрэта Скарыны таксама не існуе, хоць асобныя выданні асветніка згадваліся ўжо ў XVI —

---

[3] Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешенные вопросы русского книгопечатания // Книга: Исследования и материалы. М., 1964. Сб. 9. С. 24.

[4] Там жа.

XVIII стст.[5] У Расіі першым да іх звярнуўся ў 1776 г. І. Бакмейстар. Аднак ні ён, ні больш познія аўтары (П. Аляксееў, І. Штрытэр, Ё. Добраўскі, В. Сопікаў і інш.) партрэт Скарыны, як і шмат якія іншыя ілюстрацыі «Бібліі рускай», не ўпаміналі.

Гонар адкрыцця партрэта Скарыны належыць рускаму гісторыку І. М. Снегірову, які ў 1830 г. даў яго сціслае апісанне[6]. Праўда, даследчык карыстаўся пры гэтым не арыгіналам, а копіяй, зробленай у тэхніцы медзярыту мастаком А. Фларовым.

У 1864 г. партрэт Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў» згадаў выдатны рускі крытык і культурны дзеяч У. Стасаў, на думку якога гэты партрэт з'яўляецца самай лепшай гравюрай у Бібліі Скарыны[7]. Той жа адбітак з кнігі «Ісус Сірахаў» быў вядомы І. Каратаеву[8] і Д. А. Равінскаму[9]. У 1884 г. апошні з іх рэпрадуктаваў копію гэтага партрэта[10], а праз чатыры гады даў яго сціслае апісанне[11]. Мяркуючы па рэпрадукцыі, яно таксама рабілася паводле копіі. Арыгінальны партрэт Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў» упершыню рэпрадуктаваў П. У. Уладзіміраў на франтыспісе сваёй знакамітай манаграфіі[12].

Гісторык беларускага мастацтва М. Шчакаціхін назваў два адбіткі партрэта Скарыны: першы — ужо нам вядомы з кнігі «Ісус Сірахаў», другі — з кнігі «Быццё». Ён лічыў іх «варыянтамі» і заўважыў, што «з тэхнічнага боку паміж гэтымі варыянтамі існуе вядомая розніца. Уласна, 2-і з ліку іх (г. зн. у кнізе «Быццё».— *В. Ш.*) з'яўляецца лепшым: ён характарызуецца высокай выразнасцю малюнка разам з чыстатой і яснасцю ліній, пракладзеных умелым разцом, і, бясспрэчна, з'яўляецца вытворам надзвычайна добрага гравёра; 1-ы варыянт (у кнізе «Ісус Сірахаў».— *В. Ш.*) некалькі слабейшы ў дэталях і менш выразны»[13].

Мы высока цэнім працы М. Шчакаціхіна, але ў дадзеным вы-

---

[5] Немировский Е. Л. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве: Жизнь и деятельность Ф. Скорины. Описание изданий и указатель литертуры. М., 1978.

[6] Снегирев И. М. Дополнение к статье IX // Труды и летописи О-ва истории и древностей российских при имп. ун-те. М., 1830. Ч. V, кн. 1. С. 308—309. Згаданая копія тут упершыню рэпрадуктавана паміж с. 308 і 309.

[7] Стасов В. В. Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского «Русские граверы и их произведения...» // Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова. Спб., 1864. С. 30.

[8] Каратаев И. П. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. Т. 1. С. 1491 по 1652. Спб., 1883. С. 29.

[9] Ровинский Д. А. Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии художеств. М., 1870. С. 5.

[10] Ровинский Д. А. Материалы для русской иконографии. Спб., 1884. Вып. 3. № 90.

[11] Ровинский Д. А. Подробный словарь русских гравированных портретов. Спб., 1888. Т. III. Сл. 1923—1924.

[12] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888.

[13] Шчакаціхін М. М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францыска Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 194—195.

падку ён зрабіў тры істотныя памылкі: 1) копію ў кнізе «Быццё» памылкова прыняў за арыгінал; 2) арыгінальны партрэт Скарыны ў кнізе «Ісус Сірахаў» ацаніў ніжэй, чым копію; 3) арыгінал і копію назваў варыянтамі.

У 1959 г. А. С. Зёрнава першая ў нашай краіне выявіла новы адбітак партрэта Скарыны ў кнізе «Царствы». Аднак вельмі важнай знаходцы яна не прыдала асаблівай увагі, бегла адзначыла толькі, што «ў канцы кнігі «Царстваў», на апошнім лісце з калонлічбай 242 змешчаны партрэт Скарыны, які выяўлены ў касцюме, у абстаноўцы заходнееўрапейскага вучонага» [14].

Амаль адначасова (ці крыху нават раней) новы адбітак партрэта Скарыны быў знойдзены і ў кнізе «Царствы» з бібліятэкі Брытанскага музея ў Лондане [15]. Заслугоўвае ўвагі і публікацыя Г. Я. Галенчанкі, які называе тры «варыянты» партрэта [16].

Упаміналі (а нярэдка і рэпрадуктавалі) партрэт Скарыны і іншыя аўтары: М. Кацар, М. Алексютовіч, А. Коршунаў, В. Чапко, Л. Уладзіміравас, Я. Неміроўскі, М. Прашковіч, Л. Царанкоў і інш., але ў іх публікацыях часцей за ўсё фігуруюць копіі. Гэтыя копіі настолькі безагаворачна выдаваліся за арыгінальныя партрэты Скарыны, што спачатку былі на веру прыняты і аўтарам гэтых радкоў [17]. Неўзабаве, аднак, гэта памылка была намі выпраўлена [18].

Наяўнасць апісанняў партрэта Скарыны (лепшае з іх належыць І. Снегірову) пазбаўляе ад неабходнасці паўтарацца. Адзначу толькі тое, што засталося па-за ўвагай даследчыкаў.

Перад намі адметны від «партрэта ў інтэр'еры» (тыпу «Св. Ераніма» Карпачча, Антанэла да Месіны або Дзюрэра і інш.). Скарына свядома вылучан на пярэдні план, максімальна набліжан да гледача. Такі кампазіцыйны прыём узмацняе значнасць адлюстраванай асобы, якая тут не другасная, не падуладная інтэр'еру (як у «Св. Ераніме» Дзюрэра), а галоўная, дамінанта выявы. Дэмакратычны, чалавечны пачатак у партрэце Скарыны выяўляецца вельмі ярка.

Важна адзначыць, што на партрэце Скарына паказан перш за ўсё як пісьменнік-перакладчык. Злева ад гледача на пюпітры

---

[14] Зернова А. С. Обзор выставки книг кирилловской печати, посвященной 375-летию со дня смерти Ивана Федорова // Тр. Гос. б-ки СССР им. В. И. Ленина. М., 1959. Т. 3. С. 215.

[15] Пра знаходку на Захадзе новага адбітка партрэта Скарыны ў айчынным друку паведаміў А. В. Флароўскі, але вучоны памылкова пісаў, што ў Лондане гэты адбітак знойдзены ў кнізе «Ісус Сірахаў». (Флароўскі А. В. Scoriniana // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 415).

[16] Галенчанка Г. Я. Партрэты першадрукароў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 1. С. 26—27.

[17] Шматаў В. Ф. Партрэт Францыска Скарыны // Мастацтва Беларусі. 1983. № 1.

[18] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984. С. 12; Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 240.

пакладзена кніга, асветнік глядзіць на яе (скіраваны ўлева погляд перададзен мастаком вельмі выразна) і стварае рукапіс, працуе над перакладам Бібліі.

У кампазіцыі партрэта заўсёды важна ўгадаць суадносіны маштабаў фігуры з фонам, інтэр'ерам. Тут гэта праблема вырашана выдатна: фігура Скарыны ўдала «ўпісана» ў інтэр'ер, добра звязана з навакольным асяроддзем. Кампазіцыя пабудавана так, што ў цэнтры ўвагі гледача адразу аказваецца галава партрэтаванага, якая свядома вылучана святлом, даецца на нейтральным, заштрыхаваным гарызантальнымі лініямі фоне. Твар Скарыны выяўлен амаль у фас, што дае магчымасць уважліва разгледзець непаўторнае аблічча. Выразныя, запамінальныя рысы, доўгі, прамы нос, крыху поўныя губы, задуменныя, самотныя вочы. Мастаку ўдалося перадаць стомленасць, якую падкрэсліваюць лініі плячэй і ўся пастава магутнай фігуры. Твар выпраменьвае дабрату і адкрытасць; усё аблічча беларускага гуманіста напоўнена вялікай чалавечай абаяльнасцю, годнасцю і цеплынёй.

У сярэдневяковым мастацтве ў фас досыць часта адлюстроўвалі святых, а канкрэтных асоб (данатараў на абразах і інш.) часцей за ўсё падавалі ў профіль, што было адзнакай сэнсавай і кампазіцыйнай «другаснасці» вобраза чалавека, які, згодна з сярэдневяковым светапоглядам, лічыўся падпарадкаваным богу. На першым этапе гэта традыцыя захоўвалася яшчэ і ў рэнесансавым мастацтве (асабліва кватрачэнта), дзе пад уплывам антычных медалёў распаўсюдзіўся тып пагруднай профільнай выявы. У Італіі профіль у партрэце дамінаваў амаль да канца XV ст., а ў Германіі аж да XVI ст.[19] Выхад з профілю адбываўся паступова — праз паварот галавы партрэтаванага спачатку ў тры чвэрці, а пазней — праз партрэт ў фас. Гэта не былі чыста фармальныя пошукі. Мастакі імкнуліся да больш яркай вобразнай характарыстыкі, індывідуалізацыі партрэтаваных, з перадачай іх унутранага свету.

Фасавая трактоўка ў партрэце Скарыны была, несумненна, абрана мастаком свядома, бо пры рэзкім павароце галавы да гледача твар набываў асобую значнасць, з другараднага станавіўся галоўным. Апрача таго, фас даў мастаку магчымасць усебакова ахарактарызаваць Скарыну. Выхад з профілю азначаў новы важны этап мастацкіх дасягненняў еўрапейскага партрэта, у рэчышчы якога і пададзен Скарына.

Ці падобны на сябе Скарына на партрэце? Відаць, падобны. Дарэнесансавыя партрэты часцей за ўсё былі свайго роду «абразамі» (нават калі адлюстроўвалася канкрэтная асоба), дзе на тварах мадэлі выяўляўся, нібы прасвечваўся, боскі або царскі лік — варыянт маскі, якая прытойвала рысы звычайныя,

[19] Данилова Е. Н. Портрет в европейской живописи. М., 1975. С. 8; Гращенков В. Н. Гуманизм и портретное искусство раннего Возрождения // Сов. искусствознание, 75. М., 1976.

«выпадковыя», часовыя і замяняла іх незвычайнымі, нарматыўнымі, вечнымі.

Партрэт Адраджэння, наадварот, разлічан на тое, каб быць пазнаным, мастак заўсёды імкнуўся зрабіць яго падобным[20]. Задача рэнесансавага партрэта — вылучыць асобу сярод усіх, падобных да яго, перадаць падабенства з мадэллю, г. зн. зрабіць партрэт партрэтным[21]. «Дзюрэр зрабіў мой партрэт, але без ценю падабенства»[22],— незадаволена пісаў Э. Ратэрдамскі ў лісце да Піркгеймера (гаворка ідзе пра гравюрны партрэт 1526 г.). Можна прывесці нямала іншых прыкладаў, якія сведчаць, што падабенства ў партрэце ставілася на першае месца. У заказных партрэтах (а партрэт Скарыны іменна заказны) патрабаванне да знешняга падабенства было асабліва высокім — непадобны партрэт заказчыкам проста не прымаўся. Такі «непартрэтны партрэт» асветнік наўрад ці змясціў бы ў сваёй Бібліі. Партрэт Скарыны вельмі індывідуальны, канкрэтны, «персанальны»; у ім адсутнічае якая б там ні была ідэалізацыя; асобныя «недакладнасці» (некаторая асіметрыя твару і інш.) гавораць пра перадачу мастаком індывідуальна-непаўторнага, канкрэтнага.

Калі часам нараджэння Скарыны прыняць прапанаваны П. Уладзіміравым 1490 год, то ў момант стварэння партрэта яму было ўсяго 27 гадоў. На партрэце ж ён выглядае старэйшым — гадоў каля 30 ці нават крыху болей, але толькі не 40—45, як лічыў Ясінскі[23]. М. Шчакаціхін даводзіў, што асветнік нарадзіўся ў 1486 г.[24] Гэта дата больш адпавядае выяве. У кожным выпадку на яе падставе можна зрабіць выснову, што Скарына быў прыняты ў Кракаўскі універсітэт пасля 14 гадоў (ва універсітэт прымалі да 30 гадоў).

Партрэт Скарыны зроблен у тэхніцы абразнога дрэварыта, які панаваў у Еўропе ў XV—XVI стст. Сядзячая фігура Скарыны ў цэлым пераканаўча намалявана і, як адзначана, выдатна закампанавана ў інтэр'еры. Нідзе няма свабодных месц — уся плоскасць ліста запоўнена відарысамі, вобразамі-знакамі, сім-

---

[20] Аб рэнесансавым партрэце кватрачэнта гл.: Rudelko G. Florentiner Porträts der Frürenaissance. Pantheon, 1935. XV; Alazard J. Le portrait florentin de Botticelli a Bronzine. Paris, 1938; Lanyi J. The Louvre Portrait of Five Florentines // Burlington Magazin. 1944. LXXXIV; Hatfield R. Five Early Renaissance Portraits // The Art Bulletin. 1965. Sept.; Pope-Hennesy J. The Portrait in the Renaissance. N. Y., 1966; Гращенков В. Итальянская портретная живопись последней трети XV века // Искусство Запада. М., 1971; яго ж. Заметки об итальянском портрете раннего Возрождения // Классическое искусство Запада. М., 1972.

[21] Данилова И. Е. Портрет в итальянской живописи кватроченто // Сов. искусствознание, 74. М., 1975. С. 142—143.

[22] Дюрер А. Дневники, письма, трактаты. Л.; М., 1957. Т. 1. С. 219.

[23] Ясінскі А. З культурнай гісторыі Чэхіі XVI сталецця // 400-лецце беларускага друку. С. 40.

[24] Шчакаціхін М. Калі нарадзіўся Скарына // Полымя. 1925. № 5. С. 148—151.

валамі. Пераканаўча перададзена перспектыва пакоя, тонка награвіраваны шматлікія дэталі. Форма скрозь мадэліруецца ўпэўненымі штрыхамі, якія выдатна перадаюць аб'ём фігуры, складкі адзення, розныя прадметы інтэр'ера. Перакрыжную штрыхоўку бачым толькі на адзенні Скарыны, ля каўняра, а таксама на кошыку — усё астатняе пададзена прамымі паралельнымі або крыху закругленымі лініямі з патанчэннем у бок святла. Выразаны штрыхі смела і энергічна; у выкананні ксілаграфіі адчуваецца ўпэўненая рука вопытнага і спрактыкаванага майстра, які дасканала валодае прафесійным майстэрствам.

Можна, вядома, адзначыць і пэўныя недахопы партрэта: залішнюю апавядальнасць, незадавальняючы малюнак ног (месцазнаходжанне левай нагі наогул невядома). Штрыхоўка ў асобных мясцінах магла б быць больш тонкай і дакладнай — перакрыжаванай штрыхоўкай гравёр, відаць, не валодаў, прынамсі, пазбягаў яе (у абразной гравюры, дзе штрыхі лепш кладуцца ўздоўж валокнаў драўлянай дошкі, такая штрыхоўка даецца цяжка). Для праразання доўгіх гарызантальных ліній за спіной Скарыны гравёр як быццам карыстаўся лінейкай, г. зн. яго тэхнічныя прыёмы часам некалькі механічныя. Але ў цэлым мастацкі ўзровень партрэта высокі — невыпадкова Стасаў зазначаў, што партрэт Скарыны «прыраўноўваецца да найлепшых нямецкіх гравюр таго часу па добраму малюнку, сіле і каларытнасці гравюры» [25].

## Вытокі

Гісторыя беларускага партрэта яшчэ не напісана. Таму толькі ў самых агульных рысах мы можам закрануць складанае пытанне пра вытокі выявы Скарыны. Неабходна весці гаворку іменна пра кніжны партрэт — вобразы Васіля Вялікага і Іаана Златавуста ў галоўнай абсідзе Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку (XII ст.), станковыя партрэты магнатаў і князёў да нашай тэмы маюць адноснае дачыненне [26].

Партрэтная мініяцюра з адлюстраваннем канкрэтных асоб вядома старажытнарускім рукапісам. Прыгадаем «княскую сям'ю» з Ізборніка Святаслава (1073), партрэты з Кодэкса Гертруды (XI ст.) князя Яраполка, які ў 1078—1086 гг. княжыў у Тураве, і яго жонкі.

Пачынаючы са славутага Астрамірава евангелля (1056—1057), ва ўсходнеславянскіх рукапісах пашыраюцца выявы пішучых евангелістаў. У рукапісах Беларусі існаваў пэўны культ

[25] Стасов В. В. Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского... С. 30.

[26] Кацар М. Зараджэнне і развіццё партрэтнага жанру ў беларускім жывапісе // Бел. мастацтва. Мн., 1962. Вып. 3. С. 126; Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 204—209; Высоцкая Н. Ф. Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст. Мн., 1980; Карповіч Г. А. Другое нараджэнне партрэтаў з Нясвіжа і Гродна. Мн., 1981.

такіх вобразатвораў. Самыя раннія з іх занатаваны ў Аршанскім евангеллі XIII ст., якое паходзіць, відаць, з Полацкай школы. Цікава, што Лука і Мацвей паказаны тут, як і Скарына, пішучымі за столікамі, а побач, таксама на пюпітрах,— кнігі. Перад намі перапісчыкі, прадстаўнікі інтэлектуальнай працы. Пазней вобразы «святых пісьменнікаў» адлюстраваны ў Лаўрышаўскім (XIV ст.) евангеллі, Шарашоўскім і Жыровіцкім (XV ст.), Жухавіцкім (XVI ст.) і іншых евангеллях. Евангелісты скрозь пададзены ў сядзячых паставах, заўсёды пішуць кнігу (або скрутак). На франтыспісе Смаленскага Псалтыра (1395) з кнігай адлюстраваны легендарны цар Давыд. Ёсць усе падставы звязваць выявы евангелістаў з праблемай партрэта. У вобразах «святых пісьменнікаў» своеасабліва ўслаўляецца подзвіг чалавечага розуму, інтэлектуальнай працы.

Такім чынам, традыцыя адлюстравання аўтара кананічнай кнігі ў рукапісах Беларусі існавала. Скарына захаваў традыцыю, але пад уздзеяннем Рэнесансу напоўніў яе новым гуманістычным зместам. Пры гэтым ён, несумненна, добра ведаў заходнееўрапейскі партрэт, у тым ліку кніжны. Эвалюцыя гэтага партрэта ішла ад умоўнага да рэальнага, канкрэтнага. Раннія партрэты імперсанальныя, нават выявы рэальных аўтараў (Марка Пола, Бакачча і інш.) не былі партрэтнымі. У Хроніцы (1493) Г. Шэдэля для адлюстравання 224 каралёў спатрэбіліся ўсяго толькі 44 дошкі: адзін і той жа вобраз на розных старонках Хронікі фігуруе ў якасці нямецкага рыцара, гамераўскага героя або ўсходняга ўрача.

Разам з тым ужо ў XV ст. у заходнееўрапейскіх кнігах усё часцей сустракаюцца выявы канкрэтных аўтараў. Звычайна яны даваліся ў свецкіх выданнях, а ў бібліях часам змяшчаўся толькі святы Еранім — перакладчык «Свяшчэннага пісання».

Разам з тым у т. зв. Бібліі Міколы Малермі, выдадзенай у 90-я гады XV ст. у Венецыі, змешчана ксілаграфічная застаўка з вобразатворам гуманіста за рабочым сталом[27]. Гэту Біблію беларускі першадрукар, напэўна, трымаў у руках. На абодвух дрэварытах партрэтуемыя паказаны сядзячымі за пісьмовым сталом. Супадаюць і асобныя дэталі: пясочны гадзіннік (у абодвух творах малюнак вельмі падобны), свечка з адбівальнікам святла, кнігі ў вялікіх пераплётах. Італьянскі і беларускі гуманісты паказаны ў момант напружанай інтэлектуальнай працы.

Разам з тым Скарына шмат у чым пайшоў далей за свайго венецыянскага папярэдніка. У Бібліі Малермі выява не падпісана — гэта ўмоўны вобраз невядомага гуманіста. Інакш задуман партрэт Скарыны, які награвіраван не на застаўцы (як у Бібліі Малермі), а на асобным лісце, што падкрэслівае знач-

---

[27] Рэпрадукцыю гл. у кн.: Люблинский В. С. На заре книгопечатания. С. 95.

насць выяўленай асобы. Асаблівая каштоўнасць партрэта Скарыны ў тым, што ён ствараўся з натуры, дакладна датаваны, адзначан гербам Скарыны і падпісан славянскай вяззю — «Доктар Франциско Скорина».

## Варыянты ці паўторныя адбіткі?

Аб колькасці партрэтаў Скарыны ў яго Бібліі адзінай думкі не існуе. Пра гэта сведчыць прыведзены вышэй агляд літаратуры. Даследчыкі называлі адзін, два, тры «варыянты». У асобных публікацыях на Захадзе сцвярджаецца, што партрэт Скарыны змешчан у Бібліі не менш як 5 разоў.

У альбоме «Гравюры Францыска Скарыны» Л. Баразна рэпрадуктаваў тры партрэты асветніка. Першы з іх фігуруе пад нумарам 33. У анатацыі сказана, што ён паходзіць з кнігі «Ісус Сірахаў». На самай жа справе адбітак зроблен не з арыгінала, а з копіі Фларова — манаграма капііста «Гр. Ал. Фл.» (у ніжнім левым кутку ля рамкі) добра відаць нават на рэпрадукцыі.

Другі «Партрэт Ф. Скарыны», які ўпершыню надрукаваў Баразна, (№ 34) сапраўдны. Гэта той дэфектны (у ім адарваны ніжняя левая частка адбітага дрэварыта з выявай кошыкаў, манаграмы МЗ (або МТЗ), гладышоў, правай нагі партрэтаванага) адбітак з кнігі «Царствы», які ў 1959 г. быў выяўлены ў Маскве.

Больш складанае пытанне з трэцяй рэпрадукцыяй (№ 35). У анатацыі сказана, што партрэт паўтараецца ў кнізе «Быццё». Аднак Я. Неміроўскі заўважыў, што «ў гэтай кнізе партрэта няма. За сапраўдны адбітак памылкова прынята вельмі блізкая да арыгінала рэпрадукцыя, выкананая ад рукі хутчэй за ўсё ў XIX ст. і ўклееная паміж першым і другім лістамі экземпляра кнігі «Быццё», які захоўваецца ў ДПБ»[28]. Рэпрадукцыя «ад рукі», якую згадвае Неміроўскі, нам вядома: гэта тая «чыстая і ясная» на лініі копія, якую Шчакаціхін першы памылкова палічыў за лепшы арыгінал. Аднак параўнанне рэпрадукцыі Баразны пад № 35 з гэтай копіяй не пацвярджае меркаванне Я. Неміроўскага, сведчыць пра тое, што яна рабілася з сапраўднага адбітка. Справа ў тым, што ў экземпляры кнігі «Быццё» з ДПБ (шыфр 1. 5. 4а) да 1986 г. існаваў партрэт Скарыны на асобным, не знітаваным з кнігай аркушы. Памер партрэта — 159×104 мм. Гэта была не копія, а арыгінал, які першым рэпрадуктаваў Шчакаціхін. Іменна з таго адбітка (яго знаходжанне зараз невядома) і рабіў Баразна рэпрадукцыю пад № 35. Ва ўсіх астатніх існуючых экземплярах кнігі «Быццё» (14 экз.) партрэт Скарыны не выяўлен.

Сённяшні стан вывучэння кніг асветніка (іх мастацкай аздо-

---

[28] Немировский Е. Л. Альбом старопечатных гравюр // В мире книг. М., 1973. № 2. С. 75.




Партрэт Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў»

ЦАРЬ ВЪ :~ СМВ :~



Партрэт Скарыны з кнігі «Царствы» (Масква)

12. Зак. 207

ЦАРЬСТВЪ :- С̃МЕ :-




Партрэт Скарыны з кнігі «Царствы» (Лондан)

бы, гравюр) дазваляе гаварыць толькі пра два адбіткі партрэта Скарыны. Храналагічна яны змешчаны:

1. У кнізе «Ісус Сірахаў», 1517 г. (л. 82), памер 159—105 мм;

2. У чацвёртай кнізе «Царствы», 1518 г. (л. 242), памер 160×106 мм.

Вялікую цікавасць выклікае нявырашанае да гэтага часу пытанне: з'яўляюцца згаданыя два адбіткі партрэта Скарыны арыгінальнымі варыянтамі ці яны адціснуты з адной дошкі?

Адбітак з кнігі «Царствы» Баразна (як і некаторыя заходнія даследчыкі) называе «другім варыянтам». У экземпляры кнігі з фондаў Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве гэты адбітак дэфектны. У экземпляры «Царствы» з Брытанскай бібліятэкі ў Лондане гравюра захавалася ў досыць добрым стане. Але ў ёй таксама адсутнічае пчала і манаграма. Партрэт уверсе справа адзначан калонлічбай 242, пасярэдзіне ж над ім загаловачным шрыфтам набрана слова «Царьствъ».

Аўтар гэтых радкоў вывучаў апошнюю гравюру паводле фотаздымка, дасланага з Лондана. Параўнаўчы аналіз партрэта з кнігі «Царствы» з аналагічнай выявай з кнігі «Ісус Сірахаў» не пакідае сумненняў, што абодва адбіткі надрукаваны з адной дошкі. У абодвух выявах цалкам супадаюць кампазіцыя, памеры [29], кожная дэталь, кожны штрых і манера гравіроўкі. Стан ксілаграфічных дошак таксама дазваляе меркаваць, што ў абодвух узнаўленнях выкарыстоўвалася адно клішэ. Адбітак з кнігі «Ісус Сірахаў», які рабіўся 5 снежня 1517 г., больш яркі, выразны, штрыхі больш чоткія. Адбітак жа з кнігі «Царствы», які зроблен на год пазней, больш цьмяны: ад папярэдняга друкавання штрыхі крыху забіліся фарбай, спрацаваліся. Калі б дошка спецыяльна рэзалася для кнігі «Царствы», такой яе зношанасці не было б. Стварэнне партрэта каштавала не танна. Не было ніякага сэнсу, выкарыстаўшы клішэ для кнігі «Ісус Сірахаў», заказваць мастакам дошку для новага адбітка ў кнізе «Царствы». Але самы галоўны доказ, што абодва вядомыя адбіткі партрэта Скарыны зверху на гравюры датаваны адным, 1517 годам. Калі б гравёр для кнігі «Царствы» ствараў спецыяльнае клішэ, ён паставіў бы на гравюры новую дату — 1518.

Чаму ж тады на адбітку з кнігі «Царствы» няма манаграмы і пчалы? Відаць, яны ў нечым не задаволілі Скарыну, і пасля выхаду з друку кнігі «Ісус Сірахаў» ён загадаў граверу зрэзаць іх з клішэ.

Трэба сказаць, што гравюра ад гэтага нічога не страціла. Пчала, сімволіка якой вельмі складаная, празмерна дэталізуе, «дробніць» партрэт, уносіць у яго элементы натуралізму. Скарына, які тонка разумеў мастацтва (пра гэта сведчаць яго вы-

---

[29] Розніца ў 1—2 мм тлумачыцца станам паперы, якую змочвалі пры друку, а таксама не заўсёды аднолькавым ціскам.



Партрэт Скарыны. Копія Фларова. XIX ст. Медзярыт



Партрэт Скарыны з кнігі П. Сахарава. XIX ст. Літаграфія

казванні аб ілюстрацыях, застаўках, колеры), адчуў гэта. Таму пчала, якая, паводле Шчакаціхіна, нагадвае муху, была цалкам зрэзана з ксілаграфічнай дошкі. Дзякуючы гэтаму адбітак партрэта ў кнізе «Царствы» стаў больш лаканічным. Падобныя карэктывы вядомы і ў іншых дрэварытах. Так, ілюстрацыя «Взор риз» з адной дошкі таксама друкавалася двойчы: першы раз у кнізе «Выхад», другі — у кнізе «Левіт» (Баразна, № 39—40). У другім адбітку з клішэ былі зрэзаны гарызантальныя штрыхі з фону (ён з бакоў стаў белым) і падлогі. Такімі праўкамі граверы шырока карысталіся не толькі ў часы Скарыны, але і пазней.

## Подпіс вяззю

Як адзначана, партрэт Скарыны падпісаны: унізе на чорнай пласцінцы прыведзена імя і прозвішча асветніка, указана яго вучоная ступень. Значэнне подпісу цяжка пераацаніць. Дзякуючы яму мы бачым, што на партрэце адлюстравана не іншая асоба, а сам Скарына. У гэтым пераконвае і яго герб (злучаныя сонца і месяц), дадзены на партрэце ў другі раз пасля выявы ў Псалтыру (л. 5), а таксама дата «1517», выяўленая кірыліцай на другой, верхняй, пласцінцы. Дата гаворыць пра пачатак кнігавыдавецкай дзейнасці.

Партрэт Скарыны падпісаны вяззю (адно з нямногіх сведчанняў сувязі з рукапіснай традыцыяй), але вязь тут вельмі арыгінальная, складаная, прыкметна розніцца ад той, што не без уплыву Візантыі і паўднёваславянскіх рукапісаў з'явілася на Русі ў канцы XIV ст. і пазней пашырылася па ўсёй тэрыторыі. Яна далёкая ад «геаметрычных прынцыпаў» вязі Маскоўскай Русі і не мае аналагаў у рукапісах Беларусі.

У XIX ст. прадстаўнікі ваяўнічага праваслаўя сцвярджалі, што партрэт падпісаны «Георгий Скорина». Шчакаціхін прачытаў подпіс як «Доктор Франциск Скорина». На самай жа справе вязь чытаецца — «Доктор Франциско Скорина» [30].

Сам першадрукар зрэдку ўжываў такое напісанне ў прадмовах: «Прото ж я, Франциско Скорина, меновал есми ту вси тыи писма зособна...»,— пісаў ён у прадмове да першай кнігі «Царствы» [31]. Праўда, часцей за ўсё Скарына называў сябе «Франциск». У асобных выпадках у назоўным склоне ўжыты формы «Франциско» і «Францишек».

---

[30] Першая вялікая літара «Д» угадваецца ў подпісу цяжка на ўсіх адбітках, але апошнія тры — «Т», «О», «Р» — пазнаюцца дастаткова добра. Імя «Франциско» дасціпна закручана ў адзін вензель, але чытаецца лепш, чым «Доктор». Апошняя літара «О» дадзена тут унізе на вітку латары «К»; на верхнім вітку такой літары няма.

[31] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 41.

## Бібліятэка Скарыны

У раскрыцці задумы партрэта важную ролю адыгрываюць шматлікія дэталі, рэчы, што паказаны навокал. Аналіз пераконвае, што тут няма ніводнага выпадковага відарыса — усе дэталі, што кампазіцыйна «падпарадкаваны» партрэтаванаму, узбагачаюць змест партрэта, пашыраюць выяўленчую характарыстыку вобраза Скарыны, раскрываюць яго інтарэсы ў галіне кнігадруку, медыцыны, астраноміі, мастацтва і навукі. Яны праліваюць пэўнае святло і на творчае асяроддзе асветніка, яго памочнікаў, мецэнатаў і г. д. Нават самі памеры дэталей і іх кампазіцыйнае размяшчэнне ў гравюры не выпадковыя, а строга прадуманыя: больш значныя сімвалы (герб Скарыны, кнігі і інш.) кампазіцыйна акцэнтаваны, вылучаны, падаюцца буйным планам, нібы набліжаны да гледача. Усе дэталі сведчаць, што перад намі руплівы працаўнік, адзін з лепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі эпохі Адраджэння, ён адлюстраван у момант напружанай інтэлектуальнай працы.

Атрыбуты партрэта можна падзяліць на дзве групы: рэальна-бытавыя і сімвалічныя. Да першых, што пераважаюць у выяве, мы адносім адлюстраванні кніг, армілярнай сферы, кашолак, пясочнага гадзінніка, клішэ або альдзінаў і падсвечніка; да другіх — відарыс вады ў збанах, пчалы, трыумфальнай аркі, дубовага лісця, герба Скарыны, сімвалаў-знакаў.

Сярод адлюстраваных на партрэце дэталей самае віднае месца займаюць кнігі, якія колькасна і па маштабу дамінуюць тут сярод іншых рэчаў. Перад намі — першае ў мастацтве Усходняй Еўропы адлюстраванне прыватнай бібліятэкі інтэлігента.

Кнігі гавораць пра Скарыну як пра вучонага, пісьменніка, асветніка-гуманіста. Прадстаўнікі studia humanitatis лічылі, што вылучацца сярод іншых дазваляе вучонасць, а яна немагчыма без кніг. Паводле Ларэнца Валы, «багацце кніг» — адна з пяці найважнейшых умоў для вучоных заняткаў, якія адрозніваюць мудрацоў ад прафанаў [32]. Вось чаму ў рэнесансавым мастацтве кніга — нязменны атрыбут вучоных людзей. Мы бачым кнігі ў творах Антанэла да Месіны, Віторэ Карпачча, Брамантэ, Беноцца Гацолі, Мікеланджэла, Рафаэля, Дзюрэра.

Як сведчаць факты, кнігу высока цаніў і беларускі асветнік, які меў дзве вышэйшыя вучоныя ступені. У прадмове да кнігі «Ісус Сірахаў», ён згадвае егіпецкага цара Пталамея Філадэльфа, заснавальніка знакамітай Александрыйскай бібліятэкі. Скарына называе колькасць кніг «книжницы царевой» — 40 тысяч— і падае сапраўдную пахвалу гэтаму славутаму кнігалюбу старажытнасці: «Таковый убо был милосник науки и мудрости, иже

---

[32] Баткин Л. М. Итальянские гуманисты. М., 1978. С. 33, 52 — 53.





болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах»[33].

У нейкай ступені можна рэканструяваць склад прыватнай бібліятэкі Скарыны. У ёй, натуральна, былі рукапісы, паводле якіх ствараўся адметны кірылаўскі шрыфт «Бібліі рускай» і якія паслужылі літаратурнай крыніцай яе перакладу. Многія друкаваныя выданні для ўласнай бібліятэкі Скарына набыў, відаць, яшчэ ў Італіі. Падуя ўваходзіла ў Венецыянскую рэспубліку, а ў Венецыі ў тыя часы дзейнічала «Новая Акадэмія» Альда Мануцыя (каля 1450—1515 гг.), які выдаў значную колькасць твораў антычных мысліцеляў, вучоных. Асобных з іх (Арыстоцеля, Салона, Лікурга, Нуму Пампілія) згадвае Скарына. Пра яго знаёмства з выданнямі славутага Альда сведчаць і вонкавы выгляд кніг Скарыны (віленскіх), іх фармат, якасць набору і г. д. Відаць, яшчэ ў Венецыі Скарына набыў надрука-

---

[33] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 22—23.

ваную там Чэшскую біблію (1506), якая служыла яму ў якасці асноўнага дапаможніка. Меў ён, бясспрэчна, і іншыя друкаваныя біблії на «вольгарэ».

Апрача кніг, надрукаваных у Венецыі, у бібліятэцы Скарыны, відаць, былі выданні другога еўрапейскага караля друкароў — Антона Кобергера (каля 1445—1513 гг.), перш за ўсё «Сусветная хроніка» (1493) нямецкага гуманіста Гартмана Шэдэля (ён, між іншым, таксама вучыўся ў Падуанскім універсітэце), якая пасля Бібліі Гутэнберга была найбольш славутым выданнем інкунабульнага перыяду еўрапейскага кнігадруку. Дошкі дзвюх гравюр з гэтай Хронікі асветнік выкарыстаў у «Малой падарожнай кніжцы»[34]. Быў, відаць, у бібліятэцы Скарыны і выдадзены Кобергерам «Апакаліпсіс» (1498) А. Дзюрэра: некаторыя дрэварыты пражскіх выданняў ствараліся паводле выдатных гравюр гэтага цыкла.

Меў Скарына і іншае знакамітае выданне па гравюры — «Вялікі прапісны алфавіт» нямецка-нідэрландскага гравёра Ізраэля Ван Макенема (каля 1450—1503 гг.). Лісты алфавіту Скарына, напэўна, прывёз з Прагі ў Вільню, выкарыстаўшы ў «Малой падарожнай кніжцы»[35]. Можна не сумнявацца, што ў бібліятэцы, якая часткова адлюстравана на гравюры, меліся і кнігі па медыцыне, астраноміі, батаніцы і г. д.

## Армілярная сфера

У правым верхнім кутку гравюры, над кнігамі паказана астранамічная прылада. Снегіроў назваў яе «глобусам», Шчакаціхін — sphaera mundi. На самай жа справе — гэта армілярная сфера адзін з найстаражытнейшых астранамічных інструментаў, якімі карысталіся ўжо ў III ст. да н. э. (найбольш ранняе ўпамінанне пра «глобус неба» звязаны з імем Арата з Калікіі (каля 315 — каля 240)). Ён быў вядомы М. Каперніку, Ц. Брагe і інш.

Вывучэнне медыцыны ў эпоху Адраджэння было цесна звязана з астраноміяй, якая ўяўляла сабой прыкладную галіну астралогіі, а складанне астралагічных прагнозаў уваходзіла ў мастацтва лячэння[36]. Такім чынам, на партрэце Скарыны армілярная сфера фігуруе як адзнака прафесіі «у лекарскіх навуках доктара». З другога боку, яна адлюстроўвае, відаць, і астранамічныя інтарэсы асветніка. Гэты інструмент ведалі Архімед, Пталамей і Цыцэрон (апошні даў яго апісанне), у часы Скарыны ён быў прыналежнасцю шмат якіх гуманістаў, адукаваных людзей увогуле. Мы бачым яго на карціне Карпачча «Святы Ера-

[34] Гл.: Шматов В. Ф. Гравюры «Малой подорожной книжицы» Ф. Скорины и их источники // Памятники культуры: Новые открытия. М., 1987.

[35] Киселев Н. П. Происхождение Московского старопечатного орнамента // Книга: Иследования и материалы. М., 1965. Сб. 11. С. 153.

[36] Голенченко Г. Я. Астрономические сведения в издании Франциска Скорины // Книговедение. Вильнюс. 1979. (7) 14. С. 55.



нім у келлі» (1502—1507). У Венецыі гравюру з выявай армілярнай сферы адзін з першых надрукаваў знакаміты Эрхард Ратдольт. У Хроніцы Шэдэля з армілярнай сферай у левай руцэ адлюстраван Рэгіямантан. На скульптуры сабора ў Ульмі (1469—1474) яе трымае Пталамей. У «Афінскай школе» Рафаэля (1509—1510) армілярную сферу трымае ў руках Зараастр (Заратустра). Дзюрэр выканаў выяву астралябіі (у тэхніцы дрэварыта) для падрыхтаванай Піркгеймерам «Геаграфіі» Пталамея, выдадзенай у Страсбургу[37]. Армілярная сфера, як і кнігі, сведчыла пра Скарыну як пра вучонага-гуманіста, аднаго з найбольш адукаваных людзей эпохі.

### Пясочны гадзіннік

Ён паказаны злева ад Скарыны — амаль на ўзроўні яго плячэй. Яго адлюстраванне мы таксама бачым у радзе мастацкіх твораў: на знакамітых медзярытах Дзюрэра «Рыцар і смерць» (1513), «Св. Еранім», «Меланхолія» (абедзве 1514 г.). Пясочны гадзіннік, такі ж, як і ў Скарыны, стаіць на стале перад італьянскім гуманістам у Бібліі Малермі (Венецыя, 90-я гады XV ст.).

На партрэце Скарыны гадзіннік свядома «набліжан» да партрэтаванага, знаходзіцца паміж ім і кнігамі. Ён нібы падкрэслівае парадак, рэжым працы Скарыны, яго арганізаванасць у рабоце. Перад намі прадмет, які належаў рабочаму кабінету доктара Скарыны. Разам з тым гадзіннік сімвалізуе час, у нечым перадае атмасферу напружанасці, у якой ажыццяўлялася гран-

---

[37] Матвиевская Г. П. Альбрехт Дюрер ученый. М., 1987. С. 184.

дыёзная задума Скарыны — перакласці Біблію, як мага хутчэй даць свайму народу кнігі на роднай мове.

### Альдзіны ці клішэ?

Справа ад гадзінніка, на паліцы з кнігамі адлюстраваны сярод кніг не заўважаныя раней даследчыкамі невядомыя рэчы. Іх чатыры, яны дадзены ва ўпакоўцы, перавязаныя. Гэта, відаць, вядомыя Скарыну альдзіны, якія ён, як адзначалася, набыў у Падуі або Венецыі. З другога боку відарыс нагадвае ксілаграфічныя клішэ. Наяўнасць іх сярод асабістых рэчаў Скарыны гаворыць аб тым, што яны былі ўласнасцю першадрукара, які не толькі цікавіўся ксілаграфіяй, але, магчыма, у пэўнай ступені валодаў ёю. Тагачаснае друкарскае майстэрства было індывідуальнай працай, неаддзельнай ад мастацтва. Невыпадкова большасць ранніх еўрапейскіх друкароў (П. Шэфер, Э. Ройвіх, М. Іенсон, Г. Цайнер, Э. Ратдольт, І. Фёдараў, П. Мсціславец, А. Радзішэўскі і інш.) былі мастакамі кнігі ў шырокім сэнсе, валодалі тэхнікай гравюры. На Захадзе ў часы Скарыны будучы друкар павінен быў прайсці адпаведную школу на становішчы падмайстра: у дачыненні да друкароў, якія не належалі да цэха рэзчыкаў па дрэве, нярэдка аспрэчвалася права змяшчаць у сваіх кнігах гравюры на дрэве [38].

### Пчала і вада

М. Шчакаціхін лічыў, што ў правым ніжнім кутку гравюры паказана муха. Аднак яшчэ Снегіроў пісаў, што гэта пчала — сімвал працавітасці. Мы далучаемся да гэтай думкі. У міфалагічных уяўленнях розных народаў сімволіка пчалы вельмі шматгранная. У раннехрысціянскім мастацтве катакомбаў яна выражае неўміручасць; у Старажытным Егіпце пчала — вобраз царскай магутнасці і мудрасці; з пчаліным вуллем у міфах некаторых народаў звязана ідэя ідэальнага грамадства, высокай арганізаванасці.

У старажытнагрэчаскай і рымскай традыцыі з пчалой нярэдка параўноўвалі сябе паэты. Мёд і мядовыя напіткі, нектар — ежа неўміручых багоў Алімпа: імі ўзгадаваны Дыяніс і Гермес. Дзікім мёдам харчаваўся ў пустыні Іаан Прадцеча. На гербе папы рымскага Урбана XIII — тры пчалы як сімвал велічы (назіранне У. Калесніка).

Разам з тым у міфах часам звязваюць пчалу і мёд са сферай смерці, народным звычаем «запрашаць» пчалу на пахаванне, драпіраваць вулей чорнай тканінай у час жалобы, ужываць мёд у час рытуальных частаванняў на могілках. З пчалой часам

---

[38] Кристеллер П. История европейской гравюры на дереве. XV—XVIII вв. М., 1939. С. 40—41.





звязваюць міфалагему паэта, які сыходзіць у царства мёртвых дзеля набыцця вышэйшай творчай сілы — новага жыцця, неўміручасці.

Ва ўсходніх славян з пчалой часцей за ўсё асацыіруецца рад станоўчых якасцей: працавітасць, мудрасць, беражлівасць, парадак. У беларусаў яна таксама сімвалізуе духоўную роднасць, «сябрыны» на глебе сумеснага карыстання пчаліным вулеем [39].

Такая ж шматгранная сімволіка вады, што на партрэце Скарыны паказана ў сімвалічных ёмістасцях — гладышах (злева, ля кніжкі на пюпітры). Вада — першапачатак, зыходны стан усяго існага — прымушае зямлю «нараджаць», сімвалізуе жыццё, пладавітасць, урадлівасць, яна эквівалент усіх жыццёвых «сокаў» чалавека, яго чысціні; гэта пачатак усіх рэчаў, пачатак жыцця [40].

### Кашолкі і свечка

Кашолкі размешчаны ў левым ніжнім кутку гравюры, свечка — у правым. Па меркаванню Р. Кручка, першыя прызначаліся для збору лекавых раслін. У іх маглі захоўвацца і розныя асабістыя рэчы Скарыны (медыцынскі інструмент, разцы для гравіравання і г. д.).

У ніжнім правым кутку гравюры — свечка з адбівальнікам

[39] Иванов В. В., Топоров В. Н. Пчела // Мифы народов мира. М., 1982. Т. 2. С. 354—356.
[40] Там жа. Т. 1. С. 240.

святла. Атрыбут сведчыць аб тым, што Скарына працаваў не толькі днём, але і па вечарах, ноччу. У той жа час свечка мае глыбока сімвалічны сэнс, гаворыць пра Скарыну як пра асветніка.

## Трыумфальная арка

Трыумфальная арка на партрэце Скарыны зліта з інтэр'ерам, некалькі штучна «ўпісана» ў яго. Добра прачытваецца антаблемент, архітэктурныя калоны чатырохвугольнай формы (левая ад гледача арнаментавана). Зверху арка ўвенчана дубовым лісцем — сімвалам трываласці, сілы.

Па сваёй ідэі трыумфальная арка, на фоне якой паказан Скарына, павінна ўзвялічваць адлюстраваную асобу, увянчаць яе славай. Ужо ў Кодэксе Равулы (586 г.) у архітэктурным абрамленні паказаны пісцы-евангелісты — арка ўслаўляла тут іх



інтэлектуальную працу. Пазней матыў трыумфальнай аркі (або нішы накшталт алтарнай абсіды, конхі) шырока ўжываўся ў мастацтве Заходняй Еўропы і Візантыі. Неаднойчы звярталіся да архітэктурнага фону і мініяцюрысты Беларусі (Шарашоўскае, Жыровіцкае евангеллі XV ст. і інш.). Але ідэя ўслаўлення чалавека з дапамогай архітэктуры была канчаткова ўсвядомлена толькі ў мастацтве Рэнесансу. Гэтым прыёмам карысталіся як гравёры, так і жывапісцы, скульптары (Бацічэлі, Рафаэль, Мікеланджэла, Данатэла і інш.). Скарыну, які вучыўся ў Італіі, уменне рэнесансавых мастакоў узвялічваць і ўслаўляць чалавека сродкамі архітэктуры было добра вядома. Арка на яго партрэце — сімвал трыумфу розуму, стваральнай працы чалавека.

## Сонца і месяц

На вузкім арнаментаваным абрусе, якім засланы рабочы столік Скарыны,— гратэскна «ачалавечаныя» сонца і месяц на геральдычным шчыце. Адлюстрваны яны выразна, кідка, дэкаратыўна. Відарыс, несумненна, мае непасрэдныя адносіны да асобы партрэтаванага. Ён паказан на пражскіх і віленскіх дрэварытах (апошняе гаворыць аб тым, што ўладальнік загадкавага сімвала пераехаў з Прагі ў Вільню). Сонца і месяц сустракаюцца ў выданнях Скарыны не менш як 30 разоў, прычым амаль кожны раз іх малюнак у нечым адметны, розніцца ад папярэдняга.

Пра выяўленчыя вытокі загадкавага вобраза-сімвала ўжо пісалася. Следам за П. Уладзіміравым і М. Шчакаціхіным Л. Баразна называе Хроніку Г. Шэдэля (мяркуюць, што тут сонца і месяц выканаў малады Дзюрэр), Евангелле (Страсбург, 1514) І. Грумберга, лацінскую Біблію 1514 г. Можна прыгадаць гравюры Дзюрэра з серыі «Апакаліпсіс» (1498) і мініяцюры Радзівілаўскага летапісу. Між іншым, у гэтым рукапісе сонца і месяц, як у Скарыны, злучаны разам (у згаданых нямецкіх выданнях яны дадзены асобна).

У беларускай, літоўскай і польскай геральдыцы аналагічная выява не сустракаецца. На думку знаўцы заходнееўрапейскай геральдыкі пражскага вучонага доктара Паула Покарнага, няма яе і ў чэшскай і нямецкай геральдыцы [41].

Арыгінальную гіпотэзу паходжання дадзенага сімвала прапанаваў М. Шчакаціхін у артыкуле «Калі нарадзіўся Скарына». Ён лічыў, што сонца і месяц трэба тлумачыць як «талісман аховы», абраны Скарынам у сувязі з тым, што ён нарадзіўся ў дзень сонечнага зацьмення ў Полацку. Незвычайнае супадзенне дня нараджэння першадрукара з зацьменнем магло зрабіць «надта моцнае і дрэннае ўражанне на бацькоў Скарыны, а пазней — і на яго самога і выклікаць патрабаванне прыняць тыя ці іншыя магічныя меры для забеспячэння ад дапушчальнай шкоднасці гэтага факта, адной з якіх, што ўпаўне згодна з характарам сярэдневяковай веры ў талісманы, магло быць нашэнне з сабой і ўжыванне адпаведнага знака» [42].

Згодна з думкай М. Шчакаціхіна, мера для «забеспячэння ад дапушчальнай шкоднасці» была прынята — у якасці «талісмана аховы» наш першадрукар абраў сабе відарыс сонца і месяца. Паколькі, паводле крыніц (у тым ліку летапісных), зацьменне адбылося ў Полацку 6 сакавіка 1486 г., гэту дату М. Шчакаціхін прапанаваў лічыць дакладнай датай нараджэння Скарыны.

На наш погляд, такая складаная гіпотэза занадта абсалютызуе сярэдневяковае светаўспрыманне Скарыны, яго веру ў «добрыя» і «благія» прыкметы. Да таго ж, няма ніякіх доказаў

---

[41] Ліст да аўтара ад 19 чэрвеня 1985 г.
[42] Полымя. 1925. № 5. С. 148—151.

сувязі паміж паходжаннем сімвала, зацьменнем у Полацку і днём нараджэння Скарыны.

Неаднаразова рабіліся і іншыя спробы растлумачыць, «прачытаць» выяву, якую называлі астралагічным знакам, талісманам, друкарскім сігнетам, экслібрысам, манаграмай, «ахоўнікам» аўтарскіх правоў Скарыны. Пры гэтым вылучаліся новыя, смелыя гіпотэзы, аўтары якіх давалі волю фантазіі і эрудыцыі. Звязвалі загадкавы знак і з днём нараджэння Аляксандра Македонскага, з творамі нюрнбергскага гуманіста Г. Шэдэля (праз «караля друкароў» Кобергера). Сутык на малюнку дня і ночы ўспрымалі як таямнічы чарадзейны матыў у кругазвароце стыхій, атрыбут кабалістыкі старажытнага Усходу, матыў беларускіх каляндарна-абрадавых песень, сімвал ідэі абнаўлення жыцця і г. д.

Аднак відарыс сонца і месяца адлюстраван на геральдычным шчыце, а гэта дазваляе меркаваць, што перад намі герб Скарыны. Некаторыя аўтары лічаць, што, паходзячы з купцоў, асветнік не мог мець уласнага герба. Тым часам ёсць нямала прыкладаў, калі людзі самых розных грамадскіх саслоўяў станавіліся ўладальнікамі фамільных гербаў. Успомнім І. Фёдарава: дзяк маскоўскай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім карыстаўся гербам Шранява. Мяркуюць, што ён быў прыпісаны да яго актам адаптацыі [43]. Гэты прыклад паказвае, што геральдычная экспертыза — рэч вельмі складаная, рабіць высновы аб сімвале Скарыны на падставе паходжання трэба вельмі асцярожна. У асветніка было нямала магчымасцей атрымаць герб, напрыклад шляхам набілітацыі. У некаторых краінах Еўропы, з якой Скарына звязан з юнацкіх гадоў, доктарская габілітацыя прыраўноўвалася да набілітацыі і дазваляла каралю ўвесці знатнага вучонага ў саслоўе нобіля [44].

Трэба адзначыць, што сэнс выявы сонца і месяца ў кнігах Скарыны вельмі шматзначны, у кожным асобным выпадку неаднолькавыя і яе функцыі. На партрэце герб — гарант аўтэнтычнасці вобраза, ён падкрэслівае «сапраўднасць» вобразатвора і сваю належнасць да адлюстраванай асобы (і асобы — да герба). Іншую ролю выконвае відарыс на іншых лістах Бібліі. Упершыню ён зменшчан на пачатковай старонцы пражскага першынца Скарыны Псалтыра (л. 5). Цікава, што тут ён хутчэй за ўсё надрукаван з асобнага клішэ (упісан у П-падобную застаўку). У Псалтыру тытульны аркуш яшчэ цалкам не вызначыўся, падзяляе функцыі з калафонам і з пачатковай пятай старонкай. Ствараецца ўражанне, што герб Скарыны ў дадзеным выпадку выконвае ролю друкарскага сігнета або, дакладней, выдавецкай маркі, у чым пераконвае і яго змяшчэнне на агульным

---

[43] Лукомский В. К. К вопросу о происхождении Ивана Федорова // Иван Федоров — первопечатник. М.; Л., 1935. С. 167—175.

[44] Калеснік У. Штрыхі да партрэта // Мастацтва Беларусі. 1987. № 1. С. 23.

тытуле Бібліі. У гэтай сувязі нагадаем, што першая ў Еўропе друкарская марка Фуста і Шэфера ў майніцкім Псалтыру 1457 г., таксама пададзеная на геральдычным шчыце, паходзіць з сямейнага герба [45].

Змяшчэнне герба Скарыны на ілюстрацыях лёгка растлумачыць. Калі ў 1508 г. саксонскі курфюрст Фрыдрых Мудры падараваў Лукасу Кранаху дваранства (выпадак для нашай тэмы паказальны), славуты мастак пачаў змяшчаць на сваіх гравюрах атрыманы герб [46]. Скарына ж загадаў рэзнікам награвіраваць свой герб на заказаных для Бібліі ілюстрацыях. Мы адмаўляемся бачыць у яго гербе зацьменне або атрыбут кабалістыкі старажытнага Усходу: радаснае сонца, якое ўзыходзіць над сумным месяцам, што апускаецца ўніз, «знікае», азначае асветніцкі дэвіз: «Свяціць заўсёды — удзень і ўночы, святло ведаў пераможа цемру». Сэнс і прызначэнне відарыса выдатна знітаваны з асветніцкім характарам кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны — першага славянскага дзеяча кнігі, які свядома паставіўся да яе як да зброі адукацыі, асветы, да сваёй дзейнасці як да вытворчасці матэрыялу для чытання, для ідэйнага ўзбагачэння чалавека (А. А. Сідараў).

## Знакі і

Амаль на ўзроўні галавы Скарыны адлюстраваны два львы, якія трымаюць геральдычныя шчыты. На левым (ад гледача) — знак , на правым — . Яны ўстаноўлены на архітэктурных калонах, якія М. Шчакаціхін памылкова зразумеў як спінкі крэсла. У капітэлі двух калон закампанаваны па тры шары. У. Калеснік мяркуе, што гэта сімвалы трох цнотаў: веры, надзеі і любві. Тым часам на гербе славутага фларэнційскага роду Медзічы, якія ў мінулым былі лекарамі (адсюль і іх прозвішча — Medici) [47], шары, павялічаныя круглыя пілюлі, з'яўляюцца сімваламі прафесіі іх продкаў. Хутчэй за ўсё іменна такі сэнс маюць шары і на партрэце Скарыны.

Такім чынам, знакі і на партрэце цесна звязаны з друкарскай дзейнасцю асветніка. На наш погляд, яны таксама маюць непасрэднае дачыненне да яго асобы або да дзеячаў, якія дапамагалі Скарыну ў выданні Бібліі. Першы знак нечым нагадвае медыцынскія шалі, другі — умоўную выяву друкарскага станка. Першадрукар-медык мог, вядома, абраць сабе такія сімвалы. Але абодва знакі, як сонца і месяц, дадзены на геральдычных шчытах, а гэта значыць, што перад

[45] Функе Ф. Книговедение. М., 1982. С. 57.
[46] Немилов А. И. Лукас Кранах старший. М., 1973. С. 10.
[47] Макьявели Н. История Флоренции. М., 1987. С. 418.

намі гербы або гмеркі. Знак у пражскіх выданнях фігуруе толькі аднойчы — на партрэце. Знак , як і відарыс сонца і месяца, упрыгожвае многія дрэварыты, на асобных падаецца разам з гербам. Буйным планам выяўлен на тытуле Бібліі, сустракаецца таксама на застаўках віленскіх кніг. І. Штрытэр бачыў у ім злучэнне вялікіх літар «Т» і «Б», П. Уладзіміраў — злучэнне літар «Д» і «Т» (доктар?), У. Стасаў — «Т», М. Шчакаціхін — «БО» (літарай «О» здаваўся яму асноўны трохкутнік знака).

Меркаванні Штрытэра і Шчакаціхіна лёгка развіць. Калі на геральдычным шчыце напісана літара «Б», то яе трэба чытаць «Бабіч», з домам якога звязана кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны ў Вільні. Не менш прывабная гіпотэза Шчакаціхіна, які бачыў у знаку літары «БО» — Багдан Онкаў, адна з самых значных фігур з акружэння Скарыны. Ён фінансаваў яго выдавецкую дзейнасць у Празе. Пра гэта сведчаць запісы ад рукі, якія, пачынаючы з Псалтыра (1517), зроблены на многіх пражскіх выданнях Скарыны: «А то ся стало накладом Богдана Онкава сына радци места Виленского». Аднак гіпотэза аб прыналежнасці знака той ці іншай асобе стане рэальнай толькі пасля таго, як удасца знайсці сапраўдныя гербы Якуба Бабіча і Багдана Онкава.

Паводле назірання М. Шчакаціхіна, беларускія магнаты Калантаі, род якіх звязан з Навагрудскім і Ваўкавыскім паветамі, валодалі гербам «Котвіца» (Якар), які нагадвае знак на Скарынавым партрэце. Розніца невялікая: вертыкальны штрых у гербе «Котвіца» ўзняты ўверх (выходзіць за межы трохкутніка). Вайсковыя баяры Сямён, Багдан, Федзька і Васька Калантаі вядомы з 1499 г. Спачатку былі праваслаўнымі. Найбольш яркая фігура сярод іх — каралеўскі дваранін Фёдар Іванавіч Калантаеў. У яго біяграфіі заслугоўвае ўвагі такі факт: у 1508 г. ён абвінавачваецца каралём Жыгімонтам I у тым, што быў галоўным зачыншчыкам бунту, арганізаванага М. Глінскім. Калі апошні знаходзіўся ў Беліцы (Навагрудчына), Ф. Калантаеў збіраўся да яго з уговорамі ратаваць свой край ад рымска-каталіцкай агрэсіі[48]. Эпізод малюе Калантаева як аднадумца М. Глінскага і абаронцу праваслаўя на Беларусі. Такі чалавек, вядома, мог садзейнічаць Скарыну ў выданні «Бібліі рускай». А. Цітоў надрукаваў пячатку Барыса Фёдаравіча Калантаева (1553). Знак на ёй у нечым захоўвае сваю форму, але асноўны вертыкальны штрых умоўнай літары «І» ў ім узняўся

---

[48] Boniecki A. Herbarz polski. Warszawa, 1907. T. 10. S. 336.

над гарызантальным штрыхом і ўпрыгожан зоркай[49]. Поўнасцю звязаць знак на партрэце Скарыны з родам Калантаеў (або іншых саўдзельнікаў Скарыны) можна, відавочна, толькі на падставе дадатковых звестак, у тым ліку дакументальных.

Нядаўна выказана меркаванне, што другі знак належыць роду Жабаў — магнатаў з Полаччыны[50]. Заслугоўвае ўвагі такі факт. На тытуле Скарынавай Бібліі, які змешчан у кнізе «Быццё» (1518), адлюстраваны тры геральдычныя шчыты: адзін зверху і два ўнізе — побач. На ніжніх змешчан герб Скарыны (злева) і знак , а верхні шчыт (ён мае такую ж форму, як два ніжнія) не мае відарыса, «белы». Хутчэй за ўсё на гэтым шчыце спачатку быў награвіраваны знак , які быў зрэзаны гравёрам перад друкаваннем кнігі «Быццё». Такія выпадкі вядомы. Напрыклад, на тытуле «Кнігі выкладаў» (Прага, Павел Севярын, 1522) на геральдычных шчытах, як і на партрэце Скарыны, змешчаны два гербы: Пржэмышленскага з Клужніц (герб «лодка» на шчыце) і братоў Вацлава і Гінека (герб «птушынае крыло» на шчыце). Абодва фінансавалі выданне «Кнігі выкладаў». У выпуску 1532 г. няма названых гербаў — фінансісты ўжо не ўдзельнічалі ў выданні. Нешта падобнае, відаць, мела месца і ў друкарскай практыцы Скарыны. Можна дапусціць, што асоба, якая валодала гербам (гмеркам) , фінансавала яго выдавецкую дзейнасць або была неяк звязана з ёю напачатку (прынамсі, да выхаду ў 1518 г. кнігі «Царствы», дзе апошні раз змешчан партрэт з гэтым знакам). У больш позніх выданнях уладальнік знака не ўдзельнічаў. Асоба з гербам , наадварот, супрацоўнічала са Скарынам у Празе і ў Вільні.

## Манаграміст МЗ (або МТЗ)

Мы падышлі да кардынальнага пытання Скарынавага партрэта: хто быў яго аўтарам? Адзін ці два розныя мастакі зрабілі кампазіцыю, вобраз, выканалі яе ў матэрыяле? Прымаў удзел у стварэнні партрэта сам Скарына або хто-небудзь з яго беларускіх памочнікаў?

Адказ на пытанні магла б даць манаграма, змешчаная ў левым (ад гледача) ніжнім кутку дрэварыта над кошыкамі. Большасць даследчыкаў лічылі, што яна складаецца з літар М і З. У. Стасаў выказваўся вельмі няпэўна: «выява азначае гравёра... відаць, мае прамыя адносіны да асобы Скарыны або ства-

---

[49] Цітоў А. Беларускія пячаткі // Мастацтва Беларусі. 1984. № 2, С. 34.
[50] Гячаўскас Э. Франциск Скорина — секретарь вильнюсского епископа Иоанна из князей литовских // Федоровские чтения — 1982. М., 1987. С. 63.

ральніка кампазіцый (г. зн. малявальшчыка гравюр Скарыны)»[51]. Больш катэгарычна сфармуляваў адносіны да манаграмы Равінскі, на думку якога яна належыць знакамітаму нямецкаму майстру Цагелю або Цазінгеру[52]. Асобныя даследчыкі безагаворачна прынялі гэта меркаванне. Так, У. Адарукаў без усялякіх агаворак сцвярджае, што партрэт Скарыны выканаў Цагель[53]. Аднак беспадстаўнасць такога сцвярджэння паказаў яшчэ Шчакаціхін, які слушна заўважыў, што «імёны, адзначаныя Равінскім, узяты, як відаць, чыста выпадкова»[54].

У дастаткова поўных ці нават капітальных мастацтвазнаўчых даведніках (працы Г. Наглера, І. Хрыстэна, Е. Бенезіта, І. Пасавана, Ціма-Бэкера, Мура, М. Брыана, А. Барча, А. Андэрсена, Ф. Ліпоўскага і інш.) даследчыкі з манаграмай МЗ звязваюць двух або трох нямецкіх гравёраў: Цагеля, Цынка (або Цюндта) і Цазінгера[55]. Пра іх сувязі са Скарынам (або хоць бы з Прагай) ніякіх звестак няма, згаданыя гравёры былі ў асноўным майстрамі медзярыту або ювелірамі і працавалі ў Германіі (Нюрнбергу, Мюнхене і інш.). Гатычная манера іх твораў цалкам адносіцца да XV ст. і з партрэтам Скарыны не мае нічога агульнага.

Сярод майстроў медзярыту, якія падпісвалі свае творы літарамі M і Z, заслугоўвае ўвагі Мацей Цынк (Matthäns Zink), які жыў прыблізна ў 1498—1572 гг. У даведніку Ціма-Бэкера ёсць звесткі, што ў 1559 г. ён, магчыма, працаваў у Празе. Гэты майстар, між іншым, выканаў медзярыт з выявай прыёму каралём Жыгімонтам Аўгустам у 1567 г. іншаземных паслоў у Гродне (па малюнку Адэльгаўзера, зробленым, мяркуюць, з натуры, г. зн. у Гродне). Аднак Мацей Цынк (або Цюндт) таксама вядомы выключна як майстар медзярыту[56].

І. Пасаван называе двух гравёраў, якія падпісваліся літарамі M i З: «старэйшага» і «малодшага». Старэйшы жыў у Нюрнбергу, стварыў серыю гравюр «ars moriendi». Маладзейшы працаваў у Мюнхене, вядомы толькі дзве яго гравюры, якія датуюцца 1500—1501 гг. («Баль» і «Турнір»)[57]. Гэтага майстра ведалі таксама Мур і Наглер. Першы называў яго Мацеем Цазінгерам, другі — Мацеем Цвінкопфам. На думку Мура, Мацея

---

51 Стасов В. В. Собр. соч. Т. 2. Спб., 1899. С. 164.

52 Ровинский Д. А. Подробный словарь русских гравированных потретов. Т. 3. Спб., 1888. Сл. 1923.

53 Адорюков В. Я. Портреты издателей и художников в русской книге // Книга в России. Ч. 2. М., 1925. С. 481—520.

54 Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы... С. 196.

55 Christen J. F. Anzeige und Auslegung der Monogrammum. Leipzig, 1747; Andersen A. Handbuch für Kupferstichsammler oder Lexicon der Kupferstecher. Maler-Radierer und Formschneider aller Länder und Schulen. Leipzig, 1873; Nagler G. K. Die Monogrammisten. München, 1864. Band 4; Nagler G. K. Neues allgemeines Künstler-Lexicon. München, 1852. Band 22.

56 Thieme U., Becker F. Allgemeines Lexicon der bilderden Künstler von der Antike bis zur Gegenwart. Leipzig, 1947.

57 Passovant I. L. De peintre-graveur. Leipzig, 1860. T. 1.

Цазінгера трэба адрозніваць ад Мацея Цынка, які таксама карыстаўся манаграмай з літар М і З [58]. Познегатычны стыль медзярытаў гэтага майстра далёкі ад графічнага почырку, якім выканан партрэт Скарыны.

Іншыя даследчыкі (А. Андэрсен, А. Барч, Е. Бенезіт, Ф. Ліпоўскі, Ф. Мюлер і інш.) з манаграмай МЗ таксама звязвалі Цагеля, Цазінгера, радзей Цынка (Цюндта) [59]. Аднак уся гэта блытаніна імён не высвятляе пытання пра манаграміста, які пазначыў выяву Скарыны, бо манаграма на яго партрэце прыкметна адрозніваецца ад манаграм, якімі карысталіся ўсе згаданыя гравёры. Сёння, пасля грунтоўных даследаванняў А. Ленца і М. Мойзера, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што згаданыя нямецкія майстры да партрэта Скарыны не маюць ніякага дачынення і што ў гісторыі еўрапейскай гравюры манаграмы з такім, як у Скарыны, малюнкам літар МЗ не існуе [60]. На працах Цазінгера, Цагеля, Цынка (Цюндта) гэтыя літары не злучаны, а стаяць асобна; у Скарыны ж, наадварот, літары на манаграме звязаны ў адзін выяўленчы вузел.

Новае прачытанне манаграмы прапанаваў Л. Баразна. Ён лічыў, што «М» трэба чытаць «маляванне», а «З» — пачатковая літара слова «здзелаць». Манаграма МЗ змешчана непадалёку ад подпісу «Доктор Франциско Скорина», таму ўсё разам трэба чытаць або як «Малеванне зделал доктор Франциско Скорина», або як «Малевання зиждитель доктор Францыско Скорина» [61].

Пры ўсёй зманлівасці гіпотэза Баразны малапераканаўчая: літары «МЗ» і пласцінка з прозвішчам першадрукара хоць і сапраўды змешчаны непадалёку, але кампазіцыйна і выяўленча паміж сабой ніяк не звязаны. Яны, па-першае, выразна раздзелены кошыкам; па-другое, малюнак подпісаў у абодвух выпадках зусім розны: вензель МЗ напісан загаловачным шрыфтам, а прозвішча і вучоная ступень беларускага першадрукара — славянскай вяззю. Да таго ж слова «зиждитель» у кнігах Скарыны не сустракаецца.

Само прачытанне звязанай у вузел манаграмы ўяўляе пэўную складанасць. Добра чытаецца літара «М», якая як бы дамінуе ў манаграме. Яе перасякае літара «З», што таксама вылучаецца

---

[58] Murr C. Description de la ville de Nuremberg // Journal für Kunstgeschrichte. 1775.

[59] Andersen A. Handbuch für Kupferstichsammler oder Lexicon der Kupferstecher. Maler-Radierer und Formschneider aller Länder und Schulen. Leipzig, 1873. S. 761; Bartsch A. Le Peintre-graveur. Vienna, 1803—1821. T. 6. P. 1371; T. 9. P. 527; Bénézit E. Dictionnaire critique et documentaire des peintres, sculpteurs, dessinateurs et graveurs de tous les temps et de tous les pays. Paris, 1955. T. 3. P. 1077; Lipowsky F. J. Baierisches Künstler-Lexicon. München, 1810. B. 2. S. 184; Müller F. Die Künstler aller Zeiten und Völker. Stuttgart, 1864. B. 4. S. 912.

[60] Lenz A. Der Meister MZ, ein Münchener Kupferstecher der früher Dürerzeit. Inaugural-Dissertation. Gießen, 1972; Mojzer M. Um Meister MZ // Acta Historiae Artium. Budapest, 1975. T. 21. F. 3—4; 1981. T. 27. F. 3—4.

[61] Гравюры Францыска Скарыны: каментарыі.

даволі выразна. Але якраз гэта «З» і яго злучэнне з «М» ускладняюць прачытанне манаграмы ў цэлым, бо верхняе, строга гарызантальнае адгалінаванне літары «З» з абодвух бакоў абмежавана рысачкамі, а пасярэдзіне мае адгалінаванне ў выглядзе маленькага кружочка, што дазваляе убачыць новую літару — «Т». У такім выпадку ўсю манаграму можна чытаць як «МТЗ». Новае прачытанне манаграмы цалкам абвяргае ўсе ранейшыя гіпотэзы пра нямецкіх гравёраў і адкрывае шляхі для новых пошукаў.

На думку Шчакаціхіна, праўдападобна было б дапусціць, што партрэт Скарыны выканаў манаграміст, імя якога пакуль што невядома, але які каля 1517 г. працаваў у Празе і хутчэй за ўсё належаў да ліку чэшскіх гравёраў. Аднак факты сведчаць, што да прыезду Скарыны ў Прагу асновы чэшскай гравёрнай школы яшчэ толькі закладваліся. «Адметнай рысай чэшскага друкарства (ранняга перыяду.—*В. Ш.*) з'яўляецца даволі высокі ўзровень афармлення і параўнальна слабыя ілюстрацыі і ўпрыгожванні. Недахоп вопытных мастакоў і малявальшчыкаў у Чэхіі тлумачыцца, відаць, вынікам рэлігійнай рэфармацыі з яе пурытанскімі імкненнямі»,— піша гісторык чэшскай кнігі і яе аздобы Ф. Горак [62]. На наш погляд, партрэт Скарыны (як і іншыя ілюстрацыі) мог быць выкананы яшчэ да прыезду асветніка ў Прагу.

Ніяк нельга пакідаць па-за ўвагай той факт, што партрэт Скарыны ўнізе падпісан кірыліцкай вяззю. Кірыліцкімі літарамі зверху дадзена і дата яго стварэння — 1517 г. Гэта дазваляе меркаваць, што манаграма МТЗ таксама напісана кірыліцай і што яе ўладальнікам быў выхаваны на заходнееўрапейскіх традыцыях невядомы майстар з асяроддзя Скарыны, які выдатна ведаў кірыліцкі алфавіт. Манаграма належыць не рысавальшчыку, а рэзчыку (у XV—XVI стст. у Еўропе досыць часта існаваў падзел на малявальшчыка дрэварыта, стваральніка кампазіцыі, вобразаў, і гравёра, які выконваў задуму мастака ў матэрыяле — г. зн. рабіў гравюрнае клішэ), таму што на адбітку партрэта Скарыны з кнігі «Царствы» манаграма ліквідавана з клішэ. Калі б яна належала малявальшчыку, стваральніку кампазіцыі партрэта, гравёр манаграму не зразаў бы — на гэта ён проста не меў бы ніякага права.

Прывабнае меркаванне асобных даследчыкаў аб тым, што малявальшчыкам партрэта быў сам Скарына, не падмацавана ніякімі доказамі. Але і ў гэтым выпадку нельга закрэсліць яго ўдзел у стварэнні партрэта, бо, бясспрэчна, толькі самому асветніку належала ідэя стварэння гэтага адмысловага твора і змяшчэння яго ў Бібліі, толькі асабіста ён сам мог падказаць мастаку агульную кампазіцыю, дэталі, сімвалы, атрыбуты.

Такім чынам, гравюрны партрэт нарадзіўся як вынік садруж-

---

[62] Hořák F. Pět stoleti českěho knihtisku. Praha, 1968. S. 50.

насці Скарыны і невядомага манаграміста. У гэтым творчым супрацоўніцтве асветніку як ініцыятару належала вядучая роля — невыпадкова партрэт з гонарам падпісан — «Доктар Францыск Скарына».

## Копія А. Фларова

Як адзначалася вышэй, да сённяшняга дня многія аўтары за арыгінальны партрэт Скарыны прымаюць копіі з яго, зробленыя яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўклееныя ў асобныя біблейскія кнігі. Першую копію па заказу І. Царскага ў 30-я гады XIX ст. зрабіў рускі гравёр А. А. Фraroў[63]. Упершыню яна была змешчана ў згаданай вышэй працы Снегірова, пазней яе надрукавалі П. М. Строеў, Д. Равінскі, Л. Баразна і многія іншыя.

Копія Фларова выканана ў тэхніцы медзярыту. У зборы кніг Скарыны з Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград) яна змешчана ў канцы выдадзенай Скарынам біблейскай кнігі «Другі закон» (непранумараваны аркуш). Памер копіі — 158×104 мм.

У вобразна-псіхалагічнай характарыстыцы яна моцна саступае арыгіналу. Асабліва не ўдаўся Фларову твар Скарыны. На арыгінале асветнік паказан задуменным, глыбока чалавечным, адухоўленым; у копіі, наадварот, адлюстраван круглы, даволі бяздумны, тоўсты твар, у вачах павялічаны светлыя блікі, што надае выразу вачэй нейкую агрэсіўнасць. У арыгінале ў губах Скарыны ёсць намёк на ўсмешку; прынамсі, губы выражаюць дабрыню, а выраз твару — добразычлівасць; празмерна поўныя губы ў копіі Фларова не перадаюць нічога, акрамя не ўласцівых арыгінальнаму партрэту пыхі, самазадаволенасці. Характэрнае для арыгінальнага партрэта Скарыны натхнёнае майстэрства ў пасрэднай копіі Фларова падменена акадэмічна дакладным, але халодным і досыць рацыяналістычным рамяством. У левым ніжнім кутку копіі маленькімі літарамі падпісана: «Гр. Ал. Фл.» (гравіраваў Аляксей Фraroў).

## Копія «Сахарава»

У 1891 г. у кнізе І. П. Сахарава «Узоры славяна-рускага кнігадрукавання з 1491 года» (Спб., 1891) была змешчана новая копія партрэта Францыска Скарыны. У зборы кніг беларуска-

[63] Вучыўся гравіраванню ў Акадэміі мастацтваў у Клаўберга. У 1805 г. атрымаў залаты і сярэбраны медалі, пасля заканчэння Акадэміі (1806) працаваў малявальшчыкам і гравёрам у Музеі Маскоўскага універсітэта. Вельмі дорага цаніў свае працы, за адзін з антымінсаў прасіў 1500 руб. Прэтэндаваў на званне акадэміка, але атрымаў адмову (Ровинский Д. А. Подробный словарь... С. 707—715; Голлербах Э. История гравюры и литографии в России. М.; Пг., 1923. С. 162—164). У спісе твораў Фларова партрэт Скарыны значыцца пад № 36.

га першадрукара з той жа бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына яна фігуруе ў кнізе Скарыны «Быццё» (шыфр 1.5.4 а). На нашу думку, гэта копія рабілася не з арыгінала, а з медзярыту А. Фларова, прычым выканана яна хутчэй за ўсё ў тэхніцы літаграфіі (з прычыны факсімільнасці копій, што старанна «грыміруецца» пад ксілаграфію, тэхніку іх выканання вызначыць нялёгка). Памер «копіі Сахарава» 158×104 мм (іменна яе Шчакаціхін прыняў за арыгінал). Па мастацкіх якасцях гэта копія горшая, чым падробка Фларова: у характарыстыцы твару Скарыны тут няма нават і ценю ад той адухоўленасці і чалавечага настрою, што ўласцівы арыгіналу: вочы партрэтаванага гіпербалічна выпучаны, твар тлусты, бяздумны, пазбаўлены жыцця. Усе дэталі, якія ў арыгінале натуральна і арганічна ўваходзяць у кампазіцыю, у «копіі Сахарава» механічна «пералічаны», існуюць самі па сабе. Адзначым яшчэ дзве адметныя рысы гэтай няўдалай падробкі пад арыгінал: у левым ніжнім кутку на ёй няма манаграмы «Гр. Ал. Фл.»; на манаграме гравёра (МЗ або МТЗ) няма мікраскапічнага кружочка пасярэдзіне гарызантальнага штрыха літары «З», што перасякае вертыкальныя, крыху нахіленыя штрыхі літары «М».

Трэцяя копія з партрэта Скарыны, якую таксама часам прымаюць за арыгінал, зроблена ў канцы 50—пачатку 60-х гадоў нашага стагоддзя у тэхніцы малюнка (дакладней, перамалёўкі) тушшу, пяром, памер 150×100 мм. Яна даволі старанна выконвалася (відаць, праз кальку) з рэпрадукцыі сапраўднага партрэта Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў», але з'яўляецца ўсяго толькі бледнай, творча бездапаможнай падробкай пад арыгінал. У манаграме гравёра копій у літары «З» (на яе гарызантальным штрыху) замест згаданага вышэй мікраскапічнага кружочка намаляван паўкруг.

## Графічны партрэт пасля Скарыны

Застаецца закрануць пытанне пра ўплыў партрэта Скарыны на далейшае развіццё партрэтнага мастацтва ў беларускай (і наогул усходнеславянскай) кніжнай графіцы. Уплыў гэты не быў асабліва значным. Пасля спынення кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны ў развіцці беларускага друкарства кніжнай гравюры ўтварыўся амаль 50-гадовы перапынак. У ранніх пасляскарынаўскіх выданнях (Брэсцкай біблii, 1563 г. і інш.) партрэты не сустракаюцца. Адсутнічаюць яны і ў першым кірылічным пасляскарынаўскім выданні на Беларусі — нясвіжскім Катэхізісе (1562) С. Буднага; адзіным дрэварытам у ім з'яўляецца застаўка на тытуле.

У 1919 г. беларускі бібліёграф Р. Зямкевіч у часопісе «Беларускае жыццё» (№ 5) упершыню надрукаваў партрэт В. Цяпінскага, які быў знойдзены ім у экземпляры згаданай Брэсцкай

біблії з бібліятэкі К. Святаполк-Завадскага ў Крошыне. Месцазнаходжанне арыгінала невядома, аб мастацкіх якасцях партрэта (несумненна, рэнесансавага) пэўнае ўяўленне дае копія алоўкам, якую зрабіў Р. Зямкевіч[64]. Загадкавы твор датаван 1576 годам і ўнізе падпісан па-беларуску: «Васіль Цяпінскі», прычым графіка шрыфту тая ж, што і ў Евангеллі В. Цяпінскага,— скарынаўская. Незалежна ад таго, кніжны гэта партрэт ці станковы, перад намі адзін з нямногіх прыкладаў адлюстравання ў гравюры асветніка, працягу скарынаўскіх традыцый. Адзначым таксама гравюрны партрэт Сігізмунда III у Статуце Вялікага княства Літоўскага (Вільня, 1588, друкарня Мамонічаў).

У пазнейшых кірыліцкіх выданнях (не толькі на Беларусі, але і ў Расіі, на Украіне) партрэты амаль не сустракаюцца. Нават выявы мецэнатаў — рэдкая з'ява (патрэт К. Радзівіла работы Л. Тарасевіча ў Служэбніку. Вільня—Супрасль, 1692—1695). Праўда, досыць часта ў іх змяшчаліся партрэты ўмоўных «святых пісьменнікаў» — евангелістаў Марка, Мацвея, Лукі, Іаана. Самы ранні прыклад дае віленскае Евангелле (1575) П. Мсціслаўца. Ён жа аздобіў Псалтыр (1576) выявай легендарнага цара Давыда ў выглядзе цара і пісца Іерусалімскага (больш ранні пішучы Давыд змешчан у заблудаўскім Псалтыры 1570 г.).

Пазней евангелісты або Давыд сустракаюцца ў многіх беларускіх кірылічных выданнях: Псаломніцы 1595 г., Новым запавеце з Псалтыром 1596 г., двух Евангеллях 1600 г. і інш. Апрача таго, у кірылічных выданнях даваліся і партрэты царкоўных пісьменнікаў, кананізаваных аўтараў: св. Каліста (Евангелле. Еўе, 1616), Васіля Вялікага (Часаслоў, 1617; «Вертаград душэўны», 1620), Іаана Златавуста, Грыгорыя Дваяслова (Служэбнік. Вільня, 1624), Іаана Дамаскіна (Асмагласнік. Куцейна, 1646). Некаторыя з гэтых прац вылучаюцца пэўнымі псіхалагічнымі характарыстыкамі і майстэрствам гравіроўкі. І ўсё ж як творы партрэтнага ўмельства яны не дасягаюць мастацкага ўзроўню прасякнутага духам Рэнесансу партрэта Скарыны (дарэчы, як і іншых ілюстрацый асветніка). Партрэт Скарыны застаўся нейкім зусім асобным вобразатворам, які рэзка выпадае з «экспазіцыі» ілюстрацый кніг, што ў XVI—XVIII стст. выйшлі з друкарань Вільні, Еўя, Заблудава, Супрасля, Куцейна, Магілёва і іншых беларускіх гарадоў і мястэчак.

Гэта, аднак, адносіцца толькі да кірылічных старадрукаў. У польска-лацінскіх выданнях, удзельная вага якіх у беларускім друкарстве была вельмі значнай, графічны партрэт часам дасягае (больш у XVII ст.) вельмі значнага ўзроўню (асабліва ў творчасці А. і Л. Тарасевічаў). Некалькі выдатных партрэтных гравюр зрабілі замежныя гравёры Г. Гётке, Л. Вілатц і інш.,

---

[64] Галенчанка Г. Я. Партрэты першадрукароў. С. 28.

якія працавалі на Беларусі і ў Літве. У XVIII ст. манументальны цыкл партрэтаў (больш як 160 выканалі нясвіжскія гравёры (Г. Ляйбовіч і інш.). Гэты цыкл — унікальная з'ява ў графіцы Усходняй Еўропы.

Такім чынам, заснаванае Скарынам гравюрнае партрэтнае мастацтва працягвала на Беларусі жыць і развівацца. Стылістычна і па зместу гэта былі якасна новыя творы. Незвычайнае майстэрства выканаўцаў партрэта Скарыны з яго Бібліі засталося шмат у чым недасягальнай вяршыняй, якая адзінока стаіць паміж помнікамі графічнага мастацтва, створанымі пазнейшымі мастацкімі школамі.



Рудъ прабаба царя Дв҃два побираѥ класы за жнци :~



Починаѥтъсѧ книга ѡ̈ Рꙋде ѥже была баба Їѡ̈сеѡ̈ва ѿца царя Давыдова • З неяже изыдоша вси цари Їюдины • З ꙋполне вы ложена доктором Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька :~



*Я. Д. ІСАЕВІЧ (Львоў)*

## РЫГОР ХАДКЕВІЧ ЯК ВЫДАВЕЦ І АЎТАР ПРАДМОЎ

У гісторыі пачатковага перыяду беларускага кнігадрукавання адно з выдатных месц займае выдавецкая дзейнасць «найвышэйшага» гетмана Вялікага княства Літоўскага Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча.

Дзве кнігі, выдадзеныя ў заснаванай ім Заблудаўскай друкарні («Евангелле вучыцельнае», 1569, Псалтыр з Часасловам, 1570), мелі істотны ўплыў на далейшае развіццё кніжнай справы [1]. Таму натуральна, што яго асобе ўдзяляецца належная ўвага ў працах пра дзейнасць І. Фёдарава ў Беларусі [2]. У той жа час даследаванне ўкладу ў літаратуру самога Хадкевіча яшчэ толькі пачынаецца.

Р. Хадкевіч быў адным з самых уплывовых магнатаў Беларусі. У 1544—1559 гг. ён займаў пасаду падкаморыя Вялікага княства Літоўскага, з 1554 г.— віцебскага, а з 1555 г.— кіеўскага ваяводы, з 1559 г.— кашталяна трокскага, з 1561 г.— гетмана польнага літоўскага, з 1564 г.— віленскага кашталяна, нарэшце, з 1566 г.— вялікага (або, як ён сам пісаў, «найвышэйшага») гетмана літоўскага. Апрача гэтага, Р. Хадкевіч валодаў радам старостваў — магілёўскім, гродзенскім, ковенскім і інш. Яго палітычная дзейнасць была супярэчлівай [3] і патрабуе ўважлівага даследавання. У той жа час уклад гетмана ў развіццё культуры заслугоўвае станоўчай ацэнкі.

Не ставячы перад сабой мэту ўсебакова ахарактарызаваць выдавецкую дзейнасць Р. Хадкевіча, спынімся на пытаннях, якія параўнальна слаба асветлены ў сучаснай навуковай літаратуры: пра склад дзвюх выдадзеных ім кніг, а таксама пра аўтарства і асноўныя рысы зместу прадмоў да гэтых кніг.

Спачатку трэба падкрэсліць, што цікавасць Р. Хадкевіча да пісьменства і кнігадрукавання не была выпадковай. Ён з'яўляў-

---

[1] Апісанне гэтых выданняў і бібліяграфію літаратуры пра іх гл.: Кніга Беларусі. 1517—1917. Зводны каталог. Мн., 1986. С. 57—59.

[2] Немiроўскі Я. Л. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 137—154; Немировский Е. Л. Иван Федоров в Белоруссии. М., 1959; Коршунов А. Ф. Иван Федоров и белорусское книгопечатание // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984. С. 62—69.

[3] Немировский Е. Л. Иван Федоров. М., 1985. С. 123—128.

ся адным з тых, што яшчэ ў 1561 г. паслалі Ісайю Камянчаніна ў Маскву, каб раздабыць там рад кніг, сярод іх — Біблію для надрукавання [4].

У прадмове да «Евангелля вучыцельнага» прама сказана, што Р. Хадкевіч — ініцыятар выдання гэтай кнігі і што сам ён даручыў Івану Фёдараву і Пятру Мсціслаўцу заснаваць друкарню ў Заблудаве, родавым маёнтку Хадкевічаў. Магчыма, Фёдараў і Мсціславец яшчэ да ад'езду з Масквы дамовіліся пра супрацоўніцтва з Хадкевічам. Пасрэднікам мог быць брат Рыгора Хадкевіча Юрый, які з 30 мая да 22 ліпеня 1566 г. знаходзіўся ў Маскве [5]. Мяркуем, што сам Р. Хадкевіч прадставіў друкароў каралю і вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту і «панам-радзе яго», каб такім чынам засцерагчы сваю друкарню ад магчымых палітычных абвінавачванняў. У працах, прысвечаных гэтаму перыяду жыцця Фёдарава, адзначаецца, што паны-рада маглі прыняць абодвух друкароў на адным з сеймаў, якія адбываліся ў Вільні або Гародні, прычым Б. Сапуноў даказвае неверагоднасць паездкі ў «далёкую Гародню (75 км ад Брэста)» [6]. У сапраўднасці ж месцам сеймаў у снежні 1566 — студзені 1567 і ў жніўні 1567 гг. была не Гародня каля Брэста, а г. Гродна [7] (яго першапачатковая беларуская назва Гародня). Тым часам паны-рада засядала і ў прамежках паміж сеймамі найчасцей у Вільні [8]. Цалкам верагодна, што іменна ў самой сталіцы княства Р. Хадкевіч прадставіў друкароў панам-радзе княства [9].

Хадкевічам належалі два мястэчкі на Падляшшы—Супрасль і Заблудаў, недалёка ад Беластока (да сярэдзіны XVIII ст. Заблудаў называўся сялом). Жадаючы стварыць асветніцка-культурны цэнтр, Р. Хадкевіч абраў месцам для яго не Супрасль з яго ўплывовым манастыром, а нядаўна заснаваны Заблудаў. Гэта можа сведчыць пра імкненне здзейсніць выдавецкую праграму незалежна ад супрасльскіх манахаў, што не выключае верагоднасць іх далучэння да супольнай працы. Граматай, выдадзенай у 1567 г. (раней яе датавалі 1563 г.; удакладненне даты абгрунтаваў І. З. Мыцко [10]), Хадкевіч надаў матэрыяльнае забеспячэнне царкве, шпіталю, касцёлу і пры ім «майстру» (настаўніку). Хаця ён быў перакананым абаронцам праваслаўя, аднак не мог сабе дазволіць даваць сродкі толькі для права-

---

[4] Абрамович Д. И. К литературной деятельности мниха Камянчанина Исаии. Спб., 1913.

[5] Сапунов Б. В. К вопросу о прекращении деятельности первых типографий в Москве // ТОДРЛ. 1956. Т. 12. С. 436—437.

[6] ТОДРЛ. С. 436.

[7] Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Томск, 1912. Ч. 2, вып. 2. С. 488.

[8] Там жа. С. 102.

[9] Гл.: Голенченко Г. Я. Русские первопечатники и Симон Будный // Книга: Исследования и материалы. М., 1965. Сб. 10. С. 149.

[10] Мыцко И. З. К вопросу о пребывании Ивана Федорова в Белоруссии // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. С. 74.

слаўных і быў абавязаны выдзяляць значныя асігнаванні таксама для католікаў. Адчуваецца, што сродкі для апошніх былі выдзелены іменна для таго, каб не было абвінавачванняў у клопатах пра адных праваслаўных. У грамаце гаворыцца пра надзяленне зямлёй і дзесяцінамі новай царквы, «до которое... обрали... священьником на имя Остафеа Григоревича и диякона на имя Ивана, брата его»[11]. Цалкам верагодна, дзяк Іван — гэта Іван Фёдараў. Само прызначэнне дзякам у заблудаўскую царкву можна растлумачыць жаданнем даць яму сродкі існавання на час работы ў новазаснаваным выдавецка-друкарскім цэнтры[12]. З гэтай мэтай Хадкевіч аддаў Фёдараву ў карыстанне (арэнду) частку сяла Мізякаў (Віннічына)[13].

Як вядома, у Заблудаўскай друкарні Р. Хадкевіча Фёдараў і Мсціславец з ліпеня 1568 г. да сакавіка 1569 г. друкавалі «Евангелле вучыцельнае», а з верасня 1569 г. да сакавіка 1570 г. Іван Фёдараў там жа быў заняты сваёй першай самастойнай друкарскай працай — выданнем Псалтыра з Часасловам. Даследчыкі нярэдка дапускалі думку, што ў Заблудаўскай друкарні працавалі пратапоп Нестар Казменіч, юнак з Заблудава Грынь Іванавіч, а таксама Васіль Гарабурда, які пасля стаў самастойным выдаўцом. Апошняе дапушчэнне пацвердзілася дакументальна; у гродскіх уладзімірскіх кнігах выяўлен дакумент, дзе ў апісанні падзеі, што адбылася 26 сакавіка 1570 г., Васіль Гарабурда назван «слугою друкарні» Хадкевіча[14].

Першая кніга, якую надрукавалі Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец на беларускай зямлі, з'явілася значным крокам у набліжэнні кнігадрукавання да свецкай тэматыкі. Назва «Евангеліе учительное», указаная на тытульным лісце, не зусім правільна перадае сутнасць гэтага помніка. Больш правільная яго назва ў шматлікіх рукапісах — «Поученія избранна...» Гэта твор візантыйскай аратарска-павучальнай прозы рэлігійна-маралізатарскага напрамку, але гэта не кананічны твор, а праца зусім рэальнага, зямнога аўтара.

Праўда, у сувязі з супярэчнасцямі ў рукапісах пошукі канкрэтнага аўтара цягнуліся доўга. Грэчаскі арыгінал твора, царкоўнаславянскі пераклад якога выдадзен у Заблудаве,— гэта так званы Канстанцінопальскі патрыяршы гаміліяр (Гаміліярый II). У розных грэчаскіх рукапісах яго ўкладальнікамі называюцца розныя патрыярхі: Іаан IX Агапіт (1111—1134), Гер-

---

[11] Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. С. 75. На думку І. З. Мыцко, Астафій Грыгоравіч мог быць дваюрадным братам Фёдарава. Да родных братоў, як правіла, ужывалася словазлучэнне «брат рожоный».

[12] Там жа. С. 74.

[13] Мацюк О. Я. Невідомий документ про перебування Івана Федорова на Вінничинні // Тези доповідей 4-ї Вінницької обласної історико-краєзнавчої конференції. Вінниця, 1986. С. 54—55.

[14] Полегайлов О. Нове архівне джерело до біографії першодрукаря В. М. Гарабурди // Архіви України. 1984. № 4. С. 59—60.

ман II (1222—1240), Іаан XIII Глікіс, Іаан XIV Калека (1334—1347), Філафей Кокін (1353—1354). У пазнейшых усходнеславянскіх кнігадруках і спісах твор прыпісвалі патрыярху Калісту I Ксанфапулу. Як даказаў вядомы візантыніст А. Эргард, найбольш верагодна, што гэты твор напісан у XII ст. Іаанам IX Агапітам або кім-небудзь з яго акружэння [15]. Даволі хутка гэта Евангелле было перакладзена на царкоўнаславянскую мову. Усе вядомыя рукапісы да XV ст. маюць загаловак: «Поученіа избранна от с[вя]тага Еў[ванге]ліа и от многых божественных писаній глогалема от архиерѣя из уст во всякую недѣлю на поученіе христоименитым людем или прочитаема, такоже и на господскы празники и на избранных святых преложена ж от греческа языка на русскыя книгы (в лѣто...)». У радзе рукапісаў даты няма; адзін з вядомых нам рукапісаў мае дату перакладу 1426 г. («преложена... в лѣто 6934 индикт 8»), другі — дату 1449 г. (6857); у вялікай групе рукапісаў дата рукапісу пазначана 1343 г. («преложена в лѣто... 6851, индикта 15»), у іншай групе рукапісаў пераклад датаван 1407 г.

На наш погляд, найбольш дакладная дата перакладу ўказанага твора — 1343 г. [16] Цалкам верагодна, што рукапіс твора быў у бібліятэцы Хадкевіча, што была даволі багатай і разнастайнай (М. Стрыйкоўскі ў прадмове да кёнігсбергскага выдання сваёй хронікі згадвае, што карыстаўся бібліятэкай Хадкевічаў) [17]. На карыстанне выдаўцамі рукапісам беларуска-ўкраінскага паходжання можа паказваць і назва «Евангеліе учительное». У Расіі і рукапіс гэтай кнігі, і нават пазнейшыя выданні, што мелі такі ж загаловак, паслядоўна называлі «Евангелием толковым» (таксама як «Евангелле тлумачальнае» Феафілакта, змест якога больш адпавядаў такой назве), зрэдку — «Евангелием воскресным»; замест яго на Украіне і ў Беларусі здаўна ўжывалася назва «Евангелле вучыцельнае».

Большасць рукапісаў блізкая паводле свайго складу, з адметнасцямі пераважна ў правапісе; у некаторых рукапісах некаторыя «словы» заменены іншымі [18]. Усяго заблудаўскі друк уключае 65 «слоў», якія чыталіся або прамаўляліся па нядзелях, і «слоў» на асобныя святы. Рэдакцыйная работа зводзілася да ўхілення яўных памылак, удакладнення напісанага. У заблудаўскім першадруку акрамя твораў візантыйскага паходжання было надрукавана «Кирила недостойного мніха слово на вознесеніе господне, в четверток 6 недѣлѣ по пасцѣ» — твор аднаго з выдатнейшых прадстаўнікоў арыгінальнай літаратуры

[15] Гонис Д. Цариградският патриарх Калист I и «Учителното евангелие» // Palaeobulgarica: Старобългаристика. 1982. № 2. С. 48.

[16] Пытанне пра датаванне перакладу разглядаецца намі ў асобным артыкуле.

[17] Дарашкевіч В. І. Лацінскія кнігі ў прыватных бібліятэках на Беларусі і ў Літве // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976. С. 69.

[18] Маслов С. П. Кирилл-Транквиллион Ставровецкий и его литературная деятельность. К., 1984. С. 83—84.

Кіеўскай Русі тураўскага епіскапа Кірылы. Гэта «Слова» сустракаецца ў многіх (але не ва ўсіх) рукапісах «Евангелля вучыцельнага» — як у рускіх [19], так і ў беларуска-ўкраінскіх [20]. Гэта ж «Слова» сустракаецца і ў складзе розных рукапісных зборнікаў [21].

Упершыню ў практыцы ўсходнеславянскага кнігадрукавання заблудаўскі першадрук пачынаецца з правобраза тытульнага ліста, які — у духу рукапіснай традыцыі — надрукаван такім жа шрыфтам, што і кніга. Тэкст на тытульным лісце аформлен накшталт пасляслоўя. Аднак перамяшчэнне выхадных даных з пасляслоўя на тытульны ліст — рыса, характэрная для друкаванай кнігі [22]. Пра тое, што гетман выступае не ад імя дзяржавы, а як грамадскі дзеяч, сведчыць інфармацыя пра надрукаванне кнігі ў яго «отчизном имѣнію», яго «властным накладом» [23].

На адвароце тытульнай старонкі кнігі змешчан герб Р. Хадкевіча, акружаны арнаментам. Магчыма, гэта рабілася па ініцыятыве самога гетмана. Тым самым ён спрыяў устанаўленню ва ўсходнеславянскіх літаратурах геральдычнага афармлення друкаваных кніг. Яго паходжанне звязана з характэрным для эстэтыкі маньерызму (пазней і барока) імкненнем да сінтэзу моўных і «выяўленчых» метафар і сімвалаў [24]. У «Евангеллі вучыцельным» геральдычная кампазіцыя адлюстроўвае змест тытульнага ліста і наступнай прадмовы і мае агульную з імі мэту: праслаўленне выдаўца-мецэната. У верхняй частцы кампазіцыі змешчаны яго ініцыялы (лацінскімі літарамі), унізе ж указана поўнае імя з усімі тытуламі. На чатырох палях гербавага шчыта намаляваны гербы гетмана і яго продкаў, у тым ліку бацькоўскі герб «Касцеша» і мацярынскі «Праўдзіч», а таксама герб Вялікага княства Літоўскага («Пагоня»), які служыў і гербам Гедымінавічаў князёў Бельскіх, з якіх паходзіла маці гетманавага бацькі.

Пасля герба ідзе прадмова пад загалоўкам «Предисловіе книги сея», якая па памерах большая, чым прадмовы (ці пасляслоўі), любой з выдадзеных да таго часу кірылічных кніг. Некаторыя даследчыкі бяздоказна адносяць прадмову да твораў

---

[19] ДГМ, Увар. 55, арк. 72 адв.; ДБЛ, Овч. 32, арк. 108 адв. — 112; ДБЛ, ф. Алан. сем., 48, арк. 70.

[20] ЦДАСА, ф. 181, спр. 650, арк. 83—86.

[21] Алексеева Т. А. Сборники постоянного и варьирующего состава со словами Кирилла Туровского // Методические рекомендации по описанию славяно-русских рукописей для Сводного каталога рукописей, хранящихся в СССР. Вып. 2, ч. 1. М., 1976.

[22] Киселева Л. И. Западноевропейская рукописная и печатная книга XIV—XV вв. Л., 1985. С. 61.

[23] Конан У. Іван Фёдараў і асветніцкія традыцыі Францыска Скарыны // Мастацтва Беларусі. 1984. № 1. С. 14.

[24] Pelc J. Obraz — słowo — znak. Studium o emblematach w literaturze staropolskiej. Wrocław, 1973.

Івана Фёдарава[25], іншыя лічаць увесь тэкст прадмовы творам Р. Хадкевіча[26]. Сама прадмова чleніцца на тры часткі. Другая выразна аддзяляецца ад першай (пачынаецца з новага радка), напісана ад імя Хадкевіча (пачатак: «Сего ради, аз Григорей Александрович Ходкевича...»). Толькі ў гэтай частцы прадмовы ёсць беларусізмы ў лексіцы. Канчаецца раздзел прадмовы словам «амінь», што сведчыць пра яго самастойнае значэнне. Ніжэй, пасля вялікага прагалу ў тэксце, змешчана сем радкоў ад імя друкароў. У заблудаўскім першадруку яны самі сябе прыніжаюць у духу сярэдневяковых традыцый: «Мы трудившіися недостойніи и худые». Цалкам зразумела, што так напісаць пра сябе вялікі гетман не мог. Таму няма падстаў прыпісваць гэту частку прадмовы Р. Хадкевічу[27],— яе аўтары самі сябе называюць. Гэта — друкары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец.

Пытанне пра аўтарства дадзеных старонак застаецца адкрытым. Мяркуючы па традыцыйнай царкоўнаславянскай мове такога тыпу, як у пасляслоўі да Апостала 1564 і 1574 гг., у складанні гэтай часткі мог прыняць удзел Іван Фёдараў. Знаёмства з асновамі хрысціянскага веравызвання вядзе да думкі пра важнасць чытання кніг і, у прыватнасці, пра каштоўнасць «Евангелля вучыцельнага», «к лучшему поученію и направленію душевному» і для барацьбы супраць ерэтычных вучэнняў, якія пашырыліся апошнім часам («понеже мнози крестіяньстіи людие новыми и различными ученіи в вѣре поколебашася»). У гэтай частцы прадмовы сцвярджаецца і нават перабольшваецца кананічнасць тэксту, які, маўляў, стварылі пасланыя ад самога бога «вселенскіи учители и пастыри» (гаворыцца, відаць, пра праваслаўных патрыярхаў) і якім кіруецца «соборная и апостольская церковь».

У другой частцы, якую напісаў сам Р. Хадкевіч, больш канкрэтна гаворыцца пра абставіны і мэту надрукавання кнігі. Ад самога гетмана або ад літаратара, які яму дапамагаў, паходзяць такія словы, як «варстат друкарскій», «выдруковати», «помылка», «здавна», «накладу наложити не жалуючи». Відаць, русіфікацыю некаторых форм у гэтым урыўку варта прыпісаць Івану Фёдараву («простую молву» замест «мову»), але выказаныя ў гэтай частцы погляды, бясспрэчна, належаць Хадкевічу. У духу скарынаўскіх традыцый ён пісаў, што «помыслил ... иже бы сию книгу *выразумѣния ради простых людей преложити на простую молву*, и имѣл о том попеченіе великое» (курсіў наш.— *Я. І.*). Аднак гетмана адгаварылі рабіць гэта: «И совещаша ми люди мудрые, в том писмѣ ученые, иже прекладаніем з давных

---

[25] Сапунов Б. В. Первопечатник Иван Федоров как писатель // Труды Отдела древнерусской литературы. 1958. Т. 14. С. 268—271.

[26] Коршунов А. Ф. Иван Федоров и белорусское книгопечатание // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. С. 69.

[27] Там жа.

пословиц на новые помылка чинится немалая, якоже и нинѣ обрѣтаемя в книгах новаго переводу».

Лічыцца, што супраць перакладаў на «простую мову» выступілі эмігранты з Расіі — князь Курбскі, колішні троіцка-сергіеўскі ігумен старац Арцёмій, які жыў пры двары князя Юрыя Слуцкага і нейкі час у Астрозе. Ды і Іван Фёдараў мог пабаяцца, што пры наборы кнігі «простаю моваю» ён дапусціць больш памылак, чым у тэкстах на царкоўнаславянскай мове, яму добра знаёмай. Ідэя зрабіць друкаваныя кнігі зразумелымі для «простых людзей» была асабіста блізкай самому Хадкевічу, і адмовіўся ад яе ён толькі пад націскам тагачасных літаратурных аўтарытэтаў. Неўзабаве ён зноў вярнуўся да намеру перакладаць царкоўнаславянскія кнігі на народна-гутарковую мову. Таксама ў перакладзе ён збіраўся выдаць Псалтыр. І зноў кансерватарам удалося пераканаць яго, што пераклад можа прывесці да памылак, праз якія «ереси умножаются».

Як вядома, Псалтыр канчаткова быў надрукаваны ў адным томе разам з найбольш поўнай кнігай малітваў — Часасловам. Кнігу, у якой аб'яднаны Псалтыр з Часасловам, часта называлі Псалтыром з працягам (с последованием). Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, нібыта аб'яднанне гэтых кніг у адным томе было «славянскім вынаходствам», аднак на самай справе яно сустракалася і ў грэчаскім рукапісанні.

Заблудаўскі Псалтыр з Часасловам 1570 г. дайшоў да нас толькі ў трох экземплярах, якія знаходзяцца ў Ленінградзе, Львове і Лондане. Усе тры — дэфектныя; прадмова, і то вельмі няпоўная, захавалася толькі ў львоўскім экземпляры. Як сказана ў прадмове, перад друкаваннем тэкст Псалтыра быў звераны з іншымі Псалтырамі і перад кожным псалмамададзена па два «надпісы» — своеасаблівыя анатацыі-тлумачэнні, узятыя з кніг, перакладзеных з грэчаскай мовы. Аднак з грэчаскай традыцыяй звязаны толькі тыя подпісы, якія змешчаны спачатку. Яны амаль тэкстуальна супадаюць з «падпісаннямі», якія ёсць ў некаторых даўніх рукапісах: Яўгеньеўскім тлумачальным Псалтыры XI ст.[28], Балонскім Псалтыры XII ст., Пагодзінскім тлумачальным Псалтыры XIII ст.[29] З выкарыстаннем гэтых «надпісанняў» складзены два самыя даўнія слоўнічкі, вядомыя з усходнеславянскіх рукапісаў,— паясненне слоў Псалтыра і яго тлумачэнняў[30]. Услед за кожным са старадаўніх надпісанняў змешчана яшчэ адна анатацыя, больш позняя па сваёй мове. Гэтыя анатацыі, на думку Я. Карскага, нагадваюць аналагічныя тэксты (так званыя інскрыпцыі, або аргументы) у

---

[28] Гринкова Н. П. Евгеньевская Псалтырь как памятник русской письменности XI в. // ИОРЖ. 1925. Вып. 29. С. 289—306.

[29] Паралельнае выданне Балонскага і Пагодзінскага псалтыроў гл.: Jagič V. Psalterium Bononiense. Vindobonae, 1907.

[30] Ковтун Л. С. Русская лексикография эпохи средневековья. М.; Л., 1968. С. 34—44, 150, 398—399, 406—407.

польскай пратэстанцкай Брэсцкай бібліі. Затое А. Горскі і К. Неваструеў меркавалі, што яны перакладзены з нямецкай мовы Дзмітрыем Герасімавым[31]. Аднак большасць іх змяшчаюць той жа тэкст, што і Псалтыр у складзе польскай Біблії, адрэдагаванай Янам Нічам Леапалітам (Кракаў, друкарня Шарфенбергера, 1561). Верагодна, у іх аснове ляжаць нейкія лацінскія інскрыпцыі і чэшскі пераклад[32].

Пасля асноўнага тэксту Псалтыра, падзеленага на 20 кафізмаў, у заблудаўскім выданні 1570 г. надрукаваны «Выбраныя песні» (з Біблії), пасля іх ідзе раздзел «Блаженого Макария и священномонаха и честнаго философа и ритора господина Овлемида псалмы избранныя». Тут пададзены «прыпевы-велічанні» на выбраныя святы, складзеныя, як мяркуюць, на падставе рукапісаў на пачатку XIV ст. Філафеем, лагафетам валашскага гаспадара Мірчы, і дапоўненыя, ужо на ўсходнеславянскім грунце, іераманахам Макарыем, і «выбраныя псалмы», укладзеныя візантыйскім пісьменнікам Нікіфарам Улемідам (1197—1272), пераклад якіх на царкоўнаславянскую мову прыпісваюць тым жа Макарыю і Філафею. Падбор велічальных песень той жа, што і ва ўкраінска-беларускіх рукапісах і пазнейшых кнігадруках[33], у тым ліку змешчан і «прыпеў» князю Уладзіміру (пачынаецца словамі: «Величаем тя, благовѣрный княже, и чтім святую память твою»).

Калі тэкст Псалтыра рыхтаваўся спецыяльна для дадзенага выдання, то Часаслоў паўтарае амаль без змен тэкст маскоўскага Часаслова 1565 г. Структура прадмовы Псалтыра з Часасловам такая ж, як і ў першым заблудаўскім выданні — «Евангеллі вучыцельным». Вонкавы бок першага ненумараванага аркуша адыгрывае ролю сціплай тытульнай старонкі, на якой тым жа шрыфтам, што і ўся кніга, указана яе назва, адзначана, што яна друкавалася «в мѣсте Заблудовью» ад 26 верасня 1569 г. да 23 сакавіка 1570 г. На адвароце — герб Р. І. Хадкевіча. У львоўскім экземпляры пасля гэтага змешчан зварот друкара да чытачоў. «Иван Федорович Москвитин» просіць выпраўляць магчымыя памылкі і не праклінаць яго за іх. У лонданскім экземпляры гэты аркуш знаходзіцца ў канцы кнігі. Бясспрэчна, у львоўскім экземпляры першасны парадак лістоў парушан: зварот друкара да чытачоў знаходзіўся або пасля прадмовы выдаўца, як гэта было ў «Евангеллі вучыцельным», або пад канец кнігі, як гэта бачна ў астрожскіх «Кнізе Новага

---

[31] Карский Е. Ф. Западнорусские переводы Псалтири в XV—XVII веках. Варшава, 1896. С. 91; Горский А. В., Невоструев К. И. Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. М., 1857. Отд. 2, ч. 1. С. 63.

[32] Sykulski J. Polskie katolickie przekłady Psałterza // Przegląd Powszechny. 1931. T. 189.

[33] Барвинок В. И. Время происхождения праздничных величаний и избранных псалмов в чине всенощного бдения. К., 1910. С. 17—22; Барвинок В. И. Никифор Влеммид и его сочинения. К., 1911. С. 198—202.

запавету» і Бібліі [34]. Адсутнасць інвакацыйнай формулы напачатку і даты ў канцы збліжае гэты тэкст з заканчэннем прадмовы «Евангелля вучыцельнага». «Иван Федорович Москвитин» называе сябе «многогрѣшным и непотребным рабом», просіць чытачоў і перапісчыкаў выпраўляць памылкі і не праклінаць яго за іх, «понеже не писа дух святый ни ангел, но рука грѣшна и берна». Тут Іван Фёдараў літаральна выкарыстаў форму, якая часта ўжывалася ў візантыйскіх, а з XII ст.— таксама ва ўсходнеславянскіх і паўднёваславянскіх рукапісах [35].

Прадмова ад выдаўца — гетмана Р. І. Хадкевіча пачынаецца з яго поўнага прозвішча і паўтарэння пераліку тытулаў, якія ўжо былі на тытульным лісце. Калі тэкст на тытульным лісце складзен ад трэцяй асобы, то прадмова — ад першай. Адпаведна на тытульным лісце сказана: «у отчизном его милости ымѣнью мѣсте Заблудовью», у прадмове — «в ымѣнью моем отчизном, в Заблудовью». Адзначым, што назва месца тут, як і ў «Евангеллі вучыцельным», мае форму назоўніка сярэдняга роду: Заблудаў'е, а не Заблудаў. У форме сярэдняга роду (Заблудовье) зафіксаван гэты тапонім і ў дыялекталагічных запісах другой палавіны XIX — пачатку XX ст.

У пачатку прадмовы Р. Хадкевіч сцвярджае, што ў Польскім каралеўстве (в «Коруне польской») і ў Вялікім княстве Літоўскім узнікла шмат друкарань. Гэта падштурхнула і яго заснаваць друкарню, не шкадуючы на яе сродкаў. Далей ахарактарызаван змест кнігі, якая прапануецца чытачам. Першую яе частку займае Псалтыр, прызначаны «к наученію» землякоў-адзінаверцаў. Падкрэслена, што для выдання тэкст Псалтыра быў спецыяльна зверан з іншымі псалтырамі і выпраўлены «гдѣ в чом помылка была». Далей сказана, што з кніг на грэчаскай мове ўзяты анатацыі зместу («надписы») для кожнага псалма, «чого в первшыих псалтирях мало изобрѣталося». Пералічаны наступныя падраздзелы кнігі. На жаль, моцна пашкоджан той ліст, на якім пералічаны паказальнікі і дапаможныя табліцы (у тым ліку ў выглядзе рукі). Далей паўторана вядомае з «Евангелля вучыцельнага» меркаванне, што пры перакладах з мовы на мову ўзнікаюць недакладнасці, ад чаго «ереси умножаются». Пад канец выдавец просіць прыняць яго кнігу добразычліва, «с любовію» і абяцае: «Я також и вперед працы и накладу моего жаловати не буду и другия книги... друковати дам».

Як бачым, і па мове, і па зместу гэта прадмова блізкая да той часткі прадмовы «Евангелля вучыцельнага», якая напісана

---

[34] Свенцицкая В. И. Заблудовские издания Ивана Федорова в библиотеках и музеях Львова // Федоровские чтения. 1982. М., 1987. С. 17—18.

[35] Чорович В. Узајемне везе и утицаје код старих словенских записа // Глас Српске краљевске академије. Београд. 1938. CCXXVI. 2 разред. № 90. Даследчыкі адзначаюць, што самапрыніжальныя характарыстыкі некаторых кніжнікаў не трэба разумець вельмі літаральна.

Хадкевічам. Ад тэкста на тытульным лісце і ад звароту друкара да чытачоў гэту прадмову адрознівае перш за ўсё насычанасць словамі, уласцівымі беларуска-ўкраінскай кніжнай «простай» мове: *паньство, варстаты друкарскія, помылка, надпісы, праца, наклад, жаловати.*

Пасля прадмовы (якая мае калонтытул «надпис») надрукавана «Предословіе в книгу сію глоголемую Псалтирь», у складанні якога мог прыняць удзел Іван Фёдараў разам з мясцовымі кніжнікамі. Твор гэты кампіляцыйны; у ім выкарыстаны старыя рукапісныя тэксты, у тым ліку перакладныя. Гаворыцца, што і дзеці спяваюць «псаломскія словеса», іх «и по домах поют и на торжищах обносят». Растлумачан склад Псалтыра, а пра яго аўтарства сказана: «Се же достоит пытати, почто ся псалмы си Давдовы нарицают, а суть сотворени не от того едінаго. Но понеже той есть замыслил, той же есть сотворил и началник пѣснем». Традыцыйнае для старой кніжнасці (прыгадаем парафразу Івана Франка: «Кнігі — марская глыбіня») параўнанне кніжкі з морам: «Сія убо нарицаемая Псалтырь подобие суть великому морю, от моря бо не оскудевает вода, николеже не умоляется и заливанием рѣк источник. Тако и от Псалтыри не оскудевает пѣніе никогдаже». Аўтар прадмовы, заклікаючы кожны дзень спяваць Псалтыр, піша пра зменлівасць чалавечага жыцця: «Все бо братіе времення свѣта сего, яко коло воротися: днесь солнце, а заутра мрак, и дождь, и снѣг, днесь пирове и браки, а заутра плач и сѣтованіе».

У канцы «Предословія» надрукаван слоўнічак «Толкованіе нерозумных словес псалтырных», у якім падаецца тлумачэнне слоў з псалмоў і «надпісанняў». Акрамя гэтага, паясняецца сімвалічнае значэнне згаданых у тэксце музычных інструментаў. Такі слоўнік вядомы з рукапісаў XVI—XVII стст.; пакуль яшчэ не ўстаноўлена, ці ёсць сярод іх старэйшы за заблудаўскі друк. Рад тлумачэнняў «Толкованія» паўтарае тлумачэнні са старадаўніх слоўнічкаў, складзеных на аснове грэчаскіх узораў [36].

Завяршае ўступную частку кнігі «Чин, како подобает пѣти Псалтирь». Як «Предословіе» са слоўнікам, так і «Чын» выяўлены ў рукапісах беларуска-ўкраінскага паходжання [37]; пакуль што не ўстаноўлена, ці ёсць сярод іх ранейшы, чым заблудаўскія.

Як бачым, у прадмовах да абодвух заблудаўскіх выданняў больш значнае месца, чым у маскоўскіх першадруках, займаюць багаслоўскія тэксты, павучанні рэлігійна-маралізатарскага характару. Гэта тлумачыцца як асабістымі інтарэсамі Р. Хадкевіча, так і разуменнем ім значэння тэалагічнай праблематыкі ў барацьбе супраць ідэалагічнага наступу каталіцызму і рэфармацыі, за зберажэнне традыцыйных форм культуры.

---

[36] Ковтун Л. С. Русская лексикография эпохи средневековья. С. 183—187, 432—434.

[37] Погорелов В. Б. Псалтыри. М., 1901. С. 90—92.

Тое, што ў прадмовах заблудаўскіх выданняў выразна акрэслен першапачатковы намер выдаваць кніжкі «простай мовай», не дазваляе пагадзіцца з гіпотэзай М. Гембаровіча, нібыта ініцыятар заснавання Заблудаўскай друкарні — старац Арцёмій [38]. Апошні, як ужо гаварылася, мог быць у ліку тых, хто падахвоціў Хадкевіча змяніць свой першапачатковы план. Непраўдападобна і дапушчэнне, што галоўнымі матывамі заснавання друкарні была апазіцыя гетмана Люблінскай уніі або яго выключная прага супрацьстаяць пратэстанцкай прапагандзе. Сапраўды, пашырэнне пісьменнасці як «простаю моваю», так і царкоўнаславянскай мела вялікае значэнне для супрацьдзеяння ўсім формам дэнацыяналізацыі, у тым ліку для абароны ад каталіцкай экспансіі. Невыпадкова, што не пратэстантаў, а найбольш католікаў турбавалі звесткі пра заснаванне праваслаўных друкарань [39].

Падагульняючы гаворку, трэба падкрэсліць, што Р. Хадкевічу належыць вялікая заслуга ў справе згуртавання вакол яго друкарні майстроў кніжнай справы. Мы ведаем імёны не ўсіх іх, а толькі найбольш таленавітых — у першую чаргу слаўных друкароў Івана Фёдарава Масквіціна і Пятра Цімафеева Мсціслаўца. Р. Хадкевіч быў таксама здольным літаратарам. Па сутнасці, да прадмоў абодвух яго выданняў можна аднесці ацэнку, якую А. Ф. Коршунаў даў першай з іх: гэта былі творы праграмна-асветніцкія па свайму характару [40]. Р. Хадкевіч узяў на ўзбраенне скарынаўскую традыцыю суправаджаць друкаваную кніжку тлумачальнай публіцыстычнай прадмовай. Пры гэтым радкі прадмоў, якія належаць самому Хадкевічу, напісаны з несумненным літаратурным талентам. Гэтыя раздзелы прадмоў — яскравыя помнікі беларускай літаратуры і грамадска-палітычнай думкі свайго часу.

Абодва заблудаўскія выданні Р. Хадкевіча служылі ўзорам для наступных беларускіх, украінскіх і рускіх выдаўцоў [41]. Гэта яшчэ раз сведчыць пра важнасць укладу ў скарбніцу культуры як іх выдаўца, так і таленавітых рэдактараў і друкароў, далучаных ім да справы «разсявання насення духоўнага».

---

[38] Gębarowicz M. Iwan Fedorow i jego działalność w latach 1569—1583 na tle epoki // Roczniki Biblioteczne. 1966. T. 10. T. 1—2.

[39] Поссевино А. Исторические сочинения о России XVI в. М., 1983. С. 39.

[40] Коршунов А. Ф. Иван Федоров и белорусское книгопечатание // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание.

[41] Лукьяненко В. И. Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Л., 1973. Вып. 1 (1523—1600 гг.). С. 54; Ісаєвич Я. Д. Першодрукар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. Львів, 1983. С. 40—45; Исаевич Я. Д. Преемники первопечатника. М., 1981. С. 32.





*Л. А. ДУБРОВІНА (Кіеў)*

## РУКАПІСНАЯ КНІГА XVI ст. У ФОНДАХ АДДЗЕЛА РУКАПІСАЎ ЦНБ АН УССР

Гісторыя рукапіснай кнігі XVI ст. на Украіне практычна не распрацавана. Не вывучаны грунтоўна яе ўзаемаадносіны з друкаванай кнігай і іншыя праблемы, хоць даследаванне такога роду, бясспрэчна, актуальна, бо рукапісная кніга з'яўляецца адным з фактараў, якія замацоўваюць традыцыю і разам з тым чуйна рэагуюць і адлюстроўваюць сацыяльна-культурнае развіццё сярэдневяковага грамадства.

Комплекс рукапісных кніг XVI ст. у фондах ЦНБ АН УССР налічвае па першапачатковых падліках 293 адзінкі і з'яўляецца адным з буйнейшых у нашай краіне па колькасці кніг мясцовага паходжання (іх больш за 200). Пераважная колькасць рукапісных кніг звязана сваім паходжаннем з Кіеўшчынай і Валынню, што абумоўлена асаблівасцямі камплектавання аддзела рукапісаў. Яго збор склаўся з бібліятэк Кіеўскай духоўнай семінарыі, Кіева-Пячэрскай лаўры, кіеўскіх і валынскіх манастыроў, Пачаеўскай лаўры, Універсітэта св. Уладзіміра, кіеўскіх і валынскіх музеяў, прыватных бібліятэк і калекцый, асобных паступленняў.

Рэпертуар рукапісных кніг XVI ст. складаюць пераважна кнігі рэлігійнага зместу. Свецкіх рукапісаў літаратурнага зместу няшмат: «Аповесць пра забойства Міхаіла Цверскага ў Ардзе» і угра-рускі кароткі летапісец са збору С. І. Маслава (№ 1 і 3); «Александрыя» сербскай рэдакцыі са збору Універсітэта св. Уладзіміра і Хроніка Мацея Стрыйкоўскага (1.57487 VIII, № 72); хранаграфічны зборнік са збору Царкоўна-археалагічнага музея (ДА/п. 157), «Апісанне Індыі» (Міх. 3, № 532/1668) і інш.

Са зборнікаў пастаяннага зместу найбольш цікавымі з'яўляюцца Пчала, Ізмарагд, Златавуст; значную долю займаюць апокрыфы, зборнікі агіяграфічнага зместу, царкоўна-палемічная літаратура, творы Яфрэма Сірына, Васіля Вялікага і інш. Шмат рукапісаў культавага прызначэння, разнастайных па сваіх кадыкалагічных асаблівасцях, цікавых з боку палеаграфіі. Іх вывучэнне дазволіць выявіць асаблівасці кніжнай справы ў манастырскіх скрыпторыях.

Шмат якія рукапісныя кнігі маюць ярка акрэсленыя моўныя

асаблівасці, важныя для даследчыкаў украінскай мовы, напрыклад Пацярык Пячэрскі (Мік. 3, 417, 418), Перасопніцкае евангелле (1. 15512), кормчая са збору Сафійскага манастыра (№ 221/50), мінея чэцця са збору Межыгорскага манастыра (Саф. 281/133) і інш. Гэтыя рукапісныя кнігі добра аформлены, маюць арыгінальныя, па-мастацку аздобленыя вокладкі XVI ст. Незвычайна шырокі дыяпазон розных запісаў на іх старонках: уладальніцкія, укладныя, куплі-продажу, бытавыя і гаспадарчыя, летапісныя, каментарыі рознага роду і інш. Усе яны, з далучэннем архіўных крыніц, могуць мець важнае значэнне для вывучэння распаўсюджання кніг у розных слаях мясцовага насельніцтва, чытацкіх інтарэсаў. Цэлыя серыі прыпісак, што дазваляюць прасачыць міграцыю кнігі на працягу доўгага гістарычнага перыяду, характэрныя, напрыклад, для рукапісаў са збору Духоўнай акадэміі — Евангелля 1530 г. (ДА, л. 34), Кормчай (Саф. 221/50), мінеі месячнай (ДА/п. 365). Вельмі цікавымі з'яўляюцца ўладальніцкія надпісы на евангеллях са збору Сафійскага манастыра (32/3, 29/627, 28/7), якія сведчаць аб захапленні казацтва, простых гараджан і пісьменных сялян кніжнай мудрасцю.

Збор Царкоўна-археалагічнага музея (далей — ЦАМ), які існаваў пры Кіеўскай духоўнай акадэміі, налічвае 71 рукапісную кнігу. Але гэты збор уяўляе сабой выпадковы набор рукапісаў, таму што ў 1730 г. пажар знішчыў будынак акадэміі, у выніку чаго загінула большая частка рукапісаў і друкаваных кніг. Папаўненне бібліятэкі ў далейшым ішло за кошт ахвяраванняў ад духоўных асоб з розных куткоў Расіі і Украіны або непасрэдна ад выхаванцаў акадэміі. Вялікія ўклады паступілі ад кіеўскіх мітрапалітаў Гаўрылы Крамянецкага, Яўгена Балхавіцінава, Самуіла Міслаўскага, ніжагародскага епіскапа Феафана Чарнуцкага, смаленскага епіскапа Дзмітрыя Усцімовіча, казанскага мітрапаліта Веньяміна. Каштоўныя рукапісы паступілі ад прафесара Е. В. Барсава, архімандрыта Антаніна Капусціна, епіскапа екацярынбургскага Мадэста. Пасля арганізацыі Царкоўна-археалагічнага музея ў склад яго фондаў увайшлі буйныя рукапісныя бібліятэкі Пачаеўскай лаўры, Мялецкага і Нежынскага манастыроў, протаіерэя М. Я. Аглобліна, маскоўскага мітрапаліта Макарыя Булгакава, графа А. М. Мураўёва [1].

Сярод рукапісных кніг Кіеўскай духоўнай акадэміі (далей— КДА) — чатыры поўныя апосталы ўкраінскага паходжання (ДА, л. 55); евангеллі апракас, тэтр і тлумачальнае Феафілакта Балгарскага, шэсць з якіх украінскага паходжання; два — малдаўскага, астатнія ж паходзяць з цэнтральнай і ўсходняй Русі (акрамя спіса, падараванага Антанінам Капусціным, месца ўзнікнення якога пакуль што не вызначана). Сярод міней найбольш

---

[1] Петров Н. И. Описание рукописей Церковно-археологического музея при Киевской духовной академии. К., 1875. Вып. 1. С. 2—5.

цікавыя ў палеаграфічных адносінах рукапіс, падараваны мінскім архіепіскапам Аляксандрам і складзены ў слуцкім Спаскім манастыры (ДА/п. 365), а таксама трыёдзі сербскага пісьма. Пераважная большасць рукапісаў ЦАМ, датаваных XVI ст., знаходзіцца ў зборах, перададзеных архімандрытам Антанінам Капусціным і Е. В. Барсавым.

Лёс бібліятэкі Кіева-Пячэрскай лаўры мае шмат агульнага з лёсам бібліятэкі КДА — у выніку пажару 1718 г. яна панесла вялікія страты. Збор лаўры зноў быў створаны з фамільных бібліятэк бліжэйшых і дальніх пячор, Троіцкага, Бальнічнага і іншых манастыроў. Да XVI ст. належаць восем каштоўнейшых рукапісаў: Пацярык Пячэрскі 1553—1554 гг. (№ 386), Статут царкоўны, які быў напісаны ў 1569 г. старцам Макарыем Малым (№ 20), словы Анастасія Сінаіта (№ 254), «Сказанне пра заснаванне Свінскага манастыра ў Бранску» (№ 389), «Лесвіца» Івана Лесвічніка, ахвяраваная ў 1618 г. князем Е.-М. Карыбутам-Вішнявецкім Мгарскаму манастыру (№ 235), Усегадзічны зборнік, завешчаны ў лаўру ў 1630 г. манашкай Яўфіміяй Мкякоўскай праз Памву Бярынду (№ 218), «Пчала» манахаў Антонія і Максіма, перакладзеная ў 1599 г. з грэчаскай мовы ў Дзерманскім Троіцкім манастыры (№ 275).

Зборы кіеўскіх манастыроў, нягледзячы на тое што ад іх бібліятэк ужо ў XIX ст. засталася невялікая частка, былі ў XVI—XVII стст. вельмі багатымі і каштоўнымі. Шматлікія маргіналіі на рукапісах XVI—XVII стст., якія цяпер раскіданы па розных зборах і архівах, а раней знаходзіліся ў прыватных асоб, сведчаць аб культурных узаемасувязях праз рукапісную кнігу Златаверха-Міхайлаўскага, Выдубіцкага, Межыгорскага, Кірылаўскага і іншых манастыроў і цэркваў на Украіне. Паходжанне і распаўсюджанне кніг было цесна звязана з гісторыяй Кіеўскай зямлі і ў значнай ступені адлюстроўвала спецыфіку развіцця кніжнай культуры ў гэтым рэгіёне. Амаль усе рукапісныя кнігі мелі высокую абарачальнасць у чытацкім асяроддзі — сярод усіх слаёў насельніцтва, актыўна мігрыравалі ў межах Кіеўскай і Валынскай зямель. Рэлігійныя па зместу, яны ў большасці выпадкаў траплялі ў манастырскія бібліятэкі шляхам укладаў не толькі ад духоўных, але і ад свецкіх асоб.

З рукапісаў Златаверха-Міхайлаўскага манастыра захаваліся 24 кнігі. Сярод іх найбольш цікавыя евангеллі (напрыклад, 1524 г.— з дароўнымі запісамі і гаспадарчымі звесткамі пра пошліны і чынш манастыра ў XVI—XVII стст.); Памінальнік (№ 537), завешчаны будаўніком манастыра Сімяонам, куды ўключаны імёны розных вяльмож і духоўных асоб; Новы запавет, які быў перакладзены на ўкраінскую мову Валянцінам Негалеўскім у 1581 г. і доўгі час знаходзіўся ў казацкім асяроддзі (№ 421); мінея месячная, перапісаная сынам малдаўскага ваяводы Іване Лазарам Іванавічам у 1591 г. (№ 439) і інш.

Зборы Выдубіцкага, Межыгорскага і Кірылаўскага манасты-

роў у адзіных комплексах не зберагліся. Хутчэй за ўсё іх бібліятэкі былі раскрадзены ў час пераходу будынкаў і маёмасці гэтых манастыроў у казну ў гады праўлення Кацярыны II [2]. Так, кнігі з прыкметамі належнасці Межыгорскаму манастыру сустракаюцца ў зборах Кіева-Сафійскага сабора, Духоўнай акадэміі, Кіева-Пячэрскай лаўры. Трынаццаць з іх адносяцца да XVI ст. Межыгорскі манастыр быў адным з найбольш буйных скрыпторыяў Кіева, а рукапісы, якія яму належалі, вылучаюцца адметнасцю почырку і тэхнічнага выканання. Сем кніг Выдубіцкага манастыра паступілі з калекцыі Усеўкраінскага музейнага гарадка, які шмат займаўся збіральніцкай дзейнасцю ў першыя гады Савецкай улады, а таксама з бібліятэк прыватных асоб.

Адносна позняй па часу ўзнікнення з'яўляецца бібліятэка Кіева-Сафійскага сабора, пачатак якой паклаў Пётр Магіла, мітрапаліт кіеўскі, перавёўшы яе ў 1633 г. ад уніятаў да праваслаўных. Яна налічвае 27 рукапісных кніг XVI ст.; на некаторых з іх ёсць запісы і заўвагі, зробленыя рукой Пятра Магілы (с. 60, 367, 579). Бібліятэка не пацярпела ад стыхійных бедстваў і буйных рэарганізацый і таму на сённяшні дзень уяўляе сабой найбольш поўны і каштоўны збор рукапісных кніг мясцовага паходжання — пачынаючы ад XVI ст. і да канца XIX. Асноўная частка рукапісаў XVI ст. была сфарміравана за кошт укладаў прыватных асоб. Так, Евангелле тэтр з тлумачэннямі Феафілакта Балгарскага (№ 28/7) было перададзена князем Юрыем Слуцкім, Актоіх (№ 30/1) — Дзмітрыем Марасенем у царкву Дзмітрыя ў в. Нявер, Номаканон (№ 233/62) — ігуменам Сільвестрам у Багаяўленскі манастыр і інш. Адно Евангелле было перапісана ў 1579 г. у Капенгагене — «в Датской земле за морем», а пісаў яго па даручэнню Аляксея Рыгоравіча Давыдава слуга Шарапка Еўдакімаў (32/3). Творы Іаана Дамаскіна былі перададзены бібліятэцы Пятром Магілам (Саф. 156/33 і 157/34).

16 рукапісных кніг знаходзяцца ў складзе збору мітрапаліта маскоўскага Макарыя Булгакава, які ў час знаходжання ў КДА звярнуў увагу на беднасць збору і завяшчаў свае рукапісныя кнігі бібліятэцы. Найбольшую цікавасць у яго зборы ўяўляюць Псалтыр з прыпіскамі (у прыватнасці, пра сонечнае зацьменне 1540 г.), Стаглаў канца XVI ст., Пацярык Пячэрскі, перапісаны манахам Касьянам (№ 48), зборнікі жыцій святых (№ 4, 43, 37, 38, 27, 28), Златавуст з вялікай колькасцю бытавых запісаў, Словы пасніцкія Ісака Сірына.

Каштоўны збор паступіў з Гісторыка-філалагічнага інстытута князя Безбародкі, які знаходзіўся ў Нежыне. Акрамя ўласных набыткаў «нежынскі збор» быў укамплектаваны бібліятэкай прафесара славеснасці Маскоўскага універсітэта С. П. Шавырова, якая была куплена ў 1876 г. у яго нашчадкаў, і калекцыяй

---

[2] Петров Н. И. Описание рукописных собраний, находящихся в г. Киеве. М., 1806. Вып. 3. С. 3.

прафесара славянскай філалогіі і гісторыі таго ж інстытута У. В. Качаноўскага, перададзенай у дар. Сярод кніг духоўнага зместу ў гэтых зборах ёсць апосталы, евангеллі, трыёдзі, мінеі, пралогі, агіяграфічныя творы. Калекцыя славянскіх рукапісаў У. В. Качаноўскага складзена з кніг, набытых у час падарожжаў па славянскіх краінах. Тут знаходзяцца кнігі сербскага, польскага, украінскага паходжання. Збор жа С. П. Шавырова складаецца ў асноўным з рускіх рукапісаў.

Вельмі разнастайны склад рукапісных кніг фондаў літаратурных паступленняў 20—40-х гадоў (ф. № 1) з Усеўкраінскага гарадка, Камянец-Падольскага краязнаўчага музея, Загінецкага манастыра, Валынскага музея, прыватных асоб.

З апошніх паступленняў у аддзел рукапісаў найбольшую цікавасць уяўляе зборнік са збору члена-карэспандэнта АН УССР П. М. Папова (ф. 285, № 6791). У яго склад побач з рукапіснай часткай — палемічнымі творамі канца XVI ст. уваходзяць чатыры кнігі Бібліі Ф. Скарыны. Як сведчаць запісы на форзацы, раней гэты зборнік належаў Сафронаўскай пустыні Пуціўлеўскага павета.

Цікавымі для гісторыі рукапіснай кнігі на Украіне ў XVI ст. зяўляюцца Перасопніцкае (№ 15512), Цверыцінаўскае і Валынскае евангеллі са збору П. І. Жыцецкага, агіяграфічныя зборнікі з калекцыі Камісіі Кіеўскага універсітэта па разбору старажытных актаў, Евангелле і трыёдзі са збораў барона Шадуара (1. 3982, 3981, 4052), богаслужэбныя кнігі валынскіх манастыроў са збораў Таварыства даследчыкаў Валыні.

Асабліва цікавымі для вывучэння кнігі XVI ст. на Украіне з'яўляюцца пытанні ўзаемаадносін паміж друкаванай і рукапіснай кнігай — у першую чаргу ў перыяд, калі кнігадрукаванне на Украіне і Беларусі толькі пачыналася. Частка рукапісных кніг у другой палавіне XVI ст. перапісвалася з друкаваных выданняў, але з асобнымі каментарыямі. Найбольшую цікавасць выклікаюць рукапісныя кнігі, перапісаныя з выданняў Ф. Скарыны, напрыклад Дзяянні апостальскія з Апостала 1525 г., скапіраваныя нейкім Фёдарам Чарэмскім (1. 7462), ці Апостал 1600 г., перапісаны ў Галіцыі ў г. Брэжаны (Саф. 41/9), Апостал 1540 г. украінскага паходжання (ДА, л. 55).

Матэрыялы з рукапісных кніг дазваляюць меркаваць і аб прыватных калекцыях, аб іх складзе, аб'ёме, сацыяльнай належнасці іх уладальнікаў. Высокамастацкія ўзоры рукапісных кніг канца XVI — пачатку XVII ст. зберагаюцца ў зборах чарнігаўскага епіскапа Засімы Пракаповіча: у аддзеле рукапісаў ЦНБ АН УССР зберагаюцца пяць кніг яго збору — Кормчая (п. 80/102), кананічны зборнік (п. 217/60), словы Грыгорыя Багаслова (п. 213/51), «Лесвіца» Івана Лесвічніка і Пацярык скіцкі (п. 270/159). Гэта бібліятэка, магчыма, была завешчана Міхайлаўскаму манастыру, бо на ўсіх кнігах ёсць адзнакі належнасці апошняму. Рукапісныя і друкаваныя кнігі былі і ў

бібліятэках Гедэона і Фёдара Балабанаў, Ігната Савіна, які паходзіў са Львова (Мел. 112), Усціна Яцкавіча Чачараніна (Мел. 113).

Зборы аддзела вельмі карысныя для вывучэння кніжнай культуры Украіны XVI—XVIII стст. Рукапісная кніга дапамагае даследаваць склад і аб'ём манастырскіх і прыватных бібліятэк або збораў, кнігапісныя традыцыі, узаемаўплывы рукапісных і друкаваных тэкстаў, развіццё кнігапіснай практыкі і рэпертуар кніг, сацыяльнае асяроддзе і міграцыю кніг. Патрабуе параўнаўча-гістарычнага аналізу развіццё нацыянальнай рукапіснай кнігі ў XVI ст. — асабліва пытанні стварэння і распаўсюджання кніг перад і пасля Люблінскай уніі, вывучэнне агульных тэндэнцый і рэгіянальнай спецыфікі гісторыка-культурнага і палітычнага развіцця і сувязі з кніжнай справай XVI—XVII стст.; змены рэпертуару і дынаміка тэкстаў арыгінальных твораў (асабліва ў палітычным і ідэалагічным плане); пытанні культурных узаемаўплываў, гістарычнай псіхалогіі і сацыялогіі.





*А. М. ПЯТКЕВІЧ (Гродна)*

## СПІСЫ ВЫДАННЯЎ СКАРЫНЫ Ў XVI—XVII стст.

Выданні Ф. Скарыны хутка набывалі вядомасць і шырока распаўсюджваліся ў Беларусі, Расіі, на Украіне. «Ужо ў палавіне XVI стагоддзя ў Маскве, у паўночна-ўсходняй Расіі былі вядомы амаль усе друкаваныя кнігі Скарыны, уключна з Апосталам 1425 года» [1]. У XVII ст. выданні «літоўскага» друку, нягледзячы на тое што яны сурова праследаваліся ў Маскоўскай дзяржаве, шырокай плынню разыходзіліся па яе тэрыторыі і дасягалі паўночна-ўсходніх ускраін, сцвярджае сучасны даследчык Б. Сапуноў [2]. Сёння няма сумнення, што попыт на кнігі Скарыны, якія адрасаваліся «паспалітаму люду» і павінны былі выконваць высокія гуманістычна-асветніцкія задачы, заяўляў пра сябе на ўсходнеславянскіх землях усюды.

Найлепшым спосабам распаўсюджання кнігі было перапісванне («спісванне»), тым больш, што рукапісная творчасць набыла высокі аўтарытэт у XVI—XVII стст. і вялася з размахам як у Беларусі, так і ў Расіі і на Украіне. Ствараючы спіс, пісец не толькі выконваў грамадскі заказ, але і выяўляў індывідуальна-творчыя адносіны да справы, бо сам выбіраў тэкст, нярэдка перакладаў, рэдагаваў, а то і істотна перапрацоўваў яго, афармляў спіс, мог уключыць яго ў зборнік і г. д. Ён часам пакідаў звесткі пра сябе і часта апускаў імя, што значылася на крыніцы, з якой рабіўся спіс. Усё гэта вызначала самастойнасць спісу як з'явы культурна-мастацкага жыцця таго часу і спрыяла развіццю рукапіснай кнігі.

У літаратуры спісаў скарынаўскіх выданняў зарэгістравана няшмат. Але, напэўна, яны — толькі фрагменты масавай практыкі такой рукапіснай творчасці. Пра гэта сведчыць вельмі шырокая геаграфія нараджэння і міграцыі спісаў — Вільня, Супрасль, Варшава, Львоў, Яраслаў( Галіцыя), Маначын (Хмяльніцкая вобл.), Масква, Ноўгарад, Пецярбург і інш. Сведчыць пра гэта і інтэнсіўнасць стварэння спісаў неўзабаве пасля выхаду ў свет кнігадрукаў Скарыны.

---

[1] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888. С. 243—244.

[2] Рукописная и печатная книга. М., 1975. С. 47.

Рукапісныя спісы Скарыны вывучаліся ў дарэвалюцыйны час П. У. Уладзіміравым[3]. У савецкі час іх сціслы агляд зрабіў М. Алексютовіч[4]. Аднак не ўсе факты спісаў імі былі ўлічаны.

У XVI ст. узнік спіс, які пазней захоўваўся ў Віленскай публічнай бібліятэцы. Ён змяшчае кнігі «Прарокаў» з прадмовамі[5]. Па арыентацыі на выданні Скарыны блізка да яго стаяць некаторыя ўкраінскія спісы. Гэта — рукапіс 1575 г. з львоўскага Святаануфрыеўскага манастыра (пісаў «Дмитро изь Зѣнкова писарчик») і працяг яго — рукапіс М. П. Пагодзіна (у зборах Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына), які мае запісы 1573—1577 гг. і ствараўся ў «неславнѣм градѣ Маначинѣ». Абодва рукапісы ўключаюць спісы скарынаўскага Старога запавету — «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другазаконне», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», усе чатыры кнігі «Царстваў», а таксама біблейскія кнігі, якія ў Скарыны адсутнічаюць («Параліпаменон» у 2 кнігах, «Ездры», «Товіт» і няпоўная, абарваная на 13-м раздзеле 1-я кніга «Макавеяў»).

Апошнія кнігі давалі падставу меркаваць, што Скарына або падрыхтаваў рукапіс перакладу, або выдаў усе кнігі Старога запавету (і тыя, пра якія мы сёння не ведаем), бо і Скарынавы крыніцы, і тыя, якія яму не належаць, перапісваліся на адной мове — той, якой карыстаўся беларускі першадрукар. У гэтай сувязі цікавы таксама ўкраінскі рукапіс, што захоўваўся ў пачатку XIX ст. у бібліятэцы Варшаўскага універсітэта. Пісаны ён «повеленіем же и пилностію худаго человѣка на имя Луки в неславнем градѣ Тернополѣ» ў 1596 г. Як сведчыць прадмова, змяшчаліся тут усе кнігі Старога і Новага запаветаў. І такая магутная была ўлада друкаванага слова Скарыны, што «характэрныя для скарынаўскіх выданняў рысы мовы былі выяўлены ва ўсім рукапісе, у тым ліку ў кнігах, Скарынам не надрукаваных («Параліпаменон», «Ездры», «Товіт», «Евангелле»)[6].

Па-свойму арыгінальны ўкраінскі рукапісны зборнік, створаны ў 1568 г. Васілём Жугаёвым з Ярослава (Галіцыя). Складзен зборнік з павучанняў, вытрымак з пралога і пацерыкоў, а таксама са спісаў шасці кніг Скарынавай Біблії («Іоў», «Прытчы Саламона», «Эклезіяст», «Прамудрасць», «Песня песняў», «Ісус Сірахаў») з адпаведнымі прадмовамі і пасляслоўямі Ска-

---

[3] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 218—244; яго ж. Обзор южнорусских и западнорусских памятников письменности от XI до XVII ст. К., 1890. С. 26—30.

[4] Алексютовіч М. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958. С. 126—129.

[5] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 27.

[6] Исаевич Я. Д. Наследие Франциска Скорины на Украине // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 171. Я. Д. Ісаевіч рэгіструе тут яшчэ 8 спісаў скарынаўскіх выданняў пераважна XVI ст., звязаных з Украінай. Сярод іх — 5 спісаў Апостала і Пражскі Псалтыр, перапісаны, між іншым, «па заказу кобрынскага і пінскага старасты Івана Міхайлавіча».

рыны. Праўда, Жугаёў імя Скарыны скрозь замяніў уласным, падкрэсліўшы такім чынам ролю асобы пісца, яго ўклад у стварэнне спісу. Сапраўды, пісец творча аднёсся да арыгіналу, змяняючы часам граматычныя, лексічныя асаблівасці тэксту. У прыватнасці, ён уносіў у спісы нямала царкоўнаславянізмаў, што рабілі, зрэшты, і некаторыя іншыя аўтары ўкраінскіх спісаў Скарыны [7].

Зборнік Жугаёва (захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына) П. Уладзіміраў класіфікуе як першы спіс гр. Талстова. Другі яго спіс [8], які змяшчае чатыры кнігі «Царстваў» і зроблены таксама з пражскай Бібліі Скарыны ў XVI ст., упершыню зарэгістраваны К. Калайдовічам і П. Строевым [9]. У пасляслоўях прыводзіцца імя Скарыны. Паводле моўных асаблівасцей спіс гэты — украінскі.

Яшчэ адзін рукапіс са збораў гр. Талстова зафіксаваў П. Уладзіміраў [10]. Гэта — спіс XVI ст. выданняў Скарыны («Прытчы», «Прамудрасць», «Песня песняў», «Эклезіяст» і «Ісус Сірахаў») з яго прадмовамі, пасляслоўямі, імем першадрукара. Да таго ж часу адносіцца і рукапіс М. П. Пагодзіна — спіс скарынаўскай кнігі «Ісус Сірахаў».

У рукапісным зборніку XVI ст., выяўленым у Сафійскай бібліятэцы ў Ноўгарадзе, быў спіс кнігі «Іоў» [11]. Спіс, змешчаны ў канцы зборніка, досыць дакладна перадае тэкст скарынаўскага друку.

Вельмі значная з'ява рукапіснага пашырэння выданняў Скарыны ў XVI ст.— пераклады амаль усіх прадмоў Скарыны да яго кніг Бібліі (выключэнне складаюць кнігі «Плач Ераміі» і «Данііл»), якія ўвайшлі ў спіс поўнай Генадзьеўскай біблії. Выкананы пераклады «ў паўночна-ўсходняй Расіі» [12] не пазней 1570 г. І хоць перакладчык не ўпамінаў імя Скарыны і перарабіў некаторыя мясціны ў прадмовах, рукапіс даносіў да чытача, па сутнасці, усю маральна-этычную і асветніцкую сістэму беларускага культурнага дзеяча.

Менш зафіксавана спісаў, зробленых у XVII ст. П. Уладзіміраў адзначае [13] зборнік Маскоўскай сінодскай бібліятэкі, у які ўвайшло 10 раздзелаў першай кнігі «Царстваў» з прадмовай Скарыны, падпісанай яго імем, рукапіс Румянцаўскага музея,

---

[7] Анічэнка У. В. Скарынінскія традыцыі на Украіне // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 267—269.

[8] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 220—221.

[9] Калайдович К., Строев П. Обстоятельное описание славянороссийских рукописей, хранящихся в Москве в библиотеке... графа Федора Андреевича Толстова. М., 1825. С. 238. Тут апісаны рукапісы пераважна з Архангельскай бібліятэкі.

[10] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 219—220; яго ж. Обзор южнорусских и западнорусских памятников письменности. С. 29.

[11] Абрамович Д. Описание рукописей Спб. Духовной Академии: Софийская библиотека. Спб., 1910. Т. 3. С. 313.

[12] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 242.

[13] Там жа. С. 219.

які ўключае спісы пяці кніг Майсея, «Данііла», «Ісуса Навіна», «Юдзіф» і «Эсфір», і спіс Царскага (гр. Уварава). Апошні змяшчае першыя тры кнігі Пяцікніжжа, скарынаўскі тэкст якіх зменен паводле царкоўнаславянскага ўзору.

Дыскусійным застаецца зборнік XVII ст., які трапіў у XIX ст. у Віленскую публічную бібліятэку з Супрасльскага манастыра. У гэтым рукапісе акрамя Палеі і розных іншых матэрыялаў ёсць дзевяць кніг Старога запавету (і паўтор апошняга раздзела «Прытчаў Саламона»). У ліку гэтых кніг — Псалтыр з прадмовай Скарыны. З яго пачынаецца зборнік. Ф. Дабранскі досыць катэгарычна сцвярджае: «Мова як прадмовы, так і самога Псалтыра звычайная скарынаўская, г. зн. беларуская»[14]. Далей ён зазначае, што за прадмовай у зборніку ідзе не сам Псалтыр, а іншыя матэрыялы, пісаныя ўжо іншай мовай[15]. Затым — кнігі Біблії, у якіх зноў захоўваецца мова перакладаў Скарыны. Почырк жа і ў біблейскіх і ў іншых творах адзін і той жа. Гэтыя аргументы прыводзяць даследчыка да вываду, што ўсе кнігі Біблії з'яўляюцца спісам скарынаўскіх. Так лічыць і Я. Карскі[16]. П. Уладзіміраў[17], аднак, мяркуе, што гэтыя кнігі перакладзены з яўрэйскай мовы («почырк», на яго думку, адносіцца тут да розных часоў). Толькі Псалтыр і прадмова да яго скарынаўскія. Зрэшты, П. Уладзіміраў лічыў, што і ў іншых кнігах Біблії з гэтага зборніка адчуваецца моцны ўплыў выданняў Скарыны.

Ідэйнае, культурна-мастацкае ўздзеянне выданняў Скарыны на рукапісную творчасць той эпохі выяўлялася ў трактоўцы тэкстаў «Свяшчэннага пісання», тыпу прадмоў і пасляслоўяў, арыентацыі на народную моўную стыхію свайго рэгіёна.

---

[14] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки. Вильно, 1882. С. 442.

[15] Там жа. С. 442—443.

[16] Карский Е. Ф. Обзор звуков и форм белорусской речи. М., 1886. С. 161.

[17] Владимиров П. Доктор Франциск Скорина. С. 239—241; яго ж. Обзор южнорусских и западнорусских памятников письменности. С. 30—31.





*У. Г. КАРОТКІ (Мінск)*

# ТЫПАЛОГІЯ ПРАДМОЎ І ПАСЛЯСЛОЎЯЎ БЕЛАРУСКІХ ПАСЛЯДОЎНІКАЎ СКАРЫНЫ

Да апошніх дзесяцігоддзяў мала месца ўдзялялася ў літаратуразнаўстве прадмовам і пасляслоўям XVI—XVII стст. як помнікам літаратуры. Толькі ў 60-я гады XX ст. рускія і польскія даследчыкі паклалі пачатак рэгулярнаму літаратуразнаўчаму вывучэнню гэтага віду пісьмовай творчасці [1]. Буйнамаштабна тэматыка і стылістыка прадмоў і пасляслоўяў разглядаецца ў калектыўнай працы савецкіх даследчыкаў [2], дзе, дарэчы, спецыяльны раздзел прысвечан беларускім прадмовам і пасляслоўям XVI—XVII стст. [3] Асобныя прадмовы і пасляслоўі здаўна ўводзіліся ў гісторыка-літаратурны ўжытак, аднак з пункту погляду архітэктонікі яны (у тым ліку прадмовы і пасляслоўі Ф. Скарыны) не даследаваліся. Даследаванне ж прадмоў і пасляслоўяў у іх цэласнасці дазваляе не толькі па-новаму паглядзець на іх як на спецыфічны жанр літаратуры, але і больш шырока раскрыць гісторыка-культурны пласт той ці іншай эпохі.

Прадмовы да кніг — не адкрыццё XVI ці XVII ст. Як спецыфічны літаратурны жанр яны існавалі ў старажытнасці, існуюць і ў наш час. Такім чынам, гэта адзін з самых «жывых» літаратурных жанраў. Аднак функцыя прадмоў і пасляслоўяў, накіраванасць, ступень камунікатыўнасці, іх архітэктоніка не былі застылымі. Іх жанравая «нарматыўнасць», этыкетнасць залежалі і ад кнігі, якой яны прадпасылаліся, і ад часу, і ад існуючай узаемасувязі: аўтар прадмовы — кніга — чытач. Розныя кнігі, вядома, абслугоўвалі розныя колы чытачоў.

Беларускія прадмовы і пасляслоўі XVI—XVII стст., іх архітэктоніка — вынік прадуктыўных кантактаў асветнікаў Беларусі з еўрапейскай культурай кнігадрукавання. Грамадска-культурная сітуацыя таго перыяду, адзначаная спалучэннем рэнесанса-

---

[1] Робинсон А. Н. Историография славянского Возрождения и Паисий Хилендарский: Вопросы литературно-исторической психологии. М., 1963. С. 12; Czekajewska A. Kultura umysłowa Polski XVI wieku w świetle listów dedykacyjnych // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Warszawa, 1965. Z. 7. S. 47—106.

[2] Русская старопечатная литература XVI — первая четверть XVIII в.: Тематика и стилистика предисловий и послесловий. М., 1981.

[3] Итигина Л. А. Белорусские старопечатные предисловия XVI — первой половины XVII в. (просветительные тенденции) // Там жа. С. 12—26.

вых і барочных элементаў, выкліканых рухам рэфармацыі і контррэфармацыі, садзейнічала больш інтэнсіўным пошукам адпаведных формы і зместу таго ці іншага жанру. Нагадаем слушнае назіранне Л. І. Сазонавай пра форму прадмоў і пасляслоўяў у залежнасці ад характару кнігі: «Прадмовы і пасляслоўі да граматык і буквароў набліжаюцца да філалагічных трактатаў; прадмовы, напісаныя да палемічных сачыненняў, таксама палемічна завостраны... форму багаслоўскага, літургічнага трактата маюць прадмовы, складзеныя да царкоўна-багаслоўскіх кніг» [4].

У сувязі з гэтым паўстае яшчэ адно вельмі важнае пытанне: што іменна трэба ўключаць у прадмоўна-пасляслоўны комплекс? Выяўлены намі корпус друкаваных беларускіх твораў XVI—XVII стст. дазваляе зрабіць наступную структурную класіфікацыю гэтага комплексу: эпіграма, прысвячэнне, непасрэдная прадмова да кнігі, пасляслоўе-малітва, пасляслоўе. Да іх прымыкае пазалітаратурны кампанент — герб-гравюра, дзе славесная сімволіка эпіграмы матэрыялізуецца выяўленча-мастацкімі сродкамі. Гэта зусім не значыць, што ўсе названыя вышэй элементы паўтараюцца ў кожнай асобнай кнізе.

Звернемся да кожнага з выдзеленых элементаў прадмоўна-пасляслоўнага комплексу паасобку. Эпіграма як такая па меншай меры мела двайное прызначэнне: гербатлумачальнае (больш распаўсюджанае) і дыдактычна-асветніцкае (сустракаецца значна радзей). Прыкладна з канца XVI ст. эпіграма становіцца этыкетна неабходным элементам прадмоўна-пасляслоўнага комплексу, хоць і не абавязковым.

Яркім прыкладам першага тыпу эпіграм — эпіграма Казьмы Іванавіча Мамоніча на герб Сімяона Войны ў Евангеллі 1595 г.

Яко досыт значне трубы нам оповѣдают, —
врѣмя брани и врѣмя побѣды людіе знают.
Паче же троегласно и троеполчьно рядимо,
послушно строителю. Воистину непоѣдимо!
Происходища же троеречна быстро текущи
нетры ест кормьчых, но единого имущи.
Что плаваніе? Разве бо преподобіе всяко
в дому твоем? Дары дает бог не всим единако.
Пентекерас — называют пять рог. Ясна бывает
над иншие звезды, ясность болшую в собѣ мает.
Лелива, вонно носяще, бела и красна зрачна —
в дому том благо. Благо дѣ изобилна людем ест значна.
Что ж паче мысленныя трубы? Мысленныя реки,
в православіи цвѣтуще, — не оскудѣют навѣки.

Гэты тып эпіграм у адрозненне ад другога тыпу мае і свой спецыфічны набор загалоўкаў: «эпіграма на герб...», «на старожитный клейнот их милости... эпиграма», «на стародавный и преславный герб...», «на герб его милости пана...» і г. д. Першы

[4] Сазонова Л. И. Украинские старопечатные предисловия конца XVI — первой половины XVII в. (особенности литературной формы) // Там жа. С. 174.

тып эпіграм сваім зместам адрозніваецца ад асноўнага прадмоўна-пасляслоўнага комплексу і мае ярка выражаны панегірычны характар.

Другі тып эпіграм звычайна і па зместу, і па стылістыцы непасрэдна звязан з прадмоўна-пасляслоўным комплексам: тут даюцца асноўныя пасылкі, якія потым будуць раскрыты ў астатніх элементах (ці элеменце) комплексу. Прыклад такога тыпу эпіграм — вершаваны ўступ да «Апокрысіса» Хрыстафора Філалета «Книжка до минаючих мовит»:

Почто новых вещей вѣдѣти желаете,
нову вещ, мене имѣя, презираете?
Отвѣт к римляном православных содержаще,
иже егда прежде вѣру цѣлу имяше.
И не уничиженны отец преданіа,
все бяху тогда желающе молчаніа.
Ныне, егда повинныі въ всѣх створяют,
писаніем же и властію попирают
Вѣру. И, не хотя по нужди глаголати,
Мною на клеветы въкратцѣ отвѣщати.
Купи, читай, разъсуждай, брате и тщателю,
повинни ли, повѣжд, се к благодателю?
Превышному с покаяніем възвратятся,
узриши ли, яко неповинни явятся?
Желательнаго приклоненія по тебѣ
и любовныя же помощи чают себѣ.

Найбольш складаныя па архітэктоніцы прысвячэнні. Як правіла, яны адрасаваліся буйным беларускім магнатам, мецэнатам кнігадрукарскай справы, ці высокім царкоўным саноўнікам: Радзівілам, Хадкевічам, Саламярэцкім, Агінскім, Сапегам, Барэцкім і інш. Прысвячэнне не мае ўстойлівай жанравай структуры. Сюды ўключаюцца і біяграфічна-панегірычны, і багаслоўска-дыдактычны, і гісторыка-палітычны, і асветніцка-прагматычны моманты. Аўтар ці аўтары імкнуліся да стварэння не матэрыялізаванага вобраза, а вобраза-сімвала. У якасці адрасатаў выбіраліся асобы, чыя радавітасць ці дзейнасць мела сімвалічнае значэнне для нацыі. «Колькі б нацыя за сваю гісторыю ні нарадзіла герояў, колькі б ні здзейсніла подзвігаў,— адзначае А. М. Панчанка,— гэта заўсёды адзінкавыя людзі і адзінкавыя падзеі» [5].

Прысвячэнне — кандэнсат «вечных» маральных ідэй. У час Адраджэння і барока мастацкім матэрыялам для пісьменнікаў служылі не толькі нацыянальныя асобы-сімвалы і падзеі-сімвалы, але і вобразы, якія прайшлі «апрабацыю» стагоддзямі. Так, даволі часта фігуруюць у прысвячэннях Фемістокл, Пталамей, Аляксандр Македонскі, біблейскія персанажы Аўрам, Лот, Іосіф, Майсей, Данііл і інш. Са старонак прысвячэнняў перад намі

[5] Панченко А. М. Топика и культурная дистанция // Историческая поэтика: Итоги и перспективы изучения. М., 1986. С. 246.

паўстаюць абстрактна-сімвалічныя вобразы Яна Замойскага як мудрага кіраўніка, «оборонцы вѣры православное» Канстанціна Астрожскага, «твѣрдшего, нѣж камѣнь діамантовый» Лявонція Карповіча, «великославных» Саламярэцкіх, «наслѣдника пророцѣв и апостолов» ерадыякана Віталія, «вѣчне трвалое паметки годного» і інш. Своеасаблівая арэольнасць іх вобразаў наштурхоўвала чытача на аддаленыя гістарычныя і псеўдагістарычныя асацыяцыі.

Напрыклад, у прысвячэнні да «Новага запавету» (Еўе, 1641), адрасаваным надворнаму харунжаму Вялікага княства Літоўскага Аляксандру Агінскаму, аўтары, іграючы на паралелі двух Аляксандраў, згадвалі пра любоў Аляксандра Македонскага да кніг: «Давнѣйших оных вѣков, люде, правят, велможный а нам велце милостивый пане и добродѣю, о оном на вес свѣт славном великом Александрѣ, которому, гды одного часу один з жолнѣров его з скарбници Даріа звитяжоного скриночку предивным мистерством зробленую а золотом и каменми дорогоцѣнными одвсюды приоздобленую, вмѣсто особливого подарунку оддал и офѣровал; до рук своих оную принявши, за годный подарок маестатови своему быти осудил и для того ж в ней книги Гомеровыи, которыи он рад читал и за напреднѣйшого вожа житію своему и в речах военных, поспѣху, ховал» [6]. Відаць, гэту звестку аўтар прысвячэння запазычыў у Плутарха, аўтара на Беларусі вядомага і шырока цытуемага: «... спіс «Іліяды», выпраўлен Арыстоцелем і вядомы пад назваю «Іліяда са скарбонкі», ён (Аляксандр Македонскі.— *У. К.*) заўсёды меў пры сабе, захоўваючы яго пад падушкаю разам з кінжалам, як пра гэта паведамляе Анесікрыт» [7].

Гаворачы пра структуру прысвячэнняў, нельга не згадаць і пра тое, што нярэдка, праслаўляючы «дзелносці» герояў, аўтары тэзісна раскрывалі свае погляды на важныя літаратурна-эстэтычныя праблемы. Паказальнае ў гэтых адносінах прысвячэнне Мялеція Смятрыцкага да перакладзенага ім «Евангелля вучыцельнага» (Еўе, 1616) Ганне Хадкевіч: «Бачный и мудрый казнодѣя не славы з быстрости довтѣпу своего у слухачов, але самого, в збавеню их, пожитку шукати, и на оную, выбраного начиня божого, повѣст, иж пят слов выразумѣным нѣж тмами непонятым языком (в науце звлаща до народа) мовити пожитечнѣйшая реч ест, помнѣти повинен» [8].

Прадмова да кнігі — цэнтральная і, бадай, самая абавязковая частка прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. Назвы яе самыя розныя: «предмова», «предисловие книги сея», «предмова ко читателю», «до читателя», «к правовѣрному читателю», «до чителника хутливого», «до чителника побожного» і г. д. Асноў-

---

[6] Новый завѣт... Еве, 1641. Л. 3.

[7] Плутарх. Сравнительные жизнеописания: Александр и Цезарь. Александр // Соч. М., 1983. С. 53.

[8] Евангеліе учителное... Еве, 1616. Л. 4.

нае месца ў ёй адводзіцца моманту тлумачальнаму. Звычайна тут аўтары ці аўтар уводзяць чытача ў кола самых розных паняццяў, тэрмінаў, закранаюць пытанні актуальнасці выдання, яго кампазіцыі. У прадмовах да твораў палемічнага напрамку абавязкова прысутнічае момант палітызацыі. Ёсць выпадкі, калі палемічны характар, вострую публіцыстычнасць набываюць прадмовы і да богаслужэбных кніг, як, скажам, прадмова Васіля Цяпінскага да Евангелля ці прадмова Матвея Кавячынскага, Сымона Буднага і Лаўрэнція Крышкоўскага да Катэхізіса. Звычайна ж у прадмовах да богаслужэбных кніг назіраецца традыцыйная форма мастацкага мыслення. Зыходзячы з сярэдневяковых уяўленняў пра этыкетнасць жанру, аўтар тут не імкнецца да адкрыцця новых ісцін, нязвычных для чытача паваротаў думкі, самастойных разважанняў. Тэзісы аўтара або падмацоўваюцца цытатамі з Бібліі ці айцоў царквы, або будуюцца шляхам іх самага living спалучэння. Ва ўсякім выпадку можна выдзеліць тры спосабы выкарыстання тэкстаў «Свяшчэннага пісання» у прадмоўна-пасляслоўным комплексе: а) цытаванне з указаннем на крыніцу; б) цытаванне без указання на крыніцу; в) пераказ адпаведнага месца па памяці.

Этыкетным, хаця зноў жа не абавязковым элементам прадмоўна-пасляслоўнага комплексу можа быць вылучана малітва-пасляслоўе. Назвы яна не мае. Часцей за ўсё гэта кананічная ці свабодна выкладзеная малітва. Прывядзём яркі прыклад такога ўзору — малітву-пасляслоўе з «Дыоптры» (Еўе, 1612). «О всесильный и неизреченный боже, в трех съставах от всея твары покланяемый и славимый. Ты еси всякое благодати начало и вина, поспѣшеніе же и съвершеніе, благоволил убо сію книгу благочестивому россійскому роду на ползу душевную даровати, якож и нынѣ твоим человѣколюбіем в пристанище съвершенія достигохом, душа, колѣнѣ прекланяюще и главами нашыми в землю ударяюще, с слезами радости славим и превозносим твое пресвятое и прехвальное имя отца и сына и святого духа».

У XVI—XVII стст. найбольш кароткім па форме ў гэтым комплексе было пасляслоўе. Яго загалоўкі нагадваюць загалоўкі прадмоў: «До чителника», «Перестрога до ласкавого чителника», «Слово ко читателем» і інш. У пасляслоўі можна выдзеліць некалькі структурна-стылявых асаблівасцей. Адна з іх — зварот да «пабожнага чытэлніка» аб «благаславенні». Тут звычайна ідзе гаворка пра памылкі, незалежныя ад волі аўтара: «понеж трудися ни бо дух, ниж аггел, но человѣк грѣшен и руки бренныя, да и сами прощенія и благословенія от вседержителя бога сподобитеся». У пасляслоўі мог прысутнічаць і элемент малітвы: «Давшему богу начати и съвершити благоизволившему — слава и вселепіе. Чест и покланеніе отцу и сыну и святому духу во вѣки вѣков, аминь».

Другі тып пасляслоўя набліжаецца да своеасаблівай рэдактарскай даведкі пра памылкі. Тут няма абстрактных разважан-

няў пра чалавечую «крэўнасць», але ідзе гаворка пра «недазорства» друкароў і карэктараў. Такі тып пасляслоўя — у «Евангеллі вучыцельным» патрыярха Каліста (Еўе, 1616).

Такім чынам, прадмоўна-пасляслоўны комплекс уяўляе сабой бліскучы ўзор сярэдневяковай публіцыстыкі. Сінкрэтычны паводле сваёй літаратурнай формы, ён адкрываў шырокія шляхі творчасці. Акрамя таго, беларускія прадмовы і пасляслоўі XVI—XVII стст. выконвалі своеасаблівую ролю пропаведзі. Нагадаем, што ў праваслаўнай царкве, калі не браць пад увагу тэксты дамангольскай пары і бліжэйшай да іх эпохі, не было яшчэ агульнапрынятай схемы. Адсюль і гэта немалаважная роля прадмоўна-пасляслоўнага комплексу: ён не толькі выконваў функцыю прадстаўлення тэксту, але ўяўляў сабой маральна-эстэтычную праграму таго ці іншага апалагета пэўнага лагера (ці мецэната), які санкцыянiраваў дадзенае выданне.





*Л. У. ЗВАНАРОВА (Масква)*

# ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-ПРАГРАМНАЯ РОЛЯ ПРАДМОЎ У КНІГАХ СКАРЫНЫ І БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ XVI—XVII стст.

Літаратурна-публіцыстычная творчасць Ф. Скарыны садзейнічала росквіту жанру прадмовы ў беларускай літаратуры другой палавіне XVI—XVII ст. Адмовіўшыся ад ананімных, стандартна-этыкетных прадмоў і пасляслоўяў сваіх папярэднікаў, усходнеславянскі першадрукар значна пашырыў іх ідэйна-мастацкія магчымасці, выявіў у іх высокі філасофска-асветніцкі, навукова-пазнаваўчы і маральна-этычны сэнс. У яго творчасці пачалася функцыянальная дыферэнцыяцыя гэтага жанру, зафіксаваная ў тэрміналагічным размежаванні «предсловий» і «сказаний». Першыя з іх вызначаюцца не толькі адносна большым памерам, але і пэўнай самастойнасцю, аўтарскай канцэптуальнасцю.

Прадмовы як каштоўныя помнікі гісторыі філасофскай думкі і старадаўняй айчыннай літаратуры разглядалі У. М. Перәтц[1], А. М. Рабінсон[2], А. С. Дзёмін[3], Л. І. Сазонава[4], Л. А. Іцігіна[5]. Як адзначае Л. А. Сафронава, тагачасны пісьменнік, перш чым запрасіць чытача паглыбіцца ў кнігу, ставіў перад ім пэўную задачу-праграму, тлумачыў яе сэнс, накіроўваў яго «на правільны шлях, паказваў магчымасць успрымання твора»[6].

У беларускіх, украінскіх і польскіх выданнях XVI—XVII стст. клопаты пра чытача і лёс кнігі нярэдка прыводзілі да таго, што з'яўляліся кнігі з дзвюма або нават трыма прадмовамі. На гэту традыцыю арыентаваўся Сімяон Полацкі, які пачаў сваю кнігу

---

[1] Перетц В. Н. Историко-литературные исследования и материалы. Спб., 1900. Т. 1. С. 119.

[2] Робинсон А. Н. Историография славянского возрождения и Паисий Хилендарский. М., 1963.

[3] Демин А. С. Литературное значение русских старопечатных книг XVI—XVII в. // Русская и печатная книга. М., 1975. С. 121—127.

[4] Сазонова Л. И. Украинские старопечатные предисловия конца XVI — первой половины XVII в. // Русская старопечатная литература XVI — первая четверть XVIII в. М., 1981.

[5] Итигина Л. А. Белорусские старопечатные предисловия XVI — первой половины XVII в. (просветительные тенденции) // Там жа.

[6] Софронова Л. А. Польские старопечатные предисловия XVI—XVII вв. (литературные и филологические функции) // Русская старопечатная литература XVI — первая четверть XVIII в. С. 102.

«Псалтыр рыфмаваны» трыма прадмовамі празаічнай і двума вершаванымі.

Элементы рытмічнай арганізацыі прозы заўважаюцца ў адным з першых публіцыстычных выступленняў Ф. Скарыны — у прадмове да кнігі Псалтыр. Тут першадрукар шырока выкарыстаў разнастайныя стылістычныя прыёмы — падваенні, анафары, градацыі, супастаўленні: «Псалом ест щит против бессовскым нощьным мечтанием и страхом... Псалом ест всея церькви единый глас... Псалом жестокое сердце мягчить... Псалом ест ангельская песнь...» [7] Гэтай жа мэце служаць рытарычныя пытанні, умела размешчаныя па прынцыпу ўзыходзячай градацыі: «И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нет ли там величества божия и хвалы его?» [8]

Зусім заканамерна, што ў прадмове да сваёй наступнай кнігі «Іоў» Ф. Скарына пераходзіць ад рытмічнай прозы да вершаванага фрагмента, які можна разглядаць як своеасаблівы эпіграф-прысвячэнне:

Богу в троици единому ко чти и ко славе,
Матери его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым его к веселію,
Людем посполитым к доброму научению. [9]

Гэтыя кніжкі Ф. Скарыны выйшлі ў свет у 1517 г. А праз пяць гадоў М. Гусоўскі таксама пачаў сваю паэму «Песня пра зубра» вершаваным эпіграфам-прысвячэннем, звернутым да каралевы Боны. Непасрэдна за ім пачыналася празаічная прадмова праграмна-публіцыстычнага зместу.

Звернем увагу яшчэ на адну асаблівасць: змешчаныя ўнутры празаічных прадмоў вершы Ф. Скарыны маюць вучэбна-дыдактычны, прыкладны характар. Вольны пераказ у вершах дзесяці старазапаветных запаведзей («прыказанняў») у прадмове да кнігі «Другі закон» лёгкі для запамінання, а разгорнутая павучальная прымаўка да кнігі «Эсфір» блізкая да лаканічнай маралі з байкі:

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснеш на ней. [10]

У тым жа духу вершаваных павучанняў вытрымана трэцяя, вершаваная, прадмова Сімяона Полацкага да «Псалтыри рифмотворной»:

Чти, пой разумно, хвали ими бога,
От него же мзда будет тебе многа. [11]

---

[7] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 10.
[8] Там жа.
[9] Библия Скорины: Книга светого Иова. Прага, 1517. Л. а̃.
[10] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі . С. 109.
[11] Симеон Полоцкий. Избр. соч. М.; Л., 1953. С. 216.

Следам за Ф. Скарынам і М. Гусоўскім філолаг і педагог Л. Зізаній пачынае свой падручнік славянскай граматыкі дзвюма прадмовамі. Яго верш-прадмова мае назву «Эпіграмма на грамматіку», а празаічная прадмова змяшчае, як і ў М. Гусоўскага, непасрэдныя звароты («о, друзіи...»); яна вытрымана ў стылі «эпістолы», пра што сведчыць яе назва: «Посланіе спудеом изрядным и всем любителем доброглаголиваго и пространьнаго словеньскаго языка...» [12]

Гэту традыцыю працягваў Сімяон Полацкі, далучаючы да кожнага свайго твора прадмовы (падрабязную празаічную да «Вертограда многоцветного», тры да «Псалтыри рифмотворной», вершаваныя прадмовы да «Рифмологиона» и «Букваря»). Праграмны і завершаны характар верша-прадмовы да буквара дазволілі пісьменніку выкарыстаць яго і па-за утылітарнымі мэтамі — уключыць як самастойны твор у зборнік «Рифмологион». Следам за беларускім першадрукаром звяртаўся Сімяон да жанру пасляслоўяў.

У беларускіх выданнях XVI—XVII стст. сустракаюцца прадмовы двух тыпаў. Да першага тыпу адносяцца навучальна-асветніцкія прадмовы, блізкія да жанру ўзнёслага «казання» (прапаведзі), пазбаўленага магчымасці паведаміць якія-небудзь біяграфічныя факты пра аўтара ці выдаўца. Яны звернуты да значнага кола людзей («учителям школьным», «людем посполитым», «спудеом изрядным», «всем любителем словенскаго языка») [13]. У прадмовах другога тыпу пераважае свецкі змест, часта з канкрэтным зваротам да ўплывовых «уладароў», паведамленнем пэўных фактаў біяграфіі пісьменніка, з рэкамендацыямі і просьбамі, у якіх тлумачыцца яго аўтарская пазіцыя.

У прадмовах Сімяона Полацкага гэтыя дзве разнавіднасці сінтэзуюцца. Следам за М. Гусоўскім вершаваным прысвячэннем пачынае ён «Псалтырь рифмотворную». Аднак другая прадмова да гэтай кніжкі звернута да шырокага чытача. Тут пісьменнік называе свае ранейшыя творы, апавядае пра тое, што прывяло яго да намеру здзейсніць вершаваны пераклад псалмоў. Прыгадаем, што раней і М. Гусоўскі ў прадмове пазнаёміў чытачоў з гісторыяй напісання паэмы пра зубра. Узнёслыя словы Сімяона пра «взыскание божественных писаний глубочайшаго разума и в них умных сокровищ» [14] пераклікаюцца з думкамі Ф. Скарыны ў яго прадмове да Псалтыра, дзе таксама бачыцца ў гэтай кнізе «сокровище всих драгых скарбов» [15].

Прадмова Ф. Скарыны да Псалтыра вытрымана ў панегі-

---

[12] Грамматика словенска съвершеннаго искуства осми частий слова и иных нуждных. Ново съставлена Л. З. В Вилни, 1596. С. 2.

[13] Короткий В. Г. Традиции Ивана Федорова в белорусской литературе конца XVI — первой половине XVII в. // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984. С. 192.

[14] Симеон Полоцкий. Избр. соч. С. 212.

[15] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 10.

рычна-асветніцкім стылі. А. Сімяон Полацкі ў дадзеным выпадку звяртаецца да чытача дзеля таго, каб апраўдаць свой codeшаваны пераклад кананічнай біблейскай кніжкі, растлумачвае прычыны, якія прымусілі яго ўзяцца за такую нялёгкую і для свайго часу смелую справу. Тлумачэнне прычын выдання было ў пэўнай ступені традыцыйным у старабеларускім пісьменстве. У прадмове да куцеінскага выдання «Гісторыі пра Варлаама і Іасафа» (1637) Іасаф Палоўка, які пераклаў аповесць з грэчаскай мовы на беларускую (пазней Сімяон Полацкі выдаў гэту кнігу ў Маскве), называе аж восем прычын, што прымусілі яго выдаць твор [16]. Даказана, што ў аснову маскоўскага выдання першага ў Расіі твора белетрызаванага зместу, блізкага да раманнага жанру, было пакладзена беларускае выданне Куцеінскай друкарні [17].

Сімяон Полацкі прадбачыў папрокі за свой надта вольны пераклад кананічнага твора. Ён некалькі разоў адзначае ў прадмове, чым выкліканы «изменения некии». Прыгадаем фрагмент трэцяй прадмовы пісьменніка да «Псалтыри рифмотворной»:

Тем не дивися, видя ино слово,
розум един есть, речение ново
светлости ради ли за нужду меры:
толк отверзает всех сокровищ двери. [18]

Тут — перыфраза вядомай новазапаветнай метафары «ключ разумення». Згадаем, што яе выкарыстаў І. Галятоўскі ў назве свайго вядомага твора па гамілетыцы. У адным з дрэварытаў да «Грамматики» Л. Зізанія (1596) яна ўвасоблена ў вобразе жанчыны з ключом пазнанняў у руках, якая алегарычна выяўляе тагачаснае разуменне «Граматыкі». У вершаванай прадмове да кнігі Л. Зізаній тлумачыць гэту эмблему такім чынам:

Ключем бо ест отворяючи всем ум,
к познанію в преправый разум.
По которой власне як по входе пойдет
Кажды если хочет всех наук дойдет.

А крыху ніжэй, у прадмове, пад назвай «Посланіе спудеом» Л. Зізаній яшчэ раз звяртаецца да гэтага алегарычнага вобраза «Граматыкі»: «Она ест ключем выразуменю, отворяючи и оказуючи всякіи вунтпливости, а приоздобляючи и светлый чинячи розум человечій» [19].

Словы «ум», «разум», «разумно» — ключавыя для трэцяй, вершаванай, прадмовы Сімяона Полацкага да «Псалтыри риф-

[16] Лукьяненко В. И. Каталог белорусских изданий кириллического шрифта XVI—XVII вв. Л., 1975. Вып. 2 (1601—1654). С. 142.
[17] Киселев Н. П. О московском книгопечатании // Книга. М., 1968. Сб. 2. С. 168.
[18] Симеон Полоцкий. Псалтырь рифмотворная. М., 1680. Л. 6 адв.
[19] Зизаний Л. Грамматика словенска... С. 3.

мотворной», яны праходзяць праз увесь твор: «молютя, здравым умом да судиши», «розума един ест, речение ново», «не слов ловитель, но ума искатель», «токмо прилежно разсуждати требе», «стихов мерою от муж умудреных» і г. д.[20]

Калі ў прадмове Ф. Скарыны да Псалтыра ўвага акцэнтуецца на ідэйна-сэнсавым значэнні слоў «навука» і «вучэнне» (яны ў невялікім па памеру тэксце сустракаюцца каля дзесяці разоў), то ў прадмовах Л. Зізанія да «Граматыкі» пераважаюць блізкія Сімяону Полацкаму паняцці «ум», «розум» (словы з гэтым коранем сустракаюцца дзесьці восем разоў). Лексічны аналіз прадмоў Ф. Скарыны, Л. Зізанія і Сімяона Полацкага сведчыць пра тое, што ў айчыннай літаратуры з канца XVI ст. адчуваецца нарастанне рацыяналістычнага пачатку.

Звяртаючыся да чытачоў, Л. Зізаній папярэджвае аб неабходнасці пераадолець зайздрасць: «Преч зависть и ненависть отложивши, мою малую працу любезно пріймете...»[21] Гэту тэму пазней разгорне Сімяон Полацкі:

Не завидящым подражатель буди,
им же чуждии сердце гризут труди.
Иже блага за зависть хухнают,
совесть поправше, вся уничижают.[22]

Сімяон Полацкі следам за Л. Зізаніем імкнецца данесці да чытача павагу да літаратурнай працы. Ён просіць яго судзіць твор «здравым умом» і заклікае: «...Тем благодарно прими труды сия»[23]. Тут пісьменнікі канца XVI—XVII стст. працягвалі думку Ф. Скарыны пра сацыяльную і духоўную каштоўнасць працы пісьменніка і выдаўца. Чалавек сціплы і далікатны, беларускі першадрукар, бадай, упершыню ў айчыннай кніжнай культуры не пабаяўся паўтараць у прадмовах да ўсіх кніжак, што яны з'явіліся на свет «працею и выкладом избранного мужа»[24].

Пра сваё аўтарства заяўляў таксама Сімяон Полацкі. Нягледзячы на «прыніжальную» этыкетную формулу гэтых прыпісак пра аўтарства («Симеон Полоцкий иеромонах недостойный»), пісьменнік даводзіў да чытача думку пра творчую сутнасць працы пісьменніка. Зусім невыпадкова ён назваў пасляслоўе да сваёй кніжкі «Гусль доброгласная» словамі «Желание творца».

Адзначым аналагічную думку ў прадмове М. Гусоўскага да паэмы «Песня пра зубра». Звяртаючыся да каралевы Боны, ён пераконвае яе: «Калі станеш добразычлівай да пісьменнікаў і схільнай да апекі навук і мастацтваў, то «тады будзе і дзяржа-

[20] Симеон Полоцкий. Псалтырь рифмотворная. Л. 6—6 адв.
[21] Зизаний Л. Грамматика словенска... С. 4.
[22] Симеон Полоцкий. Псалтырь рифмотворная. Л. 6 адв.
[23] Там жа. Л. 6—6 адв.
[24] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 15, 21, 26, 30, 34 і інш.

ве вялікая карысць, а высокая слава твайго імя распаўсюдзіцца такім шляхам яшчэ вышэй разам з пахваламі тваіх выхаванцаў» [25]. На думку даследчыка творчасці паэта В. Дарашкевіча, багаты літаратурны вопыт выдатнага новалацінскага паэта паўплываў на творчасць пісьменнікаў другой палавіны XVI—XVII стст., у тым ліку на Сімяона Полацкага [26]. У адным з вершаў Сімяон развівае сваіх папярэднікаў:

Ничто бо тако славу разширяет,
Яко же печать, та бо разношает
Везде и веком являет будущим
Во книгах многих и за морем сущим. [27]

Цікава адзначыць, што Ф. Скарына, М. Гусоўскі і Сімяон Полацкі звярнулі ўвагу на аднаго і таго ж героя сусветнай гісторыі — Аляксандра Македонскага. Імёны выдатных дзяржаўных дзеячаў і палкаводцаў мінуўшчыны далі пісьменнікам падставу для гаворкі пра суадносіны палітычнай магутнасці дзяржавы і духоўнага ўзроўню яе грамадзян Ф. Скарына выкарыстоўваў прыём антытэзы дабра і зла («добродеяние — злодеяние», «кохание — ненависть», «сгода — сварка», «правда — неправда», «свобода — рабство»), аднак не спыняўся на аналізе негатыўных з'яў сацыяльна-палітычнага жыцця свайго часу. М. Гусоўскі праецыраваў праблему духоўнасці на сучаснасць, калі звяртаўся да дзяржаўных кіраўнікоў з такімі словамі: «Дзяржава абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць — як грэкі, так і рымляне. Іх магутнасць квітнела найбольш тады, калі расцвіталі навукі. А як толькі пачалі нікнуць таленты, сілы іх згаслі, а з заняпадам апошніх абрушылася іх дзяржава і ўсталявалася рабства. Таксама і ў нас» [28].

Сімяон Полацкі быў упэўнены, што Расія таксама «славу разширяет не мечем токмо, но и скоротечным типом (друкаваннем. — *Л. З.*), чрез книги сущым многовечным». Разам з тым паэт выкрываў бездухоўныя тэндэнцыі на сваёй другой радзіме:

Но увы нравов! Иже истребляют,
    яже честныи трудове раждают.
Не хощем с солнцем мирови сияти,
    в тме незнания любим пребывати. [29]

---

[25] Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мн., 1980. С. 126—127.

[26] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979. С. 201.

[27] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 253.

[28] Гусоўскі М. Песня пра зубра. С. 52.

[29] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 253.

Ад асветніцкай праграмы і гістарычных прыкладаў да аўтабіяграфічнай споведзі, у якой сцвярджаліся духоўнасць, працавітасць і каштоўнасць чалавечай асобы,— такая логіка развіцця жанру прадмовы. З вершаванай прадмовы Сімяона Полацкага да зборніка вершаў «Рифмологион» мы даведваемся пра рэальныя факты з жыцця аўтара. Прадмова пачынаецца з гімна працы гараджаніна і селяніна. Асаблівай павагі, на думку аўтара, заслугоўваюць «трудники слова», якіх і апостал Павел «почитает, честь им сугубу дати увещает» [30]. Нагадаем, што да вобраза раннехрысціянскага асветніка Паўла часта звяртаўся Ф. Скарына, называючы яго «светым славным апостолом».

Гуманізм для ўсходнеславянскіх асветнікаў — гэта не толькі «стыль думкі», але і «стыль жыцця». Прадмовы Ф. Скарыны і яго паслядоўнікаў развівалі сістэму перадавых для свайго часу поглядаў, якія, паводле іх пераканання, неабходна ажыццяўляць у грамадскай і культурна-асветніцкай практыцы.

---

[30] Симеон Полоцкий. Избр. соч. С. 217.





*А. А. ЖЛУТКО (Мінск)*

## АНТЫЧНЫЯ ТРАДЫЦЫІ Ў ЛІТАРАТУРЫ РЭНЕСАНСУ І АСВЕТНІЦТВА НА БЕЛАРУСІ

Праблема антычных традыцый у літаратуры Беларусі неаднаразова закраналася ў працах нашых літаратуразнаўцаў і філосафаў. Аднак усебаковае яе асэнсаванне ўскладняецца многімі фактарамі, сярод якіх варта выдзеліць наступныя: шырокія храналагічныя рамкі ўздзеяння гэтых традыцый — ад XI ст. да нашых дзён; шматпланавасць і шматаспектнасць іх праяў; складанасць іх узаемадзеяння з нацыянальнымі літаратурнымі і фальклорнымі традыцыямі; функцыяніраванне антычных традыцый на Беларусі ў межах двух канфесійна-культурных комплексаў — рымска-каталіцкага і грэчаска-праваслаўнага; полілінгвальнасць літаратурнага працэсу на Беларусі ў пэўныя гістарычныя перыяды і інш.

Вычарпальнае асвятленне такой шматграннай праблемы магчыма толькі праз намаганні многіх даследчыкаў розных спецыяльнасцей. Таму намі тут закранаюцца толькі некаторыя аспекты праблемы, якія, на наш погляд, важныя для яе далейшай распрацоўкі. Абмяжуемся рамкамі двух перыядаў — Рэнесансу і Асветніцтва, кульмінацыйных пунктаў у засваенні антычнасці, калі традыцыяналізм яшчэ з'яўляўся дамінантай літаратурнай творчасці [1]. Акрамя таго, паміж ідэалогіяй і эстэтычнымі ўстаноўкамі гэтых дзвюх эпох існуе цесная сувязь і пераемнасць.

Наша ўвага засяроджана на новалацінскай паэзіі, у якой антычныя традыцыі былі найбольш моцнымі і ўстойлівымі. Але адначасова яна па сваёй большай распрацаванасці і дынамізмv першай успрымала новыя эстэтычныя ідэі.

Як эпоха адраджэння антычнасці Рэнесанс у Еўропе свядома арыентаваўся на засваенне антычнай спадчыны. «Адкрываліся» забытыя антычныя творы, выдаваліся старажытныя рукапісы, узрастала цікавасць да антычнай міфалогіі і гісторыі, наследаваліся і перакладаліся антычныя аўтары, адбывалася пераарыентацыя на класічную латынь, на стыль Цыцэрона. Гэты працэс не прайшоў бясследна для Еўропы: ён пазітыўна

---

[1] Аверинцев С. С. Древнегреческая поэтика и мировая литература // Поэтика древнегреческой литературы. М., 1981. С. 3.

паўплываў на развіццё нацыянальных моў і літаратур, філасофіі і мастацтва. Інтэлектуальны і творчы патэнцыял антычнасці змог стаць для літаратуры Адраджэння крыніцай натхнення, невычэрпным арсеналам ідэй, тэм, выяўленчых сродкаў. Выкарыстанне антычнай традыцыі стала неабходным фактарам, які стымуляваў развіццё рэнесансавай літаратуры, праявай новых адносін да жыцця і ўласнай творчасці [2].

Арыентацыя на антычнасць была абумоўлена дыялектычнай сувяззю Адраджэння з указанай эпохай, філасофскімі і эстэтычнымі ідэямі гуманістаў, якія, вызваляючыся ад сярэдневяковых дагматаў, шукалі і знаходзілі ў антычнасці пацвярджэнне сваім поглядам. Так, у антрапамарфізме старажытнай міфалогіі і мастацтва яны бачылі праяву гуманізму, а «рэчаізм» антычнага светаўспрымання трактавалі як адзнаку сапраўднага рэалізму мыслення.

У засваенні антычнасці еўрапейскімі літаратурамі генеральным кірункам, які ўключаў таксама іншыя, больш вузкія напрамкі, была імітацыя. Яна пакінула глыбокі след у літаратуры і эстэтыцы эпохі, стала прынцыпам, паводле якога пісьменнікі— паэты і празаікі — павінны былі з антычных матываў, тэм, стыляў і жанраў кампанаваць уласныя творы, з дапамогай чужых думак і фармуліровак выказваць уласныя меркаванні.

Тэарэтыкамі імітацыі выступілі Л. Дольчэ і Ё. Скалігер. Дольчэ сцвярджаў, што мастак, пераймаючы законы, па якіх творыць прырода, наследуючы яе сілы, можа пераўзысці творы самой прыроды. Пры той умове, аднак, што ён добра ведае антычнае мастацтва, якое з'яўляецца другой прыродай [3]. Так стварaўся культ антычнасці, культ антычных аўтараў. Узнікла рэнесансавая тэорыя паэзіі, заснаваная на эстэтычных уяўленнях Арыстоцеля і Гарацыя, тэорыя празаічнага стылю, арыентаванага на Цыцэрона.

Як від імітацыі ў лацінскай прозе цыцэранізм патрабаваў наследавання рытарычнаму стылю і лексіцы Цыцэрона. Цыцэронаўскі стыль усталяваўся ў прозе пасля з'яўлення ў палавіне XV ст. каменціраванага выдання Квінтыліяна «Выхаванне прамоўцы», якое змяшчала выклад цыцэронаўскай тэорыі красамоўства. Цыцэранізм паклаў канец сярэдневяковай латыні.

Разнавіднасцю імітацыі лічыцца таксама пераклад антычных твораў, дзе на іншай мове ўзнаўляюцца мастацкія вартасці арыгінала. Літаратура на нацыянальных мовах, такім чынам, засвойвала здабыткі антычнасці або праз пераклады, або непасрэдна. У апошнім выпадку важным момантам з'яўляўся стан класічнай адукаванасці ў краіне, наяўнасць пісьменнікаў і чытачоў, якія ведалі класічныя мовы і культуру.

---

[2] Bieńkowski T. Antyk w literaturze i kulturze staropolskiej (1450—1750). Wrocław, 1976. S. 19—20.

[3] Там жа.

Вышэйшым узроўнем імітацыі лічыцца т. зв. эмуляцыя (спаборніцтва), якая грунтавалася на выкарыстанні пісьменнікамі толькі некаторых элементаў антычнага паходжання, што абагульнялі арыгінальныя думкі і знаходкі аўтара. Эмулятыўныя творы павінны былі па ўзроўню не толькі раўняцца з антычнымі, але і пераўзыходзіць іх. Як прыклад эмуляцыі звычайна прыводзяць творы Дантэ, Шэкспіра, Мільтана, Расіна, Попа [4].

Для больш акрэсленага ўяўлення пра сутнасць імітацыі неабходна размежаваць імітацыю рэнесансавую, барочную і асветніцка-класіцыстычную. Паводле Ю. Будзынскага, «імітацыя рэнесансава-гуманістычная — гэта мастацкі прыём, блізкі да стылізацыі ў яе шырэйшым разуменні, г. зн. такое пераймание паэтычнага ўзору, калі значэнні перанесеных з яго элементаў не знаходзяцца, як у пародыі або гратэску, у апазіцыі ці супярэчнасці з іх значэннямі ў творы, аднак у дачыненні да іх набываюць пэўную ўмоўнасць, трактуюцца з пэўнай дыстанцыяй» [5].

Імітацыя ж барочная, або парадыйная, «адбываецца шляхам стылізацыі ў больш вузкім сэнсе, калі моўна-стылістычныя элементы і ідэйна-тэматычныя матывы, запазычаныя з узору, ужываюцца для выказвання зместу, досыць далёкага і чужога стылізаванаму ўзору, у выніку чаго ў новым кантэксце нанава створаных паэтычных структур яны набываюць іншае значэнне, напрыклад рэлігійна-хрысціянскае» [6].

Нарэшце, імітацыю асветніцка-класіцыстычную трэба разумець як вяртанне на новым этапе да імітацыі рэнесансавай. Аднак у адрозненне ад апошняй яна больш рацыяналістычная, тэарэтызаваная, адбываецца паводле ідэалагічных установак асветніцкага класіцызму. Імітацыя ў гэты перыяд падпарадкоўваецца дыдактычна-маралізатарскай тэндэнцыі, г. зн. запраграмаванаму ўжыванню паэтычнага слова як сродку рэфарматарска-асветніцкай грамадскай дзейнасці. Паэзія, згодна з такой эстэтычнай платформай, павінна служыць выхаванню новага грамадства, фарміраванню сапраўднага патрыятызму і грамадзянскай адказнасці.

Імітацыя ў рамках канкрэтнага паэтычнага твора азначае пераймание тэм і сюжэтаў, элементаў кампазіцыі, выкарыстанне антычнай строфікі, наследаванне стылістычных асаблівасцей антычных твораў, запазычванне асобных сінтаксічных адзінак і лексем.

Акрамя імітацыі вялікі ўплыў на літаратурны працэс аказвалі пазалітаратурныя тэндэнцыі ва ўспрыняцці антычнасці: пранікненне ў грамадскую свядомасць ідэй антычнай філасофіі,

---

[4] Garin E. Filozofia odrodzenia we Włoszech. Warszawa, 1969. S. 80—82, 95—98.

[5] Budzyński J. Horacjanizm w liryce polsko-łacińskiej renesansu i baroku. Wrocław etc., 1985. S. 9—10.

[6] Там жа.

знаёмства чытачоў з антычнай літаратурай і культурай і г. д.

Як ужо адзначалася, найбольш выразна паўплывала антычнасць на новалацінскую паэзію. Так, «Прускую вайну» Я. Вісліцкага можна разглядаць як імітацыю старажытнага эпасу. Прычым па тэматыцы яна бліжэй за ўсё стаіць да «Энеіды» Вергілія і «Іліяды» Гамера. Бачны паралелі з антычным эпасам і ў кампазіцыі твора. Калі ўлічыць, што вершаваны панегірык Жыгімонту I (у пачатку паэмы) быў далучаны да яе пазней, то інвакацыю Каліопы можна лічыць адпаведнікам звароту да Музы ў зачынах «Энеіды» і «Іліяды». Строфіка «Прускай вайны» цалкам наследуе строфіку антычных эпікаў. Напісана паэма дактылічным гекзаметрам з захаваннем усіх яго асаблівасцей. Прасадычныя памылкі тут адносна рэдкія. У іншых сваіх творах паэт таксама карыстаўся такімі антычнымі памерамі, як дыстых элегійны, ямб і алкеева страфа. Пераймаў Вісліцкі і стылістычныя асаблівасці, вобразную структуру паэзіі Вергілія, Авідзія, Гарацыя, Стацыя, Катула і інш. Так, Ягайла ў «Прускай вайне» мае шмат агульнага з Энеем Вергілія; пераклікаюцца ў Вісліцкага і Вергілія асаблівасці ў паказе міру і славы[7]. Творча выкарыстоўваліся паэтам і міфалагічныя вобразы, якія ў паэме часам суіснуюць з хрысціянскімі. Цікава, што на пачатку паэмы Вісліцкі звяртаецца за дапамогай спачатку да дзевы Марыі, а потым — да антычнай музы Каліопы. Ёсць у творы і асобныя фразеалагічныя і лексічныя запазычанні з твораў Вергілія, Авідзія, Стацыя[8].

На больш высокім узроўні засвойваецца антычнасць М. Гусоўскім, у якога імітацыя антычнасці ўзнімаецца да эмуляцыі. Творча выкарыстоўваючы літаратурную спадчыну, укладаючы свае вершы ў дасканалым элегійным дыстыху, ён стварае цалкам самабытны твор, які і дагэтуль уражвае сваёй суладнасцю і непаўторнасцю. Уводзячы ў сюжэтную тканіну паэмы «Песня пра зубра» міфалагічныя персанажы (Амур, Дыяна, Юпітэр, Юнона), Гусоўскі ў адрозненне ад Вісліцкага робіць гэта вельмі памяркоўна — ён асуджае празмернае захапленне міфалогіяй[9]. Паэт выступае супраць рабскага пераймання антычных узораў, за творчае выкарыстанне антычнасці. У гэтым ён блізкі да Э. Ратэрдамскага і тэарэтыкаў позняга італьянскага Рэнесансу. Антычныя традыцыі ў творчасці Гусоўскага больш яскрава праяўляюцца ў яго эстэтычных поглядах, у агульным падыходзе да творчасці, у мастацкіх прынцыпах, паводле якіх стваралася паэма. Што ж датычыцца паэтаў, якіх мог браць за ўзор Гусоўскі, то можна назваць імёны Вергілія, Авідзія, Лукана, Фаліска Грацыя і Альбія Тыбула. Паралелі можна ўстана-

[7] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979. С. 116, 128; Biliński B. La fortuna di Virgiglio in Polonia. Wrocław etc., 1986. P. 18.

[8] Biliński B. La fortuna... P. 18; Budzyński J. Horacjanizm... S. 36.

[9] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия... С. 179.

віць, напрыклад, у сцэне бою быкоў з «Песні пра зубра» і эпізодамі з «Георгікаў» (III, 216—226) і «Энеіды» (XII, 715—724) [10]. Зусім нешматлікія і фразеалагічна-лексічныя запазычанні з класічных паэтаў. Наследуючы старажытным аўтарам, Гусоўскі ніколі не паўтарае іх, змяняе да непазнавальнасці запазычаныя выразы, умела карыстаецца вобразамі і матывамі антычных узораў [11]. Трэба думаць, што толькі вельмі грунтоўная і глыбокая філалагічная адукацыя, вытанчаны густ і добрае веданне антычнай літаратуры дазволілі паэту стварыць цалкам арыгінальны твор на чыстай і дасканалай лацінскай мове, укладзены бездакорным дыстыхам элегійным.

Вялікую ролю ў далучэнні беларускай нацыянальнай літаратуры да здабыткаў антычнасці адыгрывала перакладная літаратура. Праўда, у большасці гэта былі апасродкаваныя пераклады — не са старажытных аўтараў, а з заходнееўрапейскіх перапрацовак антычных сюжэтаў і гістарычных падзей. Сюды трэба аднесці ананімныя «Прытчу о кралех», «Трою», «Александрыю» і твор Гвіда дэ Калумна «Гісторыя разбурэння Троі». Генетычна яны ўзыходзяць да сярэдневякоўя, але, нягледзячы на трактоўку падзей у стылі рыцарскіх раманаў, яны даносілі да чытача, хоць і ў значна трансфармаваным выглядзе, звесткі па антычнай міфалогіі і гісторыі, абуджалі цікавасць да старажытнага свету. «Троя» і «Александрыя» былі добра вядомы беларускаму першадрукару Ф. Скарыну, які з пазіцый вучонага-гуманіста, выдатнага знаўцы антычнасці ўжо бачыў іх сярэдневяковую абмежаванасць і неадэкватнасць антычным узорам.

Ф. Скарына, тытан беларускага Адраджэння, стаў піянерам не толькі ўсходнеславянскага кнігадрукавання, але і перакладу з антычных моў на беларускую. Згодна з меркаваннямі некаторых даследчыкаў, Біблія Скарыны перакладалася непасрэдна з Вульгаты — яе лацінскай версіі; пры гэтым акрамя Чэшскай бібліі ён мог карыстацца Сэптуагінтай — грэчаскім перакладам, а таксама тэкстам на стараяўрэйскай мове. Ускосна пра гэта можа сведчыць тое, што ў сваіх пасляслоўях, перакладаючы назвы кожнай кнігі Бібліі на беларускую мову, Скарына падае таксама іх назвы на стараяўрэйскай, грэчаскай і лацінскай мовах [12]. Як вядома, Біблія аб'яднала ў сабе элементы фальклору і філасофіі Старажытнага Усходу і філасофіі антычнай, стала вынікам шматвяковага развіцця чалавечай думкі [13]. Таму, імкнучыся выкласці гэты сінтэтычны твор на роднай мове, Скарына ўсведамляў, што тым самым ён далучае сваіх суайчыннікаў і да ўсходняй, і да антычнай традыцый. Сам факт перакладу

[10] Biliński B. La fortuna... P. 19.

[11] Ibidem et Budzyński J. Horacjanizm... S. 43; Порецкий Я. И. Николай Гусовский. Мн., 1984. С. 75—76.

[12] Гл.: Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969.

[13] Падрабязней пра гэта гл.: Конон В. М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978.

Біблії на родную мову, адрасаванне яе «посполитому» люду, гуманістычна-асветніцкая інтэрпрэтацыя яе зместу вылучае Скарыну як прадстаўніка еўрапейскага Рэнесансу. У прадмовах да Біблії, закранаючы пытанні філасофіі, эстэтыкі, права, народнай адукацыі і асветы, ён згадвае імёны антычных філосафаў і пісьменнікаў. Антычныя дзеячы і філосафы ўяўляюцца яму ідэалам, да якога трэба імкнуцца. Ідэальнымі дзяржаўнымі мужамі ён лічыў Пталамея, Салона і Лікурга, а найлепшымі філосафамі — Арыстоцеля і Філона [14]. Апеляцыя да аўтарытэтаў антычнасці ў прадмовах да самай распаўсюджанай у той час кнігі павінна была заахвоціць шырокае кола чытачоў да знаёмства з антычнай філасофіяй, гісторыяй і літаратурай, выклікаць цікавасць да ідэй антычных мысліцеляў.

Пераклад Біблії патрабаваў ад Скарыны грунтоўнага ведання класічных моў і тэксту кніг зводу, асаблівасцей біблейскай і антычнай стылістыкі. Уражвае рытмічная завершанасць, суладнасць і лёгкасць мовы скарынаўскіх прадмоў і пасляслоўяў: рытарычныя фігуры падкрэсліваюць узнёсласць і грацыёзнасць выкладу, нагадваючы вытанчаны стыль Цыцэрона [15].

Беларускае барока як непасрэдны працяг Рэнесансу развіло і пашырыла гуманістычныя тэндэнцыі Скарыны і паэтаў-лацініставў. На падставе новай, барочнай тэорыі паэзіі антычная спадчына прыстасоўваецца да новых ідэй і поглядаў Сімяонам Полацкім і Мялеціем Сматрыцкім, тэарэтыкам красамоўства і выдатным новалацінскім паэтам М. К. Сарбеўскім.

Новае адраджэнне антычнасці адбываецца ў эпоху Асветніцтва. Барочнае красамоўства і паэтыку, барочную латынь абвяшчаюць сапсаванымі. Асветнікі заклікаюць да наследавання стылю Цыцэрона ў прозе, паэтаў «залатога веку» (Гарацыя, Вергілія, Авідзія) — у паэзіі. У антычнасці цяпер ужо шукаюць ідэалаў разумнасці і вытанчанасці, у антычных дзеячах бачаць прыклад грамадзянскасці і патрыятызму, антычную літаратуру і мастацтва выкарыстоўваюць у выхаваўчых мэтах.

Новая класіцыстычная паэтыка, якая будуецца на рацыяналістычных прынцыпах, бярэ за ўзор паэтыку Гарацыя і Арыстоцеля. Розум уяўляецца класіцыстам арганізуючым пачаткам творчасці. Напрыклад, М. Карыцкі, галоўны прадстаўнік новалацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва, у сваёй эпіграме, скіраванай да маладога паэта, параўноўвае розум мастака з джалам пчалы, якім ён вылучае з прыроды (у Карыцкага, алегарычна,— з «кветкі») эсенцыю хараства («сок кветкі») і, арганізуючы яе па законах мастацтва, пераносіць у свае творы. Уплывы класіцыстычнай паэтыкі праяўляюцца ў дакладнай архітэктоніцы вершаў Карыцкага, іх кампазіцыйнай стройнасці

---

[14] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 122; Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 24, 34—35.

[15] Гл.: Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 10, 17, 28 і інш.

і сіметрычнасці, адшліфаванасці формы, рытарызацыі і пампезнасці стылю, моцнай лагічнай сувязі паасобных вобразаў.

У зборніку вершаў Карыцкага пад назвай «Песні», выдадзеным пасля смерці паэта Полацкай акадэміяй[16], прадстаўлены творы, напісаныя, за выключэннем аднаго, традыцыйнымі антычнымі памерамі: дактычным гекзаметрам, дыстыхам элегійным, сапфічнай страфой, алкеевай і чацвёртай асклепіядаўскай страфой і інш. Уражвае разнастайнасць памераў, якімі карыстаўся паэт, і іх незвычайная прасадычная дакладнасць. Напрыклад, у першых дзвюх сотнях радкоў паэмы «Птушыны сейм» зафіксаваны толькі дзве прасадычныя памылкі. Атрымаўшы грунтоўную філалагічную адукацыю, добра ведаючы антычную паэтыку і рыторыку, паэт ствараў творы, класічна суладныя і завершаныя.

Цікавай з'яўляецца невялікая паэма Карыцкага «Птушыны сейм» (с. 4—16), прысвечаная ўступленню на польскі трон Станіслава Панятоўскага. Гэту падзею паэт пераасэнсоўвае алегарычна: падрыхтоўка і правядзенне птушынага сходу павінны былі сімвалізаваць элекцыйны сейм, скліканы для абрання новага караля. Гэнетычна гэты сюжэт узыходзіць да сюжэту гібелі, блукання па пакутах, змагання, уваскрэсення і прыходу да ўлады над светам салярна-вегетатыўнага бажаства[17]. Твор пачынаецца ўступам, якому ёсць паралелі ў антычным эпасе. Тут — і кароткі выклад тэмы на пачатку твора, і зварот да аднаго з багоў, у дадзеным выпадку — Апалона. Бачны аналогіі і ў семантычна-фразеалагічнай будове зачынаў, напрыклад «fert animus... dicere» ў «Метамарфозах» Авідзія і «dicere mens agitat» у Карыцкага. Тут адбываецца трансфармацыя сэнсу з «дух нясе казаць» (Авідзій) у «розум змушае казаць» (Карыцкі). Такая змена сэнсу ўяўляецца невыпадковай — яна сведчыць пра рацыяналістычную накіраванасць эстэтыкі Карыцкага.

Пасля ўступу ў паэме паказваюцца блуканні птушак. Агульным настроем, кантэкстуальнай абумоўленасцю і некаторымі запазычанымі сінтаксічна-лексічнымі адзінкамі гэты матыў звязан з пачатковымі вершамі «Энеіды» Вергілія, дзе расказваецца пра блуканні траянцаў пасля разбурэння Іліёна. Вандроўнае жыццё птушак павінна было сімвалізаваць няпэўнасць лёсу жыхароў Рэчы Паспалітай у перыяд крызісу. Агульным месцам, якое бытавала і ў антычных творах, можна лічыць паказ уладара ў выглядзе арла. У перамозе арлоў над ворагамі птушак — пугачом і куніцамі, судовай мудрасці «цароў птушак» выявілася іх здольнасць да кіравання птушынай дзяржавай, таму на сходзе адзін з іх урачыста абіраецца каралём. Заканчваецца паэма трыумфам арла — Станіслава Аўгуста, святкаваннем яго ўзыходжання на трон.

---

[16] Korycki M. Carmina. Polociae: Typis Academicis, 1817. У далейшым спасылкі на старонкі гэтага выдання даюцца ў тэксце артыкула.

[17] Фрейденберг О. М. Поэтика сюжета и жанра. Л., 1936. С. 76—77, 87.

Традыцыйны сюжэт прыходу да ўлады караля трактуецца Карыцкім з новых, класіцыстычных пазіцый. Ён дапасоўваецца да канкрэтных гістарычных падзей у Рэчы Паспалітай, падпарадкаван класіцыстычнай ідэі адзінства дзяржавы і ўлады і развіваецца сродкамі, якія адпавядаюць прынцыпам класіцыстычнай паэтыкі. У духу класіцызму паэт арыентуецца на антычныя ўзоры — пераважна на эпічных паэтаў «залатога веку» Вергілія і Авідзія. Уплыў антычных твораў адчуваецца ў кампазіцыі паэмы: тут традыцыйны эпічны зачын, разгорнутыя параўнанні, што запавольваюць дзеянне, адпаведная паслядоўнасць падзей. Пераймаюцца або перапрацоўваюцца антычныя матывы: нарады па важных пытаннях, вандроўкі ў пошуках прытулку і г. д. Укладзена паэма ў бездакорным эпічным памеры — дактылічным гекзаметры. Трапляюцца і прамыя лексічныя і фразеалагічныя запазычанні — у большасці выпадкаў з Вергілія і Авідзія (alis pernicibus, trepidus cursus, post terga revinctas, litem diremit, excubias agere, felum trisulcum і інш.). Уводзяцца ў сюжэтную канву твора вядомыя міфалагічныя персанажы: Юпітэр, Апалон, Феб, Геліос, Аўрора, Цэрэра.

У другой частцы зборніка выклікае цікавасць элегія, звернутая да брата Карыцкага — Караля, які едзе ў Рым і якога паэт ужо ніколі не пабачыць (с. 100—104). У творы адчуваюцца водгукі элегій Авідзія. Антычныя элементы часам выкарыстоўваюцца для надання сітуацыі большай глыбіні і драматызму. Як прыклад можна прывесці алюзію на Авідзія («Журботныя элегіі», I ,3) у 60—63-м вершах элегіі Карыцкага.

Адметны след пакінула антычнасць і ў творчасці лацінска-польскага паэта, выхадца з Віцебшчыны, Ф. Д. Князьніна. Большая частка яго лацінскіх твораў з'явілася ў час беларускага перыяду жыцця і творчасці паэта. У іх закранута беларуская тэматыка, і таму яны павінны разглядацца як факт літаратурнага працэсу на Беларусі.

Антычныя элементы з'яўляюцца функцыянальнай часткай як лацінскіх, так і польскіх твораў Князьніна. Лацінскія яго творы выдадзены ў зборніку пад назвай «Песні», які ўключае дзве кнігі элегій, дванаццаць од і лацінскі пераклад «Трэнаў» Я. Кахаnоўскага [18]. У адрозненне ад Карыцкага кідаецца ў вочы інтымна-эмацыянальны характар твораў Князьніна. Тэмы яго элегій пераклікаюцца з тэматыкай элегій Авідзія і твораў Гарацыя (успаміны маладосці, сяброўства, згода і любоў у сям'і і г. д.[19]).

Талент Ф. Д. Князьніна праявіўся і ў галіне мастацкага перакладу. Яшчэ будучы на Беларусі, ён перакладаў на польскую мову Клаўдыяна і Гарацыя, а пазней — анакрэонтыку,

---

[18] Kniaźnin F. D. Carmina. Varsaviae: Typis, Aulicis S. R. Mtis, 1781.
[19] Sińkc T. Poezja nowołacińska w Polsce // Dzieje literatury pięknej w Polsce. Kraków, 1935. S. 138.

творы Вергілія, Праперцыя і Катула. Праца над творамі класічных аўтараў моцна адбілася на польскамоўнай творчасці Князьніна. Кампазіцыя яго од, якія часам пачынаюцца са звароту да муз, іх тэматыка і матывы вельмі часта ўзяты з антычных паэтаў.

Паэтычная тэхніка Карыцкага і Князьніна грунтуецца на ўжыванні рознага віду імітацыі, адаптацыі, рэмінісцэнцый, запазычанняў і моўна-стылістычнай, а таксама тэматычнай залежнасці (побач з выпадкамі парадыйных адхіленняў, выкліканых уплывамі барока).

Эпоха Асветніцтва была тым часам, калі антычныя традыцыі найбольш яскрава праяўляліся ў «высокім штылі» прыгожага пісьменства на Беларусі, які быў прадстаўлены ў гэты час пераважна творамі на лацінскай і польскай мовах [20], і толькі нязначна — у «нізкіх» жанрах, дзе магла ўжывацца беларуская мова. Але не падлягае сумненню, што традыцыі гэтыя павінны былі аказваць пэўнае ўздзеянне і на развіццё «нізавой», дэмакратычнай літаратуры, пра што сведчыць узнікненне ў XIX ст. такіх твораў, як «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».

---

[20] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 280.





*У. В. АНІЧЭНКА (Гомель)*

## ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ТРАДЫЦЫІ СКАРЫНЫ Ў БЕЛАРУСІ

Бліскучая старонка ў гісторыі сусветнай культуры належыць кнізе. Яна, паводле трапнага вызначэння Максіма Горкага,— «найбольш складаны і вялікі цуд з усіх цудаў, створаных чалавецтвам на шляху да яго шчасця і магутнасці будучага». Кніга — памяць, розум і вопыт чалавецтва; на лепшых яе ўзорах выхоўвалася і выхоўваецца не адно пакаленне людзей.

Новы этап у гісторыі кнігі пачаўся з узнікненнем кнігадрукавання, якое К. Маркс лічыў «неабходнай перадумовай буржуазнага развіцця» [1], а французскі пісьменнік В. Гюго — «асновай рэвалюцый», бо дзякуючы яму «чалавечая думка становіцца як ніколі вечнай, яна лятучая, няўлоўная, непахісная». Вось чаму беларускі народ так ганарыцца сваім вялікім сынам, выдатным асветнікам-гуманістам Ф. Скарынам, які далучыў усіх усходніх славян да кнігадрукавання.

Скарына жыў у знамянальны час, у эпоху, вядомую пад назвай Адраджэнне, або Рэнесанс. Характарызуючы яе, Ф. Энгельс пісаў: «Гэта быў найвялікшы прагрэсіўны пераварот з усіх перажытых да таго часу чалавецтвам, эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах і якая парадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці і характару, па шматбаковасці і вучонасці» [2].

Скарынаўская эпоха характэрна таксама ўплывам рэфармацыйнага руху, што адлюстроўваў тэндэнцыі Адраджэння. Хваля гэтага руху насіла ў Заходняй Еўропе пераважна антыфеадальны характар. Уплыў Рэфармацыі, якую Энгельс называў «маці рэвалюцыі», абумовіў узнікненне перакладаў канфесійнай літаратуры на блізкую і зразумелую народу так званую простую мову. Гэту прычыну каменціраваў у свой час К. Маркс, які ў лісце да Ф. Энгельса ад 5 сакавіка 1865 г. пісаў, што «рэфармацыя прынесла з сабой пераклад Бібліі на ўсе гаворкі славянскіх народаў» [3]. Гэта прагрэсіўная для таго часу з'ява, у выніку якой чытач атрымаў магчымасць знаёміцца з біблей-

---

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 30. С. 262.
[2] Энгельс Ф. Диалектика природы. М., 1964. С. 7.
[3] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 29. С. 18.

скімі тэкстамі на роднай мове, сведчыла, па словах Маркса, адначасова і аб «прабуджэнні нацыянальнасцей» [4].

Беларускі рэфармацыйны рух, сугучны з тэндэнцыямі Адраджэння, характарызаваўся спробай адпаведнага тлумачэння біблейскіх кніг, іх рэлігійна-філасофскіх паняццяў. У сваіх друкаваных выданнях Скарына заклікаў да ўсебаковага развіцця чалавека, імкнуўся служыць «людем посполитым», «познать мудрость и науку», каб яны, «научившися мудрости, добро жили на свете». Гэтымі асветніцкімі імкненнямі служыць народу і Радзіме Скарына імкнуўся дасягнуць і іншай мэты — забяспечыць прадстаўнікоў праваслаўнай культуры ідэйнай зброяй супраць каталіцызму, г. зн. для далейшай паспяховай барацьбы супраць феадалізму, паколькі ў той час пад рэлігійнай абалонкай часта хаваліся сацыяльныя інтарэсы розных слаёў грамадства.

У такіх надзвычай складаных гістарычных умовах, якія ўзніклі ў Вялікім княстве Літоўскім на пачатку XVI ст., калі класавыя і нацыянальныя інтарэсы перапляліся з рэлігійнымі адносінамі, распачаў Скарына сваю кнігавыдавецкую дзейнасць. Яго шчырае жаданне папулярызаваць і дэмакратызаваць кананічную літаратуру з тым, каб яна была даступная радавому чытачу і «гаварыла» з ім на зразумелай мове, пакінула прыкметны след у беларускай культуры, у гісторыі беларускай мовы ў прыватнасці.

Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова існавала тады ў трох асноўных тыпах, або жанрава-стылявых разнавіднасцях (дзелавое пісьменства, свецка-мастацкая літаратура і кніжнаславянскі тып) і развівалася, выцясняючы з пісьменства архаічныя старажытнарускія і кніжнаславянскія моўныя рысы і замяняючы іх адпаведнымі мясцовымі асаблівасцямі тагачаснай беларускай мовы. Гэтыя тыпы захоўвалі пэўную ўнутрыструктурную блізкасць, але адрозніваліся паміж сабой не толькі ў адносінах іх моўнай асновы, але і па функцыянальнай ролі.

Найменш зразумелым для простага чытача быў кніжнаславянскі тып старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы, заснаваны на кніжнай аснове, бо паміж ім і дзелавым пісьменствам, па сутнасці, не было арганічнай сувязі, калі не лічыць пэўную арфаграфічную агульнасць, якая ў адных выпадках парушалася за кошт пранікнення рыс жывой народнай мовы, а ў другіх трывала захоўвала кніжнаславянскую арфаграфію. Кніжнаславянскі тып рэалізаваўся перш за ўсё ў канфесійнай літаратуры, у пашырэнні якой былі зацікаўлены вышэйшыя кіруючыя колы і духавенства, што кіраваліся палітычнымі і рэлігійна-асветніцкімі мэтамі. Змест такіх твораў не заўсёды быў зразумелы радавому чытачу з-за перавагі ў іх кніжных прыёмаў і архаічных, мёртвых сродкаў літаратурнага выказвання.

---

[4] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 29. С. 18.

У сувязі з гэтым старабеларускія кніжнікі канфесійную літаратуру па магчымасці насычалі рысамі жывой мовы. Так узнік асобны, беларускі, тып кніжнаславянскай мовы, які, як і ўкраінскі, прыкметна адрозніваўся ад рускага тыпу тым, што не меў такой шырокай сферы ўжывання ў межах Беларусі, як у Маскоўскай Русі. Рускі тып быў там фактам глыбокага прагрэсіўнага значэння, бо ў сувязі з так званым другім паўднёваславянскім уплывам якраз адбывалася свядомая архаізаваная праўка тэкстаў рэлігійнага зместу, узорам якой была вядомая Астрожская біблія, апублікаваная рускім першадрукаром І. Фёдаравым у Астрозе ў 1581 г. З'яўленне на беларускай і ўкраінскай тэрыторыях канфесійнай літаратуры з паралельнымі кніжнаславянскімі і перакладнымі тэкстамі ў нашай лінгвістычнай літаратуры лічыцца важнай асаблівасцю, невядомай раней усяму грэка-славянскаму моўнаму арэалу. Праўда, у адносінах да беларускага і ўкраінскага тыпаў кніжнаславянскай мовы можна гаварыць і пра некаторыя іх унутрыструктурныя асаблівасці. Дэмакратызацыя кніжнаславянскай мовы ў канфесійнай літаратуры Украіны не была такой паслядоўнай, як у Беларусі. Гэта розніца кідаецца ў вочы пры параўнанні тэкстуальна супадаючых украінскіх рукапісных спісаў В. Жугаёва з Яраслаўля Галіцкага, якія ўзніклі ў 1568 г. на аснове скарынаўскіх друкаваных кніг «Прамудрасць божая», «Песня песняў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Эклезіяст». У моўных адносінах рукапісныя спісы Жугаёва стаяць бліжэй да Астрожскай бібліі, чым да біблейскіх кніг Скарыны. Гэта дае падставу заключыць, што ўкраінскі тып кніжнаславянскай мовы стаяў бліжэй да рускага тыпу з дастаткова ўстойлівай кніжнаславянскай традыцыяй, а беларускі знаходзіўся ў стадыі дэцэнтралізацыі.

Беларускі тып кніжнаславянскай мовы па пісьмовых помніках вядомы з XV ст. Найбольш раннім тыповым узорам з'яўляецца чэцця-мінея 1489 г., перапісаная ў Камянцы паповічам Бярозкам, родам з Навагрудка, з прыкметнай дэмакратызацыяй яе кніжнаславянскай моўнай асновы, якая ажыццяўлялася шляхам насычэння яе адпаведнымі сродкамі народна-гутарковай мовы. Гэта ўвогуле першая спроба перакладу канфесійнай літаратуры на жывую народную мову знайшла сваё больш паслядоўнае і сістэматызаванае адлюстраванне праз 28 гадоў у скарынаўскіх стaрадруках.

У нашым моваэнаўстве прынята размяжоўваць арыгінальныя скарынаўскія прадмовы і пасляслоўі да выдадзеных кніг, насычаныя біблейскімі цытатамі і аўтарскім тэкстам, яго неперакладныя і перакладныя выданні. Неперакладнымі лічацца Псалтыр — пражскае і віленскае выданні, выдадзеныя ў Вільні «Малая падарожная кніжка» (1522) і Апостал (1525), а перакладнымі — 22 кнігі Бібліі, апублікаваныя ў Празе на працягу 1517—1519 гг. Старадрукі адзначаных тыпаў звязаны паміж сабой тым, што адлюстроўваюць рознасістэмныя моўныя напла-

ставанні, якія ўзыходзяць да розных крыніц, хоць тут можна гаварыць і пра пэўныя спецыфічныя асаблівасці. З аднаго боку, у сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці Скарына арыентаваўся на чэшскія, лацінскія і кніжнаславянскія біблейскія тэксты, пад уплывам якіх у яго выданнях ствараўся адпаведны моўны сінкрэтызм. З другога боку, у скарынаўскай моватворчасці выразна праявіўся свой, мясцовы, а таксама і іншамоўны каларыт: як уплыў роднай гаворкі, так і моўнага асяроддзя, сярод якога ён вучыўся і працаваў па-за межамі сваёй радзімы. Указаная моўная сітуацыя была характэрна не толькі для скарынаўскіх друкаваных выданняў, але і для мовы старажытных славянскіх помнікаў канфесійнай літаратуры [5].

Адной з асаблівасцей неперакладных скарынаўскіх тэкстаў было тое, што яны адчулі прыкметны ўплыў з боку агульнанароднай беларускай мовы. Сярод названых твораў гэтага тыпу асаблівую цікавасць мае Псалтыр — частка Бібліі, прызначаная ў якасці школьнага дапаможніка для дзяцей — каб даць ім «початок всякое доброе науки». У сярэдневяковую эпоху Псалтыр лічылі таксама крыніцай духоўнага ўдасканалення і маральнай чысціні, пра што нагадваў Скарына чытачам у сваёй прадмове: «Там есть справедливость, там есть чистота душевная и телесная».

Улічваючы вучэбнае значэнне гэтай кнігі, яе духоўныя выхаваўчыя вартасці, Скарына імкнуўся цалкам захаваць яе змест і ў той жа час наблізіць тэкст да простага, дэмакратычнага чытача. Гэта дало яму падставу парушыць кніжнаславянскую моўную аснову Псалтыра, актывізуючы мясцовыя рысы на розных узроўнях, на што Скарына звяртаў увагу чытачоў у сваёй прадмове: «Повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком».

Са сказанага вынікае, што дэмакратызацыю кніжнаславянскай мовы Скарына праводзіў перш за ўсё за кошт пранікнення ў яе беларусізмаў на лексічным узроўні. Гэта наглядна відаць з параўнальнага аналізу скарынаўскіх выданняў Псалтыра і аднайменных старарускіх рукапісных спісаў XVI ст.

У сістэме лексікі пражскага выдання Псалтыра Скарына выявіў значную колькасць незразумелых або малазразумелых радавому чытачу кніжнаславянскіх і запазычаных слоў. Таму на палях кнігі забяспечыў іх глосамі (перакладнымі або тлумачальнымі лексічнымі сродкамі народна-гутарковай беларускай мовы), пра якія ў прадмове выдання сказана: «Положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых, не рушаючи самое Псалътыри ни в чем же».

Незразумелыя словы Скарына тлумачыў па-рознаму. Таму яго глосы носяць рознасістэмны характар. Найбольш пашыра-

---

[5] Жуковская Л. П. Текстология и язык древнеславянских памятников. М., 1976. С. 354.

ную групу складаюць аднаслоўныя сінанімічныя пераклады тых або іншых незразумелых слоў: *тимъпан — бубен, горлица — сівоворонка, буии — дурнии, оскрьд — долото, пажить — былие, рамнум — осот, скиния — становіща, скимни — львенята.*

У некаторых выпадках Скарына тлумачыў аднаслоўныя і двухслоўныя незразумелыя лексемы апісальным спосабам (відаць, з-за адсутнасці ў агульнанародным ужыванні адпаведных сінанімічных эквівалентаў): *утреновати — пред світанием вставати; юг — ветр полуденныи; лив — ветр от западу; тмами тем — десети тысещми; да насладится — приятна будеть.*

Часам у якасці глос у Скарыны выступаюць лексемы ў кніжнаславянскай агаласоўцы: адны з іх перадаюць дакладны змест арыгінала (*вретище — власеница, юже — повраз*), другія канкрэтызуюць паасобныя агульныя назвы кніжнаславянскага тэксту (*птица — враб, молитовници — послове, утробы — почки*). Такі прыём можна лічыць апраўданым па наступных меркаваннях: па-першае, кніжнаславянізмамі гэтага тыпу падкрэсліваўся кніжны стыль канфесійнай літаратуры: па-другое, традыцыі кніжнаславянскай мовы ў пэўнай ступені былі тады ўжо вядомы дасведчаным чытачам з аналагічных твораў, адкуль і праніклі ў некаторыя іншыя жанрава-стылявыя разнавіднасці старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы; па-трэцяе, пэўную ролю адыгрывала і захаванне адпаведнага ўнармавання літаратурнай мовы ў царкоўна-рэлігійнай літаратуры ўсходніх славян.

У віленскім выданні Псалтыра Скарына не паўтарыў на палях кнігі глосы, магчыма, таму, што яны былі засвоены чытачамі з папярэдняга, пражскага, выдання гэтага твора. Прадаўжаючы кнігавыдавецкую дзейнасць у Вільні, Скарына не толькі працягваў пачатае ў чэшскай Празе, але і творча развіваў яго ў новых умовах. Тут ён меў больш шырокія магчымасці асэнсаваць дасягненні ў развіцці старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і яе вуснай разнавіднасці.

Так, у тэксце Псалтыра віленскага выдання ён ужываў такія словы, якія адсутнічалі ў глосах пражскага тэксту. Гэта былі своеасаблівыя сінанімічныя пары, дзякуючы якім узбагачаліся лексіка-стылістычныя магчымасці беларускага тыпу кніжнаславянскай мовы. У першым выданні *юже* (глоса *повраз*) — у другім — *часть,* адпаведна *налецающе* (*накладающе*) — *напрегающе, сляпи* (*согни*) — *преклони.*

Творчы падыход Скарыны выявіўся і ў тым, што на гэты раз ён у большай меры, чым у пражскім тэксце Псалтыра, дэмакратызаваў мову красамоўнымі лексіка-семантычнымі сродкамі. І калі, скажам, у пражскім выданні дапускалася ўжыванне непапулярных сярод простага народа слоў тыпу *жертвеник, безаконие, поразити,* то ў віленскім яны заменены лексічнымі адпаведнікамі, найбольш пашыранымі ў народным асяроддзі: *олтарь, злоба, побити.* Пэўнае месца ў скарынаўскіх непера-

кладных выданнях займаюць словы, пададзеныя ў беларускім фанетычным афармленні *(попел, жадаите)* або ўтвораныя пры дапамозе словаўтваральных сродкаў, увогуле характэрных для тагачаснага беларускага пісьменства ў параўнанні з кніжнаславянскім: *владычество, лукавство.*

Такім чынам, неперакладныя выданні Скарыны можна лічыць узорам беларускага тыпу кніжнаславянскай мовы, працэс дэмакратызацыі якой у XVI ст. адбываўся ў Вялікім княстве Літоўскім больш інтэнсіўна, чым у Маскоўскай Русі, бо яны былі насычаны ў дастатковай для таго часу ступені беларускімі моўнымі асаблівасцямі.

Перакладныя біблейскія выданні Скарыны ў моўных адносінах характарызуюцца тым, што яны, па сутнасці, паўтараюць важнейшыя рысы яго неперакладных выданняў, толькі ў больш поўным аб'ёме.

Нязначную колькасць арфаграфічна-фанетычных асаблівасцей беларускай мовы дапаўняе шырока прадстаўлены пласт граматычных беларусізмаў, якія адпавядалі аналагічным моўным сродкам іншых жанрава-стылявых разнавіднасцей, распаўсюджаных тады ў межах Беларусі: назоўнікі мужчынскага роду з канчаткам *-у* ў родным склоне адзіночнага ліку *(веку, смутку, часу),* назоўнікавыя формы на *-ово (-ева)* у назоўным склоне множнага ліку *(докторове, послове, коневе),* прыметнікі жаночага роду адзіночнага ліку роднага склону з канчаткам *-ое (-ее) (вечное* славы, *чужое* земли, *збытное* праци*),* формы прыметнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду з агульным канчаткам *-ые (-ие)* у назоўным склоне множнага ліку *(добрые* дни, *красные* слова, *великие* таины), формы на *-мо* ў дзеясловах першай асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу і загаднага ладу *(бежимо, гледимо, идемо, знайдемо, подьмо)* і інш.

Граматычныя рысы беларускай мовы на фоне кніжнаславянскай асновы ўдала спалучаюцца з наяўнасцю ў мове Скарыны шматлікіх слоў з адметнай унутранай формай і семантычнай структурай, якія незалежна ад свайго паходжання і ступені ўжывання сталі агульнавядомымі ў беларускай мове новага часу, а на астатняй усходнеславянскай тэрыторыі не пусцілі глыбокіх каранёў, аказаліся, па сутнасці, забытымі або бытуюць на правах устарэлых ці вузкамясцовых лексічных адзінак.

Шмат якія лексічныя адзінкі, вядомыя амаль усім беларускім гаворкам і адлюстраваныя ў перакладных выданнях Скарыны, складаюць розныя групы слоў паўсядзённага народнага ўжывання, сярод якіх найбольш пашыранымі былі назоўнікі *(боты, брыдкость, вельможа, волот, година, гроши, должиня, дорослый, жалоба, збродень, звычай, коло, криница, лютость, моц, пестун, пильность, потреба, початок, свитание, сени, скриня, смак, струмень, сукня, чародейник, шкода),* дзеясловы *(будовати, ведати, гинути, дбати, дозволити, дяковати, заховати, здо-*

*бывати, кликати, отпочинути, повстати, почати, працовати, скакати, смажити, тулятися, чаровати)*, прыметнікі *(вдячный, горший, доскональый, дужый, лепший, марный, моцный, пильный, потребный, шкодливый)*, прыслоўі *(болей, вельми, горше, дивно, додому, долов, николи, тяжко, часом)*, займеннікі *(кожный, той)*, службовыя словы *(але, деля, нехай)*.

Многія словы кніжнаславянскага ўжывання падвяргаліся ў скарынаўскую эпоху семантычным зменам, у выніку чаго ўзнікалі іх новыя значэнні або адценні значэнняў. Кіруючыся гэтай тэндэнцыяй, Скарына ў сваіх старадруках нярэдка дапаўняў раней вядомыя лексічныя адзінкі новым семантычным зместам. Напрыклад, у кніжнаславянскай мове слова *пърт* мела значэнне 'кавалак тканіны, палатна', а словаўтваральны варыянт *пртъищ* — 'абрэзак, лахман', тады як у Скарыны *порты* і *портки* — гэта 'штаны', адпаведна *скопьц* 'кастрат, пакладанец' — 'служка', *гибати* 'гінуць' — 'рухаць, варушыць'. У іншых выпадках кніжнаславянскае словаўжыванне ў скарынаўскіх тэкстах падвяргалася семантычнай канкрэтызацыі. Скажам, у кніжнаславянскай мове слова *выдати* мела толькі адно значэнне 'аддаць', а ў Скарыны — і 'выпусціць; выдаць; даць; запахнуць; надрукаваць'; адпаведна *бити* 'біць' — 'мучыць, катаваць; паражаць; гараваць, бедаваць, пакутаваць; таўчы'; *грамота* 'папера, грамата' — 'пісьмо, почырк; граматыка', *письмо* 'письмовая мова' — 'пісанне, твор; літара'.

Нямала слоў рознага паходжання ўтворана Скарынам паводле беларускіх словаўтваральных мадэлей пад уплывам народна-гутарковай мовы. Найбольш пашыраную групу складаў суфіксальны спосаб утварэння слоў, пры дапамозе якога ўзнікалі розныя часціны мовы, найчасцей назоўнікі — ад іменных і дзеяслоўных асноў. Сярод словаўтваральных кампанентаў асабліва прадуктыўнымі былі суфіксы *-к- (девка, лопатка, мерка, пуговка, светка, стежка, сопелка), -ок- (наследок, пожиток, смуток, хитрок), -ник- (воевник), -ниц- (студница), -овник- (миловник, молитовник), -ач- (выкладач, играч, ковач, насмевач, послухач), -ар- (корчмар), -ств- (ленивство, насилство), -енств- (послушенство), -ость- (великость, глубокость, далекость), -ц- (драпежца, кривоприсяжца, радца), -ец- (братанец, ездец)*.

Цікавымі ў мове Скарыны з'яўляюцца памяншальна-ласкальныя словы, утвораныя пры дапамозе суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі: *дитятко, жердка, колейко, колечко, котлик, кошик, львичек, львик, львеня, пупок, сиротка, покоик.*

Адначасова з суфіксацыяй у сваіх друкаваных выданнях Скарына карыстаўся прэфіксацыяй, пры дапамозе якой утвараліся новыя словы, разнастайныя па ўнутранай форме і семантычнай структуры. Найбольш паказальнымі беларускімі ўтварэннямі былі словаўтваральныя мадэлі з прэфіксамі *вы- (выбавитель, выбрати, выклад, высвобожение), до- (добывати, дове-*

*датися, дозволити, дорослый, дорости), з- (збити, звезти, згинути, здавна, здалека), о- (одужити, оповедание), од- (одо-) (одкриватися, одойти, одогнати).*

Даволі значную групу ў словаўтваральнай сістэме скарынаўскіх друкаваных выданняў складалі словы, афармленыя пры дапамозе двух прэфіксаў. Двухпрэфіксальныя словы ўтваралі розныя структурна-семантычныя тыпы, якія ў найменшай ступені былі ўласцівы кніжнаславянскай мове: *заприсягнути, запродати, повставати, позаставитися, поздвигнути, позостати, поотдалитися.*

У галіне словаскладання пэўная роля належала спалучэнню розных часцін мовы: *крупобитие, добровонность, кровопролийца, великоможность, долговечный, красномовность, краснопение, первоучитель.*

Вывучэнне ролі Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы мае выключна важнае значэнне не толькі для гісторыі беларускай мовы, але і для яе сучаснага стану, бо дапамагае вырашыць пытанне пра ўзбагачэнне выключна кансерватыўных па зместу і форме яго друкаваных выданняў шматлікімі моўнымі сродкамі беларускай мовы, якія не страцілі сваёй актыўнасці і навізны да нашых дзён.

Уклад Скарыны ў распаўсюджанне друкаванага слова на землях усходніх славян меў эпахальнае значэнне. Неацэннай была і яго роля ў развіцці літаратурна-пісьмовай мовы Беларусі. Выбраны ім напрамак знайшоў далейшы працяг у дзейнасці яго беларускіх прадаўжальнікаў, якія па скарынаўскаму ўзору ўзбагачалі беларускую мову на розных узроўнях і гістарычных этапах. Вывучэнне лінгвістычнай традыцыі Скарыны ў гэтым плане ўносіць важкі ўклад у тэорыю і практыку беларускага мовазнаўства, дае магчымасць канкрэтызаваць колькаснае і якаснае развіццё беларускай мовы на розных гістарычных этапах, устанавіць характар сувязі і ўзаемадзеяння яе з іншымі моўнымі сістэмамі і жанрава-стылявымі разнавіднасцямі ў адпаведнасці з лінгвістычнымі і экстралінгвістычнымі фактарамі. Адказ на гэтыя пытанні і даюць нам вытокі скарынаўскага ўплыву на дэмакратызацыю мовы канфесійнай літаратуры, якая паступова і няўхільна ажыццяўлялася ў новых гістарычных умовах.





*А. К. КАЎКО (Масква)*

## СКАРЫНА І НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (дакастрычніцкі перыяд)

Праблема, вызначаная ў загалоўку, у скарыназнаўстве яшчэ не распрацавана. Між тым яна вынікае з непераходнага характару творчасці славутага гуманіста-асветніка, каму беларусы абавязаны далучэннем да найвышэйшых каштоўнасцей айчыннай і агульнаеўрапейскай культур, самапазнаннем на пачатку нацыянальнай кансалідацыі, «абуджэння нацый» (Ф. Энгельс), сваёй індывідуальнасці, гістарычна-творчага прызначэння сярод іншых народаў свету. Наскрозь дэмакратычнае народалюбства, глыбокая, падзвіжніцкая адданасць Радзіме, трапяткое замілаванне родным мацярынскім словам — гэтыя тры, сярод многіх іншых, найбольш выразныя, як здаецца, ідэйна-мастацкія рысы беларускай літаратуры набылі дзякуючы Скарыну ўзорна класічнае выражэнне з першых жа крокаў яе станаўлення як з'явы ўласна беларускага творчага духу. Ф. Скарына ўвасабляе сабой не толькі адну з самых яркіх старонак нашага мінулага, ён — сталая дамінанта нацыянальнай культуры, пэўны маштаб духоўнай дасканаласці народа, яго гістарычнай неўміручасці.

Натуральна, што новая беларуская літаратура, хоць і паўставала пасля зацяжнога крызісу, заняпаду старадаўняга пісьменства, не магла ў сваіх народатворчых пошуках і імкненнях не ўлічваць здабыткі, вопыт мінулага нават тады, калі вопыт гэты к пачатку XIX ст. быў істотна забыты, калі яго даводзілася ўзнаўляць у памяці, нібы нанава ўводзіць у культурны ўжытак. Невыпадкова ідэолагі і ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху, у першую чаргу літаратурнага, выступілі, асабліва выразна ў канцы XIX — пачатку XX ст., пад дэвізам «адраджэння», падкрэсліваючы тым самым пераемнасць паміж мінулымі і сучаснай эпохамі, генетычнае сваяцтва новай, «адраджаемай» літаратуры з яе папярэдніцай — літаратурай старабеларускай [1]. Беларускі прыклад уяўляў сабой разнавіднасць агульнаславянскага адраджэнскага працэсу, у час якога на працягу XIX ст. паралельна з вызваленчай барацьбой прыгнечаных

[1] Знамянальны ў гэтым сэнсе артыкул М. Багдановіча «Беларускае адраджэнне» // Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 213—241.

славянскіх народаў — балгар, чэхаў, славакаў, славенцаў, сербаў — актывізавалася, «нібы адраджалася» аслабленая або зусім прыпыненая культурная дзейнасць[2]. Асабліва прыцягальным для беларусаў аказаўся вопыт новай украінскай літаратуры, якая параўнальна раней і з большай інтэнсіўнасцю распачала самавыяўленне сваіх творчых патэнцый з адначасовым асэнсаваннем і ўзнаўленнем багатай пісьмовай спадчыны, уключна з агульным фондам украінска-беларускіх або беларуска-ўкраінскіх літаратурных помнікаў XIV—XVII стст.

Ёсць дастатковыя падставы сцвярджаць, што спадчына Скарыны, старадаўняе пісьменства наогул з самага пачатку з'явіліся адным з вытокаў новай беларускай літаратуры — побач з іншымі фактарамі яе станаўлення і сталення: вуснай народнай творчасцю, уплывамі братніх рускай, польскай, украінскай літаратур. На карысць гэтай думкі сведчаць канкрэтныя факты. Вядома, напрыклад, пра намаганні ў 20-я гады XIX ст. групы выкладчыкаў Віленскага універсітэта, беларусаў (І. Даніловіч, М. Баброўскі, І. Анацэвіч, да якіх прымыкаў прафесар гэтага ж універсітэта ўкраінец І. Лабойка), па выяўленню і сістэматызацыі помнікаў старажытнага пісьменства, па ўзнаўленню літаратурнай творчасці на беларускай мове[3]. На жаль, закрыццё ў хуткім часе «мяцежнага» універсітэта, варожае наогул станаўленне царскіх улад да ўсялякіх праяў беларускага творчага руху падсякала на карані як згаданую, так і многія іншыя ідэі і тэндэнцыі нашага адраджэння.

Тым не менш у перадавых колах грамадства насуперак палітычным абставінам працягвалася абуджэнне і ўзмацненне гістарычнай, нацыянальнай самасвядомасці, а з ёй — імкненне заручыцца маральнай падтрымкай творчых набыткаў мінулага для абгрунтавання літаратурных і наогул грамадзянскіх правоў беларускай мовы — непрызнаванай, прыгнечанай, як і сам беларускі народ, тагачасным палітычным ладам, асуджанай ідэолагамі апошняга «памерці ў архівах» (Ф. Булгарын). Вельмі вымоўнае на гэтым фоне выступленне ў часопісе «Маяк» (1843) І. Цытовіча (палачаніна!), аўтара артыкула «Словы два аб мове і граматнасці Белай Русі», дзе са спасылкай на дзейнасць Ф. Скарыны, выданні Статута Літоўскага выказана думка пра ўзнаўленне літаратурнай творчасці, развіццё асветы на мове народа, які «яшчэ доўга будзе гаварыць па-беларуску»[4].

Пастаўленае І. Цытовічам пытанне знайшло практычнае і бліскучае вырашэнне ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, пер-

---

[2] Никольский С. В. Чешская литература в контексте славянских литератур // Литература эпохи формирования наций. М., 1982. С. 97.

[3] Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 18, 19 і інш.; Церашковіч П. У. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускага этнасу ў эпоху капіталізму // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1986. № 5. С. 91.

[4] Пачынальнікі / Уклад. Г. В. Кісялёў. Мн., 1977. С. 8.

шага беларускага пісьменніка ў поўным сэнсе гэтага слова. Прыкметна, што і Марцінкевіч, і яго сучаснікі па пяру — беларускія, беларуска-рускія ці беларуска-польскія пісьменнікі (Я. Чачот, А. Рыпінскі, П. Шпілеўскі, А. Кіркор, У. Сыракомля) выявілі даволі глыбокае веданне гісторыі, багатых культурных традыцый беларускага народа. Спрыяльнае значэнне для гістарычнай адукацыі мела тут тая акалічнасць, што на працягу XIX ст. праз рускі, а часткова і польскі, друк у навуковы і літаратурна-грамадскі ўжытак была ўведзена значная частка тэкстаў Скарыны, тэксты Статута Літоўскага (1529, 1566, 1588), славуты верш Яна Казіміра Пашкевіча аб «квітнеючай русчызне», «Прамова Мялешкі», летапісы і іншыя помнікі старабеларускага пісьменства, закладваліся падставы навуковага скарыназнаўства (працы П. Уладзімірава, Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага і інш.). Узнікла мажлівасць, каб параўнаць эвалюцыю беларускай мовы на працягу вякоў, пасведчыць неабвержнымі, што называецца, фактамі «гістарычнасць» гэтай мовы, яе здатнасць развівацца і ўдасканальвацца далей. Беларус, падкрэсліваў А. Кіркор у сваёй працы аб славянскіх літаратурах (1874), «да нашых дзён захаваў сваю мову, якую некалі ўжывалі пры двары князёў літоўскіх, на якую... Скарына пераклаў «Свяшчэннае пісанне», на якой пісаліся правы, выдаваліся граматы, прывілеі...» [5]

Неаднойчы публічна звяртаў увагу на радаслоўную беларускай, «крывіцкай», мовы У. Сыракомля, які шчыра вітаў творчыя намаганні Дуніна-Марцінкевіча даць новае літаратурнае жыццё мове, што «мела сваю багатую мінуўшчыну» і, нягледзячы на пакручасты лёс, захавалася сярод беларускага люду «ў сваёй спрадвечнай чысціні» [6]. У адным з артыкулаў, прысвечаных мінуламу Мінска, Сыракомля выказаў дапушчэнне аб мажлівым напісанні «Слова пра паход Ігаравы» адным з жыхароў гэтай зямлі, паколькі, на думку «вясковага лірніка», моўна-лексічны лад выдатнага помніка ўсходнеславянскай культуры «не дужа адрозніваецца ад сучаснай мовы тутэйшага насельніцтва, званай беларускім дыялектам» [7].

Са сказанага вышэй вынікае відавочная повязь паміж абедзвюма аддаленымі літаратурнымі эпохамі. Таму можна не пагадзіцца са сцвярджэннем, нібы творчая традыцыя папярэдніх стагоддзяў засвойвалася новай беларускай славеснасцю толькі падсвядома, стыхійна, аж да Ф. Багушэвіча «ніякім чынам не ўсведамлялася самімі яе творцамі» [8]. Наадварот, першыя беларускія літаратары новага часу, тыя ж Цытовіч, Кіркор, Сыра-

[5] Kirkor A. H. O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich. Kraków, 1874. S. 50.
[6] Пачынальнікі. С. 308.
[7] Syrokomla W. Mińsk // Teka Wileńska, 1857. N 21. S. 173.
[8] Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 20.

комля, выразна ўсведамлялі значнасць эстэтычнага вопыту мінулага і ўсведамлялі не проста як канкрэтна-гістарычны факт, перагорнутую старонку айчыннай культуры, але перадусім як доказ гістарычнай жыццяздольнасці народа, як праяву высокага, незнішчальнага дару беларускага слова, літаратурнаму адраджэнню якога і прысвячалі высакародныя парыванні нашчадкі Скарыны, наступнікі яго справы.

Найбольш трывала і па-майстэрску знітаваў у адзін суцэльны творчы вузел старакніжную традыцыю і надзённыя задачы літаратурнага адраджэння Ф. Багушэвіч. Вядомая прадмова аўтара «Дудкі беларускай», як і вершы зборніка, прагучала магутным заклікам да сацыяльнага разняволення народа, да абуджэння ў ім дзейснай патрыятычнай свядомасці, пераадолення нявольніцкага комплексу, нацыянальнай прыніжанасці. Ідэйна-эстэтычнае пабрацімства са Скарынам у Багушэвіча вельмі прыкметнае як з боку народнасці, дэмакратычна-асветніцкага напрамку яго твораў, так і высокапатрабавальнымі адносінамі да роднай мовы як праявы маральнай паўнацэннасці чалавека, духоўнай неўміручасці народа. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!» [9],— заклікаў Багушэвіч. Гэты яго запавет вельмі сугучны скарынаўскаму: «иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил» [10]. Ці не на такой вось замілаванай адданасці родным караням спрадвеку трымаецца шматпакутнае беларускае слова?!

Амаль адначасова з выхадам першага зборніка Багушэвіча ў польскім друку з'яўляецца падрабязны агляд «Беларуская літаратура і бібліяграфія» пяра А. Ельскага. Пачаўшы са Скарыны, аўтар указаў на славутыя постаці айчыннай культуры: братоў Мамонічаў, С. Буднага, В. Цяпінскага, П. Бярынду, М. Сматрыцкага, Л. Карповіча, Ф. Еўлашоўскага. Адзначаны таксама летапісы, хронікі. У заключэнне агляду названы пісьменнікі новага часу — Дунін-Марцінкевіч, Лучына, Багушэвіч [11]. Узведзены Ельскім «гістарычны» мост паміж Скарынам і Багушэвічам яшчэ раз нагадаў пра шматвяковы плён, заканамерны характар развіцця беларускай літаратуры.

У набліжэнні да Скарыны, да ўсёй старакніжнай спадчыны беларускія літаратары XIX ст., зрабілі толькі першы крок, але крок вельмі істотны для паглыблення гістарызму новай літаратуры, такога неабходнага пры выпрацоўцы ёю ўласнага нацыянальнага стылю. Далейшы, больш паскораны рух у згаданым напрамку звязан ужо з рэвалюцыйным уздымам 1905 г., з дзейнасцю «Нашай нівы». На старонках гэтай газеты Скарыніяна

---

[9] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 17.

[10] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 11.

[11] Jelski A. Białoruska literatura i bibliografia // Wielka powszechna encyklopedia popularna. Warszawa, 1892. T. VII. S. 647—658.

ўзбагачаецца радам публікацый: «Кароткай гісторыяй Беларусі» Власта (В. Ластоўскага), якую Я. Купала прывітаў спецыяльным вершам-прысвячэннем «Дудар» (Наша ніва. 1910. № 40); «Беларусамі і іх нацыянальным адраджэннем» украінскага культурнага дзеяча Д. Дарашэнкі (пераклад на беларускую мову Я. Журбы); «Беларускай бібліяграфіяй» Р. Зямкевіча («Каляндар «Нашай нівы» на 1910 г.»); артыкуламі С. Палуяна, Л. Гмырака, Ю. Верашчакі (апошні гісторыкамі літаратуры чамусьці «скланяецца», дарэчы, і не толькі за адну, не самую моцную яго публікацыю «Чаму плача наша песня?»).

Скарыназнаўчая праца «нашаніўцаў» садзейнічала побач з яе пазнаваўчай роляй вырашэнню многіх вострых ідэалагічных праблем: аспрэчванню шавіністычных закідаў беларускаму культурнаму руху, нібыта штучным, выдуманым палякамі, пазбаўленым уласнага гістарычна-літаратурнага грунту; асуджэнню нацыянальнага рэнегацтва беларускіх маёмасных колаў, касмапалітычнага снабізму, адчужанасці ад народа айчыннай інтэлігенцыі («Хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла»,— даўні папрок аўтара «Прамовы Мялешкі» таксама згадваўся на старонках «Нашай нівы»); пераадоленню нігілістычных адносін да нацыянальнай гісторыі ва ўласным творчым асяроддзі. З вопыту мінулага выносіла маладая літаратура скарынаўскія ўрокі народнага асветніцтва, грамадзянскага падзвіжніцтва дзеля «простага чалавека», урокі цеснага спалучэння нацыянальных і агульначалавечых задач. Не апошнюю ролю адыграла старакніжная традыцыя ў канчатковым выбары адроджаным беларускім друкам адзінага, пасля паралельнага карыстання «гражданкай» і «лацінкай», кірылічнага пісьма,— якраз таго самага, з якога выйшла і развілася айчынная кніжнасць.

Нельга прамінуць краязнаўча-арганізацыйныя заслугі «Нашай нівы»: стварэнне пры рэдакцыі калекцыі беларускай старасветчыны ўключна з унікальнымі старадрукамі, часткай Бібліі Скарыны; выданне (не пазней 1915 г.) сумесна з суполкай «Загляне сонца...» юбілейнай паштоўкі «Доктар Францішак Скарына. 1517—1917» (у гонар 400-годдзя беларускага кнігадрукавання); намаганні заснаваць навуковае таварыства імя Ф. Скарыны і інш.

Да скарынаўскай тэмы звярталіся пасля «Нашай нівы» і іншыя беларускія выданні, што напярэдадні Кастрычніка выходзілі ў Вільні і Мінску («Гоман», «Вольная Беларусь»). Так, нумар газеты «Вольная Беларусь» ад 8 жніўня 1917 г. быў амаль цалкам прысвечаны Скарыну, 400-годдзю айчыннага кнігадруку. У артыкуле М. Гарэцкага, змешчаным у гэтым жа, юбілейным, нумары, засяроджвалася ўвага на лексіцы скарынаўскіх твораў у параўнанні яе з сучаснай беларускай мовай, адзначалася шматлікасць роднасных слоў *(борзды, бараніць, вінаваціць, вір, граблі, жыта, вішчэць, забрахаць, лемеш, карагод, пражыцца, скаварада, пуга, скрыня, узгорак, віхор* і г. д.), што «праз ча-

тыры вякі ані каліўца не змяніліся»[12]. Услед за Сыракомлем аўтар «Руні», па сутнасці, паставіў пытанне аб моўнай пераемнасці ў шматвяковым беларускім пісьменстве. Дарэчы, гэта пытанне і сёння недаацэньваецца некаторымі даследчыкамі, схільнымі да абсалютызацыі разрыву паміж старадаўняй і новай «моўнымі» эпохамі ў працэсе фарміравання сучаснай літаратурнай мовы.

Творчую рэканструкцыю, эстэтызацыю культурнай спадчыны найбольш рупна, па-майстэрску пачалі здзяйсняць правафланговыя, класікі маладой літаратуры. Духоўнае суладдзе «старой» і «маладой» Беларусі заняло не адну старонку ў рамантычнай паэзіі Я. Купалы. Народны пясняр лічыў яе працягам, «водклікам» высакародных традыцый таго далёкага продка, што «роднаму слову ўмеў кніжны даць ход» (верш «Над Нёманам»).

Тая ж ідэя пераемнасці знайшла дасканалае філасофска-мастацкае вырашэнне ў М. Багдановіча, у чыіх трапяткіх мініяцюрах з цыкла «Старая Беларусь» выказана наўздзіў чыстае і жыватворчае пачуццё любві да Радзімы, народжанае ў сыноўнім сэрцы паэта высокай этычнай настраёвасцю, дасканалым веданнем гістарычнага матэрыялу, цудадзейным паэтычным дарам. Надта ж прыцягальны Багдановіч нязвыклай адухоўленасцю і ў гэтым сэнсе сапраўднай інтэлігентнасцю сваіх твораў, якія з'яўляюцца ўзорам рэдкага па дасканаласці гарманічнага спалучэння этычнага непакою і эстэтычнага хараства — таго ж самага, паноўленага ў іншым гістарычным часе, гуманістычнага ідэалу, пад якім у шматвяковай кнізе нацыянальнай культуры першым значыцца прозвішча Ф. Скарыны, аднаго з лепшых прадстаўнікоў, на думку аўтара «Кнігі» і «Перапісчыка», беларускай інтэлігенцыі пры яе зараджэнні[13]. Невыпадковы, мабыць, у Багдановіча зварот — першы ў беларускай літаратуры — да мастацка-вобразнага асэнсавання постаці слыннага доктара Скарыны (верш «Безнадзейнасць»).

Прамым духоўным салідарызаваннем са Скарынам на грунце ідэі народнага будзіцельства, самапазнання беларускай інтэлігенцыяй сваіх нацыянальных абавязкаў вызначаюцца паасобныя творы М. Гарэцкага (аповесць «Меланхолія»), Л. Родзевіча (верш «Скарына — «Наша ніва» — Луцкевіч»), І. Абдзіраловіча (філасофска-публіцыстычныя эцюды «Адвечным шляхам»). Варта таксама мець на ўвазе і апасродкаваную, сімвалічную «прысутнасць» Францыска-палачаніна ў паэзіі і публіцыстыцы К. Каганца, А. Гаруна, З. Бядулі — там, дзе імі паэтызуюцца, часам занадта ідэалізавана, слаўнае мінулае Беларусі, традыцыі беларускай мовы, беларускага патрыятызму. Істотна тое, што гісторыя не была самамэтай для пісьменнікаў: яе пазнавальны і выхаваўчы сэнс падначальваўся надзённым задачам

[12] Гарэцкі М. Доктар Францыск Скарына // Вольная Беларусь. 1917. 8 жн.
[13] Багдановіч М. Зб. тв. Т. 2. С. 217.

развіцця нацыянальнай культуры, вызваленчага змагання народа.

I апошняе меркаванне. Уплыў Скарыны наша дакастрычніцкае пісьменства не менш выразна адчула яшчэ з аднаго, выдавецкага, боку. Маюцца на ўвазе грамадска-самадзейныя, па большасці бескарыслівыя падставы зараджэння і кансалідацыі новага беларускага кнігадруку. «Круг беларускай прасветы», «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша ніва», «Наша хата», «Палачанін» (!), «Менчук», «Саха», «Беларусь», «Вольная Беларусь», «Гоман», «Лучынка» — усе гэтыя гурткі, суполкі, выдавецкія таварыствы былі пакліканы да жыцця той самай падзвіжніцкай ідэяй, якая чатырма стагоддзямі раней рушыла справу Пачынальніка з Полацка. I назва «Палачанін» у згаданай «выдавецкай» шарэнзе аказалася, трэба думаць, невыпадкова. Крэўнасць са скарынаўскімі традыцыямі зазначылася ў вядучай ідэі выдавецкага руху: кнігу — у рукі простаму чалавеку, дарогу ў свет — роднаму беларускаму слову. З той, аднак, розніцай, што новыя рупліўцы беларускай кнігі не маглі разлічваць на падтрымку багатых мецэнатаў. Беларускіх «райцаў», «бурмістраў» ці нават купцоў як такіх не існавала: к таму часу яны былі паланізаваны або русіфікаваны і не выказвалі асаблівага жадання ўзнаўляць беларускае літаратурнае слова. Здараліся, праўда, адзінкавыя выключэнні — успомнім, дзеля справядлівасці, прозвішчы буйных землеўладальнікаў М. Радзівіла ці Т. Гардзялкоўскай, якія часам паступаліся ўласнымі сродкамі на падтрымку беларускага культурнага руху. Наогул жа к таму часу эпоха прыватных мецэнатаў на Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, далічвала апошнія дні. Новы гаспадар і мецэнат айчыннай кнігі (сацыялістычная дзяржава) ужо гатовы быў стаць за штурвал гісторыі і належным чынам паклапаціцца аб хлебе надзённым і духоўным для працоўнага чалавека.

Такім чынам, узаемадзеянне са старакніжнай традыцыяй склала адзін з арганічных фактараў станаўлення і развіцця новай беларускай літаратуры. Мажлівасць заручыцца падтрымкай глыбокага «гістарычнага» тылу, аўтарытэтам гуманістаасветніка Ф. Скарыны адыграла для маладой славеснасці неацэнную ролю. Адкрыліся новыя магчымасці для паглыблення гістарызму, пашырэння грамадска-патрыятычных даляглядаў, для ўзбагачэння жанрава-стылявой палітры беларускіх майстроў слова. Авалодванне творчай спадчынай вякоў інтэлектуальна ўзбагачала новае пісьменства, спрыяла пераадоленню «сялянскага» этнаграфізму, самавыяўленню адметнага нацыянальнага аблічча, бо толькі ў такім, дастаткова самаакрэсленым, стане магла беларуская літаратура разлічваць як на прызнанне свайго народа, так і на «пачэсны пасад» між літаратур свету.

Старадаўні творчы абшар, вядома, не быў і не мог быць адразу асвоены на ўсю веліч затоеных у ім скарбаў. Нельга за-

бываць пра адсутнасць нармальных сацыяльна-культурных, палітычных умоў для развіцця беларускага слова, культуры, навукі. Тым больш прыкметны і велічны — не будзем баяцца высокіх слоў — подзвіг пачынальнікаў адроджанай літаратуры, што яны патрапілі прарваць зацяжную блакаду вакол гісторыі сваёй Радзімы Беларусі, паскорыць творчую хаду беларускага народа да новага, справядлівага ладу.





*Я. С. УМЕЦКАЯ (Мінск)*

# ПРАЦЯГ СКАРЫНАЎСКІХ ТРАДЫЦЫЙ: КНІГАДРУКАВАННЕ БЕЛАРУСІ Ў XIX ст. (дарэформенны перыяд)

Амаль пяць стагоддзяў аддзяляюць нас ад часу, калі Францыск Скарына здзейсніў сваю вялікую справу. Змяняліся гістарычныя эпохі. У асобныя перыяды сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы складваліся вельмі неспрыяльна для развіцця кнігадрукавання ў Беларусі. Мяняліся маштабы і сіла культурна-гістарычнага працэсу. Аднак паступовы рух кнігавыдавецкай справы працягваўся.

Адным з цяжкіх перыядаў у кнігадрукаванні было XIX ст., дарэформенны яго час. У 30—50-я гады царызм, баючыся росту нацыянальнай самасвядомасці і палітычнай актыўнасці народных мас, усяляк перашкаджаў развіццю беларускай культуры, у тым ліку і кнігадрукавання. Перш за ўсё стрымлівалася адкрыццё новых прыватных друкарань. Па «высокаму» прадпісанню, дадзеным у сакрэтным цыркуляры, адкрыццё друкарань і літаграфій забаранялася ўраджэнцам «заходніх», г. зн. беларускіх, губерняў. А яшчэ раней улады аргументавалі забарону ствараць друкарні палітычнай ненадзейнасцю або недахопам сродкаў у іх уладальніка, як гэта было сфармулявана, напрыклад, у негатыўнай рэзалюцыі на прашэнні 1842 г. настаўніка малявання В. Лохава аб адкрыцці ім літаграфіі ў Віцебску.

У тайных друкарнях выдавалася галоўным чынам літаратура антыўрадавага напрамку. Такія друкарні дзейнічалі ў Гродне (трымаў яе дваранін В. Гамуліцкі) [1], Віцебску [2], Ігуменскім павеце. Уладальнік апошняй быў асуджаны.

Колькасць узаконеных прыватных друкарань была нязначнай. За васьмігадовы перыяд (1838—1845) адначасова функцыяніравалі толькі дзве друкарні (З. Нахімовіча ў Гродне і І. Стафановіча ў Мінску), а з 1846 да 1860 г.— тры (друкарня Е. Дворца і літаграфія Э. Адамовіча ў Мінску і друкарня Нахімовічаў у Гродне).

Усяго ў 1833—1860 гг.[3] у Беларусі дзейнічалі 17 прыватных

---

[1] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 1297, воп. 1, с. 4201, л. с. 1—3.

[2] Там жа, 12363, л. с. 11.

[3] Перыяд з 1833 па 1860 г. у далейшым будзем называць другой трэццю стагоддзя.

друкарань. 10 з іх спецыялізаваліся на выпуску яўрэйскай літаратуры (да 1837 г.). Гэта ўдвая менш, чым было іх у першай трэці.

Не лепшым было становішча і губернскіх друкарань. Яны амаль не выходзілі са стану хранічнага фінансавага крызісу. Толькі ў 1833 г. (г. зн. на 36 гадоў пазней Віцебскай і Мінскай і на 13 гадоў пазней Гродзенскай) адкрылася губернская друкарня ў Магілёве, чацвёртая па ліку. Яна абыходзілася двума варштатамі, якія ледзь спраўляліся з друкаваннем матэрыялаў губернскага праўлення. Толькі ў 1846 г., калі ва ўласнасць Магілёўскай губернскай друкарні перайшло абсталяванне кансісторскай друкарні (тры варштаты і 81 пуд шрыфтоў), становішча яе некалькі палепшылася. Іншыя губернскія друкарні таксама імкнуліся палепшыць сваё становішча за кошт павелічэння колькасці варштатаў. Так, Гродзенская губернская друкарня ў 1834 г. набыла адзін [4], а ў 1838 г.— другі варштат і словалітню [5], віцебская — за перыяд з 1835 да 1847 г.— 5 варштатаў [6]. Нягледзячы на гэта, губернскія друкарні ледзь спраўляліся з друкаваннем афіцыйных папер і губернскіх ведамасцей. Як вядома, з 1838 г. усе губернскія друкарні — магілёўская, віцебская, гродзенская і мінская — пераключыліся на выпуск афіцыйных мясцовых газет — губернскіх ведамасцей.

Такім чынам, рэальная друкарская база Беларусі ў перыяд з 1833 па 1860 г. была прадстаўлена, па сутнасці, пяццю-шасцю прыватнымі друкарнямі і чатырма губернскімі.

Паводле зробленых намі падлікаў, колькасць выданняў на польскай мове скарацілася ў гэты перыяд у 3,5 раза (з 410 да 115), а на лацінскай — у 5,5 раза (са 171 да 31 пазіцыі). Адначасова зменшыўся выпуск кніг на заходнееўрапейскіх мовах. Калі ў першай трэці выйшла 28 нямецкіх, французскіх і італьянскіх кніг, то ў другой — усяго пяць (на французскай мове).

Адначасова намеціласа тэндэнцыя да павелічэння выпуску кніг на рускай мове (22 супраць 16 у першай трэці), якая ў пасляфэрменны перыяд стане пануючай. Большасць іх выходзіла ў губернскіх друкарнях. У Мінскай друкарні, напрыклад, былі выдадзены «Памятная кніжка Мінскай губерні» (1845), «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні» (1848), вершаваная аповесць настаўніка Мінскай гімназіі Д. І. Сергіеўскага «Пан Дольскі, або Спатканне з дачкой» (1845), у аснову якой пакладзен мясцовы матэрыял. Кнігі на рускай мове з'яўляліся і ў прыватных друкарнях. Так, у друкарні І. Стафановіча (Мінск) у 1833 г. была выдадзена кніга А. Паўлава «Падарунак прыстойным вучням і вучаніцам на новы, 1834 год», у друкарні З. Нахімовіча (Гродна) у 1829 г.— «Новы руска-

[4] ЦДГА СССР, ф. 1284, воп. 22, с. 79, л. с. 97.
[5] ЦДГА БССР (Гродна), ф. 1, воп. 34, с. 156, л. с. 45, 46.
[6] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 1297, воп. 1, с. 15627, л. с. 115—116.

польскі буквар», у друкарні Ф. Фалька (Мінск) у 1848 г.— «Узоры рускай, польскай, французскай і нямецкай каліграфіі» і інш.

У 30-я гады актывізавалі сваю дзейнасць яўрэйскія друкарні, прадукцыя якіх прызначалася для задавальнення чытацкага попыту членаў яўрэйскіх абшчын. У агульным аб'ёме выданняў Беларусі ўдзельная вага гэтай прадукцыі дасягнула тады 37%. У сярэднім на яўрэйскай мове штогод з'яўлялася да 20 пазіцый, у той час як у першай трэці — не больш трох. У 1837 г. па царскаму ўказу выпуск яўрэйскай літаратуры ў Беларусі спыніўся.

Новай і надзвычай важнай з'явай у кнігавыданні Беларусі ўказанага перыяду быў выпуск чатырох мастацкіх твораў на беларускай мове. Гэта — «Вечарніцы» (1855), «Гапон» (1855), «Цікавішся — прачытай» (1856) і «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857), напісаныя В. Дуніным-Марцінкевічам і выдадзеныя лацінкай у Мінску ў друкарні Дворца. У іх закрануты вострыя сацыяльныя праблемы. Аўтар пісаў пра беларускую вёску ва ўмовах прыгонніцтва, паказваў веліч і высакароднасць беларускага селяніна. Некаторыя творы беларускіх пісьменнікаў былі надрукаваны ў Вільні, распаўсюджваліся ў рукапісах.

Асобна трэба сказаць пра 43 выданні на польскай мове, надрукаваныя, відаць, па-за межамі Беларусі. Але на іх тытульных лістах побач з Вільняй, Пецярбургам ці Варшавай указаны назвы беларускіх гарадоў — Віцебска, Магілёва.

У рэпертуары кніжных выданняў, як і ў першай трэці XIX ст., назіраецца стабільная перавага свецкай літаратуры (70%) над рэлігійнымі выданнямі. Сярод свецкай літаратуры былі кнігі з сельскагаспадарчай, гістарычнай, філасофскай, сацыяльна-эканамічнай, прававой тэматыкай. Такія галіны ведаў, як медыцына, батаніка, геаграфія, статыстыка, былі прадстаўлены адным выданнем кожная.

Па свайму складу самай шматлікай была група выданняў твораў мастацкай літаратуры — 60 пазіцый. Большая яе частка складаецца з аповесцей, апавяданняў і вершаў польскіх і беларуска-польскіх пісьменнікаў Ю. Крашэўскага, К. Буйніцкага, А. Вільчынскага, А. Вярыгі-Дарэўскага, Ю. Кажанеўскага, А. Пяткевіча (А. Плуга), М. Лойкі, Л. Шчарбовіча-Вечара, Л. Кандратовіча (У. Сыракомлі), А. Ходзькі і інш.

Другой па колькасці ў структуры рэпертуару была група выданняў навуковай літаратуры (18). Як і мастацкая літаратура, выданні гэтай групы адлюстроўвалі ў пэўнай ступені тэндэнцыі развіцця тагачаснага беларускага грамадства, запатрабаванні яго чытачоў, у прыватнасці ўзрастанне цікавасці да гісторыі роднага краю, яго прыроды. Таму значную частку ўказаных выданняў складалі арыгінальныя працы гісторыка-краязнаўчага характару. Гэта — «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні, праваслаўных манастыроў, цэркваў» А. В. Сямёнава (Мн., 1848), «Гістарычнае апісанне горада Гродна» Я І. Радзішэўскага і П. В. Баброўскага (Гродна, 1860),

«Законы руху народанасельніцтва Гродзенскай губерні ў пятнаццацігадовы перыяд. Статыстычны агляд» (Гродна, 1860) і інш.

Сельскагаспадарчыя публікацыі мелі галоўным чынам прыкладны характар і былі арыентаваны на ўладальнікаў і ўпраўляючых маёнткамі. Такімі з'яўляюцца пераклады на рускую і польскую мовы твора вядомага ў той час французскага агранома М. Домбаля пад назвай «Сеянне, збіранне і захаванне буракоў» (Мн., 1852, 1853), польскамоўная брашура «Пра літоўскі таварны лён» Я. Рыхтара (Вільня; Віцебск, 1856). У напісанай У. Сыракомлем прадмове да гэтай кнігі пададзен біяграфічны нарыс жыцця яе аўтара.

Аднак некаторыя сельскагаспадарчыя публікацыі мелі і навукова-даследчую накіраванасць. Гэта — тры выданні даследавання Г. Арэуса «Доследы і назіранні аб падзяжу рагатай жывёлы» (Віцебск, 1848, 1849), кнігі В. А. Вахоўскага «Аб клімаце Віцебскай губерні» (Віцебск, 1862), Р. Пабо і К. А. Чалоўскага «Магілёўская флора» (Магілёў, 1853), якія выйшлі на рускай мове, а таксама польскамоўная работа доктара медыцыны І. Наўхімовіча «Як лячыцца мінеральнай вадой» (Гродна, 1841).

Вучэбная літаратура была прадстаўлена букварамі і курсамі граматыкі рускай, польскай і нямецкай моў: «Буквар для навучання рускага юнацтва чытанню па-расійску» (Гродна, 1836), «Скарочаная руская граматыка» І. Канстанцінава, «Навука чытання польскага пісьменства» (Гродна, 1834), «Практычна-тэарэтычная граматыка польскай мовы» Ф. Чапялінскага, нямецкія падручнікі «Першапачатковае навучанне французскай мове» (Вільня; Гродна, 1836), «Буквар у малюнках для дзяцей» (Мн., 1854). Упершыню быў выдадзены польскамоўны метадычны дапаможнік «Новы метад навучання музыкі без інструмента» (Мн., 1855).

Новай з'явай у кнігавыданні гэтага перыяду стаў выхад літаратурна-гістарычнага і медыцынскага часопіса ліберальна-асветніцкага напрамку «Андына друскеніцкіх крыніц» (на польскай мове). Ён выдаваўся ў 1844—1846 гг. адзін раз у месяц у час курортнага сезона (красавік—снежань) у Друскеніках (цяпер Друскінінкай Літоўскай ССР), але друкаваўся ў Гродзенскай губернскай друкарні. Усяго выйшлі 24 нумары. Часопіс меў тры аддзелы: медыцынскі, гістарычны і літаратурны. У літаратурным аддзеле, напрыклад, былі шырока прадстаўлены белетрызаваная проза і паэзія, дзе знаходзіла адлюстраванне мясцовая тэматыка, у тым ліку і беларуская. У паэтычных творах адчуваліся ідэалізацыя гістарычнага мінулага, крытыка арыстакратыі. Сярод аўтараў часопіса былі пісьменнікі А. Адынец, К. Буйніцкі, М. Грабоўскі, А. Гроза, Ю. Крашэўскі, А. Плуг, У. Сыракомля, гісторыкі В. Мацяёўскі, Т. Нарбут, В. Трамбіцкі, Ю. Ярашэвіч і інш. З 1838 г. у губернскіх цэнтрах Беларусі

сталі выдавацца афіцыйныя «Губернскія ведамасці». З 1840 г. яны мелі дзве часткі: афіцыйную, дзе друкаваліся пастановы ўрада і мясцовых улад, і неафіцыйную, дзе калі-нікалі змяшчаліся матэрыялы этнаграфічнага, фальклорнага, літаратуразнаўчага, гістарычнага і іншага характару.

У значнай ступені патрэбы чытачоў задавальняліся за кошт увозу ў Беларусь навуковай, навукова-папулярнай, прыкладной, вучэбнай, мастацкай і іншай літаратуры з Вільні і Пецярбурга, а таксама з-за мяжы. Як сведчаць архіўныя звесткі, штогадовы ўвоз кніг на тэрыторыю Віленскай навучальнай акругі, у складзе якой была і Беларусь, у 30—40-я гады складаў у сярэднім 60 000 тамоў[7]. Увозілася літаратура і кантрабандным шляхам. Асноўная частка твораў мясцовых аўтараў гэтага перыяду ўбачыла, аднак, свет за межамі краю. Прычыны такой адмоўнай з'явы правамерна бачыць у слабых матэрыяльна-тэхнічных магчымасцях мясцовых друкарань, у высокім кошце іх выданняў, а таксама ў больш суровых забарончых акцыях царскіх улад, г. зн. у цэнзурна-прававых умовах кнігадрукавання. Таму кнігі беларускіх аўтараў друкаваліся тады ў Вільні, Пецярбургу, Варшаве, а таксама за межамі імперыі.

Па колькасці беларускіх выданняў першае месца належала Вільні. Тут, напрыклад, побач з Мінскам друкаваў свае творы на беларускай і польскай мовах беларускі пісьменнік В. Дунін-Марцінкевіч. Гэта — яго «Ідылія» (1846), беларускі пераклад часткі паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1859) і інш. У Вільні выдавалі свае польскія і беларускія творы В. Каратынскі («Чым хата багата, тым рада», 1857; «Таміла», 1858 і інш.), І. Легатовіч («Апафегматы», 1854; «Думкі», 1857; «Спрадвечная маральнасць нашых парадкаў», 1859 і г. д.), Я. Чачот «Вясковыя песенькі з-пад Нёмана і Дзвіны» (рад выпускаў), В. Калупайла («Ля печкі», 1849) і інш. У 1835 г. у Вільні была выдадзена кніга пад назвай «Кароткі збор хрысціянскай навукі», дзве трэці якой былі надрукаваны на беларускай мове. Яе па праву можна лічыць першым выданнем новага беларускага друку.

Сярод выданняў, якія выйшлі ў Пецярбургу, былі творы пісьменнікаў Беларусі і з беларускімі сюжэтамі, а таксама фальклорныя і іншыя матэрыялы. Назавём «Шляхціца Завальню» Я. Баршчэўскага, польскамоўны альманах «Незабудка» (першая палавіна 40-х гадоў), «Беларускія прыказкі» П. Шпілеўскага (1853). Аналагічныя матэрыялы публікаваліся і на старонках сталічнай перыёдыкі.

Спецыфічнай асаблівасцю беларускага чытацкага асяроддзя дарэформеннага перыяду з'яўлялася тое, што большая яго частка ўмела чытаць толькі па-польску. Такая сітуацыя склалася ў выніку шматвяковага панавання дэнацыяналізаванай шляхты,

---

[7] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 1297, воп. 1, с. 12363, л. с. 15.

прымусовага апалячвання і акаталічвання беларускага насельніцтва. У выніку насаджэння польскамоўнай культуры і з'явіліся беларусы, якія не ведалі кірылічнага алфавіта. Таму беларускія кнігі друкаваліся тады лацінкай, г. зн. набіраліся яе польскай разнавіднасцю. У гэтых умовах пастанова царскага ўрада аб забароне ўжываць «польскі алфавіт» пры друкаванні твораў на беларускай мове адыграла адмоўную ролю ў развіцці беларускага кнігавыдання. У выніку быў нанесены цяжкі ўдар па беларускаму друкаванаму слову.

Падводзячы вынікі кнігавыдавецкай дзейнасці ў 30—50-я гады, можна зрабіць заключэнне, што гэты перыяд у гісторыі кнігавыдання Беларусі характарызуецца як колькасным спадам прадукцыі мясцовых друкарань, так і пэўнай зменай тэндэнцый: з'яўленнем асобных выданняў на беларускай мове, павелічэннем выпуску кніг на рускай мове і змяншэннем на польскай, спыненнем выпуску кніг на лацінскай, яўрэйскай і латышскай мовах.

Як у першай, так і ў другой трэці XIX ст. удзельная вага выдавецкай прадукцыі беларускіх друкарань у задавальненні чытацкага попыту была нязначнай. У большасці сваёй ён задавальняўся за кошт літаратуры, якая ўвозілася галоўным чынам з Пецярбурга, Масквы, Вільні, а таксама з гарадоў Царства Польскага і з-за мяжы. З Пецярбурга і Масквы кнігі і перыядычныя выданні паступалі як ад дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый, так і ад прыватных асоб — аўтараў, выдаўцоў і кнігагандляроў. Значную частку ўвозу складала вучэбная кніга, якой школы Беларусі забяспечваліся цэнтралізавана. Па распараджэнню Дэпартамента народнай асветы з 1826 г. рад падручнікаў на рускай мове накіроўваўся з Пецярбурга ў адрас Віленскага універсітэта для перадруку і распрадажы па невысокіх цэнах[8]. Гэта распараджэнне выконвалася універсітэтам да 1832 г.

Значную групу выданняў, што паступалі з Пецярбурга, складала мастацкая літаратура, якая распаўсюджвалася разам з іншай вядомым пецярбургскім выдаўцом А. Ф. Смірдзіным. З 1844 г. права прадаваць вучэбную літаратуру навучальным установам краіны прадастаўлялася любому жадаючаму. Гэта літаратура накіроўвалася непасрэдна ў школы і бібліятэкі краю.

Адной з форм распаўсюджання літаратуры ў Беларусі была загадзя аб'яўленая падпіска як на перыядычныя, так і на непераадычныя выданні, г. зн. кнігі. Такім шляхам распаўсюджваліся творы Г. Р. Дзяржавіна (было прададзена 25 падпісных білетаў), васьмітомнае выданне твораў А. С. Пушкіна (1837)[9] і інш.

Калі са сталічных гарадоў літаратура паступала ў асноўным

---

[8] ЦДГА СССР, ф. 734, воп. 1, с. 20409, л. с. 6.

[9] ЦДГА БССР (Гродна), ф. 1, воп. 1, с. 489, л. с. 1, 5.

на рускай мове, то з Вільні — пераважна на польскай. Цэнтрам забеспячэння кнігамі школ на тэрыторыі Беларусі быў Віленскі універсітэт. Для продажу кніг, якія выдаваліся самім універсітэтам, а таксама выпісваліся з-за мяжы ці набываліся ў прыватных асоб, прыцягваліся мясцовыя кнігавыдаўцы і кнігагандляры Д. Ром [10], Т. Глюксберг, Ю. Завадскі, ураджэнец Беларусі А. Марціноўскі і арандатар універсітэцкай кніжнай лаўкі П. Горн [11].

З Вільні вучэбная літаратура паступала ў кнігарні губернскіх гімназій, праз якія рассылалася па перыферыйных пачатковых і павятовых вучылішчах. Паводле звестак за 1847 г., з кнігарань чатырох беларускіх губернскіх гімназій (Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай) было адпраўлена ў школы, раздадзена вучням бясплатна і прададзена насельніцтву звыш тысячы экземпляраў кніг. Паводле звестак, па Гродзенскай гімназіі ў 1843 г. паступіла ў продаж кніг на 999 руб., а прададзена на 870 р. 92 к., па Свіслацкай гімназіі паступіла ў продаж кніг на 323 р. 82 к., прададзена на 212 р. 15 к.[12]

Побач з кнігарнямі губернскіх гімназій у Беларусі дзейнічалі кніжныя лаўкі, якія належалі прыватным асобам. З'яўленне ва ўсіх губернскіх цэнтрах, а таксама ў Брэсце, Нясвіжы і іншых павятовых гарадах кніжных магазінаў звязана з імем вядомага віленскага выдаўца і кнігагандляра Ю. Завадскага. З другім віленскім выдаўцом А. Марціноўскім звязана распаўсюджанне ў Беларусі выданняў мастацкай, а таксама навуковай і прыкладной сельскагаспадарчай літаратуры. Рабіліся закупы і ў іншых віленскіх кнігагандляроў. У Рубіна, напрыклад, набывалі кнігі мінскія гандляры Бейліны. Разам з віленскай Бейліны куплялі літаратуру, выдадзеную ў Варшаве, Кракаве, Познані, а таксама ў Парыжы і іншых заходніх гарадах. Сярод яе нярэдка была і бесцэнзурная, якую выдавалі польскія эмігранты, — яна ўвозілася кантрабандным шляхам [13]. Так, у 1833 г. чыноўнікам асобых даручэнняў Багдановічам у Мінску, у кніжнай лаўцы Бейліных, былі знойдзены 39 бесцэнзурных кніг, чатыры з іх аказаліся забароненымі цэнзурай (парыжскія выданні твораў Вальтэра, «Гісторыя Польшчы» І. Лялевеля, якая ўбачыла свет у Варшаве ў 1830 г., яшчэ адна польская кніга таго ж года). Штогод з Вільні ў Мінск на кірмаш вывозілі польскія і французскія кнігі Завадскі, Оргельбранд і Рафаловіч. У 1859 г. сваю кнігарню адкрыў у Мінску дваранін А. Валіцкі, кнігі і ноты для якой ён выпісваў з Варшавы.

Царская цэнзура вельмі насцярожана ставілася да пашы-

---

[10] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 708, воп. 1, с. 152, л. с. 43.

[11] ЦДГА БССР (Гродна), ф. 1, воп. 3, с. 549, л. с. 1, 2, 5.

[12] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Спб., 1863. Ч. 1. С. 196.

[13] ЦДГА СССР, ф. 722, воп. 2, с. 2456, л. с. 5, 6.

ранай у заходніх губернях літаратуры на польскай і французскай мовах, у тым ліку і да выдадзенай у Вільні з дазволу цэнзуры. У ёй, як указваў рэктар Віленскага універсітэта, «з такой тонкасцю хаваюцца згубныя мэты, дзеля чаго яна і выдаецца, што ніякая цэнзура не знойдзе ў іх прычыны да забароны» [14].

Побач з кнігарнямі важным каналам распаўсюджання кнігі ў Беларусі былі бібліятэкі: навучальных устаноў, бальніц, публічныя, прыватныя. Аднак іх фонды былі нязначныя. Усяго толькі на 240 руб. куплялі ў год кніг бібліятэкі губернскіх гімназій [15]. У 1840 г. ва ўсіх бібліятэках Беларускай навучальнай акругі налічвалася 86 500 тамоў, большую частку якіх складала вучэбная літаратура. Бібліятэкі пры бальніцах пачалі ў Беларусі стварацца з 1851 г. Яны камплектаваліся Медыцынскім дэпартаментам на штогодную суму ў 150 руб., якая выдзялялася начальнікамі губерань на набыццё літаратуры па медыцыне [16].

Пэўную ролю ў распаўсюджанні літаратуры, галоўным чынам мастацкай, ігралі губернскія публічныя бібліятэкі, адкрытыя ў 30—40-я гады. Вялікую ролю ў іх камплектаванні, як і ў камплектаванні фондаў бібліятэк навучальных устаноў, адыграў вядомы пецярбургскі выдавец А. Ф. Смірдзін, які доўгі час быў камісіянерам Дэпартамента народнай асветы і прадаваў кнігі са скідкай на 20%. У рэестры кніг для чытання, выпісаных ад Смірдзіна для Віцебскай губернскай публічнай бібліятэкі, былі па сутнасці, творы ўсіх тагачасных рускіх і рада замежных аўтараў (В. Скот, Ф. Купер, Д. Свіфт, Ф. Шылер і інш.) [17].

Разам з мастацкай літаратурай сярод кніг, атрыманых ад Смірдзіна публічнымі бібліятэкамі, былі творы медыцынскага, гістарычнага і іншага зместу. Атрымлівалі ў Беларусі і смірдзінскі бібліяграфічны даведнік «Бібліятэка для чытання». У бібліятэкі Беларусі паступалі таксама кнігі ад І. І. Глазунова [18], А. С. Шыраева [19] і іншых сталічных выдаўцоў.

І усё ж удзельная вага кніжных фондаў публічных бібліятэк у задавальненні чытацкага попыту ў Беларусі бала невялікай. Так, у 1845 г. Магілёўская публічная бібліятэка мела ў фондах усяго 1008 адзінак, Мінская — 2265 [20]. З-за нестабільнага фінансавання яны былі пазбаўлены магчымасці набываць многія папулярныя ў той час выданні. Кола чытачоў публічных бібліятэк абмяжоўвалася ў асноўным прадстаўнікамі вышэйшых слаёў грамадства.

Сацыяльна абмежаваным было і кола чытачоў прыватных дваранскіх бібліятэк: маршалка Барысаўскага павета Ю. Слізея

---

[14] ЦДГА СССР, ф. 772, воп. 1, с. 2456, л. с. 1, 2.
[15] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 1430, воп. 1, с. 26499 (1854), л. с. 1.
[16] Там жа.
[17] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 2001, воп. 1, с. 240, л. с. 382.
[18] ЦДГА БССР (Мінск), ф. 2254, воп. 1, с. 171, л. с. 17—32.
[19] Там жа, ф. 2001, воп. 1, с. 116, л. с. 132.
[20] Там жа. с. 240, л. с. 382.

(Мсціж), якая налічвала ў 1847 г. 7000 кніг, І. Каладзеева (Барысаў), што змяшчала звыш 15 000 тамоў кніг і рукапісаў, К. Тышкевіча (Лагойск) і Ю. Бергеля (Слуцк), якія мелі па 3000 экземпляраў, В. Трамбіцкага (Пружаны). Карыстанне гэтымі бібліятэкамі, як і публічнымі, было платнае.

Асаблівае месца сярод прыватных збораў належала бібліятэцы братоў Крывашэіных — памешчыка Цяпкіна (Мінск), з якой звязана пранікненне ў асяроддзе беларускага сялянства прагрэсіўнай рускай кнігі. У 1833 г. у ёй было 246 кніг рускіх пісьменнікаў М. В. Гогаля, В. А. Жукоўскага, І. А. Крылова, А. С. Пушкіна і інш. Гэтай бібліятэкай бясплатна карысталіся таксама настаўнікі і вучні Мінскай гімназіі. Так, на руках у настаўніка славеснасці гэтай гімназіі Смірнова былі 43 творы рускіх пісьменнікаў, якія ён распаўсюджваў сярод навучэнцаў [21].

Значнае месца ў задавальненні чытацкага попыту ў Беларусі займала літаратура на французскай, нямецкай, польскай, англійскай мовах гістарычнага, палітычнага і філасофскага і часткова багаслоўскага зместу, а таксама творы мастацкай літаратуры, што ўвозіліся з-за мяжы [22]. Штогадовыя паступленні адных толькі кніжных выданняў на гэтых мовах на прагляд Віленскага цэнзурнага камітэта складалі ў сярэднім больш за 60 тыс. адзінак [23].

У канцы 40-х — 50-я гады шырокае распаўсюджанне сярод «простага» народа Беларусі атрымала літаратура з антыўрадавай накіраванасцю. Гэта, напрыклад, брашура эмігранта С. Мілкоўскага «Удзел палякаў ва ўсходняй вайне», выдадзеная ў 1853 г. на польскай мове ў Парыжы [24].

На шырокае распаўсюджанне літаратуры, прасякнутай ідэямі польскага вызваленчага руху і выдадзенай у Жэневе, Парыжы, Лейпцыгу, Ліёне і Лондане, указваюць факты яе канфіскацыі ў рэпрэсіраваных прадстаўнікоў шляхты — Солтана, Агінскага, Наркевіча, Кшыўкоўскага, Корсака, Залускага, Сапегі. З канфіскаваных у іх кніг забароненымі для чытання былі прызнаны 33 творы ў 47 тамах [25].

Такім чынам, у XIX ст. кніга ўсё смялей пракладвала сябе шлях да беларускага чытача. Пашыраліся творы на розных мовах, што сведчыла аб шматнацыянальным характары выдання і распаўсюджання кніг, аб наяўнасці шырокіх культурных сувязей з іншымі народамі. У новых умовах у Беларусі працягвалася справа, распачатая ў XVI ст. Скарынам.

---

[21] ЦДГА ЛітССР, ф. 567, воп. 1, с. 9, л. с. 73, 109, 153.
[22] ЦДГА СССР, ф. 772, воп. 1, с. 884, л. с. 14.
[23] Там жэ, с. 884, л. с. 8; с. 942, л. с. 10; с. 1165, л. с. 2; с. 1312, л.с.8—10.
[24] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. М., 1940. Т. 2. С. 468.
[25] ЦДГА ЛітССР, ф. 1240, воп. 1, с. 93, л. с. 159—160.



*В. М. БЕЛАКУРСКІ (Мінск)*

# ПЕРШЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ТВОРЧАСЦІ СКАРЫНЫ Ў САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

Найбольшую ўвагу першых савецкіх даследчыкаў беларускай культуры феадальнага перыяду прыцягвала дзейнасць Ф. Скарыны — выдатнага беларускага першадрукара, асветніка і мысліцеля-гуманіста. Пачатак комплексным навуковым даследаванням яго жыцця і творчасці быў пакладзены юбілейным зборнікам «Чатырохсотлецце беларускага друку», які ўбачыў свет у 1926 г. У яго падрыхтоўцы і выданні прынялі ўдзел такія вядомыя вучоныя рэспублікі, як У. Пічэта, У. Перцаў, М. Шчакаціхін, З. Жылуновіч і інш. Матэрыялы пра Скарыну, змешчаныя ў кнізе, вельмі разнастайныя па характару. Так, гісторык А. Ясінскі даследаваў культурнае развіццё Чэхіі ў пачатку XVI ст., З. Ягораў прывёў падрабязныя звесткі пра Падуанскі універсітэт XV—XVI стст., дзе ў свой час Скарына атрымаў ступень «доктара лекарскіх навук», Я. Воўк-Левановіч прааналізаваў мову скарынаўскіх выданняў Бібліі.

У артыкуле «Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць», змешчаным у зборніку, М. Піятуховіч ахарактарызаваў Скарыну як выдатнага гуманіста, у працах якога выяўляюцца «яркія ўзоры нацыянальнай самасвядомасці» [1]. Змагаючыся за асвету, уздым дабрабыту і культуры народа, Скарына служыў яму ўсёй сваёй практычнай дзейнасцю. Яго жыццё — узор самаадданай працы і вялікі подзвіг, падкрэслівае даследчык. Грунтоўна прааналізаваўшы прадмовы Скарыны да розных выданняў Бібліі, Піятуховіч робіць вывад аб крытычных адносінах аўтара да тэкстаў «Свяшчэннага пісання». Адвольнае каменціраванне Бібліі, шматлікія ўстаўкі і змены, нарэшце, пераклад яе на старабеларускую мову — усё гэта, на думку даследчыка, сведчыць, што Скарына адышоў ад царкоўных традыцый і, кіруючыся найперш асветніцкімі мэтамі, выступаў як вучоны-гуманіст.

Адной з праяў гуманізму беларускага асветніка быў яго індывідуалізм, які расхістваў рэлігійныя ўяўленні аб чалавеку як істоце, поўнасцю залежнай ад бога. «Скарына поўны пачуцця

[1] Піятуховіч М. Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць // Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). Мн., 1926. С. 178—179.

ўласнай годнасці,— падкрэслівае М. Піятуховіч,— ён ужо далёкі ад хрысціянскага ідэалу пакорлівасці...»[2] Нават Біблію, адзначае даследчык, Скарына быў схільны разглядаць хутчэй з індывідуалістычных, а не рэлігійных пазіцый. Кніга «Іоў», напрыклад,— гэта «лекарство душевное, потеха всем смутным», Псалтыр — не толькі «малым детям початок всякой доброй науки», але і «псіхалагічны памятнік, дзе чалавек можа знайсці водгук свайму асабістаму настрою, дзе заключана складаная гама перажыванняў, пачынаючы ад найвышэйшага стану экстазу, захаплення і канчаючы пачуццём адчаю і смутку»[3]. З'яўляючыся індывідуалістам, Скарына, аднак, не замыкаўся ў рамках асабістых перажыванняў. Беларускаму мысліцелю, як і прадстаўнікам заходнееўрапейскага Рэнесансу, уласціва «напружаная ўвага да жыцця прыроды, жыцця ўсяго космасу»[4]. Па прадмовах да Біблії, адзначае Піятуховіч, можна меркаваць аб вялікай і разнастайнай цікавасці Скарыны да прыроды: «Тут мы знаходзім размовление о прирождении древ и былин, зверей, птиц, гадов и рыб»[5]. У цэлым жа для філасофскіх і грамадска-палітычных поглядаў Скарыны, заключае даследчык, было характэрна імкненне да пераадолення сярэдневяковых тэалагічных уяўленняў і ўсталяванне натуралістычных поглядаў на сусвет. І хаця на асобе Скарыны ўсё «яшчэ ляжаць густыя цені сярэднявечча,— піша М. Піятуховіч,— у той жа час змрок гэтых ценяў рассейваюць светлыя праменні жыццярадаснага Рэнесансу»[6].

Істотны ўклад у даследаванне светапогляду Скарыны ўнёс У. Пічэта[7]. У сваіх артыкулах, змешчаных у зборніку «Чатырохсотлецце беларускага друку», ён грунтоўна разгледзеў многія аспекты дзейнасці вялікага асветніка. Эпоху, у якую жыў і працаваў выдатны гуманіст, Пічэта ахарактарызаваў як «беларускае Адраджэнне». Адметнай рысай гэтага часу, на погляд аўтара, быў «гуманістычны рух, нацыянальны ў сваёй аснове і індывідуалістычны па свайму характару»[8]. Вучоны падрабязна даследаваў сацыяльна-эканамічны і культурны ўзровень радзімы Скарыны — Полацка XVI ст., даў агляд дзейнасці асветніка ў Празе і Вільні. У працы «Скарыніяна» Пічэта разгледзеў асноў-

---

[2] Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). С. 178.
[3] Там жа.
[4] Там жа. С. 179.
[5] Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). С. 178.
[6] Там жа. С. 179.
[7] Гл.: Пічэта У. І. Гісторыя Беларусі. М., 1924. Ч. 1. С. 125—126; Францішак Скарына і яго працы // Сав. Беларусь. 1925. 24—25 снеж.; Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецця; Беларускае Адраджэнне ў XVI сталецці: Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталеццях; Scoriniana (1776—1926) // Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). С. 76—113, 132—156, 228—261, 284—327.
[8] Пічэта У. Scoriniana (1776—1926) // Там жа. С. 317.

ныя пытанні, якія паставіла і паспрабавала вырашыць гістарыяграфія XVIII — пачатку XX ст. Да іх ліку належалі: вызначэнне часу і месца выданняў Скарыны, высвятленне крыніц, якія паслужылі асновай для яго перакладаў, вывучэнне мовы выданняў Скарыны і інш.

У. Пічэта ўважліва прааналізаваў адзінае на той час арыгінальнае манаграфічнае даследаванне, прысвечанае беларускаму мысліцелю,— кнігу П. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына» (Спб., 1888) і рэцэнзіі на яе. Адзначаючы несумненную вартасць гэтай працы, падкрэсліваючы яе бясспрэчную навуковую каштоўнасць, вучоны-марксіст адзначыў таксама і рад недахопаў — у першую чаргу недастатковае асвятленне аўтарам сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Літоўска-Беларускай дзяржавы XVI ст., яе сувязей з Заходняй Еўропай. Ф. Скарыну Пічэта характарызуе як выдатнага гуманіста, дзейнасць якога — адданае служэнне свайму народу. Гаворачы аб значэнні перакладу Біблії, аўтар адзначае, што, перакладаючы «Свяшчэннае пісанне» на родную мову, усходнеславянскі першадрукар імкнуўся зрабіць яго «даступным і зразумелым для шырокіх народных мас» [9]. Для Скарыны Біблія, падкрэсліваў ён, мела вялікае пазнавальнае значэнне. У той жа час спроба прадставіць Біблію як аўтарытэтную крыніцу ведаў, на погляд даследчыка, сведчыць аб рэлігійнай абмежаванасці поглядаў перакладчыка. Індывідуалізм Скарыны, які цалкам не парваў з царкоўнымі традыцыямі, У. Пічэта смела параўноўваў з індывідуалізмам ранніх італьянскіх гуманістаў, такіх, напрыклад, як Дантэ, які таксама не змог канчаткова парваць з рэлігіяй.

Скарына называў сваю мову «рускай мовай», супрацьпастаўляючы ёй «мову славянскую». Я. Воўк-Левановіч, падрабязна разгледзеўшы мову перакладу Скарынавай Біблії, зрабіў вывад, што «жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасці характэрных рыс — фанетыкі, марфалогіі і словах — была такой, якой мы яе ведаем цяпер» [10].

Вялікую ўвагу Скарыну ўдзяляў Я. Карскі. Яшчэ ў 1918 г., у рэвалюцыйным Петраградзе, ён надрукаваў першую ў савецкі час працу аб выдатным беларускім асветніку, прысвечаную 400-годдзю з дня выхаду ў свет пражскага Псалтыра Скарыны [11]. Абагуліўшы вядомы да таго часу матэрыял, галоўным чынам даследаванні П. Уладзімірава, І. Каратаева, І. Шляпкіна і інш., ён раскрыў веліч грамадзянскага подзвігу Скарыны, паказаў яго сапраўдную ролю ў гісторыі беларускага народа. У кнізе

---

[9] Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). С. 317.

[10] Воўк-Левановіч Я. Мова выданняў Францішка Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку (1525—1925). С. 383.

[11] Карский Е. Ф. Доктор Франциск Скорина: По поводу 400-летия его изданий (1517—1917) // Чырвоны шлях. 1918. № 3—4. С. 13—16.

«Беларусы» (1921) аўтар таксама адвёў шмат месца вялікаму гуманісту. Карскі высока ставіў дзейнасць Скарыны і лічыў, што ўсе яго выданні Бібліі — выключная ў многіх адносінах з'ява «заходнерускай» культуры. У асобе Скарыны, піша ён, мы маем «выдатна адукаванага чалавека свайго часу, які нічым не ўступаў заходнееўрапейскім дзеячам таго часу ні сваім розумам, ні энергіяй і высокімі задумамі»[12]. Даследчык бачыў мэту перакладчыцкай і кнігадрукарскай дзейнасці Скарыны ў імкненні распаўсюдзіць асвету сярод народа. У сваім перакладзе Бібліі, адзначаў вучоны, Скарына выявіў вялікую самастойнасць. Яна заключалася як у напісанні прадмоў, так і ва ўжыванні вершаў сілабічнага характару. У сваю кнігу Карскі ўключыў урыўкі перакладаў Скарыны і даў іх сціслы лінгвістычны аналіз. Вызначаючы канфесійную належнасць асветніка, Карскі лічыў яго праваслаўным і на гэтай падставе спрабаваў даказаць, што тым горадам, дзе была выдадзена яго Біблія, з'яўляецца іменна чэшская Прага, а не прадмесце Варшавы, як думалі некаторыя даследчыкі. Ён таксама выказваў думку аб тым, што, магчыма, некаторыя кнігі, перакладзеныя Скарынам, так і не былі надрукаваны. Карскі падкрэсліваў, што шматгранная дзейнасць Ф. Скарыны выдатная не толькі сама па сабе, але і па таму плённаму ўздзеянню, якое яна аказала як на беларускі, так і на іншыя славянскія народы.

Спецыяльныя раздзелы, прысвечаныя Скарыну, уключаліся таксама ў агульныя курсы гісторыі беларускай літаратуры. Адной з такіх кніг былі «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» праф. М. Янчука (Мн., 1922), якія ўяўлялі сабой дапрацаваны курс лекцый, прачытаных аўтарам у Маскоўскім універсітэце. На падставе вывучэння прадмоў М. Янчук пазнаёміў чытача са светапоглядамі Скарыны. Высока адгукаючыся аб асветніцкай дзейнасці вялікага гуманіста, вучоны адзначыў, што «Скарына першым даў у рукі народу зразумелую літаратуру і абуджаў у гэтым народзе любоў да асветы і да роднага слова»[13]. Погляд Скарыны на значэнне кніг «Свяшчэннага пісання», згодна з думкай Янчука, нельга характарызаваць як выключна царкоўны. «Ён (Скарына.— *В. Б.*) шукае ў іх не толькі боскую, але і жыццёвую мудрасць»[14]. Гаворачы пра сілабічныя вершы Скарыны, вучоны падкрэсліваў іх уплыў на далейшае вершаскладанне ў Беларусі і на Украіне.

У 1925 г. у Мінску ўбачыла свет чацвёртае выданне «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (першае і другое былі надрукаваны ў 1920 і 1921 гг. у Вільні). Значнае месца ў кнізе адводзілася асвятленню жыццёвага і творчага шляху Скарыны. Характарызуючы Скарыну як яркага прадстаўніка беларускай літаратуры эпохі Адраджэння, аўтар бачыў у ім «гума-

[12] Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3, ч. 2. С. 23.
[13] Янчук Н. А. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Мн., 1922. С. 8.
[14] Там жа. С. 10.

ніста, патрыёта і чалавека набожнага, лепшага інтэлігента свайго часу» [15]. Высвятляючы значэнне Скарыны, Гарэцкі слушна сцвярджаў, што «Скарына стаіць у нас на вялікім гісторыка-літаратурным і культурным рубяжы як беларускі першадрукар. Друкарня яго ў Вільні, першая ў Беларусі, выканала вялікую культурную місію для ўсяго славянскага Усходу» [16].

Вялікую цікавасць у чытачоў выклікаў артыкул А. Харэвіча «Скарына і яго эпоха», надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў 1925 г. Даючы агульную характарыстыку сацыяльна-эканамічнага становішча Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку Беларусі ў канцы XV — пачатку XVI ст., даследчык звярнуў увагу на развіццё буйнога землеўладання і звязаных з ім шляхецкіх вольнасцей, становішча гарадоў, маральны заняпад царквы. У ідэалогіі Скарыны аўтар бачыў рэакцыю на рэлігійна-схаластычнае светаразуменне сярэдневякоўя. Скарына, на думку А. Харэвіча,— прадстаўнік гуманістычнага напрамку, той яго часткі, якая была цесна звязана з Рэфармацыяй. Некаторымі сваімі ідэямі, сцвярджае даследчык, Скарына значна апярэдзіў той час, у якім жыў. «Праз усе яго выданні,— падкрэслівае А. Харэвіч,— чырвонай ніццю праходзіць ідэя сувязі пісьменства з народам, тая ідэя, якая жыве і ў нашы дні» [17]. Аўтар высока ацэньвае ролю першай беларускай друкарні, створанай Скарынам у Вільні, адзначаючы пры гэтым, што яна садзейнічала распаўсюджанню адукаванасці і асветы сярод народа. У асобе Скарыны ён бачыў не толькі асветніка, але і вучонага-філолага.

Беларускія мастацтвазнаўцы ў сваіх працах закранані пытанне аб гравюрах і аздобах у выданнях Скарыны. Асабліва падрабязна даследаваў гэту праблему М. Шчакаціхін. Даючы высокую ацэнку мастацкай вартасці гравюр скарынаўскай Бібліі, вучоны імкнуўся выявіць іх сувязь з аналагічнымі ўзорамі ў Заходняй Еўропе. У прыватнасці, Шчакаціхін выдзеліў з агульнага ліку гравюр пражскай Бібліі Скарыны невялікую іх групу, якую, як ён лічыў, па тэхнічных і іншых асаблівасцях можна аднесці да чэшскай мастацкай традыцыі. Аднак у працэсе далейшых даследаванняў вучоны не змог знайсці сярод чэшскіх узораў такіх, што як па сюжэтах, так і па тэхніцы выканання былі падобныя на гравюры скарынаўскай Бібліі, выдадзенай у Празе. Гэта дало мастацтвазнаўцу магчымасць выказаць меркаванне, што Скарына сам ілюстраваў свае выданні.

На падставе ўважлівага аналізу паперы і філіграней кніг беларускага першадрукара М. Шчакаціхін спрабаваў дакладна вызначыць год іх выдання [18]. Даследчык выказаў таксама ціка-

---

[15] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1925. С. 21.

[16] Там жа. С. 25.

[17] Харэвіч А. Скарына і яго эпоха // Полымя. 1925. № 7. С. 151.

[18] Шчакаціхін М. Да пытання аб храналогіі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інбелкульта. Працы класа гісторыі. Мн., 1928. Кн. 3. Т. 2. С. 435—450.

вую гіпотэзу аб даце нараджэння самога Скарыны [19]. У гэтай сувязі М. Шчакаціхін звярнуў увагу на яго асабісты герб, дзе сонца напалову заслонена месяцам, і зрабіў вывад, што Скарына павінен быў нарадзіцца іменна ў той год, калі адбылося сонечнае зацьменне, бачнае і ў Полацку, на радзіме Скарыны. Такое зацьменне, згодна з астранамічнымі данымі, было зафіксавана 6 красавіка 1486 г.

У канцы 20-х гадоў у рэспубліцы з'явіліся даследаванні, прысвечаныя эпосе Скарыны. Вучоныя працягвалі таксама высвятляць гістарычнае значэнне яго кніг для асветы беларускага народа [20]. З'явіліся першыя ў савецкі час публікацыі дакументаў, што датычаць жыцця Скарыны і яго сям'і [21].

Як сведчаць разгледжаныя матэрыялы, к пачатку 30-х гадоў у рэспубліцы былі дасягнуты прыкметныя поспехі ў вывучэнні творчасці Скарыны. Аднак далейшым даследаванням значна перашкодзіў вульгарны сацыялагізм, нігілістычнае стаўленне да культурнай спадчыны мінулага, якія расцвілі ў перыяд культу асобы. Даволі шырокае распаўсюджанне атрымала думка аб старажытнай беларускай культуры як амаль цалкам «рэакцыйна-феадальнай». Скарына разглядаўся як сярэдневяковы манах-схаласт, які пераклаў рэакцыйную, шкодную Біблію на беларускую мову [22].

Такім чынам, у выніку першых марксісцкіх даследаванняў творчасці Скарыны беларуская культура ўзбагацілася каштоўнымі працамі, якія раскрылі яркую старонку духоўнага развіцця свайго народа. Набыткі вучоных-марксістаў паклалі пачатак той вялікай і плённай працы, што працягваецца ў нашы дні.

---

[19] Шчакаціхін М. Калі радзіўся Францішак Скарына // Полымя. 1925. № 5. С. 148—152.

[20] Доўнар-Запольскі М. Да юбілею беларускага кнігадрукавання // Гісторыка-археалагічны зборнік. 1927. № 1. С. 83—95.

[21] Беларускі архіў. Мн., 1928. Т. 2. С. XIV—XVIII; 263—264.

[22] Ротман. Афіцыйны гісторык нацдэмаў // Сав. краіна. 1931. № 7. С. 16.





*І. І. ШЛЯКІС (Вільнюс)*

## СКАРЫНА Ў КУЛЬТУРАЛОГІІ ЛІТВЫ

Па нашых, вядома, няпоўных звестках, у перыяд з 1622 і да 1985 г. у Літве з'явілася 136 публікацый, якія так ці інакш звязаны з жыццём і дзейнасцю Ф. Скарыны. Зразумела, што гэтыя публікацыі далёка не раўназначныя. Пасля строгага адбору да сапраўды навуковай Скарыніяны з іх ліку можна аднесці, бадай што, толькі трэцюю ці чацвёртую частку.

Першым, відаць, пра дзейнасць Ф. Скарыны ў Вільні пісаў яшчэ ў 1622 г. ігумен базыльянскага манастыра св. Тройцы Анастасій Сялява.

Звестак пра віленскую Скарыніяну XVIII ст. пакуль што няма (прынамсі, у бібліяграфіі Я. Неміроўскага яны адсутнічаюць). Трэба меркаваць, аднак, што больш падрабязнае вывучэнне кніг і перыядычных выданняў, якія выйшлі ў Вільні ў гэты час, магло б прывесці да знаходак новага матэрыялу.

У XIX ст. у Вільнюсе з'явілася каля 20 публікацый, якія датычаць розных пытанняў спадчыны Скарыны. З ліку аўтараў, што пісалі па-польску, у гэтай сувязі трэба згадаць А. Марціноўскага, І. Лялевеля, А. Паўстанскага, А. Ёхера і Ю. Крашэўскага, з рускамоўных літаратараў — М. Пагодзіна, І. Казлоўскага, Ф. Дабранскага.

Неабходна адзначыць, што ў зборніках старажытных актаў і дакументаў, якія выдаваліся Віленскай археаграфічнай камісіяй, былі ўпершыню апублікаваны некаторыя важныя дакументы, што датычыліся біяграфіі Ф. Скарыны (у бібліяграфіі Я. Неміроўскага № 104, 105).

На XX ст. прыпадае асноўная частка ўсёй Скарыніяны Літвы: 115 публікацый са 136. Гэта, напэўна, заканамерна, бо важнейшыя адкрыцці ў спадчыне Ф. Скарыны былі зроблены іменна ў XX ст., а агульная колькасць літаратуры на розных мовах істотна павялічылася. Калі да 1900 г. уключна (па звестках з бібліяграфіі Я. Неміроўскага) пра беларускага першадрукара з'явілася 306 публікацый, то за 77 год нашага стагоддзя — каля 1125. З кожным годам Скарыніяна папаўняецца новымі працамі.

У XX ст. у Скарыніяне Літвы ўмоўна можна выдзеліць тры храналагічныя перыяды: 1) 1903—1933 гг.; 2) 1947—1970 гг.; 3) з 1971 г. да нашых дзён.

У першы з названых перыядаў у Літве з'явілася 30 публікацый, у якіх так ці інакш закранаецца дзейнасць Ф. Скарыны. Сярод рускамоўных публікацый трэба згадаць працы А. Мілавідава, дзе разглядаюцца выданні Ф. Скарыны ў Віленскай публічнай бібліятэцы, і даследаванне І. Лапо пра Літоўскі Статут 1588 г., які выйшаў у 1934 г. у Каўнасе.

Значнае месца ў Скарыніяне Літвы гэтага перыяду займаюць публікацыі на беларускай мове: разам 13 пазіцый. У іх ліку перш за ўсё неабходна назваць два першыя выданні (1920—1921) «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, падрыхтаваную ім жа хрэстаматыю па беларускай літаратуры (1922), першую ў Вільні спецыяльную манаграфію пра Ф. Скарыну А. Станкевіча (1924, 1925) і «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага, выдадзеную ў 1926 г. у Каўнасе. У 1913 г. у Вільнюсе выйшаў зборнік вершаў М. Багдановіча «Вянок», у якім быў змешчаны першы на беларускай мове верш-прысвячэнне беларускаму першадрукару — гэты твор даў пачатак Скарыніяне ў мастацкай творчасці.

На польскай мове ў гэты перыяд з'явілася 9 публікацый. Дзейнасць Ф. Скарыны больш ці менш падрабязна разглядаецца ў гісторыях віленскага друку Л. Абрамовіча і Т. Туркоўскага (псеўданім Чарнецкі) і гісторыі друкарні Мамонічаў Х. Ільяшэвіча, а таксама ў артыкуле польскага гісторыка Г. Лаўмянскага пра папяровыя прадпрыемствы ў Вільні XVI ст.

У другі перыяд Ф. Скарыну прысвечана 30 публікацый, у тым ліку 24 на літоўскай мове, тры — на рускай і тры — на польскай. Іменна ў гэты час узнікае Скарыніяна на літоўскай мове. Найбольш значныя яе прадстаўнікі — Ю. Юргініс і К. Корсакас. Яны адвялі дзейнасці Ф. Скарыны шмат месца ў сваіх навуковых працах па гісторыі культуры Літвы. Каштоўныя звесткі пра выданні Скарыны прыводзіць Э. Лаўцявічус у сваёй працы пра паперу Літвы і вадзяныя знакі XV—XVIII стст. (1967). Папулярныя артыкулы пра беларускага першадрукара апублікавалі К. Аляксюнас, Ё. Басюліс, Э. Дамбраўскас, Д. Гаргасайтэ, Ш. Курляндчыкас і іншыя аўтары.

Належную ўвагу спадчыне Ф. Скарыны ўдзяліў загадчык рукапіснага аддзела Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР У. Абрамавічус у кнізе «Пісьменства і кніга ў Літве», выдадзенай у Вільнюсе на польскай мове (1957). У 1970 г. у Вільнюсе выйшла на рускай мове кніга былога рэдактара газеты «Советская Литва» А. Анушкіна «На зары кнігадрукавання ў Літве», дзе адзін з раздзелаў прысвечан дзейнасці Скарыны.

У трэці перыяд у Літве з'явілася 56 адпаведных публікацый, у тым ліку 39 на літоўскай мове і 17 на рускай. Жыццю і дзейнасці Ф. Скарыны, яго сувязям з Літвой нямала месца удзяляюць у кнігах аб гісторыі друку і культуры Літвы Н. Фейгельман, Ю. Юргініс, І. Пятраўскене, Г. Рагуоцене, В. Ужтупас. Супрацоўніца Кніжнай палаты Літоўскай ССР Д. Гіняйцене падрых-

тавала і ў 1975 г. выдала выбарачны бібліяграфічны паказальнік «Францыск Скарына і Літва». Беларускаму першадрукару прысвечаны спецыяльныя артыкулы у дзвюх літоўскіх савецкіх энцыклапедыях, у падручніку для ВНУ «Старажытная літоўская літаратура» (1977) Ю. Лебядзіса. Найноўшыя навуковыя працы пра Скарыну рэферыраваў Ю. Тумяліс (пяць рэфератаў). Апублікаваны тры артыкулы пра навуковую канферэнцыю, якая адбылася ў Вільнюсе ў 1975 г., і ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, дзе, як мяркуюць, была друкарня Ф. Скарыны.

У сёмым томе «Кнігазнаўства» (1979) надрукаваны на рускай мове навуковыя артыкулы А. Жураўскага, А. Коршунава і Я. Неміроўскага. У зборніку артыкулаў «Развіццё прававых інстытутаў у Літве» апублікаван артыкул У. Конана аб праваэнаўчых поглядах Скарыны.

Узбагачэнню Скарыніяны ў гэты перыяд, несумненна, садзейнічалі дзве навуковыя канферэнцыі, што прайшлі ў 1975 і 1984 гг. у Вільнюскім універсітэце. 21 лістапада 1975 г. тут адбылася канферэнцыя «Францыск Скарына і некаторыя праблемы развіцця кнігі ў Савецкім Саюзе», на якой былі прачытаны шэсць дакладаў па пытаннях спадчыны Ф. Скарыны. Па ініцыятыве кафедры рускай мовы філалагічнага факультэта Вільнюскага універсітэта 26—27 красавіка 1984 г. была арганізавана другая канферэнцыя — «Скарынаўскія традыцыі ў Вільнюсе», дзе былі заслуханы 32 даклады. Вільнюскія даследчыкі, у іх ліку Л. Уладзіміравас, С. Лазутка, В. Чэкман, зрабілі восем дакладаў.

Неабходна падкрэсліць, што самы важкі ўклад у Скарыніяну Літвы ўнёс прафесар Вільнюскага універсітэта Л. І. Уладзіміравас — аўтар 12 публікацый пра Скарыну (дзевяць з іх — на літоўскай мове і тры — на рускай). Яшчэ ў 1957 г. ён выдаў першую кнігу пра Скарыну на літоўскай мове. Новыя артыкулы «Роля Вільнюса ва ўзнікненні і распаўсюджванні друку ва Усходняй Еўропе» і «Вільнюскі «Гутэнберг» з'явіліся адпаведна ў 1959 і 1960 гг. Дзейнасцю вільнюскага першадрукара вядомы вучоны цікавіўся і пазней. З'яўляючыся ў 1964—1970 гг. дырэктарам бібліятэкі імя Д. Хамаршэльда пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку, Л. Уладзіміравас арганізаваў там выстаўку, прысвечаную Скарыну, прычым частка экспанатаў для выстаўкі была дастаўлена з Вільнюскага універсітэта. Пасля вяртання ў Літву ён працягваў вывучэнне дзейнасці вялікага палачаніна. У 1973 г. Уладзіміравас апублікаваў невялікую па памерах, аднак вельмі каштоўную інфармацыю «Першынец вільнюскага друку», дзе ўдакладніў год выдання «Малой падарожнай кніжкі»— 1522-гі. Ён жа быў адным з арганізатараў і актыўных удзельнікаў названай вышэй канферэнцыі, што адбылася ў 1975 г. у Вільнюсе і была прысвечана 450-годдзю выдання скарынаўскіх кніг у Вільнюсе. Да юбілейнай даты выйшла кніга Л. Уладзіміраваса на рускай мове «Францыск Скарына—першадрукар

вільнюскі» (1975). У параўнанні з папярэдняй кнігай гэта выданне ўдвая большае, дапоўнена важным матэрыялам, сюды ўнесены некаторыя карэктывы, удакладнены фармуліроўкі і вывады. У выпуску, прысвечаным гэтай юбілейнай канферэнцыі («Кнігазнаўства». Т. 7, 1979), надрукаван вялікі навуковы артыкул з такой жа назвай. У 1979 г. Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна выдала спецыяльны зборнік артыкулаў, прысвечаных Ф. Скарыну, дзе змешчан яшчэ адзін артыкул Л. Уладзіміраваса — «Выдавецкая дзейнасць Францыска Скарыны ў Вялікім княстве Літоўскім», які ўяўляе сабой квінтэсенцыю важнейшых звестак і канцэпцый, што былі ў папярэдніх публікацыях. У тым жа годзе выйшла і галоўная праца вучонага, над якой ён працаваў шмат гадоў,— «Гісторыя кнігі». У гэтым фундаментальным даследаванні Ф. Скарыну прысвечана 19 старонак тэксту. Цяпер кніга перакладаецца на рускую мову. Працы Л. Уладзіміраваса з'яўляюцца вялікім укладам не толькі ў літоўскую, але і ва ўсю савецкую Скарыніяну.

Літаратурна-мастацкая літоўская Скарыніяна, трэба прызнаць, мае значна ніжэйшы ўзровень. У літоўскай паэзіі Ф. Скарыну прысвечан толькі адзін верш Ю. Кіндзерыса (1973), ды і ён, на жаль, не вызначаецца асаблівай мастацкасцю. У прозе, можна сказаць, няма ніводнага твора, калі не лічыць прамову Ю. Марцінкявічуса, сказаную ім у 1975 г. на адкрыцці мемарыяльнай дошкі Ф. Скарыну ў Вільнюсе. Гэта прамова апублікавана ў яго кнізе «Дзённік без датаў» (1981). Мастаком Р. Даўкінцісам створаны эскізны партрэт Ф. Скарыны і бронзавы медаль на аснове гэтага партрэта. У літоўскім друку апублікавана ў цэлым станоўчая рэцэнзія А. Весуласа на фільм Б. Сцяпанава «Я, Францыск Скарына...». У мэтах прапаганды гэтага фільма мастаком С. Кірэйлісам намаляван плакат. На гэтым, на жаль, і заканчваецца літоўская мастацкая Скарыніяна.

Некаторай увагай карыстаўся ў Літве гістарычны раман Я. Львова і М. Садковіча «Георгій Скарына». Пра яго пісалі К. Корсакас (1960) і А. Камінскас (1969), а ў апошні час — прыхільніца беларускай літаратуры А. Лапінскене (1985). Са шкадаваннем даводзіцца адзначыць, што ў Беларусі гэтыя публікацыі, здаецца, засталіся зусім незаўважанымі. Яны не зафіксаваны нават у бібліяграфіях Я. Нёміроўскага і В. Дышыневіч. У беларускім літаратуразнаўстве да гэтага часу існуе думка, што ў названым рамане «грамадска-палітычны фон перададзен гістарычна праўдзіва» [1]. Іншай думкі на гэты конт прытрымліваецца, аднак, літоўская крытыка.

У 1951 г. у Беларусі выйшаў на рускай мове гістарычны раман пра Скарыну М. Садковіча. Шмат адлюстраваных тут падзей адбываецца ў Вільні. На жаль, у гэтым творы сустракаюц-

[1] Дробчик А. Образ Франциска Скорины в художественной литературе // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 212.

ца і значныя скажэнні гістарычнай праўды. У якасці найбольш значнага з іх можна ўказаць на тое, што ў рамане сталіца Літвы ў пачатку XVI ст. населена прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей, сярод іх, аднак, няма... літоўцаў. Калі спаслацца нават на дакастрычніцкую, далёка не аб'ектыўную, а часам і варожую каталіцызму рускую гістарыяграфію (маецца на ўвазе праца дацэнта Пецярбургскага універсітэта У. Васілеўскага), то ў пачатку XVI ст. у Вільні дзейнічала не толькі 14 праваслаўных цэркваў, але і 10 каталіцкіх касцёлаў [2]. Гісторык літоўскай мовы З. Зінкявічус, які даследаваў антрапаніміку пачатку XVII ст., прааналізаваўшы кнігі рэгістрацыі шлюбаў і хрышчэнняў, устанавіў, што ў гэты час у Вільні жыло многа літоўцаў. Значыць, яны тут жылі і ў пачатку XVI ст., г. зн. у часы Ф. Скарыны. Як ні дзіўна, але даводзіцца даказваць, што ў Літве, а тым больш у яе сталіцы, сапраўды жылі літоўцы.

Пазней было падрыхтавана новае выданне рамана (таксама на рускай мове), якое выйшла ў 1957 г. ужо за подпісамі двух аўтараў — М. Садковіча і Я. Львова. Тут выпраўлены некаторыя ранейшыя недахопы, дапісаны новыя раздзелы, дзе ўжо згадваюцца і літоўцы. Аднак і ў новым варыянце рамана нямала пралікаў. У гістарычнай панараме рамана паказваюцца намаганні праваслаўных князёў вызваліцца ад залежнасці з боку Вялікага княства Літоўскага. Многа месца ўдзяляецца асвятленню ваенна-палітычнай дзейнасці князя Міхаіла Глінскага. Трэба адзначыць, што ў паказе гэтага гістарычнага фону ў рамане дапушчаны фактычныя памылкі і пралікі. Напрыклад, літоўцы залічваюцца да славян (с. 427). Наўрад ці справядліва з гістарычнага пункту погляду перыяд, калі Вялікаму княству Літоўскаму належала нямала «рускіх» зямель, лічыць «рабствам», бо многія «рускія» княствы і землі, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, карысталіся значнай аўтаноміяй, кіраваліся яны звычайна тымі ж «рускімі» князямі ці абруселымі літоўцамі. Таму імкненне засноўваць канфлікт рамана на нацыянальным уціску не выглядае пераканаўчым. Наогул у выпадку, калі столькі месца ўдзяляецца міждзяржаўна-палітычным пытанням, раман набывае сацыялагічны характар. Таму вобраз галоўнага героя Скарыны ў некаторых частках рамана знікае зусім, пераносіцца «за кулісы». Віленскае грамадства, яго культурнае жыццё больш ці менш падрабязна апісваюцца толькі ў адной частцы — «Віленскае брацтва». Тут паказана дзейнасць Скарыны-друкара і выдаўца, яго сутыкненні з віленскім ваяводам Гаштольдам і іншымі службовымі асобамі. Аднак культурная дзейнасць віленскіх беларусаў, наогул праваслаўных, у рамане амаль цалкам ізалявана ад культурна-грамадскай дзейнасці літоўцаў.

---

[2] Василевский В. Очерк истории города Вильны // Памятники русской старины в Западных губерниях России. Спб., 1872. Вып. 5. С. 23, 81.

Жадаючы ўзвялічыць дзейнасць Скарыны, як мага шырэй апісаць эпоху, у якой ён жыў, аўтары рамана ўвялі ў сюжэт свайго твора цэлы рад надуманых, не пацверджаных рэальнымі гістарычнымі фактамі сітуацый, аднак не выкарысталі сапраўдныя факты з агульнага жыцця Вільні, якія цесна звязаны з тэматыкай іх рамана. Аўтарам, напэўна, было невядома, што выданні Скарыны маглі аказаць уздзеянне і на пачынальнікаў літоўскага пісьменства А. Кульвеціса, С. Рапалёніса, М. Мажвідаса, якія сваю рэфармацкую дзейнасць пачыналі ў Вільні прыкладна ў той час, калі там яшчэ не сцерліся сляды першадрукара Скарыны.

Між тым удзячна было б сумясціць у рамане дзейнасць выдатнага беларускага асветніка і гуманіста з першымі крокамі пачынальнікаў літоўскага пісьменства і тым самым істотна ўзвялічыць значэнне Скарыны, ідэю гістарычнай садружнасці літоўскага і беларускага народаў, іх шматвяковага культурнага супрацоўніцтва.

Тэма Скарыны ў беларускай мастацкай літаратуры так шчыльна звязана з Літвой, што не можа не цікавіць і літоўскую савецкую крытыку. Гэта адна з тэм, распрацоўка якой так ці інакш абавязкова закранае праблему дружбы народаў, іх культурнага супрацоўніцтва. І таму ўсім нам неабходна імкнуцца, каб і ўвасабленне такіх тэм у мастацкіх творах, і ацэнка гэтых твораў у крытыцы засноўваліся на марксісцка-ленінскім светапоглядзе, на прынцыпах дружбы савецкіх народаў.

У заключэнне хацелася б прывесці словы літоўскага паэта Ю. Марцінкявічуса: «Першая вільнюская кніга — надрукаваная ў 1522 годзе Ф. Скарынам «Малая падарожная кніжка»— выдзяляецца з ліку іншых першых кніг ва Усходняй Еўропе сваім дэмакратызмам і выразна акрэсленай асветніцкай накіраванасцю. Хвалююча, вобразна, з сапраўдным паэтычным натхненнем піша Скарына пра сваю любоў да роднай зямлі, яе людзей, з павагай адклікаецца пра другія краіны і гарады. Паводле свайго дэмакратызму, адукаванасці, духоўнай энергіі і культуры вільнюскі першадрукар Францыск Скарына паўстае ў першыя дзесяцігоддзі XVI ст. як адзін з выдатнейшых гуманістаў ва Усходняй Еўропе» [3].

---

[3] Marcinkevičius J. Dienoraštis be datu. Vilnius. 1981. P. 64.





*В. В. ЦЕРАШЧАТАВА (Мінск)*

## ВОБРАЗ СКАРЫНЫ Ў ТВОРЧАСЦІ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

Ф. Скарына жыў і працаваў у эпоху Адраджэння, якая, як сказаў Ф. Энгельс, «патрабавала тытанаў і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці і характару, па шматбаковасці і адукаванасці» [1]. Жыццё вялікага беларускага гуманіста і мысліцеля — гэта тытанічны подзвіг, подзвіг дзеля свайго народа, развіцця яго культуры. Яркі вобраз выдатнага асветніка-патрыёта, першадрукара, вучонага прыцягваў і прыцягвае не толькі даследчыкаў, пісьменнікаў, але і мастакоў.

Хочацца звярнуцца да творчасці самабытнага і таленавітага беларускага мастака, «вечнага вандроўніка» [2], як назваў яго ў сваёй цікавай кніжцы А. Ліс, Я. Драздовіча, да яго багатай духоўнай спадчыны — біяграфічнага цыкла пра Скарыну. Можна з упэўненасцю сказаць, што ніхто з мастакоў ні да Драздовіча, ні пасля яго не змог адлюстраваць так поўна і асэнсавана вобраз вялікага асветніка.

Гэта першая ў беларускім мастацтве цэльная Скарыніяна. Я. Драздовіч усё сваё жыццё вандраваў, марыў пра Сусвет, набіраўся мудрасці і ведаў, якія ён чэрпаў з крыніц свайго роднага краю. «Гэта любоў,— як пісаў А. Ліс,— дала таленту мастака відушчасць, можа, нават празорлівасць» [3]. Яго жывапісныя цыклы пра космас узніклі тады, калі толькі паасобныя вучоныя цікавіліся гэтай праблемай. Але асаблівая ўвага ў яго творчасці аддаецца ўсё ж гісторыі роднага краю. Узнікае цэлая жывапісная галерэя гістарычных асоб — пачынаючы ад легендарнага Баяна, Усяслава Чарадзея да Скарыны, Багушэвіча і іншых дзеячаў культуры.

Вобраз Скарыны чырвонай ніткай праходзіць праз усю творчасць Драздовіча. Мастака цалкам захапляе гэта тэма. Можа, нават таму, што яго лёс у нейкай ступені быў падобны да лёсу вялікага асветніка, хоць паміж імі было амаль пяць стагоддзяў. Іх аб'ядноўвае адзіная мэта — набыццё ведаў, служэнне свайму народу.

---

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2-е. Т. 20. С. 346.
[2] Ліс А. Вечны вандроўнік. Мн., 1984.
[3] Там жа. С. 8.

Стварэнне Я. Драздовічам мастацкай Скарыніяны прыпадае на 20—30-я гады. Да жывапіснага цыкла ён зрабіў скульптурны бюст Скарыны з гліны, які ў 1917 г. падараваў паэтэсе К. Буйло. Яна працавала ў той час загадчыцай беларускай кнігарні ў Полацку. На вялікі жаль, нам не ўдалося знайсці нават фотаздымка з гэтага твора. Ён, відаць, дзесьці згубіўся або асеў у прыватных асоб.

Жывапісныя творы, аб якіх ідзе гаворка ў гэтай працы, знаходзяцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР. У 1963 г. іх знайшоў у час сваіх навуковых вандровак А. Ліс. Потым яны былі набыты для аддзела рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР Л. Малаш. У 1977 г. калекцыя твораў і збораў Я. Драздовіча была перададзена Музею старажытнабеларускай культуры АН БССР.

Жывапісны цыкл Я. Драздовіча налічвае пяць твораў: партрэт і чатыры сюжэтныя карціны, якія створаны ў розныя гады не ў гістарычнай паслядоўнасці. Для паўнейшага ўспрыняцця вобраза Скарыны лепш разглядаць гэты цыкл у гісторыка-біяграфічнай храналогіі.

Партрэт «Францыск Скарына», створаны ў 1927 г. у Радашковічах (фанера, алей; памер 71×50; $\frac{\text{КП} - 484}{\text{Ж} - 251}$ ), адносіцца да больш ранняй творчасці мастака. Ён зроблен пад уплывам беларускага іканапісу — як па кампазіцыйных прыёмах, так і па тэхніцы выканання. Іканаграфічным матэрыялам для напісання партрэта паслужыла гравюра, змешчаная ў Біблii (кніга «Ісус Сірахаў», 1517), якую Ф. Скарына пераклаў на беларускую мову.

Пагрудная выява падаецца мастаком буйным планам: галава ў фас, а корпус у 3/4 абароту (злева направа). Твар круглявы, малады, з блакітнымі, шырока адкрытымі вачыма, позірк якіх скіраван удалеч міма гледача (гэты прыём быў добра вядомы іканапісцам). Светла-каштанавыя, амаль пшанічныя валасы прыгожа абрамляюць задуменны твар і мякка падаюць на моцныя закругленыя плечы. Перад асветнікам раскрытая кніга, правая яго рука пакладзена на старонку і нібыта піша. Але ў адрозненне ад гравюры, дзе Скарына трымае ў руцэ гусінае пяро, тут яно адсутнічае — засталася толькі пастава пішучай рукі. Апранут Скарына па тагачаснай модзе, але яго адзенне вельмі падобна да ўбору святых: ніжняя кашуля шэрага колеру ледзь бачна на шыі і руках з-пад накінутай паверх тунікі са стаячым каўняром — яна мае густы цёмна-шэра-блакітна-сіні колер з аліўкавымі рэфлексамі. Па цэнтральнаму разрэзу і шырокіх манжэтах бачны адваротны бок тунікі густога малінавага колеру. Галаўны ўбор нагадвае высокі барэт такога ж колеру, што і туніка.

Тэхніка выканання, як ужо гаварылася вышэй, у Драздовіча іканапісная: твар і рукі пісаны жоўтай охрай па аліўкаваму санкіру з высвятленнямі на пукатых частках і ценямі па авалу. Мадэліроўка колеравая. Фон цёмна-карычневы. З левага боку над правым плячом мастак размясціў сімваліка-алегарычны скарынаўскі знак-герб: сонца з рысамі чалавека і серп месяца з профілем чалавека. Сонца, абрамленае праменямі, што разбягаюцца ва ўсе бакі, пададзена ў светла-жоўтай гаме, а серп месяца з выявай — у цёмна-шэрым колеры. Па сцвярджэнню В. Шматава, гэты асветніцкі дэвіз чытаецца як: «Святло пераможа цемру». Раней жа таямнічы відарыс звязваўся М. Шчакаціхіным з днём нараджэння Скарыны ў дзень сонечнага зацьмення ў Полацку і лічыўся «талісманам аховы». У 1927 г. партрэт экспанаваўся на выстаўцы ў Радашковічах, дзе ў той час Я. Драздовіч жыў і працаваў са сваімі вучнямі.

Гэты партрэт можна лічыць запевам да сюжэтнага цыкла, да якога мастак прыступіў аж у 40-я гады. У сюжэтных карцінах Я. Драздовіч імкнуўся раскрыць жыццёвы шлях Ф. Скарыны. Пачынаецца цыкл з вельмі лірычнага і паэтычнага твора «Развітанне з родным Полацкам», або, як назваў яго мастак, «У свет па навуку» (1944, палатно, алей; памер $65{,}5 \times 53; \frac{\text{КП} - 493}{\text{Ж} - 260}$). Гэта карціна ўспрымаецца як фальклорна-казачны матыў. На фоне прыгожага вясенняга краявіду каля густога яловага лесу на дарозе стаіць у задуменні юнак, які развітваецца з роднымі яго сэрцу мясцінамі. Ён вельмі просты і сціплы, апранут у саматобнае адзенне: суконную шэра-аліўкавую світку з адкладным каўняром; з-пад світкі выглядаюць навісаючыя на светла-карычневыя высокія боты нагавіцы такога ж колеру, што і світа. Праз плячо перакінута плеценая з бяросты вярэнька шэра-жаўтаватага колеру. Пад сагнутай левай рукой — дарожны кій. У правай, апушчанай уніз, Скарына трымае знятую з галавы суконную магерку. Побач на зямлі стаіць палатняная торба з рэчамі.

Перад юнаком раскінулася шырокая люстраная роўнядзь Заходняй Дзвіны, за якой віднеецца старажытны Полацк з каменнымі жылымі пабудовамі і цэрквамі, сілуэты якіх адбіліся ў люстранай паверхні вады. Неба светла-зялёнае з невялікімі белаватымі аблокамі. Паветра напоўнена шыза-блакітнай дымкай. Адчуваецца, што дзень толькі пачынаецца.

Другое палатно «Са свету з навукай» (1944, палатно, алей; памер $65{,}5 \times 53; \frac{\text{КП} - 492}{\text{Ж} - 859}$) падобнае да першага па лірычнаму тону. Але тут ужо не вясна, а ранняя восень; нівы палёў амаль пустыя, з ледзь пажоўклай травою. На пярэднім плане — узмужнелы Скарына. Ён шпарка і энергічна крочыць па сельскай дарозе дамоў, нават апярэдзіў фурманку, на якой ехаў. Апранут

вандроўнік у еўрапейскі цёмны касцюм. Праз плечы перакінута скураная сумка, на галаве цёмны барэт, у руцэ кій. Відаць, ужо поўдзень: сонца ледзь прабіваецца праз хмары, але высокая і стройная постаць Скарыны адкідвае збоку цень.

У гэтых, амаль падобных па кампазіцыйнай будове карцінах мастак па-рознаму раскрывае вобраз Скарыны: спачатку перад намі — юнак, просты і сціплы, які едзе ў свет, каб вучыцца, а потым — сталы мужчына, які атрымаў выдатныя веды ў Кракаўскім універсітэце, у Падуі, Празе, і цяпер вяртаецца ў родны Полацк, каб аддаць сябе людзям, свайму народу.

Дзве іншыя карціны маюць тэматычны характар і прысвечаны кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны. Дзеянне «Друкарні Францыска Скарыны ў Вільні ў 1525 годзе» (1940—1943 гг., палатно, алей; памер 66,5×94; $\frac{\text{КП} - 498}{\text{Ж} - 265}$) разгортваецца ў памяшканні з гатычнымі скляпеннямі і арачнымі нішамі. Сцены яго сіне-блакітнага колеру, абстаўлены кніжнымі паліцамі. У глыбіні памяшкання стаіць самаробны друкарскі станок, за якім працуе малады светлавалосы юнак. Перад станком другі такі ж малады і светлавалосы юнак робіць адбітак з валіка на дошку. Справа стаіць вельмі інтэлігентны памочнік Скарыны і вычытвае гранкі; злева — другі памочнік.

Скарына паказан на пярэднім плане злева кампазіцыі. Ён акрылены і ўзнёслы, з шырока адкрытымі блакітнымі вачыма, позірк якіх накіраваны ў правы бок. Асветнік нешта думае і піша. Перад ім — стосік вялікіх фаліянтаў у карычневых скураных пераплётах. У правай руцэ — гусінае пяро, левая ж трымае раскрытую кніжку. Апранут Скарына ў сярэдневяковае свецкае адзенне: цёмна-зялёную аксамітную туніку з трохвугольным выразам каля шыі, дзе бачна бела-шэра-блакітная кашуля з бантам, на плечы накінут цёмна-сіні, з фіялетавым адценнем плашч з крылаткай. На галаве — высокі аксамітны барэт. Інтэр'ер просты, але ў кампазіцыю мастак смела ўводзіць невялікія этнаграфічныя дэталі: гліняны збанок, які за вушкі падвешан да сцяны, другі збан стаіць на стале, у ім захоўваюцца пэндзлі і іншыя прылады.

У карціне «Кніганабыўцы ў друкарні Францыска Скарыны ў Вільні» (1940—1941 гг., палатно, алей; памер 66,5×94,5; знаходзіцца ў Музеі мастацтва і этнаграфіі саўгаса «Гарадзец», в. Лужкі Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці) мастак паказаў цэлую галерэю прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва. Са Скарынам гутарыць прыгожая маладая гараджанка, якая прыйшла набыць яго кніжку. Скарына паказан добразычлівым, вельмі гуманным.

Каларыт усіх карцін вытрыман у шыза-блакітна-зеленаватай гаме з рэфлексамі і адценнямі, хоць жывапіс корпусны. Форма і аб'ём ствараюцца пры дапамозе колеру і святлоценяў. Па стылявых якасцях творы Я. Драздовіча, прысвечаныя Ф. Скарыну,

можна аднесці да самабытнага мастацтва — так званага народнага прымітыву, дзе выкарыстоўваюцца яркія народныя элементы, уласцівыя фальклору. Незвычайныя выразнасць і наіўнасць уражваюць сваім непаўторным, арыгінальным бачаннем з'яў і свету.

Лёс мастака, які жыў у заняволенай буржуазнай Польшчай Заходняй Беларусі, быў вельмі цяжкі і суровы. Аднак у выніку звароту мастака да гісторыі сваёй радзімы, да вобразаў яе лепшых сыноў нарадзіліся творы, якія з'явіліся вялікім укладам у гісторыю беларускага мастацтва 20—40-х гадоў нашага стагоддзя, у мастацкую Скарыніяну.





*А. Я. БЕЛЫ (Мінск)*

## МЕДАЛЬЕРНАЯ СКАРЫНІЯНА

Імя Ф. Скарыны займае выдатнае месца ў гісторыі выяўленчага мастацтва Беларусі. Усходнеславянскі першадрукар заклаў асновы станковай і кніжнай графікі. Ад сігнета Скарыны пачынаецца беларускі экслібрыс і выдавецкая марка. Але найвышэйшым дасягненнем з'яўляецца скарынаўскі аўтапартрэт, які па мастацкіх якасцях выканан на ўзроўні лепшых помнікаў еўрапейскай гравюры таго часу. Скарына як партрэціст стаў у адзін рад з выдатнейшымі італьянскімі і нямецкімі графікамі — партрэцістамі эпохі Адраджэння,— такімі, як А. Дзюрэр, Г. Гальбейн Малодшы і інш. Высокая мастацка-выяўленчая спадчына Скарыны аказала і аказвае жыватворны ўплыў на развіццё беларускага мастацтва. Вось чаму вобраз Скарыны становіцца як для беларускіх мастакоў, так і для мастакоў братніх рэспублік глыбока хвалюючай тэмай.

Мастацкая Скарыніяна мае сваю гісторыю развіцця. Яна пачынаецца ў XIX ст. з гравюр-копій рускага мастака А. А. Флярова. Аднак сапраўднае развіццё мастацкай Скарыніяны пачынаецца пасля Вялікага Кастрычніка, калі Беларусь набыла сваю дзяржаўнасць, калі бурна фарміравалася нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, якая абапіраецца таксама на гістрычнае мінулае, на культурную спадчыну.

Сярод першых партрэтаў Скарыны — гравюра невядомага мастака, рэпрадуктаваная ў берлінскім выданні 1919 г. У гэты ж час з'яўляецца і марка з выявай Скарыны, прысвечаная 400-годдзю беларускага кнігадрукавання. Па меркаванню некаторых мастакоў і мастацтвазнаўцаў, партрэт Скарыны і марка былі зроблены мастаком П. М. Гуткоўскім. Нядаўна А. Каўко выказаў меркаванне, што гэты партрэт Скарыны мог зрабіць мастак Я. Драздовіч, бо да яго 30 мая 1915 г. звяртаўся сакратар газеты «Наша Ніва» і прыслаў яму паштоўку суполкі «Загляне сонца...» з выявай Скарыны.

Ужо на першай Усебеларускай мастацкай выстаўцы 1925 г. былі прадстаўлены тры партрэты Скарыны: жывапісны партрэт у рост мастака Я. М. Кругера, пагрудны партрэт А. Р. Касталянскага і бюст-скульптура А. М. Бразера. У 1925—1926 гг. адзначалася 400-годдзе беларускага кнігадрукавання, што дало

дадатковыя магчымасці беларускім мастакам звярнуцца да скарынінскай тэматыкі. Аднак з 30-х гадоў, калі вульгарная сацыялогія адбілася на ўсіх сферах духоўнага жыцця, мастацкая Скарыніяна не магла атрымоўваць той духоўнай, маральнай і матэрыяльнай падтрымкі, якую яна мела раней.

Вялікая Айчынная вайна патрабавала ад савецкіх народаў звышнамаганняў не толькі ўсіх матэрыяльных, фізічных, але і духоўных сіл. Для падняцця нацыянальнай самасвядомасці і патрыятызму неабходны былі прыклады не толькі гераічнага сучаснага, але і гістарычнага мінулага. Прыклад Скарыны па-новаму асэнсоўваўся ў гады вайны — спачатку ў літаратуры, а потым і ў выяўленчым мастацтве. Так, Я. Драздовіч стварыў тады чатыры сюжэтныя карціны, прысвечаныя Скарыну.

Пасля вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў да вобраза Скарыны звярнуліся многія вядомыя беларускія майстры — скульптары А. К. Глебаў і З. Азгур, жывапісцы І. А. Ахрэмчык, П. А. Сергіевіч, В. І. Кухараў, Л. С. Ран, А. І. Кроль і інш.

Калі мастацкая Скарыніяна ў галіне скульптуры, жывапісу і графікі мела паслядоўнае і плённае развіццё, то ў медальерным мастацтве яна наогул доўгі час не развівалася. На гэта былі свае прычыны. Некалі развітая ў сярэдневяковай Беларусі такая галіна выяўленчага мастацтва, як дробная пластыка, з цягам часу заняпала і пачала адраджацца толькі з 60-х гадоў XX ст. Трэба адзначыць, што медальернае мастацтва не толькі ў СССР, але і ва ўсім свеце доўгія гады знаходзілася ў заняпадзе. Толькі ў 1955 г. Савет Міністраў СССР устанавіў парадак стварэння і выпуску памятных і юбілейных медалёў. Тым самым была ўзаконена роля медальернага мастацтва як дзейснага сродку прапаганды. З гэтага часу пачынаецца выпуск памятных, юбілейных, сувенірных медалёў, плакетак, медальёнаў.

Развіццю медальернага мастацтва ў нашай краіне садзейнічалі ўсесаюзныя выстаўкі медальернага мастацтва (1970, 1975). У 1977 г. у Версалі (Францыя), пад эгідай Міжнароднай федэрацыі медальераў (ФІДЕМ), праходзіў міжнародны конкурс пад дэвізам «Адраджэнне медаля». Уздыму гэтай галіны мастацтва ў рэспубліцы садзейнічалі выстаўкі, прысвечаныя юбілеям славутых дзеячаў беларускай культуры. Іх мемарыяльны характар адкрываў перад майстрамі-медальерамі самыя шырокія магчымасці. Развіццю медаля садзейнічала і тое, што маладыя мастакі пачалі актыўна вывучаць мастацкую спадчыну свайго народа, забытыя віды мастацтва, старадаўнія тэхнікі і плённа распрацоўваць іх.

Штуршком для стварэння першага медаля Скарыны з'явіўся юбілей, прысвечаны 450-годдзю беларускага кнігадрукавання (1967), і прыняцце Саветам Міністраў БССР рашэння аб правядзенні конкурсаў у паліграфіі па афармленню кніг і ўзнагароджанні пераможцаў дыпломамі і медалём Францыска Скарыны.

Першы медаль быў створаны ў 1967 г. мастаком А. М. Каш-

курэвічам і адштампаваны тыражом у 820 экземпляраў са спецыяльных сплаваў бронзы. Гэты медаль стаў свайго роду мастацкім узорам для наступных. Раней усе мастакі строга прытрымліваліся партрэтнай пабудовы вобраза Скарыны, арыентуючыся на змешчаны ў Біблії і выкананы ў анфас яго гравюрны партрэт. А. М. Кашкурэвіч упершыню ўвёў профільнае адлюстраванне твару Скарыны. Урачыстасць і засяроджанасць вобраза нагадвае лепшыя ўзоры старадаўніх медалёў. Вобраз беларускага асветніка вылучаецца дакладнасцю і тонкасцю выканання твару, фігуры, адзення, псіхалагічнай глыбінёй.

У 1972 г., да 455-годдзя беларускага кнігадрукавання, гэты медаль быў узноўлены па-іншаму. Гравёр толькі павялічыў памеры медаля і выяву Скарыны на 2 мм, але вобраз застаўся ранейшым. На адваротным баку змяніўся надпіс: замест «450 год беларускага кнігадрукавання. 1517—1967» з'явіўся новы — «455 год беларускага кнігадрукавання. 1517—1972». Медаль вырабляўся з таніраванага сілуміну. Якасць яго значна зніжана — як за кошт матэрыялу і яго апрацоўкі, так і выразнасці гравіроўкі.

І зноў на доўгі час пошукі мастакоў у галіне скарынаўскага медаля спыняюцца. Толькі праз 12 гадоў пасля выпуску першага медаля М. І. Байрачны па заказу Камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю ставарае керамічную памятную плакетку, прысвечаную XI Міжрэспубліканскаму конкурсу «Мастацтва кнігі», які праходзіў у Мінску ў 1979 г. У цэнтры плакеткі — вобраз Скарыны, які паўтарае партрэтную і кампазіцыйную пабудову графічнай работы са скарынаўскай Біблії.

Штуршком для развіцця Скарыніяны ў медальерным мастацтве паслужылі тыя спрыяльныя ўмовы, якія пачалі складвацца на пачатку 80-х гадоў у выяўленчым мастацтве Беларусі. Гэта ў першую чаргу актыўныя пошукі нацыянальнай тэмы і адраджэнне забытых і занядбаных відаў мастацтва. Маладыя мастакі пачалі эксперыментаваць як у форме, так і ў трактоўцы вобраза Скарыны. Так, Э. Б. Астаф'еў у 1980 г. стварае тры медальерныя творы, прысвечаныя Скарыну. Мастак стараецца знайсці такую форму плакетак, якая спрыяла б вобразнаму рашэнню, вядзе пошук у кампазіцыйнай пабудове партрэта Скарыны, робіць яго ў анфас, з паваротам у 3/4 і ў профіль.

Малады мастак В. Я. Янушкевіч у пошуках выразнасці формы ідзе яшчэ далей. Ён стварае ў 1984 г. плакетку ў выглядзе ўсечанага крыжа, дзе Скарына паказан у позе прамоўцы, запазычанай са старажытных абразоў. Гэта поза сімвалізуе тую прапаведніцкую ролю гуманіста і культурнага дзеяча эпохі Адраджэння, якую суджана было яму выконваць у справе асветніцтва, фарміравання нацыянальнай свядомасці свайго народа.

В. Р. Прыешкін стварае медаль у кераміцы, якая па форме нагадвае даўнюю падвесную пячатку. Арыгінальная па форме, у выглядзе барочнай аркі, плакетка маладога скульптара А. В. Дранца. Форма тут арганічна спалучаецца са зместам: вобраз

Скарыны выканан дастаткова выразна і псіхалагічна пераканаўча. Гэта адзін з самых маладых, светлых і ўзвышаных вобразаў Скарыны ў беларускай мастацкай Скарыніяне. Перад намі паўстае малады летуценнік, у росквіце сваіх сіл, у праменнях славы і еўрапейскага прызнання.

Найбольш плённымі ў медальернай Скарыніяне аказаліся 1984—1986 гг. Гэта звязана з пачаткам падрыхтоўкі да святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Скарыны. Мастакі, звярнуўшыся да ўвасаблення вобраза Скарыны, імкнуліся яго прачытаць па-свойму, па-новаму інтэрпрэтаваць. У многіх выпадках гэта ўдавалася дзякуючы ўвядзенню ў поле медаля сімволікі, знакаў, сігнета Скарыны, рэчаў яго ўжытку, як, напрыклад, у медалях Р. М. Іванова, А. І. Зіменкі, С. Р. Гарбуновай. Гэтыя медалі вылучаюцца тонкай прапрацоўкай дэталей, выразнасцю, багаццем сэнсавай і інфармацыйнай нагрузкі.

Жаданне найбольш поўна выкарыстаць сімволіку Скарыны прыводзіць да таго, што мастачка Т. І. Васюк бярэ за аснову сваёй керамічнай плакеткі «герб» Скарыны, сонца і месяц, дзе вобраз сонца трактуецца як вобраз самога Скарыны, што нясе свайму народу святло і вядзе барацьбу з цемрай. Мастак М. П. Канцавы, адмовіўшыся ад сімволікі Скарыны, уводзіць прыём народнай стылізацыі і арнаментацыі. Ён упрыгожыў элементамі беларускага арнаменту поле медаля. Такі прыём дазволіў яму найбольш поўна перадаць ролю Скарыны ў гісторыі духоўнага развіцця беларускага народа.

Асобныя мастакі поўнасцю адмовіліся ад ужывання аксесуараў і знакаў з жыцця Скарыны і рэчаў яго ўжытку. Такія мастакі, як А. З. Крывенка, Г. А. Гаравая, засяроджваюць увагу толькі на вобразе Скарыны, непасрэдна на яго твары, надаюць твору вялікае абагульненне, набліжаюць пластыку лепкі да манументальнага рэльефу, спалучаюць у дробнай пластыцы прыёмы манументальнасці і ўмоўнасці. Мастак Г. І. Мурамцаў, прытрымліваючыся гэтых жа прыёмаў, здолеў дамагчыся ў сваёй плакетцы і рандо найбольш поўнай адпаведнасці з аўтапартрэтам як вонкавых рыс, так і псіхалагічнай трактоўкі вобраза гуманіста.

Перанясенне скарынаўскай графікі на мову медаля нечакана дало плённы вынік у плакетках маладога мастака Ю. Г. Анушкі. Выкананыя ў іншай тэхніцы і значна большыя па памерах, чым аўтапартрэт Скарыны, з выкарыстаннем заставак з кнігі «Песня песняў» і дадатковым уводам профільнага партрэта Скарыны, гэтыя творы набывалі новае ідэйна-мастацкае гучанне. Большая плошча выкарыстанай прасторы і аб'ёмнасць надаюць ім лепшую выразнасць.

Мастацкай дасканаласцю вылучаецца медаль мастака Г. А. Асташонка. Невялікі па памеры, старанна і тонка апрацаваны, ён нагадвае лепшыя ўзоры старых медалёў не толькі па форме, але і па глыбіні псіхалагічнай трактоўкі вобраза. Адліты з сілуміну і таніраваны пад старое срэбра, дзякуючы майстэрству выканан-

ня, дакладнасці лепкі медаль набывае адметныя якасці, стварае своеасаблівы эфект святлоценяў, надае вобразу Скарыны ўзнёслацсь, адухоўленасць. Перад намі з усёй пераканаўчасцю паўстае выдатны дзеяч эпохі Адраджэння, які стаў у адзін рад з найлепшымі прадстаўнікамі еўрапейскай культуры свайго часу.

Як значны здабытак у медальернай Скарыніяне трэба адзначыць і другі медаль В. Р. Прыешкіна, які выконваўся ім па заказу клуба «Спадчына» для ўзнагароджання ўдзельнікаў першых Скарынаўскіх чытанняў у г. Мінску ў 1986 г. Выкананы з тэракоты, гэты медаль найбольш поўна раскрывае магчымасці матэрыялу. Стараннасць і тонкасць прапрацоўкі дэталей, дакладнасць і рэалістычная пластычнасць лепкі твару, адзення, гербаў, класічнасць формы і глыбокі псіхалагізм вобраза Скарыны надаюць яму мастацкую праўдзівасць і ствараюць цеплыню ўспрыняцця асобы беларускага асветніка-гуманіста. Перад намі паўстае абагульнены вобраз вучонага таго часу з даволі тыповымі і знаёмымі рысамі твару.

Значную цікавасць уяўляе і тое, што ў медальерную Скарыніяну ўнеслі свой уклад мастакі братніх рэспублік. Так, латышскі скульптар Я. Струпуліс у 1979 г. выканаў у бронзе медаль Скарыны з двухбаковым адбіткам. На вонкавым баку змешчан партрэт Скарыны і ўпісаны па крузе скарынаўскім шрыфтам яго імя і прозвішча, на адваротным жа баку—жнец за працай (фрагмент з гравюры кнігі «Руф»). Літоўскі скульптар Р. Даўкінціс у 1985 г. выканаў з бронзы медаль Скарыны. За кампазіцыйную аснову тут узят іканаграфічны матэрыял з Бібліі, але прыёмамі стылізацыі і ўмоўнасці аўтар стварае свой вобраз Скарыны, які нагадвае сучаснага літоўскага жыхара. Гэтым самым мастак нібы падкрэслівае глыбокую гістарычную сувязь вучонага з літоўскім народам. Па крузе на літоўскай мове ідзе надпіс: «Доктар Францыск Скарына» і гады яго жыцця: «1486—1551».

Хоць медальерная Скарыніяна з'яўляецца самай маладой галіной у выяўленчым мастацтве рэспублікі ў цэлым і ў мастацкай Скарыніяне ў прыватнасці, аднак яна знаходзіцца ў няспынным развіцці, у творчых пошуках і мае ўжо значныя дасягненні як па колькасці, так і па мастацкай якасці сваіх твораў. На сённяшні дзень яна, бадай, не саступае медальернай Купаліяне, ужо вывучанай і апісанай у энцыклапедычным даведніку «Янка Купала». У медальернай Скарыніяне ёсць свае дасягненні і творчыя знаходкі як у пошуках формы, тэхнікі і матэрыялу выканання, так і ў мастацкім адлюстраванні вобраза вялікага беларускага асветніка.





*А. Л. ПЕТРАШКЕВІЧ (Мінск)*

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК «ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ЯГО ЧАС»

Хутка ва ўсіх цывілізаваных краінах па рашэнню ЮНЕСКА будзе адзначацца 500-гадовы юбілей Ф. Скарыны — выдатнага дзеяча беларускай культуры XVI ст., заснавальніка беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Вучоны, пісьменнік і перакладчык, доктар філасофіі і медыцыны, гуманіст і асветнік, Ф. Скарына аказаў вялікае ўздзеянне на развіццё многіх галін беларускай культуры. Яго кнігавыдавецкая дзейнасць, якая адпавядала патрэбам шырокіх слаёў беларускага насельніцтва, разам з тым выражала глыбокае арганічнае адзінства ўсёй усходнеславянскай культуры, што была неад'емнай часткай духоўнай скарбніцы ўсіх еўрапейскіх народаў.

Жыццёвы шлях Скарыны пачынаўся ў няпросты і супярэчлівы час. У XVI ст. у краінах Заходняй Еўропы адбываўся духоўны пералом. Феадальная саслоўная сістэма, што існавала вякамі і асвячала сваю «справядлівасць» імем бога, давала трэшчыны, у якіх узыходзілі парасткі новага, буржуазнага ладу. Грамадства рухалася да абнаўлення, але не губляла сваіх уласніцкіх асноў, для разбурэння якіх у прыгонных і гарадскіх рамеснікаў яшчэ не хапала сіл. Аднак развіваліся гарады і вытворчасць, а прадвеснікі новага — вучоныя-рэфарматары дзеля агульнай карысці імкнуліся да ўладкавання ўзаемаадносін паміж грамадзянамі.

Для Беларусі XVI ст. таксама было адным з найбольш складаных этапаў у яе гістарычным мінулым. Гэта быў перыяд далейшага развіцця вытворчых сіл феадальнага грамадства, пэўнага эканамічнага прагрэсу за кошт узмацнення эксплуатацыі ўсіх паднявольных слаёў беларускага насельніцтва. Складанымі былі палітычныя ўмовы развіцця Беларусі, якая ў гэты час уваходзіла ў склад шматнацыянальнага Вялікага княства Літоўскага — адной з буйнейшых дзяржаў Еўропы. Унутраная і знешняя палітыка кіруючых колаў княства садзейнічала распаўсюджанню капіталізму і пашырэнню землеўладанняў буйных літоўскіх феадалаў. Нягледзячы на каталіцкую экспансію, у XVI ст. практычна завяршыўся працэс фарміравання беларускай народнасці, што значна садзейнічала развіццю самабытнай беларускай культуры.

Важным здабыткам гэтай культуры і з'явілася шматгранная дзейнасць. Ф. Скарыны. Яна насіла свецкі, гуманістычны характар, была аб'ектыўна скіравана супраць манаполіі духавенства ў галоўных сферах беларускай культуры. Свае выданні Скарына суправаджаў прадмовамі і пасляслоўямі, у якіх разглядаў і ацэньваў пазнавальна-асветніцкія і мастацкія вартасці біблейскіх твораў, выказваў свае сацыяльна-філасофскія, маральна-этычныя і эстэтычныя погляды. Магутнасць розуму беларускага першадрукара заключалася ў тым, што ён змог адчуць своеасаблівасць свайго часу, імкненне простага люду да ведаў. Ён зняў з Бібліі абалонку «боскасці» і паказаў, што яна ёсць тварэнне рук чалавечых, якое можна перакласці на жывую мову народа. Выданні Скарыны адметныя таксама паліграфічнымі і мастацкімі якасцямі: тут спалучаюцца рысы старадаўняга беларускага ўпрыгожвання рукапісных кніг і дасягненні графікі эпохі Адраджэння. Гэтыя выданні вылучаюцца практычнасцю фармату, майстэрствам набору, ужываннем розных шрыфтоў, вялікіх буквіц, гравюр, заставак і віньетак. Выдавецкая і асветніцкая дзейнасць Ф. Скарыны, выдатнага прадстаўніка рэнесансавага гуманізму, шмат у чым вызначыла нацыянальную спецыфіку беларускай культуры XVI—XVII стст., значна ўздзейнічала на яе далейшае развіццё (пашырэнне кнігадруку, рэфармацыйны рух, творчасць Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага), стала важнай умовай для развіцця беларускай літаратуры і іншых відаў мастацтва.

Сёння мы імкнёмся ўсё больш і больш глыбока спазнаць, разгледзець праз стагоддзі асобу нашага славутага земляка, яго жыццёвы шлях. Прыкметным укладам у скарыназнаўства стала амаль пяцігадовая праца калектыву Беларускай Савецкай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі над аднатомным энцыклапедычным даведнікам «Францыск Скарына і яго час». Гэта другая на Беларусі персанальная энцыклапедыя. Над ёй працаваў моцны атрад беларускіх даследчыкаў, куды ўваходзяць член-карэспандэнт АН БССР, доктар філалагічных навук, прафесар А. І. Жураўскі, дактары філасофскіх навук У. М. Конан і С. А. Падокшын, доктар юрыдычных навук, прафесар І. А. Юхо, дактары гістарычных навук А. П. Грыцкевіч і В. У. Чапко, кандыдаты навук Г. Я. Галенчанка, Г. У. Грушавы, В. І. Дарашкевіч, М. Ф. Спірыдонаў, В. Ф. Шматаў, В. А. Чамярыцкі, а таксама многія іншыя даследчыкі, што яшчэ не маюць вучоных ступеней і званняў, але актыўна працуюць на ніве скарыназнаўства і ўносяць свой уклад у высокародную справу.

Калектыў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі са шчырай удзячнасцю адзначае сёння самы актыўны ўдзел у стварэнні Скарынаўскай энцыклапедыі вучоных Масквы, Ленінграда, Львова, Вільнюса — у першую чаргу дактароў гістарычных навук, прафесараў Я. Л. Неміроўскага, А. С. Мыльнікава, доктара гістарычных навук Я. Д. Ісаевіча. Арганізацыйную работу па

стварэнню даведніка праводзіла рэдакцыя філасофіі і права на чале з кандыдатам філасофскіх навук С. В. Кузьміным.

Перш чым прыступіць да непасрэднай падрыхтоўкі артыкулаў для такога адказнага і складанага выдання, многія службы і супрацоўнікі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі правялі вялікую падрыхтоўчую работу: распрацавалі методыку і структуру кнігі, вызначылі тэматыку яе раздзелаў, прынцыпы ілюстравання, арганізавалі аўтарскі калектыў.

У кнізе змешчана 728 артыкулаў. Сярод іх — артыкулы пра ўсе выданні Скарыны, дзе даецца аналіз іх структуры і паліграфічных асаблівасцей выканання, гісторыя вывучэння, інфармацыя аб месцы захавання скарынаўскіх кніг; артыкулы пра мастацкае афармленне выдання, іх графічную арнаментыку, а таксама пра кожную з кніжных гравюр. Рад артыкулаў прысвечан асобам і геаграфічным месцам, якія неаднаразова сустракаюцца ў тэкстах скарынаўскіх прадмоў і пасляслоўяў. Частку матэрыялаў даведніка складаюць абагульняючыя артыкулы пра кнігавыдавецкую, асветніцкую, літаратурную і навуковую дзейнасць Скарыны, пра яго філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, эстэтычныя погляды, патрыятызм. У кнізе таксама сабрана інфармацыя пра сваякоў і знаёмых Ф. Скарыны, пра дзяржаўных, палітычных і грамадскіх дзеячаў, вучоных XVI ст., з якімі сустракаўся або мог сустракацца першадрукар. Уключаны артыкулы пра гарады, дзе ён жыў, вучыўся, працаваў або пабываў. Чалавечы, духоўны і творчы воблік асветніка, сацыяльна-гістарычныя ўмовы, у якіх адбывалася станаўленне і росквіт яго шматграннага таленту, раскрыты ва ўступным нарысе.

Значная частка артыкулаў прысвечана сацыяльна-палітычнаму і культурнаму жыццю ў Вялікім княстве Літоўскім і Заходняй Еўропе ў XV—XVI стст. Тут раскрываюцца абставіны і час, у якіх жыў і працаваў Скарына. Рад артыкулаў даведніка асвятляюць стан кнігадрукавання, які папярэднічаў дзейнасці Скарыны, а таксама развіццё яго традыцый ва ўсім усходнеславянскім свеце. Гэтай праблеме прысвечаны як абагульняючыя артыкулы пра кнігадрукаванне ў розных краінах, так і артыкулы пра папярэднікаў і прадаўжальнікаў справы першадрукара. Даюцца асобныя артыкулы пра даследчыкаў жыцця, дзейнасці і творчай спадчыны Скарыны. Шырока паказана ўвасабленне вобраза першадрукара ў літаратуры, выяўленчым, тэатральным і музычным масцтацтве, кінематаграфіі, філатэліі і філакартыі. Даюцца артыкулы пра пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў, акцёраў, якія ў сваёй творчасці звярталіся да вобраза Скарыны.

Падача матэрыялаў у энцыклапедыі цалкам падпарадкавана імкненню раскрыць факты і падзеі не толькі ў іх адносінах да Скарыны, яго жыцця і дзейнасці, але і як мага паўней ахарактарызаваць своеасаблівасці скарынаўскага часу. На жаль, асобныя моманты творчага шляху Скарыны пакуль застаюцца не асвет-

ленымі з-за іх нераспрацаванасці, адсутнасці дакументальных звестак. Інтэрпрэтацыя асобных бакоў дзейнасці Скарыны рабілася для гэтага выдання ўпершыню.

Кніга мае даволі багаты ілюстрацыйны матэрыял. У яе ўключаюцца факсімільныя адбіткі ўсіх скарынаўскіх прадмоў і пасляслоўяў (282 ілюстрацыі), буквіцы і застаўкі, віньеткі і гравюры з пражскіх і віленскіх выданняў (205 ілюстрацый). 222 ілюстрацыі прысвечаны скарынаўскаму часу і 109 увасабленню вобраза Скарыны ў сучасным мастацтве. Усяго ў гэта выданне ўвайшло 112 каляровых і 706 чорна-белых ілюстрацый. Вялікую цікавасць у чытачоў таксама выклічуць тэксты і выявы дакументаў пра Скарыну.

Такім чынам, да слаўнага юбілею выдатнага сына беларускага народа чытач атрымае грунтоўнае даследаванне пра таго, хто паклаў першыя важкія цагліны ў падмурак прафесійнай культуры свайго народа. Энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», плён шматгадовай працы калектыву Беларускай Савецкай Энцыклапедыі і нашых вучоных, думаецца, стане новым сур'ёзным укладам у Скарыніяну.





*С. А. ПАДОКШЫН (Мінск)*

# СПАДЧЫНА СКАРЫНЫ І ВЫХАВАННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ, ПАТРЫЯТЫЧНАЙ І ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

Успрыняцце пэўных з'яў мінулага змяшчае ў сабе яўны парадокс: чым далей яны ад нашага часу, тым мацней усведамляецца іх значнасць у гісторыі грамадскага жыцця і духоўнай культуры народа, іх светапоглядная каштоўнасць і выхаваўчая роля. Да такіх феноменаў айчыннай культуры адносіцца спадчына Ф. Скарыны — вялікага сына беларускага народа, гуманіста і асветніка эпохі Адраджэння. Ён не толькі належыць гісторыі, але і з'яўляецца нашым сучаснікам, як і многія вялікія грамадскія дзеячы і мысліцелі, да якіх мы звяртаемся і ў радасныя, і ў цяжкія дні нашага гістарычнага жыцця за падтрымкай і адказамі на самыя вострыя і сур'ёзныя пытанні для лёсаў народаў і чалавецтва, для жыцця і шчасця кожнага асобнага чалавека.

Правільнасць гэтага сцвярджэння грунтуецца на ленінскім вучэнні аб неабходнасці для новай, сацыялістычнай культуры максімальнага засваення прагрэсіўнай культурнай спадчыны мінулага. Асаблівую актуальнасць гэта ленінскае палажэнне набывае ў наш час, у эпоху радыкальнай перабудовы ўсіх сфер грамадскага жыцця, фарміравання новага сацыяльна-палітычнага мыслення. Выпрацаваная XXVII з'ездам КПСС канцэпцыя паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны мае на ўвазе, як вядома, актывізацыю чалавечага фактару. У гэтай сувязі істотна ўзрастае роля ідэалагічнай работы, накіраванай на фарміраванне ў працоўных творчага разумення новых тэарэтычных і палітычных установак партыі, перспектыў грамадскага развіцця, марксісцка-ленінскай перакананасці, сацыяльнай адказнасці, камуністычных адносін да працы і жыцця, стойкага імунітэту супраць уплываў буржуазнай ідэалогіі, спажывецка-мяшчанскай псіхалогіі. Адной з умоў эфектыўнасці ідэалагічнай работы з'яўляецца яе ўзаемадзеянне з гуманітарнымі навукамі, якія актыўна уздзейнічаюць на грамадскую свядомасць, выхоўваюць савецкіх людзей на прагрэсіўных традыцыях айчыннай культуры.

Цікавасць да гісторыі духоўнай культуры роднага народа з'яўляецца адной з праяў перабудовы ў грамадскай свядомасці, сведчаннем новага ўздыму творчых сіл і патрыятычных пачуццяў савецкіх людзей, «іх імкнення спасцігнуць непарыўную сувязь часу, вытокі тых прагрэсіўных народных традыцый, якія і сёння жывяць наша грамадства неўміручай сілай»[1]. Актуалізуецца пытанне аб выхаванні «гістарычнай свядомасці», г. зн. такой самасвядомасці кожнага асобнага чалавека і грамадства наогул, якая спалучала б у непарыўным і арганічным адзінстве мінулае, сучаснае і будучае. Без такой свядомасці не можа быць і гаворкі аб сапраўднай культуры, а тым больш культуры камуністычнай, аб чым неаднаразова і настойліва нагадваў У. І. Ленін. Іменна на грунце ігнаравання сапраўдных духоўных каштоўнасцей, якія былі створаны чалавецтвам на працягу доўгай гісторыі, іх вонкавай падмены паказнымі атрыбутамі культуры, зневажання простых і вечных паняццяў чалавечай маралі і замены іх бяздушным прагматызмам, групавым і нацыянальным эгаізмам вырасла тое невуцтва, праяўленнем якога з'яўляюцца тэхнакратычныя мысленне і практыка, тэарэтычны і сацыяльны дагматызм і кансерватызм, боязь дэмакратыі і публічнасці, нізкапаклонства перад масавай буржуазнай культурай, некрытычнае захапленне часткі моладзі рок-музыкай, абыякавасць, а нярэдка і пагарда да гісторыі, культуры і мовы свайго народа. Выхаванне гісторыяй айчыннай і сусветнай культуры з'яўляецца важным аспектам ідэалагічнай палітыкі партыі і дзяржавы на сучасным этапе, інструментам фарміравання ў свядомасці савецкіх людзей высокай духоўнасці, грамадзянскасці, патрыятызму, інтэрнацыяналізму.

У сучасных умовах, калі перад чалавецтвам з усёй сур'ёзнасцю паўстала праблема выжывання, захавання жыцця і цывілізацыі, вялікае значэнне набывае ленінская ідэя адзінства і пераемнасці чалавечай культуры. Усведамленне значэння агульначалавечага фактару, яго прыярытэт на новым, сучасным этапе гісторыі ў параўнанні з фактарамі рэгіянальнымі, нацыянальнымі і сацыяльнымі — адзін з найважнейшых пастулатаў новага палітычнага мыслення.

Сказанае, зразумела, не азначае, што страціў сваю сілу класавы, партыйны падыход да аналізу сучаснай сацыяльнай рэчаіснасці, гісторыі культуры. Гісторыя філасофіі і грамадскай думкі, як і ўсякая гуманітарная навука, заўсёды партыйная, заўсёды палітычная. Сёння патрэбна пазітыўная распрацоўка гісторыі айчыннай культуры і думкі. Яна павінна грунтавацца на старанным, усебаковым і дакладным вывучэнні першакрыніц. Гэта самы эфектыўны спосаб крытыкі. Сказанае мае адносіны і да праблемы ўсходнеславянскага Адраджэння, айчыннай рэнесансава-гуманістычнай філасофскай культуры, да яе твораў і

[1] Правда. 1986. 2 окт.

выдатных дзеячаў, у ліку якіх Ф. Скарына з'яўляецца зоркай першай велічыні.

У гісторыі беларускай філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Ф. Скарыну належыць прыярытэт у пастаноўцы глабальнай сацыяльна-этычнай праблемы — «чалавек — грамадства». Пераасэнсоўваючы традыцыйную хрысціянскую трактоўку ўказанай праблемы, мысліцель сцвярджаў самакаштоўнасць чалавечага жыцця, рэабілітаваў зямное быццё, сацыяльнае прызначэнне чалавека. Гуманістычная этыка Скарыны арыентавана пераважна на рэальнае, зямное, грамадска карыснае жыццё. Яго творы садзейнічалі развіццю высокай духоўнасці і грамадзянскасці, сцвярджалі ў якасці найбольш істотных характарыстык унутранага свету чалавека інтэлектуалізм, індывідуальную маральную адказнасць, чалавекалюбства, нарадалюбства, сацыяльную актыўнасць і іншыя важныя ва ўсе часы чалавечыя дабрачыннасці.

Бадай ці не першым у гісторыі айчыннай філасофскай культуры Скарына паспрабаваў узвысіць простага, працоўнага чалавека, далучыць яго да сапраўдных духоўных каштоўнасцей — адукацыі, навукі, культуры, высокай маралі, актыўнай грамадскай дзейнасці.

Як у гісторыі еўрапейскай культуры ўвасабленнем філасофіі з'яўляецца Сакрат, так і ў гісторыі духоўнай культуры Беларусі Ф. Скарына стаў увасабленнем патрыятызму, адданай любві да Радзімы і народа. Служэнню Айчыне, народу ён надаў значэнне найвышэйшай чалавечай дабрачыннасці, а патрыятычны подзвіг зрабіў ідэалам сацыяльна-этычных паводзін чалавека — перш за ўсё чалавека «простага, паспалітага». Патрыятычны пачатак у светапоглядзе беларускага гуманіста — вынік канкрэтызацыі паняцця «агульнага дабра», якое Францыск Скарына ўвёў у беларускую філасофскую думку пад своеасаблівым тэрмінам «паспалітае добрае».

Асаблівая заслуга Скарыны як мысліцеля заключаецца ў тым, што ён унёс у грамадскую свядомасць беларускага народа надзвычай важны кампанент — ідэю дзейсна-практычнай любві да Радзімы. Грамадска-патрыятычная і нацыянальная свядомасць Скарыны сацыяльна актыўная, яна грунтуецца на ідэі рэальнага служэння інтарэсам «агульнага дабра», «людем посполитым руского языка». Прычым сваю патрыятычную канцэпцыю Скарына сцвярджаў не толькі тэарэтычна, але і практычна, усім сваім жыццём і нястомнай дзейнасцю, найважнейшым вынікам якой з'явілася заснаванне айчыннага кнігадрукавання.

Веліч подзвігу беларускага мысліцеля — у злучэнні слова і справы. Дзякуючы гэтаму яго спадчына набывае сапраўдную актуальнасць — як сучаснае і вечнае «Слова аб палку Ігаравым», як неўміручая духоўная спадчына Пушкіна, Талстога, Шаўчэнкі, Купалы, Коласа, Багдановіча. Скарына назаўсёды

застанецца нашым сучаснікам, бо ён не толькі вучыў, але і ўсім жыццём паказаў узор дзейснай практычна-карыснай любві да Айчыны і народа. У наш час, калі яшчэ многа прыгожых слоў аб любві да Радзімы, служэнні народу суіснуюць з дэфіцытам сапраўднай, канкрэтнай справы, калі пагоня за асабістым даб-рабытам, кар'ерай, матэрыяльным дастаткам, нярэдка заглушае грамадскае сумленне, адсоўвае ў «дальні кут» паняццe агульнага дабра, мы зноў звяртаемся да простых і ясных сацыяльна-этычных каштоўнасцей — справядлівасці, працавітасці, інтэлектуалізму, высокай маральнай адказнасці перад радзімай і народам, чалавекалюбства, грамадзянскай мужнасці, якія сцвярджаў беларускі асветнік.

Перададзеная ў спадчыну старажытнарускімі асветнікамі і распрацаваная Скарынам ідэя служэння агульнаму дабру, Радзіме, народу, гатоўнасць дзеля іх на самыя вялікія ахвяры — гэта ідэя, якая прайшла праз вякі, гістарычна канкрэтызавалася і сацыяльна ўзбагацілася, стала фундаментальнай у сучаснай духоўнай культуры савецкага народа. Ф. Скарына з'яўляецца адным з найбольш выдатных прадстаўнікоў айчыннай патрыятычнай традыцыі, якая ў гісторыі рускага, украінскага і беларускага народаў прадстаўлена славутымі імёнамі Нестара-летапісца і аўтара «Слова аб палку Ігаравым», Т. Шаўчэнкі і К. Каліноўскага, дзекабрыстаў, рэвалюцыйных дэмакратаў, бальшавікоў, герояў Кастрычніцкай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны.

Скарына ўпершыню ў Беларусі прапанаваў праграму народнай адукацыі, якая, па-першае, уключала б у сябе не толькі традыцыйныя «семь навук вызволеных», але і больш шырокае кола ведаў; па-другое, прадугледжвала далучэнне да ведаў, духоўных каштоўнасцей, культуры народа, «люда простого, посполитого». Скарына прыйшоў да сапраўды гуманістычнага і дэмакратычнага вываду, які не страціў сваёй актуальнасці і ў наш час. Сутнасць яго — у даступнасці культурных каштоўнасцей усяму народу. Іменна на «люд простый, посполитый», лічыў ён, павінна быць перш за ўсё арыентавана дзейнасць інтэлігенцыі. Скарынаўская дэмакратычная трактоўка суб'екта культуры абумовіла асветніцкую накіраванасць грамадскай практыкі многіх усходнееўрапейскіх гуманістаў XVI—XVII стст. (С. Буднага, В. Цяпінскага, Л. Зізанія і інш.), садзейнічала ўсталяванню ў грамадскай свядомасці ідэі служэння інтэлігенцыі інтарэсам народа, яго адукацыі. У пасляскарынаўскі час гэта ідэя стымулявала дзейнасць першых беларускіх і ўкраінскіх педагогаў-гуманістаў, публіцыстаў, палемістаў, літаратараў, вучоных, звязаных з брацкім рухам, барацьбой супраць каталіцкай экспансіі, за сацыяльную, нацыянальна-рэлігійную і духоўна-культурную свабоду. Пачынаючы з эпохі Адраджэння, перш за ўсё са Скарыны, асветніцка-дэмакратычная тэндэнцыя становіцца адной з вядучых у беларускай культуры.

У філасофскай культуры Беларусі Ф. Скарына — адзін з заснавальнікаў новага разумення годнасці чалавека, якое, на яго думку, заключаецца не ў сацыяльнай прэстыжнасці (знатнасці, радавітасці, чыноўнасці), не ў матэрыяльных здабытках (маёнтках, рэчах, грошах), а ў высокай чалавечай духоўнасці, у інтэлектуальна-маральных якасцях, прафесіяналізме, грамадзянскасці. Сын народа, Скарына звяртаўся перш за ўсё да народа, «людей простых, посполитых», беларускіх гараджан і сялян. Таму не дзіўна, што высакароднасць ён трактуе не як наследаваную, а як здабытую дабрачыннасць. Такое разуменне чалавечай годнасці з'явілася моцным стымулам грамадскай актыўнасці дэмакратычных пластоў беларускага грамадства.

Прапанаваная Скарынам новая трактоўка чалавечай годнасці атрымала далейшае развіццё ў грамадска-філасофскай думцы Беларусі, у прыватнасці ў філасофска-этычных поглядах С. Буднага, В. Цяпінскага, А. Волана, С. Полацкага і інш. Апошні сцвярджаў, што просты чалавек можа дабіцца прызнання, высокага грамадскага становішча асабістымі намаганнямі і здольнасцямі, адукацыяй, самавыхаваннем. Высакароднасць, лічыў ён, даступная кожнаму, у тым ліку і тым, «в худе доме кто родился» [2]. Гэта ідэя, выпрацаваная рэнесансавымі мысліцелямі і развітая С. Полацкім, стала адным з кампанентаў новага мыслення пятроўскай эпохі. Яна з'явілася магутным сацыяльна-маральным стымулам для ўсіх тых, хто выступаў за вялікую перабудову Расіі на мяжы XVII—XVIII стст. Засвоеная С. Полацкім беларуская рэнесансава-гуманістычная традыцыя ў пэўнай ступені ўплывала на станаўленне канцэпцыі абнаўлення Расіі. Сярод паплечнікаў Пятра I былі беларусы — найперш І. Капіевіч, нашчадак асветніцка-кнігавыдавецкай традыцыі Скарыны.

Скарына стаяў ля вытокаў станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Спецыфіка скарынаўскай нацыянальнай самасвядомасці заключаецца ў тым, што яна не абасоблена ад самасвядомасці агульнарускай. З аднаго боку, мысліцель звяртаецца да «люду простага, паспалітага рускага языка», г. зн. да ўсяго ўсходняга славянства; з другога боку, ён падкрэслівае сваё беларускае паходжанне — «Франциск Скорина из славного града Полоцка». Апрача таго, светапогляд Скарыны прасякнут глыбокай пашанай да заходнееўрапейскай духоўна-культурнай спадчыны.

Такім чынам, самасвядомасць Скарыны, як і ў цэлым нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, у сваіх вытоках мела магутны інтэрнацыянальны імпульс. Істотным кампанентам нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа з'яўляецца фундаментальная ідэя ўсходнеславянскага адзінства,

---

[2] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 265.

дружбы і брацкага супрацоўніцтва з рускім і ўкраінскім народамі.

Сучасная ўсходнеславянская культура сягае сваімі каранямі ў мінулае. Яе стваральнікі абапіраюцца на папярэднікаў, да ліку якіх адносіцца і Ф. Скарына. Гэта і ёсць пераемнасць, «сувязь часоў», якая забяспечвае духоўную і фізічную неўміручасць кожнага асобнага народа і чалавецтва ў цэлым.





## КОРАТКА АБ АЎТАРАХ

*Анічэнка Уладзімір Васільевіч* (1924), загадчык кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР. Аўтар двухтомнага «Слоўніка мовы Скарыны», больш ста прац па мовазнаўству, у тым ліку манаграфіі «Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі».

*Белакурскі Валерый Міхайлавіч* (1950), старшы выкладчык кафедры філасофіі Мінскага інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава, кандыдат філасофскіх навук. Займаецца пытаннямі гісторыі грамадскай думкі Беларусі.

*Белы Анатоль Яфімавіч* (1940), навуковы супрацоўнік кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, аўтар артыкулаў пра Ф. Скарыну і К. Каліноўскага. Сабраў калекцыю твораў мастацтва, прысвечаных Ф. Скарыну.

*Грынчык Мікалай Міхайлавіч* (1923), загадчык кафедры беларускай літаратуры Мінскага інстытута культуры, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР. Аўтар манаграфій пра М. Багдановіча, А. Куляшова, беларускае вершаскладанне, фальклорныя традыцыі.

*Грыцкевіч Анатоль Пятровіч* (1929), загадчык кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краін Мінскага інстытута культуры, доктар гістарычных навук, прафесар. Аўтар манаграфій пра беларускія гарады XVI—XVIII стст., шматлікіх артыкулаў па пытаннях гісторыі Беларусі перыяду феадалізму.

*Грыцкевіч Валянцін Пятровіч* (1933), старшы навуковы супрацоўнік Ваенна-медыцынскага музея Міністэрства абароны СССР (Ленінград), кандыдат медыцынскіх навук, правадзейны член Геаграфічнага таварыства СССР. Аўтар кніг па гісторыі медыцыны ў Беларусі, пра беларускіх падарожнікаў, шматлікіх артыкулаў па пытаннях гісторыі Беларусі эпохі феадалізму.

*Дарашкевіч Віктар Іванавіч* (1949), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, кандыдат філалагічных навук. Даследуе новалацінскую паэзію Беларусі і Літвы XVI ст., спадчыну М. Гусоўскага і Ф. Скарыны. Выдаў зборнік дакументаў і матэрыялаў «Францыск Скарына» (1988).

*Дубровіна Любоў Андрэеўна* (1950), загадчык аддзела рукапісаў ЦНБ АН УССР, кандыдат гістарычных навук. Асноўныя працы прысвечаны крыніцазнаўству айчыннай гісторыі, рукапіснай кнізе XVI—XVII стст. на Украіне.

*Дышыневіч Валянціна Нікіфараўна* (1930) да пенсіі з'яўлялася галоўным бібліёграфам аддзела старадрукаў і рэдкіх кніг Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Аўтар прац па бібліяграфіі беларускага мастацтва, артыкулаў пра Ф. Скарыну.

*Жлутко Аляксандр Анатольевіч* (1954), малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Даследуе праблемы лацінамоўнай паэзіі Беларусі XVIII ст., прымаў удзел у падрыхтоўцы дакументаў і матэрыялаў для зборніка «Францыск Скарына» (1988).

*Званарова Лола Уткіраўна* (1957). Абараніла кандыдацкую дысертацыю пра Сімяона Полацкага. Літаратурны супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Литературная учеба». Аўтар прац па гісторыі беларускай і рускай літаратур.

*Ісаевіч Яраслаў Дзмітравіч* (1936), украінскі славіст, гісторык кнігі, доктар гістарычных навук. З 1958 г. працуе ў Інстытуце грамадскіх навук АН УССР у Львове. Асноўныя працы: «Першадрукар Іван Фёдараў і ўзнікненне кнігадрукавання на Украіне», «Брацтвы і іх роля ў развіцці ўкраінскай культуры», «Пераемнікі першадрукара», «Каталог старадрукаваных кніг, выдадзеных на Украіне» (у сааўт. з Я. Запаскам) і інш.

*Калеснік Уладзімір Андрэевіч* (1922), загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна, кандыдат філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Аўтар кніг «Паэзія змагання», «Зорны спеў», «Ветразі Адысея», «Лёсам пазнанае», «Тварэнне легенды» і інш., раздзелаў у гісторыях беларускай літаратуры.

*Капыскі Зіновій Юльевіч* (1916), вядучы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута гісторыі АН БССР, доктар гістарычных навук. Аўтар манаграфій, у якіх даследуюцца гісторыя беларускіх гарадоў XVI—XVII стст., пытанні гістарыяграфіі і крыніцазнаўства.

*Кароткі Уладзімір Георгіевіч* (1956), дацэнт кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфіі пра Мялецію Сматрыцкага, рада артыкулаў пра беларускую і ўкраінскую літаратуры XVI—XVII стст.

*Каўко Аляксей Канстанцінавіч* (1937), вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР, рэдактар часопіса «Советское славяноведение», кандыдат гістарычных навук. Вывучае гісторыю Польшчы, савецка-польскіх адносін, спадчыну Ф. Скарыны, беларускі нацыянальна-вызваленчы рух XIX — пачатку XX ст.

*Конан Уладзімір Міхайлавіч* (1934), вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, доктар філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Даследуе гісторыю эстэтыкі і літаратурна-мастацкай крытыкі Беларусі, гісторыю філасофіі, пытанні фальклору. Аўтар рада манаграфій і навуковых артыкулаў.

*Лабынцаў Юрый Андрэевіч* (1948), член секцыі крытыкі і літаратуразнаўства прафкома літаратараў выдавецтва «Советский писатель» (Масква), кандыдат філалагічных навук, магістр філалогіі (ПНР). Даследуе пытанні гісторыі рускай і беларускай кнігі, культуры, літаратуры.

*Лазарук Міхаіл Арсеньевіч* (1926), дырэктар Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, акадэмік АПН СССР. Аўтар манаграфій пра станаўленне беларускай паэмы дакастрычніцкага часу, прац па гісторыі, тэорыі і методыцы выкладання літаратуры.

*Лойка Алег Антонавіч* (1931), загадчык кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, доктар філалагічных навук, прафесар. Вывучае праблемы развіцця беларускай паэзіі. Аўтар дапаможнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, дакументальна-мастацкіх раманаў пра Я. Купалу і Ф. Скарыну. Вядомы як паэт і перакладчык.

*Лойка Павел Алегавіч* (1958), навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдат гістарычных навук. Даследуе пытанні аграрнай гісторыі Беларусі XIV—XVII стст.

*Мыльнікаў Аляксандр Сяргеевіч* (1929), загадчык аддзела этнаграфіі народаў СССР Ленінградскай часткі Інстытута этнаграфіі імя М. М. Міклухі-Маклая АН СССР, доктар гістарычных навук, прафесар. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі славянскіх культур, іх узаемасувязей, кнігазнаўству.

*Навуменка Іван Якаўлевіч* (1925), віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік АН БССР, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Аўтар манаграфій пра духоўны воблік героя Я. Купалы і Я. Коласа, пра пісьменнікаў-дэмакратаў XIX ст. і інш. Вядомы як празаік.

*Неміроўскі Яўген Львовіч* (1925), доктар гістарычных навук, прафесар. Працуе ў Кніжнай палаце СССР. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі славянскага кнігадрукавання кірылаўскім шрыфтам (І. Фёдараў, Ф. Скарына і інш.). Апублікаваў апісанне выданняў Ф. Скарыны і паказальнік літаратуры пра яго (1978).

*Нікалаеў Мікалай Віктаравіч* (1955), захавальнік архіўных фондаў Аддзела

рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград). Аўтар прац па археалогіі, гісторыі кнігі, мастацтва.

*Падокшын Сямён Аляксандравіч* (1931), вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР, доктар філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Даследуе філасофскую і грамадска-палітычную думку эпохі Адраджэння і Рэфармацыі на Беларусі. Аўтар кніг пра Ф. Скарыну і С. Буднага.

*Петрашкевіч Аляксандр Лявонцьевіч* (1930), намеснік галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, кандыдат гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужаны работнік культуры БССР. Аўтар гістарычнай драмы пра Ф. Скарыну «Напісанае застаецца». Адзін з рэдактараў энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час».

*Пуцко Васіль Рыгоравіч* (1941), старшы навуковы супрацоўнік Калужскага абласнога мастацкага музея, член Саюза мастакоў СССР. Аўтар даследаванняў па гісторыі мастацтва Візантыі, Заходняй Еўропы і Старажытнай Русі.

*Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч* (1931), дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага універсітэта, кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфіі пра К. Чорнага, раздзелаў у працах па гісторыі беларускай літаратуры. Займаецца краязнаўствам Гродзеншчыны, літаратурнай крытыкай.

*Умецкая Яўгенія Сяргееўна* (1926), дацэнт кафедры галіновых бібліяграфій Мінскага інстытута культуры, кандыдат гістарычных навук. Аўтар прац па кнігадрукаванню Беларусі XIX ст.

*Церашчатава Вольга Васільеўна* (1926), загадчык аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства. Аўтар манаграфій «Беларуская кніжная графіка», «Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVIII стст.», артыкулаў па гісторыі беларускага мастацтва.

*Чаквін Ігар Усеваладавіч* (1954), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, кандыдат гістарычных навук. Даследуе пытанні этнаграфіі беларусаў.

*Чамярыцкі Вячаслаў Антонавіч* (1936), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, кандыдат філалагічных навук. Аўтар манаграфіі «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры», раздзелаў у працах па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, напісанага ў сааўтарстве нарыса «Францыск Скарына», які быў выдадзены ў Парыжы на французскай і англійскай мовах, артыкулаў пра беларускую літаратуру эпохі феадалізму.

*Шлякіс Ёнас Іпалітавіч* (1952), малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літоўскай мовы і літаратуры АН Літоўскай ССР. Даследуе ўзаемасувязі літоўскай і славянскіх літаратур.

*Шматаў Віктар Фёдаравіч* (1936), старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства. Даследуе старажытную беларускую гравюру, беларускае савецкае мастацтва. Аўтар рада артыкулаў і манаграфій, у тым ліку «Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў», сааўтар нарыса «Францыск Скарына», які выйшаў у Парыжы на французскай і англійскай мовах. Вядомы як мастак.





## ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# ЗМЕСТ

Раздзел II

## Традыцыі Скарыны

Научное издание

**НАСЛЕДИЕ СКОРИНЫ:**

**Сборник материалов первых Скорининских чтений (1986)**

Составитель **Мальдис** Адам Иосифович

**Минск. Издательство «Навука і тэхніка»**

**На белорусском языке**

Навуковае выданне

**СПАДЧЫНА СКАРЫНЫ:**

**Зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986)**

Укладальнік **Мальдзіс** Адам Іосіфавіч

**Загадчык рэдакцыі**
**Георгій Фёдаравіч Юрчанка**

**Рэдактар**
**Ніна Мар'янаўна Тарасевіч**

**Мастак**
**Віктар Васільевіч Саўчанка**

**Мастацкі рэдактар**
**Васілій Васільевіч Саўчанка**

**Тэхнічны рэдактар**
**Валянціна Адамаўна Віценка**

**Карэктар**
**Любоў Андрэеўна Варабей**



ІБ № 3448

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР
Здадзена ў набор 04.01.89
Падпісана ў друк 10.07.89.
АТ 13409.
Фармат 60×90[1]/16.
Папера друк. № 1.
Гарнітура літаратурная. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 20,0. Ум. фарб.-адб. 25,5.
Ул.-выд. арк. 21,27.
Тыраж 2950. Зак. № 207.
Цана 3 р. 70 к.
Выдавецтва «Навука і тэхніка»
Акадэміі навук БССР
і Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220072. Мінск, Ленінскі праспект, 68.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220072. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

